АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

ТОМ 2

**Д—К**

Складальнікі
А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

ББК 81.2 Бел-4
Т88

Рэдактар
А. А. КРЫВІЦКІ

Рэцэнзенты:
І. К. ГЕРМАНОВІЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК

Т 88 **Тураўскі** слоўнік. У 5-ці т. Т. 2 / [Склад. А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін].— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.— 271 с.

У пер.: 1 р. 30 к.

**Слоўнік змяшчае частку алфавітнага збору слоў гаворкі Турава і навакольных вёсак на літары Д—К, а таксама ўзоры мясцовай народнай гаворкі гэтай часткі Беларускага Палесся — апавяданні, казкі, легенды і г. д.**

**Разлічан на даследчыкаў і выкладчыкаў усходнеславянскіх моў і славістаў, а таксама на фалькларыстаў, этнографаў, работнікаў культуры, пісьменнікаў, аматараў роднай мовы.**

**4602020000—090**
**Т——————————падпісное**
**М316—82**

**ББК 81.2 Бел-4**
**4Бел(03)**

© Выдавецтва «Навука і тэхніка», 1982.

# АД РЭДАКТАРА

У другім томе слоўніка змешчана 3806 слоўнікавых артыкулаў. Артыкулы маюць такі ж змест і будову, як і ў першым томе. Паводле тых жа прынцыпаў праводзілася выбарка для гэтага тома лексікі з картатэкі. Другі том, як і першы, уключае так званую традыцыйную лексіку мясцовай гаворкі. Аднак частка падобных слоў не ўнесена ў гэты том, асабліва на літары *З* і *К*. Гэта некаторыя вытворныя словы, у прыватнасці такія лексічныя або лексіка-граматычныя ўтварэнні, наяўнасць якіх у гаворцы больш-менш відавочная для ўважлівага чытача слоўніка (некаторыя назоўнікі і прыметнікі пашыраных ацэначна-экспрэсіўных словаўтваральных тыпаў, частка пашыраных прэфіксальных дзеяслоўных дэрыватаў, а таксама прыслоўных утварэнняў ад якасных прыметнікаў і інш.). Падобныя словы з'яўляюцца нярэдка вынікам сітуацыйнай індывідуальнай моватворчасці. Не ўключаны таксама паасобныя словы, прыналежнасць якіх да традыцыйнай лексікі гаворкі няпэўная.

Слоўнікавыя артыкулы на літару *Ж* распрацаваў Г. А. Цыхун, на літару *З* — І. Я. Яшкін, на літары *Д, Е, Ё, І, К* — А. А. Крывіцкі. Тэкставыя ўзоры мясцовай гаворкі падрыхтаваў П. А. Міхайлаў. У падрыхтоўцы тома да друку значны ўдзел прыняла Т. М. Трухан. З падрыхтаваным томам слоўніка азнаёміўся М. А. Саскевіч, які зрабіў шэраг каштоўных заўваг па распрацоўцы слоў, зыходзячы з роднай сваёй гаворкі (в. Пагост), і дадаў значны матэрыял на ўжыванне вядомых яму слоў, дзе ў гэтым адчувалася патрэба.

# Д

ДА 1 *злучн.* Ды, і, а потым, але. *По ягоды ходзілі я да Маруся, да Соня, да Вусціма, да шчэ жонóк п'яць с тогó конца.* Пагост. *А вон наклаў огню да за ту кострулю да ў огонь.* Хільчыцы. *Нашчó ёго мераць, то сено? Заберэш да стравіш, да ўсе.* Бярэжцы. *Назбіраемо гуру остопкоў да запалімо да скачом перэд огонь.* Дварэц. *Колі я бачу, там, у лесу, жонка да родзіла собе дзіця.* Бярэжцы. *Поехала б я до сына, да старá.* Пагост. *Беры, да не загубі.* Цераблічы. 2 *часц. Да нема як мне по ягоды іці, трэ сено грэбці.* Пагост. *Да нешчо з его хороше вуйдзе? Мацер, бацька не слухае.* Там жа. *Да чого тобе ў такі мороз у другé село іці?* Там жа. *Да як хóрошэ каліна цвіце, хоростпво таке!* Там жа. *А вон, ее человек, такі горушчы, да хорошына, да добрына!* М. Малешава. *Да як пошлі да пошлі по тые ягоды!* Хачэнь. *Корова як дала да дала целяці!* В. Малешава.

ДАВА'Й *часц.* Давай. *Воны попужаліса да давай брэхаць по-собачы.* Цераблічы. *Ну, так давай пошлі домоў.* Кароцічы.

ДА'ВАНЫ *дзеепрым.* Якому дадзена. *Свіны не даваные.* Верасніца. *Поросятам шчэ не давано есці.* М. Малешава.

ДАВА'ЦЬ *незак.* Даваць. *Я давала коé-кому свое цыбулі.* Мачуль. *Дзеці ек малые булі, то спаць не давалі, а вурослі, то жыць не даюць* (прыказка). Хачэнь.

ДАВІ'ЦЦА *незак.* Давіцца. *Свіньа так едзяць, аж давяцца.* Цераблічы. *А едзяць, аж даўляцца волы!* Хачэнь.

ДАВІ'ЦЬ *незак.* Давіць. *Велікіх бачыў воўкоў, шо коней даўляць.* Хачэнь.

ДАВУ'ХА *ж.* Даўкая груша. *Давуха — то така груша, еж ее, а вона ў горлі перэседае.* Запясочча.

ДАВУ'ЧЫ *прым.* Даўкі. *Давучые грушы дзікіе.* Цераблічы.

ДА'ЙЖЭ *часц.* Нават. *Дайжэ молока ў пост не елі!* Сямігосцічы.

ДАЛЕ′ЗНО *прысл.* Вельмі далёка. *У мене далезно участок.* Дварэц. *Поле далезно, то обед на дворэ, ек доедзеш туды.* Чэрнічы.

ДА′ЛЕЙ *прысл.* Далей. *Старчэ, село горыць! — Нехай горыць. Я за свою суму дай далей посуну* (прыказка, пра абыякавасць да чужой бяды). Мачуль. *Хорошого чоловека далéко відно, а поганого шчэ далей* (прымаўка). Верасніца.

ДАЛЕ′КО *прысл.* Далёка. *Стары, то далеко не хожу, от церез вуліцу до тоé бáбу.* Пагост. *Соткі даюць далеко.* Хотамель.

ДА′ЛЕЧ *ж.* Далечыня. *Така далеч, і вон туды іціме.* Сямігосцічы.

ДАЛЕЧЫНА′ *ж.* Тое ж. *Ой, далечына, да болото — натоміўса!* Аздамічы. *То ж далечына стуль несці.* Лутboard.

ДАЛЬ *ж.* Тое ж. *Ну і даль до тоі дзелянкі, а до Обзола далечына шчэ большая.* Тураў.

ДА′ЛЬШЫ *прым. перан.* Ранейшы, мінулы. *З дальшэе хаты ў мене оконіцы шче е.* Мачуль. Больш далёкі. *З дальшое яблоні яблук вýтрусі.* Пагост.

ДАНЬ *ж.* Даніна, падачка, міласціна. *Старцам даюць дань.* Сямігосцічы.

ДАР *ж.* Падарунак. *Коб жэ вона хоця одну дар узела!* Альшаны.

ДАРКА *ж.* Посны пірог, які пяклі спецыяльна для памінання нябожчыка ў царкве. Запясочча.

ДА′РМА′, ДА′РМО *прысл.* Дарэмна. *От дарма напаў ты на мене.* Бярэжцы. *Нашоў, кажэ, дурня, робі ёмý дáрма-гарма; така прыказка, шчытайце.* Лутboard. *А мой Пушок дармо гаўкаць не будзе.* В. Малешава.

ДАРМА′ШЭКА *прысл.* Тое ж. *Дармашэка, шчо казалі, вас там білі,— не віднó!* В. Малешава.

ДАРМОВЕ′С *м.* Выступ бэлькі над папярочнай сцяной у хаце. Аздамічы.

ДАРМО′ЕД *м.* Дармаед. *Мало шчэ дармоедоў, хай шчэ гэтые годуюцца* (пра ваўкоў у запаведніках). Дварэц. *Спасібо за обед, шчо наеўса дармоед.* Сямігосцічы.

ДАРОВА′ЦЬ *незак.* Дарыць. *Бацько даруе карову.* Запясочча.

ДАРОВІ′ЗНІНА *ж.* Дараванне, падарункі. *Як на веселы, то даровізніна.* Хотамель.

ДАРЫ′ЦЬ *незак.* Дарыць. *Пастухом давалі, дарылі старцóм.* Лутboard. *Дару тобе дугу, шоб не гледзеў на другý* (застольны жарт на вяселлі). Старажоўцы.

ДАРЭ′МНІК *м.* Дармаед. *О, дарэмнік, прышла ўжэ есці! Акота́! Шо мушэй не ловіш?* М. Малешава.

ДАРЭ′МНО *прысл.* Дарэмна. *Дарэмно робіў хату, а жыць нема кому.* Пагост. *Хлеб дарэмно не ем.* Чэрнічы.

ДАРЭ′МНЫ *прым.* Дармавы, танны. *Вона ім дарэмна наймічка, праўда ж!* Хачэнь. *У нас у лаўцы зара дарэмна соль.* В. Малешава.

ДАРЭ′МШЧЫНА *ж.* Дарэмшчына. *Як мало заробляеш у той пылоці, у такой гразноці, то і дарэмшчына.* Мачуль.

ДА′ЎНІ *прым.* Даўні. *Бор, шчо вы там булі, то нашэ даўне поле.* Кароцічы. *Такіх даўніх, прадзе́доўскіх хатоў ужэ нема.* Лутнкі. *На Хведору кажэ, що даўне знае.* Дварэц. *Я ўжэ даўні, мой хлопец старшы за ёго хлопца.* В. Малешава.

ДАЎНІНА′ *ж.* Даўніна. *Прыгон — то даўніна мах!* Аздамічы. *Памяниш.* д а ў н і н к а. *Воны хочуць даўнінку знаць, старынку.* Запясочча.

ДА′ЎНІШНІ *прым.* Даўнейшы. *Даўнішняя говорка ідзе.* М. Малешава.

ДАЎНО′ *прысл.* Даўно. *Даўно маці пошла? — Не.* Аздамічы. *З даўны́х-даўно рэка Случ не замерзае.* Верасніца. *Даўно-даўным була паншчына.* В. Малешава.

ДА′ЎНОСЦЬ *ж.* Даўнасць. *Скрозь так ведзецца, з велікоі даўносці.* Дварэц.

ДА′ЦЦА *зак.* Ударыцца. *Рыштунок абломаўса, і вон як даўса об землю!* Сямігосцічы. △ Д а́ ц ц а р а́ д ы. Даць рады. *Ніяк не даласа рады! Не роскололосо.* Хачэнь.

ДАЦЬ *зак.* Даць. *Знаеш шчо? Мы тобе дамо хату.* Тураў. *Бера́це кошэля і везе́це яблука да мне кошэля дасце назад.* Мачуль. *Дай бог усе ўмець, да не дай бог усе робіць* (прымаўка). Сямігосцічы. *Корові дай, той короўка дасць* (прыказка). В. Малешава. *Трэба знаць, кому дзень добры даць, а кому — і помогайбо!* (прымаўка). Хільчыцы. △ Д а ц ь з а л о́ г. Паспрачацца на заклад. Альпень. Д а ц ь н а п о в е́ р. Адпусціць без грошай. Лутнкі. Д а ц ь с т о р ч а к а́. Кінуцца або ўпасці ўніз галавой. Дварэц. Д а ц ь д о б р ы д з е́ н ь. Павітацца. Запясочча. Д а ц ь н о с ц а́ м. Ударыць нагой. Сямігосцічы. Д а ц ь г а́ н ь б у. Зганьбіць, указаць на загану. Бярэжцы. Д а ц ь б о́ б у. Павесяліць, пажартаваць. Бярэжцы. Д а ц ь р а́ д ы. Справіцца. *Удвох да не моглі даць рады.* Хачэнь.

ДА′ЧА *ж.* Даванне. *Дасць вон, дожыдайса его дачы!* Луткі.

ДБА′ЙЛІВУ *прым.* Дбайны. *Дбайліву хлопец, ужэ сходзіў на возеро.* М. Малешава.

ДБАЦЬ *незак.* Звяртаць увагу, клапаціцца. *Вон про сем'ю дбае.* Бярэжцы. *От га́дзіны такі яд, а еж і не дбае!* Запясочча. *Нас усю ноч комарэ пеклі, а вон спіць а не дбае!* Аздамічы. *Хто дбае, той мае* (прымаўка). М. Малешава. *У ма́е кожны собе дбае* (прымаўка). Хачэнь. *Прышоў май, кожуха́ дбай* (прыказка). Сямігосцічы. Прымаць пад увагу, лічыцца. *Я то старшыну не дбаю ніяк.* Запясочча.

ДВА *ліч.* Два. *По два раз ехаць у корчэ трэ.* Цераблічы. *Дзеругі два на два ткаць просто, это ж не перэбіра́нка.* Верасніца. *По два кабаны б'е на год!* В. Малешава.

ДВАНА′НЦАЦЬ *ліч.* Дванаццаць. *Нашые людзі прыехалі шчэ двананцаць часоў домоў.* Запясочча. *У его от первое жонкі двананцаць дзецей.* В. Малешава.

ДВА′ЦЦАЦЕРО *ліч. зб.* Дваццаць. *Вона мае дваццацеро гусенят.* Запясочча. *У мене мо некіх дваццацеро кролёў.* В. Малешава.

ДВА′ЦЦАЦЬ *ліч.* Тое ж. *Это ж дваццаць кілометроў, мо й больш.* Верасніца.

ДВО′Е *ліч. зб.* Двое. *Двое малых поросят годуюцца.* Луткі.

ДВОЕНЯ′ТА *мн.* Двайняты. *У мене двоенята хлопчыкі булі.* Верасніца.

ДВОІ′Х *прысл.* Удвох. *Отчыняе дзверы — двоіх стояць.* Кароцічы.

ДВО′ЙКО *ліч. зб.* Двое, пара. *Е дзе́ткі? — У мене двойко.* Кароцічы. *Унукоў много?— Не, одно двойко!* В. Малешава.

ДВОЙНІ′К *м.* Вялікае бёрда ў 12 пасмаў. *У нас не було берда шаснанцаткі, а буў двойнік.* М. Малешава. Самае тонкае палатно. *Двананцаць губ вуткала двойніка.* Луткі. △ П р а́ с ц і ў д в о й н і к. Прасці вельмі тонка. *Мы ў двойнік, у тройнік пралі.* Луткі.

ДВОР *м.* 1. Надворак. *На дворэ нейдзі була.* Кароцічы. *М'ясо, хоць ты на двор вукінь!* Хачэнь. *І вона, бомба, шоб у дом, то ўсіх бу ўбіло, вонэ ўпало ў дворэ.* Пагост. 2. Маёнтак, гаспадарка. *У нас кажуць двор, дзе пан седзеў.* Кароцічы. *Я думала, шчо коло мого дво́ру гусі.* Хачэнь. *Ну, вона сама з бедного двора́.* Кароцічы.

ДВО'РНЯ *ж.* Двары аднаго завулка. *У двух дворнях подох буў весь товар, то зробілі заложэньe.* Цераблічы.

ДВОРНЯ'К *м.* Дваровы сабака. *У селе ўсе дворнякі собакі.* Цераблічы.

ДВОХ *прысл.* Удвух. *А этые двох осталіся на месцы дожыдаць это дзело.* Кароцічы.

ДВОХКРЫ'ЛЕЦ *м.* Жак з двума крыламі. *Двохкрылец у адну і ў другу сторону напінаецца.* Цераблічы.

ДВОЮРО'ДНЫ *прым.* Стрыечны. *От мі два браты, а нашы дзеці двоюродные.* Сямігосцічы.

ДВОЯ'Н *м.* Двайны прадмет. *Вілы-двояны.* Луткі.

ДЖА'БНУЦЬ *зак.* Джгануць. *Ето мене пчола под воко джабнула, от вонэ і запухло.* Пагост.

ДЖА'МКАЦЬ *незак. метаф.* Гаварыць, выказвацца нядобра. *Чо ты джамкаеш на мене!* Сямігосцічы.

ДЖА'ХНУЦЬ *зак.* Джгануць. *Шэршэнь мо з жолўд ек джахнуў у нос, то й зароў.* Пагост.

ДЖМУ'ХАЦЬ *незак.* Дзьмухаць. *Джмухае вéцёр холодны.* Цераблічы.

ДЖМУ'ХНУЦЬ *зак. метаф.* Стукнуць, ударыць. *Ек джмухнуло по вуху!* Луткі. Пабегчы, кінуцца. *Як джмухнула сюдой корова!* Мачуль. Вырвацца раптоўна. *Як джмухнула полым'ем!* М. Малешава.

ДЖО'ГАЦЬ *незак.* Моцна тупаць. *Нехто джогае, ідзе.* Цераблічы.

ДЖО'ГНУЦЬ *зак. метаф.* Ударыць моцна. *Як джогне ў ступу тоўкачэм!* Запясочча.

ДЖО'РГАЦЬ *незак.* Шоргаць. *Я чула, вона ўночы джоргала ногі. Свербяць од жаберу.* М. Малешава.

ДЖУ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Кінуцца, імкліва пабегчы, сарвацца з месца. *Закрапало, а я дамоў ек джугну!* М. Малешава.

ДЖУМА' *ж.* Чума. *На свіней джума нападае, ходзіць, ходзіць, а дале раз — нема кабана!* В. Малешава.

ДЖЫГАНУ'ЦЬ *зак.* Джгануць. *Джыганула пчола ў око.* Цераблічы.

ДЖЫ'ГАЦЬ *незак.* Шкробаць. *Не джыгай, не шкробай чобоцьмі, ногі вушэй подымай.* Луткі.

ДЖЫ'ГНУЦЬ *зак.* Джгануць. *Як джыгнула Валю за морду, то і цепер сіняк седзіць.* Хачэнь.

ДЖЫГУ'Н *м.* Балючы ўдар, укол. *Дасць вон тобе джыгуна́ ў плечы!* Хотамель.

ДЖЫ'НДЖЫКІ *мн.* Званочкі на збруі. *Узяў повозку да шчэ джынджыкі почэпіў.* Мачуль.

ДЖЫ'РГАЦЬ *незак.* Шоргаць. *Джыргаюць венікам тую падлогу.* Луткі.

ДЗВЕ'РЦЫ *мн.* Малыя дзверы. *Это дзверцы ў печэ на юшкі.* Кароцічы.

ДЗВЕ'РЫ *мн.* Дзверы. *У хаці дзвері, а ў хлевё ворóта.* Хотамель. *Не скрыпайце дзверыма.* Запясочча.

ДЗВЕ'СЦІ *ліч.* Дзвесце. *Хопіць тобе дзвесці петдзесят.* Кароцічы.

ДЗВІ'ГАЦЬ *незак.* Рухаць, варушыць. *До Йвана сеўба кохана, а послі здзвіжэнья трэ добро рукою дзвігаць!* (прыказка). Цераблічы.

ДЗВІЖА'ЦЬ *незак.* Дзвынкаць, звінець. *Дзвіжыць окно.* Хотамель.

ДЗЕ 1 *прысл.* Дзе. *А дзе твоя домоўка? — У Мінску.* М. Малешава. *А дзе то наш Панас?* Дварэц. 2 *злучн.* Дзе. *Прыўеў оратая дай показаў, дзе отораць загона.* Дварэц. *Іх домоўка хто знае, дзе.* Альгомель.

ДЗЕВЕЛІ'ЦЬ *незак.* Балбатаць. *От і Кулінка нешчо дзевеліць!* Цераблічы. *Дзевеліш, шо не трэ.* Пагост.

ДЗЕ'ВЕР *м.* Дзевер. *Мой дзевер, то будзе могó чоловека родны брат.* Запясочча.

ДЗЕВЕТНА'НЦАЦЬ *ліч.* Дзевятнаццаць. Запясочча.

ДЗЕВЕТНА'ЦЦАЦЕРО *ліч. зб.* Дзевятнаццаць. *У одного дзеветнаццацеро, а ў другого восемнаццацеро колод пчол.* Луткі.

ДЗЕВЕЦЕРЫ'К *м.* 1. Набедрыкі з дзевяццю стужкамі на крыжы. *Дзевецерык набедрыкі шылі, а е і шэсцерык.* Цераблічы. 2. Дзевяцілінейная газавая лямпа. Запясочча.

ДЗЕ'ВЕЦЬ *ліч.* Дзевяць. *Дзевець класоў кончыла.* Тураў.

ДЗЕВОВА'НЬЕ *н.* Дзявоцтва, дзявочыя гады. *Яке дзевованье було кóлісь? Плохе!* Запясочча.

ДЗЕВОВА'ЦЬ *незак.* Быць у дзеўках. *Добрэ, шо побраліса, а то дзевовала б.* Луткі.

ДЗЕВО'ЧЫ *прым.* Дзявочы. *Ноч зóрана, месячна, дзевоча ноч.* Пагост.

ДЗЕВ'Я'ТКА *ж.* 1. Бёрда на дзевяць пасмаў. Дварэц. Палатно, вытканае ў дзевяць пасмаў. Запясочча. 2. Від касы для касьбы. *Дзеўятка доўга, зелезо добрэе да строй дзержыць.* Кароцічы.

ДЗЕВ'Я'ТНІК *м.* Дзевяты тыдзень пасля вялікадня. *Трэ коб на дзеўятнік було дзеўяць егодзін на ветцы.* Бярэжцы.

ДЗЕВ'Я'ТУХА *ж.* Тое ж. Запясочча.

ДЗЕГО' *н.* Адкроенае лыка. *Дзве дзегі — дай робяць лапця.* М. Малешава. *Ну і дорога, як дзяго!* Аздамічы.

ДЗЕД *м.* 1. Дзед, стары мужчына, бацька маці ці бацькі. *Дзеду, як колісь було?* Хільчыцы. *Ото от той дзед век не буў у больніцы, і мо шчэ й зарэ ў його зубу е.* Пагост. 2. Трама, брус пад бэлькамі столі. *Упоперок балок дзед, шоб не було до пары.* Запясочча. 3. Стаячая частка коміна на гары ў хаце. *Ужэ дзеда зробілі, а од дзеда ведуць лежакі.* В. Малешава. 4. Слуп каля печы. *Дзед скепкою ўдавіўса, шчо это?* (загадка). *То дзед, шо коло печы, і перэсоў* (адгадка). Запясочча.

ДЗЕДЗІ'НЕЦ *м.* 1. Плошча перад панскім домам або каля царквы. *Кругом крыльца ў панскім дворэ буў дзедзінец.* Лутکі. *Дзедзінец коло цэркви.* Цераблічы. 2. Жэрдка для адзення ў старой хаце. *От грубы ідзе дзедзінец да ў стоўп.* Цераблічы. 3. Яшчык на дне калодзежа. *Дзедзінец ўродзе яшчыка і з подлогою.* В. Малешава.

ДЗЕДЗЬКОВЕ'Ц *м.* Дзядзькаў сын. *То моé дзедзькоўцэ с Хотомля.* Сямігосцічы.

ДЗЕ'ДКО *м.* Дзядуля (пры звароце да дзеда). *Дзедко, ходзем по мохнаткі!* Хільчыцы. *Плач не плач, дзедку, а бабу ўжэ не вернеш.* Пагост.

ДЗЕДО'К *м.* Стаячая частка коміна на гары ў хаце. *Потрусі там і ў дзедку сажу, сынок!* Цераблічы.

ДЗЕ'ДОЎ *прым.* Дзедаў. *На мороз у мене е дзедоў кожух.* Пагост.

ДЗЕ'ДОЎШЧЫНА *ж.* Дзедаўшчына. *Я на дзедоўшчыне поселіўса.* Цераблічы.

ДЗЕДУ'РА *м. зневаж.* Дзед. *А ты такі дзедура ніякі, нічого не можэш!* М. Малешава.

ДЗЕДУРНО' *м. экспр.* Тое ж. *От ўеўса этой дзедурно с своею рыбою — мокры кожны дзень!* Пагост.

ДЗЕ'ДУХНО *м. экспр.* Тое ж. *Ох, дзедухно, сховаймо грошы.* Кароцічы. *О, дзедухно, это ж я не знаю, которого іці.* М. Малешава.

ДЗЕДУШКА'РА *м. зневаж.* Дзед. *Пойду погледжу, куды гэтой дзедушкара подзеўса.* Цераблічы.

ДЗЕДЫ' *мн.* 1. Задушны дзень. *Му правім дзеды чотыры раз у год: у мясоед, перэд постом — помінальны тыждзень, на велікдзень, перэд Петровіцою, перэд Піліпоўкою.* Кароцічы. *Як дзеды помінаюць, то вараць у п'ятніцу вечэру, а ў суботу обед, да зараней обедаюць;*

Лутк. 2. Продкі. *Дзеды помешчаліся там, дзе вігóда була.* В. Малешава.

ДЗЕ′ЕЦЬ *незак.* Гаварыць, абмяркоўваць. *Будуць дзеець людзі, колі дзейка сніцца* (прыкмета). Сямігосцічы.

ДЗЕЖА′ *ж.* Дзяжа. *Дзежа хочэ вехця і ножа* (прымаўка). Цераблічы. *Як веліка сем'я, то й веліка дзежа* (прыказка). Сямігосцічы.

ДЗЕЖО′ЎКА, ДЗЕЖО′ЛКА, ДЗЕЖЫ′ЛКА *ж.* Накрыўка на дзежку з палатна. *Дзежолка була с полотна, рожкі поўшываные.* Хачэнь. *Дзежку дзежоўкою накрый, шоб дух у цесці дзержаўса.* Пагост. *Дзежылка.* Цераблічы.

ДЗЕЖЭ′ЛНО *н.* Тое ж. Хотамель.

ДЗЕЖЭ′ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж. *Дзежэльніцу робілі с полотна.* Сямігосцічы.

ДЗЕ′ЙКА *ж.* Пагалоска. *От пусцілі дзейку, набрэхалі.* Запясочча. Падзея. *Шо за дзейка? Жэ́рэбу на сено цягнуць.* Пагост.

ДЗЕЛІ′ЦЦА *незак.* Дзяліцца (пра гаспадарку). *Ты ж ведаеш, шчо мой дзед не дзеліўса з мацер'ю.* М. Малешава.

ДЗЕЛІ′ЦЬ *незак.* Дзяліць, раздзяляць. *Хлопечого короваю дома дзеляць.* Цераблічы.

ДЗЕ′ЛНЫ *прым.* Дзелавы. *Дзелны гроном, зéмлю знае, дбае.* Пагост. △ Д з е л н э у р э м'е. Гарачая пара ўборкі. *У дзелнэ урэм'е часцеком горэло село коліся.* Лутк.

ДЗЕ′ЛО *н.* Справа. *Лежэнь за дзело, а муленік за цело* (прымаўка). Луткі. *Мой дзед казаў: коб умеў таньчыць, а дзелу і горэ наўчыць* (прымаўка). Там жа. △ В е л і к е д з е л о. Важная справа, значнае дасягненне. *Это веліке дзело — дождаць прашчуроў.* В. Малешава.

ДЗЕЛО′К *м.* Спецыяліст. *Дзелкоў по кожы було багато за Пінском. У нас купляли готовіе кожухі.* В. Малешава.

ДЗЕ′ЛЯ *прыназ.* З мэтай. *Сеюць мак дзеля цвету.* В. Малешава.

ДЗЕ′НЕШНІ, ДЗЕНЯ′ШНІ *прым.* Дзённы. *Квасок е дзéнешні, але мо ніхто не есціме его.* Хотамель. *Дзяняшні.* Пагост.

ДЗЕНЬ *м.* Дзень. *Летні дзень, як морэ!* Бярэжцы. *Днёў тры постоіць да пойдзе назад дзень.* Дварэц. *Останешса днем, не догоніш і конем* (прымаўка). Там жа. △

За сем дзён не обо́йдзеш. Пра вялікае. Луткі. Чуць на дзень. На досвітку. *Устане чуць на дзень.* Цераблічы. На днёх. Пра хуткае наступленне родаў. Луткі. Дзень до́брі. Прывітанне. *Дзень добры не дала — собе здоровя не ўзела* (прымаўка). Тураў. *Дзе робяць труну, як небожчык, то не говорацъ дзень добры, а моўчкі проходзяць.* Луткі. На дзеньдо́бры іграць. Іграць на вяселлі любімы танец аднной асобы (за што трэба было музыканту плаціць). *Я тобе на дзеньдобры заграю, сваце.* Верасніца.

ДЗЕРБІНА′ *ж.* Узараная цаліна. *Цалік пооруць — гэто дзербіна.* Цераблічы.

ДЗЕРЖА′К *м.* Дзяржанне. *Дзержак до лопаты зробі мне, тато.* Луткі. *У вілках дзержак поломаўся, і нечым горшка достаць.* Цераблічы. *Трэ поскобліць шклом дзержака́ ў вілах.* В. Малешава.

ДЗЕРЖА′ЛНО *н.* Тое ж. *Горацъ долоні от дзержална, як попокідаеш гною.* Луткі. *Дзержално метроў шэсць доўжыны ў тых вілках, шчо сено подаюць на стог.* Цераблічы.

ДЗЕРЖА′НЬЕ *н.* Тое ж. Кароцічы.

ДЗЕРЖА′ЎКА *ж.* Бляшка, якая прыбіваецца да лат, калі крыюць хату бляхай (яна трымае бляху). Запясочча.

ДЗЕРЖА′ЦЦА *незак.* Трымацца. *Просто той рэкі граніца дзе́ржыцца.* В. Малешава. *Болотня рыба дзе́ржыцца, а рэчной рыбы зробілосо рэдко.* Там жа. *За грыву дзержыса, а то злеціш.* Пагост.

ДЗЕРЖА′ЦЬ *незак.* Трымаць. *Валны ў нос б'юць, трэба напроціў валноў дзержаць.* Дварэц. *Корову ле гною дзе́ржымо.* Запясочча. *Воны свой езык дзержалі, поміж собой по-своему говорылі.* Цераблічы.

ДЗЕ′РКАЛО *н.* Люстэрка. *Тут крыніца і зімою не замерзае, чыста вода такая, як дзеркало.* Луткі.

ДЗЕРКА′Ч *м.* 1. Птушка дзяркач. *Дзеркач дзерэ, як косу менціць: жах-жах!* Мачуль. *Дзеркач жыве ў траве, а дзе вон зімуе — дох его ведае.* Запясочча. *Дзеркач дзерэ, той коса берэ, а як перэстаў драць, то перэстала й коса браць* (прыказка). Кароцічы. 2. Сцёрты голы венік. *Венік спаханы, то дзеркач, дзеркачэм подлогу шаруём.* Запясочча. *Перэступі дзеркача, бо слепота́ нападзе.* Хачэнь. 3 *перан.* Сцябло без лісця. *Так жукі з'елі картоплі, одно дзеркачэ́.* Аздамічы.

ДЗЕРКІ′ *прым.* Які лёгка дзярэцца. *Лоза есцека дзерка, а е крóхка.* В. Малешава.

ДЗЕРМО′ЗНІК *м.* Хмызняк. *Якая там сенóжаць — толькі адзін дзермознік.* Тураў.

ДЗЕРУ′ГА *ж.* Ільняная або канапляная посцілка, тканая з узорамі. *Дзеругі поверх ложка засцілаюць.* Цераблічы. *Ее дзеругу ўзелі на выстаўку.* М. Малешава.

ДЗЕРУНЫ′ *мн.* Дранікі. *Дзеруноў я надрала з картопляў.* Хачэнь.

ДЗЕРУ′ЧЫ *прым.* Драпучы. *Вона, та дзерэза, вельмі дзеруча.* М. Малешава.

ДЗЕ′РЦІ *незак.* 1. Драць. *Дзе ты лозу дзёр?— У Колітках.* Луткі. *Кошкі за душу дзеруць, а вона не дбае домоў.* Дварэц. *Колісь неек, кажуць, крупы дзерлі, а цепера готовые ў лаўцы купляём.* Запясочча. 2. Паднімаць цаліну. *Дзерці дуброву.* Альшаны.

ДЗЕ′РЦІСА *незак.* 1. Драцца. *Як хвоя стрыжэнь, то не дзерэцца.* Запясочча. 2 *перан.* Няўмела пець. *Молоды пеўнік дзерэцца.* М. Малешава. *Дрэцца, крычыць, а шо поé — сам не пóйме.* В. Малешава.

ДЗЕРЭВІ′НА *ж.* Бервяно. *Добра дзерэвіна попаласа.* Луткі. *Одна дзерэвіна мне трэ ў хату.* Тураў.

ДЗЕ′РЭВО *н.* Дрэва, драўніна, лесаматэрыял. *У дзерэві стрыжэнь е ў серэдзіне.* Луткі. *А коліся сюдой дзерэво плавілі.* Дварэц.

ДЗЕРЭЗА′ *ж.* Расліна павітуха. *От засела дзерэза ў просі!* Цераблічы. *Зелье е дзерэза ў полі, воно чэпляецца.* Луткі. *Як пойдзе дзерэза по льну — лён пропаў.* Альгомель.

ДЗЕРЭ′ЎНЯ *ж.* Вёска. *Казалі, шчо колісь стояла дзерэўня от коло могілок о. Это було село там.* Пагост.

ДЗЕРЭЎЯ′НКА *ж.* Расліна крываўнік, а таксама падобная да яго расліна з цвёрдым тонкім сцяблом. *Дзерэўянку короў едзяць добрэ.* Чэрнічы. *Дзерэўянка і зрыўнік — тэ самэ.* Цераблічы. Лугавы васілёк. Луткі.

ДЗЕРЭЎЯ′НЫ *прым.* Драўляны. *Вёдра на дзерэўяных обручах.* Чэрнічы. *І ложкі дзерэўяные булі.* Пагост.

ДЗЕ′СЕЦЕРО *ліч. зб.* Дзесяць. *У нашой мацер дзесяцеро було дзецей.* Верасніца.

ДЗЕСЕЦІ′НА *ж.* Дзесяціна. *Коліся звалі дзесеціна землі, вона больша трошкі за гектар.* Цераблічы.

ДЗЕ′СЕЦЬ *ліч.* Дзесяць. *Само больш іх тут хат дзесець.* Бярэжцы.

ДЗЕСЯ′ТКА *ж.* Бёрда ў 10 пасмаў. Дварэц. 2. Палат-

но ў 10 пасмаў. *У дзесятку і ў осьмачку большынство було полотно.* Верасніца. 3. Кучка састаўленых жытніх снапоў у полі. *Дзесяткі бувають разные: одна жонка зробіць сноп большы, друга — меншы.* М. Малешава.

ДЗЕСЯ'ТОК *м.* 1. 20 жмень трапанага льну. Запясочча. 2. Мэндлік з дзесяці снапоў. Аздамічы. 3. Дзесятак. *Мне на п'ятый дзесяток дзев'яць год.* Аздамічы.

ДЗЕ'ТВОРА *ж. зб.* Дзетвара. *Зобралоса дзетворы багато.* Цераблічы. *От дзетвора! Екіе лёта, такі розум* (прыказка). Лутні.

ДЗЕ'ТКІ' *мн.* 1. Дзіцятка. *Не бойса, дзеткі, росказвай мне смело.* Луткі. *А ты, дзеткі, бачыла?* Хачэнь. *Шо ў цебе, дзеткі, боліць?* Верасніца. 2. Дзеткі. *П'яцеро дзéток було ў його.* Старажоўцы.

ДЗЕ'ТКІ-ДЗЕ'ТКІ *выкл.* Выгукі пры падклікании парасят. Альпень.

ДЗЕ'ТНА *прым.* Цяжарная. *От гладка, усеодно шо дзетна.* Мачуль.

ДЗЕ'-ТО *прысл.* Дзесьці. *Маці з коньмі дзе-то ў лесу.* Бярэжцы.

ДЗЕТОВО'ДУХА *ж.* 1. Квактуха, якая мае куранят. Запясочча. 2 *перан.* Тая, што любіць займацца з дзецьмі. *От дзетоводуха, за дзецьмі кончаецца!* (на малую дзяўчынку). Альпень.

ДЗЕЎБЕНУ'ЦЬ *зак.* Дзеўбануць. *Сорока дзеўбенула ў ейцэ да не з'ела.* Хачэнь.

ДЗЕЎБНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Певень дзеўбнуў у жылу, сіняк дойго буў.* Луткі.

ДЗЕЎБЦІ' *незак.* Дзяўбці. *Та трава ніяка, ее і куры не будуць дзеўбці.* Верасніца. *Шпакі помідоры дзеўбуць, заразы!* Пагост.

ДЗЕЎЗНО' *н. зневаж.* Дзяўчына. *Вот дзеўзно, нейдзе заберэцца да ходзіць! Не шоб хату прыбраць.* В. Малешава.

ДЗЕ'ЎКА *ж.* Дзяўчына. *Замужэм? — Не, дзеўка шчэ.* Цераблічы. *А ты хвалі дзевóк, не шкодуй на іх хороших слоў.* Пагост. *Хороша дзеўка фізкультуру робіла; вона ж вучона, на робоці не наломіцца.* М. Малешава.

ДЗЕ'ЎСТВО *н.* Дзявоцтва. *За могó дзеўства тэ було.* Сямігосцічы.

ДЗЕЎЧОЧУ'Р, ДЗЕЎЧУ'Р *м.* Малы хлопчык, які ходзіць яшчэ без штаноў або паводзіць сябе як дзяўчынка. Запясочча. *Дзеўчур.* Луткі.

ДЗЕЎЧУ'К *м.* Дзяўчо. *Гоп-чук, чук, чук, луччэй хлоп-*

*чык, хоць дзеўчук, хлопчык конікі пасе, дзейка водзічку несе* (забаўка пры гульні з дзіцём). Запясочча.

ДЗЕЎЧУ'РНІК *м.* Хлопец, які заляцаецца да дзяўчат. *Ты вельмі раней дзеўчурнікам буў.* М. Малешава.

ДЗЕ'ЎЧЫНА *ж.* Дзяўчына. *Есцека дзве дзеўчыны ў мене.* Хотамель. *Хороша дзеўчына, хорошого стану. Хто ее любіць будзе, як я перэстану?* (з песні). Хачэнь.

ДЗЕЦІ'НА *ж.* Малады чалавек, юнак. *Шо гэта дзеціна ведае, колько зарэ людзей?* Цераблічы. *Эта дзеціна сухая, худая!* М. Малешава.

ДЗЕЦІ'НЕЦ *м.* Тое ж. *От вусокі дзецінец твой вурос!* Бярэжцы.

ДЗЕЦІ'ШЧЭ *н. пагардл.* Дзіця. *А гэтым дзецішчам ужэ можно ўчыцца, нам то цяжко було.* Луткі.

ДЗЕ'ЦЦА *зак.* Дзецца. *Як сталі бомбіць, то нема дзе дзецца.* Мачуль. *Колісь казалі: «Дзе дзеюцца старые коні? Беднякі купляюць да собак кормяць»* (іранічны жарт). Хачэнь. *Дзе тые сомў дзеліса? Усе звеліса!* Дварэц.

ДЗЕЦЬ *зак.* Дзець. *Дзе ш ты дзеў грошы, ото ж ты получыў торбу грошэй?* Луткі. *Куды ето я пугу дзеў?* Пагост.

ДЗЕЦЬЕ' *н. зб.* Дзетвара. *Зайдзе дзецье, і ўсе яйца поб'юць.* Хачэнь.

ДЗЕЦЮ'К *м.* Дарослы хлопец, дзяцюк. *Настояшчы жэніх, дзецюк ужэ.* М. Малешава.

ДЗЕ'ЦЯТКО *н.* Дзіцятка. *Ходзі, дзецятко, ко мне.* Сямігосцічы.

ДЗЕ'ШЭВО *прысл.* Танна. *От каюса, шо дзешэво продаў.* Цераблічы. *По рэцэ дзешэўлей перэвоз.* Сямігосцічы.

ДЗЕ'ШЭВУ *прым.* Танны. *Як скіне бусько ейцэ, то будзе дзешэву хлеб* (прыкмета на добры ўраджай). Луткі.

ДЗЁ'ГОЦЬ *м.* Дзёгаць. *Од дуба вода будзе чорна, як дзёгоць.* Луткі. *Чоботы дзёгцем мазалі — носіліса доўжэй.* Пагост.

ДЗЁГЦЯ'РКА *ж.* Дзягцярка. *Дзёгцярка под возом вісела.* Цераблічы.

ДЗЁГЦЯ'РНІЦА *ж.* Тое ж. Аздамічы.

ДЗЁ'РЗКІ *прым.* Рашучы, смелы. *Некіе такіе дзёрзкіе пчолы, шчо як поворушыў, затоб з'елі.* Цераблічы.

ДЗЁ'РНУЦЬ *зак.* Пайсці або пабегчы хутка, раптам. *Дзёрнула ў Турой сама.* Хачэнь.

ДЗЁ'РОН *м.* Цёран. *Дзёрон тожэ колючы.* Дварэц.

ДЗЁЎБА'ГА *ж. экспр.* Дзёўбала. *Нашчо мне гэта дзёўбага!* (пра скавароднік, які накідваюць пальцам). Бярэжцы.

ДЗІВА'К *м.* Дзівак. *Ну і дзівак ты! Так жэ не можно.* Цераблічы.

ДЗІВА'Н *м.* Дыван. *Дзіваны ткалі суконные да на шнурэ.* Хачэнь.

ДЗІВІНА' *ж.* Вялікае дзіва. *Ой, да дзівіна! Шо то робіцца, дзіво веліке!* Дварэц. *Дзівіна, шо добрэ гуляць!* В. Малешава.

ДЗІВІ'ЦЦА *незак.* Глядзець. *Седіть, седіть, дівіцца, дівіцца ў кніжку, а далей спіть.* Альпень. *А мне ж як дзіўлюс уніз, то так, як ворывейко, поле.* Мачуль. *Свінья не дзівіцца на бога, да на стога* (прыказка). Сямігосцічы.

ДЗІ'ВО *н.* Дзіва, незвычайнасць. *Нам дзіво гэто* (пра збіранне слоў). Кароцічы. *Да дзіво, шо не купіла тые чоботы!* М. Малешава. *Дзіво, шчо будзе доход, а як жэ!* Дварэц. *Не дзіво піво, але добрые людзі!* (прымаўка). В. Малешава.

ДЗІВОВА'НЬЕ *н.* Угляданне. *Тым сёстрам поробілосо з дзівованья.* Верасніца.

ДЗІВОВА'ЦЦА *незак.* Здзіўляцца. *Ну, усе дзівуюцца, шо таке.* Верасніца. *Усе людзі дзівуюцца, шчо така дзеўка хороша стала.* Бярэжцы.

ДЗІВО'СІЯ *ж.* Дзіва. *Дзівосія була з его, так чвориў.* Цераблічы.

ДЗІ'ДЗЯ *ж.* Грудзі ў жанчыны. *Зарэ-зарэ дзідзі дам!* В. Малешава.

ДЗІК *м.* 1. Дзікі кабан. *Забілі дзіка мах!* Цераблічы. 2. Дзікі драпежнік. *Як дзік* (пра коршака) *куру поеў, то вона ўжэ дзікова кура, ее ніхто не есць* (павер'е). В. Малешава.

ДЗІ'КІ *прым.* Дзікі. *Дзве дзікіх вуцьвы бачыў — селезён і селезёнка.* Луткі. △ Д з і к а  к о н ю ш ы н а. Дзяцеліна. Запясочча. Д з і к е  м'я с о. Нарасць, пухліна ў ране. *Як вайка боліць вельмі доўго, то неке дзіке м'ясо вупрэ, такі струп.* М. Малешава.

ДЗІКО'ВІНА *ж.* Дзічына. *Дзіковіна ўся, птаство, прылетае ў Румынію.* Дварэц. *Трусы ніяк не можно зваць на імя — воны ж дзіковіна.* Там жа. *Я тожэ поглердзеў, шо за дзіковіна такая.* Сямурадцы.

ДЗІРА'ВУ *прым.* Дзіравы. *Крыша дзірава, тополя ўпала да дзірку зробіла.* Старажоўцы.

ДЗІ'РКА *ж.* Дзірка. *Стрыж у прымолі дзіркі не робіць.* Цераблічы. *Не віновата свінка, да віновата дзірка* (прыказка). Хачэнь. *Памянш.* д з і р о ч к а. *Колько на нéбе зорочóк, только на земле дзірочóк* (загадка). *Пожня* (адгадка). Луткі.

ДЗІ'СКАЛО *ж.* Жалезны абручык і дрот з кручком, пры дапамозе якога дзеці коцяць абручык. Аздамічы.

ДЗІЦЕНЯ' *н.* Дзіця. *Дзеці большые, а малéнькіе — дзіценята.* М. Малешава. *Твое дзіценята ў калюгу залезлі да лёпаюцца.* Пагост.

ДЗІЦЯ' *н.* Тое ж. *С пецьмá дзецьмí осталáса та жонка і горуе. Дай бог дзеці і шчасця ў дзецях* (прыказка). Хачэнь. *Мáлые дзеці спаць не даюць, а большые — жыць* (прыказка). Сямігосцічы.

ДЗІЦЯ'ТКО *н.* і *м. ласк.* Дзіця. *На, мое дзіцятко, груш, мо ў вас нема.* Хачэнь. *Ох, мой дзіцятко родны, ўстань!* Сямурадцы.

ДЗІЦЯ'ЧЫНЫ *прым.* Дзіцячы. *Одзёжа дзіцячына замўрзана.* М. Малешава.

ДЗІЧ *ж.* Тое, што існуе або імкнецца існаваць само па сабе. *Дзіч дзічэ́ю, не годуюцца ў хаці, то я вугнаў на рэ́ку* (пра дзікіх качак). Цераблічы. *У нас паша дзіч, абы́-шчо, нема нішчо.* Запясочча. *Той дзіч, гáйсцёр, не тэ, шчо бусько.* Рубель.

ДЗІ'ЧКА *ж.* Дзікае пладовае дрэва. *Дзічка вона не шчэплена.* Альпень.

ДЗІЧЫНА' *ж.* 1. Дзічына. *От дзічыны наеўса!* Аздамічы. 2 *экспр.* Тое, што існуе само па сабе, непатрэбнае, недаступнае. *У лесе ў нас дзічына, попасу нема.* В. Малешава.

ДЗЫ'БНУЦЬ *зак.* Ударыць, рэзка пацягнуць. *Зарэек дзыбну, то і перэкоцісса!* Цераблічы. *Так дзыбнула, а вуцяг — нема* (пра кляванне рыбіны). М. Малешава. *Дзыбні вожкамі, поедом.* Пагост.

ДЗЫГА'Р, ДЗІГА'Р *м.* Ерш-насар. *Я бачу, дзыгарá поймалі.* Верасніца. *Памянш.* д з ы г á р ы к. *Дзыгарык? Вукінь, хай росце.* Пагост.

ДЗЫ'ГНУЦЬ *зак.* Рэзка шморгнуць. *Як дзы́гнуў, так ключы з зубоў вурваў.* Запясочча.

ДЗЫ'ЗКАЛО *н.* Тое, што звініць крыламі. Цераблічы.

ДЗЫ'ЗКАЦЬ *незак.* Звінець крыламі. *Пчола дзызкае.* Цераблічы.

ДЗЬМУ'ХНУЦЬ, ДМУ'ХНУЦЬ *зак.* Шпарка прабегчы, праляцець. *Як дзьмухнуў гэтый снарад!* Пагост. *У ле-*

*ве вухо дмухнуў, а ў праве вышоў* (з казкі). Запясочча.

ДЗЮБ *м.* Дзюба. *У любой пташкі е дзюб.* Мачуль. *Такі дзюб велікі ў чмеля́.* Цераблічы. *Ужэ дзюбом подперласа, здыхае* (пра гусяня). Там жа.

ДЗЮ'БА *ж.* Тое ж. *Як качкі похаваюць дзюбі, то будзе хо́лодно́* (прыкмета). В. Малешава. *Памянш.* д з ю́ б к а, д з ю́ б о ч к а. *Гусь воле напхае поўнэ до самое дзюбкі.* Хачэнь. *Кулік бегае поўз рэку, дзюбочка остра.* Запясочча.

ДЗЮБА'ТЫ *прым.* З вялікай дзюбаю (або носам). *Дзюбаты пугач, так як коршак.* М. Малешава.

ДЗЮ'ДЗІК *м. экспр.* Парсючок. *От дзюдзікі хорошые!* Цераблічы.

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свіней. Хачэнь.

ДЗЮДЗЮ'КАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць. *Годзі ты ўжо дзюдзюкала, седзіш да дзюдзюкаеш, дзюдзюкалка!* Запясочча.

ДЗЮ'ДЗЬКО *м. экспр.* Парсючок. Луткі.

ДЗЮ'ДЗЯ *ж. экспр.* Свіння (у размове з дзецьмі). Бярэжцы.

ДЗЮ'ЖЫН *м.* Тузін. *Цэлы дзюжын дзецей у ее.* Луткі.

ДЗЮ'ЖЫЦЬ *незак.* Моцна праяўляцца, уздзейнічаць. *Ужэ так дзюжыў дождж усю ноч!* Верасніца. *Воны іх дзюжаць, тых радовых, офіцэры.* Луткі.

ДЗЮ'ЛІК *м. экспр.* Парсючок. Альшаны.

ДЗЮ'ЛЯ-ДЗЮ'ЛЯ-ДЗЮ'ЛЯ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свіней. М. Малешава.

ДЗЮ'НЯ-ДЗЮ'НЯ-ДЗЮ'НЯ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць парася. Азяраны.

ДЗЯ'БЕЛ, ДЗЯ'ВОЛ *м.* Д'ябал. *Хоць одзін дзябел да светы е* (прымаўка). Верасніца. *Чорт мы каам, або дзявол.* Сямігосцічы.

ДЗЯ'БІЦЬ, ЗЯ'БІЦЬ *незак.* Моцна прыпякаць, хвастаць. *Коліся дзябляць і дзябляць морозы.* Хачэнь. *Дождж дзябіць.* М. Малешава. *Мороз зябліць, сыры мороз, аж хаты скрыпяць.* Буразі.

ДЗЯ'БКО *прысл.* Холадна, зябка. *Дзябко на дворэ, сыросць.* Цераблічы. *От дзябко, аж сіроты ўстаюць* (прымаўка). Аздамічы.

ДЗЯ'БНУЦЬ *зак.* Пекануць, прыпячы. *От дзябнуў мороз! Да на голу зе́млю — погано!* Сямурадцы.

ДЗЯ'ДЗЕ *м. экспр.* Дзядзька. *Як могó бацька брат, то я ёго зову дзядзе.* Сямігосцічы.

ДЗЯ'ДЗЬКО *м.* Тое ж. *Коліся давалі на веселы дзядзьку полотна на штаны.* Дварэц. *Зарэ дзедзькі, а далей будзеце дзеды.* В. Малешава.

ДЗЯК *м.* Дзяк. *Шчо поп скажа, то і дзяк* (прымаўка). Хачэнь. △ У д з я к і. Дзіцячая гульня ў квача. Альпень.

ДЗЯ'КОВАЦЬ *незак.* Дзякаваць. *Дзякуе ему, як вон добрó ўчыніў.* Запясочча. *Тры коровы прóдалі і мне ўсе дзякуюць.* Луткі. *Не можно казаць дзякуй, колі даюць зéрнета* (звычай). Там жа.

ДЗЯ'ННА *ж.* 1. Дзядзькава жонка. *Это дзянна моя, могó дзядзька жонка.* Запясочча. *Дзянно, шоб цебе ліхо ўзело, лезь у лодку!* Луткі. 2. Цётка, старэйшая жанчына. *Дзянно, возміце кварціранта.* Кароцічы.

ДЗЯ'СНА *мн.* Дзясны. *Дзясна попухлі да боляць, шо дзецца нема дзе.* Цераблічы. *Дзясна мое, а зубі не мое.* В. Малешава.

ДЗЯ'ТЛЕВІНА *ж.* Дробная канюшына, дзяцельнік. *Дятлевіна е бела і красна.* Альпень.

ДЗЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Падаваць голас, гаварыць адно і тое ж, абы-што. *Не можно розобраць, шо вона дзяўкае.* Дварэц. *Ой, ліхо твоей мацер, не знаеш, шо дзяўкаеш.* М. Малешава. *Седзіць той собака да дзяўкае.* Там жа.

ДЗЯ'ЦЁЛ *м.* Дзяцел. *Дзяцёл подоўб колка, шоб вон здох!* Запясочча. *Хто б знаў дзятла, коб не ёгó дзюба* (прымаўка). Сямігосцічы.

ДЛЯ, ЛЕ *прыназ.* Дзеля. *Барвенок для красы коло хаты росце.* Дварэц. *Для чого называласа крыніца, не знаю.* Альгомель. *Як для хорошого друга — коня с плуга* (прыказка). В. Малешава. *Ля свіней хлеў должон буць.* Там жа.

ДЛЯ'КАЦЦА *незак.* Дарма бавіць час. *Зайдзе да будзе длякацца там.* М. Малешава.

ДНЕЦЬ *незак.* Днець. *Днее, занімаецца на дзень.* Кароцічы. *Потушылі свет, ужэ днело.* В. Малешава.

ДНЁВА'ЦЬ, ДНОВА'ЦЬ *незак.* Дняваць. *Там у мліні днёвалі і ночовалі.* Луткі. *Вона будзе дноваць у том гольé.* Сямігосцічы.

ДНІ'ЦА *ж.* Дно ў калодзежы, у лодцы. *У нас дніца завострана, а ў Погосці дніца плоская була, шо ўжэ не перэвернецца* (пра човен). Дварэц. *Дніцу запускаюць,*

*штоб песок не вуно́сіло; особенно олехова дніца не зогніе́ тышчу лет.* Там жа.

ДНІ'ШЧЭ *н.* Сядзенне (у грэбені). *Зробі мне днішчэ ў грэбень.* Сямігосцічы.

ДНО *н.* 1. Ніз пасудзіны, прадмета. *Трэба под той шукаць колодой, шо на дне лежыць* (бокам на зямлі). В. Малешава. *Жыром у дно заўсегда ўпаде хлеб.* Рубель. 2. Дно ў вадаёме. *На дно пошоў дубок.* Цераблічы. *Дзік дном перэйшоў рэку і вулез.* Сямігосцічы.

ДНЯ'МІ *прысл.* Удзень. *Робілі днямі і ночамі эту роботу.* Сямурадцы.

ДО *прыназ.* Да. *Мо кілометроў два до Рэмля.* Сямігосцічы. *До мое дзеўкі хлопец ходзіць.* Цераблічы. *Ногці откусвалі до го́ду.* Хачэнь. *Дзве недзелі не должна іці до свое мацер молода.* М. Малешава.

ДОБА'ВІЦЬ *зак.* Дадаць, прыкласці. *Верха добавіць у стог трэ, зогніе.* Запясочча. *Вон не во́зьме і не добавіць.* Хачэнь.

ДОБА'ЎКІ *мн.* Участак зямлі ў полі, які займаюць (або займалі) дадатковыя агароды калгаснікаў. *На добаўках хвайные колхозные бураке.* Цераблічы.

ДОБЕ'ГЦІ *зак.* Дабегчы. *Не до́бег, не хваціло сілы.* Цераблічы.

ДОБІВА'ЦЦА *незак.* Дамагацца, дасягаць. *Добіваўса і добіцца не мог.* Цераблічы. *Добіваюса я ў Запросье.* Хачэнь.

ДОБІРА'ЦЦА *незак.* Дабірацца. *Доўго будзеш добірацца домоў.* Кароцічы.

ДОБІРА'ЦЬ *незак.* Падбіраць. *Добрэ поле добіралі лён сеяць.* Хачэнь. *Не доберу чого есці.* Там жа. *А печэнь, то еду добірай!* Луткі.

ДО'БІРКІ *мн.* Дзень заканчэння ўборкі льну. Луткі.

ДОБІТНЫ' *прым.* Такі, які ўсяго даможацца. *Така вона настойчыва, добітна.* Сямурадцы.

ДОБІ'ЦЦА *зак.* Дасягнуць мэты, дабрацца. *Шыпшыннікóм затыкалі дзверы ў хлеве́, шоб ведзьма не добіласа.* Хачэнь. *Рэкою ў Крэмне добіласа, а ў Дворэц не можно було.* Дварэц. △ Д о б і ц ц а п у х і. Давесці да канца справу. Хачэнь.

ДОБО'РНЫ *прым.* Адборны, выключны. *Усе ў його доборное було.* Луткі. *Коні булі доборные, ехалі, як одным конем.* Дварэц.

ДОБРА'НОЧ *выкл.* Дабранач. *Добраноч.— Ідзі здорова.* Бярэжцы. △ Д а ц ь д о б р а́ н о ч. Развітацца

ўвечары. *Поседзеў, даў добраноч і пошоў.* Сямігосцічы.

ДОБРА'ЦЦА *зак.* Выбраць. *Хлопцоў не доберэсса до ее.* Мачуль.

ДОБРА'ЦЬ *зак.* Зразумець, скеміць. *Як не доберэш шо зварыць ей, то не есціме.* Луткі. *Вутва доберэ, шо трава пом'ята.* Мачуль. △ Не добраць ума. Не ведаць, як. *Чужу беду пальцамі розведу, а свою — ума не доберу* (прыказка). Хачэнь.

ДОБРА'ЧЫ *прым.* Вельмі добры, душэўны. *Сережа добрачы: спіць собе, не плачэ.* Верасніца. *Добрача моя цётка, ек прыеду, про ўсе роспутвае.* Пагост.

ДОБРО' *н.* 1. Багацце, маёмасць. *Воны за добро сварацца.* Запясочча. *Усе добро пошло так, як сліна.* Луткі. *Ты з добра да ў роскош ускочыў* (прымаўка). В. Малешава. 2. Добрая справа, адносіны. *Я добра не бачыла.* Хачэнь. *Колісь людзі робілі одзін одному добро. З добра і була добра моя свекроў.* М. Малешава. *Вон нікому добра не подумае.* Луткі.

ДОБРОДА'ЙЧЫ *прым.* Які робіць дабро. *Добродайча така я, шо просяць, то не отказваю.* М. Малешава.

ДОБРОДУ'ШНЫ *прым.* Добры, такі, які мае чулую душу. *Я добродушна, усе людзям пораздаю.* В. Малешава.

ДОБРОМЕ'Р *м.* △ З доброме́ру. Ні з сяго ні з таго, невядома ад чаго, без ніякай прычыны. *З добромеру сеў паршук на шыі.* М. Малешава. *З добромеру опухла, чого і шчо — не ведаю.* Запясочча. *З добромеру зорвало мне ру́ку ўсю.* Луткі.

ДОБРУ'ЛЕНЬКІ *прым. экспр.* Вельмі добры. *Таке макуленьке, добруленьке!* (пра дзіця). Луткі.

ДО'БРЫ *прым.* Добры. *Добра собачка, як ідзеш, то гаўкае.* Мачуль. *Іван кажэ, шчо ў цебе добрые картоплі.* В. Малешава. *Да ека вода добра! І коло самого шля́ху!* Бярэжцы. *За добрым чоловеком ек за сценою, а за плохім, ек за плотом* (прыказка). Луткі. △ До́бры дзень, до́бры ве́чор, до́брэ здоро́ўе. Вітанні. Тураў. До́бры пле́шнік. Аір. Альшаны.

ДОБРЫ'ДЗЕНЬ *выкл.* Вітанне. *І добрыдзень казалі.* Луткі.

ДОБРЫНА' *ж.* Вельмі добры чалавек. *Хороство хлопец! Да добрына!* Тураў.

ДОБРЫ'ШЧЭ *н. экспр.* Дабро, багацце. *У мене столькі добрышча, я з богатого роду.* Бярэжцы.

ДО'БРЭ *прысл.* Добра. *Картоплі добрэ ростуць вель-*

*мі*. Бярэжцы. *А вона добрэ жыве?— Добрэ-э!* М. Малешава. *Добрэ, баценько, прыду*. Аздамічы. *Своé добрэ і ў войску* (прымаўка). В. Малешава. *О, вона жыве добрэ, як вуценя ў сітніку!* Сямурадцы. *Добрэ ох і ўдвох!* (прыказка). Мачуль.

ДОБРЭ'ЗНЫ *прым*. Вельмі добры. *Добрэзны буў такі чоловек, мене шкодоваў!* Запясочча. *Мой дзядзько добрэзны-добрэзны, посоветуе мне, шчо робіць*. М. Малешава. *До́чка одна вельмі добрэзна да незамужня*. Верасніца.

ДОБРЭ'Ц *м*. Добры, гуманны чалавек. *І добрэц, а беда, як п'яны*. Сямігосцічы.

ДОБРЭ'ЧЫ *прым*. Вельмі добры. *Вон такі хлопчак добрэчы, од ёго нічого не ўцечэ!* (пра вучобу ўнука). Хачэнь.

ДОБУВА'ЦЬ *незак*. △ Д о б у в а́ ц ь в é к у. Дажываць. *Я тут веку добуваю*. Цераблічы.

ДОБУ'ЧА *ж*. Дабытак, здабыча. *Шчо будзеш кажну недзелю ходзіць на тую добычу, то ее будзе толькі на одзін обед* (пра збор ягад, грыбоў). Бярэжцы. *Берэце свою добучу, есце, шо ву ўчора добу́лі*. В. Малешава.

ДОВЕ'ДАЦЦА *зак*. Праведаць. *Пойду доведацца дочкі, як вона там*. Сямігосцічы.

ДОВЕ'ДКІ *мн*. Адведкі. *У доведкі ідуць до рожэніцы*. Хотамель.

ДОВЕ'КУ *прысл*. Заўсёды, да смерці. *Я хоцеў бы довеку жыць так, як ты*. Цераблічы.

ДОВЕСЦІ' *зак*. 1. Асачыць. *Собакі его довелі гэ*. Аздамічы. *По следу можно довесці его*. М. Малешава. 2. Давесці. *Дов'ёў до са́мых слёз*. Цераблічы. *Вон доведзе ко́су*. Кароцічы.

ДОВЕ'СЦІСА *зак*. 1. Дайсці да пэўнага стану. *Доведзецца до того, шо ўсе не трэба будзе*. Цераблічы. *Доведзецца на веку варыць і ў глёку́* (прымаўка). Сямігосцічы. 2. Мець магчымасць. *Не довелосо побуць ему на свеце*. Цераблічы.

ДОВІ'ВАНКА *ж*. Верацяно з пражай, зматанай з двух ручаек. *До тое́ ручайкі другую, от тобе й довіванка*. Цераблічы.

ДОВОДЗІ'ЦЬ *незак*. △ Д о в о д з і́ ц ь к о н ц ы́. Заканчваць. *А шчо ж, не допоецé до конца? — Мы не старцы́, шчоб доводзіць концы* (прыказка). Цераблічы.

ДОВО'ДЧЫК *м*. Праваднік, падводчык. *Булі доводчыкі, шчо показвалі, дзе людзі добро похавалі*. Луткі.

ДОВО'ЛІ *прысл.* Даволі, досыць. *У Росіі хлеба доволі.* Запясочча.

ДОВОЛЬНЕ'Й *прысл.* Больш. *Раней довольней лесу було.* Кароцічы.

ДОВО'ЛЬСТВО *н.* Задавальненне, дабро. *Это довольство е той дошч, а то позасыхало.* В. Малешава.

ДОВУРЭ'НДУ *прысл.* Дабротна, упарадкавана. *У його ўсе довурэнду.* Тураў.

ДО'ГЛЕД *м.* Догляд. *Трэба доглед за ўсімá.* Бярэжцы.

ДОГЛЕДА'ЦЬ *незак.* Даглядаць, даваць есці скаціне. *Трэ іці доглядаць худобу.* Хачэнь. *Шэсцьдзесят год, я ужэ снáгі на нівошчо не маю, ні робіць, ні доглядаць.* Луткі.

ДОГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Дагледзець, накарміць свойскую жывёлу, зрабіць хатнія справы. *Я й не варта свіней догледзець.* Сямігосцічы. *Мо я облягу, то хто мене догледзіць?* В. Малешава.

ДОГНА'ЦЬ *зак.* Дагнаць. *Догнаў барана воўк.* Кароцічы. *Дожэну, то получыш!* Верасніца. *Чотыры браты, одзін за одным бегуць, одзін одного не дожэнýць* (загадка). *Кóлеса ў возі* (адгадка). М. Малешава.

ДОГНІ'ЦЬ *зак.* Дагніць. *Догніе сено, як бачыш!* Цераблічы.

ДОГОВОРА'ЦЦА *незак.* Дамаўляцца. *Воны договораюцца, колькі у іх будзе маршáлкоў.* М. Малешава. *Договораюцца, шо колі робіць.* Аздамічы.

ДОГОВОРЫ'ЦЦА *зак.* Дамовіцца. *Мене сватаў, то я його не знала, бацькі договорыліса.* Сямігосцічы.

ДОГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* Дамовіць. *Сайку трэ договорыць прывезці.* Дварэц.

ДОГОЛА' *прысл.* Поўнасцю. *Догола забралі, усе чысто.* Аздамічы.

ДОГОНЯ'ЮЧЫ *дзеепрысл.* Даганяючы. *Догоняючы не нацолуешса* (прымаўка). Запясочча.

ДОГОРЫ' *прысл.* Дагары. *Спіць догоры, уверх пузом.* Цераблічы. *Шчо над намі догоры ногамі?* (загадка). *Мухі* (адгадка). Луткі.

ДОГОРЭ'ЦЬ *зак.* Дагарэць. *Шчэ головешкі не догорэлі, шчэ курaць.* Бярэжцы.

ДОДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Дакучаць. *Зіма додзевае.* Мачуль. *Думаў, додзену ему, ходзя, мо прыме.* Тураў. *Наверно, і вам додзевае тут.* В. Малешава.

ДОДЗЕ'РЖАЦЬ *зак.* Стрымаць. *А та вероўчэнка додзéржыць корову?* Дварэц.

ДОДЗЕРЖА'ЦЬ *зак.* Вытрымаць. *Груда стала як жалезная, то і дубова болова не додзéржэе.* Дварэц.

ДОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Надакучыць. *Погода ніяк не додзене, а гэта негода, то ўжэ.* Хачэнь. *Додзело ўжо іх ловіць, гэтых уюноў.* Мачуль. *Додзело мне по обшчэжыціях жыць!* Сямурадцы.

ДОДО'МУ *прысл.* Дадому. *Не хочуць додому ехаць.* Хотамель.

ДОДЫ'ХАЦЬ *зак. перан.* Дажыць. *От, коб не додыхалі гэтые цветы!* Мачуль. *До вечора не додыхала корова, здохла.* Пагост.

ДОДЫХА'ЦЬ *незак.* Здыхаць, канчацца. *Ужэ вонэ додыхае, тэ порося.* Луткі.

ДОЕДА'ЦЬ *незак.* Даядаць. *Хто доедае, той убірае.* Аздамічы.

ДОЕ'ХАЦЬ *зак.* Даехаць. *До Вельчы можно доехаць мотором* (лодкай). Сямігосцічы.

ДОЁНКА *ж.* Даёнка. *Доёнка дзерэўяна з вухом.* Хотамель. *Ото доёнка корову доіць.* Запясочча.

ДОЖДЖ *м.* Дождж. *Ек доўго не було дожджý, то мак у колодзедзь сыпалі.* Луткі. *Водою ліліса, ек нема дожджу; хто прыдзе, то шам на ёгó!* Хачэнь. *Тыждзень на роздво і на пасху не пекуць нічого, шоб летом дожджы ішлі.* Луткі. *На Купалного Вана пошоў дошч, то доўго будзе.* В. Малешава. *Дождж не ідзе, ек просяць, а ек косяць* (прыказка). Луткі. *Кочу-кочу колоду—ці на дождж, ці на погоду* (прыгаворваюць дзіцяці пасля купання). М. Малешава. △ Ц ы г á н с к і д о ж д ж. Дождж з сонцам. Аздамічы. С в і н ь я́ ч ы д о ж д ж. Тое ж. Сямігосцічы. Б á б с к і д о ж д ж. Тое ж. Аздамічы. Г р ы́ б о в у д о ж д ж. Ціхі летні дождж, пасля якога туман сцелецца. Хачэнь. *Памянш.* д ó ж д ж ы к. *Дожджыку-колоштан, прошу цебе, перэстань. Да поедом на Ердань богу моліцца, Хрысту клоніцца. Да едзе божа сірота, без сорочкі, без штаноў, поўны торбы сухароў, одмукае ворота ключыком-замочком, шоўковым платочком* (так дзеці прыгаворваюць у дождж). Хачэнь.

ДОЖДЖОВУ' *прым.* Дажджавы. *Это не дожджова хмара, пройдзе.* Сямурадцы.

ДОЖДЖЭ'ЛІЦА *ж.* Вялікі працяглы дождж. *На вуліцы така була дожджэліца, шо не можны вуйці на двор.* М. Малешава.

ДОЖДЖЭ'ЧА *ж.* Тое ж. *От дождэжча большая, на цэлы месяц занегодзіло.* Альшаны.

ДОЖЫВА'ЦЬ *незак.* Дажываць. *Хай дожывае той хлеў веку так.* Запясочча.

ДОЖЫДА'ЦЬ *незак.* Чакаць. *Хай не дожыдаюць, хай едзяць.* Сямурадцы. *Дожыдай Петра, то і сыра з'есі* (прыказка). Сямігосцічы.

ДОЖЫНА'ЦЬ *незак.* Дажынаць. *Хвосцік жонкі дожынаюць, дзе комбаін не дожаў.* Дварэц.

ДОЖЫ'НКІ *мн.* Дзень (свята) заканчэння жніва. *На дожынкі робілі бороду.* Луткі. *Булі людзі колішніе, шо к дожынкам пеўня рэзалі.* В. Малешава.

ДОЖЫ'ЦЦА *зак.* Дажыць. *Дожыла́са зарэ, шо одна́я осталаса.* Сямігосцічы.

ДОЖЫ'ЦЬ *зак.* Дажыць. *У нас стара дожыла́ до дзевеносто шэсці годоў.* Сямігосцічы.

ДОЗІРА'ЦЬ *незак.* Даглядаць, глядзець. *Хай народ скажэ, як я дозірала дзецей.* М. Малешава. *Трэба дзе́цем угодзіць, шоб на старость дозіралі.* Луткі. *Професія вутвў дозіраць у ее.* Там жа.

ДОЗНА'ЦЦА *зак.* Даведацца, устанавіць. *Я дознаюса, чыйго вон загона берэ.* Дварэц.

ДОЗОЛЯ'ЦЬ *незак.* Дакучаць моцна. *Не дозоляй на серцэ, помоўчы!* Аздамічы.

ДОЗО'Р *м.* Догляд. *У дозоры жыве короўка.* Аздамічы.

ДОЗО'РНЫ *прым.* Дагледжаны. *Дозорна твоя корова.* Аздамічы.

ДОЗО'РЫЦЬ *зак.* Дагледзець. *Трэба ж загон дозорыць.* Мачуль.

ДОІ'ЦЦА *незак.* Даіцца. *Бутто дае, доіцца, і вот походзіць у плузі —ўсе, ўжэ молока не дасць ніяк.* Пагост.

ДОІ'ЦЬ *незак.* Даіць. *Як ты доіш, шо ў цебе пены нема?* Луткі. *У колхоз у доярэ́ пошлі мушчыны, чоловек і жонка, да двое дояць.* Дварэц. *Я доіла вечку. Не було ў нас коро́ву, а дзеці ж — воны молока хочуць.* Бярэжцы.

ДО'ЙКА *ж.* Даярка. *Дочка його дойкою.* Пагост.

ДО'ЙЛО *н.* Вымя ў каровы. *Дойло, бі ведро, у коровы.* Хотамель. *У мужчыны штаны шырокіе вісяць, бі дойло.* Там жа.

ДО'ЙНЫ *прым.* Дойны. *Дойна корова.* М. Малешава.

ДОЙЦІ' *зак.* 1. Дайсці. *Ледво дойшла.* Хотамель. 2 *перан.* Сканаць. *У нас одзін чоловек учадзеў і дойшоў.* Луткі.

ДОЙЦІ'СА *зак.* Адчуць. *Ему добрэ дойшлосо, тому воўку!* Мачуль.

ДОКАЗА'ЛЬНЫ *прым.* Узорны. *То ж вон, бувало, як грэбеня зробіць, то доказального!* Сямурадцы.

ДОКАЗА'ЦЬ *незак.* Давесці, расказаць, паказаць, растлумачыць. *Нехто доказаў, то вон того гавеза корэня тры гóды піў, а то рукамі не володаў.* Луткі. *Мне людзі доказалі, шо трэба корэня конского шчавера од малярыі.* Верасніца. *І вот вон по ўсіх государствах ездзіць, дзе хто докажэ, екіе докторы́, вон прывозіць* (з байкі). Кароцічы.

ДОКА'ЗВАЦЬ *незак.* Даводзіць. *Доказваюць, шчо було дзвесці хатóў.* Цераблічы. *Дзеды доказваюць, шчо як воны булі хозяевамі, то не косілі за раз, а за тры раз.* В. Малешава.

ДОКІ' *прысл.* Дакуль. *Докі ты будзеш на ложку пухнуць?!* Цераблічы. *Докі корову водзіць, трэба целяці шукаць.* Аздамічы.

ДОКІ'ЛЬ *прысл.* Дакуль. *Докіль ты будзеш кубéшкацца?* Верасніца. *Вале, докіль гэто ўсе будзеш малая?* Цераблічы.

ДОКЛА'Д *м.* Дадатак. *Сем прэдметоў доклад на гэту бабку: яйца, сматана, сахар, сода, молоко, соль.* Мачуль. *Доклады екіе ў ту груцу?—Екіе! Сало дай годзі.* В. Малешава.

ДОКЛА'ДВАЦЬ *незак.* Дадаваць, дабаўляць. *Вон богато обманвае, докладвае, той хлопец.* Луткі.

ДОКО'ПКІ *мн.* Дакопкі. *Я ўжэ докопкі справіла.* Хотамель.

ДОКО'Р *м.* Ганьба, папіканне. *Первы докор—голышко, шо ў цебе е!* Запясочча. *Век дзéцям докор будзе за тэ.* М. Малешава.

ДОКОРА'ЦЬ *незак.* Ганьбаваць, папікаць, здзекавацца. *Хлопцы докараюць ему: Дунька, Дунька!* М. Малешава. *Вон мне докорае, шо дзецей багато.* Цераблічы.

ДОКОРЫ'ЦЬ *зак.* Папікнуць, паздзекавацца. *Хоць купіць, да докорыць* (прыказка). М. Малешава.

ДОКОСІ'ЦЬ *зак.* Дакасіць. *Трэба докосіць того ўчастка своего.* Луткі.

ДОКО'СКІ *мн.* Дакоскі. *Стожка докідалі і докоскі зробілі.* Хотамель.

ДОКРАНУ'ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Не можно до цела докрануцца.* М. Малешава.

ДОКУ'ЛЬ *прысл.* Дакуль. *Докуль ты будзеш спаць,*

*Оле?* Цераблічы. *Шо я не чую, докуль не спіцé?* Запясочча. *Докуль родзімка, дотуль вон будзе ў смоле кіпець* (з байкі). Хачэнь.

ДОКУМЕ'КАЦЬ *зак.* Дадумацца. *Усе ж не докумекаеш зразу.* Дварэц.

ДОКУПІ'ЦЦА *зак.* Дакупіцца. *Таке ўжэ дорогé, шчо не докýпісса.* Аздамічы.

ДОКУЧА'ЦЬ *незак.* Дакучаць. *Не докучай, багато говорыць — нечого слухаць.* Луткі.

ДОКУ'ЧЛІВУ *прым.* Надакучлівы. *Докучліва, бу цыганка.* Альпень.

ДОКУ'ЧНЫ *прым.* Тое ж. *Докучнейша робота кросна навіваць.* В. Малешава.

ДОЛ *м.* 1. Земляная падлога. *Дол буў, подлогі не було, на долу ночовалі.* Сямігосцічы. Зямля, грунт. *На дол упало яблуко.* Сямігосцічы. *Булі косы до долу.* Луткі. 2. Даліна. *Усімі этымі доламі ішла вода.* В. Малешава.

ДОЛА'ДНО *прысл.* Разважна, дарэчы. *Доладно говорыць, хлопец толкову, кумекае головою.* Аздамічы.

ДОЛА'ДНЫ *прым.* Талковы. *От доладна жонка, і на стол подасць чысто і зострóіць усе!* Старажоўцы.

ДОЛБА'НІЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць настойліва і доўга. *Ёй однэ скажэш, а вона свое долбаніць.* Хачэнь.

ДОЛЕГА'ЦЬ *незак.* Шкодзіць, быць не ў норме, турбаваць. *Нешчо ж мо ему долегуе, колі вон очэвідкі сохне.* М. Малешава. *Куме, скажы, шчо моей яблоні долегуе?* Луткі. *У левом плече долегуе, трэ з'ездзіць на просветленье.* Аздамічы. *Ей ужэ долегуе, шо рожаць трэба, то поехала ў Туроў.* М. Малешава. *Як чоловеку не долегае, то жыць можно.* Мачуль.

ДО'ЛІ *прысл.* На зямлі, на нізе. *У нас у хаці дзіця долі не посадзіш, вельмі холóдна долоўка.* Тураў. *Долі сплю, на пудлозе.* Бярэжцы. *Ведро стаўце долі, коб не скінулосо ў колодзеж.* Пагост.

ДОЛІВА'ЦЬ *незак.* Даліваць. *Навары супу і не долівай ніякою водою.* Бярэжцы.

ДО'ЛІК *м.* Раўчук; невялікая даліна. Мачуль.

ДОЛІКА'ТНЫ *прым.* Далікатны, высакародны. *Воны вельмі долікатные, тые андыкі.* Дварэц. *Рыба долікатна, ее трэба добро соліць.* Верасніца.

ДОЛІ'НА *ж.* Даліна, азярына каля ракі. *Перэплулі коні чэрэз доліну.* Сямігосцічы. *На доліні вода ўсе лето дзéржыцца.* М. Малешава. *Коло горóда ў мене доліна.*

Хачэнь. *Памянш.* долінка. *Долінкі невелічкіе, цепер сухій год, то поперэсыхалі.* Мачуль.

ДОЛО'НЯ *ж.* Далонь. *Долоню порэзала ножэм.* Велямічы. *Лапа, ек моя долоня, у воўка.* Дварэц.

ДОЛО'Ў *прысл.* Да долу, на зямлю. *Дым долоў падае — будзе дождж.* Луткі. *Нешчо ў задней хаці долоў грімнуло.* Пагост.

ДОЛО'ЎКА *ж.* Земляная падлога ў хаце. *Колісь у хатóх долоўка була землянáя, подлогі не було.* Тураў. *Не ходзі босы, бо хóлодна долоўка.* Дварэц. *У мене ў хаці долоўка, трэба покласці подлогу.* М. Малешава. Зямля. *Нека вусень з'едала одзін год горпу, да зостаецца чорна долоўка.* Хачэнь. *Это дзерэво по долоўцы слалі.* Пагост.

ДО'ЛУ *прысл.* На доле, унізе на зямлі. *Зéрнета з гарбýзы сыпалі на коміна, а долу дзеці збіралі.* Кароцічы.

ДО'ЛЯ *ж.* 1. Доля. *Така доля, як у небе столя* (прымаўка). *Субота не без сонца, козак не без долі, хоць ек захóдзіць, то трэба, шчоб показалос сонцэ* (прымаўка). Цераблічы. 2 *перан.* Муж, жонка. *Ее доля гуляць не пускае, рэўнуе, мабуць.* Запясочча. *Его долю ў больніцу завéзлі.* Луткі.

ДО'МА *прысл.* Дома, у хаце. *Шчэ нашы тые дзеці булі дома.* Сямурадцы.

ДОМАХОВА'ЦЬ *незак.* Займацца хатнімі справамі. *Я ўжэ дома домахýю.* М. Малешава.

ДОМА'ШНІ *прым.* Такі, хто дому трымаецца. *Чоловек мой буў не домашні.* Сямурадцы.

ДОМОВА'ЦЬ *незак.* Быць дома. *Шо, домуеш? Я бачу, шо ты дома робіш.* В. Малешава. *Хворэю, то от домýю.* Пагост.

ДОМОВІ'К *м.* Дамавы нячысцік. *Не лезь на хату, там домовік.* Цераблічы. *Домовік заўсегды́ з намі. Іншу худобіну не злюбіць і згоніць-згоніць, шо мокра зробіцца. А понаравіцца — вучэшэ, построіць, коню кóсу заплеце.* Луткі.

ДОМОВІ'НА *ж.* Простая чатырохвугольная труна. *У нас колісь домовіны робілі, зверху бы роўна дошка, а потом склепý сталі робіць.* Луткі. *Нешчо ей не доробілі ў домовіну, раз сніцца.* Запясочча. *Мерку на домовіну посерэдзіні могілы кладуць, як погрэбуць* (гэту мерку таксама ставілі ў проса, каб адпужваць вераб'ёў). М. Малешава.

ДОМОТКА'Н *м.* Суконная спадніца, андарак. Альпень.

ДОМО'Ў *прысл.* Дамоў, дадому. *Рыкеле, о рыкеле! Ходзі домоў, картоплі похолóдалі!* М. Малешава. *Не хочуць вутвý жыровацъ, а йдуць домоў.* Верасніца. *Напоіла чаплю да домоў не траплю* (прымаўка). Хачэнь.

ДОМО'ЎКА *ж.* 1. Уласная хата, жыллё, родны кут. *А йдзе домоўка наша, у екі бок пóйдом?* Лутні. *Сёроўнó скучно по домоўцы, хоць і пісьма.* Запясочча. *Колі ж ты домоў заедзеш, дзе ж твоя домоўка?* Дварэц. *Домоўка не ворог, вона навек отчыніцца* (прыказка). Хачэнь. *Домоўка не пóдмазка, кот не з'есць* (прымаўка). Сямурадцы. 2 *перан.* Дамавіна. Аздамічы.

ДОМО'ЎКІ *прысл. ласк.* Дадому. *Я заведу цебе домоўкі.* Бярэжцы. *Коля, ходзі домоўкі, ходзі!* Сямурадцы.

ДОМОЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Дагаворваць, вымаўляць да канца. *Воны з ёго глумяцца, бо дітя не домоўляе.* Рубель.

ДО'НЬКА *ж.* Дачушка. *Шо вам росказаць, донькі мое?* Мачуль. *Ох, донько, ох, мамонько!* Бярэжцы.

ДО'НЯ *ж.* Тое ж. *А я кажу: доню, не, не трэба.* М. Малешава.

ДОПАСЦІ' *зак.* Дапасвіць. *Пастух до Міхайла допасе.* Луткі.

ДОПЕКЦІ' *зак.* Вывесці з цярпення. *Допеклі коня слепакі — уцёк у кусты!* Пагост.

ДОПЕКЦІ'СА *зак.* Дапячыся. *Сіроце допечэцца ў жывоце* (прыказка). Сямігосцічы.

ДОПЕ'ЎНІЦЦА *зак.* Дамовіцца пэўна. *Допеўніўса точно з ім.* Аздамічы.

ДОПОЛО'ЦЬ *зак.* Дапалоць. *Дополола свое бураке.* Цераблічы.

ДОПУ'ТВАЦЦА *незак.* Дапытвацца. *Вон не сказаў, а я не допутваласа.* Цераблічы.

ДОРА'ІЦЬ *зак.* Нараіць, параіць. *Дораілі борсука есці, да стаў правіцца.* Бярэжцы.

ДОРВА'ЦЬ *зак.* Дарваць. *Ох, дорвала до лохмоцья, шо нема як і лапіць.* В. Малешава.

ДОРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Вытвараць, вырабляць. *Ох, зарэ то тые дзеўкі дороблююць!* Хачэнь. *Молоды дороб-ляў, шо бес!* Пагост.

ДОРО'ГА *ж.* 1. Дарога. *Украў просо, да дзірка ў мешку, то дорога до хаты довела.* Хачэнь. *Вася по ўсём свету росцегласа, ек устане, то й неба достане* (загадка). *То ж дорога* (адгадка). Там жа. 2. Паездка. *Да-*

*река дорога вам!* Запясочча. 3. Млечны Шлях. *Гэто тые дорогі, шчо птаство ў поўрэй леціць.* Хачэнь. 4. Палавік. *З рэмехі мешкі, под ногі дорогі роб'яць.* Запясочча. 5. Дзве ніткі разам у палатне. Запясочча. △ Роспу́тные доро́гі. Раздарожжа. Альпень. Бітая доро́га. Наезджаная дарога. *Это ж трэ на бітой дорозі но́гу вувіхнуць!* М. Малешава. Гу́сеча доро́га, гусіна доро́га. Млечны Шлях. Сямігосцічы. Чума́цка доро́га. Тое ж. *По чумацкой дорозі птаство ідзе.* Запясочча.

ДОРОГІ' *прым.* Дарагі. *Тоды тожэ було дорогее м'ясо́.* Пагост.

ДОРОГІ'ЗНА *ж.* Дарагоўля. *А дорогізна була на кермашы!* Верасніца. *Шо дорогізна цепер тые поросята, по пеісят!* Пагост.

ДОРОГО'ЎЛЯ *ж.* Тое ж. *Дорогоўля на хусткі стала.* М. Малешава.

ДОРО'ДНЫ *прым.* Прыгожы, салідны. *Хорошы хлопец, і дородны, і вучоны.* М. Малешава. *Такі дородны мужчына, у дзеда ўдайса.* Лутк і.

ДОРОЖЫНА' *ж.* Дарагоўля. *Дорожына тут рыба!* Цераблічы.

ДОРОЖЫ'ЦЬ *незак.* Даражыць. *Моя праба́ба ею ўсе дорожыла, тою кіба́лкою.* Сямігосцічы. *Шоб мне ўзяць такую, шоб вона мною дорожыла, от така коб мне жонка, коб трапіў.* Кароцічы.

ДОРОЖЭ'ЧА *ж.* Дарагоўля. *Сеголета на садовіну дорожэчы не будзе.* Луткі.

ДОРОЗУМЕ'ЦЦА *зак.* Здагадацца, скеміць. *І дорозумейса ж, як злезці одтуль.* Цераблічы.

ДОРЫВА'ЦЦА *незак.* Дабірацца, даставаць. *Одна ку́ра дорываецца, то есць* (пра агрэст). Хачэнь.

ДО'СВЕТА *прысл.* Да світання. *Досвета я цэлу ручайку напрала.* Верасніца. *Досвета будзіць мене нехто ў окно.* М. Малешава.

ДО'СВЕ'ТОК *м.* Досвітак. *Часоў п'яць — это до́светок.* Верасніца. *Запоўніў целятнікі клеверам за до́светок і пошоў.* Дварэц. *Досве́ток.* Аздамічы.

ДОСЕГНУ'ЦЬ *зак.* Дасягнуць, дагнаць. *Досегла́ жонку на шлеху.* Цераблічы.

ДОСЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Даседзець. *Яйца ву́твы кура доседзіць.* Цераблічы.

ДОСЕ'ЎКІ *мн.* Дасеўкі. *На досеўках пеўню одсе-*

*каюць голову, собіраюць вечэру і п'юць.* Луткі. *У нас досеўкі булі, як ластоўка прылётае.* В. Малешава.

ДОСЕ'ЯЦЬ *зак.* Дасеяць. *Як ужэ досеюць поле, то кідаюць печонікі ў печ, вельмо смашные печонікі, а до гэтого печонікоў не пеклі.* Луткі.

ДОСІ'ЛЬ *прысл.* Дагэтуль. *Воно досіль постоіць, то ці будуць ёго есці.* Чэрнічы.

ДОСОЧЫ'ЦЬ *зак.* Выявіць, устанавіць. *Оттуля як выйдзе, то нідзе не досо́чыш следу.* Мачуль. *Воны досочылі: стоіць лоточка, а чоловека нема.* Там жа.

ДОСТА'ВА *ж.* Праезд; тое, чым можна заехаць. *Нема доставы ў Дзержынск.* Запясочча. *Достава за рэку плохая, то ж трэба коня плавіць, воза.* Сямігосцічы. *За морэм вол по рублю, да достава сто* (прыказка). Там жа.

ДОСТАВА'ЦЦА *незак.* Дабірацца. *А чым вы доставаліса, Устыма?* Кароцічы. *Жоўна́ вулье лупіць, достаецца ік меду.* Запясочча. *Гэ поселіўса, а туды ў лес достаецца лодкою.* Мачуль. *Достава хоро́ша зарэ у нас, усе ў магазін прывозяць, купляй, шо хоч.* Пагост.

ДОСТАВА'ЦЬ *незак.* Даставаць. *Вон достае закоркованy пляшку з яруса і творыць вулья́.* В. Малешава. *Не плач, байстручку, дам тобе хлебца ў ручку, а сама пойду гуляці да другога доставаці* (прымаўка). М. Малешава.

ДОСТАВІ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Які можа ўсё дастаць, прыдбаць. *Доставіцельны, знае ходы-вуходы.* Пагост.

ДОСТА'НОК *м.* Сталасць. *Еке змалку, таке ў достанку.* Сямігосцічы.

ДОСТАРЧА'ЦЬ *незак.* Дастаўляць, знаходзіць. *А вон ее гледзеў, шкодоваў, усе, шо на свеці, то вон ей достарча́ў.* Тураў.

ДОСТА'РЧЫЦЬ, ДОСТА'ЧЫЦЬ *зак.* Знайсці, даставіць. *Му еды достарчымо.* Луткі. *Достарчыць трактора нельга за рэку.* Запясочча. *Як добры хозяін, то дроў достачыць багато.* В. Малешава.

ДОСТА'ТКІ *мн.* Набыткі, маёмасць, прадукты. *У нашое маткі да не велікіе достаткі: поеўшы да легайце спаткі* (прымаўка). Сямурадцы.

ДОСТА'ЦЦА *зак.* Дабрацца. *Да чым воны достануцца туды?* М. Малешава. *Накрый, шоб муха не досталаса.* Тураў. *Нам до Турова достацца трэба.* Сямігосцічы.

ДАСТА'ЦЬ *зак.* Дастаць. *Уюноў буські досталі з*

*гразé.* Мачуль. *Мéншой дочцэ, ой, достаў пугою, ой, достаў!* Луткі.

ДОСТУ′КАЦЦА *зак.* Дастукацца. *Ек чоловек стукае, то достукаецца* (прымаўка). Дварэц.

ДОСТУ′ПНО *прысл.* Даступна. *Получае пенсію, да ему доступно.* Сямурадцы.

ДОСТУ′ПНЫ *прым.* Які ўсяго дасягае, дабіваецца. *Доступны достанецца куды хоч.* Аздамічы.

ДО′СЫТА *прысл.* Дасыта. *Досыта наеўса.* Аздамічы.

ДОСЮ′ЛЕКА *прысл.* Дагэтуль. *Досопковáла досюлека буракі.* Пагост.

ДОСЮ′ЛЬ *прысл.* Тое ж. *Досюль дойшлі і сталі.* Запясочча.

ДОСЯГНУ′ЦЬ *зак.* Дасягнуць, дайсці да пэўнай мяжы. *Воны досягнуць свое, самогонкі шчэ багато!* В. Малешава.

ДОТЛА′ *прысл.* Дашчэнту. *Забралі дотла ўсе сено.* Луткі.

ДОТОГО′ *прысл.* Вельмі. *Да пекло, шо дотого пекло!* Хачэнь. *Дотого ўжэ набраў гэтое землі і купляе ешчэ.* М. Малешава.

ДОТОЧЫ′ЦЬ *зак.* Прытачыць, дадаць. *Варвара нóчы одорвала, до дня прыточыла* (прымаўка). М. Малешава.

ДОТЫ′КАЧ *м.* Прыстасаванне датыкаць кросны. *Дотыкач, шоб менеей хвосты булі.* Сямігосцічы.

ДОЎБА′К *м.* Кіёк з цвічком на канцы. *Доўбак прынесі дзеду, бо слізко йці до Орыны.* М. Малешава.

ДОЎБА′НІЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць. *Доўбаню ему по-своéму.* Цераблічы.

ДО′ЎБАНЫ *прым.* Выдзеўбаны. *Човен доўбаны з дуба, а лотка — з дошок роблена.* Буразі.

ДОЎБА′НЬЕ *н.* Дзяўбанне. *Трэба сокерка для доўбанья корыта.* М. Малешава.

ДОЎБА′ЦЬ *незак.* Дзяўбці. *Певень ужэ доўбаў яблуко.* Луткі. *Седзіць і доўбе, як той дзяцёл.* Луткі. *Доўбе, як гусь обмерзлэ корыто!* Сямурадцы.

ДОЎБЕ′НЬ *м. экспр.* Някемлівы чалавек. *Вон доўбень доўбенéм, не варт нінавошчо.* М. Малешава.

ДОЎБЕ′ШКА *ж.* 1. Драўляны малаток; доўбня. *Здзелай доўбешку, то лепш будзе: тэбель не поб'еш.* Сямігосцічы. *Доўбешкою поб'ём лён, а тогды ў церніцу, а дале трэпаць.* Верасніца. *Як ясны лёд, то ло-*

*бочкі глушылі доўбешкою.* Мачуль. 2 *экспр.* Някемлівы чалавек, дурань. *Доўбешко, послухай, шо тобе людзі скажуць!* Верасніца.

ДО'ЎБНЯ *ж.* Доўбня. Запясочча.

ДОЎБЦІ' *незак.* Дзяўбці. *Цеплюкі почалі доўбці просо.* Альшаны.

ДО'ЎГІ' *прым.* Доўгі. *Нагле доўгі корэнь у буракоў.* М. Малешава.

ДО'ЎГО *прысл.* Доўга. *Ек доўго роса, то будзе дождж. І ек нема росы, будзе дождж.* Луткі.

ДОЎГОВА'СТЫ *прым.* Даўгаваты. *Етые нейкіе доўговастые бані.* Дварэц. *Від у ее доўговасты, нехорошы.* Пагост.

ДОЎГОВЕ'ЧНЫ *прым.* Які доўга жыве. *Як родзіцца, то прыходзяць бабу і на нешчом познаюць, ці будзе доўговечны, ці скоро помрэ.* Хачэнь.

ДОЎГОВІ'ДЫ *прым.* З доўгім тварам. *От ідзе доўговіды, від доўгі, як зелезняк.* Сямурадцы.

ДОЎГОНО'СЫ *прым.* Даўганосы. *Такі доўгоносы мой чоловек, шчо гледзець не могу.* В. Малешава.

ДОЎГО'ЦЬЕ, ДОЎГУ'ЦЬЕ *н. зб.* Тое, што доўгае. *Гэто доўгоцье сплаўлялі по рэцэ* (пра сплаўны лес). Хачэнь. *Доўгуцье.* М. Малешава.

ДОЎЖ *м.* Унутраная крышка, якой закрываюць уваход у калодачным вуллі. Аздамічы.

ДОЎЖЫНА' *ж.* Даўжыня. *Сеткі петдзесят метроў доўжыны.* Луткі.

ДОЎЖЭ'ЗНЫ *прым.* Вельмі доўгі. В. Малешава.

ДОЎЖЭ'ЛЕЗНЫ *прым.* Тое ж. *Его буў доўжэлезны загон.* Луткі.

ДОЎЖЭ'ЛНЫ *прым.* Тое ж. Аздамічы.

ДОЎМЕ'ЦЦА, ДОЎМІ'ЦЦА *зак.* Дадумацца. *А дале шо доўміліса: клалі лён на ямку і сушылі.* Дварэц. *І скажыце, доўміліса: узялі ў яшчык землі наклалі.* Луткі. *Трэба ж доўміцца откруціць лапою, от коцішчэ!* Хачэнь.

ДОЎНА'ЙЛО *н.* Той, хто стогне, скардзіцца, наракае. *От неке доўнайло, доўнае і доўнае!* Луткі.

ДОЎНА'НІЕ *н.* Бясконцыя стогны, скаргі, нараканні. *Шо с твоего доўнанія?* Буразі.

ДОЎНА'ЦЬ *незак.* Стагнаць, наракаць, скардзіцца, бурчаць нездаволена. *Годзі ты доўнай, нехто цебе слухае, шо ты доўнаеш.* Цераблічы. *Перэстань ты доўнаць, як лёг, то лежы там.* Сямігосцічы.

ДОХ *м. экспр.* Чорт, нешта нядобрае. *А дох его ведае, недзе простудзіласа.* Запясочча. *До́ха воны гледзяць, тые дзеці!* Там жа. *Намешала ку́рам, то етые до́хі поелі, вутвы.* Там жа. *Іх до до́ха було, тых карасей.* В. Малешава.

ДОХА'ТЫ *прысл.* Дахаты. *Дохаты прыду, шо я поеду туды!* Запясочча.

ДОХІТРЫ'ЦЦА *зак.* Ухітрыцца. *Чому, можно. Толькі ж воны не дохітра́цца.* Кароцічы.

ДОХЛЕ'Ц *м.* △ Д о  д о х л е ц а́. Да гібелі, да чорта. *То тут іх до дохлеца, тых боброў.* В. Малешава.

ДО'ХЛІ *мн.* △ П о д  д о́ х л і. Пад сонечнае спляценне. *Ударыў под дохлі.* Альпень.

ДО'ХЛЫ *прым.* Хілы, слабы. *Бу дохлая, ледзь сама ходзіць муха.* Верасніца.

ДО'ХЛЯ *ж.* Здыхата. *А кіша, шоб на вас дохля!* Бярэжцы.

ДОХЛЯ'К *м.* Слабая, худая істота. *Вова, гэтой дохляк кот, я ёго боюса!* Сямігосцічы.

ДОХЛЯ'ЧЫНА *ж.* Падла. *Дохлячыну собака прыцяг.* Лутві. *Дохлячына така́ этэ целя.* Сямігосцічы.

ДО'ХНУЦЬ *незак.* Здыхаць. *Под зіму доўго мухі не дохнуць.* Лутві.

ДОХОДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Стаміцца канчаткова ў хадзе. *Ужэ вона до того доходзіласа, шчо ўжэ без ха́рчу ходзіць не можэ.* Кароцічы. 2 *незак.* Выпадаць на долю. *Хто робіць, тому дохо́дзіцца добрэ.* Сямурадцы.

ДОХОДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Дасягаць, дабірацца. *Немцы не дохо́дзілі ўсіх дзерэвень.* Запясочча. *Сворыліса, доходзіло до бітвы.* Дварэц. 2. Закранаць, ахопліваць. *Мне шчэ горш дохо́дзіць, глядзя на ёго.* Запясочча. *Ім жэ нічого не дохо́дзіць до головы, шчо бацько і мацер не вечны.* Сямігосцічы. *Доходзіло беды́ жонцы!* Цераблічы. 3. Падходзіць. *Ні до чого не доходзяць ніткі.* В. Малешава.

ДОЦЕГА'ЦЬ *незак.* Дацягваць. *А цепла і дзесеці градусоў не доцегае.* Лутві.

ДО'ЧКА' *ж.* Дачка. *Багато любяць ее до́чку, то вона гордзіцца.* Дварэц. *Тато, мамо і Несцерко і дочо́к шэсцерко* (прымаўка). Хачэнь. *Ека клепка, така і бочка, ека маці, така і до́чка* (прыказка). Сямурадцы. *Памянш.* д о́ ч э ч к а. *Ох, моя дочэчко, ох, моя мамонько!* Цераблічы.

ДОЧНО′ *ж. экспр. груб.* Тое ж. *Посадзіў этэ дочно крывэ ў хату.* М. Малешава.

ДОЧУВА′ЦЦА *незак.* Даведвацца з размоў. *Колі я дочуваюса, шо Павелко дома.* Лутκі.

ДОЧУ′ЛЯ *ж. экспр. ласк.* Дачка. *Моей дочулі шапка будзе.* Запясочча.

ДОЧУ′ЦЦА *зак.* Пачуць, даведацца з размоў. *Только дочуецца, шо прыехаў, то мой цесць скорэй до ёго.* Сямігосцічы.

ДОЧЧЫ′Н *прым.* Даччын. *Ото доччыныe ўнучэнята.* Хачэнь.

ДО′ЧЫК *м.* Дачушка. *Ходзі, дочык, сюды. Шо плачэш?* Рычоў.

ДОЧЫ′СТА *прысл.* Дачыста, поўнасцю. *Я вам кросна роскажу дочыста і пойду.* Кароцічы.

ДО′ШКА *ж.* Дошка. *Лодка з дóшчок мало колываецца.* Луткі. *Берэ на поле на лён дóшку да праніка.* Верасніца.

ДОШЧА′НКА *ж.* Матэрыял для пакрыцця даху. *Поеду я купляць пілену дошчанку.* В. Малешава.

ДОШЧЭ′НТУ *прысл.* Дашчэнту. *У нас гэты чоловек згорэў дошчэнту і перэменіцца нема ані.* Цераблічы.

ДО′ШЧЭЧКА *ж.* Дошчачка, вузкая драўляная палоска, кароткі адрэзак дошкі. *Дошчэчкі порэзаў на штахеты.* Сямігосцічы. Лавачка ў ставах, на якой сядзіць ткалля. Кароцічы. Негабляваная гонта. Аздамічы. Пласцінка, на якой вяжуць вочкі сеткі. Аздамічы. Асобная пласцінка ў бёрдзе. Хотамель. Вузкая пласцінка, праз якую праходзяць вяровачкі ад панажоў у кроснах. Бярэжцы. *Дóшчэчкі мн.* Дзве вузкія драўляныя палоскі, якія раздзяляюць ніткі ў аснове кроснаў. Запясочча.

ДРА′Б′Е *н. метаф.* Худы чалавек, скаціна. *Драб′е кажуць на жонку, шчо вельмо худá.* Цераблічы. *Конь драб′е, ледзь ногі волочэ.* Луткі.

ДРАБІ′НА *ж.* Драбіна. *Му по драбіне на вушкі лезом.* М. Малешава. *Попрыбегалі з драбінамі, баграмі, шоб росцегнуці крышу.* Луткі. Адна частка драбін у возе. *Трэба лёсткі поменяць у драбінах.* Верасніца.

ДРАБІ′НКА *ж.* Расліна гусіная лапка. *Драбінка росце коло дорог.* В. Малешава.

ДРА′БЦЫ *мн.* Драбіны ў возе. *Зняў драбцы і поехаў по дзерэво.* Цераблічы.

ДРА'БЫ *мн.* Тое ж. *Ты ж драбы кладзі на воз.* Сямігосцічы.

ДРАГВА' *ж.* Багна, твань, адкрытае гразкае месца на балоце; дрыгва. *Драгва, собака як ускочыць, дак не вулезе.* Цераблічы. *Булі такіе дра́гві, шчо і дна не було.* В. Малешава. *Цело драгвою ўзелосо.* Цераблічы.

ДРАГВІ'ЦЦА *незак.* Рабіцца пухлым, вадзяністым. *Драгвіцца ўсе цело.* Запясочча.

ДРА'ЕЦЬ *незак.* Стоячы на беразе, трымаць канцы рыбалоўнай сеткі пры выцягванні. Альшаны.

ДРА'ЕЧНІК *м.* Рыбалоў, які трымае канцы сеткі, стоячы на беразе. Альшаны. Плытнік, які затармажвае плыт. *Драечнік — это которы драе, запуняе плота.* Сямігосцічы.

ДРАЖНЕ'НЬЕ *н.* Мянушка. *Не по імені, а по дражненью зове.* Лутunion.

ДРАЖНІ'ЦЬ *незак.* Цвяліць. *Не дражні собаку.* Бярэжцы.

ДРА'ЙКА *ж.* Прыстасаванне спыняць плыт (кол на вяроўцы ў канцы плыта; ім тармозяць, утыкаючы ў зямлю на беразе і зарываючы яго як мага глыбей). *Драйка — это такі колок запуня́ць пло́та.* Сямігосцічы.

ДРА'НКА *ж.* 1. Дранка з сасновага палена. *На шанькі дранкі надраў.* Луткі. 2. Набой ад саней. *Дранка от саней на земле остаецца.* Цераблічы.

ДРАНЦЕ'ЦЬ *незак.* Дрынчаць. Сямігосцічы.

ДРА'НЦІ *мн.* Рыззё, падранае старое адзенне. *Одзенўў дранці дай пошоў на варту.* Мачуль.

ДРАНЬ *ж.* Тонкія наколатыя дошчачкі, лучынкі (для пакрыцця страхі, на кошыкі і інш.). *Дрань драли с хвоі.* Бярэжцы.

ДРАПА'К *м.* Пасаж у гульні *ў цурку. Драпака́ б'еш ты.* Сямігосцічы.

ДРА'ПАЦЦА *незак.* Драпацца. *Ну чого ты драпаешса, драпунчык?* (да коціка). Сямігосцічы.

ДРА'ПАЦЬ *незак.* Драпаць, шкрэбці. *Кот драпае зімою на негоду.* Аздамічы.

ДРАПА'Ч, ДРЭПА'Ч *м.* 1. Спружыноўка. *Мо коб подрапаў картоплі драпачэ́м?* Цераблічы. *Дрэпа́ч.* Тураў. 2. Вілы з загнутымі канцамі (для выкідання гною). Бярэжцы.

ДРАПЕ'ЖНЫ *прым.* Драпежны, зверскі. *Вон драпежны, як звер.* Цераблічы.

ДРАПЕНУ'ЦЬ *зак.* Пабегчы што ёсць сілы. *Эх, я*

*драпенула од іх!* М. Малешава. *Кот як драпенуў!* Альшаны.

ДРА'ПІНА *ж.* Драпіна. *Загоілас, а була веліка драпіна.* Аздамічы.

ДРА'ПНУ'ЦЬ *зак.* 1. Драпнуць. *Як кот дра́пне́, то нарывае.* Цераблічы. 2. Пабегчы што ёсць сілы. *Дра́пнуў, онно дым пошоў.* Аздамічы.

ДРА'ТВА *ж.* Дратва. *Дратва з ніток порцяных робіцца.* Цераблічы.

ДРАХЛЕ'Ч'Е *н. зб.* Слабыя, нядатныя да работы людзі. *Таке ўжэ драхлеч'е му.* Дварэц.

ДРА'ХЛЫ *прым.* Худы, слабы, спарахнелы. *Той вулей драхлы, коб упаў, то россыпаўса б.* Хачэнь. *Дра́хла корова, одные рэбра.* М. Малешава. *Драхлую тарэлку беруць на веселы і кідаюць на дол.* В. Малешава.

ДРАХЛЯ'ЧЫНА *ж. экспр.* Нягожы, слабы чалавек. *Драхлячына ты, нашчо́ ты мне!* М. Малешава.

ДРА'ЦЦА *незак.* 1. Аддзяляцца слоем пры шчапанні. *Не будзе драцца ка́жна смолі́на.* Цераблічы. *А воны не друцца, ліповые.* В. Малешава. 2. Скрэбціся. *Собака чуў да драўса, але быў прыв'язаны.* Луткі.

ДРАЦЬ *незак.* Дзерці лазу, пер'е. *Лозу друць да лапці коверкаюць.* В. Малешава. *Заколупіць топором і дрэ.* Тураў. *Невелікі зароботок пер'е драць.* Дварэц. Абдзіраць крупы. *Крупы драць у Горынь возілі.* Альпень. Разворваць цаліну. *Цеперэка дралі ту цэліну.* М. Малешава. Капаць кіпцюрамі. *Борсук нору́ дзерэ.* Запясочча. Рабаваць вуллі. *Раньшэ і медзведзь драў вульі.* Бярэжцы. Рабіць дранку. *Дранку дзеруць.* Альшаны. Рваць (на кавалкі). *На ленточкі тэ дрэ да тчэ.* Мачуль. Крычаць (пра птушку дзеркача). *Дзеркач дзерэ, то й коса берэ, а як перэстаў драць, то перэстала і коса браць* (прымаўка). Кароцічы.

ДРА'ЦЬВІНА *ж.* Нітка дратвы. *Драцьвіну іссучэ і смолою насмоліць.* Луткі.

ДРАЧ *м.* 1. Прылада для сцягвання гною з воза. *Драч зроблены з ясенёвое палкі з двума сучкамі.* Запясочча. 2. Венік-дзяркач. *Ты, дочко, уперэд драч возьмі да пошаруй ім подлогу.* Пагост.

ДРА'ЧКА *ж.* 1. Паз у бервяне. *У дзерэве вубірае драчку, шоб туды клёч'я наложыць. Ложыш драчку на то клоч'е, шоб прыстало.* Сямігосцічы. 2. Прылада ў цесляроў, якой адзначаюць лінію падгонкі бервяна да

бервяна. Хотамель. 3. Жалезны грэбень для часання льну. Запясочча.

ДРАШО'ЎКА *ж.* Шаршатка. *Подай драшоўку, трэ дзіркі ў мешках позашываць.* Пагост.

ДРОБ *м.* Драбок, кавалачак (солі, цукру). Хачэнь.

ДРОБЕЗА' *ж.* Дробязь, драбната, малеча. *Сена накосіў гэтого, дробезы, хороства.* Дварэц. *Дзеці такіе дробеза.* Аздамічы.

ДРО'БЕЗЬ *ж.* Тое ж. *Сено дробезь одно.* Аздамічы.

ДРОБІ'НКА *ж.* Драбочак, кавалачак. *Нам дробінку сала одрэжэ, а сам не есць, шкодуе.* Цераблічы.

ДРОБНІ'ЦЬ *незак.* Дзяліць на кавалкі. *Ксендзовэ поле не дробнілі.* Чэрнічы.

ДРО'БНЫ *прым.* Дробны. *У его чэцьверо дробных дзецей.* Тураў. *Ох, ее чоловек дробны да малы, ек тая бобіна.* В. Малешава. △ Д р о́ б н ы н а в і д у́. З тонкімі рысамі твару. *Такі дробны на віду, такі хорошы мужчына.* М. Малешава. *Памянш.* д р о б н ю́ с е н ь к і. *Мармышэль дробнюсеньку куплялі.* Альшаны.

ДРОБО'К *м.* Драбочак, кавалачак (цукру, солі і інш.). *Бурак крышаць на дробкі ў боршч.* Любавічы.

ДРО'БОВЫ *прым.* Буйнымі драбкамі. *Я не слухала нікого, і мене на дробовой солі садзілі.* М. Малешава.

ДРО'ВА *мн.* Дровы. *Огню не накладзеш, бо дроў нема. Поеду за рэку вецельніку на дрова нарубаю.* Пагост. *Нема хлеба, то жэніса, нема дроў, то селіса* (прымаўка; г. зн. будуць кавалкі хлеба пасля вяселля і трэскі пры будаўніцтве). Хачэнь.

ДРОВІ'ЦА *ж.* Першацёлка. *Дровіца — пуста́ дойніца* (прымаўка). М. Малешава. *Памянш.* д р о в і ц к а. *От та дровіцка, шо вона дае молока!* Аздамічы. *Як першым целятком коройка, то кажуць дровіцка.* В. Малешава.

ДРОВО'ТНІК *м.* Дрывотнік. *Ідзі наберы ў дровотніку дроў.* Дварэц.

ДРОВО'ТНЯ *ж.* Тое ж. *Дровотня на дворэ, дзе секуць дрова.* Аздамічы. Месца для дроў у курэні. Альшаны. Калодка, на якой колюць дровы. М. Малешава.

ДРО'ЖДЖЫ *мн.* Дрожджы. *З хмелю робілі дрожджы гэтакіе.* Верасніца.

ДРОЗД *м.* Дрозд. *Дрозд больши за шпака́.* Альшаны. *Поттуліў хвост, як той дрозд* (прыказка). Верасніца.

ДРО'НЦІК *м.* Вяроўка, якая прывязана за драйку

на плыце. Дварэц. Падвязаная жардзіна на страсе ў час крыцця, па якой ходзяць. Верасніца.

ДРО′СЕН, ДРАСЁ′Н *м.* Расліна драсён. *Дросен.* Запясочча. *Драсён.* Д.-Гарадок.

ДРОТО′ВАНЫ *прым.* З дротам у лычы (пра свіней). *Коб дротован, тоб не рыў, не корпаў.* Кароцічы.

ДРОТОВА′ЦЬ *незак.* 1. Зацягваць у лыч дрот. *Поросята крычаць, як дротуюць.* 2. Аплятаць дротам гаршчок. Запясочча.

ДРО′ЎКА *ж.* Першацёлка. Альшаны.

ДРОЦІ′НА *ж.* Дрот. *Гарапнік — гэто гума з дроціною.* Хотамель. *Нема гвоздоў, то дроціною прывезаў.* Пагост.

ДРУГ *м.* Сябрук. *Для доброго друга і волы с плуга* (прыказка). В. Малешава.

ДРУ′ГІ 1 *ліч.* Другі. *Побуджаць ідуць на другі дзень, як ховаюць.* Дварэц. *Другого дня после веселья поехалі ўжэ.* Старажоўцы. 2 *прым.* Іншы. *Другá дзеўка ніяк не ходзіць гуляць на село, а бач, і замуж пошла.* Луткі. △ З д р у г о́ е т р а в ы́. Не такі, як іншыя. Луткі.

ДРУГОЦЁ′ЛКА *ж.* Карова другім цялём. Сямігосцічы.

ДРУЖА′К *м.* Дружбак. *Коту собака не дружак.* В. Малешава.

ДРУЖА′КА *ж.* Дружбак, сяброўка. *Му з гэтой бабою дружакі.* Хачэнь.

ДРУ′ЖБА *ж.* Група людзей, якія сябруюць. *Наша малá дружба.* Запясочча.

ДРУ′ЖКА *ж.* Дружка. *А чыя гэто дзеўка за дружку ў нашое молодое?* Кароцічы.

ДРУЖЭ′ННЫ *прым.* Сяброўскі. *А вон такі дружэнны!* Дварэц.

ДРУК *м.* Кол,дручок. *Одзін друк за сем рук* (прыказка). Сямігосцічы.

ДРУКО′НІЦЬ *незак. экспр.* Пісаць. *Хваціць тобе друконіць, будом обедаць.* Хачэнь.

ДРУ′Ч'Е *н. зб.* Кіі, палкі. *Побралі друч'е да пошлі біць злодзеёў.* Верасніца.

ДРУЧО′К *м.* Дручок. *Дручок зробіў з голіны.* Альпень. Кол, якім ускочваюць на воз калоды. *Одзін дручок за сем ручóк* (прыказка). Аздамічы. Бярвенца, якім падважваецца калодка на станіне. Запясочча. Палка з зарубкамі, якой прыціскаюць салому пры крыцці страхі. Сямігосцічы.

ДРЫ'БАЦЦА *незак.* Трапятаць, уздрыгваць. *Шчэ велікі карась трохі дрібайса.* Луткі.

ДРЫ'ГА *ж.* Дрыжыкі. *Цэлу ноч кідало ў дрыгу, хвороба нека.* Сямігосцічы.

ДРЫ'ГАЛКА *ж.* Вялікае вясло на плыце. Хотамель.

ДРЫГАНЫ' *мн.* Трыножка з палак для падвешвання калыскі ў полі. *На дрыганох кольбель вешалі.* Пагост.

ДРЫ'ГАЦЬ *незак.* Дрыгаць. *Корова заднею ногою дрыгае, то велікі будзе мороз.* М. Малешава.

ДРЫГО'М *прысл.* △ *Д р ы г о́ м д р ы ж а́ ц ь.* Вельмі дрыжаць, калаціцца. *Дрыгом дрыжыць за горэлкою.* М. Малешава.

ДРЫГО'ТА *ж.* Дрыжыкі. *Нека напала дрыгота, бі грубі не топіла.* Сямігосцічы.

ДРЫГО'ТКА *ж.* Тое ж. *Ужэ дрыготка берэ, холоднó.* Запясочча. *Шо на цебе дрыготкі напалі?* Цераблічы.

ДРЫГУ'ХА *ж.* Студзень. *Мы поставілі ім дзве міскі дрыгухі.* Кароцічы. *От наварыла дрыгухі доброе, як рэмéнь, хоць ты стань.* Луткі.

ДРЫЖА'ЦЬ *незак.* Дрыжаць. *Не дрыжы, як Назар над млінцамі.* Мачуль. *Кожух лежыць, а пан — дрыжыць* (прымаўка). Аздамічы. *Ек недобрэ лежыць, то ў его серцэ дрыжыць* (прыказка). Там жа. *Болобан бежыць — болото дрыжыць* (загадка). *Овечка* (адгадка). Хачэнь.

ДРЫЖА'ЧКА *ж.* Дрыжыкі. *Дрыжачка трэсе.* М. Малешава.

ДРЫ'ЖВА *ж.* Студзень. Запясочча.

ДРЫЖКА *ж.* 1. Студзень. *Як була я молода, то бояласа ету дрыжку есці, вона ворушыцца.* М. Малешава. 2. Расліна дрыжнік. *Некоторые кажуць божое мацер слёзкі, а мы ек венкі бегалі віць, то казалі дрыжка.* Луткі.

ДРЫН *м.* Палка. *Дрын на цебе трэба.* Цераблічы.

ДРЫ'НДА *ж. экспр.* Худая нязграбная істота. *Ек сухá корова, то кажуць дрында.* М. Малешава.

ДРЫ'НДАЦЬ *незак.* Цягацца. *Годзі дрындала по гэтой хаці, села б луччэй да поседзела б.* Луткі.

ДРЫНДОВА'ЦЬ *незак.* Танцаваць заўзята. *Так бацько на веселлі дрындовай, шо подошва отваліласа.* Пагост.

ДРЫ'ПА *ж. экспр.* Брудны, неахайны чалавек. *Кажуць дріпа, ек чоловек грязны ходзіць.* Пагост.

ДРЫ'ПАЛО *н. экспр.* Тое ж. *Это дрыпало, дрыпса поўз цебе ідзе, то моўчыць.* Луткі.

ДРЫ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Дрыпаць. *Пока буду дрыпаці помалу.* Пагост.

ДРЭГЕЗА'ЦЬ *незак.* Ныраць з разбегу з шумам. *Дрэгезалі дзеці с прымолу однэ за другім.* Цераблічы.

ДРЭГЕЗНУ'ЦЬ *зак.* Даць нырца з высокага берага. *Ек дрэгезнеш у воду і пошоў на самэ дно.* Цераблічы.

ДРЭ'МА *ж.* 1. Казадой. *Дрэма веліка, ек голубец, мо трохі й больша.* Запясочча. 2. Соня, ахвотнік падрамаць. *Дрэма под кужэлем седзіць.* Дварэц.

ДРЭМА'ЦЬ *незак.* Драмаць. *Дрэмае іншы: і своегó не хочэ сказаць і чужого не слухае.* Цераблічы. *І холодок не помогае — то спіць, то дрэмае* (прыказка). Кароцічы.

ДРЭМО'ТА *ж.* Дрымота. *Седжу да дрэмота, да будзе дождж.* Верасніца.

ДРЭМО'ТКА *ж.* Тое ж. *Спеваем, шоб дрэмотка не брала.* М. Малешава.

ДРЭМПОЦЕ'ЦЬ *незак.* Трымцець. *Усе дрэмпоцело цело! От так.* М. Малешава.

ДРЭМУ'ХА *ж.* Казадой. *Дрэмуха лётае ночэю.* Мачуль.

ДУБ *м.* 1. Дуб. *Ву знаеце, колькі у нас круг села було того дуба!* Верасніца. *У гэтой бабу своіх сыноў, як дубоў.* Там жа. *Цар-дуб буў у Зарэччы, метры дзве на тоўшчыну, немцы спалілі.* Пагост. *Дзе дубы, там і грыбы* (прымаўка). Талмачава. *Не лезь на дуба, то не ўб'есса, не іді на воду, да не ўтопісса* (прыказка). Альпень. *Чоловек, ек дуб, а жонка — ек та хвойка* (прыказка). Кароцічы. *Хто ў сухотах лежыць, то ек леніву дуб розвіваецца, то ўмрэ.* М. Малешава. 2. Вялікая лодка (у адрозненне ад чоўна). *Двума дубамі поехалі ў лес.* Хотамель. △ С т а н о в і ц ц а д ý б о м. Выпручвацца (пра дзіця). *Дубом стало дзіця, не можно прыгорнуць.* Запясочча. С т а н о в і ц ц а н а д ý б а. Уставаць на дыбы. Хачэнь. С т а н о в í ц ц а ў д ý б а. Тое ж. Луткі. П о с т á в і ц ь д ý б а. Тое ж. Альшаны. У р э́ з а ц ь д ý б а. Памерці. Любавічы. *Памянш.* д у б ó к. *Дубкі на кокоры рубáём.* Пагост.

ДУБ'Е' *н. зб.* Дубы. *Дуб'я було — з небом говорылі!* Мачуль.

ДУ'БЕЛЕМ *прысл.* Дубам. *Стоіць дубелем коза, шоб на ее дох!* Хачэнь.

ДУБЕЛЬЧА'К *м.* Брус, абчэсаны з чатырох бакоў. Альшаны.

ДУБЕ'Ц *м.* 1. Дубец, тонкая гнуткая дзеравінка, галінка. *От коб хорошы дубец, от я цебе ссек бу!* Запясочча. *Кош на рыбу з дубцоў плелі.* Луткі. *Ідзі ешчэ вырэж дубцоў добрых, я тобе дам пам'ятно́го, і ўедзеш.* Кароцічы. 2 *перан.* Высокі тонкі хлопец. *У Ганны дзеці хоць малые, але ж гладкіе,* а *мое — дубцэ.* Верасніца.

ДУБЕ'ЦЬ *незак.* Халадзець, стыць. *То дубею, то горачэ́ од страху.* Сямігосцічы.

ДУБІКО'М *прысл.* Дубам. *Зашкоруп кожух, дубіком стаў.* Аздамічы.

ДУБІ'НА *ж.* Дубовае палена, палка. *Як добро плечэ, то й дубіну сечэ* (прыказка). Кароцічы.

ДУ'БІЦЬ *незак.* Цягнуць. *Ну, давай, дубі вулье на дзерэво.* Бярэжцы. *Кот схопіў ціпленя дай дубіць у тэе закло под ве́тламі.* Дварэц. *Дубіць горэлку да і ўсе.* М. Малешава.

ДУБЛЁНКА *ж.* Сырамятная скура. Дварэц.

ДУБНІ'К *м.* Дубняк. *У нас жэ дубніку було, дубніку!* Хачэнь. *Памянш.* дубнічо́к. *Воны вечно ўсе по дубнічку седзяць, тые грыбу.* Хачэнь.

ДУБО'ВІК *м.* 1. Несапраўдны баравік. *Дубовік — бы грыб, да сінее.* Аздамічы. *Воны цьвордые, ек дуб, затым на іх кажом дубовікі.* Хачэнь. 2. Старшы на плыце. Запясочча.

ДУБО'ВУ *прым.* 1. Дубовы. *Пеклі на дубовых лістах хлеб, смашны буў.* Чэрнічы. 2. Адубелы. *А вон нежывў, дубову.* М. Малешава.

ДУ'БОМ *прысл.* На дыбы. *Дубом поставілі ёго, да заліўса* (пра каня, які пераплываў за лодкай рэчку). В. Малешава. *Спужаўса, аж дубом стаў.* Альшаны.

ДУБРО'ВА *ж.* Дубовы лес. *У дуброві ўпора́ну рыжыкі шукала.* Пагост.

ДУГА' *ж.* Дуга. *Ек устане — вўшэй коня, ек ляжэ — ніжэй кота* (загадка). *Дуга* (адгадка). Хачэнь.

ДУДА'Р *м.* Дудар. *Ужэ поме́рлі тые дударэ, шо колісь булі.* Цераблічы. *На веселлі гармоніст з барабаншчыком і дудар гралі.* Пагост.

ДУ'ДКА *ж.* Дудка. *От спевае, бы ў дудку грае.* Луткі.

ДУДНЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Бурчаць, бубніць. *От дудніць і дудніць стара́, уеласа, бі горка осіна.* Сямігосцічы. *Дудніць собе под нос.* В. Малешава.

ДУДУ'КАЙЛО *н. экспр.* Буркун. *Эдзік, дудукайло ты!* Сямігосцічы.

ДУДУ′КАЦЬ *незак. экспр.* Бубнець, паціху гаварыць. *Седзеў да дудукаў з ей.* М. Малешава.

ДУДУ′ЧКА *ж.* Шайба (драўляная, з губы), якую ганялі дзеці па лёдзе. Запясочча.

ДУ′ЖАЦЬ *незак.* Здаравець. *Стала мед есці да дужае.* Пагост.

ДУ′ЖКА *ж.* Ручка ў кошыку, вядры. Аздамічы.

ДУ′ЖЫ *прым.* Дужы, моцны. *Як вашы дзеці — дужые, здоровуе?* Хачэнь. *Бацько і маці булі дужые шчэ.* Сямурадцы.

ДУК *м.* Шайба (драўляная, з губы), якую ганялі дзеці па лёдзе. △ Стаць, як дук. Зрабіцца круглым, поўным. Аздамічы.

ДУКОВА′ЦЬ *незак.* Вучыць, павучаць. *Малá шчэ ты дуковаць мене!* Хачэнь.

ДУЛ, ДЫЛ *м.* Тонкі пыл. *Толькі дулу от того лёну вісіць.* Верасніца. *Окром пуху, ек скубеш гусей, е дыл.* В. Малешава. *Памянш.* дулóчок. *Вусеваеш одно дулочок той з мукі на пірогі.* Верасніца.

ДУЛЁВА′ХА *ж.* Груша добрага гатунку з вялікімі пладамі. Запясочча.

ДУЛЁЎКА *ж.* Невялікая даўгаватая груша. *От дулёвок багато, аж гольé гнецца.* Пагост.

ДУ′ЛЯ *ж.* 1. Груша добрага гатунку і яе плод. *Прыгичэпы зовуца дулі, а зарэ грушы.* Луткі. 2. Фіга. *Кроз карман дулю не дае нікому, она ў вочы скажэ.* Хачэнь.

ДУМА′ *ж.* Дума, думка. *Дума думу побівае* (прыказка). Дварэц. *Дума за морэм, а смерць за плечыма* (прымаўка). Аздамічы.

ДУ′МАЦЦА *незак.* Думацца. *Думалосо тоды, век нічого не пэрэжывеш, не пэрэбудзеш.* Бярэжцы.

ДУ′МАЦЬ *незак.* 1. Думаць. *А я думаю сама собе: хай!* Дварэц. *Коля, твой собака моўчыць, вон не ўкусіць? — А чорт ёго знае, шо вон думае!* Бярэжцы. 2. Жадаць. *Вон мне добра не думае.* Аздамічы.

ДУ′МКА *ж.* Думка. *І думкі нема паліць печ.* М. Малешава.

ДУ′НУЦЬ *зак.* Дунуць. *Дзе песок да дуне, то дзірочкі робяцца.* Кароцічы. *Коб вéцёр не дунуў, то спаліло б нас.* Хотамель.

ДУПЛЕ′ *н.* Дупло. *Дзерэво зогнілó, дупле.* Запясочча. *Слепетні ў дзерэві седзяць у дўплях.* В. Малешава.

ДУПЛЕНА′ТЫ *прым.* Дуплісты. *Сосна дуплената росте.* Рубель.

ДУПЛЕНЁВА'ТЫ *прым.* Тое ж. *Дупленёватэ дзерэво.* М. Малешава.

ДУПЛЕНЯ'СТЫ *прым.* Тое ж. *Дупленястэ бувае дзерэво, з дуплем.* Сямігосцічы.

ДУР *м.* Дурасць. *Это ж дур буў, дурна голова!* Луткі. *Дур напаў на однэ да перэнесло на друге.* Дварэц.

ДУ'РА *м.* і *ж.* 1. Дураслівец. *Ду́рыць — такі ўжэ дура.* Аздамічы. 2. Дурніца. *Дуро ты, я помогу, то тобе легчэй будзе.* Сямурадцы.

ДУРА'К *м.* Дурань. *Дурак дураком на векі векоў* (прыказка). Кароцічы.

ДУ'РБАЙЛО *н.* Той, што дурыць, тлуміць. *Годзі ты доўна́ла, дурбайло.* М. Малешава.

ДУРБА'НІЦЬ *незак.* Дурыць, тлуміць. *Не дурбань мне головы.* Альшаны.

ДУ'РБАЦЬ *незак.* Прыводзіць у стан адчування, абуджаць. *Я цебе дурбаю, а ты не просынаешса.* Мачуль.

ДУРБОВЕ'ЛА *м. лаянк.* Дурыла. *Онь дурбовела пошоў, не шонуе чоловека.* Сямурадцы.

ДУ'РКО *м. экспр.* Дурань. *Ты не бі дзіцяці, дурко!* Запясочча.

ДУРЛІ'ВУ *прым.* Дураслівы. *Дурлівэ дзіця, от прычэпляецца.* В. Малешава.

ДУ'РМАН *м.* 1. Блёкат. *Дурман — етэ зелье росце дзе поўз шлях.* М. Малешава. 2. Дурань. *Дурман — это колі коцелок не робіць.* Альгомель.

ДУРНЕ'Ц *м.* Блёкат. *Од нервоў чай заварваюць з дурнецу да п'юць.* Сямігосцічы.

ДУРНІ'ЛО *м. экспр.* Дурань, дурыла. *Едзь по дочку́, дурніло стары!* Запясочча.

ДУРНІ'ЦА *ж.* 1. Дурань, дурніца. *Свою дурніцу рогамі к драбіні прывязваю да дою.* Пагост. *І шо за дурніца: ты робі однэ, а вона друге!* М. Малешава. 2. Дурасць, глупства. *Завошчо побіліса? — За дурніцу.* В. Малешава. △ Д у р н і ц у п о р о́ ц ь. Гаварыць глупства. В. Малешава.

ДУРНОП'Я'Н *м.* Блёкат. *Дзеці наедзяцца дурноп'яну дай на сце́ну лезуць.* Верасніца.

ДУРНО'ТА *ж.* 1 *экспр.* Неразумнае стварэнне. *Ну, дурнота! По горбу дам!* Кароцічы. 2. Глупства. *Коліся дурноты було, а цепер друге дзело.* В. Малешава.

ДУРНЫ' *прым.* Дурны. *Дурны той чоловек, шо ее озьме́.* Мачуль. *Така бра шулепа, дурна зусім, забуваюса.* Луткі. *Колісь булі хаты курные, а людзі дурные*

(прымаўка). Дварэц. *Од дурного солоўя і дурна́ песня* (прыказка). Сямурадцы. *Велікі до неба, а дурны, як не трэба* (прымаўка). Старажоўцы.

ДУРОВА'ТЫ *прым.* Прыдуркаваты. *Нейкіе дуроватые булі хлопцы, шо іх не побралі.* Дварэц. *Дуровата з дуроватых, шо не пошла за его.* Хачэнь.

ДУРОВА'ЦКІ *прым.* Тое ж. *Дуровацке пороcя, не хітрэ, за людзямі бежыць.* М. Малешава.

ДУРЫ'ЦЦА *незак.* Дурачыцца. *Дай дзіцяці, шоб не дурылосо.* Сямурадцы.

ДУРЫ'ЦЬ *незак.* Неразумна, капрызліва жадаць, прасіць. *І не дуры, цыганко, нічого не дам.* Пагост.

ДУ'РЭНЬ *м.* Дурань. *На чорта вам дурня займаць.* Верасніца. *Дурэнь-дурэнь, а сало сырэ любіць* (прымаўка). Цераблічы. *Дурэнь і м'яло ломіць* (прыказка). М. Малешава.

ДУРЭ'Ц *м.* Каласоўнік. *Дурэц по жыту росце.* Цераблічы. *Вельмо боіцца лён дурца і дзерэзы.* М. Малешава. △ Н а е с ц і с а д у р ц у. Здурнець, адурманець. *Ек напроціў пошоў чоловек, то кажуць: ужэ ты дурцу наеўса!* Альгомель.

ДУРЭ'ЦЬ *незак.* Дурэць, дурачыцца, балавацца. *Не дурэйце, дзеці!* Луткі.

ДУХ *м.* 1. Паветра. *І дух некі іначы, важкі такі.* Запясочча. Нагрэтае паветра. *Нема ў хаці ніякого духу, холодзіна, шо собак гоняй.* М. Малешава. *А ёму чого було з паршывою головою ў дух лезці?* (прымаўка). Там жа. 2. Жыццёвая сіла, здольнасць. *Пока з багатого пух, то з бедного — дух* (прымаўка). Луткі. △ У п а с ц і д у х о м. Зажурыцца. *Моцно вона ўпала духом, як Яночку ее сховалі.* Чэрнічы. Н е ч ы́ с т ы д у х, з л ы д у х. Нешта нядобрае. Бярэжцы. 3. Пах. *Добры дух з дзежкі.* Чэрнічы. *Вон его і духу не хочэ чуць.* Луткі. *Ай, смашно, шо і духу чуць.* Запясочча. △ Б е з д у х у. Нічога не адчуваючы, з апошніх сіл. *З бору уцекалі без духу, без душы беглі.* Луткі. 4. Пухір у рыбы. Цераблічы. 5. Пелька ў лёдзе на вадаёме. *Рыба вельмі ідзе на дух, як ей занудзіць ужэ.* Цераблічы.

ДУХОВІ'К *м.* Душнік. *Духовікі булі ў печэ.* Сямурадцы.

ДУ'ХОВІНА *ж.* Сонечнае спляценне. *Удырыў под духовіну.* Альпень.

ДУХО'М *прысл.* У момант. *Коб духом там буў.* Ха-

чэнь. *О бра, духом хлопцы ростуць, ба, булі малые, а ўжэ выраслі.* Луткі.

ДУХО́ТА *ж.* Духата, гарачыня і парнасць. *Прыгнаў коровы́ рано, духота така на дворэ.* Сямігосцічы.

ДУХО́ЦЬЕ *н.* Гарачыня і парнасць. *Ну, цепер будзе й духоцье!* Луткі.

ДУЦЬ *незак.* Дзьмуць. *Ве́цёр неўдобны ду́не, круціць, бу́рыць.* Кароцічы. *Вецер не перэстае, а ўсе дуне которы дзень.* В. Малешава.

ДУЧА́ЙКА, ДУЧЭ́ЙКА *ж.* Дзірка, норка, уваход у дупло. *Дзяцёл дучайку зробіў.* Аздамічы. *У ту дучэйку ў жорнах сыплецца зерно.* Буразі.

ДУ́ЧКА *ж.* Тое ж. *У стозі дучкі робілі.* Запясочча.

ДУША *ж.* 1. Душа, жыццёвая энергія чалавека. *Дзем'ян, душа вон, а ходзі сено згрэбом.* В. Малешава. *Не попадзе ў ду́шу, одно ў році будзе.* Дварэц. *Ходзіш — абы душа без цела.* Запясочча. *Церпі, душэ, хоць не хорошэ* (прымаўка). Там жа. 2. Чалавек як жывая адзінка. *Душ шэсць у ее сем'я.* Запясочча. *На дзедах кожна душа тры потапцэ́ з місы возьме́.* Аздамічы. 3. Паветраны пузыр у рыбы. Аздамічы. 4. Падстаўка ў рэзанатары скрыпкі. *У серэдзіне е подстаўка така, зовецца душа.* Запясочча. 5. Падкладка ў шапцы. *Порваў душу ў шапцы.* Хільчыцы.

ДУШНІ́К *м.* Любы праход (дзірка) для паветра (у лёдзе, дудцы, фундаменце). *Робіць душнік і ставіць рэшэме́ту на рыбу.* Мачуль.

ДУ́ШНО *прысл.* Душна. *Душно, во́ду п'еш.* Дварэц.

ДУ́ШНЫ *прым.* Душны. *Чоботы тые рэзіновые душные!* Сямурадцы.

ДУШО́НІКІ *мн.* Тушаная бульба. Аздамічы.

ДУШЫ́ЦЬ *незак.* Душыць. *Собака душыць вуценята.* Аздамічы.

ДЫБА́ТЫ *прым.* Цыбаты. Аздамічы.

ДЫ́БАЦЬ *незак.* Дыбаць. *Дзіця дыбае, вучыцца ходзіць.* Аздамічы. *По хаце будзеш дыбаць, бы бусько по болоту.* Луткі. *Калека, а шчэ і дыбаць пошло, танцоваць!* Запясочча.

ДЫВА́Н *м.* Тапчан. *Тутака булі і табурэткі, і дываны́.* Дварэц.

ДЫГА́ТЫ *прым.* Цыбаты. *Вырос некі велікі, дыґаты.* Сямігосцічы. *Дыґаты — ногі длінные, не йдзе, а ды́ґае.* Там жа.

ДЫГОВА́ЦЬ *незак.* 1. Выяўляць узбуджанасць.

*Корова от дыґуе!* Бярэжцы. 2. Выпіраць, тапырыцца. *От тут у краё плацье дыґуе.* Запясочча.

ДЫГО'М *прысл.* Навыцяжку, нерухома. *Стаў дыгом.* Альшаны. *Замок стоіць дыгом.* Сямурадцы.

ДЫ'ЁВО *прысл.* Фарсіста, з задаволеным выглядам. *Ужэ дыёво пошла, прыстроілаcа.* Верасніца.

ДЫ'ЁВУ *прым.* Поўнасцю задаволены і шчаслівы. *Вон цепер рад, дыёвы, ужэ навудзіў рыбы.* Верасніца.

ДЫЛЁЎКА *ж.* Склюд. *Тонкіе сокеры ў магазіні продавалі, то звалі дылёўка.* Цераблічы.

ДЫ'ЛЬДА *ж. зневаж.* Дылда. *Ну і дыльда вуросла, ек та жэрдка.* Пагост.

ДЫ'ЛЯ *ж.* Калода. *Отрэжэш от дзерэвіны, то дыля называецца, тоўста.* Сямігосцічы. *Дзерэво порэзаў на дылі, на коробкі трэ ў окна.* Цераблічы.

ДЫМ *м.* Дым. *Туман, ек дым.* Чэрнічы. *Таке болото, ек дым.* Лутқі.

ДЫ'МОМ *прысл.* У непрытомнасці, як сноп. *По мордзі кулаком ек дасць, дак той дымом об землю!* Лутқі.

ДЫМЕ'ЦЬ *незак.* Дымець. *Вона не горэла, а дымела.* В. Малешава.

ДЫМІ'ЦЬ *незак.* Дыміць. *Печ дыміць, нема цягі.* Лутқі.

ДЫ'МНІК *м.* Адтуліна для дыму ў курнай хаце. *У плечэвой сцене дымнік коло печы буў у кýрніцы.* М. Малешава.

ДЫ'МНО *прысл.* Дымна. *Дымно нек у лесі, туман.* Запясочча.

ДЫМО'ТА *ж.* Вялікі дым. *Дымота ў хаці, дыму поўно.* Запясочча.

ДЫ'РГАЦЬ *незак.* Падскокваць, дрыгаць. *Піла дыргае на сукох.* Цераблічы. *Вон упаў і дыргае нагамі.* М. Малешава.

ДЫ'ХАЛО *н. груб.* Лёгкія. *Ек дам тобе под дыхало!* Лутқі.

ДЫ'ХАЦЬ *незак.* Дыхаць. *От под вéтламі дышом, сопом.* Дварэц. *Удушлівы чоловек, ёму цяжко дыхаці.* Бярэжцы.

ДЫХЛЯ'К *м.* Худая нездаровая істота. *Дыхляк сухорэбры!* Аздамічы.

ДЫХЛЯ'ЧЫНА *ж.* Здыхляціна. Цераблічы.

ДЫ'ХОВІЦА *ж.* Задышка. *Дышэ важко, дыховіца ў его.* Цераблічы.

ДЫ'ХОВУ *прым.* Задышлівы. *Породня ў іх такая, іх було тры браты, некіе такіе дыховуе.* Луткі.

ДЫ'ХТАР *прысл.* Дакладна. *Дыхтар похожа на его.* Цераблічы.

ДЫ'ШЛЁВУ *прым.* Дышальны. *Дышлёву воз.* Верасніца.

ДЫ'ШЭЛЬ *м.* Дышаль. *Дышэль метроў тры ў сосе буў.* Цераблічы. *Дышля ў возе не було раней.* Верасніца.

ДЭРЭШОВА'ТЫ, ДЗЕРЭШОВА'ТЫ, ДЗЕРЭСОВА'ТЫ *прым.* Светлай масці, шэры. *Дэрэшоваты конь такі, бу популены.* Аздамічы. *Дзерэшоваты, дзерэсоваты.* М. Малешава.

# Е

Е *незак.* Есць. *А ў цебе бацько е? — Е.— Маці е? — Е.* М. Малешава.

Е'ВОР *м.* Дзіцячая гульня. Дзеці ходзяць парамі і спяваюць: *Евор, еворові дзеці, шчо ві там робілі? — Васіля жэнілі.* В. Малешава.

ЕГІ'ПТА *ж.* 1. Пагібельнае месца. *Попаў у гэту егіпту, то не вуберэшса.* Луткі. *Упала корова ў егіпту, оно вушы торчаць.* Любавічы. 2 *перан.* Зайздросны чалавек. *От егіпта, усе тобе мало.* Верасніца.

ЕДА' *ж.* Яда, харч. *Трэба прыдумаць еку еду.* Хачэнь. *Это, дзеткі, у мене не еда, нема молока.* В. Малешава.

ЕДА'К *м.* Ядок, ядун. *Едак ты, ек той комар.* В. Малешава.

ЕГНЯ' *н.* Ягня. *Вон цебе боіцца, ек воўк егняці.* Старажоўцы.

ЕДЗЕ'НЬЕ *н.* Яда, харч. *На цэлы дзень едзенье.* Хачэнь. *Було на веселы і піценья і едзенья.* Верасніца. *Котапцы — мое едзенье.* М. Малешава.

ЕДЗЕ'Ц *м.* Ядок, ядун. *О! Такіе едцэ́, шчо не з'елі і одного гóрнчыка.* Луткі. *Добры едзец, да мала ложка* (прымаўка). Бярэжцы. *Екі ты едзец, такі ты косец* (прымаўка). Луткі.

ЕДКІ' *прым.* Які ахвотна з'ядаецца. *Это сено таке*

*едке!* Дварэц. *Такі гладкі кабан, едкі, добро еў.* Запясочча.

ЕДО'МЫ *прым.* Ядомы, годны для спажывання. *Посадзіла боб едомы, да ўсёй оборвалі.* Мачуль. *То тые, которые едомые, грыбкі.* Дварэц.

ЕДУ'ШЧЫ *прым.* Непераборлівы, які добра есць. *Вон у мене едушчы, шо ні постаў, поесць.* Верасніца.

ЕЖ *м.* Вожык. М. Малешава. *Памянш.* е ж о́ к. М. Малешава.

ЕЖО'ВУ *прым.* Вожыкавы. *Ежову і собачы жыр от сухот пілі.* М. Малешава.

Е'ЖЫК *м.* Вожык. *Собака коло ежыка стоіць і гаўкае.* Луткі. *Ежыка толькі палкамі бралі, бо рукамі, казалі, не можно браць.* Хачэнь.

Е'ЖЫКОМ *прысл.* Злосна, адкрыта. *Одно скажэ, то вон прамо на ёго ежыком!* Аздамічы.

Е'ЖЭЛІ *злучн.* Калі. *Само лепш, ежэлі сухо.* В. Малешава. *Ежэлі храсток куцы да тоўсты, то хороша корова.* Там жа.

ЕЗ *м.* Ез. *Плецеш плот з одного боку і з другого — гэто ез на жакі.* Цераблічы.

ЕЗГЕНУ'ЦЬ *зак.* Нырнуць. *Езгенуў под воду!* Цераблічы.

ЕЗДА' *ж.* 1. Канава або пратока, па якой ездзяць у міжрэччы лодкамі. *Ты берысь управо, там езда есцека.* М. Малешава. *От тое Крыніцы була езда, то вона ўпадала ў ту канаву.* Альгомель. 2. Язда. *То ж не вельмі богато езды туды, у Польшчу.* Сямігосцічы.

Е'ЗДЗІЦЬ *незак.* Ездзіць. *Клоченік ездзіць і збірае клоч'е.* Кароцічы. *Ездзіў на коньках, на лыжах узіму.* Верасніца.

Е'ЗДКА *ж.* Заезд. *За тры ездкі лодкою ўсе сено прывёз.* Пагост.

ЕЗДОВІ'НА *ж.* Праезд (для воза, лодкі). *Вот, шчытай, ездовіна на целята колхозкіе.* В. Малешава.

ЕЗДО'ВІЦА *ж. экспр.* Пасажырка. *У мене ўжэ ездовіца е одна.* В. Малешава.

ЕЗДО'ВУ *прым.* Ездавы. *Сын — ездову, на коні ездзіць.* Кароцічы. *Ездовіе поехалі сенаж возіць.* В. Малешава.

ЕЗДО'К *м.* Яздок. *Не каждого ездока конь боіцца.* Любавічы.

ЕЙ *выкл.* Ой. *Ей, людзі, ратуйце!* Кароцічы.

ЕЙ-БО'ГУ *выкл.* Бажба. *Ей-богу й прысей богу і божэй маці крэст!* (прысяга). Лутκі.

ЕКУРА'Т *прысл.* Акурат, зусім, дакладна, якраз. *Екурат часоў дванаццаць було.* Лутκі. *Екурат такі, ек Трохім.* Аздамічы.

ЕКУРА'ТНО *прысл.* Акуратна. *І до того екуратно выпісаў!* Талмачава.

Е'ЛЕ *часц.* Ледзь. *Пошла да еле прынеслá.* Дварэц. *Елі-елі зацягса.* М. Малешава. *Спаў, елі прочнуўса.* В. Малешава. *Еле добіраецца трактор до села, така гразь.* Запясочча.

ЕЛІ'НА *ж.* Хваёвая або яловая жэрдка, якая выкарыстоўвалася плытагонамі на плытах пры руху па рацэ. Тураў.

Е'ЛКІ *прым.* 1. Ёлкі, прагорклы. *Елке сало, даўно пожоўкло, не той укус.* Альпень. 2 *перан.* Сярдзіты. *Шо ты такі елкі?* Пагост.

ЕЛО'ВЕ'Ц *м.* Ядловец. Хачэнь. *Еловéц.* Аздамічы.

Е'ЛЬНІК *м.* Ельнік. *Така гушчэ́ра, цемень у том ельніку.* Пагост.

ЕНДОЛА' *ж.* Вялікая нарасць або пухліна, «дзікае мяса». *Ендола така ў коровы вуперла под мусою.* Лутκі.

ЕНК *м.* Енк. *Надорваўса да енку наробіў на ўсе село.* Верасніца.

ЕНЦОХА' *м.* і *ж.* Жвавае, непаседлівае дзіця. *Ну енцоха еты малы, ні мінюты не ўседзіць!* Пагост.

Е'НЧЫЦЬ *незак.* Енчыць. *Вон енчыць, места не находзіць, апарыў кропом ногі.* Бярэжцы. *Усю ноч енчыў на зубы.* Аздамічы.

ЕРМО' *н.* Ярмо, вупраж на валоў. *Постаўлялі волы ў ермо.* Верасніца. *Уперса, ек вол у ермо.* Сямурадцы.

ЕРО'М *м.* Ярмо, вупраж на валоў. *Ером на вола накладаеш.* Цераблічы.

ЕРОШЫ'ЦЦА *незак.* Натапырваць пер'е, уздымаць поўсць, надзімацца сярдзіта. *Кура ерошыцца, ек хапае коршак ціпленя. Індзюк ерошыцца, як цвеліш его.* Верасніца.

ЕРХА' *ж.* Чуб над ілбом. *Я тобе ерху надзеру.* Аздамічы.

ЕРШ *м.* Ёрш. *Ерш меншы, а окунь большы.* Сямігосцічы. *Памянш.* ё р ш ы к. *Да біўса ершык да с карасём* (з песні). Хачэнь.

ЕРША'К *м.* Тое ж. *На тых ершакох луска малá.* В. Малешава.

ЕРШУ'Н *м.* Тое ж. *Ершуны колючые беруць і ўночэ.* Луткі.

ЕРШЫ'ЦЦА *незак.* Яршыцца. *Ершыцца воўк у воўкоўне* (прыказка). Мачуль.

ЕСКО'ЛІЦЦА *незак.* Не ўступаць, вішчаць. *Есколіцца свіньня погана!* Старажоўцы.

Е'СТОНЬКІ *незак. ласк.* Есці. *Естонькі захоцела, дочко?* М. Малешава.

Е'СЦЕКА *незак.* Ёсць. *Робота есцека, трэ робіць.* Хачэнь. *У лесі шчо хоч есцека.* Сямурадцы. *Не бачу, дзе вон есцека.* Луткі.

Е'СЦІ *незак.* Есці. *Мо компот есцімеце?* Запясочча. *Сорокі яблука едзяць, падзёўбаных богато.* Дварэц. *Мой бацько есць і есць, а я наеўса.* Чэрнічы. *А хлеба не хочуць есці, бадай на іх ліхо.* Верасніца. *Корова буракі есць, ек не ў себе.* В. Малешава. *З молоком кісель емо.* Там жа. △ Е́сці зуба́мі. Шчыраваць, працаваць заўзята. *Вона ж ела зубамі гэту пражу.* Цераблічы.

Е'СЦІСА *незак.* 1. Грызціся, сварыцца. *Толькі едзяцца да сварацца.* Хачэнь. 2. Есціся, спажывацца. *Цепер не так, ек гэто колісь сало елосо.* Верасніца.

Е'ХАЛО *н. экспр.* Паездка або транспартны сродак. *Поехаў, на чорта було тэ ехало!* Дварэц. *Плохе ў цебе ехало* (пра матор у лодцы). Верасніца.

Е'ХАЦЬ *незак.* Ехаць. *Браты едуць по сено, а вон не хочэ.* Сямігосцічы. *Ек едзеш, то воз пішчыць: «З'еў сало, з'еў сало!»* Луткі. *Не едзьмо, ночуймо.* Альшаны. △ Ні сеў ні ехаў. Пра адсутнасць цікавасці да асобы. *Мне твой Лёня ні сеў ні ехаў.* Хачэнь.

ЕШЧЭ', ШЧЭ *прысл.* Яшчэ. *Бутэлька боклатая да ешчэ з вухом.* Сямурадцы. *Я б і цепер шчэ вуткала ту рогожу.* М. Малешава. *Як там твое бацькі жывуць, шчэ ходзяць трохі?* Пагост.

# Ё

Ё *выкл.* Пры неадабрэнні, здзіўленні. *Ё, несоло́ные гуркі будуць, то ж я толькі солі ўсыпала!* Луткі.

ЁЛКА *ж.* Ёлка. *З ёлкі робілі дудкі.* Хачэнь. *У одного*

*дзядзька на Мар'янцы ёлка росце.* Верасніца. *І ёлка шоб була ў короваé.* Сямурадцы.

ЁЛУПЕНЬ *м. лаянк.* Дурань. *Шо ты ек ёлупень уставіўса?* Аздамічы. *Шчо гэто за ёлупень там седзіць?* Хачэнь.

**ЁМЕЦ** *м.* **Хапуга, злодзей, спрытнюга, хцівец.** *Етта, ка, ёмец пошоў, злодзюга.* Запясочча.

**ЁНЧЫК** *м.* **Той, хто гаворыць «ён». Любавічы.**

ЁРЗАЦЦА *незак.* Ёрзацца. *Не ёрзайса, поседзі ціхо.* Верасніца.

ЁРЗАЦЬ *незак.* Ёрзаць, падскокваць. *Цегні вуду скорэй, ужэ ёрзае. От як плаўкі ёрзаюць, то знай, шо ў сетцы рыба е.* Верасніца.

ЁРЗНУЦЬ *зак.* Ёрзнуць, тузануць. *Корова ёрзне головою і можэ засіліцца.* Верасніца. *Бацько ёрзнуў коня і поехаў.* Цераблічы.

ЁЎЁРКА *ж.* Вавёрка. Мачуль.

ЁЎКАЛО *н.* Дзіцячая назва івалгі. *Ёўкало крычыць: «Кошэўскі Ёўхім поехоў у Кіеў меняць кобулу».* Цераблічы.

ЁШКА *м. зневаж.* Сквапная дурніца. *Ета ёшка чужэ сено згрэбла, говорыць, шчо ее і ўсе.* Пагост.

# Ж

Ж, ЖЭ *часц.* Ж, жа. *Шчо ж робіць ему?* Луткі. *Коб жэ той брат помогаў!* Сямігосцічы.

ЖА́БА *ж.* 1. Жаба, лягушка. *Вуцяг сетку, аж там одные жабу сівýе.* Верасніца. *Ек жаба чорна прышчова́та перепóўзае дорогу, то нехто палца порéжэ, ек жном* (павер'е). Пагост. *Вулупіла очы, ек жаба на олéшыну.* М. Малешава. *Жаба ў воду — пі вóду, жаба з водú — не пі воды* (прыкмета). Луткі. *Коб жабі хвост, усю траву пом'яла б* (прымаўка). Цераблічы. 2 *перан. экспр.* Пра малых, недарослых. *От жаба, не залезе аніяк.* Верасніца. 3. Цела бяззубкі. *Жаба ў чорýшцы.* Бярэжцы. 4. Хвароба кароў. *Жаба, то як прысыхае скура на клубáх, на спінé, шчáваюць скуру на корове і шэпчуць: «Шоб така чыста, як богородзіца чыста». От і наша корова не вылізваецца, мо ў ее ўжэ жаба.* Ма-

чуль. 5. Удзельнік гульні *ў жабу,* які не зловіць мяч. Альпень. △ Ж а́ б а ц ы́ ц к і д а с ц ь. Можна памерці, не дачакацца. *От кро́сна неўда́чно обліла́ сем'ем, покуль вутку, то й жаба цы́цкі дасць.* М. Малешава. З е л ё н а ж а́ б а з у́ б у п о ш ч ы т а е. Памрэш. *Ек бу́дзеш смея́цца после захо́да со́нца, то зелёна жа́ба зубы пошчыта́е* (павер'е). Луткі. К о р а́ в а ж а́ б а. Рапуха. *Кора́ва жа́ба, вона́ кру́мкае.* Луткі. П о д р у́ б н а ж а́ б а. Земляная жаба, якая жыве пад драўлянымі пабудовамі. Луткі.

ЖАБЕЛЮ'ХА *ж. экспр.* Малеча. *На малу́ дзевочку кажуць: от жабелюха!* Хачэнь.

ЖА'БЕР, ЖА'БОР *ж.* Жабнік. *На водзе́ заводзіцца такі жа́бор, ек у ёго́ попадэ́ш, то бэ́мблі поначэсываеш.* Мачуль. *Жя́бором заплёснела вода.* Рубель.

ЖА'БЕР'Е *н. зб.* Тое ж. *Жа́бер'е на водзе там, а ў нас вода́ — чыстота́.* Запясочча.

ЖА'БЕРНІК *м.* Незабудка балотная. *Малы́е цвето́чкі на жа́берніку; воло́шка — сінее зелье, а гэто яснейшэе.* Хачэнь.

ЖАБЕ'ЦЬ *незак.* Хварэць на жабу (пра карову). *Коро́ва жабе́е, прысо́хла шку́ра ік спіне́.* М. Малешава.

ЖА'Б'ЕЧЫ *прым.* Жабін. *Жа́б'еча ікра́ склеена на мелком месці.* Верасніца. △ Ж а́ б ' е ч ы с і т н і к. Сіт балотны. *Жаб'ечы сітнік не едуць.* Кароцічы. Ж а́ б ' е ч а х в о́ й к а. Хвошч балотны. Верасніца. Ж а́ б ' е ч а х а́ т а. Бяззубка. Хачэнь.

ЖАБ'Ё'РКА *ж.* Расліна павітуха. *Як жнеш жыто, то жаб'ёрка сілно за рукі ўчэпіцца.* Пагост.

ЖА'БІН *прым.* △ Ж а́ б і н ы е о́ ч к і. Сінія пралескі. *Жабіные очкі ростуць коло лесу.* Луткі.

ЖА'БІЦЦА *незак.* Выгінацца. *Жабіцца граб, гнецца, бо мокры.* Хотамель.

ЖА'БКА *ж.* 1. Жабка. *Маленька жабка скочыла на купіну.* Верасніца. 2. Калёсіка, на якім падвешваецца ніт. Запясочча. 3. Металічная скобка. *Бацько наробіў і поклаў жабкі з дроту дуба конопаціць.* Кароцічы. 4. Прыём у гульні ў класікі. Запясочча. △ Ж а́ б к і п у с к а́ ц ь. Кідаць плоскі прадмет па паверхні вады, каб ён падскокваў (дзіцячая гульня). Цераблічы.

ЖАБО'ВІКІ *мн., адз. л.* ж а б о́ в і к *м.* Неядомыя грыбы. *Жабовікі не годзя́цца есці.* Луткі.

ЖАБОЛА'З *м.* △ У ж а б о л а́ з а. Дзіцячая гульня. Альшаны.

ЖАБРЭ'Й *м.* Зябер. *Не пойду жаць, там жабрэй коле.* Цераблічы.

ЖАБ'ЮКІ' *мн., адз. л.* ж а б' ю к *м.* Неядомыя грыбы (агульная назва). Цераблічы.

ЖА'ГА *ж.* Пякотка. *Ек жага паліць, то трэбо зёрнета єсці.* Верасніца. *От жагі корэнья пахучого плёшніку п'юць.* Хачэнь.

ЖА'ГВА *ж.* Губа для вогніва. *Жагву вараць з попелом, шоб вона упрэла.* Запясочча.

ЖА'ГОЎКА *ж.* Жыгучка. *Попекла рукі жагоўкою.* Верасніца.

ЖАДА'НОЧКА *ж.* Галубка (ласкавы зварот). *Моя ты жаданочка!* Аздамічы.

ЖАДА'ЦЬ *незак.* Жадаць, прагнуць. *Помірала моя свекроў і мене жадала, шоб я прышла.* М. Малешава.

ЖАДЗЕ'НЫ *прым.* Дарагі, доўгачаканы. *Жадзеные дзеткі.* В. Малешава.

ЖА'ДНЫ *прым.* 1. Прагны. *Я на сено не жадны ўжэ, бо накосіў.* Верасніца. Рады. *Жадны кусочку хлеба, да нема ёго.* М. Малешава. 2 *займ.* Ніякі, які-небудзь. *Блукаецца без жадное роботы.* Аздамічы.

ЖАДО'БА *ж.* Ахвота, прагнасць. *Дзецям жадоба на сад!* Мачуль. *У жадобу ўсе добрэ, усяка еда.* Хачэнь.

ЖА'ЙВОРОН, ЗА'ЙВОРОН *м.* Жаваранак. Запясочча.

ЖА'ЙВОРОНОК, ЗА'ЙВОРОНОК, ЗА'РВОРОНОК. Тое ж. *Зарворонок спевае: Ой ніхто не такі, ек пастух прокляты. і дома жэрэ́, і ў верэ́ню берэ, і прыдзе домоў, шчэ крычыць есці.* Запясочча.

ЖАК *м.* Жак. *Поставіў на ноч жакі, то поўно рыбу налезло.* Кароцічы.

ЖА'ЛЕЦЬ *незак.* Тлець, гарэць без агню. *Нешчо жалее ў грубі.* Запясочча. *Болото жалее.* Там жа.

ЖАЛЕ'ЦЬ *незак.* Шкадаваць. *Вон собе само́му жалее з'есці.* Верасніца.

ЖА'ЛІЦЦА *незак.* Жаліцца, скардзіцца. *Вона, бедная, кажному жаліцца на свое горэ.* Верасніца.

ЖА'ЛІЦЬ *незак.* Джаліць. *Пчола́ жаліць моцно жало́м.* Верасніца.

ЖА'ЛКО *прысл.* Шкада. *Жалко ее стало.* Кароцічы.

ЖАЛКОВА'ЦЬ *незак.* Выказваць жаль, быць у скрусе. *Доўго жонка жалкуе, ек помрэ чоловек.* Альшаны. Шкадаваць, карыць сябе. *Ве́льмо жалковаць будзе, шчо дождж пошоў на гэто сено.* Сямігосцічы. Нара-

каць, скардзіцца. *Вона жалкуе на зяця, шо вон любіць чарку.* М. Малешава.

ЖАЛО′, ЖОЛО′ *н.* 1. Джала. *Пчола ўкусіла, вупусціла жало.* Запясочча. *Жоло.* Любавічы. 2. Вастрыё, лязо. *Жоло́ завернуў у сокеры.* Сямурадцы.

ЖА′ЛОБА *ж.* 1. Жалоба (па нябожчыку). *Майбуць, вона ў жалобі, бо ўся ў чорнум.* Тураў. *Жалоба — год, то постанова така, ек жонка помрэ, то чоловек год не жэніцца.* Запясочча. *Жалоба ў ее — умёр чоловек.* Луткі. *Дзе жалоба — там белым махаюць* (калі ходзяць з карагодам), *дзе весело — красным.* Бярэжцы. 2. Скарга. *Напісалі жалобу на ее.* Тураў.

ЖА′ЛОБНО *прысл.* Жаласна. *Так жалобно пее́, шо серцэ розрываецца.* Верасніца.

ЖА′ЛОБНЫ *прым.* Сумны, тужлівы. *Жалобны плач.* Верасніца.

ЖАЛО′БНЫ *прым.* △ Ж а л о́ б н ы  с т о л. Памінкі адразу пасля пахавання. Мачуль.

ЖА′ЛОВАЦЦА *незак.* Скардзіцца. *Ёслі ву не дасце́ допомогу, то бу́ду жа́ловацца.* Луткі.

ЖА′ЛОСЛІВІЦЬ *незак.* Засмучаць. *Ёй не каза́лі про тэ, не хоце́лі жалослівіць.* Верасніца. Шкадаваць. *Сестра сестру сповівала да не жалослівіла* (з песні). Аздамічы.

ЖА′ЛОСЛІВУ *прым.* Жаласлівы. *Вон такі жалосліву, шо ўсіх шкодуе.* Верасніца.

ЖАЛЬ *м., рэдка ж.* 1. Жаль, смутак, скруха. *Да жаль велікі, ек умрэ молодэ́.* Аздамічы. *Роска́зуе, а слёзы ліе́ з жа́лю.* Мачуль. *Свет жалю, ек помрэ чоловек, а свінчо здохне, то ніхто не пла́чэ.* Луткі. *Ву́говорыць свою жаль жонцы.* Сямігосцічы. 2 *прысл.* Шкада. *А шчо іх жаль, ці шчо?* Дварэц. △ З а д а в а ц ь  ж а л ю. Засмучаць, рабіць маркотным. *Солоўе поюць, а мне, молодзе́нькой, жалю задаюць* (з песні). Бярэжцы. У в е с ц і  ў  ж а л ь. Засмуціць. *Вона мене ў жаль увела — стою і плачу.* М. Малешава. У з я ў  (у з е л о)  ж а л ь. Стала шкада. *Ек узяў мене жаль — чуць не заплакала.* Азяраны. *Узело мене жаль за тое порося!* Хачэнь.

ЖА′ЛЬБА *ж.* Жальба, жаль. *А чого ж жальба берэ́ мэне́?* Мачуль.

ЖАР *м.* 1. Жар, гарачае вуголле. *У грубі ўжэ і жар і прысок, то надумала печо́нікоў спекці.* Верасніца. *На-*

*сыпае чугун жáру і несе ў сцёбку, шоб цёпло було там.* Луткі. *Нельга ў нядзелю і с'яты́ дзень даваць жару, ек хто попросіць* (павер'е). Там жа. *Жэ́ўрыціме жáром століна да огонь успы́хне.* М. Малешава. *Така хустка хорóша, ек жар горыць.* Верасніца. 2. Гарачка. *Мо ў ёгó жар, шо вон такі красны?* Верасніца. △ Кінуць у жар. Прывесці ў стан крайняй узрушанасці. *Так мне нелóўко, аж у жар кінуло.* Верасніца.

ЖАРА' *ж.* Спёка, гарачыня. *На дворэ млосно, жара печэ.* Альгомель. *А жара ж полéту була!* Сямурадцы. Марыва; смуга. *Жара скáчэ от погоды, бы пóлом'е.* Луткі.

ЖАРКІ' *прым.* Гарачы, спякотны. *Учоро жаркі дзень буў.* Пагост. Гарачы, хуткі (пра каня). *Ек жаркі конь, то быстры, а ек тупы́, то не можно і подогнать.* Рубель.

ЖА'РНУЦЬ *зак.* Секануць, урэзаць, выцяць. *Учора дождж жáрнуў добрэ, у городзі ўсе позбіваў.* М. Малешава. *Ек жарнуць песню!* Хотамель. *Ек жарнуў мороз, дай не завезалоса просо.* Рубель.

ЖАРО'К *м.* Жарок, тлеючае вуголле. *Постаў кашу ґ жаркý, то вона й зварыцца.* Верасніца. Агеньчык (на вуглях). *Жарóк бегае на горэлой бумазі, як гадаюць, то вóзьмуць замуж.* Бярэжцы.

ЖА'РОНЫ *прым.* Печаны, смажаны. *Везе, як жароному дзятлу* (прымаўка). Луткі.

ЖАРО'ЎНЯ *ж.* 1. Гарачыня, духата. *От жароўня ў хаці, не продыхнуць!* Верасніца. 2. Савок, якім бяруць жар з печы. Запясочча.

ЖАРТ *м.* Жарт. *Вона ўсе прынімае ў жáрты, шо ву путаеце.* В. Малешава.

ЖАРТЛІ'ВУ *прым.* Жартаўлівы. *З ім жывота нарвеш — вон такі жартліву.* Верасніца.

ЖАРТОВА'ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Прышоў ко мне одзін мужчына і цэлы вечэр жартоваў.* М. Малешава. *Там жартовалі з его, а вон думаў, шчо праўда.* В. Малешава.

ЖАРТУ'Н *м.* Жартаўнік, весялун. *Е такіе жартуны́, шо вон тобе ўесца за горку ягоду.* В. Малешава.

ЖАРТУ'ШКІ *мн.* Жартачкі. *Коту жартушкі, а мушэ́ смертýшкі* (прымаўка). Верасніца.

ЖАРЫ'НА *ж.* Тлеючы вугольчык. *Выгрэб мне жарыну на прыпечок.* Луткі. *Жарыну покінула і пожар получыўса.* Цераблічы.

ЖА'РЫЦЬ *незак.* 1. Смажыць. *На снéданье сало жарыць, картоплі чы́шчэные з солóным гурком.* Верасніца. 2 *перан.* Пляжыць. *Хай жарыць по пескáх дождж, мо выросце шо.* Верасніца.

ЖАРЫ'ШЧЭ *н., рэдка* жары́шча *ж.* Спякота, гарачыня. *Таке жарішче на дворе!* Альпень. *Удзень така жарышча паднімецца, жарко вельмі.* В. Малешава.

ЖА'ЎЛЕЦЬ *незак.* Трапаць, плявузгаць. *От жаўлее своім езыком, ек помелом!* Верасніца.

ЖА'ЎРОН *м.* Жаваранак. Лутки.

ЖА'ЎРОНОК *м.* Тое ж. Запясочча.

ЖАХ *м.* Жах, жуда. *З жáхом усе побеглі.* Аздамічы.

ЖАХА'ЦЦА *незак.* Жахацца, палохацца. *От жахаецца дзіця, як у вóду ўсунеш.* Луткі. *Конь жахаецца машын, усего!* Альшаны.

ЖА'ХКО *прысл.* Жахліва, жудасна. *Як я поглядзéў, аж жахко зробілоса: воўк леціць на тые овэчкі.* Мачуль. *Так робіцца жахко поўз клáдбішче.* Альшаны.

ЖАХЛІ'ВУ *прым.* Пужлівы. *Конь бувае жахліві, усего пужаецца.* В. Малешава.

ЖАХНУ'ЦЦА *зак.* Жахнуцца, здрыгануцца ад страху. *Ему жахнулоса, як гето рошчавіць.* Мачуль.

ЖА'ХНУЦЬ *зак.* Трахнуць, стукнуць. *А я возьму да зелезняком жáхну, то будзеш знаць!* В. Малешава.

ЖАЦЬ *незак.* 1. Жаць. *Жыто спеле, трэ іці жац.* Запясочча. *Сухого хлеба ў хвартýх, да жні цэлы дзень і не сядзь з'есці!* Бярэжцы. *Зелёнэ жнете, от і получаетса головешка!* Рубель. 2. Ціснуць, сціскаць. *Нешчо серцэ жме.* Верасніца. *Лоб покраснеў — гэто ж шапка жме.* Там жа. Гнаць, перці. *І з'ехацца по канаве не можно, жме так вода.* Цераблічы. △ Ж а ц ь  н а п р о с т. Жаць, пакідаючы зжатае на пожні. *Мі жáлі напрост, а можно жаць і ў сноп.* В. Малешава. Ж а ц ь  у  с н о п. Жаць, звязваючы зжатае ў снапы. Там жа.

ЖБУНТ *м.* Звязка, скрутак. *Я бачыў у лаўцы цы́лы жбунт кнотóў.* Тураў.

ЖБУРЛЯ'ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Так кóліся сваталіса: жбурляюць невесці лапці і кажуць: шургі-бургі, у хату лапоць леці; ек прыме, то лад согласны робіць, а ек не согласны, назад лапці шургáюць.* М. Малешава.

ЖБУРНУ'ЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Óзьмуцца за грýдкі дзеды да которы которого жбурнé.* В. Малешава. *Ек жбурнуў чэплею по мне, думала заб'е.* Верасніца.

ЖБУ'РЫЦЬ *зак.* Шпурнуць, запусціць. *Такі ўжэ*

*зверуга, шо ні дай — шо дзе́ржыць у руках, тым і жбурыць по тобе.* Верасніца. *Дзержала ў руках ведро, а потом жбу́рыла на подлогу.* М. Малешава.

ЖВА'ВУ *прым.* Жвавы, рухавы, спрытны. *Жвавому надо быц на плотах.* Запясочча.

ЖГЕРНУ'ЦЬ *зак.* Куснуць, пекануць. *До́бро жгернуў за пальца кот.* Запясочча.

ЖДАЦЬ *незак.* Чакаць. *А му жджом, поку́ль дадуць вечэраць.* Старажоўцы. △ Ж д а ц ь-п о ж д а́ ц ь. Пачакаць нейкі час. *Я жджы́-пожджы́, жджы-пожджы, а ўжэ цёмно.* Лутк.

ЖЖЫВА'ЦЬ *незак.* △ Ж ж ы в а ц ь в е к. Заваршаць жыццё. *Стары́е ўжэ жжываюць свой век, а молодых нема ў селе.* Запясочча.

ЖЖЫЦЬ *зак.* △ Ж ж ы ц ь в е к. Пражыць жыццё. *Век жжыў, а вума не нажыў.* Хачэнь.

ЖЛУ'КТО *н.* Жлукта. *Жлукто — кадоўб з гніло́е сосны́, осіны ў серэ́дзіне, без дна, накладзе поўно плацья, попэлу навэрх і саганоў дваццаць л'е воды.* Мачуль. *По тры жлу́кці белья пралі.* Хотамель.

ЖЛУ'КЦІЦЬ *незак.* Адзольваць бялізну ў жлукце. *Вона можэ жлукціць плацье добро, чысто.* Мачуль. *Сподне жлукчу.* Пагост.

ЖМАК *м.* Жмут, колькі можна ўзяць у жменю. *Жмак цыбулі.* Запясочча. *Вуняў жмак грошэй.* Сямігосцічы. *Кінуў жмак нечого да горыць.* Хачэнь. *Памянш.* ж м а ч о к. *Не покінуў ні жмачка́ сена.* Лутк.

ЖМА'КАЦЬ *незак.* Сціскаць, мяць. *Тые рубашкі жмакаюць, не ўмеючы муць.* Хачэнь.

ЖМЕ'НЯ *ж.* Жменя; колькасць чаго-небудзь, што змяшчаецца ў жмені. *Мы ўсе по жмені ўхопілі, а ему — шчо остало́са.* Дварэц. *Дарую жменю медзі, шоб булі дзеці, ек медзведзі* (з вясельных прыгаворак). Старажоўцы. *Подсмажэм да дзе́цям по жмені дасі, то з'едзяць.* Сямурадцы. *Добру жменю ўзяў да посоліў картоплі.* Цераблічы. Мера (ільну, канапель і інш.). *Хоро́ша жменя лёну будзе.* Запясочча. *З трыццацьмі жмэ́ньмі дзеруг не вуччэш.* Верасніца. *Памянш.* ж м е́ н ь к а. *Вона по жменьцы кідае ў ту ячэйку.* Мачуль.

ЖМІ'НДА *м.* і *ж.* Назола. *Такое жмінды, ек ты, свет не бачыў!* Тураў.

ЖМІ'НДЗІЦЬ *незак.* Плявузгаць, надакучліва паўтараць. *Кажу, годзі ты, жмінда, жміндзіць!* Пагост.

ЖМІ'НДЗІШЧЭ *м.* Назола. *Жміндзіць да жміндзіць, такі ўжэ жміндзішчэ.* Пагост.

ЖМОДЗЬ *ж.* Саранча, навала (пра вялікую колькасць малых пражэрлівых істот). *Воны, ек та жмодзь: і свое поедзяць і нашэ покрадуць.* Луткі. *От жмодзь эта вутва́, столькі едзяць!* Кароцічы. *Нека жмодзь прыехала і поела ўсе.* М. Малешава. Пражора. *Жмодзь, шо багато есць: колькі тобе трэбо есці, жмодзь?!* Альгомель. Драбяза. *Кожушкі по рублю продаюць, а мала та жмодзь — по пядзьдзесят копеёк кіло.* Пагост.

ЖМО'ХНУЦЬ *зак.* Жарнуць, урэзаць. *Як сцягне того чобота да як жмохне!* Запясочча.

ЖМУ'ДНЫ *прым.* Сквапны, скупы. *Воды чужому не вунесе, от такі жмудны.* Пагост.

ЖМУР *м., часцей мн.* ж м у́ р ы. 1. Бурбалка. *Потаў собака, одно жмўры пойшлі.* Верасніца. *Жмўры пусціў бы, коб не хлопцы.* Кароцічы. 2. Дзіцячая гульня. *Гулялі ў жмўра.* Запясочча. *Памяншн.* ж м у́ р к і. *Тоўхнуў веслом, то одно жмўркі пойшлі.* Верасніца. *Лінок ходзіць, жмуркі пускае.* Альшаны.

ЖМУРЫ'ЦЬ *незак.* Бурліць, булькацець, пускаць бурбалкі. *О така месносць була, а оттуль жмурэ́ло, і чысценька вода е.* Цераблічы. *Лінок жмуры́ць, со дна булечкі подымае.* Там жа. *Ужэ та́не, ужэ ў рот набраў булькоў, жмурыць.* Альгомель.

ЖМУТ *м.* 1. Вязка, ахапак. *От жмут велікі нав'язаў чого і понёс.* В. Малешава. 2. Скнара, сквапны чалавек. *Які вон сусед, жмут вон, ніколі не помо́жэ.* Сямігосцічы. *Памянш.* ж м у т о́ к. *Прынесу жмуток ечме́ню да церэблю́, то едзяць куры.* Хачэнь.

ЖМУ'ТКОМ *прысл.* Ахапкам, у ахапку. *Не беры сорочку жмутком, да хо́рошэ зложы!* Луткі.

ЖМУ'ХА' *ж., рэдка* ж м у х *м.* Макуха, адходы пры выцісканні алею, воску. Дварэц. *Шчо здавалі се́м'е, то ўсім по́роўну була жмўха.* М. Малешава. *Жмуха́.* Хотамель. *Колхозным коровам даюць жмух да сілос.* Запясочча.

ЖМУЧО'К *м.* Жменька, касмычок. М. Малешава.

ЖНЕЦ *м.* Жнец. *А ні жнец, а ні косец* (прымаўка). Верасніца.

ЖНІВА'РКА *ж.* Жняярка. *Добры конь, дзень ходзіць у жніварцы без отдыху.* Мачуль.

ЖНІ'ВО' *н., часцей мн.* ж н і в а́. Жніво, пара ўборкі збожжа. *Косовіца настала, да хутко настануць жніва.*

Запясочча. *У самое жніво вона родзілаca.* Верасніца. *Ек загрымiць, то зелінку перэкіне на спіну, да не болiць на ўсе жніво* (павер'е). Там жа. △ Я'чные жнiва́. Пара ўборкі ячменю, проса. Цераблічы.

ЖО'ВАНКА *ж.* Сусла. *Нажоваў жованку і ў кýклу, хай дзiця ссе.* Кароцічы.

ЖОВА'ЦЬ *незак.* Жаваць. *Жовацъ жуе, а коўтнуць не мóжэ.* Луткі. *Зацiрку не трэ жовацъ.* Бярэжцы.

ЖО'ГАЦЬ *незак.* Пароць (кіем і г. д.). *Як почаў туды вёслóм жогацъ!* Альшаны. *З другого боку жогаеш, то вона с кóрэня і выскочыць.* Там жа.

ЖО'ГНУЦЬ *зак.* Парнуць. Альшаны.

ЖОГОНЕ'ЦЬ *незак.* Барабаніць, падаць з шумам (пра ваду). *Жогоніць вода на дзве коле ў млiне.* Мачуль.

ЖО'ЛОБ *м.* Жолаб, доўгае карыта. *У жолобі сечку давалі коню.* Запясочча. Выемка. *Пéшня жолобом, ею шýла робілі.* Луткі. *Памянш.* жолобóк. *У верандзі зробі жолобок, шоб вода сцéкала.* Верасніца.

ЖОЛОБI'ЦЦА *незак.* Выгінацца, рабіцца жолабам. *Подлога жолобіцца.* Аздамічы.

ЖО'ЛУ'Д, ЖО'ЛУ'ДЗЬ *м.* Жолуд. *Жолуды собіралі, свіней корміліі.* Запясочча. *На орéшыні орéхі, а на дубе жолýдзь; іх свінья едзяць і коровý едзяць, інша обожрэцца жолудзьмі.* Там жа. *Едзьмо жолýдзю збірацъ; жолýдзь свіньям, гусі цылого коўтáюць.* Луткі. *На жолýдзь зажэнýць свіней, було дубоў много.* Сямігосцічы. *Осень прыдзе да жолýдзь падае.* Хотамель. *Поўз Скрыпіцу дубу й дубý; му летось ездзілі ў жолýды с старым туды.* Пагост.

ЖО'ЛУ'ДЗЁ'ВУ *прым., рэдка* жолудóву. Жалудовы. *Жóлудзёво шалупіньe.* Верасніца. *Коліся хлеб жолудóву посадзяць у печ, да вон пораспадáецца* Там жа. *Я тож разоў два жолýдзёву хлеб еў.* Сямігосцічы.

ЖОЛУДЗІ'НА *ж.* Жолуд. *Стою под дýбом, а жолудзіна просто мене ўпала.* Верасніца. *З одного цельпешá дзежка, ночоўкі і дзежа, і плашка остаецца* (загадка). *Жолудзіна* (адгадка). Хачэнь.

ЖОЛУНІ'ЦЫ *мн.* Зялёнкі (грыбы). *Е нейкіе козы, жолуніцы, короўкі.* Луткі.

ЖОЛУПА'ЦЬ *незак.* Прагна глытаць не жаваўшы. *Во жолупае, бу вýтва!* Верасніца.

ЖОНА' *ж.* Жонка. *Хлеб не жона, з'еў да нема* (прыказка). Цераблічы.

ЖОНА'ТЫ *прым.* Жанаты. *Дайжэ жонатые гулялі ў ту гульню.* Альшаны. *А вон шчэ не жонаты, гэтой хлопец?* Бярэжцы.

ЖОНЗНО' *н.* 1. Вялікая няўклюдная жанчына. *От жонзно пошло неке.* М. Малешава. 2 *экспр.* Жонка. *Не скажэ на ее жонка, да секé-такé жонзно.* В. Малешава.

ЖО'НКА *ж.* 1. Жанчына. *Нас, жонóк, було ў Заяцелы тры-чотыры, шо косілі.* Запясочча. *Шчэ старэ́йша жонка é ў Берэ́зцах.* Бярэжцы. *Сын тоé жонкі ўвосень у армію пойдзе.* Хачэнь. 2. Жонка. *Коб і свою жонку да на чужом дворэ ўбачыў, то іначча, то лепша.* Луткі. *Свою жонку не поменяю на вашы дзве!* Кароцічы. *Перва жонка од бога, другá од людзей, а трэця—од чóрта, а на чэцвёртой і не рэшайса жэніцца* (прыказка). М. Малешава. *Сварліва жонка, шчо гніль у косцях* (прымаўка). Сямігосцічы. *Жонку б'е не мужык, а езык* (прымаўка). Там жа. *Брат любіць сестру богату, а жонку здорову* (прымаўка). Старажоўцы. *Не то родзіна, шо мене родзіла, а то, шо жонку* (прыказка). В. Малешава. *Памянш.* ж ó н о ч к а. *Ой, жоночкі, нешчо пужае!* Луткі.

ЖОНО'ЧЫ *прым.* △ Ж о н ó ч ы е к о н ó п л і. Маніцы. Альшаны.

Паводле тлумачэння, названы так таму, што прадзіва з гэтых канапель ужывалі жанчыны на свае патрэбы, на палатно для жаночага адзення, а не для мужчынскага. Альшаны.

ЖОНО'ЧЫНА *ж.* Жанчына, кабеціна. *Чыя гэто жоночына пошла, откуля вона?* В. Малешава.

ЖОНЧНО' *н. зневаж.* Тое ж. *Зайдзе жончно ў цэ́ркву да коло прэстолу стоіц.* Запясочча.

ЖОНЧУ'Р *м.* Той, хто любіць быць у жаночай кампаніі. *Жончур ты, коло жонóк круцісса.* Запясочча. *Гэто жончур, вон за жонкáмі век, гэты собака!* Луткі. Бабнік. *Іван такі жончур, шо ў кажном селе жонка е.* Там жа.

ЖО'РНА *мн.* Жорны. *Колькі того хлеба трэба було на жорна накруціць дзецям!* Дварэц. *У нас булі жорна, да посéклі іх.* Пагост.

ЖОРНО'ВУ *прым.* Які належыць да жорнаў. *Поўпрыцы е ў камні жорнóвом.* Сямігосцічы.

ЖО'РОСЦЬ, ЖЭ'РОСЦЬ *ж.* Нятоўстая высокая дзеравіна без сукоў. *Така жэросць хороша вуросла, лáта будзе.* Цераблічы. *Жэ́рэсць — это жордка обчэса-*

*на, суха́.* Сямігосцічы. Папярочныя доўгія перакладзіны, да якіх мацавалася бярвенне ў плыце. Запясочча.

ЖО'РТКА, ЖЭ'РТКА *ж.* Жэрдка. *Нарубаюць жэрток, наўскосяк ложаць.* Запясочча. *Ох, мах чоловек, ек жортка!* Любавічы. *Штакеціна прыбіва́ецца до жордкі.* М. Малешава. *Поўна жэртка белых курэй* (загадка). *Шма́цье, шчо сохне* (адгадка). Хачэнь. Шасток каля печы. Сямігосцічы. Ключ (вочап, да якога чапляецца вядро). Бярэжцы. Частка кроснаў, на якой трымаецца ніт. Кароцічы. Шост у сярэдзіне стога. Аздамічы.

ЖО'РСТКІ *прым.* Жорсткі, драпежны. *Ко́лісь коршакі булі жорсткіе, хапалі куры, ву́тви малые.* Сямігосцічы.

ЖО'СТКІ *прым.* Жорсткі. *У одным колодзезі вода м'якка, а ў другом — жо́стка, ек помуеш косы, то не мо́жны рошчэсаць.* М. Малешава. Сярдзіты, калючы (пра чалавека). *З ім доўго не поговорыш, вон жосткі, бі ерш.* В. Малешава.

ЖО'ЎКЛЫ *прым.* Пажаўцелы, пераспелы (пра гуркі). *Жоўклые гуркі несмачные, воны на насенье ці худобі.* Пагост.

ЖО'ЎКНУЦЬ *незак.* Жаўцець, рабіцца жоўтым. *Ліст жоўкне, осень прышла.* Бярэжцы.

ЖОЎНА' *ж.* 1. Жаўна. *Жоўна ву́лье лу́піць, достаецца ік меду.* Запясочча. *Жоўна такі бы рудоваты дзя́цёл.* Хотамель. 2. Бубніла, буркун (звыч. пра жанчыну). *От нейка жоўна, да бубніць!* Дварэц. 3. Базедава хвароба. *Жоўна на горло напала, і операцыя не помогла, бо зада́ўнілос.* Сямігосцічы.

ЖОЎНА'КАЦЬ *незак.* Балакаць, ціха размаўляць. *Да трохі жоўнакалі воны на прызбе, а по́тым розышліса.* Дварэц.

ЖОЎНА'ЦЬ *незак.* Бубнець, бурчаць незадаволена. *Хваціць жоўнаць, дзеду!* Тураў.

ЖОЎТА'ЧКА *ж.* Жаўтуха. *У его жоўтачка, вон у бо́льніцы лежыць.* Дварэц. *Лейко́ў хлопец захворэў на жоўтачку, то потсоветовалі, шчо трэбо гічэ́ од мо́ркву до сонца на Купалного Івана зорваць да запарыць, то помогло.* Луткі.

ЖОЎТЛЯ'К, ЖОЎКЛЯ'К, ЖОЎПЛЯ'К *м.* Насеннік, жоўты агурок. *Ужэ жоўклякі ў мене поробіліса, нема чого рваць.* Сямігосцічы. *Наўбіра́ла кошэль жоўтлякоў.* Верасніца. *Жоўплякоў на семено е, нарослі.* М. Ма-

лешава. *Памянш.* ж о ў т л я ч о́ к. *Там хорошые гуркі, а не такіе жоўтлячкі.* Пагост.

ЖО'ЎТО *прысл.* Жоўта. *Жоўто ў вочах робіцца, ек вáлны б'юць у лодку.* Дварэц. *Жоўтушок нападало да жоўто под грушэю.* Пагост.

ЖОЎТОБРУ'ШКА *ж.* Маленькая птушка, падобная да вераб'я. *Жоўтобрушка е така малёнька пціцка, бі горобей.* В. Малешава.

ЖОЎТО'К *м.* Жаўток. *Два жоўткі ў ейцы бываюць.* Запясочча. △ У в о б р а́ ц ь ж о ў т к і. Стаць сталым, пасталець. *От, кáгуць, увобраў жоўткі, ек хто ўжэ ўвобраўса ў сілу.* В. Малешава.

ЖОЎТУ'ХА *ж.* Жаўтуха. *Ек захворэў жоўтухою, то зробіўса жоўты, ек воск.* Верасніца. *Жоўтуха з простуды бывае.* Хачэнь.

ЖОЎТУ'ШКА *ж.* 1. Жоўтая спелая грушка-паданка. *Поседзі, Кáцё, я тобе жоўтушку найду.* Луткі. 2. Расліна жаўтушнік. *Жоўтушка — свінячэ зелье.* Хотамель.

ЖО'ЎТЫ *прым.* Жоўты. *Жо́ўце, як муло, тое сало.* Запясочча. *Му лежымо й лежымо, а нешчо вушло жо́ўтэ дай сховалоса.* Верасніца. *У ло́таці жоўты цвет.* В. Малешава. *Памянш.* ж о́ ў ц е н ь к і. *Берэло́з поўз рэку росце, жоўценькіе пу́пошкі.* Цераблічы.

ЖОЎЦЕ'ННЫ *прым.* Вельмі жоўты. *Кашы наварыш з проса, така жоўценна!* Верасніца.

ЖОЎЦЕ'ЦЬ *незак.* Жаўцець. *Помідоры жоўцеюць, зáрэ будуць чырвоные.* Бярэжцы.

ЖО'ЎЦІКІ *мн.* Лісічкі. *У нас этые жоўцікі ўжэ росцуць по бору́.* Луткі.

ЖОЎЦІНА' *ж.* Жаўцізна. *Поку́ль гэта жоўцінá прошла з его, то колькі ўрэм'я прошло.* Верасніца. *Жоўціна на палцах от ку́рэва.* Пагост.

ЖОЎЦЬ *ж.* Жоўць. *Жоўць лопнула да ўжэ не потáла та жонка.* Дварэц. *Захворэў на жоўтуху, жоўць розыходзіцца.* Аздамічы. *Жоўць як монісціна ў в'юнá.* Бярэжцы. *Смола соснова жывіца, і воск, і сало, і жоўць з кобана — то ўсе ішло на лечэнье ран.* В. Малешава.

ЖОЎЦЮ'РА *ж.* Нешта вельмі жоўтае. Аздамічы.

ЖОЎЦЯ'НКА *ж.* Жаўтуха. Альпень.

ЖОЎЧЫ'НА *ж.* Жаўцізна. *На жоўчыну воно, як хіна.* Бярэжцы.

ЖРО'ХАЦЬ *незак.* Фыркаць (пра коней). *Увесь здрыгваецца конь, ек жрохае.* Пагост.

ЖУГАНУ'ЦЬ, ЖУГЕНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць, мат-

нуць. *Кабан дзікі як жугане́ ў бок — не ўспееш і огледзецца.* Бярэжцы. *Як жугене́, корпене́, то берэжы вуха.* В. Малешава.

ЖУ'ГНУЦЬ *зак.* Спаліць, пусціць з дымам. *Сушню жугнулі.* Хачэнь.

ЖУ'ГРЫЦЬ *незак.* Нажарваць, напальваць (у печы). *Трэ добро жугрыць, шоб цепло́ було.* Верасніца.

ЖУ'ДРА, ЖУ'ЙДРА *ж.* Асадак, гушча. *Квас вупілі, одна жудра ў глеку́.* М. Малешава. Каламуць. *Ой, не п'ем, то жудра!* Аздамічы. Твань. *Увобрайса ў жуйдру, не вулезці.* Цераблічы. *Попаў у таку жудру, шчо чуць вубрайса.* В. Малешава.

ЖУ'ЖА *ж.* Твань, рэдкая гразь на балоце. Альпень.

ЖУ'ЖКА *ж.* *Буркайка* (цацка). Альшаны.

ЖУ'ЖЭЛЬ, ЖЫ'ЖЭЛЬ *м.* Жужаль, шлак (у кузні). *У горні жужэль е, его вукіда́юць, вон ужэ спа́ханы.* Луткі. *Земля, бы жужэль.* Бярэжцы. *Жыжэль зро́бітса, ек вуго́лье перэгорыть у горне.* Альпень. Цвёрды нагар у коміне. *Жужэль — то перэгорэўшая ў вогне сажа; ек я трусіла коміна, то буў поўны жужэлю.* Луткі.

ЖУ'ЙКА *ж.* △ Ж у́ й к у ж о в а́ ц ь. Пераважоўваць ежу (пра буйную рагатую жывёлу). *Добрэ, ек корова жуйку жуе, а жуйку не жуе, то негожа.* Запясочча.

ЖУК *м.* Жук. *Не покропі картоплі, то з'есць жук.* Верасніца. *Будзе заўтра погода — жукі летаюць* (прыкмета). Луткі. △ Ж у к в о д з е н ы́. Жук-рыбаед. Пагост. Ж у к р о г а́ т ы. Жук-алень. *Жук рогаты до крове́ па́лца прошчыкнўў.* Там жа. М а́ й с к і ж у к. Хрушч. *У этом годзі майскіх жукоў було вельмі мало, оттого́ і лето холо́днэе.* М. Малешава. К о м а р а́ ц к і ж у к. Каларадскі жук. *Жукі комарацкіе картоплі едзяць.* Запясочча. І ж у к і р а к. Кожны, любы, абы-хто. *Ко́лісь опе́нію знімалі, шчоб стрэ́льба була, а цепэр і жук і рак то стрэ́льбу несе.* Мачуль.

ЖУ'МРЫЦЬ *незак.* Хрупаць. *Корова жумрыць сено.* Верасніца. *Конь жу́мрэе сечку.* Там жа. *От жумрае, бі тая овечка.* Сямігосцічы.

ЖУ'НІ-ЖУ'НІ, ЖУ'НІКІ-ЖУ'НІКІ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць парасят. Дварэц.

ЖУ'ПА' *ж.* Від дзіцячай вопраткі. Запясочча.

ЖУПА'Н *м.* Кажух, пакрыты сукном. *Хто рад жупано́м, а хто й лахманом* (прымаўка). Верасніца.

ЖУР *м.* Жур. *Пшэнічные ву́сеўкі мочаць да заквашваюць — робяць жур, як кісель, а з оўся́ных ву́севок шчэ*

*луччы.* Запясочча. *Сало, як жур.* Старажоўцы. *Мукі з оўса намочым, скісне, нацáдзім на сіто ці ў рукаў, да той цыд варым на жур, а лупý остаюцца.* Кароцічы. *Просею отрубóў, налью цёплою водою, коб кісло, процэджý, а ўжэ водзічку вару — і то мы зовём жур.* Луткі. *Памяни.* ж у р ó к. *Молоко зробілоса, бу журок.* Кароцічы.

ЖУРАВЕ'ЛЬ *м.* 1. Журавель. *Яйка ў журайля недобрые.* Мачуль. *Журайлé на журавіны ў лес лецяць увосень.* Луткі. 2. Журавель (для даставання вады). *Журавель у колóдзеці кóлісь буў.* Верасніца. 3. Аплеценая лазой бутля для гарэлкі (на 7 л). *Журавель — гарцóва пляшка.* Дварэц.

ЖУРАВІ'НКА *ж.* Журавінка (адна ягада). *Поглядзела — а коб тобе журавінка ў хаці!* Верасніца.

ЖУРАВІ'НЫ *мн.* Журавіны. *Кóлісь журавіны булі, так журавіны!* Дварэц. *Трэбо почавіць журавіны і піць, кажуць, гэто помогае от рáка.* Хачэнь.

ЖУРА'ЎКА *ж.* Дэталь у кроснах, на якой трымаецца ніт. *Нітьí на журáўках вісяць.* Пагост. Выраз у ставу. *Журайка одбілас у стацвіне́.* В. Малешава. *У журáўку ўкладáецца полоцéннэ вороціло.* М. Малешава. Уключына (у лодцы). Сямігосцічы.

ЖУРБА' *ж.* Журба, туга, скруха. *Журба на душьí.* Запясочча. *У плачэ́ да ў журбé жывеш.* Пагост. *Журба мене з'ела, ссушыла, зморыла, з нóжок поваліла* (з песні). Сямурадцы. *Памяни.* ж у р б ó н ь к а. *А я той журбóнцы да не покоруса, пойду ў корчомку горэлкі нап'юса. Вуп'ю я кватьíрку, вуп'ю я другую, ці не прызабуду журбоньку ліхýю* (з песні). Сямурадцы.

ЖУРБОВА'ЦЬ *незак.* Сумаваць, гараваць. *Сéрая гýска, дзе ты бувала, дзе журбовала? — За сінім морэм дзеці годовала* (з дзіцячай песні-вяснянкі). Верасніца.

ЖУРЫ'ЦЦА *незак.* Журыцца, сумаваць. *До вéку буду я журыцца по ём.* Запясочча. *Под'есса, шоб дома не журыліса* (прыказка). М. Малешава. Бедаваць, перажываць. *Ек дзеці малые, то жýрымса, шчо не даюць спаць, ек бóльшые — зноў не спімó.* Луткі. *Не журыса по мне, мне тут дóбрэ.* Хачэнь. *Жýрымоса, ек ту корову прокорміць.* Аздамічы. Непакоіцца, турбавацца. *Вон ужэ начынае буць хазяіном, а то нічым не журыўса.* Луткі. *Жýрыцца, шчо ёй трэба косіць, да негожа.* Бярэжцы.

Старацца. *Я буду ім журыцца, хай самые думаюць про тэе.* В. Малешава.

ЖУ'ХНУЦЬ *зак.* Шуснуць, раптоўна скочыць (у ваду). *Як жухнуло нешчо ў воду, аж брохнуло.* Цераблічы. *Я жух у ту воду по колено!* Луткі. Пыхнуць (пра агонь). *Огонь жухнуў, ек карасіны лінула на дрова.* Верасніца.

ЖЫВА'ВЫ *прым.* Жывучы. *Нема нічого такого жывавого, ек чоловек.* Запясочча. Жвавы, рухавы. *Жывавы дзядзько вон, той Іван, сюд-туд і нема його.* Луткі. *Уюны жывавые.* Аздамічы.

ЖЫВЕ'НЬКІ *прым.* 1. *Памянш. да* жыву. *Да побегла, да захваціла шчэ жівенького.* Бярэжцы. 2. Кідкі, выразны. *Жувенькім цвіце молочай.* Хотамель.

ЖЫВЕ'Ц *м.* 1. Чысты жоўценькі пясок; слой такога пяску на глыбіні. Луткі. 2. Слаба ссуканая нітка. Хотамель. 3. Шнур, да якога прывязваюцца вочкі ніта. *Жывец — подоўжна нітка, на екую кобулкі ўязалі.* В. Малешава.

ЖЫВЁЛА *ж.* Жывёла. *Надумайса, шо і не надо знаць, як жывёла говоріць.* Бярэжцы. *І жывёлі без ласкі пагано.* Пагост.

ЖЫВЁЛІНА *ж.* Жывёліна. *Яка жывёліна і то шкода, а то ж чоловек!* Верасніца.

ЖЫВІ'ЦА *ж.* 1. Жывіца. Запясочча. 2. Нешта спажыўнае. *Сонцэ-колонцэ, у серэдзіне жывіца, хто не одгадае, не будзе век жэніцца* (загадка). *Соўнечнік* (адгадка). Цераблічы.

ЖЫВІ'ЦЦА *незак.* Жывіцца, харчавацца. *Вороңякі падлом жыв'яцца.* Верасніца. *Людзі того звера, шо м'ясом жывіцца, не едзяць.* Пагост.

ЖЫВІ'ЦЬ *незак.* Мучыць, здзекавацца. *Той пан жывіў народ страшно!* Верасніца.

ЖЫВО'Е *н.* Выдумкі, хлусня. Цераблічы.

ЖЫВОКО'СТ *м.* Расліна жывакост. *Як мне перэбілі руку, то я піла жывокост і мочыла руку, і зросласа.* Хачэнь. *Жывокост росце тожэ пры лугу.* Хачэнь.

ЖЫВОСІ'Л *м.* Дзівасіл. *Ж жывосіла корня лекарство е.* Альпень.

ЖЫВОСО'Л, ЖЫВОСО'ЛЬ *м.* Расол, у якім вытрымлівалі мяса для даўжэйшага захавання. *Жывосол варылі: каляндру, лаўрову ліст кідалі, ек картопліна ўсплыве, то ўжэ добры жывосол.* Верасніца. *Хто робіць жывосол да просольвае тые сцёгна пару недзель,*

*да вешае, шчоб засохлі, а потом вéндзяць.* Сямігосцічы. Расол з пасоленага мяса або сала. *Закручваем у бáнкі сало, і жывосол там е, то воно нішчо, добрэ так.* Луткі. *Жывосол зробіцца, ек м'ясо складзем.* Бярэжцы. Маслёнка пры тапленні масла. Альпень. *Жывосоль.* Запясочча.

ЖЫВО'Т, ЖВОТ *м.* Жывот. *Роспарвалі жывоты коровáм, ек об'едаліса да здувало.* Пагост. *Берэ, ек богатого за жывот* (прымаўка). Сямігосцічы. *Пообедаў, шчо жывот не ведаў* (прыказка). Луткі. *Нóва-новінá, шоб по жывотý не гула* (прыгаворка, калі ўпершыню каштуюць садавіну або гародніну з новага ўраджаю). Сямурадцы. *Жвот боліть.* Рубель. △ Мець бóга ў жывоцé. Быць сумленным, жаласлівым. *Антоновіч, майце бога ў своём жывоце да покорміце корову, коб не рэўлá!* Луткі. Жывотá нарвáць. Папасмяяцца. Верасніца.

ЖЫВО'ТНЫ *прым.* Прыдатны да справы, спраўны, добры. *Такіе жывотные да похапные нóжніцы.* Цераблічы.

ЖЫВОТО'КА *ж.* Грузкая неперасыхаючая нізінка. *Жывотока, дзе цягне вода і не перэсыхае, там грузко.* Верасніца. *З одноé долінкі да ў другý жывотока процекáе.* Буразі. *Там жывотока е, ее не перэедзеш.* Любавічы.

ЖЫВУ' *прым.* 1. Жывы. *Немцы занеслі тое дзіця да жывое ў нежывые кінулі.* В. Малешава. *Ек воўк горло троне, то нікогда не будзе жывая корова.* Любавічы. *Жывы ў зéмлю не полезе* (прымаўка). Хачэнь. *Жывэ́ об жывэ думае* (прымаўка). Там жа. 2. Сыры, недапрацаваны. *Попошарýём, попошаруём конóплі:— Мамо, побач, ці дóбрэ? — Ой, шчэ трошкі, шчэ ж жывэ е.* Пагост. 3. Цэлы, некрануты. *По жывому подраў штаны.* Верасніца. 4. Жвавы, бойкі. *Жывая дзеўка була, усюды вона поспевала.* В. Малешава. Цікаўны, з жывым розумам. *Ек з ім поговорыць, то віднó, шчо вон жывы́ чоловек.* Мачуль. *Гомонкі, жывý, про кóлісьне вупýтвае.* Пагост. △ Жывý жывýм. Як жывы. *До того вýрысуе, шчо жывэ́ жывýм.* Луткі. Жывóго немá. Ніводнага не пакінуць. *Почуў кóце рыбу, дак жывóе нема.* В. Малешава. Жывáя мукá ў хлéбе. Нявыпечаны, нявымешаны хлеб. Жывóе м'ясо. Недаваранае мяса. Жывáя соль. Занадта салёнае, адна соль. *Узела того вускорка, а вон жывая соль.*

Луткі. Ні жыву ні мёртву. Перапалоханы да смерці. *Прыходзіць ні жывá ні мёртва.* Запясочча. У жывýх. Жывы, пры жыцці. *Усе ў жывух — восем хлóпцоў і п'яць дзéвок.* Луткі.

ЖЫВУ'ЛЕНЬКІ *прым.* Жывенечкі. *Да той, як дуб, да як жывуленькі!* (пра нябожчыка). М. Малешава.

ЖЫВУ'ШЧЫ, ЖЫВУ'ЧЫ *прым.* Жывучы. *Кот жывýшчы.* Верасніца. *Дзед даўно ўмёр, а баба жывýча, жы́ловата.* Там жа. *Сáмо чоловек жывýчы над усякого звéра.* Пагост.

ЖЫВУ'ШЧЭ *н.* Жыццё. *Як на жывýшчэ, то помогаюць докторы́, а як на смерць, то не помóжэ і светы́ бóже.* Аздамічы.

ЖЫГА'ЛО *н.* 1. Вожаг. Бярэжцы. 2. Жалезны пруток, завостраны з аднаго боку, швайка. *Свінью колюць жыгáлом.* Пагост.

ЖЫ'ГАЦЬ *незак.* Соваць. *Бувало молодý везуць, то под воз солому жыгаюць.* Хачэнь. *От жы́гаю палкою ў норý, мо ліса вýжэну.* Пагост.

ЖЫГЕНУ'ЦЬ, ЖЭГЕНУ'ЦЬ *зак.* Выцяць (прутам, пугаю). *От ек жыгенý, то будзеш пóдскаком лецець!* Верасніца. Сунуць. *Куда я жэгенýла бумажніка, ты не бачыла?* Чэрнічы.

ЖЫ'ЖА *ж.* Агонь, апёк (у дзіцячай мове і ў размове дарослых з дзецьмі). *Не лезь, бо там жыжа!* Запясочча. *Ой, не спечы ручкі, бо будзе жыжа.* Луткі.

ЖЫ'ЖКА *ж.* Жыгучка. *Нема нічого, крапіва одна посеена жыжка.* Дварэц. *Е жыжка і так проківа.* Чэрнічы.

ЖЫ'ЗНЯ, ЖЫ'ЖНЯ *ж.* Жыццё, век. *Твоя жызня прожы́тая, а вона ідзе проці вéку, то ей трэба.* М. Малешава. *Така жы́жня була — усе лапці носілі, й пралі, й ткалі, цэпáмі молоцілі.* Там жа. *Колькі тое жызні!* Пагост.

ЖЫ'ЛА' *ж.* 1. Крывяносны сасуд. *Понатýжваліса, аж жы́лы на ногах поўступáлі.* Верасніца. *Раз жы́лы б'юцца, то махáлі і одмáялі, ожы́ў.* Пагост. *У мого чоловека осколок на жылé буў, вон ранены буў.* Хачэнь. 2. Малочная залоза (у каровы). *Жылá тоўстá — молока богáто дае корова.* Запясочча. 3. Падземная крыніца, ваданосны пласт. *Нейка такá жылá, шо водá плохá.* Запясочча. *Попаў на жы́лу — дóбра водá будзе.* Сямігосцічы. Пратока. *У нас таке болото е, жылá цягне там, не замерзáе, чэчэ́, слізіць.* Аздамічы. *Жылá é,*

*дзе вода пробегáе по долінцы.* В. Малешава. Стрыжань ракі, асноўны напрамак цячэння. *На Случы́ самá жылá не замерзáе.* Верасніца. *Рэкá свою жы́лу знае, по своей жылé цечэ.* Буразі.

ЖЫЛА'ВУ, ЖЫ'ЛОВУ *прым.* Жылісты. *Жылáву — худы́ да здорóву.* Запясочча. Цягучы. *Ек сýчыце свечку, подогрэ́еце, то воск жы́ловы рóбіцца.* Луткі. Цягавіты, дужы. *Жы́лова вона й вон жы́лову — то горуюць.* Верасніца. Жывучы. *Кот жы́ловы, не можно рáды даць звéсці со свету.* Луткі. *От жылáву, ек вуж!* Запясочча. Моцны, трывалы. *Коробка жылавю́йша шчытаецца з в'я́за ці з бэ́рэсту.* Хотамель.

ЖЫ'ЛКА *ж.* 1. Жылка, тонкі крывяносны сасуд. *Башковіты чоловек, колі на льбé дзве жылкі е коло кос.* Луткі. *Так напужáйса, шо аж жы́лкі трасуцца.* Верасніца. 2. Пражылак, ніцепадобная палоска, пісяжок. *Белые жылкі од молока побегуць по пóйлочку.* В. Малешава. 3. Добра вычасаная жменька льну. Запясочча. *Памянш.* жы́лочка. *Перэгры́злі тую палку шэ́ршні, одно жылочка осталаса.* Луткі.

ЖЫ'ЛОВА'ТЫ *прым.* Жылісты, мускулісты. *Вон такі жыловáты чоловек, бачнó, шо сільны.* Запясочча. Цягавіты, жывучы. *Вона жы́ловата, ек тхор.* Чэрнічы.

ЖЫМАНУ'ЦЬ, ЖЭМЕНУ'ЦЬ *зак.* Цісkануць. *Так жыманýлі ёгó, шо аж пýрскі полецéлі.* Верасніца. *Жэмені стóга!* М. Малешава.

ЖЫМЕ'РВА *ж.* Багна, багністае месца. *Жымéрва, вýлезці не мóжно!* Цераблічы.

ЖЫР *м.* 1. Жыраванне, жыўленне (звяроў, птушак, рыб). *Вутвэ́ лецяць на жыр.* Аздамічы. *Ідзе і воўк на жыр жыровáць.* Мачуль. 2. Тлушч. *Жы́ру набегло богато — сало топкé.* Хотамель. △ Лё́гкіе жырэ́. Лёгкі хлеб, заработкі. *Невéст нема, на лёгкіе жырэ ў город поехалі.* Пагост.

ЖЫ'РКО *прысл.* Ярка, горача. *Жырко горацъ дрóвы.* Альпень. *Жырко коло печэ́, аж смáліць.* Пагост. *Коб не жырко було, коб рýкі не спаліў!* Рубель.

ЖЫ'РНО *прысл.* Сытна. *Корову трэбо жырно корміць, а козý абý-як.* Верасніца.

ЖЫРНУ'ЦЬ *зак.* Балюча выцяць, сцебануць. *От жырнýў пугою, шо аж ля́снуло!* Старажоўцы.

ЖЫ'РНЫ *прым.* 1. Неперабарлівы ў ежы. *От жырны кабан, шо ні дай, усе з'есць.* Запясочча. *Не набрацца тобе есті, такі жырны.* Альпень. *Воны людзі жыр-*

*ные, нічым не грумечаюць, усе едзяць подрад.* М. Малешава. 2. Тлусты. *М'ясо жырнэ, самэ сало.* Мачуль. *Жырны боршч, хоць стань на ём.* В. Малешава. *От жырное сало, натекло много жыру.* Альпень.

ЖЫРОВА'ЦЬ *незак.* Жывіцца, прагна есці (пра жывёл, птушак, рыб). *Гэтые куреня́та жыру́юць і жыруюць!* Запясочча. *Вутвэ́ жыруюць, опол́онікі едзяць.* Аздамічы. *Ву́тва жыру́е еку мо́шку, гразь.* Цераблічы.

ЖЫРО'ЎНЫ *прым.* Непераборлівы ў ежы. *Жыроу́ные коровы.* Хачэнь. *Вон з тако́е хаты жыроу́но́е, шчо попа́ло едзяць, ко́лісь мекіну тоўклі да елі.* Дварэц.

ЖЫ'ТКА *ж.* Жыццё. *Пага́на ее жітка — до войны́ двое дзецей умерло́, чоловек на хронці загінуў, але ж жіве́, ду́хом не у́пала.* Пагост. *О цепер жы́тка, не поко́лішнёму людзі жывуць!* Луткі. *Жыве кот, жыве й собака, да жытка не одна́ка* (прымаўка). Запясочча. *Ну й жытка, на трох одна світка!* (прымаўка). Верасніца. *Чужая жы́тка — цёмны лес* (прымаўка). Там жа.

ЖЫ'ТНІ, ЖЫ'ТНЫ *прым.* Жытні, з жыта. *Жытны хлеб.* Чэрнічы. *Коб жытня мука, да рошчыніў у дзежэ́, то буў бы хлеб смашны.* Луткі. *Жытні колос.* Верасніца. *Жы́тні хлеб.* Цераблічы. *У нас сцебло жы́тное поўтора метра.* В. Малешава.

ЖЫ'ТНІШЧЭ *н.* Жытнішча. *Па́сціла на жы́тнішчы корову́.* Верасніца. *Орэ́ жытнішчэ.* Рамель.

ЖЫ'ТО *н.* Жыта. *У Сле́пцах сеяў чоловек жыто на шчэдрэ́ц да нашоў копейкі на полі.* Дварэц. *Жыто на картопля́нішчах сеялі, а лён, дзе гнойна земля́, бо поля́жэ.* М. Малешава. *Уміраць збірайса, а жыто сей* (прымаўка). В. Малешава. *За мое́ ж жыто дай мене набіто* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЖЫЎЁ'М *прысл.* Жыўцом. *Жыўём коўта́е кожу́шок рыбу.* Верасніца.

ЖЫЎЦЭ'М *прысл.* Тое ж. *Немец думаў нас жыўцэм узяць!* Цераблічы.

ЖЫ'ЎШЫ *дзеепрысл.* Жывучы. *Без хозяіна жыўшы, нацерпе́ласа.* Бярэжцы. *Жыўшы по лю́дзях, усего набачыша.* Верасніца.

ЖЫ'ЦЕЛЬКА *ж.* Жыхарка (мясцовая). *Познакомілаcа з нашымі дзеўчатамі і будзеш, ек жыцелька.* Хачэнь. *З Росіі тры жо́нкі ў селе е, то такіе ж жыцелькі сталі, ек і нашы.* Пагост.

ЖЫ'ЦЕЦ *м.* 1. Аўсяніца лугавая. *У ільне́ наподобіе дурцу, а соломка здорова, бліскуча, то говорым жы-*

*цец.* Мачуль. *Жыцец — то така шоўко́венька трава во льне.* Луткі. 2. Каласоўнік. *Жытец по полю росте, ек бывае ў пашне́, то вырывають.* Альпень.

ЖЫ′ЦІНА *ж.* Сцябліна жыта. *Жыціна росце, росце, а да́ле похіліцца.* Луткі. *Памянш.* жы́цінка. *Як умрэ, то кро́пяць святой жы́цінкой во́ду і ямку.* М. Малешава.

ЖЫ′ЦЦА *незак.* Жыцца. *Будзе жыцца, будуць розжыва́цца.* Верасніца. *Жыло́са добре.* Кароцічы.

ЖЫЦЬ *незак.* 1. Жыць, быць жывым. *Дзя́куй богу, шо жыве́ целя, не здохло.* Дварэц. *Вон гэтого нічого не есць, за солодкім і жыве.* Кароцічы. Жыць, існаваць. *Да чому ж Оры́ні плохо жыць? Коло до́чкі жыве́, не сама.* Пагост. Пражываць, знаходзіцца. *Здоро́вы жыве́це ў хаце!* (пажаданне на наваселле). Цераблічы. *Му тута век жыво́м, то му ту́больцы.* Аздамічы. *У нас круго́м осерэ́дкамі жывуть.* Рубель. 2. Пражываць разам, суіснаваць. *З намі хо́рошэ жыве Горшколе́п, навек хо́рошэ, му не езыку́ем.* Дварэц. 3. Быць, бываць. *Я часто жыву́ ў Ту́рові.* Хільчыцы. *Ек до́бро посоліш, то воно, сало, бе́лэ і бе́лэ жыве́.* Цераблічы. *За́вшэ так жыве́: орэцца на двое го́ней.* Аздамічы. *Е′стека мэла́ на дерэві, ліст опаде, а вона жывэ́ зелёна.* Рубель. *Весной вода́ скрозь жывэ́ тут.* Цераблічы. Быць, існаваць, цягнуцца. *Мясоед жыве дзевець недзель.* Альшаны. Заставацца. *Не розварыліса карто́плі, так цэ́ленькіе і жывуць.* Бярэжцы. *Дзежу́ моцно не ву́скрэбеш, да так і жыве.* М. Малешава. Быць, знаходзіцца. *Мабуць, вон і жыве ў капліцы, той крэст.* М. Малешава. Весціся, расці. *Рак по-над рэкой жыве.* Верасніца. *Куцейка, шчо на сеножа́цях жыве.* Бярэжцы. *Осока́ на ку́піне жыве.* Цераблічы. △ Жыць у бе́дном дворы́. Гараваць. *Вон у бедном дворы, як той кажэ, жыве — жонка нічогая.* М. Малешава.

ЖЫЦЬЕ′ *н.* Жыццё. *Еке тэ жыцье, не годзяшча воды прынесці!* Хачэнь.

ЖЫ′ЧКА *ж.* Жычка, тонкая стужачка. *Жы́чкой завязвалі коўнер у сороццы.* Запясочча. *Жычка — сто́нжка такая чырвона ў коўне́ры́, шо обцягваць заборы ге.* Мачуль.

ЖЭБЕРДЗЁВА′ТЫ *прым.* Гнілаваты (пра дрэва). *Жэбердзёвата дзерэвіна.* Верасніца.

ЖЭБЕРДЗІ′НА *ж.* Дрэва з гнілінай. *Жэбердзіна больш погніўшы, чым ха́ут.* Верасніца.

ЖЭБРА́К *м.* Жабрак. *Жэбрак — у кого нічого нема.* В. Малешава.

ЖЭБРОВА́ЦЬ *незак.* Жабраваць. *Да ходзілі жебровацъ усе, а так подохлі б без хлеба.* Бярэжцы.

ЖЭЛЕ́ЗКО *н.* 1. Жалезца, рэжучая частка ў гэблі. *Погостры́ жэлёзко ў гёблю.* Верасніца. 2 *мн.* Пастачка. *Не лезь, бо бабка жэлёзка поставіла, да ўпадзёш, як тхор.* Хотамель.

ЖЭЛЕ́ЗНІК *м.* Рыдлёўка. Альшаны.

ЖЭЛЕ́ЗНЫ, ЗЕЛЕ́ЗНЫ, ЗАЛЕ́ЗНЫ *прым.* Жалезны. *По чотыры во́зы жэлезные мелі, п'яты — дзерэвянны.* Верасніца. *Не йдзеце ў жыто, бо там русайка да з цыцка́мі зелезнымі, да вона цебе ўхо́піць да поцягне ў жыто.* Луткі. *Залёзна борона.* Сямурадцы.

ЖЭЛЕЗНЯ́К, ЗЕЛЕЗНЯ́К *м.* 1. Рыдлёўка. *У мене було два жэлезнякі, да обо́два поламаліса, а цепер нема чым і градкі скопаць у городзі.* Кароцічы. *Зелезняко́м копалі граду і робілі глубо́ку розору, шоб вода́ сцека́ла.* М. Малешава. 2. Ж э л е з н я́ к і *мн.* Металічныя грошы, капейкі. Хотамель.

ЖЭЛЕ́ЗО, ЗЕЛЕ́ЗО, ЗАЛЕ́ЗО *н.* 1. Жалеза. *Нацяга́ў поўную одрыну ўсякого жэлёза.* Верасніца. *Лезу, лезу по жэлёзу — подай, куме, шапку* (загадка). *Юшка заклада́е коміна* (адгадка). Там жа. *Зелезо шчадзілі лу́ччэй за хлеб.* В. Малешава. 2. Пастка. *Жэлёза осталіса, а сам тхор пролез кроз плот.* Сямігосцічы. *Ідзе воўк да тую ніточку обрушыць, да тые жэлёза раз за хлябы того во́ўка!* Цераблічы. *Так тру́дно тхора́ поймаць, у залезо толькі ёго́, ек от залезо таке е, ек подкова од коня.* Пагост. *Поставіў зелёза, куды іціме, то трапіць звер.* Луткі. 3. Жалезная рашотка ў свяцільным коміне, на якую клалі лучыну. *Жэлёза.* Сямігосцічы. *Зелёзо.* Кароцічы.

ЖЭЛЕЗЯ́КА *ж.* Жалязяка; жалезіна. *Мне жэлезя́ка така трэба бо́чэчку накрываць.* Пагост.

ЖЭЛЕЗЯ́Ч'Е *н. зб.* Жалеззе. *Усе жэлезяч'е знадо́біцца ему.* Луткі.

ЖЭЛЕСЦІ́НА *ж.* Жасцёр. *Жэлестіна колюча, як груша.* Альпень. *Жэлестіна — ягоды красные, ростуть у лесе.* Там жа.

ЖЭНЕ́НЬЕ, ЖОНЕ́НЬЕ *н.* Жаніцьба. *Кому жэненье, а кому беда!* Верасніца. *Я то горэлкі не запутваў до жэненья.* Старажоўцы. *На жоненье шчэ молоды́.* Луткі.

ЖЭНІ'Х *м.* Жаніх, кавалер. *Ву́рос ек бач хло́пец, жэніх ужэ.* Пагост. △ С о л о́ м ' е н ы ж э н і́ х. Стары кавалер. *Як не ожэніцца до трыццаці год, то кажуць соло́м'ены жэніх.* Аздамічы.

ЖЭНІ'ЦЦА *незак.* Жаніцца. *На веселье ехала, як хрышчэ́нік жэніу́са.* Дварэц. *Трэба жэніцца — хаты нема, хоць под барка́ном спі ж жонкою!* Пагост.

ЖЭНІ'ЦЬ *незак.* Жаніць. *Ці чулі, Тэкля сына жэніць?* Луткі. △ Ж э н і́ ц ь к о́ м і н а. Адзначаць запальванне лучыны ў свяцільным коміне ў першы раз пасля летняга перапынку. *Жэ́нім коміна з ковенёю.* Кароцічы. *Коміна этого жэнілі, як сеялі пшэніцу.* Хачэнь. *Поставіць ковеню́ ля коміна, вілкі́, сыпле зе́рнета да жэ́няць коміна.* Луткі.

Звычай «жэніць коміна» вядомы толькі з успамінаў. Гэты звычай меў раней пэўнае сакральнае ці аберагальнае значэнне. *Жэ́няць ко́міна, — обвяжуць хме́лем коміна да зе́рнета сыплюць, а дзеці збіраюць да едзяць. У хаце прыбіраюць, хозяйка накладзе чысту сподніцу, хустку, шчоб не было зе́лья ў пашне́...* Дварэц. *Як пе́рву раз запальвалі посве́т, прасці садзіліс, так жэ́няць ко́міна. Зе́рнета маці кідала на того коміна. Бо як жэ́няцца, то молодо́му тожэ ста́ўляць зе́рнета ў тарылцы. Разоў тры сыпала. Була постанова ко́лішняя, шчэ прэцьковецкая нейкая.* М. Малешава.

ЖЭНЬ *м.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога ўзбіраліся на дрэва глядзець пчол у калодах ці борцях, усцягвалі калоды на дрэва. Хотамель.

ЖЭРДЗЕ'ЙКА *ж.* Парода кароў. *Мое короўкі молочко сма́шнэ, вона жэрдзейка.* Дварэц.

ЖЭРДЗІ'НА *ж.* Жардзіна, тонкая доўгая палка. *Отсек жэрдзіну на плот.* Верасніца. *На жэ́рдзіні подве́шваюць прося́нку, шоб досо́хла.* М. Малешава. *Жэрдзіна на пню вы́росла.* Альпень.

ЖЭРДЗЯ'НКА *ж.* Часовая пабудова з жэрдак, абкладзеных чаротам. Мачуль.

ЖЭРЛЮ'К *м.* Маленькі шчупачок. *Жэрлю́к — летошні шчупак.* Запясочча. *Ой, ека там рыба — одны́е жэрлюкі!* Верасніца.

ЖЭРЛЯ' *н.* Тое ж. *Кожу́шэчкі мале́нькіе — то жэрля́та.* Сямігосцічы.

ЖЭРНО'ЎКА *ж.* Астравок сярод ракі. Запясочча.

ЖЭРО'БКА *ж.* Жаробка, маладая кабылка. *Е жэробка, е і жэробчык му́ры.* Цераблічы.

ЖЭРО′БНА *прым.* Жарэбная. *Жэро́бная кобу́ла ожэрэбіласа да прывела́ хоро́шэе жэрэбя́.* М. Малешава.

ЖЭРО′БЧЫК, ЖЭРЭ′БЧЫК *м.* Жарэбчык. *Буў жэро́бчык му́ры ў нас.* Цераблічы. *Жэрэ́бчык.* Альшаны.

ЖЭ′РТОЧКА *ж.* Жэрдачка, шосцік каля печы, на які вешалі адзенне, посцілкі. Запясочча. Частка ткацкага станка. Кароцічы.

ЖЭРУ′Н *м.* Абжора. *Прыбе́глі жэруны́, давай ім есці!* М. Малешава.

ЖЭ′РЦІ *незак.* Жэрці. *Жорэ́ як не ў себе!* Запясочча. *Воны ловілі, а я буду жэ́рці?* В. Малешава. *Ну й жыру́ць свінья, жыруць-жыруць, до шкарлаціны жыруць!* Хотамель.

ЖЭ′РЭБ *м.* 1. Доля, лёс. *Мне такі жэ́рэб попаў, нічого не зробіш.* Верасніца. *Век не перэеда́ўса, то й не хворэ́ў, такі ёму́ жэрэб вупа́ў.* Пагост. 2. Кіёчак пры гульні *ў жэрэб.* △ У ж э́ р э б. Дзіцячая гульня з кіёчкам. Сямігосцічы.

ЖЭРЭБЕ′Ц *м.* Жарабок. *Повезлі до Турова жэрэбцэ́м.* М. Малешава. *Перэпіваю чорного жэрэбца́, шо жэ́ніцеса без венца́* (з вясельных прыгаворак). Старажоўцы. *Чого ты ржэш, ек жэрэбец?* Верасніца.

ЖЭРЭБІ′ЦА *ж.* Жаробка, маладая кабылка. *Жэрэбіца хоро́ша, шчэ незапра́гана.* Цераблічы. *Памянш.* ж э р э б і ц к а, ж э р э б і ч к а. *Жэрэбіцку кобула прыўела́.* Хачэнь. *Жэрэбічка.* Аздамічы.

ЖЭРЭБІ′ЦЦА *незак.* Жарабіцца. *Не крычы́, кобула жэрэ́біцца!* Пагост.

ЖЭРЭБІ′ЦЬ *незак.* Жарабіць. *Но́ва-новіна́, шоб не болела голова, а тогды шоб заболела, ек будзе конь кобулу жэрэбі́ць* (г. зн. ніколі, жартоўна, прыгаворка, калі ўпершыню каштуюць садавіну ці гародніну з новага ўраджаю). Хачэнь.

ЖЭРЭБО′К *м.* Жэрабя. *Поцягнем жэрэбкі, хто выцягне коро́ччу, той побежыць.* Сямігосцічы.

ЖЭРЭБ′Я′, ЖЭРЭБЯ′ *н.* 1. Жарабя. *Не подпуска́е к жэрэб'я́ці кобула.* Пагост. *А дзе жэрэб'я́? — По лепе́шніку погнала его.* Цераблічы. 2. Жэрабя. *Цегну́лі жэрэ́бі на заго́ны, ек дзеліліса з бацьком.* В. Малешава.

ЖЭ′РЭДЗЬ *ж.* Жэрдка. *Жэ́рэдзі на пло́та коньмі́ прывёз.* Пагост.

ЖЭРЭЛЕСЦІ'НА *ж.* Ядловец. *Жерелесціна.* Альшаны.

ЖЭРЭЛО', ЖЭРЛО' *н.* 1. Прадонне, жэрла крыніцы ў балоце. *Тэ жэрэло́ ў тым болоці, мэтр-поўтора той гразю́кі, ено ек жыво́е, ворушыцца, дышэ; там угрузнеш дай не вы́лезеш.* Мачуль. *Нема я́мок, жэрэла́ позароста́лі, а булі глубокіе.* Цераблічы. *У болоці жэрло е, дзе вода да чыстэ место.* Там жа. Неперасыхаючае месца, па якім цячэ вада. *Жэрэло́ пошло скрозь, перэйці не можно.* Цераблічы. Балацявіна, якая ўдаецца ў лес. Аздамічы. Ваданосны пласт у зямлі. *Попаў на жэрло, акурат той ход воды подземный.* Мачуль. Ваданосная жыла. *До́бра вода́ ў колодезі, як на жэрло попаў.* Альпень. *Бывае, копаем колодзезя, то як покажэцца земля з водой, то кажуць: докопаліса жэрла́.* Хотамель. Струмень вады, які выбіваецца з зямлі, крыніца. *Жэрло ўверх моцно б'е.* Там жа. 2. Стрыжань у нарыве. *Ек нарве шчо, чыра́к екі, то тэ жо́ўце зовуць жэрэло.* Запясочча. *Жэрэло коб ву́цегці, то б ужэ гоілос.* Луткі. *У боля́чцы е жэрэло густое, то ек воно вуйдзе, то й боля́чка пропадзе.* М. Малешава. *Як жэрло вытягнем, то заго́ітса.* Альпень. 3. Джала. *Укусіць пчола́, жырло́ ее ў палцы остаецца.* Цераблічы. *А жэрэло ву́цяг з па́лца?* Там жа. *Здрок тожэ з жэрло́м.* Альпень. 4. Стрыжань у дрэве. Альшаны.

ЖЭ'ЎЖА *м.* і *ж.* Жэўжык, гарэза. *Жэ́ўжы, годзе крычалі!* Запясочча.

ЖЭ'ЎЖЫК *м.* Тое ж. *От жэўжык, от подскаквае!* Сямігосцічы. *У дочкі жэўжык е малы́, не дае поседзець.* Хотамель.

ЖЭ'ЎЛЕЦЬ *незак.* Тлець, гарэць без полымя. *Торф полымем не горыць да жэ́ўлее.* Рубель.

ЖЭ'ЎРЭЦЬ *незак.* Тое ж. *Жэ́ўрае, жэ́ўрае і не загоры́цца.* Хільчыцы. *Жэ́ўрэе болото, нехто подпаліў.* Луткі. *Пустые дро́ва, то не хочуць горэць, а жэ́ўрэюць.* Там жа.

# З

З, ІЗ *прыназ.* З. *З одного боку печэ, а з другого сечэ* (прымаўка). Запясочча. Ад. *З рэза́чкі ў во́йну погінуло двое дзецей.* Хачэнь. *Перва жонка з бога, а друга з*

*людзей* (прымаўка). М. Малешава. Пасля. *Корова мокрэе з ночы* (пра хворую карову). Хачэнь. Па. *З однеёю травою месец свіньн стояць.* Альшаны. *Грошы зо собой нócіць, не можно.* Сямігосцічы. *Да прышлі ко мне сватьí із Тонеж.* Старажоўцы.

ЗА *прыназ.* За. *За дзень вон воз накосіць, да сын, да зяць, да воз тры й будзе.* Мачуль. *Сяду я за стол да подумаю* (з песні). Хотамель. З. *Тут за дровамі трýдно.* Сямігосцічы. *Рыба посхóдзіла за водою.* Цераблічы. З-за. *От за гэтого людзі здорóвуе.* М. Малешава. Па. *За тым жýром і ног не поцягнеш.* Верасніца. *За порадком беры бліны!* В. Малешава. Пры. *За царá гродзенцы купілі тут зёмлю і осталіса жыць.* Сямігосцічы. На. *Вывучылаcа за настаўніцу моя дочушка.* Хачэнь. У якасці. *Век прожыў за стóрожа.* Цераблічы.

ЗАБАБЕ′ЦЬ *зак.* Састарэць. *Забабела ўжэ, дзецей не рожае.* Буразі.

ЗАБА′ВІЦЦА *зак.* Забавіцца. *Вон цепер забавіцца ў млінý, позно поехаў.* Луткі. *Мо трохі забавяцца вутвý на водзе.* Верасніца. *Я не забаўлюс прóйці дзевець кілóметроў.* Луткі.

ЗАБАГА′ТО *прысл.* Празмерна. *Ужэ ты забагато знаеш!* Цераблічы.

ЗАБАГА′ЦЕЦЬ *зак.* Забагацець. *За лён забагáцелі людзі.* Дварэц.

ЗАБАЖА′ЦЦА *зак.* Захацецца, зажадацца. *Забажáлоса на Вýгон сходзіць мне.* Сямігосцічы. *Забажаўса буў не сала, а й хлеба.* Верасніца.

ЗАБАЖА′ЦЬ *зак.* Захацець. *Сыны забажáлі жэніцца.* Запясочча. *Мо Кірыло попа забажаў* (пра хворага). Луткі.

ЗАБАЛА′КАЦЦА *зак.* Загаманіцца. *Ты там забалáкаласа і не пошла ў ягоды.* Луткі. *Ат, забалакайса дай забуўса про еду.* Верасніца.

ЗАБАЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Забаўляцца. *Дзіця забаўляцца будзе, не плачэ, гуляе собе нішком.* Луткі.

ЗАБАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Забаўляць. *Прышоў да забаўляе нас, а воны пошлі ў грýшкі.* Верасніца. *Не хочэ ў гуртý робіць, ленуецца, шчэ і другіх забаўляе.* Бярэжцы.

ЗАБАЎНО′ *прысл.* Забаўна. *Забаўно говóрыць.* Аздамічы. Марудна. *От полóць пóйдом лён, да забаўно: гýстэ зёлье, лён велікі, да не можно бустро полоць.* Верасніца.

ЗА′БЕ′Г *м.* Ухаба. *У забёг кованые сані не пойдуць.* Луткі. *Зáбег.* Аздамічы.

ЗАБЕ′ГАЦЦА *зак.* Забегацца. *Забéгаўса за товаром, хай его дох возьме!* Цераблічы.

ЗАБЕГА′ЦЬ *незак.* Забягаць. *Забегáюць сані ў зáбегі.* Запясочча. *Ек вуп'е сто грам, то езык забегáе.* Сямурадцы.

ЗА′БЕГНЯ *ж.* Ухаба. *Сані чыбулды́к с сеном на забегні!* Цераблічы.

ЗАБЕДНЕ′ЦЬ *зак.* Збяднець. *Не того му забеднелі, шо ў нас спілі да з'елі, а того збеднелі, шо не загоровалі* (прымаўка). Сямурадцы.

ЗАБЕ′ЛЬВАЦЦА *незак.* Віднецца. *Чуць стало забельвацца на дзень.* Луткі.

ЗАБЕ′ЛЬВАЦЬ *незак.* 1. Тое ж. *Стало забельваць на дзень.* Запясочча. 2. Прыпраўляць страву малаком. *Молоком забельваюць крупнік, ек мало молока.* М. Малешава.

ЗАБЕРДЖО′ВАСТЫ *прым.* Абалонны, з нетрывалымі, спарахнелымі слаямі (пра драўніну). *Забердж*ó*васта хвоя, гýбы на ей, скрозь поцягло гнільлю.* Запясочча.

ЗАБЕ′РДЗЁВА′ТЫ *прым.* Тое ж. *Забéрдзёватэ дзéрэво — шчо лёгко уломваецца, крохке, погано колецца.* Аздамічы. *Твой лес увесь забердзёвáты, на доскі вон не годзіцца.* Любавічы.

ЗА′БЕРДЗЬ *ж.* Абалона, нетрывалыя слаі ў драўніне. *Забердзь усыхае да ў серэдзіні ее смолá. У сцéну класці нема чого, у серэдзіні потрухло.* Хільчыцы. *У хвоі слой забердзь, слой здоровы.* Рычоў.

ЗАБЕ′РДНІЦА *ж.* Бакавая дошчачка ў бёрдзе. В. Малешава.

ЗАБІ′ВАНКІ *мн.* Хованкі. *От попогулялі мі ў забіванкі, а зарэ гуляюць хлопцы ў войнý.* В. Малешава.

ЗАБІВА′ЦЦА *незак.* 1. Забівацць, уганяць з сілай. *Забіваюцца шчоткі ў колодзезі.* Хачэнь. 2 *перан.* Моцна біцца (пра сэрца, пульс). *У мене тожэ забіваецца серцэ, аж з грудзей выскаквае.* Луткі.

ЗАБІВА′ЦЬ *незак.* 1. Убіваць, заганяць. *Забівае ў колоду бабку і б'е кóсу.* Сямурадцы. *Дзяцёл у клешчы забівае шышку да достае семена.* Аздамічы. *Забіваюць стоўбешком гліну.* Хотамель. 2. Забіваць, пранікаць (пра струмені вады). *Отліў робілі, шоб сцену не забі-*

*вало.* Верасніца. 3 *перан.* Марнаваць. *Только ўрэм'е дарэмно забівае.* В. Малешава.

ЗАБІ'РАНКА *ж.* Дзікая качка, у якой забралі яйкі з гнязда. *Это нека забіранка будзе. Не можэ буці, коб у ее одно пяць було еец.* Цераблічы.

ЗАБІ'ТЫ *дзеепрым.* Набіты, перапоўнены. *У жак улезло трыццаць лешчоў — забіты буў рыбою жак!* Верасніца.

ЗАБІ'ЦЦА *зак.* 1. Забрацца, заехаць далёка. *Мое дзеці забіліса далеко, шо я не еждЖу к ім.* М. Малешава. *Забіўса ў таку заросць, шо не вулезці.* В. Малешава. 2. Знясіліцца, змардавацца. *Поліна забілас на робоце, ніколі не спіць.* Сямігосцічы. 3. Пачаць біцца. *У мене моцно забілосо серцэ от спуду.* Верасніца.

ЗАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Забіць, зрабіць мёртвым. *Забілі воўка і воўчэнят забралі.* Сямігосцічы. *Забіў подсвіняку, то ўжэ з'елі.* Хачэнь. *То ёго бáцька гром забіў.* В. Малешава. *Натáлко, заб'ю, як не пойдзеш!* Сямігосцічы. 2. Скалечыць. *З вéтлы ўпаў да забіў ножку.* Верасніца. 3. Заклінаваць, замацаваць. *Забіў кóсу.* Кароцічы. 4. Закрыць наглуха дошкамі. *Забіў шчытá дóшкамі.* Аздамічы. 5. Застукаць у час гульні ў хованкі. *Кого забіла першого, той ідзе спаць.* Цераблічы. △ Дух забіць. Заняць, сціснуць дыханне. *Дух забіло од первачў, ледво не затхнуўса.* Луткі. *От даў под лóжэчку, шчо й дух забіло.* Сямігосцічы. Забіць грáды. Вельмі зарасці. *Васількі забілі грады. Полі-полі, а воны ростуць.* В. Малешава.

ЗАБІЧКОВА'НЫ *дзеепрым.* Забіты, запоўнены. *А сені і веранда — усе забічкованые тымі людзьмі.* М. Малешава.

ЗАБІЯ'ЦКО *прысл.* Заўзята. *Я забіяцко курыў да бросіў.* Азяраны.

ЗАБЛЁХАЦЬ *зак.* Заплюхаць. *Рыба заблёхала ў коўбéшы.* Пагост.

ЗАБЛУДЗІ'ЦЦА *зак.* Заблудзіцца. *Не йдзі ў лес, заблудзісса!* Хільчыцы.

ЗАБЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* Заблудзіць. *Заблудзіў у лесе, попоблýтаўса.* Бярэжцы. *Прымечу дол, дорогу, корчэ і не заблуджý.* В. Малешава.

ЗАБЛУ'ДНЫ *прым.* Беспрытульны, апушчаны. *Ходзіць, як заблудны, коб дзе выпіць.* Аздамічы.

ЗАБЛУ'ТАЦЦА *зак.* Заблытацца. *Чашэчка з клубочка ссунецца і заблутаецца.* Луткі.

ЗАБЛУ'ТАЦЬ *зак.* Заблытаць. *Заблу́таў усёго́ мо́тка, хоць грызі ёго́.* М. Малешава.

ЗАБЛУТА'ЦЬ *зак.* Заблудзіць. *Заблута́ў, зайшоў у болото.* Сямігосцічы.

ЗАБОЖЫ'ЦЦА *зак.* Пабажыцца. *Забожыса, шо гэто праўда.* Верасніца. △ Забожы́цца ма́цер'ю. Даць клятву, запэўніць, прысягнуць. *Забожы́с мацер'ю! Ну, шчоб я мацер бачыў!* Цераблічы.

ЗАБО'ІЧ, ЗАБО'ВІЧ *м.* Клінок у касе. *Забоіч.* Запясочча. *Забо́віч.* Аздамічы.

ЗАБО'Й *м.* Тое ж. *Цепер косы мало з забоем роб'яць, а больш на вінту́.* Цераблічы.

ЗАБОЛВАНЕ'ЦЬ, ЗАБОЛВЕ'ЦЬ *зак.* Развіднець. *Только заболванело — ідом по грыбу.* Хачэнь. Пасвятлець. *Ужэ будзе погода, заболванело трошкі.* Сямігосцічы. *Заболве́ць.* Хачэнь.

ЗАБОЛЕ'ЦЬ *зак.* 1. Забалець, захварэць. *Як ногі заболяць, да ногі обложаць труею да воны перэстануць болець.* Сямігосцічы. *Як сядзе прасці, то перву ніточку обоўя́жэ, то й перэстане болець* (пра боль у руцэ, павер'е). Верасніца. 2 *перан.* Завадзіць, зашкодзіць. *Ему заболело, шо я звару собе.* Хачэнь.

ЗАБОНОВА'ЦЬ *зак.* Затрымаць (пра лес пры молевым сплаве). Цераблічы. Звязаць молевы лес у плыт і замацаваць плывучым якарам. Кароцічы.

ЗАБО'РА *ж.* Складка. *А ў нас світкі шылі такіе з заборамі.* Бярэжцы.

ЗАБОРМОТА'ЦЬ *зак.* Замармытаць. *Забормотала нешчо собе да пошла.* Мачуль.

ЗАБОРОНОВА'ЦЬ *зак.* Забаранаваць. *Воны ніяк не забороновалі картоплі.* Любавічы.

ЗАБОРСА'ЦЬ *зак.* 1. Забарсаць (пра аборы). *Нового заборсаў ла́пця і пошоў.* Луткі. 2. Начапіць аборкі, прывязаныя да канцоў асновы, на палацённы навой пры затыканні кроснаў. *Трэба шнуры на навой заборсаць, пока натчэцца полотно.* Запясочча.

ЗА'БОРСКІ *мн.* Забарсні. *За́борскі зробі на трэ́цём вусі ззаду, а як на другом вусі, то лапоць спада́е і зап'ятка оттопчэш.* М. Малешава.

ЗА'БОРСНІ *мн.* Тое ж. *Зацяг заборсні ў лапці.* Цераблічы.

ЗА'БОРСЫ *мн.* Тое ж. Альпень.

ЗАБО'РЫ *мн.* 1. Зборкі (у адзенні). *Світкі з забора-*

*мі шылі*. Верасніца. *Заборы наробіць на коўнеры баба*. Мачуль. 2. Складкі на кішках. Мачуль.

ЗАБО'ЎНАЦЦА *зак*. Забавіцца. Луткі.

ЗАБРА'ЖНІЦЬ *зак*. Забрадзіць. *Варэнье забра́жніло, трэба вукіда́ць*. Хачэнь.

ЗАБРА'ЖЫЦЬ *зак*. Тое ж. *Мало сахару положыў і варэнье забражыло і таке горке стало, шо мусіў вуліць*. В. Малешава. *На стакан ягод два стаканы сахару, а то забра́жаюць ягоды*. Там жа.

ЗАБРАКОВА'ЦЬ *зак*. Зашкодзіць. *Нехто подзівіўса да дзіцяці і забраковало*. Альшаны.

ЗАБРА'НЫ *дзеепрым*. Забраны. *Едуць не солдаты, да ўсе новобранцы. Іх забрано ў недзелю рано, не так рано, ек шчэ не світало* (з песні). В. Малешава.

ЗАБРА'ЦЬ *зак*. 1. Забраць, узяць. *Наш полёвў заберэ вашы коровў*. М. Малешава. *Забрала сорока по́клада й з'ела*. Хачэнь. 2. Набраць. *У гэтых чобоцех заберэ́ш воды*. Старажоўцы.

ЗАБРО'Д *прысл*. △ І ц і н а з а б р о́ д. Заходзіць у ваду (пры лоўлі рыбы). *На заброд трэба іці, заперэдзіць рыбу*. Запясочча. Р а б і ц ь з а б р о д. Тое ж. Пагост. Б у ц ь н а з а б р о д з і. Брысці па вадзе (пры лоўлі рыбы). Пагост.

ЗАБРО'ЗГНУЦЬ *зак*. Набрыняць. *Заброзгла на віду от того вуха*. Аздамічы. *От простыў, шо від заброск*. Луткі.

ЗАБРОХОЦЕ'ЦЬ *зак*. Заплюхаць. *Ужэ як заброхоцеў карась, то ўжэ крычаць: «Адамок узяў, узяў!»* Луткі.

ЗА'БРЭДЗІСТЫ *прым*. Абалонны, з нетрывалымі, спарахнелымі слаямі (пра драўніну). Мачуль.

ЗАБРЭ'ЗГЛЫ *прым*. Набрынялы. *Аж это вон такі забрэсклы буў*. Хачэнь.

ЗАБУДОВА'ЦЦА *зак*. Забудавацца. *Я там забудоваўса: і домік е і ўсе*. Хачэнь.

ЗАБУДОВА'ЦЬ *зак*. Пабудаваць. *Это ж во ему ўсе забудоваў, усе поробіў*. Хачэнь.

ЗАБУТНЫ' *прым*. Забыўчывы. *Така стала забутна́ голова́, не́ка болю́шча*. Луткі.

ЗАБУ'ЦЦА *зак*. Забыцца. *Не забуўса свого езыка!* В. Малешава.

ЗАБУ'ЦЬ *зак*. Забыць. Дварэц.

ЗАВА'БШЧЫК *м*. Паляўнічы, які вабіць да сябе звяроў, птушак. Хотамель.

ЗАВА́ДЗІЦЬ *зак.* Завадзіць, занудзіць. *Мойму Петру од яблык завадзіло.* Хільчыцы.

ЗАВА́Л *м.* Абрыў у вадзе. *Ох, затоб у завал ускóчыла!* Верасніца.

ЗАВАЛЕ́Й *м.* Лежань. *Завалей, шчо заваліўса і лежыць.* Луткі.

ЗАВАЛЕ́НЬЕ *н.* Мноства. *Було ў нас карпóў заваленье!* Рубель.

ЗАВА́ЛІСТЫ *прым.* Закруглены. *Заваліста сокера, бо погано точыў.* Аздамічы.

ЗАВАЛІ́ЦЦА *зак.* 1. Уваліцца. *Попаў у безну кажуць, ек ідзе чоловек у болотá да завáліцца.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Прапасці. *Хоць заваліса ў гэтой робоці.* Дварэц.

ЗАВАЛІ́ЦЬ *зак.* Закласці (дзверы, вароты). *Заваліў дзверы на зáвалку.* Аздамічы.

ЗА́ВАЛКА *ж.* 1. Завала, засаўка. *За завалку броківу затыкалі, шчоб ведзьма не доіла короў.* Сямігосцічы. 2. Закрутка ў дзвярным вушаку. Аздамічы. 3. Засаўка з металічным ключом (у гаспадарчых памяшканнях). Аздамічы.

ЗАВА́ЛЬВАЦЬ *незак.* Закладваць (дзверы, вароты). Хотамель.

ЗАВА́ЛЬЕ *н.* Мноства. *Ох, у лесе дроў завалье!* Сямурадцы.

ЗАВЕ́ДАЦЬ *незак.* Памятаць. *Я й не заведаю,— тут ніколі не ўсыхало.* Дварэц. *Я як заведаю, то ўжэ ўмéрла тая баба.* Луткі.

ЗАВЕ́ДОВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Ек я стаў заведоваць, то курніц не було ў Лутках.* Луткі.

ЗА́В'ЕЗ *м.* Завязь. *Попоўзлі гуркі моé, цвітуць, а зáўезу нема.* Луткі. *Завез е яблук.* Там жа.

ЗАВ'ЕЗА́ЦЦА *зак.* Завязацца (пра плод). *Ек заўя́жэцца гарбýзка, то вýсы на лобýзніку ў гарбýзах é.* Буразі. *Я на лозé завезáласа, як овад* (жарт). Хачэнь.

ЗАВ'ЕЗА́ЦЬ *зак.* Завязаць. *Зав'ежы́ хустку, а гола не йдзі!* Буразі. *І вýзлека заўяжэ на нітцы.* Верасніца. △ З а в е з á ц ь к о т ý х в о с т á. Зрабіць вельмі мала або амаль нічога. *Неўмéка — і коту хвостá не завяжэ.* Аздамічы.

ЗА́В'ЕЗКА *ж.* 1. Завязь. *На гарбýзах пустоцвéты і зáвезкі попáдалі.* Хачэнь. *От такіе завезкі булі ў яблуках.* Луткі. *Гуркі хорошэ́нько цвітуць, завезкоў богато.*

Сямурадцы. 2. Завязка. *Дай завезку завезаць мешка!* Сямігосцічы. *Зáўязок нема на мошкý.* Мачуль.

ЗАВЕ'ЗНУЦЦА *зак.* Закрыцца. *Завезнуцца очы, як пчола ўкусіць.* Мачуль.

ЗА'В'ЕЗОК *м.* Завязь. *Подкопáй картоплі, то нема ні завезкоў тых, нічого.* Мачуль.

ЗАВЕ'ЗЦІ *зак.* Завезці. *У Кіёў завéзлі хвору жонку.* Дварэц.

ЗА'В'ЕЗЬ, ЗА'ВЕЗ *ж.* Завязь. *Попоўзлі гуркі мое, цвітуць, а заўезі нема.* Хачэнь. *Зав'ез е яблук.* Лудкі.

ЗАВЕ'КОВАЦЬ *зак.* Застацца нежанатым або незамужняй. *Сорóмеласа хлопцоў, то й завековала.* Пагост.

ЗАВЕНЕ'ЧЬЕ *н.* Вяртанне маладых з-пад вянца (у хату да маладой). Аздамічы.

ЗАВЕ'РАЧ, ЗАВІ'РАЧ *м.* Доўгі кіёк, якім утрымліваецца навой з пражай. *У прáжном вороціле é дзіркі, а ў тэ дзіркі клалі заверач.* Верасніца. *Завірач.* Мачуль.

ЗАВЕРНА'ЦЦА *незак.* Заварочацца. *Лотка завернаецца на той берэг, бо нехто гукае.* Сямігосцічы.

ЗАВЕРНУ'ЦЦА *зак.* Завярнуцца. *Недалеко от яблоні яблуко ўпадзе, хоць упадзе, то хвосціком завернецца* (прыказка). Хачэнь.

ЗАВЕРНЯ'ЦЬ *незак.* Заварочваць. *Бухта бувае, дзе вода спадае. Вона падае ці заверняе за куст да круціць.* В. Малешава.

ЗАВЕРТА'ЦЬ *незак.* Абвертаць. *Хлеб у ручнік завертаюць.* Хотамель.

ЗА'ВЕРТНЯ *ж.* Заварацень. *На праву сторону круціць завертню.* Цераблічы.

ЗА'ВЕРЦЕНЬ *м.* Тое ж. *Заверцень робілі з дуба.* Сямігосцічы. *Хоць завэртнем удавлюс, але на ўрэм'е яўлюс* (пра прылёт бусла з выраю). Рубель.

ЗАВЕ'РШВАЦЬ *незак.* Завершваць. *Трэ подготовіць вілкі завершваць стóга.* В. Малешава.

ЗАВЕРШЫ'ЦЬ *зак.* Завяршыць. *Стог трэба скласці, а далей трэ завершы́ць ёгó.* Запясочча. *Завершы́ў стóга і чэпля́еш пáлузні.* В. Малешава.

ЗАВЕРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Зашкодзіць. *Перво молодзіво здою́, шоб не заверэдзіло целёнку.* Верасніца.

ЗАВЕ'СІЦЦА *зак.* Павесіцца. *Побіў людзей дай сам завесіўса.* Хачэнь. *Коб не поцешыўса, то б завесіўса* (прымаўка). Сямурадцы.

ЗАВЕСЦІ' *зак.* 1. Завесці. *А воны завелі нас о туды ў другі курэнь.* Бярэжцы. *Рыба й зайцэ́ заведуць у стар-*

*цэ* (прымаўка). В. Малешава. 2. Загадаваць. *Косы завелі доўгіе.* М. Малешава.

ЗАВЕСЦІ'СА *зак.* 1. Заняцца. *Як завеліса біцца — не мешайса!* Лутні. *Як заведзёцца іці дождж, то ідзе і ідзе і конца нема.* Аздамічы. *А я завеласа муць у хаці.* Дварэц. 2. Завінуцца. *Заваласа робіць, шо і не бачыла нікого, ге ўнўрыласа.* Мачуль. *Заведўса, дзень роблю і не дыхаю.* Чэрнічы. *Кума завеласа за едой дай говорыць не хочэ.* Мачуль. *Як заведўцца цецерукі токоваць, то й выстрэла не шманаюць.* Аздамічы. 3. Развесціся, распладзіцца. *Стонога заведзецца, бо сыро.* Цераблічы. *Заўёўса вершочок на молоцэ.* М. Малешава.

ЗАВЕ'Т *м.* Запавет. *Му завету дзедоў слухалі.* В. Малешава.

ЗАВЕ'ШАНЫ *дзеепрым.* Завешаны. △ З о́ л о т о м з а в ё ш а н ы. Пра выхаванасць. *Вы плохого не чуеце, вашы молодые вушы золотом завешаны.* Запясочча.

ЗАВЕ'Я *ж.* Завея, завіруха. *Завея, дорогу заме́тае.* Альпень.

ЗАВІВА'ЦЬ *незак.* 1. Завіваць, закручваць. *Коліся молодў зоўсім завівалі, шчо вона нічога не бачыла.* Хачэнь. 2. Заломваць. *За́віткі завіва́юць у жыці.* Бярэжцы.

ЗАВІ'ДКІ *мн.* Завідкі, зайздрасць. *А ее завідкі беруць.* Аздамічы.

ЗАВІ'ДНІК *м.* Зайздроснік. *От завіднік, усе завідуе на чужых жоно́к.* М. Малешава.

ЗА'ВІДНО *прысл.* Завідна. *Прышоў завідно.* Запясочча.

ЗАВІ'ДНЫ *прым.* Надта добры, зайздросны. *Завідна дзеўка ў Мар'і.* Верасніца.

ЗАВІ'ДОВАЦЬ *незак.* Зайздросціць. *Такому трэба завідоваць, который йдзе і ног под собою не чуе.* Лутні. *Я навек завідую на ее.* Хачэнь. *Нема чого завідоваць на чужэ добро.* Азяраны. *Здоровец, я ёмў завідую.* Пагост.

ЗАВІНА'ЦЦА *незак.* Заводзіцца. *А вон завінаецца біцца.* М. Малешава.

ЗАВІНДОВА'ЦЬ *зак.* Завесціся, пачаць сварыцца. *Ну, ужэ̇ завіндовай!* Запясочча.

ЗАВІНУ'ЦЦА *зак.* Завінуцца, узяцца шчыра. *Як завінўліса мы косіць, як завінуліса мы косіць, як завеліса, то до вечэра кончылі.* Пагост. *Як завінуса жаць, ні піць, ні есці не могу.* Хачэнь. *Вон сам як завінецца росказваць!* Талмачава. Вельмі прыстаць. *Вон завінуўса коло мене, коб грошы дала́.* Хачэнь. Моцна захацець.

*Сюд-туд і домой завінéцца.* В. Малешава. *Завінýўса, от ходзём у ягоды.* Там жа. *Вона ж як завінецца, ні одговóрыш!* Запясочча.

ЗАВІРА'ШКА *ж.* Клінок для навоя з палатном. *Завірашка — такі клінок у полоцёнóм вороціле, дзе полотно навіваецца.* Мачуль.

ЗАВІСА'ЦЬ *незак.* Завісаць, вязнуць. *У лепéшніку худоба завісáе.* Бярэжцы.

ЗАВІ'СНУЦЬ *зак.* Спыніцца. *На ком чэрга завісла, той весной почынае пасвіць.* Хачэнь. Зашчаміцца, павіснуць. *Кýра ў частокóлі завісла.* Верасніца.

ЗАВІТА'ЦЦА *зак.* Наведацца. *Чого ж ты, дочка, до нас не завіталаса?* Аздамічы.

ЗАВІТА'ЦЬ *зак.* Наведаць. *Шо, у нашу вуліцу завіталі?* Запясочча.

ЗА'ВІТКА *ж.* Залом, звычай заломваць або завязваць у вузел каласы ў жыце ці закручваць галоўкі ў ільне. *Завіткі на стоячэм жыці робяць. Бацько мой казаў, шчо завітку бралі осóвумі трэскамі, рукою голою ее недобрэ браць.* Луткі.

ЗАВІ'ТОК *м.* Тое ж. Хотамель.

ЗАВІХО'ЎВАЦЦА *незак.* Завіхацца. *А вон завіхоўваецца, давай кніжку дай годзе!* М. Малешава.

ЗАВІХРОВА'ЦЬ *зак.* Закапрызнічаць. *Завіхроваў да не хоцеў роспісваццa ў сельсовеце.* Хачэнь.

ЗАВО'Д *м.* 1. Завод, парода. *Кýра дóброго завóду, несецца ўсе лето.* Хачэнь. 2. Звычай. *Ба, екі ў іх завод — кýры знакуюць.* Цераблічы. 3. Захапляцца спевамі. *Кóлісь дзеўкі пéснямі завóдзіліса!* М. Малешава.

ЗАВОДЗІ'ЦЦА *незак.* Заводзіцца, пладзіцца. *З вéцёл падае пена, то оводы́ завóдзяцца.* Запясочча. *Кажуць, у моху нічого не заводзіцца.* Дварэц.

ЗАВО'ДЗІЦЬ *незак.* Расцягваць (пра манеру гаварыць). *У нас пóпросту говорацъ, а там нек заводзяць.* Аздамічы. Галасіць. Запясочча.

ЗАВОДЗІ'ЦЬ *незак.* Ставіць. *Коня ў оглоблі заводзяць.* Верасніца. Заганяць плыт. Запясочча.

ЗАВО'З *м.* Завоз, прывезенае для памолу збожжа. *Твой завоз цепер засыпаюць.* Верасніца. *Не пускай млінá, бо нема завозу.* Дварэц.

ЗАВО'ЗНІК *м.* Завознік. *Ой, багато ў мліне завозу, седзяць по тыжню завознікі, пока подóйдзе молоць.* Цераблічы.

ЗАВО'ЗНО *прысл.* 1. Завозна. *От завозно, не можно*

*змолóць.* Кароцічы. 2. Шмат. *Од гэтых уюной завóзно!* Запясочча.

ЗАВО'Й *ж.* Хвароба жывата. *Бувало, жывот заболіць, то кажуць завой, а цепер апендзіціт.* Хачэнь. *Конь упаў, завой пропаў. Мост проваліўса, завой утопіўса* (з замовы ад завою). Там жа.

ЗА'ВОЛО'КА *ж.* 1. Жгут, вяровачка з конскага воласу, ільну або лыка. *Зáволокі робілі, як пéрсці гніюць.* Дварэц. *Отцягáе на персцях шкуру і процягáе навулёт зáволоку.* Цераблічы. *Ек опой, то зацягном заволóку коню за спіну.* Чэрнічы. 2. Валацуга. *Заволóка, покінуў свою жонку і дзеці да цегаецца.* Запясочча.

ЗАВОНЯ'ЦЦА *зак.* Запахнуць. *Ек здохне і завонеецца сцервякóвіна, то закóпвалі под óсокор.* Цераблічы.

ЗАВОНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Завоняе сало без солі.* Сямігосцічы.

ЗАВО'Р *м.* Закутак, ціхае месца. *У завор погналі коровы, там не такі вецёр.* Мачуль.

ЗАВО'Р'Е *н.* Тое ж. Альшаны.

ЗАВО'РНЫ *прым.* Закуткавы. *У заворном месці положыў.* Альшаны.

ЗАВОРО'ТКА *ж.* Заваротак. *На заворотцы кузня була.* М. Малешава.

ЗАВОРОЧА'ЦЦА *незак.* Заварочвацца. Мачуль.

ЗАВОРОЧА'ЦЬ *незак.* 1. Заварочваць. *Заворочáй у ту вулку гусей!* Цераблічы. 2. Закрыць. *Яму заворочáе дзёрном.* Цераблічы.

ЗАВОРО'ЧВАЦЦА *незак.* Заварочвацца. М. Малешава.

ЗАВО'ШЧО *прысл.* Завошта. *Завóшчо ему даваць гарэлкі?* Хотамель.

ЗАВУДЛОВА'ЦЬ *зак.* Зацугляць. *Завудловаў коня.* Альшаны.

ЗАВУ'ЦЬ *зак.* Завыць. *Собакі завулі, воўкі мо то ў селе.* Пагост.

ЗАГАДА'ЦЬ *зак.* 1. Загадаць. *Загадаў на роботу мне.* Аздамічы. *Гусóк нарваў, мо дзеўка ему загадала.* Дварэц. 2. Сказаць загадку. *Загадáлі ёй тры зáгадкі.* Бярэжцы.

ЗАГА'ДВАЦЬ *незак.* 1. Загадваць. *О, загадваць трэ шо есці? Шо на столе стоіць, то трэ й есці.* В. Малешава. 2. Вызначаць цану. *На Полесьі дзешоўлéй купіў бу грыбў, а ек вона прынесе, то загадвае дорого.* Дварэц.

ЗАГА'ІЦЦА *зак.* Забавіцца. *Думала загáюцца ў Вас мое.* Альшаны.

ЗАГА'РА *ж.* 1. Ахвота. *Мо то сіла дзело робіць? То загара дзело робіць!* Кароцічы. 2. Заўзяты працаўнік. *Я была загара хороша. У мене охота была такá, шчоб буйстра робота стала.* Пагост.

ЗАГА'РЛІВО *прысл.* Заўзята. *Загарліво косіў, не оддыхáў.* Лукі.

ЗАГА'РЛІВУ *прым.* Заўзяты. *Загарліву до роботы, не леніву, не лодар, а ўсе шоб робіць і робіць.* М. Малешава.

ЗАГА'РНО *прысл.* Заўзята. *Тые хлопцы цепер загарно дрова кололі.* Пагост.

ЗАГА'РНЫ *прым.* Заўзяты. *Тые хлопцы, мабуць, у дзеда поўдаваліса, бо такіе загарные — мінуты не поседзяць.* Верасніца.

ЗАГАРТОВА'ЦЬ *зак.* Загартаваць. *Загартоваць трэ сокеру, бо м'яккá.* Пагост.

ЗАГА'ТА *ж.* Загата. *Зробяць загату, коб не прорвало.* Дварэц.

ЗАГАЦІ'ЦЬ *зак.* Загаціць, засыпаць, заваліць. *Чорт загадáў загаціць возеро, то тры дні возіў зёмлю і сыпаў ў вóду* (з казкі). Лукі. *Загацілі смéцьем хату.* Аздамічы. *Хто то хочэ лес сплаўля́ць, шо рэчку загаціў.* Сямурадцы.

ЗАГА'ЦЬ *ж.* Загата. *У хаці — ек у загáці* (прымаўка). Запясочча.

ЗАГА'ЧАНЫ *дзеепрым.* Загачаны, запоўнены. *Загáчаны шмáцьем буў шкаф.* В. Малешава.

ЗАГА'ЧВАЦЬ *незак.* Загачваць. *Загачвалі, на рэцэ ставілі зáстаўку.* Цераблічы. *Загáчваюць бобры́ пры́канаўка, шо рáды не даць.* Сямурадцы.

ЗА'ГВОЗДКА *ж.* Загваздка. *На зáгвоздках колёса булі.* Дварэц. *Загвоздка вúлецела посерэд дорогі, а гразюка кругом, хот ты плач.* Верасніца.

ЗА'ГВОЗДОК *м.* Тое ж. *Загвоздок трэба, то гайка можэ откруціцца.* Запясочча.

ЗАГЕ'ЛЗАЦЬ *зак.* Закілзаць. *Коня заґéлзаць.* Верасніца.

ЗАГЕЛЗОВА'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Заґелзова'ць коня.* Верасніца. *Загілзова'ць.* Аздамічы.

ЗАГЕ'РГАЦЬ *зак.* 1. Закрычаць (пра гусей). *Гусі загергалі на дворэ.* Верасніца. 2. Загергетаць. *Подпоўзуць, загéргаюць тые немцы да назад.* Верасніца.

ЗАГІ′Б *м.* Загіб, паварот. *Дзе той у рэццэ́ загіб?* М. Малешава.

ЗАГІБА′ЦЬ *незак.* Гінуць. *Мошкі загібаюць, ек пшэніца вы́сыплецца.* М. Малешава.

ЗАГІ′БЕЛЬ *м.* Пагібель. *Загібель для капусты еты вусень.* Пагост.

ЗАГІ′БНУЦЬ *зак.* 1. Прапасці. *Загіб лішай от журовін.* Хачэнь. 2. Загубіцца. *Гусеня́ моё загібло, то думала, шчо ў вас.* Цераблічы. *Ко́лісь ехаў дзед з бабою. А баба загібла. Да гука́е вона. А дзед кажэ: «Бабо, хто гукае, то гукае, а мы е́дом».* В. Малешава.

ЗАГІ′ЖВАЦЬ *зак.* Засмечваць, забруджваць. *Косцерэ́ва загіжвае поле.* Хотамель. *Голубоў розвелосо да загіжваюць кругом.* Пагост.

ЗАГІМО′РЫ *мн.* Закругленні. *Гэтыя загіморы ў жэлезных вілка́х сцягваюць сено.* Альшаны.

ЗАГІ′НУЦЬ *зак.* 1. Прапасці, памерці. *Загінула коройка, не нам кажучы, проглынула того гвоздзіка.* Верасніца. *Ее брата сын пошоў у Семуго́шчы дай загінуў.* В. Малешава. 2. Загубіцца. *У нас у чоловека загінулі волы.* Хачэнь. 3. Заблудзіцць. *Ходзіў у грыбы да загінуў.* Луткі. *Я ў лесі ні разу ні загінула.* Там жа.

ЗАГЛАМА′ЗДАНКА *ж.* Недарэка. *Загламазданка ты нейка така!* Луткі.

ЗАГЛАМА′ЗДАЦЬ *зак.* Зрабіць неахайна. *Загламаздаў хату і жыве. А як вон зробіў э́те весло? От загламаздаў!* Тураў.

ЗАГЛА′СІ′ЦЦА *зак.* Прапасці. *Не доглєдзіш, то загла́сіцца ўсе ге дома.* Пагост. *Загласі́цца.* Запясочча.

ЗАГЛЕ′ДЗЕЦЬ *зак.* Убачыць. *Уза́ўтра поеду ў город, мо там шо доброе загледжу, то куплю.* М. Малешава.

ЗАГЛІ′ЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Загліласа, шо моя корова коло ее хаты ходзіла.* Пагост.

ЗАГЛЯ′ДАЦЬ *незак.* Паглядаць, зазіраць. *Збіра́йзбірай, не́чого заглядаць!* М. Малешава.

ЗА′ГМАЦЬ *прысл.* Разам, на поўную руку. *Полі картоплі хо́рошэ, не рві траву загмаць.* Запясочча.

ЗАГНА′ТЫ *дзеепрым.* Загнаны. *Вашы гусі загна́тые? А мого нема одного гусеняці.* Луткі.

ЗАГНА′ЦЬ *зак.* Загнаць, увагнаць. *Зроду ў цэркві не была, да собакі загна́лі* (жарт). Хачэнь. *Жакі ставяць, дзе ця́га воды́ і бувае, шо там бу́зом загэне́.* В. Малешава. *Зажэну́ць мене на печ і я седжу.* Пагост.

ЗАГНЕ′ВАЦЦА *зак.* Загневацца. *Скажы ей, а то загневаецца.* В. Малешава.

ЗА′ГНЕТ *м.* Скупеча. *Тэ село — такі загнет, скупы люд.* Бярэжцы.

ЗАГНЕ′Т, ЗАГНЁТ *м.* 1. Дробныя трэскі, лучына. *Насеклі загнéту подпальваць дрóва ў печэ́.* М. Малешава. *Загнет клалі на пóсвет з лýпленіцы, вон горыць зырко і без сопухі.* Лутк. 2. Агонь. *Клáлі серэд хаты огонь, то звалі загнёт.* Кароцічы.

ЗАГНЕ′ТА *ж.* Тое ж. *Тые гóды былі коміны́, не было коросіны, зробілі комінкá, то й палілі загнетою.* Мачуль.

ЗАГНІВА′ЦЦА *незак.* Загніваецца. *Хвоя загніваецца з кóрэня.* Хільчыцы.

ЗАГНІЦІ′ЦЦА *зак.* Запячыся. *Ужэ загніціўса хлеб, зап'ёкса, зарумя́неў.* Кароцічы.

ЗАГНО′Й *м.* Загнаенне. *Загной у чыраку, шоб вýчавіў, то мо б пропаў.* Пагост. *Зняць корý, коб не буў загной.* Запясочча.

ЗАГНУЗДА′ЦЬ *зак.* Закілзаць. Верасніца.

ЗАГНЮ′СІ′ЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Загнюсіў косцюма, трэ ёгó ўстрóіць і сціраць.* Аздамічы. *Голубы́ горý загнюсілі. Усе чысто позгнюшвалі.* В. Малешава.

ЗАГОВОРА′ЦЬ *незак.* Замаўляць. *Заговоралі под од мушэ́й.* Кароцічы. *Кроў заговорайце мне, коб не пошла.* Луткі.

ЗАГО′ДА *ж.* Хабар. *Трэба екую загоду маць, шоб ему даць.* Хачэнь.

ЗАГОДЗІ′ЦЬ *зак.* Задобрыць, падкупіць, даць хабару. *Гэта шляхта загодзіла землемера.* Хачэнь. *Не будзе сýду, загодзілі воны суд.* Запясочча.

ЗА′ГОДЗЯ′ *прысл.* Загадзя. *Загодзя́ трэба зробіць.* Аздамічы. *Зáгодзе перэд с'яткóм трэба ўсе зробіць.* Луткі. *Зáгодзя трэ було казаць.* Верасніца.

ЗАГОДОВА′ЦЬ *зак.* Адгадаваць, адрасціць. *Загодоваў бóроду.* Верасніца.

ЗАГОІ′ЦЦА *зак.* 1. Загаіцца. *Покáль — гразі напрэцца дай загоіцца* (пра рану). Запясочча. 2. Забрудзіцца. *Загоілосо ведро, шо й не можно рукі ўложыць.* В. Малешава.

ЗАГО′ІЦЬ *зак.* Загаіць. *Ніяк не можно загóіць раны.* Луткі.

ЗАГО′ЙВАЦЦА *незак.* Загойвацца. *Зацегáе рану, то ўжо вона загойваецца.* Луткі.

ЗАГОЛЕ'ЦЬ *зак.* Згалець. *Нема ні мелу ў мого чоловека, нічо́го — усе заголе́ло!* В. Малешава.

ЗАГОЛОСІ'ЦЬ *зак.* Загаласіць. *Заголосіла, куды ты мене везеш!* Кароцічы. *Ох, а эта бедна мацi ек заголосiць!* Бярэжцы.

ЗАГОЛУ'ХА *ж.* Запазуха. *Дзеды́ нашы колісь казалі только заголуха, гэто цепер сталі казаць запазуха.* Луткі.

ЗАГО'ЛЬВАЦЦА *незак.* Загольвацца, агаляцца. *Дзіця мое, не трэба загольвацца, со́ром!* М. Малешава.

ЗАГОМОНІ'ЦЬ *зак.* Загаманіць, загаварыць. *Загомонілі ўсе.* Запясочча.

ЗАГО'Н *м.* Загон. *Сеялі загон жыта, загон проса, загон картопляў.* Хачэнь. *Памянш.* з а г о́ н е ц. *Полянку порэжуць на заго́нцы.* В. Малешава.

ЗАГОНО'ЗІЦЦА *зак.* Надзьмуцца. *Загонозіўса, шо я рукі не подаў.* Пагост.

ЗАГО'НЬВАЦЬ *незак.* Заганяць. *Дажэ свіней загоньвалі і месілі ток у гумне.* В. Малешава.

ЗАГОРНУ'ЦЦА *зак.* Завярнуцца, загнуцца. *Загорнуўса коўнер.* М. Малешава.

ЗАГОРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Закруціць. *Загорні пальца порэзаного.* Луткі. 2. Зачарпнуць. *Загорні воды ў ведрэ.* Луткі.

ЗАГОРОВА'ЦЬ *зак.* Зарабіць. *Дайце мне, шо я загорова́ла за п'яць год.* М. Малешава.

ЗА'ГОРОДА *ж.* Агароджа. *За́городы одны́е там, шо нельга коне́м проехаць.* Луткі.

ЗА'ГОРОДЗЬ, ЗА'ГОРОДЖ *ж.* Загарадзь. *Бра́ліса за загородзь, бо гра́зі багато, не пройці.* М. Малешава.

ЗАГО'РТАЦЬ *незак.* Заграбаць. *Добрэ чужымі рукамі жар загортаць!* (прымаўка). Хачэнь.

ЗАГОРУ'СЦІЦЬ *зак.* Загрувасціць. *Загорусціла ўсю печ!* Запясочча.

ЗАГОРУ'ХА *ж.* Працаўніца. *Загоруха, аж кідаецца на ту роботу.* Пагост.

ЗАГОСТРЫ'ЦЬ *зак.* Завастрыць. *Хоць ты колка́ на голове́ загостры ему, то свое право правіць!* В. Малешава.

ЗАГРОМО'СТА *ж.* Завал. *Загромоста ў хаці, не прыбрала.* Запясочча.

ЗАГРУ'ЗНО *прысл.* Цяжка. *То, цёця, вам много роботы, вам загрузно.* В. Малешава.

ЗАГРУ'ЗНУЦЬ *зак.* Загрузнуць. *Улезе корова ў багнó і загрузне.* М. Малешава.

ЗАГРЫМЕ'ЦЬ *зак.* Загрымець. *Пока не загрыміць гром, то трава не росце.* Хачэнь. *Ек загрыміць, то кажуць, коб стаў к чому дубовому, то спіна не будзе болець.* Луткі. *Заговорыла так, ек гром загрымеў.* Старажоўцы.

ЗАГРЭ'БА'ЦЬ *незак.* 1. Заграбаць. *Жар загрэбáй у копку.* Бярэжцы. 2. Закопваць. *Загрэ́бай картоплі на зіму, то воны не зогніюць.* Луткі.

ЗАГРЭ'БЦІ' *зак.* Закапаць. *Ум'ёр чоловек, повезлі на мóгліца і загрэблі.* М. Малешава.

ЗАГУБІ'ЦЦА *зак.* Згубіцца. *Як шчо загубіцца, то кажэмо: пограй, пограй, да зноў оддай.* Цераблічы. *Галагóл плескаты чэплялі коню на шыю, коб вон не загубіўса ў корчóх, у той гушчы.* В. Малешава.

ЗАГУБІ'ЦЬ *зак.* Згубіць, страціць. *Міхáлко, не загубі ножá!* Цераблічы. *Я загубіла дзень, бо на веселлі була.* Запясочча. *Лу́ччэй з розумным загубіць, чым з дурным знайці* (прыказка). Сямурадцы.

ЗАГУ'ЗКОВАТЫ *прым.* Камлюкаваты. Бярэжцы.

ЗАГУ'ЗОВАТЫ *прым.* Тое ж. Аздамічы.

ЗАГУЛЯ'ЦЦА *зак.* Загулящца, забавіцца. *Загуляецца дзіця, то можэ й дзень бегаць.* Сямігосцічы. *Запіўса, загуляўса дай заболеў.* В. Малешава.

ЗАГУМЕ'НЬЕ *н.* Загуменне. *На загумéны Дзеніскоў хлопец буў.* Луткі.

ЗАГУСА'ЦЬ *незак.* Загусаць. *Загусае варэнье.* М. Малешава.

ЗАГУ'СНУЦЬ *зак.* Зрабіцца густым. *Загуслі кóсы, шо не рошчэсáць.* М. Малешава.

ЗАГУ'СТО *прысл.* Занадта густа. *Загусто зварыўса булён.* Аздамічы.

ЗАГУСЦІ' *зак.* Загусці. *Здрóкі ек загуду́ць, то товар здрокуе нáгле.* Дварэц. *Загулá машына, шо страшно слухац.* Запясочча.

ЗАГУ'СЦІ'ЦЬ *зак.* Загусціць. *Ечмень загусцяць, то вон навек поляжэ, ек рогожа.* В. Малешава.

ЗАД *м.* Зад. *Кóлісь на зад воза робілі полу́кошок, як у госці ехаць.* Сямігосцічы. *Колёса ў зáдзе вóза бóльшые, чым у пéрэдзе.* М. Малешава. *Нашы хлёві там, у зáдзі, за огородамі.* В. Малешава. *Памянш.* з а д ó к. *Задок подскаквае на грудкáх.* Верасніца.

ЗАДАВА'ЦЬ *незак.* Прыдаваць. *А ў том садзіку со-*

*ловейкі поюць, а нам, молодзенькім, жалю задаюць* (з песні). В. Малешава.

ЗАДАВІ'ЦЦА *зак.* Задавіцца. *Антон хоць задáвіцца, то сам зробіць.* Бярэжцы.

ЗАДАВІ'ЦЬ *зак.* Задавіць, задушыць. *Задавіў овечку воўк, ухопіў і поволок.* Хотамель. *Як цебэ шчэ ў машыні не задавілі жонкі!* (пра дзіця). Мачуль. *Воўкі задáўяць і корову.* Любавічы. *Ек воўк ухопіў за руку ёгó, так вон там за езыка ёгó ўзяў і задавіў.* Бярэжцы.

ЗАДАРМА' *прысл.* Дарэмна. *Задармá купіў хлевá.* Аздамічы.

ЗАДА'РОМ *прысл.* Тое ж. *Зáдаром покропіла картоплі перэд дождэм, а воно ўсе змуло.* М. Малешава.

ЗАДАРЭ'МНО *прысл.* Тое ж. Хотамель.

ЗАДА'ТОК *м.* 1. Задатак. *Хату цагляну купілі, далі задаток за ее.* М. Малешава. *Нá тобé задáток, остаў товар, а я рэшту прынесу.* Альпень. 2. Закваска, прыгатаваныя дрожджы. *Задаток трэ ўліць у брагу, шчоб скорэй пошла робіць.* Луткі.

ЗАДА'ЎНЕНЫ *дзеепрым.* Застарэлы. *Задáўнена ў его була хвороба.* Хачэнь.

ЗАДА'ЎНІЦЦА *зак.* Задаўніцца. *Жоўнá на горло напала, і операцыя не помогла, бо задаўнілос.* Сямігосцічы.

ЗАДА'ЎНІЦЬ *зак.* Задаўніць. *Ек не задаўніш, то і беркулёз можно вулечыць пулом з хвойніку.* Луткі.

ЗАДА'ЦЦА *зак.* 1. Падняць. *Два снопы возьмі, то нельга задацца на плечы.* Мачуль. 2. Урадзіцца. *Не кажы, ужэ, яке задалóса, таке і ўмрэ.* Хачэнь.

ЗАДА'ЧА *ж.* 1. Задатак. *Задачу даў сто рублей.* Сямігосцічы. 2. Кавалачак страўніка маладога цяляці, які кідаюць у салодкае малако, калі робяць сыр. Альшаны. 3. Рошчына, закваска. *У слоіку намнýць картоплі, ены подкіснуць, да хмеліку трошкі і стоіць задача.* Пагост. 4. Заданне. *Трэця задача тобе такая.* Кароцічы.

ЗАДЗВЕ'НЬКАЦЬ *зак.* Задзвынкаць. *Вон можэ так задзвенькаць, шчо ў вушах звініць.* Аздамічы.

ЗАДЗЕ'РЦІ *зак.* 1. Падняць угору. *Задзéрлі коровы хвост да ў хлеў.* Сямігосцічы. 2. Пазначыць драпаннем. *Драчка задзерці пазá.* Бярэжцы.

ЗАДЗЁЎБЦІ' *зак.* Задзяўбці. *Квоктýха задзёўбла кýру.* В. Малешава.

ЗАДНЁВА'ЦЬ *зак.* Застацца на дзень. *Гололёд,*

*'тобусы не ходзілі, то заднёвала ў тых Жытковічах.* Пагост.

ЗАДНЁНЫ *дзеепрым.* З устаўленым дном. *Лазьбень заднёны.* Кароцічы.

ЗА'ДНІ *прым.* Апошні. *Котора жонка задня йдзе жаць, то ей трэ ўсім на кажном загоне крычаць помогай бог.* Верасніца. *Само задня дочка, то ўжэ вўскрэбок.* Луткі. △ З а́ д н я  х а́ т а. Другая частка пяцісценкі. *У задней хаці ў іх окно ў Хвоенск.* Пагост.

ЗА'ДНІК *м.* 1. Заднік. *Подкладалі ў заднік бёрэсту, шоб вон быў штыўны, цвёрды, як косцяны.* В. Малешава. 2. Месца на назе, вышэй пяты. *Усе заднікі на ногах обрэзала.* В. Малешава.

ЗАДНІ'ЦЬ *зак.* 1. Уставіць дно. *Кадоўб задніў.* Хотамель. 2. Пачаць світаць. *Толькі задніць, пойду косіць.* Кароцічы.

ЗАДОЖДЖЫ'ЦЦА *зак.* Задажджыцца. *Бувае, як задожджыцца, то й жыто поросце.* Пагост.

ЗАДОЎЖЫ'ЦЦА *зак.* Забавіцца. *Задоўжыліса нашы рыбакі, нема.* Пагост.

ЗАДРА'ЦЬ *зак.* Задраць, падняць. *Упала і ногі задрала.* Пагост. *А той, другі, лежыць етак о ў курені* (паказвае як), *задраў голову і за колено так о ўзяўса.* Бярэжцы.

ЗАДРОТОВА'ЦЦА *зак.* Параніцца падковамі пры бегу. *Задротоваўса мой конь.* Запясочча.

ЗАДРОТОВА'ЦЬ *зак.* 1. Параніць ногі падковамі (пра каня). Запясочча. 2. Зацягнуць дрот кабану ў лыч. Аздамічы.

ЗАДРЫ'ПАНЫ *дзеепрым.* Задрыпаны, запэцканы. *На горках каталіса, да ідом додому такіе задрыпаные, мокрые.* М. Малешава.

ЗАДРЫ'ПАЦЦА *зак.* Задрыпацца. *Посюль задрыпаешса, ек ідзеш по ягоды.* Хачэнь.

ЗАДРЫ'ПАЦЬ *зак.* Задрыпаць. *Штаны задрыпаў, як ішоў по дорозі домоў.* В. Малешава.

ЗАДРЭМА'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Села і задрэмала.* Сямурадцы.

ЗАДУБЕ'ЦЬ *зак.* Надта змерзнуць. *Ужэ задубеў зусім, ходзь у хату!* Кароцічы.

ЗАДУВА'ЦЬ *незак.* Задзімаць, засыпаць. *Песком поля задувае.* Хільчыцы.

ЗАДУ'МАНЫ *прым.* Задуменны. *Дай бачыць, шо вон за тымі кнігамі такі задуманы.* Кароцічы.

ЗАДУ′МАЦЬ *зак.* Задумаць. *Шо задумала, то й зробіла.* Запясочча.

ЗАДУ′ЦЬ *зак.* Задзьмуць. *Шчо ні посей, то пропадае, задýне пескóм дай нема.* Луткі.

ЗАДУШЫ′ЦЬ *зак.* Задушыць. *Коліся воўк задушыў быкá, то бацько іш шкурой закопаў.* Мачуль.

ЗА′ДЫ′ШКА, ЗА′ДУШКА *ж.* Задышка. *Цепэр мне не можно много вубіраць, зáдышка ў мене, мене зáдушка забівае.* Сямігосцічы.

ЗАЕ′ДА *ж. перан.* Заўзятая працаўніца. *Вона заéда такá, у робоці заéдліва, коб усе ў ее було.* М. Малешава.

ЗАЕДА′ЦЬ *незак.* Заядаць. *Зáедзь заедáе товáр, то зажэнóм у вóду да стоіць.* Луткі. Раз'ядаць. *Помáж, то так заедáе ў рану.* Верасніца.

ЗА′ЕДЗІ *мн.* Трэшчынкі ў вугалках рота. Хотамель.

ЗА′ЕДЗЬ *ж.* Заедзь. *Заедзь у лесе до того бувае, шо худоба пропадае. Нацягне ў лёгкіе і помрэ.* Пагост.

ЗАЕ′ДЛІВЫ *прым.* Злы. *А та невестка — да сухé, да заéдліве!* Запясочча. Заўзяты. *Вона така ў робоці заедліва!* М. Малешава.

ЗАЕЖДА′ЦЬ, ЗАЕЖДЖА′ЦЬ *незак.* Заязджаць. *Скрозь заеждалі лоткою ў грыбý.* Чэрнічы.

ЗАЕ′СКОЛІЦЦА *зак.* Закапрызнічаць. *Чогó ты заéсколіўса, ходзі поéж.* Старажоўцы.

ЗАЕ′СЦІСА *зак.* Раззлавацца. *Нешчо заелосо, шчо мало ему горэлкі.* В. Малешава.

ЗАЕЎМЕ′НІЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Заеўменіласа, шо на шубу ёй грошы не даём.* Пагост.

ЗА′ЕЦ *м.* 1. Заяц. *Заец як покачаецца по снегу, то белы.* Запясочча. *Под екім кустом седзіць заец, як дождж ідзе?* (загадка). *Под мокрым* (адгадка). Хотамель. 2. Бакавы выраст на печаным хлебе. Хотамель.

ЗА′Е′ЧЫ *прым.* Заечы. *Бало, варылі заечэ мясо, а зарэ тушаць зо сметаной.* Хотамель. △ З а é ч а к а п ý с т а. Заечая капуста. *Дзеці купáем у заечой капусце малыe, шоб спало да шоб рослó.* Луткі. З а é ч а к у ц é й к а. Смолка. М. Малешава. З а é ч ы ч о с н ó к. Лугавы часнок. В. Малешава.

ЗАЖА′БЕРЫЦЦА *зак.* Пакрыцца цінай. *Вода коло берега зелёная, зажаберыласа.* Пагост.

ЗАЖА′ЦЦА *зак.* Углыбіцца ў пожню пры жніве.

*Стара́есса, коб да́лей зажацца на пожні, коб не чуць, ек плачэ тэ дзіця.* Луткі.

ЗАЖДА'ЦЬ *зак.* Дачакаць. *Баба ўжэ заждала прошчурэ́й собе.* В. Малешава.

ЗАЖМЕ'НІЦЬ *зак.* Натрудзіць руку ў час жніва. Мачуль.

ЗАЖМУРЫ'ЦЦА *зак.* Пускаць пузыры. *Лінок ходзіць, зажмуры́ўса.* Альшаны.

ЗАЖО'ЎВАЦЦА *незак.* Касмаціцца. *Нітка зажоўваецца, не ўкласці ў голку.* Луткі. Шурпаціцца. *І спіцка ў нас була дубо́венька, то вона зажоўваецца.* Сямурадцы.

ЗАЖОЎКА'ЦЬ *незак.* Станавіцца жоўтым. *Робім, шчоб сыр зажоўкаў, жоўценькій стаў.* Мачуль.

ЗАЖУРЫ'ЦЦА *зак.* Зажурыцца, засмуціцца. *Зажурыўса, шо рано ожэніўса* (прымаўка). Верасніца. *Зажурыўса — ек божы непотрэбнік.* Старажоўцы.

ЗАЖУРЭ'ЦЬ *незак.* Пачаць кіснуць (пра малако). Альпень.

ЗАЖЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Загойвацца. *З скулы́ вула́зіць жэрэло́, ек ёго́ вурвеш, то рана зажыва́е.* В. Малешава. 2. Нажываць. *Ведзьма одрыны оббега́е, поле обле́тае — усе добра́ зажыва́е.* Сямурадцы.

ЗАЖЫНА'ЦЬ *незак.* Зажынаць. *Ек зажынае, то вужне дзве жмені, да на́крэст покладзе, да поседзіць, да не будзе спіна́ болець.* Верасніца.

ЗАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Зазнаць гора. *Шчо зажылі гора мы з ім!* Цераблічы. 2. Перастаць існаваць. *Зажы́ў брод, зарос лепехо́ю.* Луткі.

ЗАЖЭ'ЎРАЦЬ *зак.* Зрыжэць. *Зажэўрэла на печы дзеруга.* Аздамічы.

ЗАЗВОНІ'ЦЬ *зак.* Зазваніць. *Ох, дай бог, шоб ты не чула звоно́й, ек зазвоняць!* (праклён). М. Малешава.

ЗАЗДРОЧЫ'ЦЦА *зак.* Загізаваць. *Заздрочыўса од за́ездзі товар.* Сямурадцы.

ЗА'ЗІ'МОК *м.* Зазімак. *За́зімок — як зіма начынаецца.* Мачуль.

ЗАЗІМО'ЎВАЦЬ *незак.* Заставацца на зіму. *У іх не зазімо́ўвае сено.* Старажоўцы.

ЗАЗІРА'ЦЬ *незак.* Заглядаць. *Людзі ідуць по вуліцы да ў мой огород зазіраюць, вельмі ў огородзе усего багато.* М. Малешава.

ЗАЗІРНУ'ЦЬ *зак.* Заглянуць. *Не зазірнуць ему ў вочы, це́мно.* Мачуль.

ЗАЗЛІ′ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Скажы слово, а вон ужэ зазлі́ўса.* Мачуль.

ЗАЗЛОВА′ЦЬ *зак.* Забалець моцна. *Моё зу́бу зазловалі, бо ела рыбу і крупнік з м'ясом.* М. Малешава.

ЗА′ЗУБЕНЬ *м.* Рыбалоўны кручок. *На перэмёт чэпляецца багато зазубнёў.* Тураў.

ЗА′ЗУБЕЦ *м.* Тое ж. Аздамічы. *Памянш.* з а з у б ч ы к. Аздамічы.

ЗА′ЗУБОМ *прысл.* Насуперак. *Як ты стала зазубом, то і вон тобе так отвеціў.* Сямігосцічы.

ЗАЗЯ′ХВАЦЦА *незак.* Захліпацца. *Так рознесло́ шчэку́, зазя́хваюса.* М. Малешава.

ЗАІКА′НДА *м.* і *ж. экспр.* Заіка. Запясочча.

ЗАІ′КОВАТЫ *прым.* Заікасты. *Хто процяжно говорыць, той чоловек заіковаты.* Сямігосцічы.

ЗАІ′НЕВЕЦЬ *зак.* Заінець. Верасніца.

ЗАІ′НЕЦЬ *зак.* Тое ж. *Покінула мешок с картоплямі на дворэ, то вон заінеў.* Хачэнь.

ЗАЙГРА′ЦЬ *зак.* Зайграць. *Той стары́ с куршы́ны зробіць дудку да як зайграе!* Луткі.

ЗАЙДРО′СНЫ *прым.* Зайздросны. *Зайдросны думае, коб мне.* Альпень.

ЗА′ЙЗДРОСЦЬ *ж.* Зайздрасць. *Берэ зайздросць, хочэцца і собе бегці* (пра работу). Луткі.

ЗА′ЙЗДРЫ, ЗА′ЗДРЫ *прым.* Зайздросны. *Это такіе очы заздрые мої!* Сямурадцы. *Зайздры.* Аздамічы.

ЗА′ЙМА 1 *прысл.* Усёй жменяй. *Не рві цыбульку займа, трэбо шчыпаць по одной.* Дварэц. 2 *ж.* Захват. *У тое́ займа веліка ў серпе́.* Сямурадцы. 3 *ж.* Постаць. *От у то́е жо́нкі за́йма!* Сямурадцы.

ЗА′ЙМАНКА *ж.* Паднашэнне пастуху. *По́следня займанка — варэнік з конопель.* В. Малешава. *Займанку давалі пастуху по празнікам.* М. Малешава. *Ды цы́ленького пірога́ даеш займанку, шоб цыленька худоба выйшла.* Хачэнь.

ЗАЙМА′ЦЦА *незак.* Займацца, звязвацца. *У нас усе не займаюцца тка́ннем, от ко́е-хто.* Пагост. *Спросо́нку говóрыць, шчо йдзе днём ро́біць, з екою бабою займаецца.* Бярэжцы.

ЗАЙМА′ЦЬ *незак.* 1. Чапаць, кранаць. *Ек не займа́еш нікого, то не прычэпіцца.* Хачэнь. *Не займай мене, мало́го, не калі́ себе, старо́го* (прыказка). Сямігосцічы. 2. Займаць. *Мой бацько займаў пу́сткі да сеяў.* Верасніца.

3. Забаўляць. *Займаю дзіця цацкамі.* Бярэжцы. 4. Заварочваць. *Йдзеце да займайце своє свіньи.* Верасніца.

ЗА'ЙМІСТЫ *прым.* З вялікім захопам. *Шчо больши серп, то займісты больш.* Запясочча.

ЗАЙЦІ' *зак.* Зайсці. *Осё ў горо́д ко́ньмі не можно зайці, усе́ пополо́міш.* М. Малешава. *Лес зайшоў на сухо* (пра плыт). Сямігосцічы. △ У ш п а́ р ы (у ш п а р) з а й ц і. Застыць. *У шпа́ры ру́кі зайшлі.* Запясочча.

ЗАЙЦІ'СА *зак.* Зайсціся. *Зайшло́со дзіця, ек упало з кольбе́лі, аж посінело.* М. Малешава.

ЗА'ЙЦО'Ў *прым.* Зайцаў. *За́йцову шапку пошыў.* Дварэц. △ З а́ й ц о в ы к а р т о п л і. Плады на сцяблах бульбы. Мачуль. З а́ й ц о в а ц ы б у́ л я (ц ы б у́ л ь к а). Лугавы часнок. *Зайцову цыбульку дзеці рвуць.* Хачэнь. З а́ й ц о ў ч а с н о́ к. Тое ж. Хачэнь. З а й ц о́ ў б у р а́ к. Аксамітнік. Хачэнь. З а й ц о в а к а п у́ с т а. Скочкі атожылкавыя. Хачэнь. З а й ц о́ ў б о б. Тое ж. Сямурадцы. *Памянш.* з а́ й ч ы к о ў. △ З а́ й ч ы к о ў б у р а́ к. Аксамітнік. Хачэнь. З а́ й ч ы к о в а к а п у́ с т а. Скочкі атожылкавыя. Хачэнь. З а́ й ч ы к о в а ц ы б у́ л ь к а. Лугавы часнок. Хачэнь. З а́ й ч ы к о ў ч а с н о́ к. Тое ж. Хачэнь. З а́ й ч ы к о ў ш ч а́ в е р. Палявое шчаўе. Бярэжцы.

ЗА'ЙЧЫК *м.* 1. Зайчык. *«За́йчыку, шэ́рэнькі, вы́лі во́ду, за коло́ду. Кроў, кроў, кроў!» Гледзіш на руку́, як сіняя — то небо, як кра́сна — то со́нцэ, як жо́ўта — то дождж* (прыгаворка дзяцей пры вытрасанні з вуха вады пасля купання). Цераблічы. 2. Бакавы выраст на печаным хлебе. *Хоро́шы хлеб — за́йчыкі повупіра́ло.* Хотамель. 3. Сонечная пляма. Запясочча.

ЗАКАБЕ'НЬ *ж.* Закутак. *У тако́м закабне́ косіў, шо одны́е кусты́.* Запясочча.

ЗАКАБЛУ'К *м.* Бяроставая пракладка ў абцасе. *Коліся ў чоботы ставілі закаблукі з берэсты, это коб заднік не гнуўса.* М. Малешава.

ЗАКАЗА'ЦЬ *зак.* Запрасіць. *Продае чоловек хату да не знае, шо за ее заказаць.* Лутлі.

ЗАКА'ЗВАЦЬ *незак.* 1. Загадваць, загадзя паведамляць. *Я ходзіла заказваць усім на роботу, як була звенневая.* Дварэц. 2. Расказваць, апавядаць. *Ты ўмееш казкі заказваць?* Сямурадцы.

ЗАКА'Л *м.* Закалец. *Як хлеб сеў на скорынку, то кажуць закал.* Альшаны.

ЗАКА'ЛЕЦ *м.* Тое ж. *То подгорыць хлеб, то закалец сядзе на скорцы.* В. Малешава.

ЗАКАЛЁНЫ, ЗАКАЛЁННЫ *дзеепрым.* 1. Адсталы, заскарузлы. *Коліся було закалёнэ, забітэ село.* Дварэц. 2. Заядлы, заўзяты. *Закалёны курэц, і ноч'ю ўстае да курыць. І сон не берэ!* М. Малешава.

ЗАКАЛІ'ЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Закáліш штаны ў боцінках ідучы́.* Пагост.

ЗАКАМА'РОК *м.* Закутак. *Кідай туды́, у той закамарок, нашчо шчоб воно валя́лос!* Сямігосцічы. *Памянш.* закамáрочок. *Трэ тые закамарочкі повучышчаць.* Сямурадцы.

ЗАКАМЕ'НКІ *мн.* Месца за комінам на печы. *На закаменкі дзежку з цестом постаў, хай подыходзіць.* Пагост.

ЗАКАПНУ'ЦЬ *зак.* Закапаць. *Каплю меду ў воко закапні, то очышчае.* В. Малешава.

ЗАКАПРЫ'ЗІЦЦА *зак.* Закапрызіць. Аздамічы.

ЗАКАПРЫ'ЗІЦЬ *зак.* Тое ж. *Закапрызіць, ек не ее верх.* Хачэнь.

ЗАКАРАБУ'НІЦЦА *зак.* Залезці, ускарабкацца. *На печку ледво закарабунюс.* Тураў.

ЗАКАЎРА'Ш *м.* Манжэт. *У жонóк вóдзікі на закаўрáшах сорóчкі булі.* М. Малешава.

ЗАКВА'СІЦЬ *зак.* Закісліць. *Трэбо заквасіць боршч.* Хотамель.

ЗАКВА'СКА *ж.* Кіслата. *Дзікіе я́блука, у іх закваскі багато.* Верасніца. *Закваска молоко ўзялá.* М. Малешава.

ЗА'КІ' *прысл.* Пакуль. *Я с свекрýхой сем год жыла, зáкі эту хату зробілі.* Чэрнічы.

ЗАКІ'ДАЦЬ *незак.* Закласці. *Закідай у шýла сценку!* Лууткі.

ЗАКІДА'ЦЬ *незак.* Закідваць. *До Юр'я сена і ў дурня, а на Міколу подавай дай вілкі закідáй* (прыказка). Кароцічы.

ЗА'КІЛЬ *прысл.* Пакуль. *Коровай у печэ̑ седзіць, зáкіль молодые не прыедуць.* Луткі.

ЗАКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Ускінуць. *Корова хвостá на спіну закіне, то дождж будзе.* М. Малешава. 2. Закінуць. *На гóру закінуў шапку, зносіласа.* Пагост.

ЗАКЛА'ДА'ЦЬ *незак.* Закладваць. *Одны́е бублы́, хоць у руж'é заклáдай да стрэля́й* (пра бульбу). В. Ма-

лешава. *Клінок закладаюць, і вон полено росколвае.* Дварэц.

ЗАКЛА'СЦІ *зак.* Закласці. *Заклало вушы.* Аздамічы. *Заклалі податок за двох чоловек, то это воны нам эту хату зробілі.* Пагост.

ЗАКЛЕ'ЗНІЦЬ *зак.* Зажмурыць, заплюшчыць. *Чого ты вочы заклёзніў?* Мачуль.

ЗАКЛЕКА'ЦЬ *незак.* Дранцвець. *Заклекаюць ногі ў поцегольях.* Луткі.

ЗАКЛЁКО'ЎВАЦЬ *незак.* Датыкацца кійком да ўдзельніка гульні *ў клёк.* Запясочча.

ЗАКЛЁН *м.* Закляцце, праклён. *Такі заклён е: коб у твоёй хаце не було ні старэйшого, ні молодшого.* Сямігосцічы.

ЗАКЛІНА'ЦЬ *незак.* Моцна клясці, лаяць. *Сердзіўса, заклінаў той дзед, колі звалі Міколай.* Цераблічы.

ЗА'КЛО *н.* Куток. *Бежы туды ў тэ закло!* Тураў. *Зогнаў у закло товар да нема куда іці тому товару.* Сямурадцы.

ЗАКЛЮ'НУЦЦА *зак.* Наклюнуцца. *Ейцэ заклюнулосо.* М. Малешава.

ЗАКЛЯ'КНУЦЬ *зак.* Здранцвець. *Положыш руку под голову, так заклякне, не можно розвесці.* Цераблічы.

ЗАКЛЯ'СЦІСА *зак.* Пакляцціся. *Забожыўса й закляўса, шо не дасць ні картохліны.* Хачэнь.

ЗАКМЕ'ТА *ж.* Прыкмета. *Дзень мало прыбувае цепер, закметы нема.* Аздамічы.

ЗАКМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Заўважыць. *Дзень збуваецца, ужэ закмеціць можно.* Аздамічы.

ЗАКОВА'ЦЬ *зак.* Закаваць, замерзнуць. *От заковало, шчо лёд у метэр.* Луткі.

ЗАКОЖА'ВЕЦЬ *зак.* Зацвярдзець. *Овечы лой под небом у роце закожавеў.* Дварэц.

ЗАКОЛЁСІ'ЦЬ *зак.* Занесці на ўхабе. *Заколёсіло воз, ой, мамонькі, і вілкі злецелі!* Хотамель.

ЗАКОЛО'ЦІНА *ж.* Стрэмка. *Коб хто выцяг заколоціну мне.* Альшаны.

ЗАКОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Закалаціць, захістаць. *Так грымнуло, аж заколоціло ўсю хату!* Верасніца. 2. Закалаціць, прыгатаваць. *А прыдом молоць, да сяк-так намелём трохі, да зьмом, да заколоцім трохі ў екой кострулі той хлеб* (у час вайны ў куранях). Бярэжцы.

ЗАКОЛО'ЦЬ *зак.* Застраміць. *Корова заколóла ў рáкоціцу дрот да кульгáе.* Верасніца.

ЗАКО'Н *м.* 1. Веравызнанне. *Нашого закону чоловек.* Бярэжцы. 2. Звычай. *Закон гэтакі ў нас. Бáбу несуць по рублю, цукеркі, печэнье, а то подаркі. Не пойдзі ўпóру, то хрышчэнік малы кажэ: усім прынеслі, а мне нема. Нехай его не пропадае.* Дварэц. 3. Заканамернасць. *Як той казаў, і ў погоды закон е!* Хачэнь.

ЗАКОНТО'ПІЦЦА *зак.* Затрымацца. *А дзе ты там законтóпіўса, што не було доўго?* М. Малешава.

ЗАКОПА'ЦЬ *зак.* Укапаць. *Одзін вол за двух кóней повезе, только дай закопáць ему ногі.* Хачэнь.

ЗАКОПІ'ЦЬ *зак.* Намесці снежныя сумёты. *Тые годы ўвесь садок снегом закóпіць.* М. Малешава.

ЗАКОПУ'ЛІЦЦА *зак.* Задрацца. *У ёгó бородá, бу клінок, закопýліласа.* Верасніца.

ЗАКОПУ'ЛІЦЬ *зак.* Закапыліць. *Закопýліў мýсу ўжэ — моўчыць!* Верасніца.

ЗАКО'ПЦЕНЫ *дзеепрым.* Закуродымлены. *Вéчно вона, ек зáслонка: чóрна, закóпцена.* Верасніца.

ЗАКОПЦЯ'ЦЦА *незак.* Закуродымліванца. *Ах, бувало, прадуць да закопцяюцца дзеўкі!* Верасніца.

ЗАКОРПА'ЦЦА *зак.* Закорпацца, затрымацца. *Закорпáўса на робоці.* Цераблічы.

ЗАКОРПЕ'ЦЬ *зак.* Закарцець. *Як закорпіць, то поедзеш!* Хачэнь.

ЗАКО'РЫСТЫ *прым.* Пакручасты. *Закóрыстэ, такé крутое полено.* Чэрнічы.

ЗА'КОС *м.* Пачатак жніва, зажынкі. *Первый закос буў, да зеленковáты гэты ячмень.* Сямігосцічы.

ЗАКО'СОК *м.* 1. Каса (на возеры, рэчцы). Сямігосцічы. 2. Клінок нявыкашанай травы на сенажаці. *Закóскі ў кустóх не ўкóшвалі.* Дварэц.

ЗА'КОСЬ *ж.* Бабка (у жывёл). *Міжда кóсткою і між копы́том закось. У коня закось нацéрло пýтом.* Цераблічы.

ЗАКО'Т *м.* Закот. *Закóтом роблена клець.* Дварэц.

ЗАКО'ТА *ж.* Запруда на пратоцы для лоўлі рыбы. *Загорáжваеш закоту, а як вода спадзе, то ловяць рыбу.* Запясочча.

ЗАКО'ТКІ *мн.* Закот. Дварэц.

ЗАКОЎМА'ЧЫЦЬ *зак.* Абыякава зрабіць. Пагост.

ЗАКОХА'ЦЬ *зак.* Закахаць. *Ледзьве дзеўку закохáў.* Хачэнь.

ЗАКОЦІ'ЦЬ *зак.* Завярнуць. *Сорочку на голову вон закоціць, да слухай спіну дохторка!* Верасніца.

ЗАКО'ШВАЦЬ *незак.* Пачынаць новы пракос. Чэрнічы.

ЗАКОШТОВА'ЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *То закоштуйце кісель!* Аздамічы.

ЗАКОШЭЛЕ'ЛЫ *прым.* Адсталы. *Закошэлелые людзі там жылі.* Хільчыцы.

ЗАКОШЭ'ЛЕ'ЦЬ *зак.* Закарэць. *Худэ, закошэлело порося, рэбра відны, ек у кошэле.* Запясочча.

ЗАКРА'ЕК *м.* Закраіна. *Косіў трактор, а мы косамі вубівалі закрайкі.* Тураў. *Памянш.* з а к р а е ч э к. Пагост.

ЗАКРАЙНЯ' *ж.* Тое ж. *Закрайні озёр.* Сямігосцічы.

ЗАКРА'СА *ж.* Прыправа. *Одзін чоловек купіў м'ясо, а далей пошоў по соль. Другі чоловек путае его, куды вон ідзе. А вон кажэ: «Іду к м'ясу куплю закрасу».* Дварэц. *Не ўкінь м'яса, то грыб не закраса* (прыказка). Сямурадцы.

ЗАКРАСІ'ЦЬ *зак.* Прыправіць. *Закрась салом бульбу.* Хотамель.

ЗАКРО'М *м.* Засек. *Мае закром зерна.* В. Малешава.

ЗАКРО'МІНА *ж.* Тое ж. Дварэц.

ЗАКРУ'ТА *ж.* Закрутка. *Тые дрова закрутамі ўкруцілі.* Луткі.

ЗА'КРУТКА *ж.* 1. Закрутка. *Зачыніў, а чому не закруціў на закрутку?* Аздамічы. 2. Калок у скрыпцы, на які намотваецца струна. Запясочча.

ЗАКРУЦІ'ЦЦА *зак.* Пачаць круціцца. *Закруціўса, як уюн на рожне.* Бярэжцы.

ЗАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Скруціць (галаву). *Закруціць голову селезню трэбо, а навошчэ вон!* Мачуль. 2. Завіхрыць. *Віхор закруціць сено.* Луткі. △ З а к р у ц і ц ь м а т а. Вылаяцца. *Вона маты ек закруціць!* М. Малешава. З а к р у ц і ц ь у х в о с ц е. Замануцца. *Закруціло ў хвосце, то поехаў у Запорож'е.* Хачэнь.

ЗАКРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Закручваць. *Вой страшны, дзе закручвае ў рэццэ.* Кароцічы. *Звалі іх коўтуны, шо закручвалі коўцелі з хусток на голову.* М. Малешава. △ З а к р у ч в а ц ь н о г у. Закладаць ногі адну за адну. *Ногу знай закручвае, як борацца.* В. Малешава.

ЗАКРЫВА'ЦЬ *незак.* Завешваць. *Дзве окне закрывалі дзеругамі.* М. Малешава.

ЗАКРЫ'ЛІНА *ж.* Тарцовая дошка ў канцы страхі.

*Закры́ліну к латам прыбі, коб солома не от'ежджа́ла.* Альшаны.

ЗАКРЫ'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж. *Латы ро́ўненько обрэза́юць і по краях лат прыбіваюць закрыльніцы.* В. Малешава.

ЗАКРЭ'ПВАЦЦА *незак.* Замацоўвацца. *Голоўка хомута́ закрэ́пваецца ўшыва́льнікам.* Цераблічы.

ЗАКУКОРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Заварочваць. *Го́лову закукору́чвае тая я́шчэрка.* Хачэнь.

ЗАКУМЕ'ШКАЦЦА *зак.* Запоркацца. *Я ўстану, з гэтой худо́бой закуме́шкаюса, то забуду.* Дварэц.

ЗАКУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Закупляць. *Вон закупо́ўвав я́годы.* Бярэжцы.

ЗАКУБЕ'ШКАЦЬ *зак.* Неахайна захутаць. *Закубе́шкала дзіця некультурно.* Старажоўцы.

ЗАКУРЫ'ЦЦА *зак.* 1. Закурыцца. *Мое сено лежало, аж закуры́лоса — попо́рцілос да дым ідзе.* Хачэнь. 2. Заімжэць. *Закуры́ўса ўжэ дошч там, ху́тко тут пойдзе.* Луткі.

ЗАКУРЭ'ЦЬ *зак.* Закурэць. *Закурэ́ло жыто, ек красуецца да ве́цёр ёго́ вінду́е.* Цераблічы.

ЗАКУ'ТНІК *м.* 1. Утрыманец. *Бралі грошы ў Турове. Як доўго не оддае, то прысылалі закутніка. І буў надзор. Еслі ты гэтого закутніка обіжаеш, то налагаюць штрах.* Чэрнічы. 2. Казачная істота. *Вой, там закутнік седзіць за пе́ч'ю!* Чэрнічы.

ЗАКУ'ТОК *м.* Закутак. *У тылу́, у заку́тку гумно́.* Альшаны.

ЗАЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Заштукаваць. *Заладзіць шчыта́ чэрэ́том.* Аздамічы. 2 *перан.* Забіць. *Вона его зала́дзіла, вона з полюбо́ўніком!* Хачэнь.

ЗАЛА'МАЦЬ *незак.* Заломваць. *Зала́маем і закрыва́ем* і *дзе́лаем ві́льчык.* Хотамель.

ЗАЛАМІ'ЦЬ *зак.* Заламаць. *Зала́міць солому да крые вільчыка костры́цэю.* Альшаны. *Зала́мімо снопа́ да накрыва́лі дзеся́ткі.* М. Малешава.

ЗАЛА'ПА *ж.* Лата. *Добра шапка, да зала́пы нема, добра молодзіца, да мужыка нема.* Старажоўцы. *Памянш.* з а л а́ п к а. Запясочча.

ЗАЛА'ПІЦЬ *зак.* 1. Залатаць. *Ма́тко, зала́п мне штаны́.* Тураў. 2. Ухапіць. *Меду богато залапіць.* Хотамель.

ЗАЛЕГА'ЦЦА *незак.* Заходзіцца, качацца (ад сме-

ху). *Мужчы́ны залега́юцца, так смеюцца, поцеша́нье ім.* М. Малешава.

ЗАЛЕГА'ЦЬ *незак.* Залягаць. *Часом бывае залегае вухо.* Рубель.

ЗАЛЕ'ГЦІ *зак.* 1. Сціхнуць, спасці. *Дождж залёг трошкі.* Цераблічы. *Вецёр дуў, дуў дай залёг.* Луткі. *Мо залегла трошкі вода.* Кароцічы. 2. Залегчы. *Ча́сом бывае заляжэ однэ ухо, то не чуеш.* Рубель.

ЗАЛЕ'ГЦІСА *зак.* Зайсціся. *Вон і залёгса от смёху.* Луткі.

ЗА'ЛЕЖ *ж.* 1. Аблога. *За́леж — это я́ловэ́ поле.* Запясочча. 2. Запас. *У его за́лежы хапае — усе́ да́ўнее.* Луткі.

ЗАЛЕ'ЗЦІ *зак.* Залезці. *Залез под печ яйца курыные забраць.* Пагост. *Ек залезе Піліп, то і Петро не ву́жэне* (прымаўка, аб неабходнасці добрага зімовага ўтрымання жывёлы). Луткі. *Цёска залезла ў палец.* Сямурадцы.

ЗАЛЕМЦОВА'ЦЦА *зак.* Злямчыцца. *Не росчешы́ ко́сы, то залемцу́юцца.* Запясочча.

ЗАЛЕ'ПАНКА *ж.* Пчаліныя ячэйкі з мёдам у трысцінках. *У залепанцы мед е, вон у чэрэ́цінi і зале́плены землей, а ў серэ́дзіні подзе́лены на коло́дочкі, і там е чэрвячок мале́нькі.* М. Малешава. *Бувало, по́йдом залепанкі цягаць з одры́н, а хозяін ек ву́скочыць да ек дасць чо́су, то лецімо́ только п'яткі ўперо́д.* Там жа.

ЗАЛЕ'ПВАЦЬ *незак.* Залепліваць. *Зале́пвае во́ском дзірку пчола.* Сямігосцічы.

ЗАЛЕПЕ'НІЦЬ *зак. экспр.* Замяшаць. *Залепенім якого цеста.* Кароцічы.

ЗАЛЕ'ТКОВУ *прым.* Леташні. *Зале́тковуе дро́ва зы́рко гора́ць.* Цераблічы.

ЗАЛЕ'ТНЕВУ *прым.* Тое ж. *Зале́тневэ сено остоло́со, будзе на ме́сец траве́нья.* Запясочча.

ЗАЛЕ'ТОК *м.* Леташнія прыпасы. *Залеток е ў цебе? — Остаўса шчэ* (пра сена). В. Малешава.

ЗАЛЁТЫ *мн.* Залёты. Запясочча. △ Ходзі́ць у залёты. Заляцацца. *До кошкі коты ў залёты ходзілі* (жарт). В. Малешава.

ЗАЛІ'ВА, ЗАЛЕ'ВА *ж.* 1. Лівень. *Була така заліва, усе злі́ла́.* Луткі. *Заліва — то такі дошч сільны, цурко́м ідзе.* Пагост. *У нас у гэтом году як дождж, то залева.* Аздамічы.

ЗАЛІВА'ЦЦА *незак.* 1. Заліваццa. *Слезамі жонка*

*заліваецца.* М. Малешава. 2. Заходзіцца. *Заліваецца от смеху, мо по́дмазку з'еў.* Старажоўцы.

ЗАЛІВА'ЦЬ *незак.* Заліваць. *А гэту доліну залівае вода́ наве́к.* Луткі. *Заліваюць пчолы медом вошчы́ну.* Хотамель.

ЗАЛІ'ВЕНЬ *м.* Лівень. *Такі буў залі́вень, шчо поплылі картоплі.* В. Малешава.

ЗАЛІЎНЫ' *прым.* Праліўны. *Такіе тучы заліўные ўпадуць, да пропадуць картоплі.* Хачэнь. *Як ко́лішніе заліўные го́ды булі, то одна метлюга́ і стоколо́са вуросце.* М. Малешава.

ЗАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Утапіцца. *На ту міню́ту не було нікого, то ўпаў у віро́к і заліўса.* М. Малешава. 2. Зайсціся. *Я зо смеху аж заліласа.* Сямігосцічы.

ЗАЛІ'ЦЬ *зак.* Заліць. *Заліло́ ўсе чысто, усе картоплі булі ў водзе.* Луткі.

ЗАЛІ'ЦЬЕ *н.* Разліў. *Було заліцье воды!* М. Малешава.

ЗАЛІША'ЦЬ *незак.* Марнець, чэзнуць. *Свінча́ заліша́ло ў ее, бо не корміць.* Аздамічы.

ЗАЛІ'ШНЕ *прысл.* Залішне. *Болботу́н залішне говорыць, шо й не трэба.* Цераблічы.

ЗАЛО'Г *м.* Заклад. *Заспо́рылі і пошлі ў залог.* Луткі.

ЗАЛОГОВА'ЦЬ *зак.* Задзірванець, стаць аблогай. Аздамічы.

ЗАЛО'ЖВАЦЬ *незак.* Закладваць. *Заложвай у косье́ ко́су.* Старажоўцы.

ЗАЛО'ЖНІК *м.* Палічка з дзіркамі для лыжак. Пагост.

ЗАЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Залажыць. *Заложэ́це ю́шку!* Хачэнь. *От но́са заложыло, да не можно дыхаць.* В. Малешава.

ЗАЛОЖЭ'НЬЕ *н.* Зарок. *У двух дво́рнях подо́х буў весь товар, то зробілі заложэнье.* Цераблічы. *У нас заложэнье од пожару було.* Луткі.

ЗАЛО'ЖЭ'ЧНІК *м.* Палічка з дзіркамі для лыжак. *У заложэ́чніку ложкі сушылісa.* М. Малешава.

ЗАЛО'ІЦЬ *зак.* Зашмальцаваць. *От залоіў гэту куха́йку, шо й не познаць ее.* М. Малешава.

ЗАЛО'М *м.* 1. Залом. *Залом у жыце роскідала.* Бярэжцы. 2. Загіб, звужэнне стога пры яго вяршэнні. М. Малешава. 3. Лука, паварот. *Вода проро́зала залом.*

Цераблічы. 4. Ляжак (гарызантальная частка дымахода). Хотамель.

ЗАЛОМА'ЦЬ *зак.* 1. Звузіць стог перад вяршэннем. М. Малешава. 2. Прымяць. *Трэ, шоб і травы не заломаў.* Мачуль.

ЗАЛО'МВАЦЬ *незак.* 1. Заломваць. *Колькі ў лозе намеце снегу, толькі весною воды будзе. Заломвае лозіну — і праўда* (прыкмета). Цераблічы. 2. Звужаць стог перад вяршэннем. *Заломвай стог, а то сена вершыць не хопіць.* Пагост.

ЗАЛОМІ'ЦЬ *зак.* Прымяць. *Трэба цікаво пройці, коб і травы не заломіць.* Мачуль.

ЗАЛОСКОТА'ЦЬ *зак.* Заказытаць. *Не йдзі ў жыто, бо русаўка залоско́чэ!* Хачэнь.

ЗАЛО'ШЧЫЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Зало́шчылосо ведро, трэбо помуць.* В. Малешава.

ЗАЛУ'ЖЭНЫ *дзеепрым.* Нізкі. *Булі ў нас залу́жэные і заросшые лозою места́.* В. Малешава.

ЗАЛУ'ПАЦЬ *незак.* Задзіраць. *Залупае хвост корова і бежыць.* Кароцічы.

ЗАЛУПІ'ЦЬ *зак.* 1. Залупіць. *Ло́зу залу́піш на пне, коло́ ко́рэня, і дзерэш.* М. Малешава. 2. Падняць угору. *Як укусіць корову, то вона хвоста́ залу́піць і пошла́.* Альпень.

ЗАЛЫ'ГА'ЦЬ *зак.* Залыгаць. *Залы́гаю поводцэ́м целушку і поведу.* М. Малешава. *От я своіх хлопцоў залыга́ла дро́ва рэзаць.* Аздамічы.

ЗАЛЯ'МІЦЬ *зак.* Забраць, падчапіць. *Хочуць кото́ру дзеўку заляміць.* Верасніца.

ЗАМА'ЗАЦЦА *зак.* Захмарыцца. *Зама́золосо так, шо і сонца не відаць. Замазолосо ўжэ на цэлы тыдзень.* Запясочча.

ЗАМА'ЗАЦЬ *зак.* Закрыць, зацягнуць. *Коб тобе очі замазало!* (праклён). Мачуль.

ЗАМАНЕ'ЖЫЦЬ *зак.* Замучыць. *Замане́жыла дзіця.* Аздамічы.

ЗАМА'НКА *ж.* Прываба. *Этые сноп́у добра заманка курам.* Мачуль.

ЗАМА'ТВАЦЬ *незак.* Замотваць. *Хустку подралі да но́гу зама́тваюць.* Хачэнь.

ЗАМАШНО' *прысл.* Клапотна. *Доглядаць курэй замашно, але ж трэбо.* Дварэц.

ЗА'МЕР *м.* Намер. *Я і ма́ла замер прыехаць.* Кароцічы.

ЗАМЕРЗА′ЦЬ *незак.* Замярзаць. *Ровец не замерзáе зімой і вутоў дзікіх там пóўно.* Дварэц.

ЗАМЕ′РЗНУЦЬ *зак.* Замерзнуць. *Нема снегу, да земля гола замерзне.* Дварэц. *Семенны́е картоплі ў ярус да поверху соломою, землéю, да лістóм, то не замерзнуць.* В. Малешава.

ЗАМЕ′РЦІ *зак.* Замерці, спыніцца. *Кроў замéрла от страху.* Дварэц. *Зімою ўсе замрэ́.* Хачэнь.

ЗАМЕ′С *м.* 1. Замес. *Увéчэры рошчыняемо, а рано робім замес: сыплемо муку і месімо кулакамі.* Мачуль. *Мукі на одзін замес зосталóсо.* М. Малешава. 2 *перан.* Падабенства. *Мая Нінка не ўдаласа ў Прокопа, нема того й замесу Прокопа.* Дварэц.

ЗАМЕСІ′ЦЬ *зак.* Замясіць. *Замешу хлеб і буду саджаць.* Луткі.

ЗАМЕ′СТ *прыназ.* Замест. *Замест его другі стаў.* Аздамічы.

ЗАМЕ′СТО *прыназ.* Тое ж. *От эты чоловек хочэ купіць веніка да заместо двацңаці копéёк двацңаць рублей дае.* Кароцічы.

ЗАМЕ′ТАЦЬ *незак.* Замятаць. *Хату заметаць трэба.* Запясочча.

ЗАМЕ′ТКА *ж.* 1. Прыкмета, знак. *Будзе заметка по лісту, шчо лето будзе таке.* Цераблічы. *Мо сто чоловек на цэліну уехало й заметкі нема.* В. Малешава. 2. Заўвага. *Бачыш і дзеці яку заметку даюць.* В. Малешава.

ЗАМЕША′ЦЦА *зак.* Затлуміцца. *Нешчо ім замешалосо ў голове.* Бярэжцы.

ЗАМЕША′ЦЬ *зак.* Замяшаць. *Я зéлья замешаў свіньям.* М. Малешава.

ЗАМЕ′ШВАЦЬ *незак.* Замешваць. *Хот ты замешвай ведро сéчэні кабану!* М. Малешава.

ЗАМІГІТА′ЦЬ *зак.* Заржаць. *Вон замігітáў, той жэробчык.* Хачэнь.

ЗАМІ′КАЦЬ *зак.* Замычаць. Верасніца.

ЗАМІНА′ЦЦА *незак.* Рабіцца вялым, малярухавым (пра жывёлу). *Як, і ў цебе замінáліса поросята?* Хільчыцы.

ЗАМО′ВІЦЦА *зак.* Спыніцца (ад замовы). *Кроў, замóўса!* М. Малешава.

ЗАМО′ЖНЫ *прым.* Багаты, заможны. *Воны богато жылі, заможные людзі булі!* Пагост.

ЗАМО′К *м.* Замок. *Замок лодку прымукаць купіў у Турові.* Пагост.

ЗАМОЛОДЗІ́ЦЬ *зак.* Захмарыцца. *Небо замолоділо.* Хотамель.

ЗАМОНУ́ЦЦА *зак.* Заманущца. *Замонулосо поспаць.* Запясочча.

ЗАМО́РНЫ *прым.* Стаячы, без сцёку. *Доліна заморна, то гэто не я́цель.* Альшаны. *Заморны тут вугон.* Пагост.

ЗАМОРО́ЖВАЦЦА *незак.* Замярзаць. *Заморожваецца гололёд на дорозе, не проедзеш конём аніяк.* Луткі.

ЗАМОРО́ЖВАЦЬ *незак.* Замарожваць. *Шатву́ запуня́юць да заморожваюць рэ́ку.* Альгомель.

ЗАМОРО́ЗІЦЦА *зак.* Замерзнуць. *Шэрэ́н заморо́зіцца по́сле отлігі, да едзь куды хоч.* Луткі.

ЗА́МОРОЗОК *м.* Замаразак. *Заморозкі, гру́дзье робіцца.* Луткі.

ЗАМО́РОК *м.* Заморак. *Под квокухою одны заморкі.* Аздамічы.

ЗАМОРО́КА *ж.* Замарачэнне. *Морочыць у голове заморока.* Луткі.

ЗАМОРО́ЧЫЦЦА *зак.* Замарочыцца. *Заморо́чылася голова ў перэхо́дзі.* Запясочча. *Я на стозі заморо́чуса.* М. Малешава.

ЗАМОРО́ЧЫ́ЦЬ *зак.* Замарочыць. *Заморо́чыць горе́лка ў голове.* Мачуль. *Заморочы́лі голову, шчо нічого не ця́млю.* Кароцічы.

ЗАМОРУ́ЖВАЦЦА *незак.* 1. Хмарыцца. *Небо заморужваецца, вороняка крычала, мо дождж будзе.* 2. Плюшчыцца. *Ох, чого ты заморужваешса, мо ты спаць хочэш?* Пагост.

ЗАМОРУ́ЖВАЦЬ *незак.* Плюшчыць. Пагост.

ЗАМОРУ́ЖЫЦЦА *зак.* Прыжмурыцца. *Шчо ты заморужыласа? — То я, коб цебе познаць.* Бярэжцы.

ЗАМОРУ́ЖЫЦЬ *зак.* Прыжмурыць. Запясочча.

ЗАМОРЫ́ЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Ейцэ́ заморылосо.* Аздамічы.

ЗАМОРЫ́ЦЬ *зак.* 1. Загубіць зародак. *Ку́ра заморыла я́йца, не ву́вела курэнят.* Дварэц. 2. Замучыць. *Худобіну заморыў.* Бярэжцы. *Ко́лісь у мого дзя́дзька була хо́ньдзя, то жабу заморылі да давалі, то прошло.* Луткі.

ЗАМОТА́ЦЬ *зак.* Заматаць, завязаць, абкруціць. *Замота́й цепле́йшу хустку, бо холодно́.* Тураў. *Замотай палец ему, бо кроў чэчэ́.* Аздамічы.

ЗАМО́ЎКА *ж.* Замова. Хачэнь.

ЗАМОЎКНУЦЬ *зак.* Замоўкнуць. *Замоўклі й ніхто й не озваўса.* Кароцічы.

ЗАМОЎЛЯЦЬ *незак.* Загаворваць. *Мар'ечка ўмее кроў замоўляць.* Хачэнь.

ЗАМОХОВАЦЕЦЬ *зак.* Замшэць. *Та дзежка замоховацела, бо хлеб не пекуць.* Бярэжцы.

ЗАМУЖ *прысл.* 1. Замуж. *Моя маці вона отсюль, да вуйшла замуж у Чэрнічы.* Пагост. *Замуж вуйці, трэба знаць: позно легці, рано ўстаць* (прыказка). Цераблічы. 2 *н.* Замужжа. *Прала да ткала нáметкі — дочкáм на зáмуж трэба.* М. Малешава.

ЗАМУЖ'Е *н.* Замужжа. *Хустку скручвалі ў латку і до замуж'я носілі.* Сямігосцічы.

ЗАМУЖЭМ *прысл.* Замужам. *Хіма за Пáўлом Гýковым была замужэм.* Дварэц. *Коб я знала молодая, дзе мне замужэм буваць, помогла б своей свекрусі хоць капусту пoліваць* (прыпеўка). Хачэнь.

ЗАМУКАНЫ *дзеепрым.* Замкнёны. *Навéк маці з кóньмі, з коньмі, а му ў хаці замýканые й замуканые.* Бярэжцы. *Хата замíкана і нікого німа.* Хотамель.

ЗАМУКАЦЦА *незак.* Замыкацца. *Эй, Куліна! Ты не замукáйса от мене, пусці на нóч!* Кароцічы.

ЗАМУКАЦЬ *незак.* Замыкаць. *Пойду одрыну замукаць.* Дварэц.

ЗАМУКАЦЬ *зак.* Зараўці. *Замýкалі корову́ ўжэ, трэ йці доіць.* Хачэнь.

ЗАМУКНУЦЦА, ЗАМКНУЦЦА *зак.* 1. Замкнуцца. *А му замукнóмса і за кóміном седзíм.* Бярэжцы. 2 *пера́н.* Перастаць цячы. *Увéчэр дае, а днем замкнéцца* (пра карову). Запясочча. *Ехаў Егор з вусокіх гор. Коніна спотыкнулас, кроў замкнулас* (замова). Хачэнь.

ЗАМУКНУЦЬ *зак.* Замкнуць. *Замýкнеш хату, а ключ под трэскі схаваеш.* Пагост.

ЗАМУЛ *м.* Каса з пяску і ілу ў рэчышчы. *Замýл стаў, як перэкопáлі.* Сямігосцічы.

ЗАМУЛІЦЦА *зак.* Замыліцца. *Шо ты замуліласа, надзьмýласа, чым недовольна?* М. Малешава.

ЗАМУЛІЦЬ *зак.* Замыліць. *Гýбы замуліў, шо гуляць не пусціла.* М. Малешава.

ЗАМУНІЦЦА *зак.* Замыліцца. Аздамічы.

ЗАМУРЗАНЫ *дзеепрым.* Замурзаны, запэцканы. Сямурадцы.

ЗАМУРЗАЦЕНЬКІ *прым.* Вельмі замурзаны, мур-

заты. *Мой ты замурзаценькі, ходзі я цебе ўмўю.* М. Малешава.

ЗАМУРОВА'ЦЦА *зак.* Засыпацца. *Той колодзеж замуроваўса абу-чым.* Дварэц.

ЗАМУРОВА'ЦЬ *зак.* Забрудзіць (пра мух). *От, мухі ўсей горшчок замуровалі.* Луткі.

ЗАМУРОВЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца брудам, граззю. *Ек посуду не муеш, то вона ж замуровее.* М. Малешава.

ЗАМУРО'ЖЫЦЦА *зак.* Пакрыцца мурагом. Запясочча.

ЗАМУ'ЦЬ *зак.* Замыць, занесці пяском. *Намўло пескў, замуло колóдзедзь.* Луткі. Зацягнуць невад у пясок і гразь. Запясочча.

ЗАМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Замучыцца. *То ў нас мотóра не було, так ву повéрыце, му с старым замўчыліса.* Пагост.

ЗАМУ'ЧЫЦЬ *зак.* Замучыць. *А ліхо вáшэй мацеры! Шо, воны вас замучылі?* Хачэнь.

ЗАМШУКІ' *мн.* Жыхары наваколля Турава. *Это нас полешукі называюць замшукі.* Буразі.

ЗАМ'Я'ЦЦА *зак.* Зрабіцца маларухавым. *Зам'ялоса порося, невесёлэ стало.* Хільчыцы.

ЗАНА'ДЗІЦЦА *зак.* Панадзіцца. *Занáдзіліса гусі ў оўёс ходзіць.* Мачуль.

ЗАНА'ДТО *прысл.* Занадта. *Ужэ занадто пэчэ сонцэ.* Мачуль.

ЗАНАТУ'РЫЦЦА *зак.* Занатурыцца. *Занатурыцца, стане і стоіць, хоць ты вукопай его* (пра вала). Запясочча.

ЗАНЕГО'ДЗІЦЦА *зак.* Раздажджыцца. *Ек отáву робілі, то занегодзілосо, да по восем коп зробілі только.* М. Малешава.

ЗАНЕГО'ЖЫЦЬ *зак.* Занядужаць. *Пошла на роботу дай занегожыла, да ледзьве домоў достáласа.* М. Малешава. *Стары як занегóжэе, робіцца ему стрáшно, шо не поздоровеéе.* Цераблічы.

ЗАНЕДУ'ЖАЦЬ *зак.* Тое ж. *Коб ты, дзіцятко, не занедужаў?* Дварэц.

ЗАНЕ'СЦІ' *зак.* 1. Занесці. *Отрезала кусок сала і занéсла.* Верасніца. *Не ў чóм занесці свінчáкі едў.* Там жа. *Тут не место, занесі на дзіван.* В. Малешава. *Квасольнік целяці занеслá.* Там жа. 2. Нанесці. *Не занесéш на карту такое село, воно роскіданэ во ўсе бокі.* М. Малешава.

ЗАНЕЎГА'Д *прысл.* Незнарок, памылкова. Тураў.

ЗАНЕХА'ІЦЬ *зак.* Занядбаць, пакінуць без увагі. *Занехаеў участковы дзело.* Альшаны.

ЗАНЕЧЫ'СЦІЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Часы́ занечысціліса.* Альшаны.

ЗАНІКА'ЦЬ *незак.* Заглядваць. *Вон туды занікáе, вон туды — дзе люлька, а вона ў зубах.* Мачуль.

ЗАНІ'КВАЦЬ *незак.* Заглядваць. *По-за вуглáмі заніквае, хаваецца.* М. Малешава.

ЗАНІ'КНУЦЬ *зак.* Заглянуць. *Занікнула, мо дзе орэх росце.* Хачэнь.

ЗАНІМА'ЦЦА *незак.* △ З а н і м а ц ц а н а д з е н ь. Світаць. *На дзень занімалосо.* Запясочча. З а н і м а ц ц а н а с в е т. Тое ж. *Уставайце, уге на свет занімаецца.* В. Малешава.

ЗАНІ'ХРЭЦЬ *зак.* Захварэць, занядужаць. *Хібá ты заніхрэла, шо нікýды не ходзіш?* М. Малешава.

ЗАНО'З *м.* Драўляная загваздка ў ярме. *У ерóм укладáецца заноз.* Мачуль. Штыр, які змацоўвае бярвенні ў сцяне. Альшаны.

ЗАНО'ЗА *ж.* Тое ж. Запясочча.

ЗАНО'ЗЫ *мн.* Спіцы для пляцення лапцей. Аздамічы.

ЗАНОРО'ВІЦЦА *зак.* Занаравіцца. *А конь занорóвіўса і не везе.* Луткі.

ЗАНУ'ДЖЭНЫ *дзеепрым.* Заняпалы. Альшаны.

ЗАНУ'ДЗІЦЦА *зак.* Занудзіцца. *Занýдзіліса тые карпý да поздыхáлі ў возеры.* Луткі.

ЗАНУ'ДЗІЦЬ *зак.* Занудзіць. *Я з'ела солóдке да мне занýдзіло.* М. Малешава. *Гэто попоглéдзéц той цевелізор, то занýдзіц.* Запясочча. *Наеўса сморóду да занýдзіло.* В. Малешава.

ЗАНУЖДЖО'ВАЦЬ *незак.* Зацугліваць. Аздамічы.

ЗАНУЖДО'ВАЦЬ *зак.* Зацугляць. Аздамічы.

ЗАНУ'ЗДАНЫ *дзеепрым.* Зацугляны. *Конь не занузданы, то нóсіць.* Дварэц.

ЗАНУЗДА'ЦЬ *зак.* Зацугляць. Аздамічы.

ЗАНЫВА'ЦЬ *незак.* Супакойваць. *Як зýбу болелі, то стругáла корý і казала: орабíна, орабíна! Я не буду цебе ні секці, ні ламаці, толькі зубу занываці. Да не кажуць, шоб перэстаў, а кажуць, шоб заныў. Ее ўверх і стружаць, шоб не ўніз, а ўверх.* Луткі. Заміраць. *Ек дзéрэво зáнывае, то потом сохне, жоўцéе.* Там жа.

ЗАНЫ′ДЗЕЦЬ *зак.* Ачмурэць. *Ек ужэ вельмі рыбе заныдзіць, вона сама ідзе на дух.* Цераблічы.

ЗАНЫ′ЦЬ *зак.* Сапсавацца. *Охва́т, занылa ўся кроў да здох конь.* В. Малешава. Аслабець. *О, заныў кабан, ужэ нічого не будзе.* Там жа. *Занылa лоза́.* Хільчыцы.

ЗАНЯ′ТКА *ж.* Занятак. *На́стаўка — ціка́ва занятка ловіць рыбу.* Мачуль.

ЗАНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Заняць. *Занелі месціну на домок і одрыну.* Дварэц. 2 *перан.* Захапіць. *Погубіў волы́, то заняў іх леснік у лесе.* Лутві. 3. Закрануць. *Вон ка́жного за́йме, з каждым погово́рыць.* Сямігосцічы. *Годоў п'яць лежыць хлеб, то й одна муш не занела́.* Пагост.

ЗАОРА′ЦЬ *зак.* Заараць. *Заора́ў троху бабі коне́м.* Сямурадцы.

ЗАО′РВАЦЬ *незак.* Пачынаць араць. *Ек едуць заорваць, то пе́чоного хрэсціка беруць з собою.* В. Малешава.

ЗАОСЕНЕ′ЦЬ *зак.* Застарэць. *Заосенела, не косіў воўремя, стара трава.* Цераблічы.

ЗА′ПАД *м.* Захад. *Ліно́вішчэ лежало на запад головою ці на сход?* Лутві.

ЗАПАДА′ЦЬ *незак.* Западаць, змяншацца, зніжацца. *Вода пе́рэд дождж́эм запада́е ў коло́дзезі.* М. Малешава.

ЗАПА′ДВАЦЬ *незак.* Заходзіць. *Запа́двае со́нцэ.* Аздамічы.

ЗАПАДЗЕ′НЬКА *ж.* Клямка. Аздамічы.

ЗАПА′ДЛЫ *прым.* Заняпалы. *Ек ву́ехаў вон на мост, то ўсе гусі це́рэз копань, дзе і якая запа́дла була́.* Цераблічы.

ЗАПАДНЯ′ *ж.* 1. Клямка. *Клямка под палец, а ззаду поднімаецца западня.* Мачуль. 2. Глуш. Мачуль.

ЗАПА′ЗУХА *ж.* Запазуха. *Дай бог мацер у запазуху, шо вона думае дзіцяці* (прымаўка). М. Малешава.

ЗАПАКОВА′ЦЬ *зак.* Запоўніць. *Пчола ме́дом запаку́е ўсего вулья́.* В. Малешава.

ЗАПА′Л *м.* Запал, парыў. *Ек б'юць ба́біну кашу, то вон ужэ на пе́рву запал дае пяцьдзесят рублёў!* Хільчыцы.

ЗАПАЛЕ′ННЫ *прым.* Запальчывы. *Ой, сердзіта моя маці, вона запаленна!* Цераблічы.

ЗАПАЛІ′ЦЦА *зак.* Загарэць. *Запалілоса ўсе: і від, і ногі, і рукі.* Аздамічы.

ЗАПАЛІ′ЦЬ *зак.* 1. Запаліць. *Нашу хату тожэ буў*

*гром запаліў.* Хачэнь. *Ужэ запаліла пітульку, седзіць, прадзе.* М. Малешава. *Без перэклада дрова не запаліш у печэ.* В. Малешава. 2. Моцна падсмаліць, падпячы. *Запаліла ты, мамо, хлеб, скорынка цвёрда.* Запясочча. *Неправільно загорэла — тута запаліла.* М. Малешава.

ЗАПА'МЕТВАЦЬ *незак.* Запамінаць. *І вона так добре запаметвае вершыка!* Альшаны.

ЗАПАМІ'НКА *ж.* Запамінанне. *Запамінка ў мене плохая на вершыка.* М. Малешава.

ЗАПАРОВА'ЦЬ *зак.* 1. Сагрэцца, спарыцца. *Запаровалі буракі ў буртах.* Верасніца. 2. Прыпарыць. *Коб запаровало, то грыбу сталі бу росці.* Запясочча.

ЗА'ПА'С *м.* Запас. *Чотырі колесі на воз купіў у запас.* М. Малешава. △ П р о з а́ п а́ с. У запас. *Про запас оддаў тобе грошы, нехай полежаць у цебе.* Сямігосцічы.

ЗАПА'СВАЦЬ *незак.* Запасваць. *Як перву раз корову запасваюць, то просцілаюць пояса того красного, ейцэ кладуць у куточок, шчоб перэступіла, шчоб гладкая була, як ейцэ.* Луткі.

ЗАПА'СІНА *ж.* △ З а п а с і н у д з е р ж а́ ц ь. Мець нарыхтаванае ў запас. *Дайней то людзі казалі — трэба запасіну дзержаць, гэто не то, шчо цепер.* Хачэнь.

ЗАПА'СКА *ж.* 1. Плахта. *Та запаска ек дуб стоіць.* М. Малешава. 2. Фартух. *Запаскі ткалі — такіе фартухі суконные, войненые.* Кароцічы.

ЗАПАСКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Запаскудзіць. *Акыша куды, запаскудзяць усю хату.* Сямурадцы.

ЗАПА'СЦІ *зак.* Знізіцца (пра ўзровень вады). *От западзе вода, потом зноў прыбудзе.* Хачэнь. *Запала вода, і тая рыба перэдохла.* Пагост. Заняпасці, перастаць расці. *Запалі буракі на огородзі.* М. Малешава.

ЗАПА'СЫЧ *м.* Падпасак. Альшаны.

ЗАПА'ХНУЦЦА *зак.* Засмярдзець. *Цёпло, то запахніцца ек бачыш м'ясо.* Сямурадцы.

ЗАПЕВА'ЙЛО *н.* Запявала. *О, то дзейка ў людзях запевайло, огонь!* Азяраны.

ЗАПЕВА'ЦЬ *незак.* Запяваць. Запясочча.

ЗАПЕ'КАЦЦА *незак.* Запякацца. *Уюны на метках запекаюцца.* Хачэнь.

ЗАПЕ'КАЦЬ *незак.* Запякаць. *Стаўляць палочкі з россошкамі, да меткі кладуць на гэтые россошкі, да запекаюць уюны.* М. Малешава.

ЗАПЕКЦІ' *зак.* Запячы. *Озьмі цукерка, недзе запечэ воды, то з'есі.* В. Малешава.

ЗАПЕ'КЦІ'СА *зак.* Запячыся. *Хлеб запёкса хорошэ, бо ў печы було зырко.* М. Малешава. Загарэць. *Мое дзеці чорные, так запекліса на сонцы!* Луткі.

ЗАПЕ'НЬГАЦЬ *зак.* Абыякава загарадзіць штыкетнік ці частакол. *Як вон загородзіў? Абы запеньгаць. Нехлем'яжа горожа! Праўда?* Тураў.

ЗАПЕ'РКА *ж.* Бярвенца ці дошка ў застаронку. *Ток одгорóджоны од засторонка заперкамі.* Аздамічы.

ЗАПЕ'РЦІ *зак. перан.* Закласці. *От заперло, шо есці не можно, не хочэцца.* В. Малешава.

ЗА'ПЕ'РЫНА *ж.* 1. Бярвенца ці дошка ў застаронку. *У гумне за запéрыной закопаў дзед золото.* В. Малешава. 2. Закладка між сохамі ў курэні. Запясочча.

ЗАПЕРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Апярэдзіць. *Шоб заперэдзіць грыбоў набраць, то трэба рано забегці.* М. Малешава.

ЗАПЕ'СЛІВУ *прым.* Зайздросны. *Рукі доўгіе, а очы запеслівэ* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЗАПЕСО'ЧНІК *м.* Верхняе бервяно ў хаце. Аздамічы.

ЗА'ПЕТОК *м.* Запятак. *Запеткі робяць у лапцях.* Любавічы.

ЗАПЕТРЭНЕ'ЦЬ *зак.* Завіснуць пры спадзе вады (пра лёд). Альпень.

ЗАПЕТРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Зап'етрэло, то ўюн ужэ не полезе. Лёд обвальваецца крэпко, бо вон не мае тое моцы, як зап'етрэў.* Запясочча.

ЗАПЕ'ЦЬ *зак.* Запець. *Да ек запое вон, то слухае ўсе село.* М. Малешава. *Молоды пеўнік запое — шчэ попоў паробок выспіцца* (прымаўка). Мачуль.

ЗАПЕ'ЧОК *м.* Запечак. *У запечку спалі, у запечку сухо.* Бярэжцы. *Доброму чоловечку добрэ і ў запечку* (прыказка). Хачэнь.

ЗАПІНА'ЦЬ *незак.* Занавешваць. *Запінай дзверы, нема ек седзець, комары лезуць.* Хачэнь. *Кóлісь молодым запіналі пóлогі.* Запясочча.

ЗА'ПІ'НКА *ж.* 1. Фартух. *Оля, а дзе моя зáпінка? Пойду вубіраць гуркі.* Сямігосцічы. 2. Фіранка. *Запні окно зáпінкамі, шчоб не відно було.* Цераблічы.

ЗАПІ'РОК *м.* Адгароджанае месца ў гумне для мякіны. Аздамічы.

ЗАПІХА'ЙЛО *н.* Той, хто закрывае сабой. *Міхайло — усім с'ятóм запіхайло* (прымаўка). Верасніца.

ЗАПІ'ЦЬ *зак.* △ З а п і ц ь д з е ў ч ы н у. Зрабіць

заручыны. *Зап'юць дзеўчыну, да ўжэ жэніх несе хустку з этымі госцінцамі той молодой.* Бярэжцы.

ЗАПЛА'КАЦЬ *зак.* Заплакаць. *Заплачэш і пойдзеш, ек я тобе згорну дулю под нос!* Цераблічы. *Своє ек не заплачэ, то скрывіцца* (прыказка). Лутκі.

ЗАПЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Заплаціць. *Корову продам да заплачу тые запоіны.* Альгомель. △ Заплаціць за ме́сто. Укінуць манету ў дол перад апусканнем дамавіны. *Трэ заплаціць небожчыку за место, шоб не гоняў его ніхто.* М. Малешава.

ЗАПЛЕ'СКВАЦЬ *незак.* Прыплескваць. *Онё градкі заплесквае ў городзі.* Сямігосцічы.

ЗАПЛЕСЦІ' *зак.* Сплесці. *Хлеўчыка с плоту заплела.* М. Малешава.

ЗАПЛЕ'СЦІСА *зак.* Заблытацца. *Заплёўса ў про́волоку, лёдбы ву́лез.* Аздамічы.

ЗАПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Заплятаць. *Заплётаюць дзеўкі косы.* Лутκі.

ЗАПЛУ'ЦЬ *зак.* 1. Заплыць. *Вутва тобе заплуве, шо і не прыдумаеш!* Буразі. 2. Зацягнуць, пакрыць. *Заплоў разум і забула, шо робіць.* В. Малешава.

ЗАПЛЮ'СКАЦЬ *незак.* Заплюшчваць. *Пул, то очы заплюскаць трэба.* Хачэнь.

ЗАПЛЮ'СНЕНЫ *дзеепрым.* Заплюшчаны. *Ідзе заплюснены, очы не гледзяць.* Аздамічы.

ЗАПЛЮ'СНУЦЦА *зак.* Заплюшчыцца, закрыцца. *На ноч гускі заплюснуцца.* Хачэнь.

ЗАПЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Заплюшчыць. *Як жэ я прыду к тобе по сено, к старой? — А ты очы заплюшчы да прыдзі.* Хачэнь.

ЗАПНУ'ЦЬ *зак.* 1. Занавесіць. *А чого то ты тэ окно запнула?* Запясочча. *Запне дзеругамі воро́та да вее веелкою ў гумне.* М. Малешава. 2. Падперазаць фартух. Хотамель.

ЗАПОВЕ'ТРЫЦЬ *зак.* Захварэць ад ветру. *А шоб цебе заповэ́трыло!* (праклён). Мачуль.

ЗА'ПОЗАЛЕ'ТОСЬ, ЗАПОЗАЛЕ'ТОСЯ *прысл.* Тры гады назад. *За́позалетось була за́суха.* Верасніца. *Запозалётося.* Цераблічы.

ЗАПОЗАЎЧО'РА *прысл.* Тры дні назад. Аздамічы.

ЗАПО'ЗНО *прысл.* Занадта позна. *Сказалі, шчо запозно прывезлі хворого.* Сямігосцічы.

ЗАПО'ІНЫ *мн.* Заручыны. *Запоіны гулялі, а веселье*

*будзе на Петра.* Бярэжцы. *Вера пойдзе ў запоіны, дзевер жэніцца, берэ Марусіну братанку.* Луткі.

ЗАПО'Л *м.* Прыпол. *Назбірала поўны запол яблук.* Альпень.

ЗАПОМІГЛІ'ЦЬ *зак.* Заімжаць. *Запоміглій дожджык.* В. Малешава.

ЗАПО'МНІЦЬ *зак.* Забыць. *Я й запомніў, за кого вон поступіў вучыцца.* Старажоўцы. *Я знаў, але запо́мніў.* Сямігосцічы.

ЗАПО'МЧЫЦЦА *зак.* Стаць вельмі ветраным (пра надвор'е). *Запомчыцца, шо і домоў не заедзеш.* Луткі.

ЗАПО'НА *ж.* Фіранка, заслона, шырма. Хотамель.

ЗАПОРНУ'ЦЬ *зак.* Ырнуць. *Запорні головой, то достанеш дно.* Бярэжцы.

ЗА'ПОРОЖНЯ' *ж.* Падваротніца. *Там отложэна, Адаме, за́порожня? То одкінь за́порожню.* Кароцічы. Адгародка, застаронак у гумне. *Ек робіш засторонка, у шулцэ запорожню закіда́еш.* Луткі.

ЗАПОРУШЫ'ЦЬ *зак.* Запарушыць. *Колі запору́шыш воко, то трэба прыложыць к воку кіслого молока і полежаць.* Хачэнь. △ З а п о р у ш ы́ ц ь о к о. Звярнуць увагу, зацікавіць. *Хлопец запорушыць око на цебе.* В. Малешава.

ЗАПОТЫ'ЛОК *м.* Патыліца. Альшаны.

ЗАПОЧЫ'НУЦЬ *зак.* Адпачыць. *Започы́нь, Васіль! Поседзі!* Хотамель.

ЗАПРА'ВІЦЬ *зак.* Накіраваць. *Ешчэ мацер заправіць у ягоды!* М. Малешава.

ЗАПРАГА'ЦЬ *незак.* Запрагаць. *Одного коня ў оглоблі запрагаюць, а другого на ёрчык прыпрагаюць.* Луткі.

ЗАПРАГЦІ' *зак.* Запрэгчы. *І вы поверце, як запражэш корову поораць,— абсолютно ўжэ молока не дае.* Пагост.

ЗАПРАГЦІ'СА *зак.* Запрэгчыся. *Запражэцца з весны і до зіму́ ходзіць у ягоды.* Луткі.

ЗАПРО'БОВАЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *Запробуй картоплікоў, оны ж молодые.* М. Малешава.

ЗАПРОПА'СЦІЦЦА *зак.* Запрапасціцца. *І поросята і гусі крычаць. Дзе вона запропасціласа?* М. Малешава. *Земля запропасціцца од косцэрэ́ву.* Пагост.

ЗАПРОПАСЦІ'ЦЬ *зак.* Давесці да знікнення. *Той колодзеж запропасцілі зельем, палкамі.* Дварэц.

ЗАПРОТО′РЫЦЬ *зак.* Запраторыць. *Куды вы хустку запроторылі?* Аздамічы.

ЗАПРУ′ДА *ж.* Запруда. *Для водзянóго млінá робілі запруды.* Тураў.

ЗАПРУ′ТА *ж.* Закрутка. *Уй, у мене поломаласа запрута, дрóва россыпаліса!* Запясочча.

ЗАПРУ′ЦІЦЬ *зак.* Закруціць. *Узяў екі колóк дай запруцій на запруту — ужэ не роскідаецца воз.* Лут키.

ЗАПРЫПУНІ′ЦЬ *зак.* Запыніць. *По шлеху шла машына, мы ее запрыпунілі.* М. Малешава.

ЗАПРЫ′ХАЦЬ *зак.* Зачмыхаць. *Запрышэ пыж, ек дым поцягне, і вускочыць.* Альшаны. *Вон ек закрычаў да ек запрыхае, шо гарáчэе!* Хачэнь.

ЗАПРЭ′ГАЧ *м.* Калок у пярэднім навоі. Верасніца.

ЗАПРЭГЦІ′ *зак.* Засмажыць. *Крышаны́ запрэгу́ салом — і добрэ, есці можно.* Лутки.

ЗАПУ′ЛЕНЫ *прым.* Запальчывы, гарачы. Хачэнь.

ЗАПУ′ЛЬВАЦЬ *незак.* △ З а п у́ л ь в а ц ь  н а  д з е н ь. Днець. *Ужэ запульвае на дзень, ужэ світае.* Сямігосцічы. З а п у л ь в а ц ь  н а  с в е т. Тое ж. *Угэ запульвае на свет, скоро віднó будзе.* Сямігосцічы.

ЗАПУНІ′ЦЦА *зак.* Запыніцца. *Беглі, беглі і запуніліса.* Луткі.

ЗАПУНІ′ЦЬ *зак.* Запыніць. *Нехай запу́няць, нехай зробяць, шчоб не йшоў.* Верасніца. *У больніцы ему еле кроў запынілі.* М. Малешава.

ЗАПУНЯ′ЦЦА *незак.* Запыняцца. *Запуняецца рыба перэд гаткóм, ідзе ў дзверы і цэляе ў жакá.* Сямігосцічы.

ЗАПУНЯ′ЦЬ *незак.* Запыняць. *Запуняць коня тпр-у-у!* Бярэжцы.

ЗАПУСКА′ЦЦА *незак.* Запускацца. *Корова запускаласа на поўгода.* Верасніца.

ЗАПУСКА′ЦЬ *незак.* 1. Запускаць. Верасніца. △ З а п у с к а ц ь  р э ч к у. Спыняць ільдзіны на рацэ ўвосень. *Ходзем рэчку запускаць, бо ўжэ одно чэчка посерэдзіне.* Пагост.

ЗА′ПУСКІ, ЗА′ПУСТЫ *мн.* Запускі. *Як кончыцца м'ясоед, то запускі начынаюцца.* Луткі.

ЗАПУСТОВА′ЦЬ *зак.* Запуставаць, згінуць. *Поселя запустовала, і поднóж'е звелос.* Хільчыцы.

ЗАПУСЦІ′ЦЦА *зак.* 1. Запусціцца. *Запусціласа корова.* Запясочча. 2. Забрацца. *У Байрáк запусціўса з коровой, там трава росла.* Альгомель. 3. Апусціцца. *От запусціўса, не брыты, волохáты!* Хільчыцы.

ЗАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Засмеціць. *Шчо ж воны землю пу́р'ем запусцілі!* Дварэц. 2 *перан.* Адгадаваць. *Коліся то воны запусцяць коўтуны, да птху!* В. Малешава.

ЗАПУТА'ЦЬ *зак.* Паспытаць. *Як запуталі там вороб'é конопель, то сюды не полецелі.* Сямігосцічы. *Гуркоў нашых запутайце.* Цераблічы. *Трэ й мацер завезці рыбу, хай запутае і вона.* Бярэжцы. *Качкі зерня запутаюць да не хочуць боцвінья.* В. Малешава.

ЗАПУ'ТВАЦЬ *незак.* 1. Каштаваць. *Запутвалі мое млінцэ?* Цераблічы. 2. Пытацца. *Коб ее зразу не запутвала, то б не поехала.* Запясочча.

ЗАПУ'ТОК *м.* Частка рэчыва, узятая на спробу. *Озьмі лёну запуток со слішча да посушы ёгó, да потры, то познаеш, ці отышло прадзіво од кострыцы.* М. Малешава.

ЗАПУ'ШКАЦЬ *зак.* Запухкаць. *Запушкало варэнье.* М. Малешава.

ЗАПХНУ'ЦЬ *зак.* Запхнуць. *Я ёгó запхнуў под курэнь да землéй закідаў* (пра аўтамат). Бярэжцы.

ЗАП'Я'ТОК, ЗА'ПЕТОК *м.* 1. Пята. *Ек побегла, толькі зап'яткі мелюць!* Запясочча. 2. Запятак. *То хозяін хорошы, шо ў зап'ятках пшэніца росце!* (прыказка). М. Малешава.

ЗАРА' *ж.* Зара. *Два раз бачыла, ек зара ўпала да на таку́ веліку мéсціну, ек золото, огонь по земле коціцца, дай згасло.* Луткі.

ЗА'РАЗ *прысл.* Зараз. *Зараз пойду по зелье.* Хотамель.

ЗАРА'З *прысл.* Адразу. *Зараз вуцеглі неводом сорок сомóў.* Луткі.

ЗАРА'ЗА *м.* і *ж. перан.* Зараза. *Уся́кі зараза да п'яніца мне не трэба.* Луткі.

ЗАРА'ЗЛІВУ *прым.* 1. Заразлівы. *Ціф заразлівы, нападае на свежого чоловека.* В. Малешава. 2. Назойлівы. *Коб не этые заразлівые мухі, эта пропасць, то хату одчыніў бу.* Луткі.

ЗАРА'НЕ *прысл.* Вельмі рана. *Вот заране ўстала, то й зробіла свою роботу.* Луткі. *Заране мороз, як на грэх, хопіўса, то ўсе буракі ляпнулі!* В. Малешава.

ЗАРА'НЕ'Й *прысл.* Тое ж. *Чого ты зара́ней так устаеш?* Пагост. *Чайка заранéй прылéтае.* Запясочча.

ЗАРА'НО *прысл.* Тое ж. *Нешчо ты зарано прышоў?* В. Малешава.

ЗАРА'НЬ *прысл.* Тое ж. *Заранъ пшэніцу посеялі, а*

*не жнуць.* Хачэнь. *Як зарань загрыміць, то плохэ́ лето будзе.* Там жа. *Як сонцэ зарань збежыць, то не будзе погоды.* Верасніца.

ЗАРДЗЕ'ЦЦА *зак.* Зардзецца. *От сварыласа, аж зардзеласа.* Аздамічы.

ЗАРЗА'ЦЬ *зак.* Заржаць. *Конь зарзаў — значыць нешчо е.* Любавічы.

ЗАРОБІ'ЦЬ *зак.* 1. Зарабіць. *Заробіў крышку да ўкінуў у кішку* (прыказка). М. Малешава. *Тамэка заробіш за тыдзень п'яць пудоў мукі.* В. Малешава. 2. Забрадзіць. Луткі.

ЗАРОБЛЯ'ШЧЫ *дзеепрым.* Які многа зарабляе. *Я заробляшча, да на лне цяжко заробіць.* Аздамічы.

ЗАРОБО'ТОК *м.* 1. Заробак. *На картоплях самы лепшы зароботок.* Верасніца. *На гэтых дзе́цях нема ніякого зароботку.* Сямурадцы. 2 *мн.* З а р о б о́ т к і. Праца па найму са здзельнай аплатай. *Як красне́ весна, то поеду ў зароботкі.* Альшаны.

ЗАРО'Г *м.* 1. Затока. *Рыба ўся ў зарогах, ек лес мольою йдзе.* Хачэнь. *У Хочэ́нском зарозі рібу багато е, але вельмо ее там возьмеш!* Пагост. 2. Рог (сенажаці, палетка). *Зарог травы, то два во́зы нажалі.* Хачэнь. *Памянш.* з а р о́ ж о к, з а р о́ ж э ч о к. *По заро́жках озёр добрэ волоком ловіць рыбу.* Тураў. *Самі зарожэчкі вужыналі серпамі на сено.* М. Малешава.

ЗАРОДЖО'НЫ *дзеепрым.* Прыроджаны. *Можэ такі вон зароджоны?* Верасніца.

ЗАРОДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Завесціся. *Зародзіласа муш под подлогою.* Дварэц. 2. Урадзіцца. *Ногды́ не зрожа́й, то не заро́дзіцца.* Хільчыцы.

ЗАРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Зарадзіць. *Зародзіло жыто, аж повылягало.* Сямігосцічы. *Як я́блука зародзяць, то будуць, а ек не зародзяць, то нічого не будзе.* Бярэжцы.

ЗАРО'ДОК *м.* Зародак, завязь. *Цветом обкрыла зе́млю яблоня, а зарэ зародкоў багато.* М. Малешава.

ЗАРО'ІЦЦА *зак.* Затлуміцца. *Нешчо ў голове заріолосо.* Сямігосцічы.

ЗАРОСІ'ЦЦА *зак.* Абрасіцца. Хотамель.

ЗА'РОСЛЯ' *ж.* Зараснік. *За́росля ў озеры, шо й волока процегці нельга.* М. Малешава. *Скрозь було́ кусты да зарос́ля, шо і кот не пролезе!* Дварэц.

ЗАРО'СТАНЫ *дзеепрым.* Зарослы. *Заростанэ було Хмелево, то рослі грыбу.* М. Малешава.

ЗАРОСЦІ' *зак.* Зарасці. *Просо заросло — саме́ зелье!*

Запясочча. *Зарос участок зельем, трэ полоць.* Сямурадцы.

ЗА'РОСЦЬ *ж.* Зараснік. *У Ча́гошчы була заросць — орэшнік, дубі.* В. Малешава. *Заросць була, цёрон.* Чэрнічы.

ЗАРОТОВА'ЦЬ *зак.* Уратаваць. *Заротў́й госпо́д, шо то за людзіна, шо то за нога!* Кароцічы.

ЗА'РОШЧ *ж.* Зараснік. *Така на болоці зарошч!* Буразі.

ЗАРО'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Зарослы. *Заро́шчэнэ поле, невуроблено аніяк.* Хачэнь.

ЗАРУ'БА *ж.* Зарубка, засечка. *На зару́бу дужку ведра́ положыў і пошоў.* Аздамічы.

ЗАРУ'БВАЦЬ *незак.* Засякаць. *Зару́бвалі ву́гла, зарэ́звалі, ек сталі пілкі.* Верасніца.

ЗАРУ'БІНА *ж.* Зарубка, засечка. Запясочча.

ЗАРУБІ'ЦЬ *зак.* Зарубіць, падшыць. *Зару́бім нешыро́ко, як гэта по́дбівочка.* Бярэжцы.

ЗАРУЧО'НЫ *дзеепрым.* Заручаны. *Коліся казалі, ек заручона дзеўка ўмрэ, то будзе руса́ўка.* Хачэнь.

ЗАРУ'ЧЫНЫ *мн.* Заручыны. Запясочча.

ЗА'РЭ *прысл.* Зараз, цяпер. *Мо ты зарэ пойдзеш у грыбу, то позовеш і мене, ек іцімеш.* Кароцічы. *Твое зарэ, ек панскі почэ́кай* (прымаўка). Луткі.

ЗА'РЭВО, ЗА'РВО, ЗА'ГРЭВО *н.* Зарава. *Зарэво відно́, пожар!* Аздамічы. *Зарво, пожар, дзе-то горыць!* Сямігосцічы. *Загрэво, сонцэ заходзіць.* Любавічы.

ЗАРЭГОТА'ЦЬ *зак.* Зарагатаць. *Ек зарэгочэ дзядзько Змітро́ з его́!* Цераблічы.

ЗАРЭ'ДКО *прысл.* Вельмі рэдка. *Зарэдко квас зварыўса.* Аздамічы.

ЗАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Зарэзаць. *Я так любіла м'ясо, то хоць кота зарэж, то з'ела б!* Сямурадцы.

ЗАРЭКА' *ж.* Зарэчча. *Зарека шче ў водзе ўся, нема куды колхозны товар гнаць.* Пагост.

ЗАРЭЎЦІ' *зак.* Зараўці. *Бувае, шо ежэлі заснеш, то ек воўк, то корові зарэвуць.* В. Малешава. *Чуем целя — э-э-э! Як зарэве!* Бярэжцы.

ЗАСА'ДА *ж.* 1. Клетка для свіней або гусей, якіх кормяць на забой. *Гэты кабан у засадзі, а тые надворные.* Цераблічы. *У мене́ окура́т корміл́оса п'яць гусей у засадзе.* М. Малешава. 2. Засада (на звера). *На воўко́ў засаду робілі.* Любавічы.

ЗАСА́ДКА *ж.* Засада (на звера). *Мы жэно́м, а воны побэ́глі ўпэро́д на засадку.* Мачуль.

ЗАСА́ДЖЭНЫ *дзеепрым.* Пасаджаны. *А так скрозь засаджэны сад буў.* Пагост.

ЗАСА́ДЧЫК *м.* Паляўнічы, які сядзіць у засадзе. Мачуль.

ЗАСВА́ТАЦЦА *зак.* Засватаць. *Ото ж воны ек засватаюцца, ну, то воны ж робяць запоіны.* Бярэжцы.

ЗАСВЕ́ЧВАЦЬ *незак.* Запальваць, уключаць святло. *Засвечваць свет.* Луткі.

ЗАСВЕЦІ́ЦЬ *зак.* Уключыць святло. *Засвецёць свет да пошукайце там 'ну́чы!* Цераблічы.

ЗАСЕВА́ЦЬ *незак.* Пачынаць сяўбу. *Засеваюць у той квадры, шчоб не ў молодзіку, не ў чэцве́р.* Луткі.

ЗАСЕДА́ЦЬ *незак. перан.* Зарастаць. *Заседа́е борода.* Запясочча.

ЗАСЕДРЫ́ЦЦА *зак.* Залезці ў куль рыбалоўнай сеткі. *Лобо́к заседрі́ўса ў сетку.* Альшаны.

ЗАСЕ́К *м.* Засек для зерня. Дварэц. Застаронак у гумне для складання збожжа. Аздамічы. Адгароджаная кармушка ў вугле хлява для каня, каровы. Запясочча.

ЗАСЕ́КЦІ *зак.* 1. Засячы. *Трэба засекці пеўня і зварыць булён.* Цераблічы. 2. Зрабіць засечку. *Засечы́ голоўку ў ру́бель!* Кароцічы.

ЗАСЕ́РДЗІЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Ужэ і засердзіласа, я ж тобе нічого плохого не сказала.* Азяраны. *Засе́рдзіўса да хоцеў порэзаць да ў рэ́ку ўкідаць сетку.* Запясочча. *Здорову не засердзіцца.* Кароцічы. *То мой бацько засердзіўса, да ёму́ пугой!* Бярэжцы.

ЗАСЕ́СЦІ *зак. перан.* Зарасці. *Густы-густы лес, лоза, во дзе гай засеў!* Мачуль. *Засела борода, як шчотка.* Там жа.

ЗА́СЕ́ЎКІ *мн.* Засеўкі. *Пры за́сеўках хрэсня з собою брали ў поле.* Луткі. *На засе́ўкі, ек сеюць, то беруць яйца з собою.* Дварэц. *Ек засе́ўкі — будуць топіць, варыць, а до коміна вяжуць хмель да сухімі зе́рнетамі посыпаюць.* Верасніца.

ЗАСІЛІ́ЦЦА *зак.* Задушыцца. *Свінья засіліласа між колкоў.* Запясочча.

ЗАСІЛІ́ЦЬ *зак.* Задушыць. *Грыша можэ собаку засіліць?* Хотамель. Зацягнуць пятлёй. *Засіліў вероўку за глотку.* Запясочча. *Воўк засіліў ногу, коб голову, то засіліўса.* Хачэнь.

ЗАСІЛО́ЎВАЦЬ *незак.* Зацягваць пятлёй. *Берэ ве-*

*рэўку, засілоўвае, шоб колода не ворочаласа.* Цераблічы.

ЗАСІ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Задушвацца. *Собаку на цэп узяць, то вон засільваецца.* Запясочча.

ЗАСІ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Зацягваць пятлёй. *Вагом засільвають колоду намёртво на столюзе.* Цераблічы.

ЗАСІНІ'ЦЦА *зак.* Засмужыць. *Засінілосо, мо й дождж пойдзе.* Мачуль.

ЗАСІ'НЬВАЦЬ *незак.* Зацягваць смугой. *Ужэ засіньвае, вуступае хмара.* Верасніца. *Засіньвае, дождж будзе.* Аздамічы.

ЗАСКА'ЛІЦЦА *зак.* Зажмурыцца. *Заскаліўса, заморужыўса на сонцы.* М. Малешава.

ЗАСКА'ЛІЦЬ *зак.* Зажмурыць. *Однэ око заскаліў, а друге дзівіцца.* Сяміґосцічы.

ЗАСКА'ЛЬВАЦЦА *незак.* Зажмурвацца. В. Малешава.

ЗАСКА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Зажмурваць. Лутки.

ЗАСКЕРГОТА'ЦЬ *зак.* Закрычаць (пра жабу). *Жаба заскергéчэ, то, як знае, на дождж.* Пагост.

ЗА'СКОЦЕНЬ *м.* 1. Засечка. *Заскоцень оторвайса ў поножэ.* Сямурадцы. 2 *перан.* Задзіра. *Собачы заскоцень ты!* Мачуль.

ЗАСЛА'ЦЬ *зак.* Заслаць, пакрыць. *Заслала ложка дзеругою.* Лутки.

ЗАСЛЕПІ'ЦЬ *зак.* Засляпіць. *Коб ему заслепіло очы!* В. Малешава.

ЗАСЛІ'ЗІЦЬ *зак.* Пацячы. *Ек заслізіло за вўшком, то даваць ему стала рыбечы жыр, то й прошло.* М. Малешава.

ЗАСЛІ'ЗНУЦЦА *зак.* Аслізнуць. *Заслізнецца тое сало да ўжэ й не хочэцца есці.* В. Малешава.

ЗА'СЛОНКА *ж.* Засланка. *Заслонка бувае жэсцяна, й дубова колісь була.* Хотамель.

ЗАСЛОНІ'ЦЬ *зак.* Засланіць. *Так як туман жоўты ў вочáх, зусім бу заслоніло.* Пагост.

ЗАСЛО'НЬВАЦЬ *незак.* Засланяць. *Не заслóньвай огонь!* М. Малешава.

ЗАСЛОНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж. Лутки.

ЗАСМА'ЖАНЫ *прым.* Бураваты, ржавы. *Засмáжаны хмель нехорошы, а бéленькі хмель — первого сорту* (пра шышкі). Дварэц.

ЗАСМАЛЬЦОВА'ЦЦА *зак.* Зашмальцавацца. *Засмальцовáлосо сэрцэ.* Запясочча.

ЗАСМАЧЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць смачнейшым, больш тлустым. Хотамель.

ЗАСМЕРДЗЕ'ЦЦА *зак.* Засмярдзець. *Вода засмердзе́ласа.* Пагост.

ЗАСМЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Засмечаны. *Засме́чэно на дворэ, смецья́ мо́рэ!* В. Малешава.

ЗАСНУ'ЦЬ *зак.* 1. Заснуць. *Ляжэ спаць, засне да вон жэ не чуе.* Хачэнь. *Пое́ кота́, шчоб заснуло дзіця.* Аздамічы. 2 *перан.* Прапасці. *Заснула ў сце́пцы бульба, стушкова́ласа ўся, пра́хом пошла́.* Альшаны.

ЗАСОЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Засаліць. *Засоліла грыбоў кадушку.* Луткі. 2. Насаліць, нашкодзіць. *Вон і ўласці подчыняўса, і людзям не засольваў. Нікому не засоліў.* Цераблічы.

ЗАСО'ЛЬВАЦЬ *незак.* 1. Засольваць. 2 *метаф.* Шкодзіць. *Вон людзём не засольваў, то ніхто і не засердзіўса.* Аздамічы.

ЗАСО'ПЦІСА *зак.* Засапціся. *Пронесла́ велікі мех зе́лья і засо́пласа.* М. Малешава.

ЗАСОРО'МЕЦЦА *зак.* Засаромецца. *Засоро́меласа да зардзе́ліса морды.* Альшаны.

ЗАСОРЫ'ЦЦА *зак.* Зачапіцца (пра якар). Запясочча.

ЗАСО'ХНУЦЬ *зак.* Засохнуць. *Бувае, стырч засохне от пня.* Кароцічы.

ЗАСПА'НЫ *прым.* Заспаны, сонны. *Бач, ешчэ спаў— такі заспаны.* Луткі.

ЗАСПА'ЦЬ *зак.* Заспацца. *Ты рано ўстаеш, ты не заспіш.* В. Малешава.

ЗАСПЕВА'ЦЬ *зак.* Заспяваць. *Молоды пеўнік заспеваў.* Азяраны.

ЗАСПЕ'ЦЬ *зак.* Паспець. *Хоць на журнал не заспе́ем, то ў кіно.* Запясочча.

ЗАСПОКО'ІЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Дзіця смо́кчэ ку́клу і заспоко́іцца.* Альгомель.

ЗАСПОКО'ІЦЬ *зак.* Супакоіць. Альгомель.

ЗА'СТАВЕНЬ *м.* Запруда. *Былі за́стаўні і во́ду дзержа́лі на Сцвізі.* Пагост.

ЗАСТАРЧА'ЦЬ *незак.* Пакідаць. *А горэлку, віно воны застарча́юць, не п'юць.* Сямігосцічы.

ЗА'СТАЎКА *ж.* Запруда, вароты ў гаці для спуску вады. Пагост.

ЗАСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Застаўляць, запруджваць. Запясочча.

ЗАСТАНОЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Ставіць. *Можно застаноўляць чай у печ.* Хачэнь.

ЗА'СТАЎНЯ *ж.* 1. Пласт мёду ці вашчыны, які павернуты плоскасцю да лятка. Запясочча. 2. Запруда. *Зроблена така застаўня для воды.* Луткі.

ЗАСТА'ЦЦА *зак.* Застацца. *Засталóсо мукі на одно пéчэйло.* В. Малешава. *Бабкі посушы да продасі, а грыбы собе застанўцца.* М. Малешава.

ЗАСТА'ЦЬ *зак.* Застаць, заспець. *Коло рэкі чоловека застáла.* Бярэжцы.

ЗА'СТОВАЦЬ *незак.* Засланяць. *Не застуй мне, прыміса, твой бацько не сцекольшчык!* Аздамічы.

ЗАСТОГНА'ЦЬ *зак.* Застагнаць. *Шчэ й застогнеш, бабо!* Сямігосцічы.

ЗАСТО'ЕНЫ *прым.* Стаячы, загачаны. *Застóена водá, не хорóша вода ў канаві.* М. Малешава.

ЗАСТО'ІЦЬ *зак.* 1. Прыстоіць. *Вон будзе ісці і коло лаўкі застоіць.* М. Малешава. 2. Абараніць. *Мене бацько не застоіць.* Старажоўцы.

ЗАСТО'ЙВАЦЬ *незак.* Быць раўнацэнным. *Кабана почці застойваюць гусі увосень.* Цераблічы. *Застойвае друк за сем рук* (прымаўка). Там жа.

ЗАСТО'ЛЬЕ *н.* Застолле. *Застолье мушчын, а далей жонóк.* Верасніца.

ЗАСТОРО'НОК *м.* Застаронак. *У серэдзіне ў гумне ток, по боках засторонкі.* Чэрнічы. Адгароджанае ад агню месца за сохамі ў курэні. *У курэні чэтырэ засторонкі робіліса, посерэ́дзіні огонь горэў.* Сямігосцічы.

ЗАСТРОМІ'ЦЬ *зак.* Застраміць. *Застроміў нóгу цескою.* Буразі.

ЗАСТРО'МЛЕНЫ *прым.* Завіслы. *У нас як застромленэ дерэво, то кажуть стром.* Рубель.

ЗАСТРОМОНІ'ЦЬ *зак.* Застраміць. *Коліся палец застромоніць, то прыкладзе лінóвішчэ і добрэ.* Луткі.

ЗАСТРЭ'ХВАЦЬ *незак.* Рабіць застрэшак. *Солому в'яжуць у пучкі і стрэху застрэхваюць.* Цераблічы.

ЗАСТРЭ'ШНІЦА *ж.* Застрэшак. *Яку ты застрэшніцу пусціш?— Не менш сорока санціметроў.* В. Малешава.

ЗАСТРЭ'ШОК *м.* Тое ж. *Заткнуў пілу ў застрэшок дай шукае.* Азяраны.

ЗАСТУ'ДЗІНА *ж.* Студзіна, халадзец. Бярэжцы.

ЗА'СТУП *м.* Драўляная рыдлёўка, акаваная жалезам. *Заступамі копалі на полі, шо не було коней.* Сямурадцы.

ЗАСТУПА'ЦЬ *незак.* Займаць. *Зноў воны заступаюць своё место ў сельсовеці.* Кароцічы.

ЗАСТУПІ'ЦЬ *зак.* Заняць месца. *Вон у нас даўно заступіў прэдседацелем.* Сямігосцічы.

ЗАСТУ'ПНІК *м.* Заступнік. *Не нашлосо заступніка, нема кому заступіцца.* Аздамічы.

ЗАСТЫ'ЦЬ *зак.* Застыць. *Застыла застудзіна.* Бярэжцы.

ЗАСУЛЯ'ЦЬ *зак.* Закалоць. *Того воўка гэ ўжэ засулялі жэрдзем.* Мачуль.

ЗАСУМІ'ЦЬ *зак.* Засумаваць. *Засуміла вэльмо, як хлопца забралі.* Бярэжцы.

ЗАСУ'НУЦЬ *зак.* Засунуць. *За́соўку засунь!* Цераблічы.

ЗАСУПО'НІЦЬ *зак.* Засупоніць. *Засупонь хомута́.* Запясочча.

ЗАСУ'ША *ж.* Засуха. *От у нас мо месяц засуша была.* Мачуль.

ЗАСЦЁЛ *м.* Памост з дошак ці бярвення пад сціртай збожжа. *Засцёл е на по́дзе, на які кладуць снопу́.* Кароцічы.

ЗАСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Засцілаць. *Подо́к чэрэ́том засцілаюць.* Бярэжцы.

ЗАСЦЯ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Зашпілены. *Пазуха не засцяблена ў яго наве́к.* Дварэц.

ЗАСЫ'ПАЦЬ *зак.* Засыпаць. *Засыпалі б вам очы там комарэ́.* Луткі.

ЗАСЫПА'ЦЬ *незак.* 1. Засыпаць. *Мошкі очы засыпаюць.* Любавічы. 2. Засынаць. *Ужэ спаткі трэ, трэ засыпаць.* В. Малешава.

ЗАСЫ'ЦІЦЦА *зак.* Прамасліцца, зашмальцавацца. *Куха́йка засы́ціласа жыром, аж блішчыць.* М. Малешава.

ЗАСЫ'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Замаслены. *За́пінка засычэна жыром, аж блішчыць.* М. Малешава.

ЗАСЯ'ДКА *ж.* Засада. *Одзін воўк загоняе, а другі ў зася́дку сядзе.* Цераблічы.

ЗАТА'ЕНЫ *дзеепрым.* Затоены. *Колько гектар землі зата́еное було!* В. Малешава.

ЗАТАІ'ЦЦА *зак.* Затаіцца. *Не могло затаіцца таке дзело.* Сямігосцічы.

ЗАТАІ'ЦЬ *зак.* Затаіць. *Я ж думаў, можэ, ты зата́іш грошы?* Запясочча. *Корова затаі́ла молоко — мо дождж будзе.* В. Малешава.

ЗАТА'ЙВАЦЬ *незак.* Затойваць. *Корова затайвае молоко целяці.* М. Малешава.

ЗАТА'МА *ж.* Стома. *Сіла затамы не знае* (прымаўка). Запясочча.

ЗАТВО'РВАЦЬ *незак.* Класці ў вулей прывабу. Кароцічы.

ЗА'ТКАЙЛО, ЗА'ТКАЛО *н.* Затычка. *Заткні заткайло, шчоб не выходзіла моц з водкі.* Сямігосцічы. *Спалі на полку за шырмой, над головой була дзірка, гэту дзірку затыкалі заткалом.* Там жа. *Заткало з гонуч, затыкалі свецільны комін.* Запясочча. *У болоці купіна такае, да обшыюць ее — дай заткало.* Там жа.

ЗАТКА'ЦЬ *зак.* Пачаць ткаць. *Которы дзень будзе ясны, то затчэ.* В. Малешава.

ЗАТКНЁНЫ *дзеепрым.* Заткнуты. *У курных хатох дзірка була заткнёна шматом.* Сямігосцічы.

ЗАТКНУ'ЦЬ *зак.* Заткнуць. *Заткну ў шчылю грошы, а вон найдзе і прокурыць.* М. Малешава. *Бывало, у пушчы заткнеш вушы от пенья пташнёго.* В. Малешава. *Заткне вам соломою окна, у старцы вас поведзе гэты сынок!* Луткі.

ЗАТНУ'ЦЬ *зак.* Замовіць згубленую жывёлу, каб яна стаяла на месцы. *Буў дзядзько такі, то пойдзеш до ёго, нехай вон затне тых жэрэб'ят.* Сямігосцічы.

ЗАТО'Б *прысл.* Ледзь, ледзь не. *Порэзаў палец, затоб одрэзаў.* Хотамель. *Ішоў чэрэз кладку, затоб не ўпаў.* Альпень. *Мой дзед наеўса тых лошовікоў, затоб не ўмер.* Кароцічы.

ЗАТО'Н *м.* Затока. *І ў затоні ловіў, прэбоваў ловіць, нема рыбу!* Цераблічы.

ЗАТО'ПВАЦЬ *незак.* Затапляць. *Увесну вода ўсе зарэч'е затопвае.* Пагост.

ЗАТОПІ'ЦЬ *зак.* 1. Распаліць. *Трэ і грўбу затопіць, мороз нагле холодзіць хату.* Пагост. 2. Заліць. *Вода затопіла — да 'днэ небо да вода.* Луткі.

ЗАТО'ПНУЦЬ *зак.* Утапіцца. *Конь улез да затоп.* Запясочча.

ЗАТОПТА'ЦЬ *зак.* Затаптаць. *Вувела вўтоўка дзесецьда затоптала ўсіх.* Кароцічы.

ЗАТО'Р *м.* Вельмі ўвільготненае, набраклае вадой месца. *По тому затору страшно ехаць, бо загрузнеш.* Верасніца.

ЗАТОРГОВА'ЦЬ *зак.* Затаргаваць. *Мой жэ сын тым*

*часом буў да заторговалі строеніе большэе.* М. Малешава.

ЗА'ТО'ЎКА *ж.* Затаўка. *Затоўка перэжарваецца да чыстэ сало получаецца.* Альпень. *Сало прітоўкалі ў ваганку м'ялом і затоўкой называлі.* Альшаны.

ЗАТОЎШЧЭ'ЦЬ *зак.* Зацяжарыць. *Кажуць, як первым затоўшчэеш, то нельзя браць нічого ў хвартух, то будзе чысто ліцо.* Хачэнь. *Як затоўшчэеш да будзеш есці, есці, то і дзіця будзе жуваць і жуваць.* Хачэнь.

ЗАТО'ЧВАЦЦА *незак.* Зашывацца. *Уюны заточваюцца ў гразь.* Аздамічы.

ЗАТРАВІ'ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Мы затравімса от того зелья.* Луткі.

ЗАТРАВІ'ЦЬ *зак.* Атруціць. *Затравіў горэлку той чоловек.* В. Малешава.

ЗАТРА'ПІЦЬ *зак.* Застаць. *Бегом бегла да затрапіла шчэ 'тобус.* Пагост.

ЗАТРОШЧЫ'ЦЬ *зак.* Раструшчыць. *Затрошчыў куру машыною.* Запясочча.

ЗАТРУДОВА'ЦЕЦЬ *зак.* Зацвярдзець. *Цыцку поб'е на раны, вона затрудовацее, ек жонка захолодае.* Луткі.

ЗАТРУЦІ'ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Затруціўса грыбом, попорвало!* Пагост.

ЗАТУЛІ'ЦЦА *зак.* Захінуцца. *Затуліласа і поплакала там, за шырмою.* М. Малешава.

ЗАТУЛІ'ЦЬ *зак.* Закрыць. *Рот затуліш, а ейцэ вернеш, то воно й льецца на рукі.* М. Малешава.

ЗАТУМА'ЖВАЦЦА *незак.* Затуманьвацца, зацягвацца хмарамі (пра неба). *Затумажваецца, вецёр, негода будзе.* В. Малешава.

ЗАТУМА'ЖЫЦЦА *зак.* Затуманіцца, зацягнуцца хмарамі (пра неба). *Затумажылосо ўсе кругом, дождж будзе.* М. Малешава.

ЗАТУМАНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Небо затуманело, облегло кругом і соўнейка не відаць.* Цераблічы.

ЗАТХНУ'ЦЦА *зак.* Затхнуцца. *Загореласа хата да двое дзецей затхнулоса.* Сямігосцічы. *Рыба за зіму затхнуласа.* Мачуль. *Заліло да затхнуліса картоплі, паросткоў не було.* Чэрнічы.

ЗАТХНУ'ЦЬ *зак.* △ З а т х н у ц ь  д у х. Заняць дыханне. *Обопнеў, спужаўса — затоб з пуду дух затхнуло.* М. Малешава.

ЗАТЫ'КАНЫ *дзеепрым.* Заткнуты. *Газета ў плот затыкана.* Хачэнь. *Сокера вунь, у колоду затыкана.* Пагост.

ЗАТЫКА'ЦЬ *незак.* Затыкаць. *Затыкаюць жонкі зеліну за пояс, шоб не болела спіна* (у час жніва). Сямурадцы. *Вон у одрыні дзіркі мохом затыкае.* Пагост.

ЗАТЫ'КАЧ *м.* Доўгі кій, які ўтрымлівае задні навой з пражай ад раскручвання. Хотамель.

ЗАТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Заткнуць, заторкнуць. *Прасніцу ў днішчэ затыкне́ да прадзе.* Сямурадцы. *Не прыдумаю, чым дзірку затыкнуць.* Цераблічы.

ЗАТЫ'ЛОК *м.* Клінок у касе. *Уже ж у цебе коса вупадзе, затылок елі дзе́ржыцца.* М. Малешава.

ЗАТЫ'ЛЬНІК *м.* Тое ж. *Затыльніка ў ко́су ў нас дзелаюць з дуба ці з ясеня. Вон прыціскае косу до косья.* В. Малешава.

ЗАТЫ'М *прысл.* Таму. *Кот ву́мажэцца ў печы, затым я ёго́ так назвала — Мурзік.* Хачэнь.

ЗАТЭ' *злучн.* Затое. *Цепер то я добро бачу, затэ оглух.* Альгомель.

ЗАЎДОВЕ'ЦЬ *зак.* Заўдавець. *Моя маці молода́ заўдовела.* Хачэнь.

ЗАЎМЫ'СНЕ *прысл.* Наўмысна. *Заўмысне не прывезла́ сані.* Мачуль.

ЗАЎНЫ'ЦЬ *зак.* Затужыць. *Села ўжо, заўныла і седзіць — загубіла рубля́.* Кароцічы.

ЗАЎПІРОВА'ЦЬ *зак.* Заўпарціцца. *Воны заўпіруюць да не беруць обед.* Старажоўцы.

ЗАЎСЁГДЫ', ЗАЎСЁДЫ *прысл.* Заўсёды. *У іх рыба не зводна заўсёгды́.* Дварэц. *Не заўсёгды́, ек на дзеды!* (прымаўка). Верасніца.

ЗА'ЎТРА, ЗА'ЎТРЭ, ЗА'ЎТРЫ *прысл.* Заўтра. *Заўтра пойдуць да навудзяць тое́ ры́бу.* Дварэц.

ЗА'ЎТРЭЕ *н.* Тое ж. △ Д о з а́ ў т р э я. Да заўтра. *Да седзіць гэто до заўтрэя.* Сямігосцічы.

ЗАЎЧА'СУ *прысл.* Заўчасна. *Го́лову звезала шчэ заўчасу* (пра ранняе замужжа). М. Малешава.

ЗАЎЯ'ЦЬ *зак.* Завяць. *Заўялі картоплі.* Сямігосцічы.

ЗАХА'ЎВАЦЬ *незак.* Хаваць. *Грошы запазуху баба захаўвае, ек у город едзе.* Пагост.

ЗАХА'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Зарослы. *Захашчэные картоплі лебедою, шо й бульніку не бачно, не хозяёва булі.* Пагост.

ЗАХВАЛЁНЫ *дзеепрым.* Захвалены. *Нешчотне була захвалёная, шо добра корова.* Лутка.

ЗАХВО'СТОВАТЫ *прым.* З тонкай вяршыняй. *За-*

*хвостовата дзерэвіна, у которой верх тонкі, а гузыр тоўсты́.* Сямігосцічы.

ЗАХВЭ'НДАНЫ *дзеепрым.* Задрыпаны. *Ве́сну мокрые да захвэнданые!* М. Малешава.

ЗАХІСЦІ'ЦЬ *зак.* Захінуць. *Трэбо захісціць дзе тым чэрэ́том, шчоб куры не лазілі.* Мачуль.

ЗАХЛА'ПВАЦЦА, ЗАХЛО'ПВАЦЦА *незак.* Захлынацца. *Ужэ ўсе горыць у хаці, ужэ мы захлапваемса от дыму.* Дварэц.

ЗАХЛА'ПВАЦЬ, ЗАХЛО'ПВАЦЬ *незак.* △ З а х л а́ п в а ц ь  д у х і́. Займаць дыханне. *Стань роскідаць сено, то захлапвае духі.* Пагост. *На дворэ, ек у мешку, аж захлопвае дух.* Лyткі.

ЗАХЛОНУ'ЦЦА *зак.* Захлынуцца. *Водой оны захлону́ліса.* В. Малешава.

ЗАХЛОПІ'ЦЦА *зак.* Тое ж. *Од горэлкі ўдушлівы можэ захлопіцца.* Луткі. *Прынесе дзіця, хоць захлопіса з тым дзіцем, а вона пойдзе на целевізора да гуляе.* Сямігосцічы.

ЗАХЛОПІ'ЦЬ *зак.* △ З а х л о п і ц ь  д у х. Заняць дыханне. *Дух захло́піць, як чоловек учáдзее.* Мачуль.

ЗАХЛЯ'ПАНЫ *дзеепрым.* Забруджаны. *Ідземо́ мокрые да захляпаные!* Сямігосцічы.

ЗАХМУРЫ'ЦЦА *зак.* Нахмарыцца. *Небо захму́рылосо, скоро будзе дождж.* Луткі.

ЗАХО'Д *м.* Заход. *Она пройшла мо дзесецъ захо́доў!* (пра падыманне льну). Азяраны.

ЗАХО'ДАК *м.* Бакоўка. *Сходзі ў захoдак і прынесі мукі.* М. Малешава.

ЗАХОДЗІ'ЦЦА *незак.* Узбурвацца. *Чого ты заходзіласа, нема тобе ра́ды!* Аздамічы.

ЗАХО'ДЗІ'ЦЬ *незак.* Заходзіць. *Вода захо́дзіць, то село ў водзе, а людзі ек на купіні седзяць.* Бярэжцы. *І цепер там коло́дзедзь, і людзі заходзяць піць.* Там жа. *Драчка берэцца з верхнего, а не зо сподпего дзерэва, шоб вода не захо́дзіла.* В. Малешава.

ЗАХОДНА'Я *ж.* Закусачная. *У ёго́ була заходная, вупівалі там.* Дварэц.

ЗАХО'ДНЫ *прым.* Людны, бойкі. *Не заходнэ место Бу́рэзі.* Чэрнічы.

ЗАХОЛО'Д *м.* Студзіна, халадзец. *А му прыстроіліса на веселье за́годзя, було і захоло́ду і ры́бу.* М. Малешава. *Цепер кажуць захолод, а коліся-коліся звалі ёго́ дры́жка.* Хачэнь.

ЗАХОЛО'ДАЦЬ *зак.* 1. Прастыць, прастудзіцца. *Захолодаў да заболеў.* Запясочча. *У ёго на языку не захолодае* (прымаўка). Сямурадцы. *Еж, ек гарачы, захолодае, да не той смак.* Пагост. 2. Застыць, загусцець. *Поставіш рыбу ў холод, вона й захолóдае, зробіцца захолод.* Хотамель.

ЗАХОЛО'ДВАЦЬ *незак.* Застываць. *У році захолодвае м'ясо з овечкі.* Хачэнь.

ЗАХОЛОДЗІ'ЦЦА *зак.* Прастудзіцца. *Захолодзіўса печкáр на том мотоцыкле да ўмёр.* Дварэц. Азябнуць. *Захолодзіўса, корову́ пасучы́, трэ гарачого з'есці.* Пагост.

ЗАХОЛОДЗІ'ЦЬ *зак.* Прастудзіць. *У етых тухля́х на такі морóз, ногі захолодзіш.* Пагост.

ЗАХОЛОСТО'ПІЦЦА *зак.* Захламіцца. *Захолостопілосо на печэ ўсё на свеце.* М. Малешава.

ЗАХОЛОСТРЫ'ЦЬ *зак.* Засмецiць. *Захолострыілі хату смецьем.* Аздамічы.

ЗАХОЛУ'ШКА *ж.* Захалусце. *Нема такіх захолу́шок, як нáшэ село.* В. Малешава.

ЗАХОПІ'ЦЬ *зак.* Захапіць, застаць. *Як захопіло, так і без пэрэбою дошч!* Мачуль. *Захопіў шчэ «Ракету».* Пагост.

ЗАХОХУ'ЛОК *м.* Задворак. *Онё пошоў тым захохулком!* Запясочча.

ЗАХОЦЕ'ЦЦА *зак.* Захацецца. *Ек захоцелосо ему купацца, шо хоць убі!* Азяраны. *Захоцелосо холодца з цыбулі.* Пагост.

ЗАХОЦЕ'ЦЬ *зак.* Захацець. *Захоцела целя ўзяць да годоваць.* Пагост. *Нарэжом, наточом, як самі захочом* (прыказка). Хачэнь.

ЗАХРА'СНУЦЬ *зак.* 1. Загрузнуць. *Було багато воды, шо мы ў болоце захраслі.* Пагост. 2 *перан.* Набіцца. *Як дзеці пойдуць у школу, усё село захраснэ дзецьмі, поўна вуліца.* Пагост.

ЗАХРО'МІНА *ж.* Стрэмка. Альпень.

ЗАХРОМІ'ЦЬ *зак.* Застраміць. *Захроміла ру́ку дзерэвом.* М. Малешава.

ЗАХРОПЦІ' *зак.* Захрапці. *Бацько захроп дай нема — умéр.* Сямурадцы. *Упаў і захроп, так на сон узяло.* Пагост.

ЗАХЭМЭТА'ЦЦА *зак.* Заняцца, забавіцца. *Захэмэталаса роботою і опозніласа.* М. Малешава.

ЗАЦВІСЦІ' *зак.* 1. Зацвісці. *Мо гэто воронец той зацвіў?* Хачэнь. 2. Заплеснець. *Як зацвіце земля, тогды*

*грыбӯ будуць росці.* В. Малешава. *Плацье ӯ сыром дзенебудзь лежало да зацвіло.* Альпень.

ЗАЦВІ'ТВАЦЬ *незак.* Зацвітаць. *Дро́бненька проківа, хутко вона зацвітвае.* Дварэц.

ЗАЦЕГА'ЦЬ *незак.* Зацягваць. *У старой рэцэ сець воны заця́гаюць.* Пагост. *Зацега́юць на печку.* Запясочча. Завалакваць. *Зацега́е небо хмарамі.* Запясочча. Расцягваць. *У іх так зацегаюць: о, жо́ночко, о, лю́дзенькі!* Бярэжцы.

ЗАЦЕГЦІ' *зак.* 1. Уцягнуць у сярэдзіну. *Зацегні мне нітку, я не бачу.* Луткі. 2. Зацягнуць. *Одзін раз зацеглі сець, кожушка ӯзялі.* Пагост. 3. Завалачы. *Зацягло, дождж будзе.* Запясочча. 4. Сцягнуць. *От крае́ зацегла́ ӯ тканье́.* Сямурадцы. 5 *перан.* Утравіць. *Зацеглі бабу на тэ дзело.* Цераблічы.

ЗАЦЕ'КАЦЦА *незак.* Заходзіцца ад смеху. *Шчо я ӯжэ попороготала, а воны ажно зацекаюцца.* Дварэц. *Аж зацекаецца, смеецца.* Дварэц.

ЗАЦЕ'КА'ЦЬ *незак.* Зацякаць. *На дзесятцы шапка, коб не заце́калі снопы.* М. Малешава. △ С е́ р ц э  з а ц е́ к а е  к р о́ ӯ ю. Пра моцнае хваляванне. *Серцэ зацекае кроӯю, як про дзіця ӯспомню.* В. Малешава.

ЗАЦЕКЦІ'СА *зак.* Зайсціся. *Плачэ, да заце́чэцца, да трэба біць у плечы, шоб ахнула.* Хачэнь.

ЗАЦЕЛЕХНУ'ЦЬ *зак.* Зачэрпнуць з прагнасцю. *Стояла на столе горчыца, а вон як зацелехнуӯ на тую ложку — аж слёзы покоціліса.* М. Малешава.

ЗА'ЦЕМОК *м.* Прыцемак. *Вуйшлі з хаты воны ӯжэ ӯ зацемок.* Азяраны.

ЗАЦЕ'НЛІВУ, ЗАЦЁНЛІВУ *прым.* Зацяты, упарты, натурысты. *Заценліва кава, не кіпіць дай годзі.* Хотамель. *Конь зацёнліву, узяӯ такую натуру, мо ёму так трэба.* Сямігосцічы.

ЗА'ЦЕПЕЛЬ *ж.* Раптоўнае і вельмі значнае пацяпленне. *Було холодно́, а цепер стала зацепель.* Сямурадцы. *Стала зацепель, а колі да доӯго, доӯго вона будзе, то за́суха.* Там жа. *Зацепель нека ӯзіму, шо й почкі вотвот роспукню́цца.* Пагост.

ЗАЦЕ'РЦІ *зак.* Падцерці. *То я затрӯ тро́ха подлогу.* Мачуль.

ЗАЦЁН *м.* Замова на згубленую жывёлу. Хачэнь.

ЗАЦІКА'ВІЦЬ *зак.* Зацікавіць. *Онно зацікавіло, покажы, Одам, рыбу!* Луткі.

ЗАЦІНА'ЦЦА *незак.* Заікацца, зацягваць вымаўленне. *Зацінаецца зарэ, ек говорыць.* Дварэц.

ЗАЦІНА'ЦЬ *незак.* 1. Займаць. *Мороз аж дух зацінае.* М. Малешава. 2. Замаўляць жывёлу ад ваўкоў. *Зацінаюць корову, як жэнуць на пашу.* Цераблічы. *Вон овечку зацене, і вона будзе ходзіць, і ее воўк не озьме́.* Хачэнь.

ЗАЦІ'РАЧ, ЗАЦЕ'РАЧ *м.* Бондарскі разец. *Зацерач заціраe ўторы ў цэбры.* Цераблічы. *Заці́рач.* Дварэц.

ЗА'ЦІ'РКА *ж.* Зацірка. *На за́цірку муку розотрэш, посмажіш ее, шчоб була голу́шэчкамі.* Бярэжцы. *За́цірку робяць з белое мукі, а раньшэ з проса робілі.* Альпень. *Заці'рка.* Старажоўцы.

ЗАЦІ'РТАЧ *м.* Бондарскі разец. Аздамічы.

ЗАЦІ'СНУЦЬ *зак.* Заціснуць. *Ты зацісла ву́зла?* М. Малешава.

ЗАЦІ'ШКОМ *прысл.* Цішком. *Зацішком робіць, затуліцца, коб меней хто знаў.* М. Малешава.

ЗАЦІ'ШНО *прысл.* Зацішна. *Дзерэво жэну́ць напросцякі озёрамі, шчо зацішно.* Дварэц. *У бе́рэзі зацішно, там од ветру схава́ёмса.* Пагост.

ЗАЦІ'ШОК *м.* Зацішак. *Зацішок под дубом.* М. Малешава. *Памянш.* з а ц і ш э ч о к. *Німа ні зацішэчка, ні кусціка на будымеры.* Цераблічы.

ЗАЦЭ'РКВА *ж.* Цвінтар. М. Малешава.

ЗАЦЮ'ПАЦЬ *зак.* Зайсці паціху. *Ву б шчэ помаленьку зацюпалі до дочкі.* Верасніца.

ЗАЦЯ'ЖКА *ж.* Засцежка ў кажусе. *Заця́жкі тобе зробіць у кожу́сі ці гузікі?* Сямігосцічы.

ЗАЦЯ'ТЫ *дзеепрым.* Замоўлены. *Як зацятые корову́, то не можно іх вувесці с пашы.* Старажоўцы.

ЗАЦЯ'ЦЬ *зак.* Замовіць жывёлу ад ваўкоў. *Вон жэрэб'я зацяў, а воўк з'еў его.* Хачэнь.

ЗАЧАВІ'ЦЦА *зак.* Задавіцца. *Однэ зачавілосо, однэ под курою* (пра куранят). Сямурадцы.

ЗАЧАВІ'ЦЬ *зак.* Задавіць. *Романовых тры штукі гусе́ зачавілі собакі.* Мачуль.

ЗАЧА'ДЗЕЦЬ *зак.* Ачмурэць. *А їх лежыць, тых кожу́шкоў, як дроў, вода спала, а воны зачадзелі.* Хачэнь.

ЗАЧАМРЭ'ЦЦА *зак.* Адурманіцца. *За тою роботою, за тым усім клопотом вона зачамрэласа.* Сямігосцічы.

ЗАЧА'ПІЦЬ *зак.* Закапыліць. *Жонка губу́ зача́піць да загоно́зіцца, як прідзеш п'яны.* Альшаны.

ЗАЧАРА́ПІЦЬ *зак.* Зачарпнуць. *У ёго́ пры́горшчы вялікіе, як зачарапіць!* Кароцічы.

ЗАЧА́ХНУЦЬ *зак.* 1. Падсмажыцца. *Зверху зачахла, а ў сере́дзіне сырая бабка.* Хачэнь. 2. Зачахнуць. *Не есі, то от і зачахла, чого не есці, ек е.* Пагост.

ЗАЧА́ЦЬ *зак.* Пачаць. *Я прышла домой, да як зачала моя голова боле́ць!* Хачэнь.

ЗАЧВЫРЭ́ЦЬ *зак.* Пакрыцца пяском. *Поле зачвырэе, як песок зро́біцца на роллі!* Аздамічы.

ЗАЧО́С *м.* Прабор. *Косы зачо́сом.* Пагост.

ЗАЧО́СКА *ж.* Пралысіна на ствале дрэва. Аздамічы.

ЗАЧУ́ЦЬ *зак.* Пачуць. *І ўсе так, ек зачуць, ого-го — гука́е далеко!* (пра лесавіка). Луткі.

ЗАЧЫ́М *прысл.* Чаму, як. *Зачым вона хоро́ша, бо вона шыро́зна.* Тураў. *Зачым я жыла? Воды коўтну і вурву!* Луткі.

ЗАЧЫНА́ЦЬ *незак.* Зачынаць, пачынаць. *Перву покос хай зачынае дзед, другі я гна́ціму.* Пагост.

ЗАЧЫНІ́ЦЬ *зак.* Зачыніць. *Зачыні коміна: возьмі оччыні дзверцы і ў круг покладзі малу́ю юшку.* Дварэц. *Зачыні дзверы, бо лецяць мухі.* М. Малешава.

ЗАЧЫНЯ́ЦЬ *незак.* Зачыняць. *Оля, зачыняй сені!* Сямігосцічы. *Не зачыняй хлеў, товар корміцьмом!* Азяраны.

ЗАЧЫ́СЦІЦЦА *зак.* Ачысціцца. *До шэрсціны выдохло, зачысцілаcа й одрына!* (пра жывёлу). Альшаны.

ЗАЧЭ́ПВАЦЬ *незак.* Зачэпліваць. *Зачэ́пваём цэлу ту дзерэвіну да конём цягном у шлю́хту.* Верасніца.

ЗАЧЭПІ́ЦЬ *зак.* Зачапіць. *Не можно зачэпіць да вурваць куст.* Дварэц. *Ніяк не зачэплю етым круком за ведро.* Пагост.

ЗАЧЭРВІ́ЦЦА *зак.* Запоўніцца чарвой. *Ек зачэрвіцца, то рой хутко будзе.* Аздамічы.

ЗАЧЭРПНУ́ЦЬ *зак.* Зачэрпнуць. *У сцёпцы квас у дзежоўцы, йдзі ў кухол зачэрпні да вупі.* Пагост.

ЗАЧЭРСТВЕ́ЦЬ *зак.* Зачарсцвець. *У доброе хозяйкі хлеб не зачэрствее.* Пагост. *Это брэхун, у ёго́ на езыку не зачэрствеe!* Сямурадцы.

ЗАЧЭСА́ЦЦА *зак.* Прабрацца, пралезці не на сваё месца. *Зачэса́ласа за звенневую.* Дварэц.

ЗАЧЭ́СВАЦЦА *незак.* Зачэсвацца. *Вуглы́ ў хаці зачэ́сваюцца.* В. Малешава.

ЗАЧЭХЛІ́ЦЬ *зак.* Забрахаць, ідучы па следу (пра сабаку). *Ужэ зачэхліў собака.* Сямурадцы.

ЗАШАМЭ'РКАЦЦА *зак.* Заважда́цца. *Зашамэркаласа з тымі гарбу́замі на городзі да про худобу забуласа.* Пагост.

ЗАШКОРУ'ЗНУЦЬ *зак.* Заскарузнуць. *Кожух засохне і зашкорузне.* Сямігосцічы.

ЗАШКОРУ'ПЛЫ *дзеепрым.* Заскарузлы. *Зашкорупные нагле брэзентовікі сталі од рыбу, трэ вы́праць.* Пагост.

ЗАШКОРУ'ПНУЦЬ *зак.* Заскарузнуць. *Ке́рза поло́міцца, як зашкорупне.* Сямурадцы.

ЗАШЛЯ'ГАЦЬ *зак.* Засцябаць. *Отó зашлягаў бы мене!* Мачуль.

ЗА'ШМОРГ *м.* Зашмарга. *Зашморгом завежы мешок.* Альшаны.

ЗАШМОРГНУ'ЦЦА *зак.* Зашмаргнуцца. *Петля зашморгнуласа на шыі.* М. Малешава.

ЗАШМОРГНУ'ЦЬ *зак.* Зашмаргнуць, зацягнуць. *Вон его ўзяў да зашморгнуў.* Верасніца.

ЗАШОЛОМАНЕ'ЦЬ *зак.* Адурманіцца. *Не туда сунуласа, нешчо зашоломанела, у голове мешаецца.* М. Малешава. *Зашоломанела я ў лесі од тое папороці, дурманом пахне.* Пагост.

ЗАШУМЕ'ЦЬ *зак.* Зашумець. *Зашумело, начынае жмурыць гарэлка!* Луткі. *Зашумеў дождж. Подрэмáць захоцелосо.* Пагост.

ЗА'ШЧО *часц.* Завошта. *Зашчо ты ёгó побіў?* Верасніца.

ЗАШЧЫ'ПВАЦЦА *незак.* Задзірацца (пра скуру). *Зашчыпваецца скура коло ногцéй.* Аздамічы.

ЗАШЧЫ'Т *м.* Шчыт (у страсе). *Просуньцеса к зашчыту, там просторнéй й холоднéй спаць.* Пагост.

ЗАШЧЫ'ТА *ж.* Тое ж. *Хата була шчэ без зашчыты.* Верасніца.

ЗАШЧЭ'ПВАЦЦА *незак.* Зашчэплівацца. *Это хамут о. Этты зашчэпваецца ўнізу, это ніз будзе о так о, перэвернуў, то это верх.* Пагост.

ЗАШЧЭ'ПВАЦЬ *незак.* Зашпільваць. *Зашчэпвай кузікі, а то простудзіш грудзі.* М. Малешава.

ЗАШЧЭПІ'ЦЦА *зак.* Зачапіцца. *Об кáмень бег да зашчэпіўса.* Аздамічы. *Вона чуць за мою ногу не зашчэпіласа да не ўпала.* М. Малешава.

ЗАШЧЭПІ'ЦЬ *зак.* 1. Зачапіць. *Зашчэпілі плугі і вувалілі той пень.* В. Малешава. 2. Зашпіліць. *Годзе тобе ходзіць так, зашчэпі кузіка.* М. Малешава. 3. Зашчапіць на зашчапку. *Зашчэпіла хату, коб не залезлі дзеці.* Ха-

чэнь. 4. Прышчапіць. *Пасынок зашчэпіў на дзічку*. Хачэнь.

ЗА'ШЧЭПКА *ж.* Зашчапка. *Закрый ворóта на зашчэпку*. Сямурадцы.

ЗАШЫВА'ЦЦА *незак.* Зашывацца. *Уюны зашываюцца ў гразь*. Аздамічы.

ЗАШЫВА'ЦЬ *незак.* Зашываць. △ З а ш ы в á ц в ó л о к. Сцягваць ніз крылляў невада. Запясочча.

ЗАШЫКОЦЕ'ЦЬ *зак.* Зашамацець. *Ужэ зашыкоцелі мушы под подлогою*. Аздамічы.

ЗАШЫ'МОРЫЦЦА *зак.* Замітусіцца. *Зашыморацца мурашкі*. Аздамічы.

ЗАШЫ'ЦЦА *зак.* Затачыцца, залезці. *Васілько кудынебудзь зашыецца, як баба шукае*. Кароцічы.

ЗАШЫ'ЦЬ *зак.* Зашыць. *А шчоб тобе вочы зашыло!* (праклён). Луткі. △ З а ш ы́ ц ь е з ы к á. Замоўкнуць. *Лучшэ зашый езыка да моўчы*. Хачэнь.

ЗАШЭ'МАЦЬ *зак.* Надзець, уссунуць. *Зашэмаеш екіе лапці да пойдзеш*. Альпень.

ЗАШЭРХА'ЦЬ, ЗАШЭ'РКАЦЬ, ЗАЧЭ'РХА'ЦЬ *незак.* Замярзаць, пакрывацца тоненькім лёдам. *Вода зашэрхáе пры градусу морозу*. Альпень. *Зачэрхáе поўз берэгу сутон*. Верасніца.

ЗАШЭ'РХНУЦЬ, ЗАЧЭ'РХНУЦЬ *зак.* Замерзнуць. *Гразь прыхопіло, калюгі зашэрхлі, прыморозіло за ноч трохі*. Пагост. *Зачэ́рхла*. Запясочча.

ЗАШЭРЭНЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца шаронам. *Зашэрэнеў снег*. Цераблічы.

ЗАЯ'ДА *ж.* Завадатар сварак, боек, задзіра. *Ну й заяда, ніхто не перэспорыць*. Верасніца.

ЗАЯ'ДЛЫ *прым.* Заядлы, заўзяты. *Заядлы до роботы буў чоловек*. В. Малешава. *Заядлы курыць, ек ні побачу, то папіроса з рота торчыць*. Пагост.

ЗАЯРЫ'ЦЦА *зак.* Моцна зажадаць. *А Цімошко заярыўса жэніцца*. М. Малешава.

ЗБА'БІЦЦА *зак.* *Здзяцініцца* (пра старую жанчыну). *Збабілас старá, з лялькою спіць*. Пагост.

ЗБА'ВІЦЬ *зак.* Збавіць, збыць, ліквідаваць. *Шкода, але застаўляе збавіць другу корову, бо сена не зробіў*. Пагост.

ЗБАГНУ'ЦЬ *зак.* Ахапіць у думках, здолець усвядоміць. *То той Мінск вэлікі, то ву его не збáгнеце*. Пагост.

ЗБАН *м.* Збан, гляк. *До поры збан воду носіць, ек*

*дужка оторвецца, то й вода розольецца* (прыказка). В. Малешава.

ЗБА′ЧЫЦЬ *зак.* Прабачыць. *Хай ему бог збачыць етэ!* Аздамічы.

ЗБЕГ *м.* Сцёк. *Ідзі здзелай збег, шчоб збегла вода ў роў.* Сямігосцічы.

ЗБЕ′ГАЦЦА *зак.* Збегацца. *Збегаўса, злётаўса по селé, бу дурны, гэты кот.* Дварэц. *Збегаўса за сучкою кобель.* Пагост.

ЗБЕГА′ЦЦА *незак.* 1. Здолець бегаць нараўне. *Гэтой породы собакі збегáюцца з звером.* Хачэнь. 2. Скручвацца, ссукваццa. *Збегáюцца ў сукрýтні ніткі.* Луткі. 3. Ствapажыцца, утварыць згусткі. *Молоко збегаецца.* Пагост.

ЗБЕГЛЕ′Ц *м.* Уцякач. *От вы, збеглецэ́, тут!* Кароцічы. Лятун, гарэза. *Збеглец ідзе-то летáе дзень і поесці нема колі.* Лутк і.

ЗБЕ′ГЦІ *зак.* 1. Сцячы. *А потóм луг збежыць з жлукта.* Верасніца. 2. Узысці. *Ек ранэ сонцэ збежыць, то будзе дождж.* Дварэц.

ЗБЕ′ГЦІСА *зак.* 1. Бягом сабрацца ў адно месца. *Чырычэнята збегліса до чырыцкі ў той час і поселі на крыла. Вона поднеласа і полецела ў воду цéрэз канаву.* В. Малешава. 2. Паспець разам. *Куды ж вон, малéнькі, не збежыцца собака за мотоцыклом.* В. Малешава. 3. Ссесціся, стваражыцца. *Молоко збеглосо раптом.* Дварэц.

ЗБЕДНЕ′ЦЬ *зак.* Збяднець. *От дожыўса буў, зусім збеднеў.* Бярэжцы.

ЗБЕЛЕ′ЦЬ *зак.* Збялець. *Ох, збелеў, як лебедзь.* М. Малешава.

ЗБЕСІ′ЦЦА *зак.* Ашалець. *А того собаку ўбілі старэйшого, збесіўса.* Мачуль.

ЗБЕ′СЦІЦЬ *зак.* Збэсціць. *Я б ёгó збесціла, змешала з гразéю.* В. Малешава.

ЗБІВА′ЦЬ *незак.* Збіваць. *У дзéстві збівалі плыт з чотырох дзерóў і два цэпкá по краях і плывеш на ём.* Дварэц.

ЗБІНДОВА′ЦЬ *зак.* Знішчыць, спляжыць. *Куры збіндовалі гурочнік.* Пагост.

ЗБІРА′ЦЦА *незак.* Збірацца. *На сено збіраліса на вушкі да весну́ гукáлі.* Старажоўцы. *На негоду збіраецца.* Запясочча.

ЗБІРА́ЦЬ *незак.* Збіраць. *Збірай трусок у кошэль да топі печ.* В. Малешава.

ЗБІ́ЦЦА *зак.* Сабрацца ў згустак. *Мабуць, не зоб'ецца гэта капля сметаны.* Мачуль. △ З б і ц ц а з д о р о г і. Заблудзіцца. *А пурга, а снег! Збіўса з дорогі.* Бярэжцы.

ЗБІЦЬ *зак.* 1. Здратаваць. *Коні збілі, стопталі ўсе.* Сямігосцічы. 2. Скасіць абыякава. *Нехай тро́ха зоб'е ромон.* Хачэнь. 3. Зруйнаваць. *То зоб'юць село, онно попел будзе.* Цераблічы. 4. Сабраць у згустак. *Пойду, трэбо збіць оле́і.* Альпень. 5. Нанесці пашкоджанне. *Збіў но́са да не бачыш?* Любавічы. *Ша́шэль хату збіў.* Луткі. 6. Змацаваць. *Плыты збілі і прыплавілі той лес.* В. Малешава. △ Н а б а́ б к у з б і ц ь. Збіць на горкі яблык, закатаваць. Хотамель.

ЗБЛА́ЗНІВАЦЬ *незак.* Спакушаць. *Дзейкі посядуць на лайкі да хлопцоў зблазніваюць.* М. Малешава.

ЗБЛЕДНЕ́ЦЬ *зак.* Збялець. *Як вупіў, дай збледнеў.* В. Малешава.

ЗБЛІ́ЗКО *прысл.* Зблізку. *Зблізко буў і чуў усе чысто.* Аздамічы.

ЗБЛУДЗІ́ЦЬ *зак.* Зблудзіць. *Мо зблудзілі хлопцы ў лесі.* Хачэнь.

ЗБЛУ́ТАНЫ *дзеепрым.* Паблытаны. *Суслы — зблутаны лён, як мучуць мучку.* Запясочча.

ЗБЛУ́ТАЦЬ *зак.* Зблытаць. *Зблу́тае ніткі да корпа́ецца немоўгад колькі.* В. Малешава.

ЗБОЖ *м.* Збожжа. *Дзве гумне́ стоя́ло, було збож класці, сено класці.* Пагост.

ЗБО́ІЧ *м.* Клінок, затычка. *Збо́ічы змацоўваюць ста́ва.* Старажоўцы.

ЗБОЙ *м.* 1. Выбітая жывёлай паша. *На одном лузі тры стадзі, ека там паша, збой!* Пагост. 2. Збой, мноства. *Збой коро́ў, то й напасці нельга.* В. Малешава. △ Н а з б о й - в е́ ц ё р. Само па сабе. *Гэтые хлопцы не́ўспуны цепер ростуць на збой-вецёр.* Луткі. Без нагляду. *Кідаю ходзяйство на збуй-вецёр.* В. Малешава. Па-пустому. *Абу говорыць на збуй-вецёр.* М. Малешава. Наўгад. *Поехаў на збуй-вецёр: як удасца, то прывезу.* В. Малешава.

ЗБО́КУ *прысл.* Збоку. *Збоку купка зорок гусцейша на небе.* Луткі. *Збоку зарobляе вон добрэ.* Там жа.

ЗБО́ЛЕНЫ *дзеепрым.* Збалелы, знясілены хваробай. *Не так доўго лежаў, не такі вон буў зболены.* Цераблічы.

ЗБОЛЕ́ЦЬ *зак.* Знясілець ад хваробы. *Зболела і зу-*

*сім слаба стала і не можэ ногі перэстаўля́ць*. М. Малешава.

ЗБО'РКІ *мн.* 1. Зборкі, складкі (на адзенні, абутку). *Чо́боты ў зборкі для бабоў робілі*. Любавічы. 2. Хромавыя жаночыя боты. *Зборкі малі чотыры вуголочкі, ек гармонік. У мужчын вуцяжкі, а ў жоно́к булі зборкі, ходзілі на му́зыку, накладалі на с'ято, на недзелю*. М. Малешава.

ЗБО'РНЯ *ж.* Зборышча. *У нас заўсёды зборня*. Запясочча.

ЗБО'РЫНЫ *мн.* Хрысціны. *У гэто ўрэм'е былі ў мене зборыны*. Сямігосцічы.

ЗБО'ЎКНУЦЬ *зак.* Зрабіцца ўздутым. *Збоўкла тая корова, ужэ той чоловек плачэ, рады нема*. Мачуль.

ЗБО'ЎТАНЫ *дзеепрым.* Ускаламучаны. *Збоўтаная вода ў коло́дзедзі*. Лутскі.

ЗБО'ЎТАЦЬ *зак.* Ускаламуціць. *От гусі збо́ўталі во́ду, нечыста вода́*. Лутскі.

ЗБО'ЧНЫ *прым.* Пабочны, чужы. *Шчоб збочному побачыць, то можно спужацца*. Сямігосцічы. Нетутэйшы. *Его́ не путайце, вон збочны чоловек*. Аздамічы. *Селяне збочные говораць «робляць», а ў Запесоччы і ў Дворцэ— «роб'яць»*. Дварэц.

ЗБРОД, ЗБРЫД *м.* Зброд. Наезджыя людзі. *А гэто ўжэ понаблутваліса, усякі зброд, а ў нас одны Чорнышэвічы булі*. Хачэнь.

ЗБРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Змяць, стаптаць. *От збродзіў траву*. Лутскі.

ЗБРО'Я *ж.* Збруя. *Лімар робіць зброю для коней*. Хотамель.

ЗБУБНЯ'ЦЬ *зак.* Набухнуць, уздуцца. *Збубняе конь, надуецца, як об'есца*. Запясочча.

ЗБУВА'ЦЦА *незак.* 1. Змяншацца. *Дзень збуваецца, ужэ закмеціць можно*. Аздамічы. 2. Зводзіцца. *Збуваецца ўсе колішнее. Ужэ стары́е почці збуліса*. Лутскі.

ЗБУ'ВАЧ *м.* і *ж.* Ламачына, старызна. *Прыця́гса нейкі стары збувач*. Сямурадцы. *Коб жэ машына, а то збувач нейка*. Цераблічы.

ЗБУДОВА'ЦЬ *зак.* Збудаваць. *Мацї дзеці погодуе, а хаты не збудуе* (прыказка). Хачэнь. *Вона хату збудуе без сокеры*. Там жа. Зрабіць гняздо. *Восы так збудуюць кубло, быле оскода́ў*. Сямігосцічы.

ЗБУ'РЫЦЦА *зак.* Раз'юшыцца. *Збурацца коро́ві, ек почуюць падло, шчо й опуніць не мо́жны*. Сямігосцічы.

ЗБУ'ТОЧНЫ *прым.* Збыткоўны. *Збуточна ў мого дзеда господарка.* М. Малешава.

ЗБУХТОВА'НЫ *дзеепрым.* 1. Скрыўлены, перакошаны. *Ко́лесо збухто́ванэ.* Цераблічы. 2. Збянтэжаны. *Збухтована дзеўка, хлопец ее з другою пошоў.* Пагост.

ЗБУХТОВА'ЦЦА *зак.* Скрывіцца. *І чоловек збухтуецца, ек ёго́ продуе дзе.* В. Малешава. *Бабіна хата збухтоваласа наперокося́к.* Пагост.

ЗБУХТОВА'ЦЬ *зак.* Скрывіць. *Пілу збухтоваў.* В. Малешава.

ЗБУ'ЦЦА *зак.* Звесціся, перастаць існаваць. *Збудуцца старые, то не будуць знаць молодые зелья́ і тра́вы.* **Луткі.**

ЗБУЦЬ *зак.* Збыць. *Збулі пусту́ коро́ўку.* Кароцічы.

ЗБУЯ'ЦЬ *зак.* Збуяць. *Картоплі збуялі на гної.* Мачуль.

ЗВА'НЬЕ *н.* 1. Назва. *Було место таке, а званье его було Голаны́.* Луткі. 2. Знак. *Ша́шэль з'есць ее за год і звання не остане́цца.* Сямурадцы.

ЗВАЛІ'ЦЦА *зак.* Зваліцца. *Жыто з пня звалілосо, пэреспе́ло.* Альшаны.

ЗВАЛІ'ЦЬ *зак.* Зваліць. *На лініі дуба зваліў.* Кароцічы.

ЗВА'ЛЬВАЦЦА *незак.* Звальвацца, падаць, апускацца. *Рыба звальваецца ў Прып'яць з озёроў.* Сямігосцічы.

ЗВАРЫ'ЦЦА *зак.* Зварыцца. *Картоплі зварацца, да я поем і пойду на лён.* Дварэц.

ЗВАРЫ'ЦЬ *зак.* Зварыць, згатаваць. *Карто́плёў звары ў мундзіра́х да будзем з гуркамі есці.* В. Малешава. *Ні спекці, ні зварыць, ні з людзьмі поговорыць* (прымаўка). Там жа.

ЗВА'ЦЦА *незак.* Звацца. *Я не ведаю, як вонэ зовецца* (пра зёлкі). Хачэнь. *Чоловек зваўса Пиліп.* Пагост. *Чэсла́ зовецца вубірацъ ву́лея.* В. Малешава.

ЗВАЦЬ *незак.* 1. Клікаць. *Зові мацер вечэрэць.* Азяраны. 2. Называць. *Шчэпленые яблонькі зовуць антоноўка, школка, маліноўка, олехоўка.* В. Малешава. *Маті Марта была, то его Марчук зовуть.* Рубель. *Хоць горшком зові, только ў печ не ста́ўляй* (прыказка). Луткі. 3. Падклікаць. *Як у вас свіньля зовуць? — Як у вас, так у нас — куцу́-куцу́!* Сямурадцы.

ЗВЕ'ДВАЦЬ *незак.* Шчупаць. *Ніколі не зведвала, ці вона з еечком ці не.* Хачэнь.

ЗВЕЗА'ЦЦА, З'ЕЗА'ЦЦА *зак.* Звязацца, скруціцца. *З'езáлос крутэ́ дзерэво, шчо не розрубаць.* Люткі.

ЗВЕЗА'ЦЬ, З'ЕЗА'ЦЬ *зак.* Звязаць. *Шо зожнóм, звя́жом, то сноп.* Верасніца.

ЗВЕР *м.* Звер. *Не вер, шо звер, а можэ з'есці* (прыказка). Верасніца. *Ні звер, ні пціца, а нос, як спіца* (загадка). *Комар* (адгадка). М. Малешава.

ЗВЕРА' *н.* Тое ж. *Зверá — усе ж такі воно чуе чоловека.* Мачуль. *Любэ́ зверá можэ ўпасці ў воўкоўню.* Там жа.

ЗВЕРА'КА *ж.* Зверына. *Навелосо зверакі ўсякое!* Люткі.

ЗВЕРА'ЦЦА *незак.* Упэўнівацца. *Од хондзі, я сама звераласа, помогае той конські шчавер.* Хачэнь.

ЗВЕРГА'ЦЬ *незак.* Звяргаць, скідаць. *Часáмі цельна худобіна хочэ звергаць, то напараць наводкі да даюць напіцца, то оно судзержыцца.* Бярэжцы.

ЗВЕ'РГНУЦЬ *зак.* Звергнуць, скінуць. *Корова звергла.* Аздамічы.

ЗВЕРНУ'ЦЦА *зак.* Звярнуцца. *Ужэ звернуліса з хутора.* Хотамель.

ЗВЕРНУ'ЦЬ *зак.* Скінуць. *Можэ верхá стóга звернуло, то проб'е дошч.* Верасніца. *Була рэволюцыя, звернулі цара.* М. Малешава.

ЗВЕ'РХУ *прысл.* Зверху. *Вейка одна ўнізу, одна зверху.* Сямурадцы.

ЗВЕ'РШВАЦЬ *незак.* Завершваць. *Кладзеш роўно, роўно і звéршваеш стóга.* В. Малешава.

ЗВЕРЫ'НА' *ж.* Зверына. *Лось — зверынá хітрая, знарок брохае.* В. Малешава.

ЗВЕ'СЦІ' *зак.* Знішчыць. *Звелі на полях тые грушы!* Верасніца. *Як ты ёгó зведзеш того жукá колорацкого?* Запясочча. △ З в é с ц і  о ч ы́ м а. Заплюшчыцца. *Абу очы́ма зведу́ — стоіць!* Верасніца.

ЗВЕ'СЦІ'СА *зак.* Звесціся. *Сам по собе звéўса чэрэ́т і дубы посохлі.* Цераблічы.

ЗВІВА'ЦЬ *незак.* Зіваць. *Рэ́мез звівае кубло, і дзве хóды ў ім.* Цераблічы.

ЗВІ'ВАЧ *м.* Дрэва з пакручастымі валокнамі. Цераблічы.

ЗВІНЕ'ЦЬ *незак.* Звінець. *У мене ў левом вусі звініць, шо то будзе?* Цераблічы.

ЗВІ'НУЦЬ *зак.* Дзвынкнуць. *Вон палкою ўдырыў, да звінуло.* Люткі.

ЗВІ'ТАЧ *м.* Дрэва з пакручастымі валокнамі. *Звітач росколоць не можно.* Цераблічы.

ЗВІХ *м.* Звіх. *Іван, поговоры, у мене звіх, ногу повіхнýла.* Запясочча.

ЗВІ'ЦЦА *зак.* 1. Сабрацца клубком (пра рой пчол). *Звіўса на ём, на ёгó голове рой.* Цераблічы. *Мне прыходзілосо бачыць, ек на осé ў возі звіўса рой.* Луткі. 2. Завязацца (пра плод). *Капуста шчэ не звіласа ў качаны.* Аздамічы.

ЗВІЦЬ *зак.* Звіць. *Да зоўé ў дзве стáлкі волóку, а потом завівае.* Сямурадцы. Скруціць. *Звіло лес* (пра плыт). В. Малешава.

ЗВОД *м.* Вынішчэнне. *На звод пошло ўжэ, корова перэ́дойкой будзе.* Запясочча.

ЗВОДЗЕНЕ'ЦЬ *зак.* Звадзянець. *Зводзенеў кісель.* Бярэжцы.

ЗВО'ДЗІСТЫ *прым.* З тонкай вяршыняй. *Такі хорошы, зводзісты дубец.* Альшаны.

ЗВО'ДЗІЦЦА *незак.* Зводзіцца. *Пчолы зводзяцца ў нас.* Мачуль. *Баба моя спорыш трымала ў кошэльку. То баба казала, шоб грошы не звóдзіліса, шоб блізніліса.* Хачэнь.

ЗВО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Зводзіць. *Не трэбо зводзіць, хай годуецца.* Хачэнь. *Горá не родзіць, а насенье не зводзіць* (прыказка). Сямігосцічы. 2. Узводзіць. *Я разоў мо дваццаць зводзіў куркі і трахаў.* Мачуль.

ЗВО'ДНЫ 1 *прым.* Які зводзіцца. *У его рыба ніколі не зводна, вон рыбак добры.* М. Малешава. 2. Зводны. *Мы, браты родные, а воны чорты́ зводные* (прымаўка, пра дзяцей і бацькоў). Сямурадцы.

ЗВО'ЛЬНІЦЬ *зак.* Звольніць. *Хабар браў богато нáгле, то звольнілі.* Сямурадцы.

ЗВОНЕ'Ц *м.* 1. Званок. *Звонец на коня чэпля́лі, коб чутнó, дзе вон ходзіць.* М. Малешава. 2. Званец. *Звонцы парацъ да дзіця купаюць.* Луткі. *Як стаў звонец, так траве конец* (прыказка). В. Малешава. *Памянш.* з в о́ н ч ы к. *Звончыкі на грудох ростуць.* В. Малешава.

ЗВОНІ'ЦЬ *незак.* 1. Званіць. *Звонілі, ек умрэ чоловек.* М. Малешава. 2. Звінець. *Комар ек вон і не кусаецца, а так звóніць, то я не могу заснуць.* Луткі. △ К о́ с ц і з в о́ н я ц ь. Пра вельмі схуднелага, змарнелага. *Косці звоняць, такі худы.* Хільчыцы.

ЗВО'НКО *прысл.* Звонка. *Грыміць, а ў лесі звóнко, чутнó далéко.* В. Малешава.

ЗВОНО'К *м.* Званок. *Звонкі зво́няць у лозе, то точно нашы там коні.* Верасніца.

ЗВОРОТА' *ж.* Заварот. *Заверніс на звороцёх!* Мачуль.

ЗВОРОЧА'ЦЦА *незак.* Вяртацца. *Об дзень туды і назад зворочаласа.* Верасніца.

ЗВОРУШЫ'ЦЦА *зак.* Зварухнуцца. *З места зворушы́цца не хочэ, ле́жэны!* Луткі.

ЗВОРУШЫ'ЦЬ *зак.* Зварухнуць. *Зворушыць колоду з места не можэ.* Луткі.

ЗВУ'КНУЦЬ *зак.* Звыкнуць. *Зву́кла ходзіць ко мне ўнучка, а вон звук по я́блука лазіць.* Луткі. *А гэта пле́вень качкі, звукла, коб корміў!* В. Малешава.

ЗВУЧА'ЦЬ *незак.* Прывучаць. *Нашчо тобе на ру́кі звучаць дзіця?* Дварэц.

ЗВУЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прывучыць. *Трэба козу́ звучыць яблука есці.* Хачэнь. 2. Вывучыць. *Не звучылі нашого езыка шчэ?* Запясочча.

ЗВЯ'ЗВАЦЬ, З'Я'ЗВАЦЬ *незак.* Звязваць. *Мак у пучэчкі з'язвалі.* М. Малешава.

ЗВЯ'ЗОК, З'Я'ЗОК *м.* Звязка. *Перэд прэчыстою староста з'язок нёс рушнікоў.* Дварэц.

ЗГА'ДАНО *прысл.* △ Д а  н е  з г а́ д а н о,  д а  н е  з в е́ д а н о. Нечакана, знянацку. *Вон мене трапіў да не згадано, да не зведано.* М. Малешава.

ЗГАДА'ЦЦА *зак.* Успомніцца. *Хай легонько згадаецца ім!* Аздамічы.

ЗГАДА'ЦЬ *зак.* Успомніць. *Шоб ты не згада́ў, ек ты мене тра́піў!* (праклён). М. Малешава.

ЗГА'ДВАЦЦА *незак.* Дзяліцца пры дапамозе адгадвання на дзве каманды пры гульні ў лапту. Талмачава.

ЗГА'ДВАЦЬ, ЗГА'ДОВАЦЬ *незак.* Успамінаць. *Згадвай, баба, за́гадкі!* Верасніца. *Навек згадую про тэ.* Цераблічы. *Про пры́мы лу́ччэй не згадуй!* Там жа. △ П р о ц і  н о ч ы  з г а д в а ю ч ы. Засцерагальны выраз пры ўспамінах пра памершых. *Про́ці но́чы згадваючы, дзе дновала, там хай і ночуе.* М. Малешава. Н е  ц е п е́ р  з г а́ д в а ю ч ы. Засцерагальны выраз пры ўспамінах пра дрэннае, непажаданае. Хотамель.

ЗГА'ДЗІЦЦА *зак.* Згадзіцца. *Згадзіласа, вурвала обед, ек вон такое сказаў.* М. Малешава.

ЗГА'НІЦЬ *зак.* Зганіць. *Зганіла чоловека нізашчо́.* М. Малешава. *Вон мене зганіў, шчо на свеці говорыў.* Луткі.

ЗГА'НЬБІЦЬ *зак.* Зганьбіць. *Зганьбілі мене нізашчо, й душэю не віноваты.* Любавічы.

ЗГА'РВАЦЦА *незак.* Перагараць. *Гной згарваецца на порохно́.* Цераблічы.

ЗГА'РВАЦЬ *незак.* Згараць. *Два раз село згарвало, ні хаткі не оставалосо.* Старажоўцы.

ЗГА'СА *ж.* Гібель. *Коб ёму́ шчэза да згаса!* (праклён). Аздамічы.

ЗГА'СНУЦЬ *зак. перан.* Знікнуць. *Згаснуць жукі на картоплях от кропе́нья зе́льем.* Аздамічы.

ЗГІБА'ЦЬ *незак.* Гінуць. *Мошкара побудзе, побудзе да згібае.* Хачэнь.

ЗГІДОВА'ЦЦА *зак.* Адчуць агіду. *Вон згідоваўса, шо бацько п'е.* Верасніца.

ЗГІ'НАНЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Кульба́ка — ето палка да згінана.* Запясочча.

ЗГІНА'ЦЦА *незак.* Згінацца. *У ёго́ рука була так о не згіна́ласа.* Кароцічы.

ЗГІ'НУЦЬ *зак.* Згінуць. *Згінула матка, нема командзе́ра і гінуць пчолы.* Сямігосцічы.

ЗГІ'РДЗІЦЦА *зак. экспр.* Памерці. Запясочча.

ЗГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Згледзець. *Коб воўчыца зглéдзела, шо хто ўзяў воўчэня, то вона б ёго́ разлупіла!* Сямурадцы. *Як згледзіць цебе, то не пу́сціць.* Верасніца.

ЗГЛУМІ'ЦЬ *зак.* Зглуміць. *Сколько лесу война зглуміла, сколько молодняка́!* Хачэнь.

ЗГНЕСЦІ' *зак.* Сціснуць моцна. *Коб да моцно згнёў сыр, то б не заплеснеў.* Сямурадцы.

ЗГНІСЦІ' *зак.* Згнісці. *Земля не згніе, не згорыць* (прыказка). В. Малешава.

ЗГНЮСІ'ЦЬ, ЗГНУСІ'ЦЬ *зак.* Зглуміць, сапсаваць. *Усе зелья́ згнюсілі.* Хачэнь. *Дзежку сала згнусілі!* В. Малешава.

ЗГОВОРА'ЦЦА *незак.* Згаварвацца. *На с'ято жонкі зговораюцца, купяць й упіваюць.* М. Малешава.

ЗГОВОРЫ'ЦЦА *зак.* Згаварыцца. *Много чого перэговорылі дзеды і зговорыліс: давай говорыць па-дзеціному* (з казкі). В. Малешава.

ЗГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* Перагаварыць. *Во́йско не згово́рыць его!* Бярэжцы.

ЗГО'ДА *ж.* Прымірэнне. *Чарку на стол поставіў для згоды.* Сямігосцічы.

ЗГОДЖА'ЦЦА *незак.* Згаджацца. *Не хочэ операцыі, не згоджаецца.* Хачэнь.

ЗГОДЗІ'ЦЦА *зак.* Згадзіцца. *Вон згодзіўса купіць малёньку хатку.* Сямігосцічы.

ЗГОДЗІ'ЦЬ *зак.* Згадзіць, дагаварыць, наняць. *Згодзіць пастуха.* Хотамель.

ЗГОДОВА'ЦЦА *зак.* Выгадавацца, вырасці. *Я знаю, тут я згодоваласа.* В. Малешава.

ЗГОЛЕ'ЦЬ *зак. перан.* Прыбраць. *Хай цебе зголée такого сынка!* (праклён). В. Малешава.

ЗГОН *м.* Зборны статак жывёлы. *Як гналі товар у войну, то казалі: згон женўць.* Альшаны. *Коліся купцы паслі ў лесі волы купленые, то гэто згон.* Цераблічы.

ЗГО'НІНЫ *мн.* Амеці. *Згоніны коровáм давалі.* Хотамель.

ЗГО'НШЧЫНА *ж.* Паднашэнне пастуху. *Згоншчына — ек займае пасці пастух.* Цераблічы.

ЗГОНЯ'ЦЬ *незак.* Зганяць. *Згоняйце дзевóк з воза!* В. Малешава.

ЗГО'РКНУЦЬ *зак.* Згоркнуць, прагоркнуць. *Сырое сено згóркне.* Хачэнь.

ЗГО'РНЕНЫ *дзеепрым.* Сутулы. Хотамель.

ЗГОРНУ'ЦЦА *зак.* Згарнуцца, скруціцца, сагнуцца. *Згорнўласа й легла, ек жывот болеў.* Луткі. *Згорнуўса от холоду.* Мачуль. *Еж згорнецца ў клубок, не відаць ні мўсы, ні нóжок.* Сямігосцічы.

ЗГОРНУ'ЦЬ *зак.* Згарнуць, скруціць. *Згорнулі полотно ў свойчык.* Аздамічы. *А кóлісь хустку озьмé так о згорне, а пóесом потпоражэцца тутэка й хустку пот поес.* Бярэжцы.

ЗГО'РТАНЫ *дзеепрым.* Згорнуты. *Еслі скура згортана, то ж вона не пусціць* (раствор пры вырабу). В. Малешава.

ЗГО'РТВАЦЬ *незак.* Згортваць. *Вусохлі кросна — уцягваюць і зноў згортваюць у плецёнку.* М. Малешава.

ЗГОРЭ'ЦЬ *зак.* Згарэць. *Згорела хата, гром спаліў.* Хачэнь. *Сем дóчок — гэто сем раз згорэў* (прымаўка). В. Малешава. *Од роботы не можно одчэпіцца, нехай вона згорыць!* Хачэнь.

ЗГОТОВА'ЦЬ *зак.* Згатаваць. *Пожалуста, я зготую вам, напеку картóплёў.* Цераблічы.

ЗГРАЗІ'ЦЬ *зак.* Зганіць, зняславіць. *Згáніла до гразі, згразіла!* Бярэжцы.

ЗГРЫ'ЗЦІ *зак.* Згрызці. *Я б згрызла зубамі кіях.* Хачэнь.

ЗГРЭ'БАЦЬ *незак.* Зграбаць. *Дубоў много, жолўдзь*

*е, хоць згрэ́бай рукамі!* Сямігосцічы. *Згрэ́баём ліст з вербо́ў у во́рох.* В. Малешава.

ЗГРЭ′БЦІ′ *зак.* 1. Згрэбці. *Усе згрэбла́, усе ў воло́х сено.* Сямігосцічы. *Зерне едрэне́йшэ ў ворох згрэбі, то і плыве.* Аздамічы. 2. Скінуць. *Этые верэснюкі згрэ́блі ёго́ з во́за.* Хачэнь.

ЗГУ′БА *ж.* Згуба. *Згуба — тэ, шчо загубіў.* Тураў.

ЗГУБІ′ЦЬ *зак.* Згубіць. *Одного згубіў, а п'яць найшоў.* М. Малешава.

ЗГУК *м.* 1. Рэха. *Згук отзываецца з лесу, як крікнеш.* Пагост. *Ек веслом по водзе стукнуў, то згук далеко ўве́чоры пошоў.* М. Малешава. 2. Гук. *Му чулі згукі, ек з ору́дзеі обстрэльвалі.* М. Малешава.

ЗГУ′КВАЦЦА *незак.* Пераклікацца. *Згукваюцца ў грыбах.* Аздамічы.

ЗГУ′КВАЦЬ *незак.* Склікаць. *Тру́біць, товар згуквае, а мы самі гукаем: ого́-го́-го́-о́!* Бярэжцы.

ЗГУ′СНУЦЬ *зак.* Згуснуць. *Молоко згусне, потом ёго́ вуліваюць у восковік.* Кароцічы.

ЗГУСЦІ′ЦЦА *зак.* Згусціцца. *Згусці́цца на хвоі — коўтун зово́м.* Хачэнь.

ЗГУШЧА′ЦЬ *зак.* Загусцець. *Булён згушча́ў ужэ, а быў рэджэ́йшы.* В. Малешава.

ЗДАВА′ЦЦА *незак.* Здавацца, уяўляцца. *Мне шчэ здаецца, шчо я ўчоро родзіласа.* Сямігосцічы. *Хорошы здаецца на згляд грыб, а чэрліві.* В. Малешава.

ЗДАЛЕГО′ДЗЬ *прысл.* Зараней. *Воны здалегодзь роб'яць граблі, а не тогды, ек грэбці.* Луткі. *На смерць не можно готовіць здалегодзь.* Сямурадцы.

ЗДАЛЕ′КУ *прысл.* Здалёк. *Ву здалеку будзеце?* Запясочча.

ЗДАЛЁК *прысл.* Тое ж. *Здалёк так бачым, што не раба́, а чысто му́ра корова.* Верасніца.

ЗДА′ТНЫ *прым.* Здатны. *Вона така здатна на гэтые прыказкі!* Дварэц. Добры. *Хусточкі здатные ў бабы Лексы, да шэліно́вые.* Цераблічы. Прыдатны. *Поле не здатнэ.* Аздамічы.

ЗДАЎНА′ *прысл.* Здаўна. *Здаўна так було.* Аздамічы.

ЗДА′ЎНОГО *прысл.* Здаўна, з даўняй пары. *Дзеля́нка здаўного була така.* Кароцічы.

ЗДА′ЦЦА *зак.* 1. Спатрэбіцца. *На гара́чку вон мне здаўса!* Запясочча. 2. Прымроіцца. *А я на Купалного Івана ву́гадала чоловека. Здаўса тоды вон мне.* Луткі.

ЗДЗЕ'КВАЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Глуміўса да здзеквайса з его.* Хачэнь.

ЗДЗЕРЖА'ЦЬ *незак.* Затрымліваць. *Рóгі на закры́лінах солому здзержáлі.* Цераблічы.

ЗДЗЕ'РЖЫЦЦА *зак.* Стрымацца. *Плувуць слёзы самі, не здзержыцца.* М. Малешава.

ЗДЗЕ'РЦІ *зак.* Садраць, узадраць. *Здзéрла вáйку, то крой цечэ.* Бярэжцы. *Здзёр загóна тым конéм.* Луткі.

ЗДЗЕЦІ'НЕЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Соромá нема, здзецінеў!* Старажоўцы.

ЗДЗІ'РАНЫ *дзеепрым.* Абдрапаны. *Здзірана морда.* Альшаны.

ЗДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Ударыць. *От ек здзюжу, то ты будзеш знаць мене, будзеш шоўкóвы!* Луткі.

ЗДОВО'ЛІЦЦА *зак.* Здаволіцца. *Еш, здовóльса тым молоком.* Кароцічы.

ЗДО'ЕНЫ *дзеепрым.* Здоены, выдаены. *Ека ты старá, ешчэ бежыш, як здоена!* Цераблічы. *Ходзіш, ек здоены!* Кароцічы.

ЗДО'ЙВАЦЬ *незак.* Здойваць. *Серку здойвалі до оцёлу.* Луткі.

ЗДО'ЙМА *ж.* Месца на беразе, дзе выцягваюць сеці. *Чысцяць здойму, шоб она чыста була, коб не круціло невода.* Запясочча.

ЗДОР *м.* Здор. *Здор — срэдóвое сало.* Запясочча. *Здором мазалі возы коліся стары́е.* Цераблічы.

ЗДОРО'ВАЦЦА *незак.* Вітацца. *Зайдом у лайку — усе здоровуюцца.* Луткі.

ЗДОРОВЕ'ЗНЫ *прым.* Здаравенны. *Вона здоровезна, сілы шчэ не выробіла.* М. Малешава.

ЗДОРОВЕ'ЛНЫ *прым.* Тое ж. В. Малешава.

ЗДОРОВЕ'ННЫ *прым.* Тое ж. *Здоровенна була жонка да тóўста!* Хачэнь.

ЗДОРОВЕНЬЕ' *н.* Здаравяка. *Побá, еке здоровенье!* Цераблічы.

ЗДОРОВЕ'Ц *м.* Тое ж. *Он такí здоровец, у ёгó сілы за доброго коня.* Кароцічы. *Ее чоловек здоровэ́ц да мах!* Цераблічы.

ЗДОРОВЕ'ЦКІ *прым.* Здаравенны. *От мах здоровецкі мужчына!* Аздамічы. Вялікі. *Отрад буў здоровецкі ў Коўпака.* Цераблічы.

ЗДОРОВІ'К *м.* Пірог кожнаму члену сям'і ў першы дзень посту. Запясочча.

ЗДОРОВІ'ЛО *м.* Здравіла. *Етакі здоровіло!* Запясочча.

ЗДОРОВІНА' *м.* і *ж.* Тое ж. *Вон такі здоровіна да ма́хіна!* Аздамічы. *І цепер той крэст стоіць, здоровіна!* Цераблічы.

ЗДОРО'ВО *выкл.* △ З д о р о́ в о  п і л і! Пажаданне, каб было прыемным пітво. Запясочча. З д о р о́ в о  е́ л і! Пажаданне прыемнага апетыту. Запясочча.

ЗДОРО'ВУ *прым.* 1. Здаровы. *Я була здорова і дбаць не дбала, була конь коне́м!* Сямурадцы. *Ек прыдзе Покро́ва, то жыва-здоро́ва, ек прышлі жніва́, то лежу нежыва́* (прыказка). Цераблічы. 2. Вялікі. *А собака буў здорову, такі чорны!* Бярэжцы. *Олёс здорэ́вы порос на том месці.* Мачуль. *У нас у гэтом году дождже здоро́вуе ідуць, так ек дождж, то гэ́ттыка по ўсём — морэ.* Луткі. 3. Халаднаваты. *Дзень здорову, косіць добро, нема заедзі.* Хачэнь. *Вода ў крыніцы здорова, холо́дна, шчо не дай бог!* Хотамель.

ЗДОРОВЯ'ГА *ж.* Здаравяка. *Така́, така здоровяга буў чоловек!* Чэрнічы.

ЗДОРО'ЎЕ *н.* Здароўе. *Здороўя я богато поцерала.* Луткі. *Погледзі, Дземід, на свой від дай здороўя путу́й.* Старажоўцы. *Хоць здороўе ўтрачу, але ў місе дно побачу* (прымаўка). Там жа. △ Н а  з д о р о ў е. Пажаданне пры ядзе, частаванні. *А хлопчыкі з'елі сыр — і на здороўе!* Сямурадцы. Д о́ б р э  з д о р о́ ў е. Адказ на вітанне. Альшаны.

ЗДОРО'ЎКАЦЦА *незак.* Вітацца. *От запане́ў, і здороўкацца не хочэ.* Луткі. *Бушчы́ха стоіць, клеке́чэ на кублё, здороўкаецца, шо бусько леціць.* В. Малешава.

ЗДОЎБА'ЦЬ *зак.* Здзяўбці. *Як поспее яблуко, так сорокі ёго́ здоўбуць.* Хачэнь.

ЗДО'ХЛЯ *ж.* Здыхата. *А кіця, шоб на вас здохля!* (праклён). Бярэжцы.

ЗДО'ХНУЦЬ, ЗДО'ХЦІ *зак.* Здохнуць. *Думалосо, шо баба ўмрэ, сучка здохне, а ўнучка замуж пойдзе. А получылосо, шчо баба не ўме́рла, сучка не здохла і ўнучка замуж не пошла. Да хлеб на зіму й трэба* (жарт). Дварэц. *Кабан можэ здохці такою жарою.* В. Малешава. *Хай здохне тая муш, шчо ў крупох!* (прымаўка). Цераблічы. *Коб не кло́ч'е да не мох, то плотнік бу здох* (прыказка). Запясочча.

ЗДРА'ПАЦЬ *зак.* Збіць, абы-як скасіць. *Мо много Вам косіць? — Шчэ за дзень не здра́паём.* В. Малешава.

ЗДРА'ПНУЦЬ *зак.* Здрапнуць. *Пошла грэбці да нóгу здрáпнула — зурочылі жонкí.* Дварэц.

ЗДРОК *м.* Здрок. *Здрóка бояцца коні, а худóбіна не так боіцца.* Цераблічы.

ЗДРОКОВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Товар здрокýе, бо жара.* Аздамічы.

ЗДРОСОВА'ЦЬ *зак.* Здратаваць. *Здросовалі куры город, згрэблі ўсе.* Чэрнічы. *У іх не поедзены ні одзін сноп, а ў мене мушы здросовалі ўсёгó стóга, на солому зробілі.* Старажоўцы.

ЗДРОЧО'К *м.* Зрэнка. *А здрочкоў ніяк нема, одные очы. От одурэў!* Кароцічы. *Як здрочке зусім белые, то кажуць белозоры.* Сямігосцічы.

ЗДРОЧЫ'ЦЬ *незак.* Непакоіць, свярбець. *Як попрэе проміж пáльцамі, то здрочыць і чэшэцца.* Хотамель.

ЗДРЫГНУ'ЦЦА *зак.* Ускалыхнуцца. *Здрыгнуласа земля, будзе цепло і будзе ўсе росці.* Лутки.

ЗДРЫЖЭ'НЬЕ *н.* Зрушэнне. *Чуць п'ятою я туп—мне здрыжэнне ў голове.* Сямігосцічы.

ЗДУ'БІ'ЦЬ *зак.* 1. Узняць. *От здубіў ношку на плечы!* Альшаны. 2. Ударыць. *Нехто здубіў куру, то вона вуліўкі самые вулівáе.* Цераблічы.

ЗДУВА'ЦЬ *незак.* Уздуваць. *Той оўёх корова з'есць, то здувае.* Хачэнь.

ЗДУ'ЖАЦЬ *зак.* Здужаць. *Вона ўжэ старá да не здужае свіньям даці.* Хотамель.

ЗДУМА'ЦЦА *незак.* Узнімацца, загарацца. *Не здумáецца пóлум'ем зубéль.* Хотамель.

ЗДУ'МАЦЬ *зак.* Уздумаць, успомніць. *Ек здумаю, то цепер мороз по целу ідзе.* Лутки. *Не так як здумаеш, а так як зробіцца* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЗДУМЛЯ'ЦЬ *незак.* Успамінаць. *Часто здумляю, ек своіх годовала, і не вельмі цяжко було.* Верасніца. *Трэбо, коб хто свой поспаў на той лаве, дзе небожчык лежаў, то не так будзе скучаць і здумляць* (павер'е). Хачэнь.

ЗДУРНЕ'ЦЬ *зак.* Здурнець. *Ты шо, здурнеў?* Азяраны.

ЗДУРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Собака, як вон здурэе, вон сам себе вылечыць.* Чэрнічы.

ЗДУ'ЦЦА *зак.* Уздуцца. *Як спечэш, то схопіцца банька, здунецца.* Лутки.

ЗДУЦЬ *зак.* 1. Уздуць. *Така трава е, шчо можэ здуць корову. Здулó корову, то гоніць трэбо.* Сямігосцічы. *Як*

*здўне чоловека, то трэба давацъ з осéй луску́, шчо з проса тоўкуць.* Там жа. 2. Здзьмухнуць. *Ге Тарабанóва сýка гулá і ўсе гýмна здулá* (жарт). В. Малешава.

ЗДЫ'КНУЦЦА *зак.* Сутыкнуцца рагамі. *Корова здыкнуласа твоя з моею!* В. Малешава.

ЗДЫКСЬ-ЗДЫКСЬ-ЗДЫКСЬ *выкл.* Выгукі, якімі раздражняюць быка. *Бугая цвеляць здыксь, шоб вон боўкаў.* В. Малешава.

ЗДЫМА'ЦЦА *незак.* Здымацца. *Руно здымаецца з овечкі.* Хільчыцы.

ЗДЫМА'ЦЬ *незак.* Здымаць. *Вона не здымае нáметку.* Запясочча.

ЗДЫ'РДЗІЦЦА *зак. груб.* Здырдзіцца. *Пока дочкá пойдзе замуж, то мацер здырдзіцца.* Луткі.

ЗДЫ'ХАЦЦА *зак.* Здыхацца. *Стань куды іці, то не можно здыхацца.* Сямурадцы.

ЗДЫХА'ЦЬ *незак.* 1. Здыхаць. *Кажуць, недобрэ, як собака здыхае дома* (павер'е). Верасніца. 2. Уздыхаць. *Так вáжненько здыхáло дзіця.* Хачэнь.

ЗДЫХЛЕ'Ц *м.* Здыхата, паморак. *Нехай іх здыхлец возьме, ты́е гусі!* Луткі. △ Н а з д ы х л е ц á. Нашто, для якой патрэбы. *На здыхлеца воны, тые вутвý!* Запясочча.

ЗЕ'БРА *мн.* Жабры. *Як зебра красные, знáчыць, хорошая, а як белые, то нехороша ўжэ рыба, то не беруць.* Сямігосцічы. *Нéводом велікім поймалі кожушка, шчо колкá ў зебра загналі, а хвост цягся, ек мужчыны неслі.* Дварэц.

ЗЕВА' *ж.* Зеў (у кроснах). *Зева роб'яцца, ек наступіш на пóнаж.* Бярэжцы.

ЗЕВА'ЦЬ *незак.* Зеўраць, адкрываць прастору паміж двума слаямі асновы ў кроснах. *Зевóў нема аніяк, крóсны не зевáюць.* Цераблічы.

З'Е'ЖА *ж.* 1. Заедзь. *Напусцілі ўсякую з'ежу на чоловека.* Альпень. 2. Яда, прадукты. *Это ж з'ежа — і вуценята і курэнята.* М. Малешава.

З'ЕЖДЖА'ЦЦА *незак.* З'язджацца. *Куды людзі з'ежджаюцца з усіх сторóн, вон туды й заежджáе.* Кароцічы.

З'Е'ЖДЖЫ *прым.* Зборны, з'езджы. *Там жэ, народ з'ежджы.* Бярэжцы.

З'Е'ЗДЗІЦЬ *зак.* Аб'ездзіць, з'ездзіць. *Трэба з'ездзіць усе болонье мне.* М. Малешава.

ЗЕ'КРА *мн.* 1. Пашча (у рыбы). *От зекрáты! Рот, як*

*у кожушка зе́кра!* Кароцічы. 2 *груб.* Губы. *Роставіць свое зе́кра, вечно ёмў мало!* Верасніца.

ЗЕКРА'ТЫ *прым.* З вялікім ротам. *Онь пошоў зекраты хлопец.* Сямігосцічы.

ЗЕЛЕЗЁН *м.* Качар. *У зелезня пух інакшы, чым у вутвў.* М. Малешава.

ЗЕЛЕ'НЕ'Ц *м.* Невялікі шчупак. Альпень. *Зелёнец.* Тураў.

ЗЕЛЕНЕ'ЦЬ *незак.* Зелянець. *Урўн зелене́е.* Бярэжцы.

ЗЕЛЕНЁВА'ТЫ *прым.* Зеленаваты. *Зеленёвата жаба.* Пагост.

ЗЕЛЕНІНА' *ж.* Зелень (пра вельмі зялёнае). *Ох, такая зеленіна шчэ хлеб на полі!* М. Малешава.

ЗЕЛЕНКОВА'ТЫ *прым.* Зеленкаваты. *Зеленковатые ягоды поўбіралі ўсе, вум'ялі ўсе.* М. Малешава. *Которэ сыроватэ да зеленковатэ, то жалі напро́ст.* Сямурадцы.

ЗЕЛЕНЧА'К *м.* 1. Зялепуха. *Яблукі шчэ зеленча́кі, по-доброму трэба, коб после петроўкі булі.* М. Малешава. 2. Малы шчупак. Мачуль.

ЗЕЛЕНЧУ'К *м.* 1. Зялепуха. *Куды ву, дзеці, етые зеленчукі тро́шчіце? Жівоты ж будуць болець.* Пагост. 2. Малы шчупак. Запясочча.

ЗЕЛЕ'НЫ, ЗЯЛЁНЫ *прым.* Зялёны. *Неяк ра́зом була, була зеле́на — і легла́ тая цыбуля.* Хачэнь. *На зелёну жабу кажуць ропу́ха.* В. Малешава.

ЗЕ'ЛЕНЬ *ж.* Зелень. *На́шчо ты есі гэту зелень, ешчэ воно зелёнэ.* Сямігосцічы. *Сено — зелень, зелень, ек рута.* М. Малешава.

ЗЕЛЕПА'К *м.* Малы шчупак. *Вунь зелепак у зелы стоіць, моль сцерэжэ.* Пагост.

ЗЕЛІ'НА *ж.* Адно каліва пустазелля, травіна. *Пешчова́ полянка — ніяка зеліна не ўросце́.* Запясочча. *Одкуль ето, дзеўко, зеліна ў цебе ў ко́сах? Ты ж не зелле свінне рвала, а на танцы ходзіла.* Пагост. *Памянш.* з е л і́ н к а. *Ка́жну зелінку трэба вурваць.* Аздамічы.

З'Е'ЛКНУЦЬ *зак.* З'ялчаць. *Сало ўжэ з'елкло і згоркло.* Тураў.

З'ЕЛЧА'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Масло з'елчало.* Альпень.

ЗЕ'ЛЬЕ *н.* 1. Пустазелле. *Усяке е зелье — осот, повіха́, сосонка.* Велямічы. *Трава, шо косім, а зелье, шо рвом.* Хачэнь. 2. Зёлкі. *Тур росце ў лесі на бору, то жоночэ зелье.* Запясочча. *Зелье до Купалного Івана бабэ́ зобіраюць.* Хотамель. *К чужой ране зелье знаю, а к*

*своей — ніякое* (прымаўка). Старажоўцы. *Памяніш.* зе́льейко, зе́льеко. *Звонец — зельейко жоўтэ на сеножаці.* Луткі. *Васільчыкі — зельеко рвом свіньям, едзяць і целята.* Верасніца.

ЗЕЛЬЁВА′ТЫ *прым.* З пустазеллем. *Зельёватэ сено, не сохне скоро.* Луткі.

ЗЕМЕ′ЛЬНЫ *прым.* Міфічная істота. *Чого плакаць: не вупросіла ў небесного, то ў земельного не вупросіш.* М. Малешава.

ЗЕ′МЗЯ *ж.* Халадэча (у размове з дзецьмі). *Ходзі, мамонько, а то земзя.* Цераблічы.

ЗЕМЛЯ′ *ж.* 1. Суша (у адрозненне ад воднай прасторы). *На земле лён, м'яць лучшэ, шорстко, а на подлозе гладко.* В. Малешава. *Земля ні старэ́е, ні зношваецца* (прымаўка). Дварэц. 2. Глеба, грунт. *Ек не́родзь буракі, то земля на мохра́х дзѐржыцца.* В. Малешава. *Там така земля чорна — осіна, бероза, і там ліпа росце.* Бярэжцы. *Шчо е найсычэ́йшэ, шчо е найсолодзейшэ і найбустрэйшэ?* (загадка). *Земля, сон, мысль* (адгадка). Сямігосцічы. 3. Зямельныя ўладанні. *Вона на вочы хромая. За зе́млю ее і хлопцы чуць не ўзелі замуж, а дале посумнева́ліса — земля́ землé́ю, а жыць трэбо з жонкою.* Луткі. △ П'яны, ек земля. П'яны вельмі моцна. *Седзіць п'яны, як земля, не бачно й голову́.* Сямігосцічы. Хоць землé ўкусі. Пра адсутнасць веры ў клятвеннае запэўненне. *Хоць земле ўкусі, то не праўда!* М. Малешава.

ЗЕМЛЯНІ′ЦА *ж.* Земляная жаба. *Е така раба́ жаба, белые цветы по ей, то земляніца называецца.* Пагост.

ЗЕ′НКІ *мн.* Вочы. *Зенкі ву́трошчыў.* М. Малешава.

ЗЕПА′ЦЬ *незак.* Зяваць. *Як подыха́е рыба, тогды зепа́е.* Цераблічы. *Як кана́е чоловек, то толькі шчо зепае.* Кароцічы.

ЗЕ′РБЫ *мн.* Вісячыя наросты пад шыяй у кабана. Аздамічы.

ЗЕ′РНЕ *н.* Зерне. *Гу́рбу зерня вее́м.* Хотамель. *Усей слонечнік з'елі гороб'і, ні зостало́с ні зе́рнеці.* В. Малешава. Зе́рнета *мн.* Сланечнікавыя семечкі. *Ужэ мое́ баба з дзедом жэнілі коміна, то ма́ю зернета.* Цераблічы. *Свёкру́ха зе́рнет насушыла.* Запясочча. △ Цэрэбіць зе́рнета. Лузаць сланечнікавыя семечкі. Тураў.

З'Е′СЦІ *зак.* 1. З'есці. *З'ела шкварку, то коўтні молочка з хлебом.* М. Малешава. *Ой, сколько мене е —*

*кот за ноч з'есць* (жарт). В. Малешава. *Ночоваў з коньмі на полянцы і не чуў, як з'елі жэрэбя воўкі.* Там жа. Патачыць, падзіравіць. *Шашлі з'елі дзежку.* Чэрнічы. 2 *перан.* Атрымаць лупцоўку. *Вон з'еў чэпле́йніка за таке слово.* Цераблічы.

ЗЕ'ХАЦЬ *незак.* Зяваць. *Вона, як бу ворона, заха́е.* Дварэц.

З'Е'ХАЦЬ *зак.* Уз'ехаць. *З'ехалі на бурча́к, і ніяк лоткі не ўкіруеш, круціць цебе, гене́ цебе, куды хочэ.* В. Малешава.

З'Е'ХАЦЦА *зак.* З'ехацца. *І з'ехацца по канаве не можно — жме так вода.* Цераблічы.

ЗЖА'БІЦЦА *зак.* Скарабаціцца. Любавічы.

ЗЖАЦЬ *зак.* Зжаць. *Одного загона жжала і другого начала.* Сямурадцы.

ЗЖЫ'ВУ *прысл.* Пры жыцці. *Ён з ее здзева́ўса і глуміўса зжы́ву, то і цепер гніе ў земле без поры.* Кароцічы.

ЗЖЫ'ЦЦА *зак.* Ужыцца. *Тоже вона не зжыла́са, не злюбілі ее.* Хачэнь.

З-ЗА *прыназ.* 1. Пры. *Не з-за нас воно зробілосо, не з-за нас воно стане* (пра сонца). Мачуль. *З-за Ніколая село не горэло.* Цераблічы. 2. З-за. *Робілі людзі з-за Турова.* Кароцічы.

ЗЗА'ДУ *прысл.* Ззаду. *Я ў носку́ грэбу́са ў лодцы, а вон праву́е ззаду.* Хачэнь.

ЗЗА'МОЛОДУ *прысл.* Замалада. *Не пела баба ззамолоду, то і цепер не запее́.* Кароцічы.

ЗЗЫЦЬ *зак.* Хутка згарэць агнём. *Укіну берэст у печ, хай ззы́е.* В. Малешава.

ЗЗЯЦЬ *незак.* Ззяць. *Золото і ў попелі ззяе* (прымаўка). Верасніца.

ЗІМА' *ж.* Зіма. *По зіме лето ідзе* (прыкмета). М. Малешава. *Дзе летом ногою топ, то там зімою рукою цоп!* (прыказка). Сямурадцы. *Варвары заваа́рац, а Сава поправіц, а Мікола гвоздом заб'е, ужэ тогды зіма* (прыкмета). Запясочча. *Памянш.* з і м о ч к а. *У мене ўсю зімочку зімовалі я́блука.* Хачэнь. △ Н а з і м е́. За зіму. *На зіме грэбенёў п'яць поб'е.* Луткі.

Якой будзе зіма, вызначалі па велічыні касы ў забітай свінні ці кабана: калі тонкая, то кароткая і лёгкая, а калі тоўстая, то доўгая і лютая. Хачэнь.

ЗІМІНА' *ж.* Азіміна. *Жыто, пшеніца — то зіміна.* Запясочча.

ЗІ'МНІ *прым.* Зімовы. *Цыбуля зімня.* Хачэнь.

ЗІ'МНІК *м.* Зімнік. *Зімніком едзь.* Альпень.

ЗІ'МОВА'ЦЬ *незак.* Зімаваць. *Я ж зімова́ла ў Турове.* Бярэжцы. *Зімовало двое свіней, ек волы!* Хачэнь. *Жойты корэнь не вукопваюць, вон зімуе* (пра вяргіню). М. Малешава.

ЗІМО'ВУ *прым.* Зімовы. *Корч зімо́вой цыбулі пошоў у стрэлкі, була неподымлена.* М. Малешава.

ЗІМОВУ'ХА *ж.* Сорт позніх ігруш. Хачэнь.

ЗІМО'ЎКА *ж.* Сорт позніх яблыкаў. *Ящчыкоў пяць забілі на зіму зімовок.* Верасніца.

ЗІМО'ЎЛЯ *ж.* Зімовішча. *Як лёд стане, то ўсе котэ з-за рэкі на зімоўлю ў дзерэўню* (бо летам збродлівых катоў завозяць за Прыпяць). Запясочча.

ЗІМОХО'Р *м.* Той, хто хваравіта пераносіць халады. *Зімохор нашу́шкаецца, ек цыбу́ліна, так морозу боіцца.* Верасніца.

ЗІМОХО'РЛІВУ *прым.* Які баіцца холаду. *Екісь то вон зімохорліві, зімой не вуходзіць.* Сямігосцічы. *Зімохорліві на печэ спіць, боіцца холоду.* Там жа.

ЗІМО'Ю *прысл.* Зімой. *От жэ сучка ошчэніласа була зімою.* Мачуль.

ЗІМУХА' *ж.* Сорт позніх ігруш, яблыкаў. *Наша зімуха, а ў іх ранняя кіслу́ха.* Луткі. *Онь то зімуха, а гэто соло́дка.* Там жа.

ЗІРНУ'ЦЬ *зак.* Зірнуць. *Трэба мне зірнуць за броды́ — аж там стоіць паніч, і коцю́бка ў руках.* Сямігосцічы.

ЗІХЦЕ'ЦЬ *незак.* Зіхацець. *Той паніч убра́ны, аж зіхціць! Усе сія́е, зіхціць у цэркві!* М. Малешава.

ЗКМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Запрыкмеціць. *Ро́саўкі зкмецілі чоловека, побралі жэлезные пранікі і забілі ў жыці* (з казкі). Хотамель.

ЗЛАБУ'ДАНЫ *дзеепрым.* Зроблены абы-як. *Злабудана хаціна врэменно.* Хотамель.

ЗЛАБУ'ДАЦЬ *зак.* Зрабіць абы-як. *Злабудаў халу́пку врэменно і жыве.* Хотамель.

ЗЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Дамовіць. *Ужэ зладзілі пастуха, договорыліса.* Цераблічы.

ЗЛАДОВА'ЦЬ *зак.* Зруйнаваць. *Могліцы згрэ́блі, зладовалі — і нічого не відаць.* Цераблічы.

ЗЛА'ЗІЦЬ *незак.* Злазіць. *Як досвета злазяць куры з седала, то будзе дождж* (прыкмета). Хачэнь.

ЗЛА'МАНЫ *дзеепрым.* Зламаны. *Голье зла́мана на вішні.* Хотамель.

ЗЛАПА́ЦЬ *зак.* Злавіць. *Злапа́ў зло́дзея.* Кароцічы.

ЗЛАТЫШЫ́ЦЦА *зак.* Спецца, звязацца. *С тым ку́мом вон златышы́ўса.* М. Малешава.

ЗЛЕ́ГЦІ *зак.* Палегчы. *Ек до краскі злёгло жыто, то не будзе зерна.* Цераблічы.

ЗЛЕ́ГЦІСА *зак.* 1. Стаць больш цвёрдым, шчыльным. *Сено злёглосо хо́рошэ ў стозе.* Бярэжцы. 2. Звязацца. *Вон злёгса з нейкою старо́ю.* Луткі.

ЗЛЕ́ЗЦІ *зак.* 1. Злезці. *Да ўзела і злезла з того воза.* Мачуль. 2. Адстаць, адваліцца. *Ногоць почорнеў і злез.* Аздамічы. 3. Узлезці. *Не еж ву́скрэбкі, а то на коня не злезеш!* Дварэц. 4. Узысці. *Дождж*э́*, цепер і на поле нідзе не злезеш!* Цераблічы.

ЗЛЕКА́ЦЦА *зак.* Злякнуцца. *Так злекаласа, шо не́морозь узела!* Рубель.

ЗЛЕ́ПАЦЦА *незак.* Злепліввацца. Альшаны.

ЗЛЕ́ПВАЦЬ *незак.* Злепліваць. *Ластаўка злепвае кубе́лцэ.* Запясочча.

ЗЛЕПІ́ЦЬ *зак.* Зрабіць абыякава. *Як я була здорова, то зленіла сама хату.* Сямурадцы.

ЗЛЕ́ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Злеплены. *Да так, ек з грезі, злеплена!* Запясочча.

ЗЛЕ́ПОК *м.* Слабак, хлюпік. *Ко́лісь людзі крэпкіе булі, а цепер — злёпкі.* М. Малешава.

ЗЛЕ́ТАЦЦА *зак.* Злётацца. *Злётаўса по селе, бу дурны, гэты кот!* Дварэц.

ЗЛЕ́ТАЦЬ *зак. перан.* Хутка збегаць. *Злётай за дохтуркою, нешчо мацер зробілосо.* Пагост.

ЗЛЕТА́ЦЬ *незак.* Злятаць. *Усе злета́юць і огулом кормяць іх* (пра буслоў). Любавічы.

ЗЛЕ́ТОВАЦЬ *зак.* Пералетаваць. *А ты дрова своє кінуў, хай злетуюць?* В. Малешава.

ЗЛЕЦЕ́ЦЬ *зак.* Сцячы, спасці. *Вода́ ўжэ злецела.* Кароцічы.

ЗЛЕ́ЦІЦЦА *зак.* Злеціцца. *Злёціласа вода ў чыгуне, і добро ложкі муць.* М. Малешава.

ЗЛЕ́ЦІЦЬ *зак.* Падагрэць. *Злёціла воды.* Бярэжцы.

ЗЛЕЧЫ́ЦЬ *зак.* Вылечыць. *Натоўкла того зельяа, нацэдзіла юшкі да злечыла.* Тураў.

ЗЛЁПАЦЬ *зак.* Зрабіць абы-як. *Злёпаў корыто: ні собе, ні лю́дзям.* Верасніца.

ЗЛЁПКА *ж.* Камяк. *Пража будзе ў злёпках.* Верасніца.

ЗЛЁТОК *м.* Непрыгоднае для гульні велікоднае яйцо. Аздамічы.

ЗЛІВА'ЦЬ *незак.* Зліваць. *Пойду зліваць сметану.* Альпень.

ЗЛІ'ВОК, ЗЛЕ'ВОК *м.* Малы гаршчок. Аздамічы. Адлітае варыва, якое потым даліваецца ў страву. Хотамель. Тое, што сплыло пры кіпенні. *Злёвок упаў на чэрэ́н да чадзіць.* Хотамель.

ЗЛІ'ГЦІ *зак.* 1. Адлігнуць, пацяплець. *Буў мороз велікі, да зліг. Ек оччыні хату, да бежыць у хату мороз, то ўжэ злігне.* Луткі. 2. Адсырэць. *Зельé злігне, ек сыра погода.* Луткі.

ЗЛІ'ЗВАЦЦА *незак.* Злізвацца. *Гра́ба беруць на гэ́блы, на спусты, вон не злізваецца.* М. Малешава.

ЗЛІПА'ЦЦА *незак.* Зліпацца. *Так называецца, шо й губкі зліпаюцца* (прымаўка). Сямурадцы.

ЗЛІПА'ЦЬ *незак.* Злепліваць. *Мороз аж очы зліпае!* Аздамічы.

ЗЛІТОВА'ЦЦА *зак.* Зрабіцца цвёрдым. *Шо цэ́мент, злітоваласа земля, б'еш, б'еш, а воно ек камень.* М. Малешава.

ЗЛІ'ТЫ *дзеепрым.* Зліты. *Порося, ек злітэ, кормім — і прыбуток е.* М. Малешава. *На бураках зліты молоч'я́к, нарос!* Хачэнь.

ЗЛІ'ЎКІ *мн.* Адведкі парадзіхі на трэці дзень. *На зліўкі самы́е жонкі ідуць.* Аздамічы. *Зліўкі спраўляюць ешчэ і цепер.* Там жа.

ЗЛІ'ЎНІК *м.* Малы гаршчок. Велямічы.

ЗЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Злавацца. *Сама на себе выдумала Праксэда да зліцца.* Цераблічы. 2. Усхлынуць (пра ваду). *Хоць прыбудзе вода, то на шлях не зольецца.* Дварэц.

ЗЛІЦЬ *зак.* 1. Заліць. *Дожч усё зліў!* Кароцічы. 2. Узліць. *Хоць на собаку злі такі боршч!* Дварэц.

ЗЛО *н.* Злосць. *Зло озьмé, то абу-шчо скажэш.* Сямурадцы. *От, бач, зло і ў вороб'я е.* Там жа.

ЗЛОБА' *ж.* Тое ж. *Суседы злобу́ маюць на мене.* Хачэнь.

ЗЛОБЕ'ЦЬ *незак.* Ныць. *Ох, злобіць зуб, не боліць моцно, а злобіць і злобіць.* Альшаны.

ЗЛОВА'ЦЬ *зак.* 1. Злавіць. *Тут ходзіў лось, ёго́ хоцелі злова́ць, да не зловалі, бо ўцёк.* Бярэжцы. 2 *перан.* Моцна балець. *Рана злуе, хоць ножэ́м рэж!* Аздамічы.

ЗЛОВІ'ЦЬ *зак.* Злавіць. *Сорок тры зловіў язі.* Кароцічы.

ЗЛОДЗЕ'ЕВУ *прым.* Зладзеяваты. *Вон хлопец злодзе́еві.* Хотамель.

ЗЛО'ДЗЕ'Й *м.* Злодзей. *Зло́дзей — е большáя ганьба.* В. Малешава. *Село без зло́дзея не бувае* (прымаўка). Верасніца. *Злодзе́й.* Хачэнь.

ЗЛОДЗЕ'ЙСКІ *прым.* Крадзены. *Мне не трэба твое злодзейске, у мене хватае свого.* Хачэнь.

ЗЛОДЗЕ'ЙСТВО *н.* Зладзейства. *Злодзейство таке, шо крáдуць одзін у одного.* Сямігосцічы.

ЗЛОДЗЮ'ГА *м.* Зладзюга. *Копейку положыць не можна — злодзюга ўсе почысціць.* Верасніца.

ЗЛО'ЖВАЦЬ *незак.* Складаць. *Зложвалі голье́, а потом запальвалі.* Старажоўцы.

ЗЛО'ЖНО *прысл.* Складна. *У его зложно робіцца, як вон расказуе.* Сямігосцічы.

ЗЛОЖЫ'ЦЦА *зак.* Прыцэліцца. *А вон зложыўса да цоп того глушца!* Мачуль.

ЗЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Скласці. *Два-тры вóзы сена зложу ў стог.* Хачэнь. 2. Ускласці. *Зложыла того мешкá да прыве́зла.* Цераблічы. 3. Апрануць, абуць. *Накладзе подраного пінджака, руковіцы злóжыць і хóдзіць.* В. Малешава. *Новуе чоботы зложыла да по хрáпі стоптала.* Верасніца. △ З л о ж ы́ ц ь р у́ к і. Перастаць дзейнічаць, памерці. *А Ревуціха ўге і рукі зложыла.* Сямігосцічы. З л о ж ы́ ц ь с к л а д. Прыараць дзве баразны адна да другой. *Коб посеяць гарбýзы, зложыў склад.* Верасніца.

ЗЛОМ *м.* 1. Буралом, бураломіна. Аздамічы. 2. Паварот. *Як велí туую дорогу, то зробілі злом, да на Озерáны вышла.* Пагост.

ЗЛО'МОК *м. экспр.* Лодар. *Ой, злóмка не́йкого вона собе нашла!* Дварэц.

ЗЛОМА'ЦЦА *зак.* Зламацца. *Зробе́це, дзе́ду, нове дзержално ў вілкі, а е́тэ зломáлосо.* Пагост.

ЗЛОМІ'ЦЬ *зак.* Зламаць. *Дзе злóміць соснý, стоіць стырч.* Кароцічы.

ЗЛО'ТНІК *м.* Залатар, ювелір. *Злотнікі робілі пітулькі.* Запясочча.

ЗЛОТО'ШЫЦЬ *зак.* Златашыць. *Усё спустошылі, злотошылі ў городзі, нема нічого!* М. Малешава.

ЗЛО'ХНУ'ЦЬ *зак.* Здохнуць, памерці. *Той пан злохне́, а ей маёнток.* М. Малешава.

ЗЛУПІ′ЦЬ *зак.* 1. Зняць, садраць верхні слой. *Усе шляхі машыны злупяць.* Верасніца. 2 *перан.* Узяць празмерную плату. *У два раз злупіў з мэне́.* Альпень. 3 *перан.* Празмерна многа зрабіць, з'есці. *О, станyць у рад, да колько злуп'яць!* (пра жней, касцоў). Сямурадцы. *Була міска ладок — усе злупіў.* Пагост.

ЗЛЫ *прым.* 1. Злы. Кароцічы. 2. Нядобрая міфічная сіла. *Віхор, шчо пул круціць, то мо то злы, нечысты той, сатана.* Луткі.

ЗЛЫГА′ЦЬ *зак.* Злыгаць. *Злыгаць —это з'язаць ко́ней, ек ор́ом, шоб коні не росхо́дзіліса куды попало.* Верасніца.

ЗЛЫДЗЕ′ННЫ *прым.* Зайздросны. *Злыдзенны — хто хочэ ўсе забраць, з зайздроснымі очыма.* Пагост. *От злыдзенны, вон век чоловека не покорміў, вон не сукру́шліву.* Старажоўцы.

ЗЛЫ′ДЗЕНЬ *м.* Скнара. *Злыдзень ненаедны, вечно ёму́ не хватае!* Верасніца. *Як ву есце́ і я, то чужые злыдні будуць — не трэба кусаць куска чужого, недоедка* (павер'е). Луткі.

ЗЛЫ′ДНЯ′ *ж.* Тое ж. *От злыдня́, последне отобрала, век тобе ўсе мало!* Аздамічы.

ЗЛЮБІ′ЦЦА *зак.* Злюбіцца. *Злюбіласа з ім дай поехала до его ро́дзічоў.* Хачэнь.

ЗЛЮБІ′ЦЬ *зак.* Палюбіць. *Не злюбіў ёго́ цесць дай годзе.* В. Малешава.

ЗЛЯ′МЦІЦЦА *зак.* Злямчыцца, злегчыся. *От стог з лета сеў, злямцілосо сено добре ў ём.* Пагост.

ЗМАЁВА′ЦЬ *зак.* Знішчыць, праматаць. *Усе змаёваў, у прах!* Старажоўцы.

ЗМА′ЗАЦЬ *зак.* Змазаць. *А то була свечка, ек коньска нога — змазала на сковородзе.* Бярэжцы.

ЗМА′ЛКУ *прысл.* Змалку. *Му прывучоные змалку робіць.* М. Малешава. *Змалку і до оста́нку* (прымаўка). Луткі. *Змалку певень дзеўбене́, і вонэ под старосць очу́ецца* (прыказка). Бярэжцы.

ЗМАРНЕ′ЦЬ *зак.* Змарнець. Мачуль.

ЗМАТЫКОВА′ЦЬ *зак.* Узматычыць, зрыць. *Усе тые доліна́ зматыковалі дзікі.* Мачуль.

ЗМА′ЯЦЬ *зак.* Згінуць. *Шчоб ты звеласа, шчоб ты змаяла!* Кароцічы.

ЗМЕНІ′ЦЦА *зак.* Змяніцца. *Ох, як ты на віду зменіўса!* Сямігосцічы.

ЗМЕНІ'ЦЬ *зак.* Змяніць. *Пойду семена́ зменю на луччые.* Сямігосцічы.

ЗМЕ'НЬВАЦЦА *незак.* Мяняцца, пераменьвацца. *Жонка ідзе за мужыка, і ее фамільє зменьваецца.* Хачэнь.

ЗМЕНЯ'ЦЬ *зак.* Змяніць, падмяніць. *Кажуць, зменялі. Серэдню броў, а старшу поставілі* (пра падмен нявесты ў час вяселля). Запясочча.

ЗМЕ'РЗНУЦЦА *зак.* Змерзнуцца. *Колонку торхом засыпаюць, шчоб не змерзлосо.* Дварэц.

ЗМЕ'РЗНУЦЬ *зак.* Змерзнуць. *Да змерзла, так змерзла, шо й шэпеляю!* Пагост. △ З м е́ р з н у ц ь н а с о л ь. Моцна азябнуць. *Як росстаноўляем коноплі мокрые, то змерзнем на соль.* М. Малешава.

ЗМЕ'РЦІ *зак.* Памерці, вымерці. *Пока ізомрэ́ э́той народ, не забудзе эту войну́.* М. Малешава.

ЗМЕСЦІ' *зак.* Змесці, агаліць. *Ты будзь, а я пройду, можэ, йдзе дорогу змело.* Бярэжцы.

ЗМЕ'ТА'ЦЬ *незак.* Змятаць. *Зметай з лаў пул, а то мукалі лён, то вон насадзіўса.* М. Малешава.

ЗМЕ'ТВАЦЦА *незак.* Змятацца. *Венік хутко зметваецца.* В. Малешава.

ЗМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Прыкмеціць. *Я баба недурна́, змечу хутко!* Дварэц.

ЗМІГЛЯ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца слабай. *Усе ўжэ, бабо, змігляла ты.* Верасніца.

ЗМІ'ЛОВАЦЦА *зак.* Злітавацца. *Зміловаўса бог над раком да хоць ззаду очы даў* (прыказка). М. Малешава.

ЗМНО'ЖЫЦЦА *зак.* Размножыцца. *Змножылосо звероў у лесе.* Бярэжцы.

ЗМО'ГА *ж.* Сіла, магчымасць. *Плоты хво́ростом плелі, у которых змога.* Пагост.

ЗМОГЦІ'СА *зак.* Змагчыся. *Змогса я, лёг коло хвойкі да задрэмаў.* Хачэнь. *Змогло́со гусеня, шо ўжэ й не перэкінецца.* Цераблічы.

ЗМОЛО'ЦЦА *зак.* Сцерціся. *Трэ, шчоб не змололаса ось!* Альшаны.

ЗМОЛО'ЦЬ *зак.* Змалоць. *Трэ, шчоб змолоць м'якко.* Мачуль.

ЗМОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Змалаціць. *Колько посадоў змолоціў до́света?* Хачэнь.

ЗМО'НАЦЦА *зак.* Змарыцца. *Змо́налаcа я, шо ледво прышла домоў.* М. Малешава.

ЗМОРО'ЗІЦЦА *зак.* Памерзнуць. *По радзіво пере-*

*давалі, шо морозы скоро, трэ з шопу картоплі вунóсіць да буртоваць, а то зморозяцца.* Пагост.

ЗМОЎЧА'ЦЬ *зак.* Змаўчаць. *Лýччэй змоўчы!* Старажоўцы.

ЗМУ'ЛОК *м.* Змылак. *Змулок мула зостаўса, купі шчэ.* Дварэц.

ЗМУ'ЛЯЦЬ *зак.* Змуляць. *Гледзі, коб не змýляў карка!* Запясочча.

ЗМУЦЬ *зак.* Змыць, абмыць. *Ой ты, сынку, ходзі до домóчку, я змую тобе голóвочку* (з песні). Бярэжцы.

ЗМУ'ШЛІЦЬ *зак.* Прыдумаць. *Злез на того дуба, но і змушліў жэ, шо трэба робіць.* Цераблічы.

ЗНАДВО'РКУ *прысл.* Знадворку. *Зачыні хату знадворку!* Дварэц.

ЗНАДО'БІ'ЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Бувае знадóбіцца, да нема.* Бярэжцы.

ЗНАЙДЗЁН *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Знайдзён і байструк — однэ́.* В. Малешава.

ЗНА'ЙКА *ж.* △ З а г у б і ц ь з н á й к у. Забыць. *Загубіла знайку за дзесець годоў.* Сямурадцы.

ЗНАЙЦІ' *зак.* Знайсці. *Лепш з розумным загубіць, як з дурным знайці* (прыказка). Сямігосцічы.

ЗНАЙЦІ'СА *зак.* Знайсціся. *Ты ешчэ молода, тобе чоловек можэ й знайціса.* Верасніца.

ЗНАК *м.* Знак. *Гледжу — повен двор гусей у его, і ў каждого іншы знак.* Дварэц. △ Н е ў з н а к. Пра абсалютную недастатковасць, непрыкметнасць. *Тры рублі не ў знак.* Бярэжцы. З н а к у н е м а. Пра адсутнасць змянення. *Дождж ідзе, а знаку нема.* Сямурадцы.

ЗНАКОВА'ЦЬ *незак.* Меціць. *Хто ў цебе гусі знакуе?* Дварэц.

ЗНАКО'МЕЦ *м.* Знаёмы. *Мого Петрушы знакомец буў.* Цераблічы.

ЗНАКОМІ'ТЫ *прым.* 1. Знакаміты, славуты. *Моя мама знакоміта — полáплёна ззаду світа* (жарт). Старажоўцы. 2. Назначаны, прыкметны, адметны. *Нема двух плашóк знакомітых, пропалі.* М. Малешава.

ЗНАКО'МКА *ж.* Знаёмая. *То былі знакомкі Кóліные.* Хотамель.

ЗНА'М'Е *н.* Знак. *Знам'е стáўлее на лапках у гусей.* Любавічы.

ЗНАМЕНОВА'ЦЬ *незак.* Меціць. *Короў і овéчок знаменовалі, прорэзáлі ýхо.* М. Малешава.

ЗНАРО′К *прысл.* Знарок. *На жонкі знарок наехаў.* Цераблічы.

ЗНА′ТНЫ *прым.* Знатны, паважны. *Людзі такіе знатные не б'юць гусёй!* Дварэц.

ЗНАТУ′РВАЦЬ *незак.* Патураць. *Не знатурвай дзіця, не роспускай ёгó!* Хотамель.

ЗНА′ЎЕ *прысл.* Вядома, так, сапраўды. *Вона знаўе под снегом зелёна.* Мачуль.

ЗНА′ХОР *м.* Вядзьмар. *Знахор мог скінуцца ў жабу, у гадзюку, собаку.* Луткі. *Знахорэ́ е трохі вы́дукованые.* Сямурадцы.

ЗНАХО′РКА *ж.* Вядзьмарка. *Я знахорка, я ўсе знаю.* Альшаны.

ЗНАХОРОВА′ЦЬ *незак.* Вядзьмарыць. *Жонка знахоровала, знала от молока вельмо.* Бярэжцы.

ЗНА′ЦЦА *незак.* Знацца, быць у добрых адносінах. *Вона дóбро знаецца з намі, не цураецца.* Верасніца. Мець інтымныя сувязі, любіцца. *Вона з ім зналаса, жыла, як трэба.* Сямігосцічы.

ЗНАЦЬ *незак.* Знаць, ведаць. *Коб і не знаў, то прызнаў бу по розговору.* М. Малешава. *Мушы знаюць, як будзе веліка вода, то робяць кублы вусоко на сене.* Сямурадцы. △ З н а ц ь м е р у. Быць у норме, асцерагацца лішняга. *Душа меру знае. Вон будзе есці, колькі трэба.* В. Малешава. З н а ц ь с е б е. Пачаць усведамляць, памятаць. *Ек я стала знаць себе, то цэркву ўжэ не було.* Хачэнь.

ЗНАЧНО′ *прысл.* Прыкметна, відаць. *А ёгó лодка покрашэна да значно.* Луткі. *Там жэ по слéду значно, шчо свінья ходзіць.* Кароцічы.

ЗНА′ЧЫЦЬ *незак.* Меціць. *На овэчках кажны хозяін значыць пазурчык.* Мачуль.

ЗНАЧЫ′ЦЬ *незак.* Значыць, паказваць на хуткае цяленне. *Корова ўжэ значыць, ужэ прыбувае молодзіво.* Запясочча.

ЗНЕБО′ЖЫЦЦА *зак.* Зажурыцца. *Она ўжэ так знебожылаcа, шчо ні есць, ні п'е.* Верасніца.

ЗНЕВА′ГА *ж.* Знявага, абраза. *Зневага така ат вас, шо не ведаю!* Мачуль.

ЗНЕГО′ЖАЦЬ *зак.* Занядужаць. *Зусім знегожаў, ледзь дошоў до хаты.* Дварэц.

ЗНЕ′КУЛЬ *прысл.* Аднекуль. *А вон знекуль перэбрайса туды.* Хачэнь.

ЗНЕМАВІ'ДЫ *прысл.* Немаведама. *А шо то за чоловек той — знемавіды одкуль.* М. Малешава.

ЗНЕМІЛЕ'ЦЬ *зак.* Абрыднуць. *Ужэ мне та робота знемілела.* Бярэжцы.

ЗНЕМОГЦІ'СА *зак.* Змагчыся. *Дзіця ўжэ знемоглосо от кріку.* Тураў.

ЗНЕМОГЧЫ'ЦЬ *зак.* Знемагчы, аслабець. *Знемогчыла я, шо ніяк не могу робіць.* Запясочча.

ЗНЕ'НА'ЦКА *прысл.* Знянацку. *І вуж кусаецца, еслі его прыціснуць знéнацка.* Цераблічы. *А бувае, ідзеш і зненáцка нарвесса.* Луткі.

ЗНЕСЦІ' *зак.* Знесці. *Я йдзе росла і ты йдзе рос і нас бог уместо знёс* (прымаўка). Луткі.

ЗНЕСЦІ'СА *зак.* Знесціся. *Кýра кокае, ек хочэ нéсціса, а як знеслáса, то ўжэ сокочэ моцно.* В. Малешава.

ЗНЕ'ХАЦЦА *зак.* Знюхацца, злюбіцца. *Вон знéхаўса з другою жонкою і жыве.* Мачуль.

ЗНЕХТОВА'ЦЬ *зак.* Зняславіць. *Хібо вон буў этакім? Гэто вы ёгó знехтовалі.* Тураў.

ЗНЕ'ЧЭ'ЎКУ *прысл.* Знянацку. *Знéчэўку крыкнуў, то воўк стаў да дзівіцца на мэне.* Рубель.

ЗНЁМ *м.* Знос. *Корбовáць сцены на знём.* Мачуль.

ЗНІ'ЖВАЦЬ *незак.* Паніжаць. *Гурпан той зніжвалі.* Любавічы.

ЗНІЗА'ЦЬ *зак.* Знізаць. *Сколько хозяін зніжэ ўюноў на мечышчэ?* Аздамічы. Здзіравіць. *Вухваціў кінджала да знізáў того чоловека.* Цераблічы.

ЗНІ'КНУЦЬ *зак.* Знікнуць. *Знікла моя дзеўчына дзе-то.* Цераблічы.

ЗНІМА'ЦЬ *незак.* 1. Знімаць. *Знíмай хату з мойго поля!* Сямурадцы. 2. Утрымліваць. *Як дорога добрая на болоце да замэрзне, то трáктора знімае.* Цераблічы.

ЗНІСТОЖА'ЦЬ *незак.* Знішчаць. *Знiстожаў пан лес англійцамі.* Хотамель.

ЗНІСТО'ЖЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *У мене ў городзе поевіласа точка і вона знiстожыла ўсе помідоры.* М. Малешава.

ЗНІ'ШКА, ЗНІ'ШКУ *прысл.* Знянацку. *На воўка помоўка, а медзведзь знішка* (прымаўка). Аздамічы.

ЗНІШЧА'ЦЦА *незак.* Знішчацца. Сямігосцічы.

ЗНОРОВІ'ЦЦА *зак.* Занатурыцца. *От зноровіўса конь, не везе!* Запясочча.

ЗНОРО'ВІЦЬ *зак.* Зрабіць упартым. *Богато нало-*

*жыш да конь не посілуе поцегнуць, вот ты ёго́ і знорó- віш.* Луткі.

ЗНО′СІНЫ *м.* △ Зробіць зно́сіны. Пацалавацца асобна дзецям і іх маці пры сустрэчы. Хотамель.

ЗНО′СІЦЬ *незак.* Зносіць. *Вона іх у ворох зносіць.* Луткі.

ЗНО′СОК *м.* Зносак. *Ку́ра знесла́ малю́сенькe ейцэ, зносок.* Луткі.

ЗНОТОВА′ЦЬ *зак.* Паспісваць. *Нехто ўсе тэ знотоваў.* Альшаны.

ЗНОЎ, ЗНО′ВА, ІЗНО′Ў *прысл.* Зноў. *Дождж з перэгонамі, перэжэне́ хмару дай зноў ідзе.* Луткі. *А з Жытковіч ізноў везе ее сына.* Бярэжцы. *Знова.* М. Малешава.

ЗНО′ШВАЦЦА *незак.* Зношвацца. *Не зношваецца наша земля.* Дварэц.

ЗНУШЧА′ЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Знушчацца — то глуміцца.* Бярэжцы.

ЗНЫЦЬ *зак.* Зныць. *Гэто ж там трэбо було зныць!* Верасніца.

ЗНЯ′ЦЦА *зак.* 1. Зняцца. *У свіньі ўся кожа мешком знеласа.* Запясочча. 2. Падняцца. *Знеласа чыры́цка і на кры́лах поднела дзеўяць чырычэня́т.* В. Малешава.

ЗНЯЦЬ *зак.* Зняць. *Як жыто здоймуць, то пожню пыдгоня́юць ме́ленько.* Рубель. *Вершо́чок на солодком молоцэ знімі, ложку еку.* М. Малешава. *Шоў генерал, усім шапкі зняў, а ўтрох не знялі* (загадка). *Зіма, хвоя, елка, ело́вец* (адгадка). Хачэнь.

ЗОБА′ЧЫЦЬ *зак.* Пабачыць. *Здаецца, я зобачыла ёго́.* Хільчыцы. *Пойду зобачу жукоў на сотках.* Хотамель.

ЗОБІРА′ЦЦА *незак.* Збірацца. *Мацер зобіраецца коровы́ доіць.* Луткі.

ЗОБІРА′ЦЬ *незак.* Збіраць. *Клоченік зобірае клоч'е.* Буразі.

ЗОБРА′ЦЦА *зак.* Сабрацца. *Зобралосо ўсе село!* Луткі.

ЗОБРА′ЦЬ *зак.* Сабраць. *Усе окраўкі зобраў, згорнуў да ў печ.* Луткі.

ЗОВІ′ЦА, ЗОЎВІ′ЦА *ж.* Залвіца. *Зовіца — чоловекова сестра.* Цераблічы. *У мене аж дзве зоўвіцы — Галя і Паша.* Тураў.

ЗОГЛУМІ′ЦЬ *зак.* Зглуміць, сапсаваць. *Я спра́шваю, шчоб не зоглуміць консерву.* Чэрнічы.

ЗОГНА'ЦЦА *зак.* Сагнацца. *Тро́ха побе́леецца, як ржа зжэне́цца с полотна.* Хотамель.

ЗОГНА'ЦЬ *зак.* Сагнаць. *Чотырыста душ зогналі немцы ў цэркоў да запалілі.* В. Малешава. *На дзеці дома засе́рдзіласа, а на тобе зло зжэну́.* Бярэжцы.

ЗОГНІ'ЦЬ *зак.* Згнісці. *Вуле́й зогніў.* Аздамічы. *Золото не зогніе.* Запясочча.

ЗОГНОІ'ЦЬ *зак.* Загнаіць. *Трава була добра, толькі загноілі ў валка́х.* М. Малешава.

ЗОГНУ'ТЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Гарбуза́ ек корэнь зогнуты, то на насенье ўбіра́юць.* М. Малешава.

ЗОГНУ'ЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Мой чоловек зогнуўса ў тры погібелі.* М. Малешава. *Зогнуцца бабэ́, обопнуцца клеёнкамі да йдуць з тымі шанька́мі на пле́чах.* В. Малешава.

ЗОГНУ'ЦЬ *зак.* Сагнуць. *Само́го зогнула его і того сына.* Сямурадцы. *Шоб языка мне зогнуло, шо я не казала!* Мачуль.

ЗОГРЭ'ЦЬ *зак.* Саграць. *Коб зогрэло, то грыбу сталі бу росці.* Запясочча.

ЗОДРА'ЦЬ *зак.* 1. Здзерці. *Зодраў кору́ да лапці сплёў.* М. Малешава. 2. Узараць цаліну. *Поле за́рэ — зодралі сено́жаць.* Цераблічы.

ЗОЖА'ЦЬ *зак.* Зжаць. *Зожне хлеб да там молоціць і колоціць* (пра камбайн). Аздамічы.

ЗОЗВА'ЦЬ *зак.* Паклікаць. *Зозвалі собаку ў лотку да поехалі.* В. Малешава.

ЗОЗРЭ'ЦЬ *зак.* Паспець. *Коно́плі зозрэлі ўжэ.* Сямурадцы.

ЗОЗЫВА'ЦЬ *незак.* Склікаць. *Зозывае дзецей к собе і дзіктуе.* Хачэнь.

ЗОЙЦІ' *зак.* 1. Сысці. *Б'юцца кожу́шкі, ек зойдзе лёд.* В. Малешава. *Зойшоў крывёю да ўмёр.* Аздамічы. 2. Узысці. *Чому ж ты не прышоў, як месяц зышоў, як я цебе ждала, ці коня згубіў, ці маці не пускала* (з песні). Хачэнь.

ЗОЙЦІ'СА *зак.* 1. Зысціся. *Лес з лесом не зойдзецца, а чоловек зойдзецца* (прыказка). В. Малешава. 2. Справіцца ў хадзе, сагнацца. *Хве́дорко скоро ходзіць, ніхто не можэ з ім зойціса.* В. Малешава.

ЗОЛА' *ж.* 1. Золь. *Така зола на дворэ: і морозу нема, а холод.* Сямігосцічы. 2. Попел. *Золу́ беруць з печы.* В. Малешава.

ЗО'ЛІВЕНЬ *м.* Рагатун. Запясочча.

ЗОЛІ′ЦЬ *незак.* Кіпяціць у лузе бялізну. *Цепер плацье пропускаюць чэрез вуварку, а раньшэй золілі ў жлукці.* Тураў.

ЗОЛО′ЗА *ж.* Залоза. *Як золозы болелі ў моей Веркі, то вурывалі.* М. Малешава.

ЗОЛОЗОВА′ЦЬ *незак.* Залазаваць. *Золозу́е конь — голова боліць, ідзе гной з но́здзер.* Луткі.

ЗОЛОТНІ′К *м.* Хвароба жывата ад падняцця цяжару. *Як кулак по жывоту ходзіць — ето золотнік, ёго́ не лечуць, а шэпчуць.* Запясочча.

ЗО′ЛОТО *н.* Золата. *Не беры, братко, шо ў золоці, да беры, брат, шо ў розумі. Золото прыкупімо, а розуму не ўложымо* (прыказка). В. Малешава.

ЗОЛОТЫ′ *прым.* Залаты. *Міровэ́е ўрэм'е — дождж золоты, ціхі!* М. Малешава.

ЗОМЛЕ′ЦЬ *зак.* Самлець. *Кажуць, та бедна маці зомлела, як дозналаса про его гібель.* Тураў.

ЗОМ'Я′ЦЬ *зак.* Змяць. *От, села на лаву да зом'яла нову сподніцу.* М. Малешава. *Просо напрост клалі, а ек негода, то просо ў снопу ўяжуць і скорэй домоў, шоб зом'яць.* М. Малешава.

ЗО′ПАЛУ, ЗО′ПАЛА *прысл.* З гарачкі. *Эты пан зопалу і побег.* Луткі.

ЗОПРЭ′ЦЬ *зак.* Сапрэць. *У корэ зопрэе берэзіна.* Луткі.

ЗОПСОВА′ЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Ек цепло, то зопсуецца м'ясо.* Сямурадцы.

ЗОПСОВА′ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Шчо ты мне хлеб зопсовала медом!* (жарт). Цераблічы.

ЗОРА′ *ж.* 1. Зорка. *Каждой зоры́ ім'я́ е.* В. Малешава. *Светова́ зора — вона ж веліка, ранком свеціць, вечэрня зора ўвечоры свеціць.* Луткі. *Зора покаціласа — поцераўса чоловек. Столько на свеце зор, сколько чоловек е.* Мачуль. 2. Зара. *Чуць на зоры́ ўстала і пошла товар пасці.* Луткі.

ЗОРА′ЦЬ *зак.* Узараць. *Зоралі груд і болото да сеяць пшэніцу.* Хачэнь.

ЗОРВА′ЦЦА *зак.* 1. Падарвацца. *Гэто ты зорвалаcа — важко подняла, то золотнік опусціўса.* Луткі. *Ек зорвецца чоловек, то п'е зрыўнік.* Цераблічы. 2. Сарвацца. *Конь зорваўса с поводу.* Верасніца. *Подса́жыком подхватваюць здорову рыбу, коб не зорваласа.* Сямігосцічы.

ЗОРВА′ЦЬ *зак.* 1. Падарваць, сарваць. *А на ём ужэ*

*муроѓ порос на ліцэ — жолудок зорваў.* М. Малешава. *Зорву помідоры да ўколы подаю спірту, то воны станцуь краснымі.* Луткі. 2. Узарваць. *Подлогу зорву.— Не, не зорвеш!* Хачэнь.

ЗО′РКА *ж.* Зорка. *Як леціць зорка, то кажуць — гэто змея.* Запясочча. *Памянш.* з б р о ч к а. *Як зорочка коціцца, то трэбо сказаць: як панна, то Ганна, як паніч, то Іван.* Запясочча.

ЗО′РКІ *прым.* Зорны. *Зоркіе вечэра́, відные!* М. Малешава.

ЗО′РКО *прысл.* Зорна. *На небі зорко да месечно.* Луткі. *Небо зорко, зоры аж пляшуць.* Там жа.

ЗОРОВА′ЦЬ *незак.* Сачыць. *Цецера зоруе, то ніхто не подойдзе.* Мачуль.

ЗОРЫ′НКА *ж.* Светлая пляма на лбе ў жывёл. *У нас е жэребец чорное масці з белою зорынкою на лобі.* Пагост.

ЗО′РЫСТО *прысл.* Зорна. *От дзіво, і грыміць і зорысто на небе.* Дварэц.

ЗОРЫ′ЦЦА *незак.* Даспельвацца. *Положыла помідоры на окне, коб зорыліс на сонцы.* Мачуль.

ЗОСТАВА′ЦЬ *незак.* Спыняць. *Я зостаю коня.* Аздамічы.

ЗОСТА′ВІЦЬ *зак.* Спыніць. *Зоставіць мліна́.* Альпень.

ЗОСТА′ЦЦА *зак.* Застацца. *Зостало́со мукі на одно пе́чэйло.* В. Малешава.

ЗОСТА′ЦЬ *зак.* Спыніцца. *Як зоста́ў аўтобус, то лезь.* Кароцічы.

ЗОСТРО′ІЦЬ *зак.* Прыгатаваць. *Ек выварү грыбу, да іх застрою.* Бярэжцы. *Зостроіў ву́лья.* Кароцічы.

ЗОСТРО′ЙВАЦЬ *незак.* Гатаваць. *Усе чысто ў банкі зостройваюць гуркі.* Дварэц.

ЗОСТУПА′ЦЬ *незак.* Саступаць. *Спасоўка дзень зоступае, а прэчыста дзень перэступае* (прымаўка). Цераблічы.

ЗОТЛЕ′ЦЬ *зак.* Сатлець. *Вона ўжэ зотлела, тая хата, але ошалева́лі, то стоіць.* Хачэнь.

ЗОЎЗУ′ЛЬКІН, ЗЕЎЗЮ′ЛЬКІН, ЗЁЎЗЮ′ЛЬКІН, ЗЕЗЮ′ЛЬКІН *прым.* Зязюльчын. Хачэнь.

ЗОЎЗУ′ЛЯ, ЗОЗУ′ЛЯ, ЗЕЎЗЮ′ЛЯ, ЗЕЗЮ′ЛЯ *ж.* 1. Зязюля. *Як первы раз почуеш зоўзулю, то трэсі кішэнь, то будуць вэсціса грошы* (павер'е). Альпень. *По хата́х ховаўса, як зеўзюля по капусці.* Верасніца. *Зозу-*

*ля.* Аздамічы. *Зезюля.* Бярэжцы. 2. Божая кароўка, жучок. Аздамічы. *Памянш.* з о ў з ӳ л ь к а, з о ў з ю́ л ь к а, з ё ў з ю́ л ь к а, з о з ӳ л ь к а, з е ў з ю́ л ь к а, з е з ю́ л ь к а. *Вона до Петра ўсіх б'е, тая зоўзулька, после Петра ховаецца, бо ўсе пташкі ее б'юць.* Хачэнь. *Зоўзюлька просле Петра ні куе́.* Запясочча. *Посадзіш на палец ее да круцішса: зозулько-козулько, дзе будзе мой жэніх? Куды полеціць, туды і замуж пойдзеш.* Луткі. *О'зьмуць на ру́ку зезюльку і кажуць: зезюлька, зезюлька, пень ці колода, скажы, якая заўтра будзе погода?* (дзіцячая песенька). Талмачава. *Зезу́лька, зёўзюлька.* Бярэжцы.

ЗОЎСІ'М *прысл.* Зусім. *Бацько троху ўмеў чытаць, а пісаць — ані-ні, ні ў зуб, зоўсім не ўмеў.* М. Малешава.

З-ПОД *прыназ.* З-пад. *Як даў дождж з-под похмарка!* Верасніца. *Крыніца була, вода выходзіла з-под корча́.* Альгомель.

ЗРАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Узрадавацца. *Той дзед зрадзеў.* Запясочча.

ЗРА'ДОВАЦЦА *зак.* Тое ж. *Аж серцэ зрадовалосо, як ёго́ побачыла.* Верасніца. *Такі чоловек, шо знайдзе — не зрадуецца і згубіць — не спужаецца* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЗРАЗ *м.* Прышчэп. *Трэ тэ место, дзе зраз пріщчепіў, гліною замазаць, а то не прімецца.* Пагост. *Памянш.* з р а́ з і к. Луткі.

ЗРА'ЗУ *прысл.* Зразу. *А зразу му елі козінэ, не було молока.* Бярэжцы.

ЗРА'НКУ *прысл.* Зранку. *Не хвалі дня зранку, дзіця змалку* (прыказка). Цераблічы.

ЗРОБІ'ЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца. *Можэ й свое вуценя зробіцца дзікім.* Цераблічы. *Ногою ступіш у жабер,* ***нога зробіцца на баньках.*** Запясочча. 2. Зраўняцца ў працы. *За тобою ніхто не зробіцца.* Альшаны.

ЗРОБІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць. *Мурашкі ек зробяць мура́ўнік, то шо там росце, то ўсыхае.* В. Малешава. *Шо ў вочах, тэ ў руках — усе зро́біць, ек ву́мулюе!* Там жа. Нарыхтаваць. *Зробіў тону сена, погода була добра.* Сямігосцічы. Начараваць. *Хоцела поменяць на целушэчку бука́, да вона зробіла так, шчо той бук усю го́лову побіў у хлёве́.* Хачэнь.

ЗРО'ДУ, ЗРО'ДА *прысл.* Зроду. *Малы́е ве́шніцы — стары́е говорылі зроду.* В. Малешава. *Лецела цецера ўчора і цепе́ра, упала ў лебеду́, зро́ду не найду́* (прымаўка). Верасніца. *Я зрода не плавіў лес.* Аздамічы.

*Вон зроду нікому нічого не дасць.* Сямурадцы. *Памяниш.* з р о́ д о ч к у. Хачэнь.

ЗРОЖА́Й, ЗРОДЖА́Й *м.* Ураджай. *Кура почала пець, то ее зарэзалі, а молодзіцы прысніўса сон: нашчо ты мене зарэзала, я пела, шчо будзе зрожай, то ўсём будзе і я буду не голодна.* Сямігосцічы. *Два зроджа́і зняў.* Бярэжцы.

ЗРО́СЛЫ *прым.* Дарослы. *Ек стрэ́ціш дзіця на дорозі і станеш з ім говорыць, то говоры, як з зрослым.* В. Малешава.

ЗРО́СТАНЫ *дзеепрым.* Зрошчаны. *Шо ідзе зростано, то кажуць блізнюкі.* Луткі.

ЗРОСЦІ́ *зак.* Вырасці. *Ужэ зрослі мі ў своé мацер.* В. Малешава. *Я коніка маў, я дорожку знаў і маці пускала. Старша сестра, бодай не зросла, седзе́лко заховала* (з песні). Сямігосцічы.

ЗРОСЦІ́СА *зак.* Зрасціся. *Не можно дзеўка́м есці слівóк ці огуркоў, которые зросліса* (павер'е). В. Малешава.

ЗРОЎНЯ́ЦЬ *зак.* Зраўняць. *Не зроўняй, божэ, гору́ з долінóю* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЗРУБ *м.* Зруб. *Зруб буў, а во́кон не було.* Дварэц.

ЗРУБІ́ШЧЭ *н.* Тое ж. *Тут одно зрубішчэ було, як вернуліса.* Чэрнічы.

ЗРУ́ЧНО *прысл.* Зручна. *Не мне зручно робіць, а ему.* Аздамічы.

ЗРУ́ШЫЦЬ *зак.* Зрушыць. *Зрушылі чоловека з места.* Кароцічы.

ЗРЫ́ВОК *м.* Абрывак. *Вона і зрывок забрала з тое вероўкі.* Хачэнь.

ЗРЫНА́ЦЦА *незак.* Апускацца. *Ста́нь на одзін по́нож, то чотыры ніты зрынаюцца, чотыры подымаюцца.* Верасніца.

ЗРЫНА́ЦЬ *незак.* Апускаць. *Ек нероўно пороблены кобы́лкі, то ніты не зрынаюць.* Старажоўцы. Утварацць зеў у кроснах. *От добрэ кросна зрынаюць, зева́ чоткіе.* Там жа.

ЗРЫЎ *м.* Разрыў. *Як золотнік не на месцы, то зрыў.* Альпень.

ЗРЫ́ЎНІК *м.* Рамонак лекавы. *Зрыўнік ры́хцік такі, як ромунок.* Сямігосцічы.

ЗРЫЦЬ *зак.* Зрыць. *Свінья зрылі оўёс.* Верасніца.

ЗРЭ́Б'ЕНЫ *прым.* Зрэбны. *Зрэ́б'еное полотно.* Хотамель.

ЗРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Зрэзаць. *Зрэзала ведро яблок на раз да ссушыла.* Дварэц.

ЗРЭЗА'ЦЬ *незак.* Зразаць. *Зрэзае грубо́го дуба, ссе́кае половіну і робіць чоўна ву́котом.* Сямігосцічы.

ЗРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Зрэзвалі вільчыка ў хвоі.* Луткі.

ЗУБ *м.* 1. Зуб. *Зу́бі ўсе е і косы не сівые ў его.* Сямігосцічы. *Ранняя пташэчка зубы церэбіць, а позня — очы* (прыказка). В. Малешава. 2. Вострые выступ. *У граблі зу́бу роб'яць з вербіны.* М. Малешава. △ К у́ т н і е з у́ б у. Карэнныя зубы. *Кутніе зубу ростуць позно.* Хотамель. Н а з у́ б у ў з я ц ь. Аказаць рашучае ўздзеянне, прымусіць. *Я ж его на зу́бу возьму, як-то так зробіць?* М. Малешава. Н е д о́ з у б а. Пра нежаданне. *Мне здаецца й добрэ, хо́рошэ, а бацько не до́ зуба.* Бярэжцы.

З зубамі звязана некалькі павер'яў. Так, пасля захаду сонца нельга было смяяцца. *Сонца нема, шчо ты зубу шчэрыш?* Луткі. Нельга было ад разбітага перуном дрэва браць трэску і калупаць у зубах. *От гэтой шчэпкой, шчо гром одбіў, поколупай зу́ба, то ўсей зуб покрышыцца.* Хачэнь. Дзіця, як мяняюцца зубы, павінна стаць спіной да печы і цераз сябе перакінуць той зуб і сказаць: *«Мушка, мушка, на тобе косцяного, а дай мне жэлезного!»* Луткі.

ЗУБА'ТЫ *прым.* Зубаты. *От зубата, от зубе́ль!* Кароцічы.

ЗУ'Б'Е *н. зб.* Зубы. *Зу́б'я дзерэўяные ў бороне булі.* В. Малешава.

ЗУБЕ'ЛЬ *м.* 1. Галавешка. *Берэш на зубель порохнова́ту хвою.* Луткі. *Зубель — головешка, шчо пчолы ходжа́юць.* В. Малешава. 2 *перан.* Цыгарка. *Узяў ужэ зубля́ ў рот, закурыў!* Аздамічы.

ЗУБІ'ЦЬ *незак.* Зубіць. *Серпу́ зубілі ковале.* Цераблічы.

ЗУБІ'ШЧЭ *н.* Дзіцячая хвароба на зубы. Запясочча.

ЗУ'БЛЕНІЦА *ж.* 1. Галавешка. *Зубленіцу запаліць да ў ву́лей лезе.* Дварэц. 2 *перан.* Цыгарка. *Не выпускае зубленіцу з ро́та.* М. Малешава.

ЗУБЛЯ'К *м.* Тое ж. *Зубляка запалі!* Аздамічы.

ЗУБО'К *м.* Долька ў галоўцы часнаку. В. Малешава. △ У з у б о́ к. Тканы ўзор. *Рушнікі ў зубкі ткалі.* Запясочча.

ЗУ'БУ *мн.* Карункі, розная аздоба на адзенне ці

вопратку. *Зубу выплётаюць на рушнікі.* Цераблічы. △ У з у́ б у. Узор рысачкамі ўдоўж палатна. *Рушнік у зу́бу для маршалкоў ткалі.* Дварэц.

ЗУ′ЗУБ *м.* Зазуб, зазубень, выступ. *Стаў ты такі зузуб!* Сямігосцічы. △ С т а н а в і ц ц а з у́ з у б о м. Пярэчыць. *От шчэ зу́зубом стано́віцца.* Сямігосцічы.

ЗУ′НУЦЦА *незак.* Сунуцца. *Зу́нецца песок.* Бярэжцы.

ЗУРО′КІ *мн.* Урокі. Верасніца.

ЗУРО′ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць, урачы. *А зурочаць, то беда, болею, да так болею, шо не ўстану.* Бярэжцы. *Як хто багато несе або скоро ідзе ці так от хоро́ша дзеўка, коб не зурочылі, не занегожэць, скажы ему: соль да печы́на, да чорт з твоімі очыма!* Хачэнь.

ЗУСІ′М *прысл.* Зусім. *Зусім недобро ўзышла картопля.* Бярэжцы. *Дочка забрала зусім бацька жыць.* Сямігосцічы.

ЗУСТРЭ′ЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Ну вот з'ехаліс, зустрэліса ўжэ, зоставілі корабле, покідалі якора* (з казкі). Кароцічы.

ЗУСТРЭ′ЦЬ *зак.* Сустрэць. *Вы пойдзеце і зустрэнеце кого.* Тураў.

ЗЫ′БАЦЬ *незак.* Кляваць. *Зы́бае рыба.* Луткі.

ЗЫЗ *м.* Паклёп. *Зыз на мене понеслі людзі.* В. Малешава.

ЗЫ′ЗКАЦЬ *незак.* Бзыкаць. *Зызкае, бы пчола.* Аздамічы.

ЗЫК *м.* Зык, рэзкі крык. *Ох, да тут крык, да зык, да соматоха, да не знаюць, дзе дзецца!* Старажоўцы.

ЗЫ′КА′ЦЬ *незак.* Крычаць. *І воны зыка́лі, і крычалі, і ўтонулі ўсе ж.* Сямігосцічы. *Шо ты зыка́еш на мене!* Там жа.

ЗЫЛЕ′Ц *м.* Гаспадарлівы хлопец, зух. Запясочча.

ЗЫЛІ′ЦА *ж.* Гаспадарлівая дзяўчына, зух. Запясочча.

ЗЫ′НУЦЬ *зак.* Пабегчы. *Овэчкі як зынуць на мэне од во́ўка!* Мачуль.

ЗЫР *м.* Гарачыня, спёка, жар. *Ек зыр велікі ў печэ́, то вугрэбом жар у копку, а то пірогі погорацъ.* М. Малешава. *Хлеб облі водой да і кіда́й у пэч, коб его зыр обхопіў.* Мачуль. *От на уліцы зыр велікі!* Там жа. Гарачка. *Як дзядзька гром убіў, то шчэ Ганка з зыру перэехала тэ озеро.* М. Малешава. *От ек наложу очкі, то не́як бы зыр у мене з'яўляецца.* Луткі. △ Д а ц ь з ы-

р а. Даць праборку, наганяй. *Далі зыра, то зарэ не б'ецца.* Хачэнь. П о д д а́ ц ь з ы́ р ы. Паддаць імпэту. *Бубон поддае зыры ў танцах.* Сямігосцічы.

ЗЫ'РКІ' *прым.* Гарачы, яркі, пякучы. *Лоза зыркая, вона зырко горыць.* Цераблічы. *От зыркіе дро́ва — бач, ека гру́ба гарача.* Пагост. *Косовіца — да саме гэто ўрэм'е зыркое.* Дварэц. *Така́я зырка зіма!* Хільчыцы. Рэзкі. *Зыркі квас.* Альшаны.

ЗЫ'РКО *прысл.* Горача. *Не прышоў, то мне ні холодно ні зырко.* Аздамічы. *Як не зырко ў печі, то хлеб добрэ не пропечэцца.* Пагост. *Нешчо мне не добрэ, зырко, наверно, заболею.* Луткі.

ЗЫРКОВА'ТО *прысл.* Крыху горача. *Трошкі було зырковато ў пе́чы.* Хачэнь.

ЗЫ'РКОСЦЬ *ж.* Гарачыня. *Верба́ ніякое зыркосці не мае.* Сямігосцічы.

ЗЫ'РКОЦЕНЬ *м.* Хват, зух. Аздамічы.

ЗЫ'РНУЦЬ *зак.* Жарнуць, сцёбнуць. *Зырні пугою, коб скруціўса!* Аздамічы. *Як зы́рну кошку, так вона тры дні не йдзе.* Запясочча.

ЗЫ'РОК *м.* Зух, хват. Аздамічы.

ЗЫ'РОСЦЬ *ж.* Гарачыня. *Дым пошоў уверх, а зыросць у бокі ідзе.* Луткі.

ЗЫ'РЫЦЬ *незак.* 1. Выглядваць. *Под'едзе і зырыць, ці вона е.* Хачэнь. 2. Сцёбаць. *Ек стаў зырыць того вола гара́пнікам, то однэ пісягі.* Луткі.

ЗЫ'СПОДУ *прысл.* Спадыспаду. *Зысподу мокро і зверху лье.* Цераблічы.

ЗЫ'ХОД *м.* Усход. *З зы́хода ве́цёр — бедо́вы будзе год.* Сямігосцічы.

ЗЫЦ *выкл.* Цыц. *Зыц, говорыш много!* Хотамель.

ЗЫЦЬ *незак.* Палыхаць. *Горы́ць село, от зы́е огонь!* Цераблічы.

ЗЫ'ЧКІ *мн.* △ З ы́ ч к і п у с к а́ ц ь. Злавацца. Старажоўцы.

ЗЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Зычыць. *Не зы́чу во́рогу такой жыткі!* Хачэнь. *Поганы чоловек не зычыць добра́ нікому.* Буразі.

ЗЭ'ДЛІК *м.* Зэдлік. *Возьмі зэдліка под ногі!* Запясочча.

ЗЮ'ЗЯ *ж.* Холад (у размове з дзецьмі). *Не йдзі босенькі, бо на дворыку зюзя.* В. Малешава.

ЗЯБ *м.* Холад. *Я прышла з фермы да мене зяб узяў.* Старажоўцы.

ЗЯ'БКО *прысл.* Зябка. *Упорáну вýшоў, то зябко було.* Луткі.

ЗЯ'БЛІЦЬ *незак.* 1. Моцна марозіць. *Мороз зя́бліць.* М. Малешава. 2. Зябліць. *Поехалі зябліць, дзе жыто росло.* Хачэнь.

ЗЯ'ПА *ж. груб.* Зяпа, пашча, рот. *От роскрыў зяпу!* Верасніца.

ЗЯПЦЕ'ЦЬ *незак.* Дрыжаць. *Дрыгва тая зяпціць, дрыжыць.* М. Малешава.

З'ЯРЭ'ЦЬ *зак.* Здзічэць. *Сад з'ярэў.* Хотамель.

ЗЯ'ЦЕЎ *прым.* Зяцеў. *Зя́цёвуе карточкі не було.* М. Малешава.

ЗЯЦЬ *м.* Зяць. *Абы зяць на порог, то цешча за піроге* (прыказка). Верасніца. *Хлеб — не зяць, поседзяць да з'едзяць* (прыказка). Запясочча. *Зяць любіць узяць, а чэшча свое плешчэ* (прыказка). Хачэнь. *Цесць любіць чэсць, а цешча любіць даць, а зяць любіць узяць, а брат собе хват, а сестра собе несла́* (прыказка). В. Малешава. *Снег белы, да не сыр, зяць мілы, да не сын* (прыказка). Сямігосцічы.

# І

І 1 *злучн.* І. *Зайграў, то плакаць і смеяцца хоцелосо.* Пагост. *У засторонку і на вушках е сена трохі.* В. Малешава. *Крынджóла і кольбéль на поле носіла і я.* Луткі. *У хозяіна дзве рэчы — хорóша печ і добра жонка* (прымаўка). Мачуль. 2 *узмацн. часц.* І. *І шчэ ў цебе совесць е ко мне ў хату захóдзіць!* Пагост. *І одзін дзень не пошоў у колхоз.* Верасніца. *Хлеба і крышкі нема, то спекла вухвацень.* В. Малешава. *Огенчык так вот горыць, горыць, і больш, і больш, і больш!* Бярэжцы. *Зімою там ноч і ноч.* Мачуль.

І'БУТ, І'БУЦЬ *м.* 1. Птушка бугай. *Ібут рогоз саджае. Вон усе гу-у-у!* Луткі. *Ібуць ек вугукне, бу вол.* Запясочча. 2 *перан.* Бадзяга, лодар. *Ібут нічого не робіць, онно ходзіць по селу.* Аздамічы. *У нас на корову, велікую рогастую, кажуць ібут.* М. Малешава.

І'ВА *ж.* Від лазняку. *Іва на лозу похожа.* Дварэц.

І́ВЕР *м.* Захоп сякерою пры рубцы дрэва. *Займі ешчэ івера.* Пагост.

І́ВЕРЫНА *ж.* Вялікая трэска. Мачуль.

І́ВІНА *ж.* Від лазняку. *З івіны кóру дзеруць, бувае, у худобіны понос, то ее парацъ і даюць.* Пагост. *Вoйк вудраў коню сцегно, то івіною залівалі, і пройшло.* Луткі.

ІГРА́ЦЬ, ГРАЦЬ *незак.* 1. Выконваць што-небудзь на музычным інструменце. *Колісяігралі на дудку.* М. Малешава. *Грае гармоніст, хóрошэ грае!* Бярэжцы. *У скрыпку брат граў хорошэ.* В. Малешава. 2. Пералівацца, зіхацець. *Сонцэ грае на Купалу — і сінёе, і красное, і велікое зробіцца.* Мачуль. *У крыніцы вода грае.* Велямічы. 3. Паркавацца (пра птушак, рыб, жывёл). *Як круглé труцца, то половіна грэбеня торчыць з воды — так воны іграюць.* Верасніца. *Неспособны качор, плохо іграе.* Хачэнь.

ІГРАЦЬЕ́, ГРАЦЬЕ́ *н.* Ігранне, ігра (на музычным інструменце). *А я ёго не схвалю за ёго грацье.* В. Малешава.

ІГРУ́ШКА, ГРУ́ШКА *ж.* Цацка. *Она свое грушкі показвае.* Цераблічы. *Ігрушка — мінушка, а чоловек — навек* (прыказка). Аздамічы. *Ігрушка — мінушка, дурню пом'етушка* (прыказка). Запясочча. *Коту грушка, а мышэ смертушка* (прыказка). Бярэжцы.

ІГРЫ́ШЧЭ *н.* 1. Гулянне моладзі з танцамі каля якой-небудзь хаты, дзе жыве дзяўчына, ці ў яе на двары. *Цепер коло Крэпца́ будзе ігрышчэ.* Тураў. 2. Пясчаная неўрадлівая мясціна ў полі. *Ігрышчэ, дзе песок одзін, плохе поле, і навоз не помогае.* Цераблічы.

І́ДОЛ *м. экспр.* Пачвара. *Ох, ідоле ты стары!* Запясочча. *От ідол, людзей бу поеў бу!* Сямурадцы.

ІДОЛЮ́ГО *м. груб.* Тое ж. Аздамічы.

ІДУЧЫ́ *дзеепрысл.* Ідучы. *Утоміласа ідучы.* Луткі. *Породзіла мене мацер, по ягоды ідучы* (з песні). Бярэжцы.

І́КАЦЬ *незак.* Ікаць. *Колі богато насмеіцца і колі змерзне, то ікае.* Аздамічы. *Ікае, як ікаецца.* Бярэжцы.

ІКЛА́ТЫ *прым.* Ікласты; з шырокімі зубамі (пра чалавека). *Дзік іклаты.* Альпень. *У іклатого шырокіе зубу, бы трэпашкі.* Аздамічы.

І́КЛО *н.* Ікол. *Дзік рве іклом собаку.* Мачуль. *Порося не есць, наверно, ікла есць, трэба вуломаць.* Аздамічы.

І'КОВІЦА *ж.* Ікаўка. *Як спужай, то іковіца пропадзе.* Сямігосцічы.

І'КО'Л *м.* Ікол. *Кабан ек чакнуў іколо́м по сосне!* Верасніца. *Зуб у собакі, як у свінчаці екі ікол.* Цераблічы. *Ікол у кобуліцы на шостом году вурэзваецца.* Дварэц.

ІКРА' *ж.* Ікра рыбы, жабурынне. *Ужэ ек большые карасі, то ікра е, а малё́нькіе — то нема.* Лутκі. *У лі́на́ жоўта ікра.* Верасніца. *Жабеча ікра.* Аздамічы.

ІЛЬНІ'ШЧЭ, ЛЬНІ'ШЧЭ *н.* Ільнішча. *А чым везалі снопы? — Тым жэ льнішчэм са́мым.* Сямігосцічы. *Орэ ільнішчэ і засевае жыто.* Луткі.

ІЛЬНЯ'НЫ' *прым.* Льняны. *На веселы ільняны́е рушнікі маршалкам давалі.* Верасніца. *Мекіны ільня́ное нагрэбу.* Луткі.

ІЛЬЯ' *м.* Пэўны каляндарны дзень у жніўні. *Прышоў Ілья, то й лета нема* (прымаўка). *На Лью поўну печ налью* (прыказка). Хачэнь.

ІМА'ЦЦА *незак.* Трапіцца, навязацца. *Даю тобе, доня, золотые поесы, а як ліха́ доля йімецца, то на хлебе проесі* (прыказка). Сямурадцы.

ІМА'ЦЬ *незак.* △ Н е і м а́ ц ь в е́ р ы. Не мець веры, не дапускаць магчымасці. *Не імалі веры, шо не могуць отгодоваць.* Мачуль. *Не йімаю Матруне веры, вона можэ подманіць.* Дварэц.

І'М'Е *н.* Вымя. *Я корове ім'е вумую і вустрою, і ніколі не поко́ціць.* В. Малешава. *Ім'е веліке, дай молока багато ў коро́ву.* Аздамічы.

ІМЕНІ'НА *ж.* Найменне. *Шо то за іменіна Ма́я? Я й не чула шчэ.* Сямігосцічы.

ІМЕ'НЬЕ *н.* Маёмасць. *Оддай мне этэ золото, то я оддам тобе свого половіну іменья.* Бярэжцы.

І'МПЭТ *м.* Нябачная сіла, цяга. *Мене нейкім імпэтом откінуло, я й не поняў, шчо.* Сямігосцічы. *Крэкчэ жаба, а лезе до вужа́, нейкім імпэтом вон ее цягне.* Мачуль.

ІМШЫ'ЦЦА *незак.* Распушвацца. *Імшацца ніткі.* Луткі.

ІМ'Я', М'Я *н.* Імя. *У дзеўкі не було хорошого імені.* Луткі. *Мой мене на ім'я не зваў век, шчо то за званье!* Аздамічы. *Дзве м'я́ні ў нас для гэтого.* М. Малешава. *Е на свеці одно, шо вонэ ўсему нужно* (загадка). *Ім'я* (адгадка). В. Малешава.

ІНА'К *прысл.* Інакш. *Оно мо е, да інак называецца.* Луткі.

ІНА'ЧШЫ *прым.* Інакшы. *Е грыбы, а козлякі — іначша порода.* Аздамічы. *Як іначшы город — іначшы гонор* (прымаўка). Верасніца.

ІНА'ЧЭЙ *прысл.* Інакш. *Іначэй говарацъ у кожном селе.* Аздамічы. *Не будзе іначэй, як бог назначыў* (прыказка). Дварэц.

І'НДЗЕЙ *прысл.* Дзесьці, дзе-небудзь. *Ну, індзей, то не займе, у нас эта груша мешае.* М. Малешава. *У нас гало, а індзей кажуць іначэй.* Луткі.

І'НЕЙ *м.* Шэрань на траве. *Іней поморозіў цвет на гурках.* Верасніца. *Як іней перэйдзе, груша ўся ўпадзе.* Хачэнь. *Іней здоровы ўпаў, і цецёўе померзло.* Цераблічы.

ІНКОЛІ' *прысл.* Іншы раз, калі-нікалі. *Інколі п'еш, чому не піць.* Альшаны.

І'ННЫ *займ.* Іншы. *То шчось іннэ.* Альшаны. *Мо ў інным селе так.* Пагост.

ІНО'ГДЫ, ІНО'ДЫ, НО'ДЫ *прысл.* Іншы раз, калі-нікалі. *Іноды так як завезеш, да ўсыплеш, да ветру нема, то мышы там бэгаюць, по тым жыці, покуль змелеш* (пра ветраны млын). Мачуль. *Рыба ноды ідзе по дну.* Альшаны. *Іногды.* Хільчыцы.

І'НШЫ, ГІ'НЧЫ *займ.* Іншы. *Не було, хлопцы, шчэ жары, ек іншые годы. Як не пойдзе Мар'яна, то беры іншу.* Мачуль. *Лісічанкі гінчые, бы рыжэнькіе, подо дном жоўценькіе.* Рубель. *Гінча корова мало мае молока, то й серкі мало дасць.* Там жа.

ІРВА'НЫ *дзеепрым.* Падраны. *Ірваны хрэнч.* Верасніца. Абарваны. *Ба, яблука ірваные!* Верасніца.

ІРВА'ЦЬ *незак.* Ірваць. *От простуды ірві ей багон да пар.* Луткі. *Загадваюць лён ірваць.* Сямігосцічы. *Осот росце по озёрах, то его ірвуць да кормяць свіней.* М. Малешава.

ІРЖА'ЦЬ *незак.* Іржаць. *Часом остаўса дзе конь, то ржэ, мігічэ.* Бярэжцы. *Кобула іржэ, то нешчо чуе.* Верасніца.

І'СКОЦЕНЬ *м.* Вялікі мароз. *Іскоцень велікі, плоты трэшчаць.* Аздамічы.

І'СКРА *ж.* Іскра. *Ек стукнуло, то іскры з рэзеткі полецелі.* Верасніца. *Памянш.* і с к р о ч к а. *Іскрочкі лецяць — госці будуць* (прымаўка). Хотамель.

ІСКРЫНА' *ж.* Іскра (адна). *Іскрына ўпадзе і горыць.*

Мачуль. *Памянш.* і с к р ы н к а. *Іскрынка лецела і села на сажу.* Дварэц.

ІССЮ'ЛЬ *прысл.* Адгэтуль. *Як началі біць іссюль туды!* Запясочча.

ІСТЛЕ'ЦЬ *зак.* Сатлець, згнісці. *Істлела сорочка на плéчах.* М. Малешава.

ІСТОКІ *мн.* Сутокі. *У Кароцічах е істокі Моўству і Сцвігі.* Аздамічы.

ІСХО'Д *м.* Скон, адыход ад жыцця. *Дочка на ісходзі ўжэ, умірае.* М. Малешава. Выхад. *Прыліп млінец на ісходу ў горлякў і ўмер.* Рубель.

ІСЦЯ'ЦЬ *зак.* Абысці, абшукаць. *Свет ісцялі, шукаючы лечэнья, да нема.* Запясочча.

І'ХНІ *займ.* Іх, прыналежны ім. *Іхня мацер, іхні тато.* М. Малешава.

ІЦІ' *незак.* Ісці. *Ідзеце, дзеці, на дол бороцца.* В. Малешава. *А по обедзе нада ж іці ў село.* Бярэжцы. *Гразота, шчо ні йці ні ехаць!* Там жа. *Кажды божы дзень дождж ідзе!* Сямігосцічы.

# К

К, ІК *прыназ.* Да. *Пойду к мацер молока.* Бярэжцы. *Сядзь ты к окну к віднў.* В. Малешава. *Блішчыць вода к месецу.* М. Малешава. *Прыедзьце летом ік нам.* Запясочча. *Усе забраў ік собе.* Луткі. *Пошлі ік дзеду Грыцку.* Мачуль.

КА *часц.* Сцвярджае перадачу чужой мовы. *Я, ка, соромеюса.* Запясочча. *От, ка, біліса, таке бойло було, шо страхоцéнье!* Любавічы.

КАБА'Н *м.* Дзік. *По лесох е іх, тых кабаноў!* Запясочча. *Дзікого кабана порося вугодоваў.* М. Малешава. Парсюк. *Такіе «паны» булі: кабаны кормілі, коровы доілі.* Луткі. *Летося ніякі кабан буў, не еў.* В. Малешава. *Памянш.* к а б а н é ц. *Два кабанцэ оддаў швагру.* Луткі. *За руж'е зав'ёз кабанца.* Мачуль.

КАБА'НІЧЫ *прым.* Парсюкоў. *Кабанічы хлёў.* Запясочча.

КАБАНЧУ'К *м.* Парася. *Кабанчук мой есці хочэ.* Луткі. *От гладкі кабанчук!* Цераблічы.

КАБА́Т *м.* Кабат. *Кабаты́ — то такіе шніровачкі.* Мачуль. *Мілей кошуля, як кабат* (прыказка). Запясочча.

КАБЫ́ТКА *ж.* Будка, дрэнная хатка (кібітка?). *Кабыткі булі такіе, а не хаткі.* Хачэнь.

КАВА́ЛОК *м.* Кавалак. *Кавалкоў чотыры будзе з двананцаці губ.* Лутківі. *Ека вона хозяйка? Мліны па́даюць кавалкамі, не трэба й рваць!* (жарт). Цераблічы. *Памянш.* к а в а́ л о ч о к. *І хлеба кавалочок і сала.* Цераблічы.

КАВА́ЛЬ *м.* Вялікі кавалак. *Як снедаць, то вон каваль сала, кружку чаю!* Дварэц.

КА́ВЕРТ *м.*, КА́ВЕРЦЬ *ж.* Калдобіна, яма на лузе, запоўненая вадой. *Озёр нема коло Сцвігі, так, одны́е каверты.* Луткі. *Каверт — така озерынка кругленька на сено́жаці ці ў лозе.* Там жа. *Каверты булі, як боло́та булі, вулезці не можно. То ў гэтых каверто́х рыбу було!* Буразі. *Памянш.* к а в е р т о́ к. *Каверткі ў болоны, там рыба е.* Альшаны.

КАГА́Л *м.* Родзічы па ўсіх лініях. *Моей жонкі кагал у Данілечах.* Пагост. *Я з Хілецкого кагала.* Бярэжцы. *Як ёго по кагалу клічуць?* В. Малешава.

КАГАЛО́ *н.* Тое ж. *Нехай не берэ тоё дзеўкі, бо плохе кагало тэ.* В. Малешава.

КА́ДКА *ж.* Кадка. *Выробляе шкуру ў кадцы.* Дварэц.

КА́ДОЎБ *м.* 1. Выдаўбаная бочка. *Кадоўб робілі с ха́ўтной сосны.* Пагост. *У кадоўбах дзержалі муку, пашню́.* Хачэнь. *Колісь кадоўб становілі ў колодзезь замест кругоў.* Цераблічы. 2. Глыбокая ямка з вадой на лузе. Тураў. *Памянш.* к а д о ў б е́ ц. *Суцэлнэ дзерэво бралі, хвою, выдзёўбалі, устаўлялі дно, то гэто кадоўбец. А шчэ е, зовуць мушчыны, бувало, кадоўбец, дзе вода глыбока.* Хачэнь.

КАДУ́К *м.* Кадук. *Кадук его ведае!* Запясочча. *Нехай цебе кадук схопіць!* Сямігосцічы. *А шчоб на цебе кадук!* Альшаны.

КА́ЖНЫ *займ.* Кожны. *У кажно́м селе іначэй.* Велямічы. *Кажна́я жонка послухае мене.* Хачэнь. *У ка́жного була своя лодка.* Мачуль. *У ка́жын двор загляне, от дзіця!* Пагост.

КА́ЖУЧЫ *дзеепрысл.* Гаворачы. △ Н е в а м к а́ ж у ч ы (не тут к а́ ж у ч ы, н е н а м к а́ ж у ч ы і г. д.). Выражае пажаданне, каб тое непрыемнае, пра што ідзе размова, мінала ўдзельнікаў гутаркі. *Не нам*

*кажучы, рак на его напаў.* М. Малешава. *Не пры нас кажучы, забіло корову громом.* Луткі. *Не цепер кажучы, ціх напаў.* М. Малешава.

КАЖЭ́М *часц.* Так кажучы. *Одзін сын, кажэм, старшы буў, а потом я.* Сямігосцічы. *Кажэм, у іх не так.* Тураў.

КАЗА́Н *м.* 1. Кацёл. *Казан на болонье беруць.* Альшаны. *Булі казаны чоловек на чотыры, на п'яць.* Буразі. 2. Кажан. *Казаны́ булі такіе, нізенько так уночы́ лёталі.* Хачэнь. *Казаны едзяць мед і пчолы.* Запясочча. *Памянш.* к а з а н е́ ц. Альшаны.

КАЗАНІ́ЛО *н. экспр.* Вялікі кацёл. *От таке казаніло молока було!* Запясочча.

КА́ЗАНЫ *дзеепрым.* Сказаны, выказаны. *Ты казанэ кажэш, а я бачыў на свое вочы.* Цераблічы. *А на́шчо ты сказала, хай тобе казанэ!* (пераадрасоўка непрыемнасці). Хачэнь. *Не буду казаць казанэ, а шчо мне було.* Сямігосцічы. △ Н е т о б е́ х а й к а́ з а н о. Выказ перад упамінаннем у размове непажаданага. Хачэнь.

КА́ЗАНЬ *ж.* Сказанае, выказанае. *А казань ту ты запісаў?* Дварэц.

КАЗА́ЦЦА *незак.* Здавацца. *От, кажэцца, еў бы і не знаю, як еў бы, а не могу.* Луткі. *Кааццa, ужэ ўсе перэпісалі.* Альгомель.

КАЗА́ЦЬ *незак.* Гаварыць. *А я думаю — ну, постой, говоры ты да ўжэ я послухаю, шчо ты будзеш да́лей казаць.* Мачуль. *Ну, ек рано не прыехаў, то нема й шчо казаць.* В. Малешава. *Не кажэць, гэто не подбел.* Хачэнь. *Казаў Кузьму чорт — возьму, да і цепер не берэ* (прыказка). *Ек хоро́шэ кажэш, то кажы, а ек плохое — то ў хвост повежы* (прымаўка, пра шчабятанне сарокі). М. Малешава. *Кажы ему абразы, а вон ка гарбу́зы* (прыказка). Там жа.

КА́ЗКА *ж.* Казка, байка. *Ці прыказка, ці казка, ці праўда — не знаю.* М. Малешава. *Тогды доўгу казку роскажу.* Кароцічы. *А ўжэ картоплі булі, то на казку, ніколі такіх не було.* Сямурадцы.

КАЗУ́ЛІ *мн.* Пустыя байкі, балбатня. *Да гэто тые казулі, шчо цётка нам росказвала.* Верасніца. *Я ей козулі кажу, а вона моўчыць.* Бярэжцы.

КАКУРА́Т *прысл.* Акурат, дакладна. *Картоплі какурат по кулаку.* Аздамічы. *Вон жэ должэн быць какурат.* В. Малешава.

КАЛАМА́ЖКА *ж.* Выязныя сані. *Каламажка — са-*

*ні такіе ў госці ехаць.* Сямігосцічы. *Сват і сваха ў каламажцы прыехалі.* В. Малешава. *Каламажкі булі ў шляхты.* Верасніца.

КАЛАМУ'ТНЫ *прым.* Каламутны. *Каламутна вода, піць не можно.* Альпень.

КАЛАПЕ'ТА *ж.* Калатуша (пра гразь). *Дорогу так розмесілі, такая калапета, шчо ні пройці ні проехаць.* Тураў.

КАЛАПЕ'ЦІЦЦА *незак.* Мясіцца, боўтацца ў гразі. *Калапеціцца ў гразе́ дзіця.* Запясочча.

КАЛА'Ч *м.* Абруч. *Калачэ ў жаках, у кошэлі. Пруты гне ў калачэ.* Луткі. Завязванне хусткі абручом. *Намотае хустку на газету да зробіць калача.* Аздамічы. *Калач робілі на дру́гі дзень, як дзе́ўка выйдзе замуж.* М. Малешава.

КАЛАЧОВА'ТЫ *прым.* Вельмі крываногі. *Калачоваты — у кого крывые ногі.* Мачуль.

КАЛАЧО'ЎКА *ж.* Скручаны дубец, якім прывязвалі зубы ў драўлянай баране. *Да найкрэст скруціш гэту калачойку, то зуб не подасца.* Хачэнь.

КАЛДО'БА *ж.* Калдобіна. *Дорога крывая, онно калдобі.* В. Малешава.

КАЛДО'БАН *м.* Тое ж. *Калдобаны повубівалі, шо колёса поломаць можно.* Аздамічы.

КАЛДО'БІНА *ж.* Тое ж. *Попаў колесом у калдобіну і обернуў воза с снопамі.* Тураў.

КАЛЕ'КА *м.* і *ж.* Калека. *Злеціш да розоб'ешса, да будзеш калека, да навошчо ты тогды кому?* Мачуль. *Калека не родзіцца, то зробіцца* (прыказка). М. Малешава. *Памянш.* к а л е́ ч к а. *Ты ж калечка.— А чого я, бабо, калечка?— У цебе ж мале́нькі носо́чок* (жарт). Сямурадцы.

КАЛЕ'КАЛКА *ж.* Калюга. *Калекалка — шо свінні ідуць і калекаюцца.* Азяраны.

КАЛЕ'КАЦЦА *незак.* Пэцкацца ў гразь у калюзе. *Мушчына п'яны ў гразе калекаецца.* Азяраны.

КА'ЛІВІНА *ж.* Каліва. *По одной калівіні лён роскідае віхо́р.* Луткі.

КА'ЛІВО *н.* Сцябло расліны. *От, кажэ, плохі год, дажэ каліва доброго не наросло на льне.* Луткі. *Ечмень по каліву збірала.* Хачэнь.

КАЛІ'КАЛА *ж.* Дзіцячая гульня. Дзве каманды выстройваюцца ў адзін рад насупраць адна адной і бяруцца за рукі. Адна каманда выклікае: *«Калікала, а ў чом*

*слуга? Пятого, дзесятого, к нам Пецю сюды».*— Выкліканы бяжыць і стараецца разарваць ланцужок другой каманды. Калі яму гэта ўдаецца, то ён забірае аднаго іграка з гэтай каманды ў сваю. Калі ж не, то сам застаецца ў ёй. Лутки.

КАЛІ'НА *ж.* Каліна (часцей сам кустарнік). *Стоіць певень над рэкою с чырвоною бородою* (загадка). *Каліна* (адгадка). Хачэнь.

КАЛІ'НОЎКА *ж.* Страва з ягад каліны. *Каліноўкі понаедаемса, да здоровенные булі.* Тураў.

КАЛІ'НОЎНІК *м.* Тое ж. *Каліноўнік с хлебом едзяць.* Хачэнь. *Каліну сушымо, становімо ў печ, ек роспарыцца, усыплём мукі, опарым горачэй водою, вольем воды і варымо каліноўнік.* Пагост.

КАЛІ'НЫ *мн.* Каліны (ягады). *Каліны і рабіны подвешваюць.* Запясочча. *У нас етых калін е! Іх рвуць да варэнье вараць.* М. Малешава. Страва з калін. *Коўш мукі жытнёе сыпле, тые каліны, воны ўздро́яцца ў печэ, мука жытна осоло́джае, а потом вараць з водой кіпячоною.* Верасніца.

КАЛІТА' *ж.* Каліта, сумка. *Каліту з лося́ робілі леснікі і ра́поткі на крышку прышывалі.* Цераблічы. *Каліту чэрэз плечо носілі.* Запясочча. *Над сіротою і бог с калітою* (прымаўка). Сямігосцічы.

КАЛІ'ТКА *ж.* Скураная табакерка. Пагост.

КАЛІ'ЦЦА *незак.* Гразніцца, пэцкацца. *Каліцца не хочу і говорыць не буду про тэ з ім.* Аздамічы.

КАЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Гразніць, пэцкаць. *Эдзіку, не калі рук у гразе́.* Сямігосцічы. 2. Бяліць, мазаць. *Каліць хату буду.* Запясочча.

КАЛЮ'ГА *ж.* 1. Калюга, лужына. *Напрамік калюга така будзе, вода.* Луткі. *От калюг наробій дождж!* Хачэнь. 2 *перан.* П'яніца. *Ох, калюго ты, калюго! Не нап'есса!* М. Малешава. *Калюга вон, і говорыць нема шчо про его.* Луткі. *Памянш.* к а л ю́ ж к а. *Дождж ыку, сыпені, коб калюжкі булі, по коленца брулі!* Бярэжцы.

КАЛЮ'ЖНІК *м.* П'яніца. *От калюжнік, п'е і п'е!* Верасніца.

КАЛЮ'ЖЫЦЦА *незак.* Пэцкацца ў гразь у калюзе. *Свіньня дзікіе калюжыліса.* Мачуль.

КАЛЯ'НДРА *ж.* Каляндра. *Пахучэ зелье, чорные семкі, каляндру кладуць у хлеб.* Кароцічы.

КАЛЯ'СКА *ж.* Кіёк, кульбачка. *Не йдзі ў ло́зу, бо ў капелюшы да с каляскою вуйдзе!* (пра чорта). Хачэнь.

КАЛЯ′ЦЬ *незак.* Пэцкаць, знеслаўляць. *Несі собачку, я не пойду ногі каляць.* Хотамель. *Не хоцелі чоловека каляць да ўжэ самі плацілі штрап.* Луткі. *Не займай Давыда, не каляй віда* (прыказка). Хачэнь.

КАМЕНІ′СТЫ *прым.* Камяністы. *Места́ не каменістые ў нас, каменя мало.* Пагост. Цвёрды, падобны да костачкі. *Ягодкі ў елоўца́ зелёные, а вуспеюць, то чорные, каменістые такіе.* Хачэнь.

КАМЕНІ′ЦА *ж.* Гатунак груш з цвёрдай сярэдзінай. *Каменіца так пахне хорошэ, шо мо ні дна груша так не пахне.* М. Малешава.

КАМЕНІ′ЦЫ *мн.* Касцяніцы. *Прынесла з лесу пучок каменіц, малец іх любіць.* Верасніца. *У грыбу ідом, то воны е, етые каменіцы.* Дварэц. *Кісленькіе каменіцы да дробненькіе, такімі шыпачкамі.* Запясочча.

КА′МЕНКА *ж.* 1. Гатунак груш з цвёрдай сярэдзінай. Луткі. 2. Брук. В. Малешава.

КА′МЕННЫ *прым.* Каменны. *Носа збіла ў Оздамічах на каменной дорозі.* Цераблічы. *А шчо ў жонкі рукі каменные?!* М. Малешава.

КА′МЕНЬ *м.* Камень. *Буў нарад позаўчора ехаць у Горынь по камень.* Запясочча. *Одзін дурэнь, кажуць, укіне камень у воду, а дзесець не вуйме* (прымаўка). Луткі. *Шчоб ты каменем сеў!* (праклён). Там жа. *А мне ек камень з душы скоціўса.* Верасніца. *Шоб ты здороў буў, як камень, шоб ты не погнуўс, не повернуўс!* (праклён). Любавічы. *Памянш.* к а м е н е́ ц. *Каменце́ ў жорнах два.* Луткі. *У сліўках каменце, шо вукідаеш.* Аздамічы.

КАМЕ′НЬЧЫК *м.* Костачка ў ягадах (сліве, вішні і інш.). Запясочча.

КАМЗЕ′ЛЯ *ж.* Мужчынская камізелька. *Одзень камзелю шчэ на рубашку, шчоб цеплей було.* Верасніца.

КАМІЗЭ′ЛЬКА *ж.* Тое ж. Аздамічы.

КАМІЗЭ′ЛЯ *ж.* Тое ж. *Камізэлі такіе булі да на рубашкі накладалі.* Луткі.

КАМЛА′ТЫ *прым.* Калматы. *У цыгана такі собака камлаты.* Верасніца.

КАНА′ *ж.* Памінальная сыта, у якую накрышан хлеб, сушкі. *На помінкі кану даюць, кажна душа по тры раза очэрпне, як одно почынаюць обедаць.* Кароцічы.

КАНА′ЦЬ *незак.* Канаць, паміраць. *А вона канала, то вуж і жаба йшла* (пра шаптуху). Хачэнь.

КАНДАЛЫ′ *мн.* Драўляны абутак. *Кандалы дзерэў-*

*яные, богатыры ў іх ходзілі, іншы бу корыто зробіць, а іншы спрытнейшые.* Запясочча.

ҚАНДАРО'Б *м.* Выбоіна, ямка. *На том шляху одные кандаробы.* Цераблічы.

ҚАНДЖУ'Қ *м.* Пугаўё, сплеценае з дубовага дубца ў 12 столак. Альшаны.

ҚАНДЫ'БА *м.* Высакарослы мужчына. Луткі.

ҚАНДЫ'БАЦЬ *незак.* Қандыбаць. Аздамічы.

ҚАНДЫ'БЫ *мн.* Қандыбы. *Қандыбы з олешніку — палкі з кручкамі, да ступалі на тые кручкі і так хто далей продыбае.* М. Малешава.

ҚАНІҚОВА'ЦЬ *незак.* Цікаваць, сачыць. *Она канікуе, дзе прыедуць чужые хлопцы, коб погуляць.* М. Малешава.

ҚАНТ *м.* Қант, вугал. *Раней дзелалі стогі на чотыры ка́нты.* Сямігосцічы. △ Гледзе́ць ка́нта. Быць акуратным, чыстым, сачыць за сабой. *У городзі трэба гледеть канта!* Альпень.

ҚА'НТА'Р *м.* Қантар. Дварэц. *Қанта́р.* Тураў.

ҚАНТОВА'ТЫ *прым.* Вуглаваты. *Поставілі стог кантоваты на чотыры рогі.* Цераблічы. *Қантоватэ коло, а не круглэ.* Луткі.

ҚАНУ'Н *м.* Памінальная страва. *Қанун — то солодка вода, коржыкі пекуць прэсные і крышаць.* Бярэжцы. *Як помінаюць, то робяць канун.* Альшаны.

ҚА'НУЦЬ *зак.* Працячы, выступіць. *Пошэпчэ баба, і кроў не кане.* В. Малешава. *Вушые коропку, шо вода кане.* Аздамічы. *Седзіць божу́ха ў восьмох кожухах, хто на ее гляне, то слеза кане* (загадка). *Цыбуля* (адгадка). М. Малешава.

ҚА'НЬҚАЦЬ *незак.* Слязліва выпрошваць. *Хопіць ты ўжэ канькала!* Запясочча.

ҚА'НЯ *ж.* 1. Паз у сцяне для перагародкі. *Қаня нарэзваецца до балькі для перэгородкі.* Цераблічы. Дзірка для пальца пры змацаванні бярвенняў. Альшаны. 2. Птушка канюк. Мачуль. 3. Чапля. *І каня е, вона онно седзіць над водою.* В. Малешава.

ҚА'ПА *ж.* Скураны верх у хамуце. *Қапа ў хамуце з рэме́ня.* Сямігосцічы.

ҚАПЕЛЮ'ШЫНА *ж.* Ліст белага гарлачыка. *Поба, шчупак на капелюшіну вускочыў.* Пагост.

ҚАПЛОВУ'Н *м.* З абвіслымі вушамі. *Такі капловун каба́н, вушы целепаюцца.* Луткі.

ҚАПЛОУ'ХІ *прым*. Віславухі. *Қаплоухі такі доўгі кабан*. Луткі.

ҚАПОВА'ЦЬ *незак*. Цяміць, усведамляць. *Нешчо вон нічого не капуе, не знае нішчо*. Цераблічы.

ҚАПОНЕ'ЦЬ *незак*. Моцна капаць. *У мене аж з носу капоніць пот!* Бярэжцы.

ҚА'ПОСНІҚ *м*. Паскуднік. Запясочча.

ҚА'ПОСЦЬ *ж*. Паскудства. *Қапосць зробілі ў хаці*. Запясочча.

ҚАПО'ТА *ж*. Сукенка з рукавамі. *Здымі с плоту капоту, шо я повесіла сохці*. Верасніца.

ҚАПРЫ'ЗА *ж*. Қапрыза. Аздамічы.

ҚАПРЫ'ЗІЦЬ *незак*. Қапрызіць. *Понавучваліса капрызіць! Однэ да друге — зарэ вукіну на двор*. Қароцічы.

ҚАПРЫ'ЗНЫ *прым*. Қапрызны. *Қапрызное дзіця твое*. Бярэжцы.

ҚАПУРНО'*н. зневаж*. Қапуста. *Қо́лісь елі однэ этэ капурно нешчаснэ!* Верасніца.

ҚАПУ'СТА *ж*. Тое ж. *Бі попел на капусці, то гусень будзе*. Сямігосцічы.

ҚАПУ'СЦІНА *ж*. Адна расліна капусты. *Қоб гурок, коб ека капусціна була!* Хачэнь.

ҚА'РА *ж*. Қара, пакаранне. *Қару дала коту — удырыла розкою по меху́*. Луткі. *Жыць без па́ры нема горшое кары* (прыказка). М. Малешава. *Памянш*. к а́ р о н ь к а. *А шчо гэто за коронька на мене? Завошчо?* Сямурадцы.

ҚАРАВА'Н *м*. Вялікі плыт (250—300 м). *Зводзяць гонкі да обведуць дротом, да ідзе караван за водою*. Дварэц. *На каравані сем чоловек, одзін чоловек на каравані ата́ман*. Чэрнічы.

ҚАРАГЛЕ' *мн*. △ У к а р а г л е́. Дзіцячая гульня ў гарадкі. *У карагле іграли колісь, поставіш іх да б'еш палкою*. Цераблічы.

ҚАРА'Қ *м*. 1. Қорч. *Қара́ка з лесу прыв'ёз*. Альшаны. *Дрова смоловэ каракі — ані порэзаць, ні посекці*. Запясочча. 2. Хвосцік. *Одбіў карак у гарбу́зы*. М. Малешава.

ҚАРАҚОВА'ТЫ *прым*. Қарчаваты. *Қаряковаты лес, нізкі*. Альшаны.

ҚАРА'ЛІ *мн*. Қаралі, пацеркі. *Қаралі з буцкоў ці гусочок?* Запясочча.

ҚАРА'ЛІҚІ *мн*. Мальва. *Вукопала коло дорогі ко-*

*рэньчыка і посадзіла коло прызбу. Гэтые каралікі ўсе лето цвітуць.* М. Малешава.

КАРАМЕ'ЙДА *ж.* Неахайная, няспрытная жанчына. *До карамейды ў хату не зайдзеш, кругом па́вуць, грязь.* Верасніца.

КАРА'СЬ *м.* 1. Карась. *У Ербеёўскім кара́сі дзержацца навек.* Луткі. *Е кара́сі красные, есцека і белые кара́сі.* В. Малешава. 2. Шырокі жалезны падосак на драўлянай восі (рабілі ў Д.-Гарадку). *Воз на карасёх — это старынны воз.* В. Малешава.

КАРА'ЦЬ *незак.* Караць. *Рыбакі ловяць браконьероў і караюць.* Сямігосцічы. *Шоб буў бог на том небі, то б усіх грэшнікоў караў, а ек не карае, то нема ёго.* Пагост.

КАРАЧКОВА'ТЫ *прым.* Крываногі. *Карачковаты хлопец.* Цераблічы.

КАРАЧОВА'ЦЬ *незак.* Ісці ў развалку. *Ідзе, карачуе п'яны!* Альшаны.

КАРАЧУ'Н *м.* Крываногі чалавек. *Крывоноге таке дзіця, то зовом карачун.* Луткі. *Ідзе чоловек да ногі вугнуты, то кажуць карачун.* В. Малешава.

КАРАЧУНОВА'ТЫ *прым.* Крываногі. *Ек ідзе, то ногі широко ставіць, можно возом проехаць, это і е карачуноваты.* М. Малешава. *Карачуноваты, шо ногі дугою мае.* В. Малешава.

КАРБ *м.* Рубец, засечка, зарубка, штрых. *На рогу ў корові есцека карбі такіе.* В. Малешава. *Сем карбоў — вот хорошая вутва!* (пра выступы на дзюбе качкі, па якіх пазнаюць яе ўзрост). Мачуль.

КАРБЕ'Ж *м.* Тое ж. *Купуеш коройку, карбежы лічы, колько целят було.* Сямурадцы. *Под прыпечком карбежы, хто ведае — не кажы* (загадка). *Зубу* (адгадка). Хачэнь. *Памянш.* к а р б е́ ж ы к. *Наробіла карбежыкоў на палцы.* М. Малешава. *Карбежыкі на булцы хлеба.* Запясочча.

КАРБО'ВАНЫ *дзеепрым.* З цісненнем, з нарэзкамі, з насечкамі. *У вас плашч карбованы.* Кароцічы.

КАРБОВА'ЦЬ *незак.* Рабіць зарубкі, насечкі, цісненне, штрыхі. *Карбоваць трэба мучку, шчоб не була пра́ва, ее лепш прасці.* Луткі.

КАРЗА'Н *м.* Кажан. Хачэнь.

КА'РКА *ж.* Карак. *Карка е ў чоловека, а ў коня холка.* Запясочча.

КА'РКАЦЬ *незак.* 1. Каркаць. *Хай над тобою воро-*

*някі каркаюць, падло!* (праклён). Хачэнь. 2 *метаф. неадабр.* Гаварыць. *Шо ты там каркаеш?* Хачэнь.

КАРКОВІ'НА *ж.* Сала з карка ў кабана. *На карку — то карковіна, сáмо тоўшчэйшэ сало.* Альпень.

КА'РОК *м.* Карак, плечы. *Накладалі ермо на волы на карок.* Мачуль. *Карок і на хібу — саме тоўстэ сало ў кабана.* Запясочча.

КАРПАЛЁВУ *прым.* Паркалёвы. Кароцічы.

КАРТОПЛЕВІ'НЬЕ *н.* Бульбоўнік. Запясочча.

КАРТОПЛЕВІ'ШЧЭ *н.* Бульбянішча. Запясочча.

КАРТОПЛЕ'НЬЕ *н.* Бульбоўнік. *Дзе веліке картопленье, то нічого не будзе.* Бярэжцы. *Картопленье варылі ў голодуху, то хужэй за ўсего.* В. Малешава.

КАРТО'ПЛІ *мн.* Бульба. *Му ўчоро наўбіралі на сотцы мо двацдаць мешкоў картоплёў.* Кароцічы. *Шчэ й моя брацiха прыдзе нам картоплі сеяць.* Пагост. *Як на Юр'е дождж пойдзе, то на картоплі ў нас зрожáй* (прыкмета). Старажоўцы.

КАРТО'ПЛІК *м.* Бульбіна. *По одному картоплiку, то з мене на тыждзень.* Мачуль.

КАРТО'ПЛІШЧЭ *н.* Бульбянішча. Аздамічы.

КАРТОПЛЯ'НІКІ *мн.* Пампушкі або бліны з бульбы. *А ў мокотрыку — картоплянікі, достанеш с печы і закусіш боршч.* Тураў. *С картопляў млінцэ, то это картопляніkі.* М. Малешава.

КАРТОПЛЯ'НКА *ж.* Каша з тоўчанай бульбы. *Ела картоплянку с хлебом, люблю тоўчаные картоплі.* Цераблічы. *Звары картоплі, то, бі картоплянка, роспоўзающца.* В. Малешава.

КАРТОПЛЯ'НЫ *прым.* Бульбяны. *Картопляны млінец.* Запясочча.

КАРУ'К *м.* Свіны страўнік, начынены мясам. *Карук у нас напіхаюць м'ясом, і ёго подвешваюць на вероўцы под строп.* М. Малешава.

КАРЭ'МЗА *ж.* Каржакаватае дрэва. *Карэмза, нема ствола хорошэго, гольá много.* Запясочча.

КАРЭМЗАКОВА'ТЫ *прым.* Каржакаваты. *Карэмзаковаты дуб.* Запясочча.

КАРЭМЗА'ТЫ *прым.* Тое ж. *Хвоя карэмзата.* Кароцічы. *От еты корч карэмзаты прыйшоў!* Пагост.

КАРЭМЗА'Ч'Е *н. зб.* Каржакаватыя дрэвы. *Шчо з гэтого карэмзач'я будзе?* Луткі.

КАРЭМЗА'ЧЫНА *ж.* Каржакаватае дрэва. *Росце така карэмзачына, седзіць без росту, гольé абý-як.* Луткі.

КАРЭМЗОВА′ТЫ *прым.* Каржакаваты. *Карэмзовата лоза, бувае, е.* Цераблічы.

КА′СА *ж.* △ К á с у  м е ц ь. Распараджацца грашыма. *У корчме онно старые пілі, вон жэ, стары, касу маў, вон і піў.* Сямігосцічы.

КАСІ′ЦЦА *незак.* Спраўляць гулі. *Касяцца чорты ў Рáдзіцком болоці.* Тураў.

КАТ *м.* Кат. *Кат ты, катуеш людзей, глумісса з іх!* Аздамічы. *Чужа хата горш за кáта* (прыказка). Запясочча. *Нема горшого кáта над родного брата* (прыказка). М. Малешава.

КАТАЛЮШКІ′ *мн.* Дзіцячы цацачны возік. *Прывезлі такіе каталюшке ему хорошые, а вон і не позірае, усе з гэтым трактором.* Луткі.

КА′ТАНКА *ж.* Шрот. *А катанка з волова.* Цераблічы.

КАТА′ПЦЫ *мн.* Крышаны хлеб з малаком. *Накрышыці хлеба да заліць молоком, і то называецца катапцы.* Аздамічы.

КА′ТКА *ж.* Скрутак. *Бачу, катка грошэй у кішэні ў сына.* Дварэц.

КА′ЎКАЦЬ *незак.* 1. Мяўкаць. *Я ж ему дала есці, а вон шчэ каўкае.* Запясочча. *Вупусці кота с хаты, годзі вон каўкаў у порозі.* Азяраны. 2. Вызваляцца ад з'едзенага, адрыгваць, бляваць. *Бусько наглытаецца багато, наберэ ў серэдзіну да і каўкае, вукідае своім дзецям.* Мачуль.

КАЦ *выкл.* Выгук, якім адганяюць ката. Хачэнь.

КАЦА′ *ж.* Тупы канец у яйку. Хотамель.

КАЦАЛА′ПКА *ж.* Той, што касалапіць пры хадзе. *Як о гэтак ідзе, то кацалапка* (паказвае, што касалапіць), *а як о гэтак* (паказвае, што зводзіць пры хадзе калені разам), *то клішаву.* В. Малешава.

КАЦЕРЫ′НКА *ж.* 1. Прымітыўная лябёдка (у ветраку, на лодцы пры плыце для пад'ёму якара). Запясочча. 2. Чабор. Лутκі.

КАЧАВЕ′ЛЬНІК *м.* Рагоз. Пагост.

КАЧАЛБА′СНІК *м.* Тое ж. Сямурадцы.

КАЧА′ЛКА *ж.* 1. Адна з дзвюх качалак. *Дай мне веліку качалку, бо ў мене малая е.* Лутκі. 2. Рулон. *Та качалка плёнкі стоіць сорок рублей!* В. Малешава. 3. Шышка на рагозе. *Качалкі на рогозі ростуць.* Лутκі. *А дале выспее та качалка, то пух.* Старажоўцы.

КАЧА′ЛКІ *мн.* Рагоз. *Качалкі, ек рогожнік. Подуш-*

*кі робілі з його*. Хачэнь. *Качалкі ростуць, дзе грузко*. Рычоў.

КАЧА́ЛКО *н*. Адна з дзвюх качалак. *Качалко большэе і качалко малóе*. Хотамель.

КАЧА́ЛЬНІК *м*. Рагоз. *Качальнік такі тоўсты́, корэні тоўстые*. Дварэц.

КАЧА́Н *м*. Качан. *Капуста як вуросце, то качан робіцца*. Сямігосцічы. △ У к а ч а н. Дзіцячая гульня. Луткі. У к а ч а н ы́. Узор на палатне. *Вуткала ў качаны́ і похожэ, бі качаны — і лісце і корáк е*. В. Малешава.

КАЧА́НКІ *мн*. Самаробныя мяккія валёнкі. Альшаны.

КАЧА́ЦЦА *незак*. Качацца. *По росе качаюцца, шоб пропала чэсотка*. Хачэнь. *І вот я давай качацца на жывот от того меду*. Сямігосцічы. *Як собака качаецца, то отліга будзе* (прыкмета). Запясочча.

КАЧА́ЦЬ *незак*. Качаць. *Радуга вóду качае*. Буразі. *Ходзі качаць колоды поможы*. Луткі. △ К а ч а ц ь б о ч к і. Нагаворваць. *Ты знаеш, чого воны на ее бочкі качаюць?* Хачэнь.

КАЧО́ЛКА *ж*. Скрутак. *Качолка здору*. Бярэжцы. *Та качолка нітóк п'яць кіло*. Сямурадцы.

КА́ЧОЛО *н*. Месца, дзе пакачаўся конь. *На качоло ступаць не можно, бо короста стане*. Аздамічы. Выкачанае месца. *Му гледзім туды-сюды, дзе той вулей, одно бачым качоло, дзе той вулей коціў медзведзь*. Луткі.

КА́ША *ж*. Каша. *Бабіну кашу б'юць на хрысцінах. Моя маці з майны кашу ворыла*. Мачуль. *Цёрта каша с картопляў*. М. Малешава. *Нема лучшое пашы над кашы* (прымаўка). В. Малешава. *Памянш*. к а́ ш к а. *Смашна кашка, да робіць цяшко* (прыказка). Хачэнь. *Сорока-ворона по сметніку скакала, дзеткам кашку давала: гэтому дам, а гэтому не дам. Шугі, шугі — полецелі!* (забаўка). В. Малешава.

КА́ШЛЯЦЬ *незак*. Кашляць. *Кашляе, захолодаў у водзе*. Запясочча.

КАШЫ́ЦА *ж*. Крупнік (з пшана ці ячменю). *Пшоняна кашыца з молоком смашна*. Тураў.

КА́ШЭЛЬ *м*. Кашаль. *У кого кашэль, той на віду крáсен*. Сямігосцічы.

КАШЭ́РНЫ *прым*. Высокай якасці, гатунку (пра грыбы). *От насушыла грыбоў кашэрных — беленькіх, маленькіх*. В. Малешава.

КА́ЯЦЦА *незак*. Каяцца. *Колькі каяўса, шо не по-*

*шоў, куды людзі йдуць.* Бярэжцы. *Колькі ні біў, не каецца.* Аздамічы. *Не кайса, шо молоды жэніўса і рано ўстаў* (прыказка). Запясочча.

КВА'ДРА *ж.* Квадра. *У суботу будзе квадра меняцца.* Верасніца. *Дзве квадры дождж ідзе.* М. Малешава.

КВА'КАЦЬ *незак.* Крычаць (пра качку). *Селезён помалу квачэ, а качка громко.* Сямігосцічы. *Не наберэсса качкам, дзень квакаюць коло двора.* Мачуль.

КВА'ПІЦЬ *незак.* Накопліваць багацце. Альпень.

КВА'РТА *ж.* Кружка, кубак. *Гэто була кварта колісь, да ручкі одломаліса.* Дварэц. Старая мера вадкасці. *Вон дзве кварты молока зараз вуп'е і нічого.* Кароцічы.

КВАС *м.* Квас. *От добры квас з ечменю!* В. Малешава. Хлебная закваска ў дзежцы. Цераблічы. Кіслата. *Нема квасу ў яблуках, высохне — одно песок.* Хачэнь. Варыва з расолу і круп (з грыбамі, рыбай, салам). *Мо будзеце зарэ квас есці, то я налью ў міску.* Кароцічы.

КВАСЁ'ЛКА *ж.* Прасяны крупнік з квасам. *Цепер зварым квасёлку.* Аздамічы.

КВА'СІЦЦА *незак.* Кіснуць. *У ей буракі квасяцца.* Луткі. *Плачэ дзіця, квасіцца, бы кваша.* М. Малешава.

КВА'СІЦЬ *незак.* Квасіць. *Я не хочў квасіць молоко.* Альшаны. *Я помідоры квасіла ў бочцы.* Луткі.

КВА'СКА *ж.* Ражка. Запясочча.

КВАСЛІ'НА *ж.,* КВАСЛІ'НЫ *мн.* Абрызглае малако. *Квасліна — ні солодке, ні кіслэ молоко, так нека жўдра.* В. Малешава. *Молоко шчэ не скіслосо добрэ — одные квасліны.* М. Малешава.

КВАСЛІ'НЫ *мн.* Ажыны шызыя. *Прынесла дзецям з зарэч'я кваслін.* Пагост.

КВА'СНЕНЬКІ *прым.* Кіславаты. *Квасненькі да добры хлеб!* Запясочча.

КВАСНІ'К *м.* 1. Хвошч. *Кваснік у водзе росце. С квасніка роб'яць тые шчоткі, шо мазаць хаты.* Цераблічы. 2. Варыва з расолу і круп. Верасніца.

КВАСНЫ' *прым.* Кіслы. *Сыра зробіла с квасного молока.* Луткі.

КВАСОВІ'К *м.* Стары баравік. *От, набрала одных квасовікоў.* Луткі.

КВАСО'К *м.* Шчаўе. *Огородні і полевы — одінаково квасюк.* Альпень. *На кваску цыбукі е.* В. Малешава.

КВАСО'ЛЬКА *ж.* 1. Фасоліна. Запясочча. 2. Расліна бярозка. В. Малешава.

КВАСО'ЛЬНІК *м.* Сцяблы фасолі. *Квасольнік целяці дала.* В. Малешава.

КВАСО'ЛЯ *ж.* Фасоля. *Квасолі насеем, шо по мешкоў тры, да емо.* Дварэц. *Квасоля-седўха не така смашна, ек тычкова.* Луткі.

КВАСО'ЎКА *ж.* Кісłы крупнік. *Квасоўку варылі, крупінкі ўкінуць, да суровватку, дай догоняе крупінка одна одну.* Запясочча.

КВАТЫ'РКА *ж.* Чацвярцінка. *Кватырка була ў корчме, як стограмоўка.* Цераблічы.

КВАТЫ'РОЧКА *ж.* Клетачка. *Кожну кватырочку трэ перэбраць, як тчэш.* В. Малешава.

КВА'ЦОК *м.* Кавалак гразі ад колаў. *Так леціць на тых конях, шо дно квацкі лецяць.* Верасніца.

КВАЧ *м.* Квач, якім падмазваюць колы ў возе. *Трэ квача зробіць нового, бо на старом усе клоч'е посцягвалосо.* Верасніца. *Прышоў мокры, як квач!* Альпень. △ У к в а ч э. Дзіцячая гульня. Цераблічы.

КВА'ША *ж.* Саладуха. *Квашу ворылі з жытное мукі. Ворыў той, у кого доўгіе п'яты.* Верасніца. *Мукі жытнёе просею, опарымо кіп'ятком, поставімо на прыпечок, шоб вона осолодала, холодное воды волью, кусочок хлеба ўкіну, коб прокісла,— тоды варымо, й будзе кваша.* Луткі.

КВАШЭНІ'НА *ж.* Студзень. Мачуль.

КВА'ШЭНЫ *прым.* Квашаны. *Стаўляюць у банках яблука квашэные.* Луткі.

КВЕ'РХУ *прысл.* Кверху. *Плуве кверху чэрэвом.* Цераблічы.

КВЕТ *м.* Кветкі (сукупнасць). *Лўчэй наподобіе осокі, а квету ніякого нема.* Пагост.

КВЕ'ТКА *ж.* Вясельны букецік на касцюме ў жаніха, маршалкаў. *У нас кветку чэпляюць жэніху.* Луткі.

КВІ'КАЦЬ *незак.* Крычаць (пра качаня). *Чырыцка сyросла коло дома дай квікае.* Мачуль.

КВОКТА'ЦЬ *незак.* Квахтаць. *Усе куры квоктаць почалі.* Верасніца. *Селезёнка ў коня квокчэ, здорову конь.* Бярэжцы. *Пока не жэніўса, то ніхто под боком не квоктаў.* Луткі.

КВОКТА'ЮЧЫ *дзеепрысл.* Квокчучы, стогнучы. *Да лежы, дзеду, куды ты пойдзеш квоктаючы.* Луткі.

КВОКТУ'ХА *ж.* Квактуха. *Гетакіе хорошіе ціпленяткі, да от квоктухі не отстаюць.* Азяраны.

КВО'ЛІЦЦА *незак.* Кволіцца. *Ай, шо ты кволісса! Мо шчо боліць?* Аздамічы.

КВО'ЛІЦЬ *незак.* Быць нездаровым, слабым. *Зелені наеўса да понóсіць, да на жывот кволіць.* Аздамічы.

КВО'ЛЫ *прым.* Кволы. *Кволы такі, шо і робіць не хочэцца, і не спаць, не гуляць.* Пагост. *Кволы чоловек і сілы не мае.* Аздамічы.

КЕ, КІ, КІЙ, КЕЙ *злучн.* І, ды, ці. *Іван ке Рыгор пошлі.* Тураў. *Як бацько ке маці кажуць, так я і зроблю.* Альгомель. *Нехай воўкі едзяць ке собакі ту сцервакóвіну.* Цераблічы. *Былі на прычыні Іван ке Петро, ке Рігор.* Альшаны. *Іван кей Петро, кей Сцепан былі на рыбалцы.* Там жа. *Кі столы, кі кресла, кі лаўкі — усе побралі.* Там жа. *Ну і кіслóта цёрон! А бобоўнік ке полынь — горкóта.* Тураў.

КЕ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Памерці. *Ці я думала, шо жыцьму, я думала, шо кекну.* Пагост.

КЕ'МІЦЬ *незак.* Кеміць, разумець. *Вон нічого не кеміць.* М. Малешава.

КЕ'МЛІВЫ *прым.* Кемлівы. *Я кемліва була.* М. Малешава.

КЕ'МНЫ, КІМНЫ *прым.* Тое ж. *Кемны чоловек, не чуў, а догадаўса.* Дварэц. *Маці була кімна баба.* М. Малешава.

КЕМОВА'ЦЬ, КІМОВА'ЦЬ *незак.* Кеміць. *Кемовала добрэ, шо сказаць.* М. Малешава. *Я і кімую, шоб тэ знаць і тэ.* Там жа.

КЕ'ПЕЛІ *мн. экспр.* Мазгі. *Трэба, шоб кепелі добрэ варылі.* М. Малешава. *У його нема кепель, вон не понімае.* Дварэц.

КЕПОВА'ЦЬ *незак.* Кеміць. *Мы трохі кепуем, дармо шчо старые.* Цераблічы.

КЕ'ПСКІ *прым.* Кепскі, дрэнны. Тураў.

КЕ'ПСКО *прысл.* Кепска. *Кепско ты робіш, не добрэ.* Цераблічы.

КЕ'РМАШ *м.* Вясковае гадавое свята, устаноўленае паводле запавету. *У нас чотырнанцатого акцябра кермаш, то будуць біць свінья.* Хачэнь. *У п'яніц кажны дзень кермаш* (прымаўка). Верасніца.

КЕРМАШОВА'ЦЬ *незак.* Быць у гасцях у вёсцы, дзе адбываецца *кермаш. Кермашоваў у бацька з мацерью.* Пагост.

КЕРМАШО'ВІК *м.* Той, хто прыехаў на свята ў вё-

ску. *От дзед рады, шо кермашовікоў у хаці багато.* Пагост.

КЕРМАШО'ВУ *прым.* Які мае дачыненне да вясковага свята. *Людзі кермашовуе не поедзяць усёй той рыбу, шо наварым да насмажом!* Хачэнь. *У мене дьве дочкі: одна кермашова, друга некермашова* (тут — на выданні і не на выданні). Альпень.

КЕРНОВУ'ХІ *прым.* Бязвухі, са скручаным вухам. Аздамічы.

КЕ'ЎЗАЦЬ *незак.* Мыць з большага. *Кеўзае маці тые сорочкі.* Луткі.

КІБА'ЛКА *ж.* Старажытны жаночы галаўны ўбор. *Моя прабаба ею ўсе дорожыла, тою кібалкою.* Сямігосцічы. *Повівальночка, шэльма, мою хусточку сцерла, сцерла і зом'яла, под кібалку сховала* (з вясельнай песні). Хотамель. Жаночы ўбор у выглядзе круглай шапачкі (Альпень) з двума невялікімі казыркамі ззаду і спераду (Мачуль).

КІБА'ЛЬНІЦА *ж.* Гадалка. *Кібальніца кідае на карты.* Запясочча.

КІВА'ЦЬ *незак.* Ківаць. *Умірае і пальцем ківае* (прымаўка). Сямурадцы.

КІВЕ'НЬКА *ж.* Нагавор, плётка, зачэпка для сваркі. *Людзі хочуць ківеньку ўкінуць нам, шоб сварыліса.* Запясочча.

КІВЕРНУ'ЦЬ *зак.* Кульнуць, крутнуць. *Усадзіў ножа ў бок дай ківернуў его.* М. Малешава. *Трэба було рыбку ў воду ківернуць і ехаці.* В. Малешава.

КІВІ'ЛКА *ж.* Мерны сажань. *Ківілка е ў звеньевой.* Сямігосцічы.

КІВІЛЯ'ЦЦА *незак.* Вагацца, боўтацца ў бакі. *Трэба, шоб не ківіляласа тая піла.* Запясочча.

КІВІЛЯ'ЦЬ *незак.* Чыкільгаць, матляцца пры хадзьбе. *Не постоіць на одном месці, усе куда-то ківіляе і ківіляе.* М. Малешава.

КІГІ'КАЦЬ *незак.* Кігікаць. *Чайка кігічэ.* Запясочча.

КІ'ДАЦЬ *незак.* Кідаць. *У нову хату перш кідае кота, а то пеўня прынесе.* Дварэц. *Хросна маці месіць хлеб і ў печ кідае.* М. Малешава. *Подоўж кідаюць под труну, коб умер той, хто пчол выдраў.* Хачэнь. *Як нападзе гарачка, то кідае чоловека.* Сямігосцічы. △ К і д а ц ь н а к а́ р т ы. Гадаць на картах. *Цыганка кідала на карты мне. Да шо вона знае!* Кароцічы. К і д а ц ь у н і т, у б е́ р д о. Працягваць ніткі асновы кроснаў у ніт і бёрда.

*Сперва кідаюць у ніт, а потом у бердо.* Луткі. Кідаць угара́чку. Быць хворым з высокай тэмпературай. Аздамічы. Се́но кідаць. Складаць сена ў стог. *Поедом кідаць сено.* М. Малешава. Кідаць очы́ма. Зіркаць. Бярэжцы. Кідаць се́тку. Ставіць сетку на рыбу. *Пойду два раз кіну сетку, то повен цэбор рыбы.* Пагост.

КІДЗЕНУ'ЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Узела да як кідзене тою палкою на ее!* Запясочча.

КІДЗЬКО'М *прысл.* Махам. *Я повернуўса да кідзьком тое́ руж'е ў рэчку!* Цераблічы.

КІ'ЗІ, КІ'ЗІКІ *мн.* △ Роспусціць (попусціць) кізі, кізікі. Расплакацца. Старажоўцы.

КІЙ *м.* Палка. *Кій доўгі, а дручок короткі.* М. Малешава. *От нехто спомянуў, коб его кій не мінуў* (прыказка). Луткі.

КІЛА' *ж.* Хвароба капусты. *Капуста ў кілу пошла.* Хачэнь. Тысяча ачкоў у гульні *ў цурку.* Цераблічы. Выйгрыш у гульні ў *ковеню.* Альшаны.

КІ'ЛАВУ, КІ'ЛОВУ *прым.* Хворы на грыжу. Запясочча. *Кіловы.* Аздамічы.

КІЛУ'ХА *ж.* Капуста з нарастамі. *Кілуха — то та капуста, шчо ў кілу пошла.* Аздамічы.

КІЛУ'ШКА *ж.* Расліна, падобная да пырніка. Луткі.

КІ'МЕЛЬ *м.* Самы кончык хваста ў каровы. *Як кімель жоўценькі, то хороша корова.* Луткі.

КІ'НУТЫ *дзеепрым.* Кінуты. *Бачу — лежыць яблуко, воно ўкушанэ да кінутэ.* Луткі.

КІ'НУЦЬ *зак.* Кінуць. *Да ек кіне палку! А воўк у зубы, да лясь-лясь-лясь так зубамі, да тую палку перэкусіць.* Бярэжцы. *Кінь назад себе, знойдзеш наперэд себе* (прыказка). Аздамічы. Пакінуць. *Высккваркі кінулі, не з'елі.* Мачуль.

КІ'ПЕНЬ *м.* Кіпень, вар. *Трэбо було кіпнем екім обліць его.* Дварэц. *Коліcь плацье кіпнем опарвалі.* В. Малешава.

КІ'ПЕТОК *м.* Тое ж. *Не берыса, бо кіпеток, опарыш рукі.* В. Малешава.

КІ'ПЕЦЕНЬ *м.* Вельмі вялікі мароз. *Такі кіпецень мороз!* Луткі.

КІПЕ'ЦЬ *незак.* Кіпець. *Гэты горшчык ужэ кіпецьме, зарэ его одсуном.* Бярэжцы.

КІ'ПЕЦЬ *м.* Кіпцюр. *От кіпці ў кота! Драпаецца моцно.* Верасніца. *Загодоваў ты собе кіпці!* Аздамічы. *Па-*

*мянш.* кіпцік. *Кіпцікі крашэные позлезаюць!* В. Малешава.

КІРДЗЕ'ЛЬ *м.* Газніца. М. Малешава.

КІРДЗЕ'ЦЬ *незак.* Ледзь гарэць, слаба свяціць. *Лампочка толькі шо кірдзіць, а не свеціць.* М. Малешава. *Только тут, дзе той кірдзель кірдзіць, і свет.* Цераблічы.

КІРДЗЮ'К *м.* Хвароба языка ў каня. *Кірдзюк на коня нападае од мекіны, як колюке напіхаюцца ў язык.* Мачуль. *Кірдзюк бувае од ечменю, то трапку з медом замотае і нехай жуе дзён з два, то пройдзе.* Цераблічы.

КІРДУ'ПЕЛЬ *м.* Маларослы хлопчык, падростак. *Кірдупель, а не збежысса з ім.* Пагост.

КІ'РЗА *ж.* Гірса. *Кірза така ўходна, бы просо, росна.* Аздамічы.

КІ'РКА *ж.* Матыка. *У Лутках сапка, а ў нас кірка.* Аздамічы.

КІ'РКАЦЬ *незак.* 1. Каркаць (пра крык птушак, жаб). *Кіркалі куры, пока я ходзіла, а далей ужэ моўчаць.* Хачэнь. *Жаба кіркае на негоду.* М. Малешава. 2. Дыхаць з хрыпатой. *Горло боліць, чуць кіркае.* Хачэнь.

КІ'РКНУЦЬ *зак.* Каркнуць. *Кўра кіркнула.* Бярэжцы.

КІРОВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць. *Вон кірує ў нас, хоць не варт.* Верасніца. *Хай вон кірує коньмі.* Азяраны.

КІРПА'ТЫ *прым.* Курносы, малы, кароткі. *Кірпаты нос, як корч.* Мачуль. *Памянш.* кірпáценькі. *Унучка кірпаценька, як баба.* Дварэц.

КІРПЕ'ЛЬ *м.* Курносы чалавек. *Кірпель — той, у кого малы нос, задзірысты, бы люлька ў дзеда.* Луткі.

КІРПЕ'НЬ *м.* Тое ж. Запясочча.

КІРПО'НЬКА *м.* і *ж.* Курносае дзіця. *Ой, от дзе кірпонька годуецца!* Пагост.

КІСЕ'ЛЬ *м.* Кісель. *Кіселі, бувало, вараць з журавін.* В. Малешава. *Рошчыніла баба кісель на дзвенаццаць недзель. Пока кісель укіс, то чорт дзеда уціс* (прымаўка). Там жа.

КІ'СЛЕНІЦА *ж.* Абрызглае малако. *Кісленіца, вона ні кісла, ні солодка.* М. Малешава.

КІСЛІ'ЦЫ *мн.* Від ажын. *Кісліцы такіе сівоватые, воны вельмо кіслые, а ожыны солодкіе.* Хачэнь.

КІ'СЛІЦЬ *незак.* Квасіць. *Молоко кісляць на брынзу.* Хільчыцы.

КІСЛО'ТА *ж.* Кісляціна. *Чэрніцы і журавіны — кіслота!* Запясочча. *Ну і кіслота цёрон!* Луткі.

КІ'СЛЫ *прым.* 1. Кіслы. *Кіслэ таке, аж очы дзерэ.*

Луткі. *Кіслэ молоко, як рэмень.* В. Малешава. 2. Раскіслы. *Кожух кіслы, як обмокае.* Луткі. *Кінуць лён да ў кіслу да ў холодну землю, дзе вон будзе росці!* Запясочча.

КІСЛЯ′ *ж.* Кісляціна. *Журавіны — это кісля!* Запясочча.

КІСЛЯ′К *м.* Кіслае малако. *Подала кісляка, а воны не хочуць есці.* Хачэнь.

КІСЛЯ′КА *ж.* Кіслоцце. *От яблуко кісляка, від крывіць, як укусіш.* Пагост.

КІ′СНУЦЬ *незак.* 1. Кіснуць. *Молоко кісне.* М. Малешава. 2. Раскісаць. *Кісне ў водзе плацье.* В. Малешава. *Чого ты кіснеш?* М. Малешава.

КІТАСЫ′ *мн.* Кутасы. *Такіе кітасы з махрамі вісяць.* М. Малешава.

КІЦІ′-КІЦІ′-КІЦІ′, КІЦЬ-КІЦЬ-КІЦЬ, КІ′ЦЯ -КІ′ЦЯ-КІ′ЦЯ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць ката. Хачэнь.

КІ′ЦІЦЫ *мн.* 1. Кутасы, махры. *Кіціцы ў хусцы.* Аздамічы. *Кіціцы на вуздэццы.* Запясочча. 2. Катахі. *Кіціцы на берозі, на осіні, на орэшыні, а на олешыні — шышэчкі.* В. Малешава.

КІЦЮ′Х *м.* Катах. *Нарвуць того хмеля с тымі кіцюха́мі.* Хачэнь. Шарык з гразі на поўсці. Аздамічы. *Памянш.* к і ц ю ш о́ к. *Е кіцюшкі на лепе́шніку, е!* Хачэнь. *На орэшніку кіцюшкі рвалі да сушылі да пе́клі хлеб.* Сямурадцы.

КІЧУ′К *м.* Начынены мясам страўнік. Хотамель.

КІ′ШКА *ж.* Кішка. *А у нас кішку с кіслою капустою ворылі.* Цераблічы. *За ковалок кішкі ідзе сем міль пешкі* (прымаўка, пра бяссэнсавасць бадзяння па гасцях). Аздамічы. *Наеўса, як бык, а кішка, як смык* (прымаўка). Чэрнічы.

КІШМА′ *прысл.* △ К і ш м а́ к і ш э́ ц ь. Налезці, назбірацца, напладзіцца звыш меры. *Палца не ўбіць у клуб, людзей кішма кішыць!* Дварэц.

КІШЭ′НЬ, КІШЭ′НЯ *м.* Кішэня. *У полотняных штанох кішэні нема.* Луткі. *Шыла ў кішэні не сховаеш.* Сямігосцічы. Мяшэчак, які робіць рыба з сеткі, трапляючы ў трыгубіцу. Аздамічы.

КІЯХІ′ *мн.* Кукуруза. *Гуркі на кіехі віліса.* М. Малешава. *Афрыканска муха кіехі есць.* Запясочча. Кіяхі. *Насарыла на ўсю се́м'ю кіяхоў.* Хачэнь. Шышкі ў рагоза. *Кіяхоў дзеці понарывалі ў болоці да будуць обдуваццa.* М. Малешава.

КІЯХО′ВУ *прым.* Кукурузны. *Кіехову хлеб.* Дварэц.

КЛАД *м.* Магіла. *Тут е некіе старынные кла́ды коло Турова.* Буразі. *Да мне клад трэба віно!* М. Малешава.

КЛА'ДЗВІНА *ж.* Перакладзіна. *На кладзвіну ставяць вулея.* Луткі.

КЛАДЗЬ *ж.* Тое ж. *С сохі на соху кладзь.* Пагост.

КЛА'ДКА *ж.* Кладка. *Пойду на канаву, мо там кладка е, да поперу́ плацье.* М. Малешава.

КЛА'НЯЦЦА *незак.* Кланяцца. *Ета дзеўка кланеецца ўсім.* Запясочча.

КЛА'ПАЦЬ *незак.* Шлэпаць нагамі. *Крівуе ногі, то вон клапае.* Дварэц.

КЛАПОНО'СЫ *прым.* З пляскатым носам. *Вона такая чорная, клапоносая.* Луткі.

КЛАПО'НЧЫК *м.* Клапан у дудцы. В. Малешава.

КЛАПУ'Н *м.* Той, хто шлэпае нагамі. Запясочча.

КЛА'СЦІ *незак.* Класці. *На посадзі кладуць кожуха́.* Запясочча. *Грудово́го сена не будом у стог класці.* Луткі. *На перэклады дрова ў печэ кладу.* Хачэнь. Раскладаць. *Кладом огонь на коміне да прадом.* Луткі. Закладваць нітку ў ніт. *Кладзі спешно, шчоб не було смешно* (прымаўка, пры снаванні кроснаў). М. Малешава. Засцілаць падлогу, столь. *Вумосціць трэба хату, а потом подлогу класці.* Кароцічы. Ставіць лавушкі, пасткі на рыбу, звера. *Зробіў гатка́ да кла́дзе коша́.* Луткі. *На выдры кладзе жэлезо.* Мачуль. Адзяваць, апранаць. *Мало хто клаў на себе світу.* Альпень. *Жарко, не хочу класці сорочку.* Луткі. *Штаны кладуць і дзеўкі зарэ.* Цераблічы. △ К л а с ц і  о́ ч ы. Углядацца. *Очы вон кладзе на цебе, прызіраецца.* Альпень.

КЛА'СЦІСА *незак.* Класціся. *Не кладзецца корова, стоіць.* В. Малешава.

КЛЕ'ВЕР *м.* Канюшына. *А клевер густы, шо не можно повернуць!* Запясочча.

КЛЕЙ *м.* Смала на вішнях, на слівах. *Клей на вішні е, вон як очэпіцца за зуба, то не оторвеш.* Цераблічы.

КЛЕ'ЙКІ *прым.* Клейкі. *Такі клейкі хлеб, нехорошы получыўса.* М. Малешава.

КЛЕКЕТА'ЦЬ *незак.* Клекатаць (пра бусла). *Упорану буські клекечуць і клекечуць.* Цераблічы.

КЛЕКЕТУ'Н *м. метаф.* Бусел. *От наш бусько-клекетун, клекечэ і клекечэ!* М. Малешава. *Бусько-клекетун поймаў бабу за коўтун, волочыў, волочыў, покуль намочыў* (з дзіцячай песенькі). Хачэнь.

КЛЕМБА'ТЫ *прым.* Клышаногі. Альшаны.

КЛЕ′МБАЦЬ, КЛЕ′МПАЦЬ *незак. экспр.* Ісці. *Ото куды клембаеш, куды тобе нарад?* Луткі. Кульгаць. *Шчэ мне на веселье трэ клемпаць!* М. Малешава.

КЛЕ′МПА *ж.* Кульгавая жанчына. *Попхаласа клемпа ўжэ, поцяглá нóгу.* Верасніца.

КЛЕ′НДАР *м.* Клышаногі чалавек. *Клендар шыбае онё.* Верасніца.

КЛЕНДА′ТЫ *прым.* Клышаногі. *От бачыла клендату дзеўку, да ўжэ плацье доўге носіць, коб колен не віднó було.* Луткі. *Клендаты о так о ростопурвае ногі.* Сямігосцічы.

КЛЕНДА′ХА *ж.* Клышаногая жанчына. Пагост.

КЛЕНДА′Ч *м.* Клышаногі мужчына. *Клендач ідзе да колено об колено чухаецца.* Пагост.

КЛЕ′НДЫ *мн. экспр.* Ногі. *І кленды не прыкрыла, да вот этака сподніцка!* М. Малешава. *Шо, зноў будзе махаць тымі клендамі балерына!* Цераблічы.

КЛЕ′НЧЫЦЬ *незак.* Кленчыць. *Чо ты кленчыш перэд бабáмі?* Запясочча. *З етым сеном кленч, страдай, ужэ мне не трэ тэ молоко.* Мачуль.

КЛЕПА′ЛО, КЛЕПА′ЙЛО *н.* Драўляны балабон на шыі ў скаціны. Сямігосцічы. Стукалка ў вясковай начной варты. *Бэрэ ў мене гэтэ клепайло і ідзе по вуліцы. Для того ляскалі, шчоб чулі, шчо ты не спіш.* Сямігосцічы.

КЛЕ′ПАНКА *ж.* △ Г у л я́ ц ь  у  к л ё п а н к і. Гуляць у хованкі. Альпень.

КЛЕ′ПАНЫ *прым.* Кляпаны. *А його не клепаные косы.* Луткі.

КЛЕ′ПАЦЬ *незак.* Ісці (пра хаду чалавека без нагі). *Бачу, клепае той кіноўшчык.* М. Малешава.

КЛЕПА′ЦЬ *незак.* Кляпаць. *Брат клепле мне кóсу.* Запясочча. *Ото бабка, шо кóсу клепаюць.* Сямурадцы. Бразгаць. *Чутно, нейдзе клепле ведром.* Альшаны. Застукваць у гульні ў хованкі. *Ты ідзі клепі.* Альпень.

КЛЕПЕ′ЧКО *м. метаф.* Бусел. *Бýсько, клепечко, знесі мне еечко, тобе дзве, мне однэ, шоб ты жыў на кублє* (дзіцячая песенька). В. Малешава.

КЛЕ′ПКА *ж.* Клёпка. *Наколоў дýба на клепкі.* Аздамічы.

КЛЕ′ПЛО *н.* Драўляны балабон на шыі ў скаціны. Альпень.

КЛЕ′ПЧЫНА *ж.* Адна клёпка. *У ражцы одна клепчына доўжэй.* Кароцічы.

КЛЕ′ТКА *ж.* 1. Сціртa нарэзаных і наколатых дроў.

*Дрова кладом у клетку.* Луткі. *П'яць клеток дроў насёк да наклаў, шчо на цылы год хваціць топіць у печэ.* Кароцічы. 2. Асобная частка прасторы ўнутры гарбуза. *Е гарбузá і ў тры клеткі.* Цераблічы. 3. Чатырохвугольнік, невялікае памяшканне, клетка. *Скацерсцé ткалі ў клеткі.* Луткі. *Одно клетка от мліна осталаса.* Мачуль.

КЛЕТКОВА'ТЫ *прым.* У клетачку. *Клетковатэ плацье.* Луткі.

КЛЕЦЬ *ж.* Клецьь. *Клецьь, ек склад. Колісь жэніліса, то туды спаць водзілі.* Чэрнічы. *Холóднэ построенейко зроблено на лето, туды, у ту клець, спаць ішлі.* Сямігосцічы.

КЛЕЧА'НЬЕ *н.* Зялёныя галінкі, якімі ўпрыгожваюць хату на тройцу. *Як клечанье на тройцу посохне, то кажуць: сена наробім зелёного, а як пойдзе дождж, то і сено будзе чорное.* М. Малешава. *Клечанье не стаўляць до году, як хто умрэ.* Луткі.

КЛЕ'ЧКО *н. метаф.* Бусел. *Бусько, клечко, знесі мне еечко.* Аздамічы.

КЛЕШЧ *м.* Клешч. *Большу часць на корову попадаюць клешчы́.* Луткі.

КЛЕШЧОВА'ТЫ *прым.* Падобны да клюшні. *Клешчоватэ дзерэво.* Аздамічы.

КЛЕШЧОНО'ГІ *прым.* Клышаногі. *Ек колено ў колено трэцца, то зовуць клешчоногі.* М. Малешава.

КЛЕ'ШЧЫ *мн.* 1. Клешчы (у хамуце). *Клешчы робілі з берэ́зіны.* Верасніца. 2. Клюшні ў рака. Запясочча.

КЛЕШЧЫ'НА *ж.* Кляшчына (у хамуце), адна вілка ў дрэве з двума стваламі. Хотамель.

КЛЁВА'ЦЬ *незак.* Кляваць, біць дзюбаю. *Квоктуха клёвала другу́ квоктуху, да ў тоé другое опухла голова.* В. Малешава.

КЛЁК *м.* 1. Жыццёвая сіла, моц, энергія. *Міце, вода с цебе весь клёк вуцегне.* Кароцічы. *Мало ўжэ ў дзеда клёку, ледвы ляпае.* Луткі. *Вусохла вішня, нема клёку.* Верасніца. 2. Розум, развага. *Нема клёку ў голове ў цебе.* Хачэнь. 3. Кароткая тонкая палка, якая ўтыкаецца ў зямлю пры дзіцячай гульні. *Такого колочка вýстругаюць да зовуць клёк.* Запясочча. Той, хто водзіць у гульні. *Володзя, ідзі за клёка.* Запясочча.

КЛЁН *м.* Клён. *На тройцу ў нас клён затыкаюць за окна.* Сямурадцы.

КЛЁЎ *м.* Дзюба. *Клёў у веселцá длінны, ек у бýська.* В. Малешава.

КЛЁ'ЎЗАЦЬ *незак.* Дзюбаць. *Шо вон его клёўзае, то шо ему зробіць!* Цераблічы.

КЛЁ'ЎЗНУЦЬ *зак.* Дзюбнуць. *От два разы нехай клёўзне ў голову, то заб'е.* Цераблічы.

КЛЁЦ *м.* Цурбан. *Як дерэво роспілують, то клёцы кажуть.* Альпень.

КЛЁ'ЦКАЦЬ *незак.* Рабіць печыва дрэнна, не выпякаць, як трэба. *Клёцкае варэнікі, шо свіньям!* Верасніца.

КЛІ'БІЦЬ *незак.* Тлумачыць. *Ох, шуляк, колькі тобе можно клібіць!* М. Малешава.

КЛІН *м.* Клін. *Колоць дрова кліном трэба, як не подаецца.* Аздамічы. *Подрушнік у сороццы, а ў свіці ці кохце — клін.* Луткі. *Екі ясень, такі клін, екі бацько, такі сын* (прыказка). Верасніца. *Памянш.* к л і н о́ к. *Клінок забіў у берозу для соку берозового.* Мачуль.

КЛІНОВА'СТ, КЛІНОВА'СЦЬ *м.* Клінок для адціскання сыру. *Кліноваст мо е, то откінемо молоко.* Бярэжцы. *Кліновасць.* Запясочча.

КЛОК *м.* Камяк валакна, воўны, поўсці. *Як мучку спрадуць, зостаецца-клок.* Луткі. *Сковороду клоком не подмазвають* (прыказка). Мачуль. *Хай клок воўны, абы кішка поўна* (прыказка). Хотамель.

КЛОП *м.* Прылада рабіць гукі ў вадзе пры лоўлі самоў. *Таке копутце той клоп сомоў клопа́ць.* Запясочча.

КЛОПА'ЦЬ *незак.* Лавіць самоў, робячы ў вадзе гукі пры дапамозе спецыяльнай прылады. *Клопають сомоў у спаса.* Запясочча.

КЛО'ПОТ *м.* 1. Клопат, турботы. *На́шчо ім той клопот с тою коровою, корові трэба одрына, корові трэба ўсе.* Хачэнь. *Нашчо мне чужы клопот!* Сямурадцы. 2. Няма клопату, хай сабе. *Клопот, ты ж не ўеждждаеш!* В. Малешава. *Клопот, шо байструк, абу с хорошых рук* (прыказка). М. Малешава. *Хочэ іці, хай ідзе, клопот.* Дварэц. *Ой, мне клопот, продавай!* Запясочча. 3. Планка над жорнамі, у якую ўстаўляецца млён. Альшаны.

КЛО'ПОТНО *прысл.* Турботна. *Чоловека нема, то клопотно.* Дварэц.

КЛО'ПОТНЫ *прым.* Турботны. *Робота лехчэйша, но кло́потна.* М. Малешава.

КЛОПОЦІ'ЦЦА *незак.* Клапаціцца, турбавацца. *Клопо́ціцца, шо дзеці одные.* Аздамічы. *Там, у го́родзі, не клопо́цісса ні тым сеном, ні скоціною.* Цераблічы.

КЛО'Ч'Е *н.* 1. Адыходы з ільноввалакна. *Бувало, і клоч'е перэму́кваём і прадом.* Тураў. *Клоч'е прадуць,*

*мешкі, дзеругі ткуць.* Луткі. *А ў іншом колодзежы вода, бы клочье, така м'еккáя.* Велямічы. 2. Мязга ў гарбузе. *Тэ клоч'е вырэ́зваём у гарбузоў.* Альшаны. *Памянш.* клóчэйко. М. Малешава.

КЛОЧЭНІ'К, КЛОЧНІ'К *м.* 1. Вандроўны гандляр-мяняла, анучнік. *Не ездзяць клочэнікі зарэ.* Луткі. *Онучы заберэ клочэнік так, а дасць куклу гóрэню, то грошы возьмé.* Луткі. *А саціны нема ў клочнікá?* Пагост. 2 *мн.* Пража з адходаў ільну. *С клочэнікоў ткуць абу-еке родно.* Тураў.

КЛУБ *м.* 1. Клуб (у жывёлы, чалавека). *У клубе боліць.* Аздамічы. *Корова така худая, от эту шапку на клубе повесіш.* Мачуль. 2. Клубок, шар. *Пчолы ж у клубі окучэны зімою.* Хотамель.

КЛУБО'К *м.* Клубок. *Клубкоў навіла цэлу поліцу.* Верасніца. Шар. *Ек схопіцца клубок сінёго гню с того дубу!* Там жа. *Коліся прусы́ клубкамі!* Хотамель. *Бачыў о такі клубок ужоў.* Цераблічы.

КЛУ'НЯ *ж.* Клуня. *У клуні лежало жыто, просо.* Альпень. *Петро, о Петро! Клуня згорэла!— А мышы? — Згорэлі!— То й не шкода й клуні* (жарт). Мачуль.

КЛЫ'КАЦЬ *незак.* Глытаць з цяжкасцю. Запясочча.

КЛЫМПОВА'ТЫ *прым.* Выкручаны, нязграбны. *Некіе ногі ее клымповатые.* Верасніца.

КЛЫ'НДАЦЬ *незак. экспр.* Ісці павольна. *Клындае сюды гуляць.* М. Малешава.

КЛЫ'ПАЦЬ *незак.* 1. Ісці паціху. *Клыпае гэ ззаду вон.* Запясочча. 2. Плюскаць. *Клыпае очыма.* Мачуль.

КЛЫ'ШАВУ, КЛІ'ШАВУ *прым.* Клышаногі. *Клішавы чоловек, як вузко ногі да труцца колені.* Мачуль. *Клышаву.* Хільчыцы.

КЛЫШМА'ТЫ, КЛІШМА'ТЫ *прым.* Тое ж. *Клішматы, колі колено об колено трэцца.* В. Малешава. *Клышматы.* Хільчыцы.

КЛЮ'БА *ж.* Кіёк для абапірання пры хадзьбе. Альшаны.

КЛЮЧ *м.* 1. Ключ. *Ключоў не було на сало, захоцеў есці — беры.* Альпень. 2. Клін птушак. *Ключэ́м летять гусі ў поврэй.* Альпень. 3. Ланцужок, рад, шарэнга. *Ключ дзецей за ім!* Запясочча. 4. Трубка чыніць каўбасы. *Раньшэ надевалі коўбасу на ключ, а тепер на машынку, на трубку надеў, да як бачыш!* Альпень.

КЛЮЧА' *ж.* Кіпецень, вар. *Ключэю трэба опарыць тэ*

*яблука да ў слоік*. Луткі. *Б'е вода, бы тая ключа*. Верасніца. *Нагрэй мне ключы чыгун*. М. Малешава.

КЛЮЧЫ'НА *ж*. Ключ у страсе. *Ключыны віселі на сволоку*. Кароцічы.

КЛЮЧЫ'НЬЕ *н. зб*. Ключы ў страсе. *На сволока ключынье вешаюць*. Цераблічы.

КЛЮЧЭ'Ю *прысл*. Уключ, ключом. *Кіпіць ключэю молоко*. Запясочча.

КЛЯК *м*. Загнутая галіна ці корань. *Для кокóр такіе клякі шукаюць у лесу, саморослые*. Дварэц. *Вон не копаны, а на голіні той кляк на полоз*. В. Малешава.

КЛЯ'МКА *ж*. Клямка ў дзвярах, язычок у капкане. *Не стукай клямкою*. Пагост.

КЛЯ'ПАЦЬ *незак*. 1. Ляпаць, ляскаць. *Сторож ходзіць да дошчэ́чкою кляпае*. Запясочча. *Драночку вецёр колыхае, а вона кляпае об дзерэво*. Там жа. *Цепер кляп — і горыць свет*. Луткі. 2. Быць ледзь жывым. *Она одна дома седзіць, ледво кляпае*. Хачэнь. 3. Пячы сала на ражне. *Дзеці ўжэ кляпаюць сало*. Верасніца.

КЛЯ'ПНУЦЬ *зак*. Ляснуць, ляпнуць. *Свет кляпнуў — і відно ў хаці*. М. Малешава. *Я то, праўда, подбег блізко, с колена разоў мо дзесець кляпнуў*. Мачуль.

КЛЯ'СЦІ *незак*. Клясці. *Шо я буду клясці свою худобіну!* Кароцічы. *Я цебе не клела, я только плакала*. Хачэнь. *Ужэ ўсе его кліну́ць, ганяць*. Сямігосцічы.

КЛЯ'СЦІСА *незак*. Клясціся. *Клінецца, не я*. Верасніца. *Клінуцца, одна одну кліне*. В. Малешава.

КЛЯ'ТЫ *прым*. Пракляты. *Будзеш і біты і кляты*. Луткі.

КЛЯ'ЧА *ж*. Бакавая палка ў рыбалоўнай сетцы. *Берэ́цеса за клячы да подцягвайце сетку*. Пагост.

КНОВА'ЦЬ *незак*. Вякаць, звягаць, часта паўтараць. *Не кноваць не можэ!* М. Малешава.

КНО'РОЗ *м*. Кнораз. *Здаецца, кнороз е ў некого на Ко́ндороўцы*. Тураў.

КНОТ, КНЫТ *м*. 1. Кнот, нітка ў свечцы. *Кнот нагорэў*. Мачуль. *Кнытá трэба ўложыць у свечку*. Альшаны. 2. Тонкая доўгая жардзінка. Альшаны.

КНУР, КНЫР *м*. Кнораз. *Дзікі кнур по нашых свіньях лазіць*. Хотамель. *У его буў свой бугай, свой кнур*. Цераблічы.

КНЫ'ПЕЛЬ *м*. Кароткая палка для закручвання гужвы ў плыце. Запясочча.

КНЫТОВА'ЦЬ *незак.* Збіваць жардзінкай жалуды. *Высечэш кныта і кнытуеш тые жолудзі.* Альшаны.

КНЮХА'ТЫ *прым.* Брухаты. *Вельмо кнюхаты магазіншчык.* Сямігосцічы.

КНЮХО' *н.* Бруха. *От кнюхо наеў!* Сямігосцічы. *Кнюхо загодоваў, бы ў свіньé.* Мачуль.

КОБ *злучн., часц.* Каб. *Ек у прымы, ка, іці, то луччэй, коб умéр.* Цераблічы. *Коб жэ рыбу браў, а то ж і сетку заберэ.* М. Малешава. *Коб да не кобу, то лезлі б самі ў коробку грыбу* (прымаўка). Там жа. *Поймай кóба за лоба* (прымаўка, пра нерэальныя жаданні). В. Малешава. *Раней коб не тыждзень, і сватэ і свахі — усе було.* Кароцічы.

КО'БЗА *ж. экспр.* Тоўстая сытая істота. *От пошла баба, бу кобза.* Запясочча.

КОБЛУ'К *м.* Абруч у кошыку, рыбалоўных лавушках. Велямічы.

КОБУ'ЛА *ж.* Кабыла. *Му кажом кобула, а вон кабула.* М. Малешава. *Не по кобуле хвост, колісь баба казала* (прымаўка). В. Малешава. *Прышый кобыле хвост, то ў ее свой прырос* (прыказка). Сямігосцічы.

КОБУ'ЛЕЧЫ *прым.* Кабылячы. *Коб кобулечэ молоко, то, можэ, поправіўса.* М. Малешава.

КОБУ'ЛКА *ж.* Вочка ў ніце. *Накідала не ў тую кобулку.* Верасніца. Верх шчакі. Мачуль.

КОВА'ДЛО *н.* Бабка для кляпання касы. Аздамічы.

КОВА'ЙЛО *н.* △ У к о в á й л о. Дзіцячая гульня з мячыкам. *У ковайло як гуляюць, то вукоўваюць м'ячыком, як хто поймае, то очко, як не поймае, то вулазіць.* В. Малешава.

КОВА'ЛЬ *м.* Каваль. *Одзін сопожнік буў, а одзін коваль буў, меў кузню.* Сямігосцічы.

КО'ВАНІК *м.* Акованы кіёк. *Пошла к своей куме да забула кованіка ўзяць, то ўпала.* Кароцічы.

КО'ВАНКА *ж.* Пасудзіна (з саломы або з клёпак). *Купіў кóванку гуркоў.* Цераблічы.

КОВА'НЬЕ *н.* Кладка яец насякомых у выглядзе пярсцёнка. *Кованье таке бу монісцінкі. Зоўзуля куе да тое кованье пускае, а цепер не ковала этой год, то й кованья нема.* Лутkі.

КОВА'ЦЬ *незак.* 1. Каваць. *До войны мой дзед коваў.* Чэрнічы. *Кую, кую ножку, поеду ў дорожку, дорожка крывенька, кобулка слепенька* (песенка-забаўка, якая суправаджаецца пастукваннем пальцам у пятку дзіцяці).

*Саша не куе, не меле* (прыказка, пра няздатнага чалавека). В. Малешава. 2. Набіваць камень у млыне. Цераблічы. 3. Кукаваць. *Зарэ не куе зезюлька.* Хачэнь. *Сова, як зоўзуля, куе, толькі нечыстым голосом.* Цераблічы.

КОВЕ'ЗІЦЦА *незак.* Нахмарвацца, зацягвацца белай муццю. *Нешчо ковезіцца небо.* Пагост.

КОВЕ'НЕЧНІК *м.* Месца ў хаце, дзе стаяць прылады для печы. Запясочча.

КО'ВЕНІ *мн.* Тое ж. *Возьмі постаў вілкі ў ковенях.* М. Малешава. *Ой, айдзе мене посадзілі — у ковенях, а ёго на покуці.* В. Малешава.

КОВЕ'ННІК *м.* Тое ж. М. Малешава.

КО'ВЕНЬ *м.* Тое ж. *У ковені стояць вілкі.* М. Малешава.

КОВЕ'НЬЕ *н.* Тое ж. Сямігосцічы.

КОВЕ'НЬКА *ж.* Кіёк з крывой ручкай; качарэжка. *Гэто дзеды старые носяць тые ковенькі.* Аздамічы. △ Загну́ць кове́ньку. Сказаць нешта дасціпнае. Кароцічы. Ву́кінуць кове́ньку. Зрабіць нешта нечаканае. М. Малешава.

КОВЕНЯ' *ж.* Качарга. *Поломаў ковеню, то й не будзе чым жа́ру вугрэбці с печы.* Кароцічы. *У своей хаці то й ковеня маці* (прыказка). Сямігосцічы. *Баба ковеню продавала, дай то мага́рыч пілá* (прымаўка). Аздамічы. *Кукарэку — баба ў рэку, дзед за ею с ковенею* (з казкі). Бярэжцы.

КОВЕРНУ'ЦЬ *зак.* Падкавырнуць. *Лапою кошка озьме́ да коверне да оччыніць столік.* Хачэнь.

КОВЕ'ЧНІК, КОВЕ'ШНІК *м.* Месца ў хаце, дзе стаяць прылады для печы. *Ковене ў ковечніку.* Сямурадцы.

КОГДЫ'ШНІ *прым.* Колішні. *У іх когдышнее, старыннее ўсе е.* В. Малешава.

КО'ДЛО *н.* Род, усе родныя па паходжанню. *Кодло, кагал, плем'е — одно і тожэ.* Альпень. *У нас называюць і по кодлу і по фамілях.* Альгомель. *О не! Не с того я кодла, шоб ёго бояцца!* Мачуль. *По кодлу і куры чубатые* (прыказка). Хачэнь.

КОДО'Л *м.* Вяроўкі ў невадзе, за якія яго цягнуць. *Кодол прыўязваецца посерэ́дзіне клячы.* Верасніца.

КОЕ'-ГДЗЕ *прысл.* Дзе-нідзе. *Кое-гдзе рошчышчалі.* Запясочча.

КОЕ'-ЯКІ' *займ.* Дзе-які. *Попутала кое-екого народу, старэйшых.* Аздамічы.

КОЕ′-КОЛІ′ *прысл.* Іншы раз. *Кое-колі прыносіць рыбу.* М. Малешава.

КОЕ′-ХТО *займ.* Хто-ніхто. *Шчэ й цепер кое-хто робіць.* Сямурадцы.

КОЕ′-ШЧО *займ.* Што-нішто. *Ужэ построіла кое-шчо.* Аздамічы. *Багато кое-чого е!* Альгомель.

КОЕ′-ЯК *прысл.* Сяк-так. *Порося кое-як вуесць.* М. Малешава.

КО′ЖА *ж.* Скура. *У свіні ўся кожа мешком знеласа.* Запясочча. *Красные картоплі і красна кожа.* М. Малешава.

КОЖА′Н, КОРЖА′Н *м.* Кажан. *Кожан по ночам лётае, така муш с крыламі.* Цераблічы. *Коржаны, хай воны подохнуць, я іх торкнуў, дак воны з-вулья!* Запясочча.

КОЖА′НЫ *прым.* Закажанелы. *Кожаные од дзікіх свіней поросята.* Хотамель.

КО′ЖДЫ *займ.* Кожны. *Кожды год вырóстае там муроғ добры.* Мачуль.

КО′ЖНЫ, КО′ЖЫН *займ.* Тое ж. *По хаміліі кожнóго знаю.* Луткі. *Кожны дзень отлівала вóду с колодзедзя.* Там жа. *Тры браты було, і ў кожнóго дзеці — двацдаць душ сем'я!* Чэрнічы. *Му ходзім кожын дзень.* Рычоў.

КОЖУ′Х *м.* Кажух. *Кожухá накінуў да пошоў.* Верасніца. *До светого духа не скідай кожýха* (прыказка). Аздамічы. *Кожух лежыць, а пан дрыжыць* (прымаўка, пра скупога пана). М. Малешава. *За спасібо кожуха не одзенеш* (прымаўка). Старажоўцы.

КОЖУ′Ш'Е *н.* Вялікі шчупак. *От таке велізнэ кожуш'е поймаў!* Запясочча.

КОЖУ′ШКА *ж.* Шчупак. *Як кожушкі сняцца, то клевета можэ быць.* Мачуль.

КОЖУШЛЕНЯ′ *н.* Маленькі шчупачок. *Поймаў кожушленят зелёных.* М. Малешава. *Памянш.* к о ж у ш л е н я́ т к о, к о ж у ш л я́ т к о. *Кожушлятка сініе ў траве.* Цераблічы. *Кожушленятко.* Луткі.

КОЖУ′ШМАН *н. экспр.* Вялікі шчупак. *Здорового кожушмана поймаў!* Кароцічы.

КОЖУ′ШНО *н. экспр.* 1. Кажух. *Як душно, то одзевай кожушно, а як холоднó, то одзевай лайно* (прымаўка). Запясочча. 2. Вялікі шчупак. *От кожушно!* М. Малешава.

КОЖУ′ШОК *м.* Шчупак. *Кожушок кожушка з'еў. Поба! У карукý седзіць.* Луткі.

КОЖЫ′ННЫ *займ.* Кожны. *Кожынны берэ і мае.* Дварэц.

КОЖЭ′ЎНІК *м.* Гарбар. *Кожэўнік маў кожэўню ў Городку.* Цераблічы.

КОЗА′ *ж.* 1. Каза. *У нас дзве козе було, то по два літры давалі.* Хачэнь. *Прыдзе коза до воза, да сена не будзе* (прыказка). Запясочча. 2. Трава сівец. *Трава така коза, корові ў мусу набіваецца, вона суха́ да короценька.* Запясочча. *Коза— козіная шэрсць бы.* Там жа. *Коза вельмі слізка́ под косою, му і мучка зовом.* Дварэц. 3. Прыстасаванне ў пярэдняй частцы лодкі, дзе раскладваюць агонь пры начной лоўлі рыбы восцямі. Запясочча. 4. Хвосцік у гарбуза. *Не дбі козы, бо гарбуза́ гнісціме.* Альшаны. 5. Крыжавіна, якой прыціскаюць салому на вільчыку. Пагост. 6. Старажытны танец. *Як на веселы, бувае, подоп'юць, то, бувае, кажуць: давай погуляём у козу́.* Сямігосцічы. 7. Прылада мерацць поле. Цераблічы. 8. Засохлая слізь у носе. М. Малешава. 9. Грыб саркадон чарапічны. Сямурадцы. △ Д з і к а я к о з а́. Каза, што жыве ў лесе. К о з а́ - л е б е з а́. Персанаж казкі, каза-дзераза. Альшаны. К о з у́ д а в а́ ц ь. Рабіць стойку (пра дзяцей). *Вона козу давала да мордою ў песок.* Кароцічы.

КОЗА′К *м.* 1. Рухавы смелы чалавек. *Быстрая жонка, як козак!* М. Малешава. 2. Укладка нарыхтаваных дроў у лесе. Запясочча.

КОЗАКОВА′ТЫ *прым.* Смелы, бойкі. *Козаковата дзеўка, ей на дорозі не стой.* Мачуль.

КОЗА′ТЫ *прым.* Паточаны, шашаляваты. *Козатые картоплі.* Луткі.

КОЗАЧО′К *м.* 1. Дзьмухавец. *Нарвала мех козачкоў, дай подужаў той Іван.* Дварэц. 2. Старадаўні танец. *Козачок — то тэ, шчо по-ўкраінску гопак.* Цераблічы.

КОЗАЧЫ′НА *ж.* Верхняе мужчынскае адзенне (доўгая світа, кажух). *Дзе ты положыў свою козачыну?* Верасніца. Жаночае верхняе адзенне, расклёшанае ўнізе. *Козачына — пальто такее дванаццаціклінка, ззаду ў ладунках такіх.* Луткі.

КО′ЗЕЛ *м.* Просты вузел. *Звезаў на козел.* Луткі.

КОЗЕНЯ′ *н.* Казляня. *Казаў бацько, козу дам і з маленькім козеням* (прыпеўка). Бярэжцы.

КОЗЁЛ *м.* 1. Казёл. *Коб упусціць козла ў без, зара́з бы ўсе змолоў!* Хачэнь. *Козёл нагле біўса, коб вон здох!* Сямурадцы. 2. Асот вадзяны. *Козлы поедаюць свіньня, во-*

*ны ростуць, дзе грузкée дно*. Верасніца. 3. Дзіцячая гульня. Адзін стаіць, сагнуўшыся, а на яго ўскокваюць па чарзе ўдзельнікі гульні і стараюцца ўтрымацца. Цераблічы. 4. Той, хто падкідае мячык пры гульні ў лапту. Лутmedian.

КОЗЁЛКО *н.* Рагач, на якім сушаць збанкі, банкі, кубкі. Талмачава.

КОЗЁЛЦЫ *мн.* Крыжавіна, якой прыціскаюць салому на вільчыку. Альпень.

КО′ЗІ-КО′ЗІ-КО′ЗІ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць коз. Дварэц.

КОЗІ′НЫ *прым.* Казліны. *Плётка с козіное ногі була ў дзядзька.* Лутmedian. *А козінэ не пахне молоко.* Бярэжцы.

КО′ЗКА *ж.* Грыб саркадон чарапічны. *Тые козкі такіе цьвордые, сівéнькіе.* Лутkі.

КОЗЛІ′ВУ *прым.* Паточаны, шашаляваты. *Козлівэе, таке негоднэ яблуко.* Лутkі.

КО′ЗЛІКІ *мн.* Рдзест. *Козлікі стояць у водзе з такімі дзюбочкамі.* Цераблічы.

КОЗЛЫ′ *мн.* 1. Прыстасаванне для прыціскання саломы на вільчыку. *Робімо козлы, коб не зносіў вецёр солому с хаты.* Мачуль. 2. Прыстасаванне для пілавання дроў. Дварэц.

КОЗЛЯКІ′ *мн.* Розныя ядомыя грыбы. *Я поўну шаньку козлякоў набрала.* Кароцічы.

КОЗЛЯКОВА′ТЫ *прым.* Паточаны, шашаляваты. *Картоплі козляковатые.* Сямігосцічы.

КОЗУ′ЛЬКА *ж.* Кузурка. *Столько е козулек, шчо не відно і травы.* В. Малешава. *Козулька, козулька, у яком боку твоя хатка? Ці ў том, ці ў том?* (паказваюць на ўсе чатыры бакі; дзіцячая прыказка, з якой звяртаюцца да божай кароўкі). Альшаны.

КОЗЫ′РОК *м.* Адліў, стрэшка пад шчытом. *Козырка шчэ не зробіў до шчытá.* Сямігосцічы.

КОЗЮ′-КОЗЮ′-КОЗЮ′ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць коз. Сямігосцічы.

КОЗЮ′ЛЬКА *ж.* 1. Кузурка. *Вороб'е разную козюльку едзяць.* Сямігосцічы. 2. Вочка на бульбіне. Запясочча. 3. Засохлая слізь у носе. Цераблічы. 4. Нос у сабакі. Запясочча. 5 *выкл.* Выгук, якім падклікаюць жарабя. Хачэнь.

КОЗЮ′ЧКА *ж.* Ямачка, дзірачка. *Гледзі, коб нідзе ніякое козючкі на фанерцы не було!* Лутkі.

КОЗЯ′ЎКА *ж.* Кузурка. *Качэнята лов'яць козявок, а хлеба не едзяць.* В. Малешава.

КО'ЙКА *ж.* Кош або лодка з дзіркамі ў дне для перавозкі свежай рыбы. Запясочча.

КОКО'РЫ *мн.* Дугі ў лодцы (аснова), да якіх прыбіваюць дошкі. Альшаны.

КОЛ *м.* Кол. *Под полом-полом ходзіць барышня с колом* (загадка). *Муш* (адгадка). Лутunion.

КОЛДЫБА'ЦЬ *незак.* Клыпаць. *Колдыбаю по уліцы поціху.* Аздамічы.

КОЛЕДА' *ж.* Калядны гасцінец дзецям. *Коледу на роздво несуць хрышчонікoм.* Запясочча.

КОЛЕДО'ВАЦЬ *незак.* Калядаваць. *Попрыходзяць хлопцы коледоваць.* Лутки.

КОЛЕІ'НА *ж.* Каляіна. Запясочча.

КОЛЕЙКА *ж.* Чарга. *Усе ў колейцы стоялі, а я збоку.* Запясочча.

КОЛЕ'НО *н.* 1. Калена. *У нас жонкі обуваліса по колено, а мужыкі нізенько.* Хачэнь. *Этэ прыданнэ хоць с колена колупай.* Лутки. *Осенею ложка воды, а по колено гразь.* Сямігосцічы. *Нек трэба на колено покласці і так ёго трусіць* (пра тапельца). Пагост. 2. Паварот ракі. *Коленом ідзе эта рэка.* М. Малешава. *Памянш.* к о л е н ц е, к о л е н ц о. *Дожджыку, сыпені, шчоб колюжкі булі, по коленцо брулі.* Талмачава. △ С е́ с ц і  н а  к о́ л е н ц а х. Прысесці, сагнуўшы ногі ў каленях. *Села на коленцах да беру тые яблука.* Хачэнь. Д а ц ь  к о л е́ н ц а. Ударыць каленам ззаду. *А тому дай коленца, у кого дрой ні поленца* (прыказка). Цераблічы.

КОЛЕСНІ'К *м.* Воз грузу на павозцы. *Колеснік меншый за санного воза.* Тураў. *Здоровух чотыры копі згрэблі сена, то ж цэлы колеснік сена будзе.* Лутки.

КОЛЕСНІ'ЦА *ж.* Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Тураў.

КОЛЕСНЫ' *прым.* Калёсны. *Колесная дорога.* Лутки.

КОЛЕСНЯ' *ж.* Усе дэталі і часткі да воза. *Усю колесню сам робіў.* М. Малешава.

КО'ЛЕСО *н.* Кола. *Поломалосо колесо ў возі, то і жыткі ў іх не будзе* (пра маладых на вяселлі). Вераснiца. *Чотэры браты под одноёю крышэю жывуць, одзін одного догоняюць, але не дожэнуць* (загадка). *Колёса ў возі* (адгадка). Хачэнь. *Памянш.* к о л е с ц е́. Запясочча.

КОЛЕСОВА'ЦЦА *незак.* Чаргавацца. Запясочча.

КОЛЕСОВА'ЦЬ *незак.* Кружыць. *Чую, ужэ собака подняў, рушыў і ўжэ колесуе.* Мачуль. *Хто колесуе, той дома не ночуе* (прыказка). Цераблічы.

КО′ЛЕЧКА *мн.* △ Н а  к о́ л е ч к а х. На кукішках. *На колечках рваў лён.* Сямігосцічы. Н а  к о л е ч к а. На калені. *На колечка посадзіў дзіця.* Альшаны.

КОЛЕШЧА′ *мн.* Зубчатыя колы на навоі. Запясочча.

КОЛЁСА *мн.* Воз. *Сухе лето, то, бра, колесьмі едзеш.* Цераблічы. *Ці-ці-пор, ці-ці-пор, кідай сані, беры колёса* (пра песню сініцы ўвесну). М. Малешава.

КОЛЁСКО *н.* Дзіцячыя калёскі. Аздамічы.

КОЛЁСЦЭ *н.* Матавіла. *Осё о колёсцэ, шчо нíткі мотáём.* Сямігосцічы.

КОЛІ′ 1 *прысл.* Калі. *Колі здохло, а колі провоняло* (прымаўка). М. Малешава. 2 *злучн.* Калі. *Колі я побегла, а воны ў жыці.* Лутқі. *Колі бачымо, аж собакі жэнуць кобана от такого!* Там жа. *Оддай свое, колі ты мое пропіў.* М. Малешава. 3 *часц.* Калі. *Не було колі мне спаць.* Аздамічы. *Хочэцца жыць, да ўжэ нема колі.* Хачэнь. *Колі ж вона зайшла?* Бярэжцы.

КО′ЛІСЬ, КО′ЛІСЯ *прысл.* Калісьці, даўно. *Колісь у клецях цэлу зіму спалі.* Мачуль. *Колісь рыбы було больш, чым цепер.* Тураў. *А колісь-росколісь, то ховаецца дзеўка на гору, як прыдуць тые бацькі сватаць.* Запясочча. *Это колісяпасці коровы трэ було дзіцяці.* Хотамель.

КО′ЛІСЬНІ *прым.* Даўнейшы, старажытны. *Колісьніе людзі здоровейшые багато булі за цеперэшніх.* Верасніца. *Нема того колісьнего саду, помёрз вон.* Луткі.

КОЛІ′-ТО *прысл.* Калі ж. *Колі-то мне сена дасце?* М. Малешава.

КО′ЛІШНІ *прым.* Даўнейшы. *Гэта моцно колішня песня.* Хачэнь. *С колішнего ведзецца.* Запясочча. *Там цепер вусохло, нашчо тобе колішне.* Луткі. *Ек здўмаю колішні голод да бедоту, то ох!* Сямігосцічы.

КО′ЛІШНІК *м.* Старажыл. *Мы тут колішнікі.* Бярэжцы.

КО′ЛКІ *прым.* Каляны, не размяты. *От плацья поўжымала ворох. Поўжымала, а заўтра позолю дай покухмару, шоб не було колке.* Пагост. *У той цэд мочалі плацье, шоб не було колке.* Верасніца.

КОЛО, КОЛЕ, КОЛІ *прыназ.* Каля. *Навозілі каманёў коло колхозного двора.* Мачуль. *Я годоваўса коло іх, коло гэтых коней.* Дварэц. *Седзіць коле ока улья.* Запясочча. *Колі коміна ў стрэ́ху запхнуў.* Луткі.

КО′ЛО *н.* Круг у дзіцячай гульні. *Дзеці коло робяць.* Луткі. Кон у дзіцячай гульні. *Ты ў коло, а я ў поле.*

Лутківі. Банда, група, гурток. *Пі, пі, укрўцісса ў яке коло!* Аздамічы. Харавод. *На Юр'я дзеўкі ў коло поберуцца, ходзяць по жыту да поюць.* Мачуль. Круг у танцах. *Я іду да прамо ў тэ коло танцоваць.* Верасніца. Адзін «шаг» (пасаж) у дзіцячай гульні (адзін квадрат у гульні «ў скакалку» і інш.). Кароцічы.

КОЛО'ВОРОТ, КОНО'ВОРОТ *м.* Журавель у калодзежы. *Это называўса коловорот, шо вон коловаўса.* Сямігосцічы. Прыстасаванне, на якім паварочваюцца вароты або дзверы ў адрыне. *Коноворот, коб легчэй цегці.* Цераблічы.

КОЛО'ВОРОТОР *м.* Журавель у калодзежы. Чэрнічы.

КОЛОВУ'РЫЦЬ *незак.* Каравуліць, сцерагчы. *Трэба як коловурыць.* Запясочча.

КОЛОДА *ж.* 1. Калода. *Зімнее ўрэм'е да поехалі по колоды.* Мачуль. *Ту колоду як положыць, то тры дні везе.* Луткі. *Ік готовой колодзі добро огонь класці* (прыказка). М. Малешава. 2. Вуллё. *Коб гэтую хвою порэзаў, то було б чотыры колоды.* Верасніца. 3. Рад саломы на страсе. *Колода — одзін шар соломы, як стромчэйша хоромі́на, то дзев'яць колод.* Кароцічы. 4. Сядзенне для малых дзяцей, якія не ўмеюць хадзіць. Цераблічы. △ Жы́то ў коло́дзе. Жыта, якое яшчэ не выкаласілася. *На Юрэй, як хорошэго году, то жыто ў колосе, а як плохого — то ў колодзі.* Запясочча. Жы́то (трава́), як коло́да. Пра густое добрае жыта, траву. *Жыто, ек колода — густэ, чыстэ, хорошэ.* М. Малешава. *У його трава, бу колода, а на моём ніц нема.* В. Малешава. Трава́ коло́доою. Густая трава. Бярэжцы. Ле́гці коло́доою. Паручыцца, заступіцца рашуча, настойліва. *Там колодою ўсе леглі за його.* Луткі.

КОЛОДА'Н *м.* Гаспадарчы нож з драўлянай ручкай. *Бувало, только колодан нож.* Луткі.

КОЛОДА'НКА *ж.* Частка курыльнай люлькі, куды набіваюць тытунь. *Во колоданка, а во цубук у люльцы.* Цераблічы.

КОЛО'ДЗЕЗНЫ *прым.* Калодзежны. *Змувай колодзезной водой, то пройдзе* (пры апёках жаберам). Цераблічы.

КОЛО'ДЗЕЗЬ, КОЛО'ДЗЕДЗЬ *м.* 1. Калодзеж. *А снегу, шо не можно колодзезя одгрэбці.* Запясочча. *У нас колодзедзь ж жураўлём.* Верасніца. *С колодзедзя берэ і суседка воду.* В. Малешава. 2. Зруб. *Колодзедзя скла-*

*лі, а кроквы шчэ ў хаці не поставілі.* Луткі. *Памянш.* к о л ó д ч ы к. *У том колодчыку хорóша вода.* В. Малешава.

КОЛО′ДЗІНА *ж. перан.* Мажная асоба. *Колодзіна добра, сто дваццаць кіло!* Дварэц.

КОЛО′ДЗІЦА *ж.* Калодка ў коле. *Колодзіца робіцца дубова.* Хотамель.

КОЛО′ДЗІЦЫ *мн.* Старажытныя дзверы на калодках са шпянямі ўнізе і ўверсе. Аздамічы.

КОЛО′ДЗЬЕ *н. зб.* Калоды. *Колодзье — куча дзерэва.* Луткі. *Ушыецца худоба ў это колодзье, не вугнаць.* Кароцічы.

КОЛОДНЕ′ЦЬ *незак.* Буцьвець (пра палена пад карою). Запясочча.

КОЛО′К *м.* Кол, завостранае палена. *Убі два колкі ў плот.* Запясочча. *У хаці поб'юць колкі і снуюць кросна.* М. Малешава. *Я, кажэ, толькі прожыў, колькі воробей на колку постояў* (пра 90-гадовага дзеда). Сямурадцы. *Одным колком плота не подопрэш* (прыказка). Старажоўцы. △ Я к о д к о л к á. Вельмі хутка, рэзка. *Просто пошоў хлопец як од колка росці.* Луткі. *Нешчо пошэптаў, то пошло ек од колка.* Там жа.

КОЛОМА′ЖКА *ж.* Малыя выязныя сані. *А була эта коломажка, такіе санкі, у нас коломажка называецца.* Бярэжцы.

КОЛО′МАЗЬ *ж.* Каламазь. *Вуж не пойдзе на коломазь.* Луткі. *Возьмі коломазь да помаж колёса, шоб не пішчалі.* Верасніца.

КОЛОМУ′ТНЫ *прым.* Каламутны. *Коломутна вода, не можно плацье полоскаць.* М. Малешава.

КОЛОМУ′ЦІЦЬ *незак.* Каламуціць. *Дзеці коломуцяць воду.* Верасніца.

КО′ЛОС *м.* Колас. *Розгрэ́бае вороха і шчыняе граблямі колоса.* Хачэнь. *Снопу ставяць уверх колосáмі.* Верасніца. *Памянш.* к о л о с о к. *Пора, маці, жыто жаці, колосок схіліўса. Пора, маці, дочку ддаці, ўжэ голосок зменіўса* (з песні). М. Малешава.

КОЛО′СЕЙКО *н. зб.* Каласкі. *Колосейко позбірае на пожні ўсе чысто.* Луткі.

КОЛОСІ′СТЫ *прым.* Каласісты. *Жыто колосістэ.* М. Малешава.

КОЛОСОВА′НЬЕ *н.* Амеці. *Колосованье оддаюць кýрам, куды ж ёго дзеваць!* М. Малешава.

КОЛОСОВА′ЦЬ *незак.* Каласаваць. *Ечмень коло-*

*суюць, тые осцюкі соб'юць на муку, шоб чысты буў.* Аздамічы. *Перэб'юць цэпамі, а далей колосуюць просо, да ўжэ й м'екіна тобе.* М. Малешава.

КОЛО'СЬЕ *н. зб.* Калоссе. *Як з'яжэ сноп, то ў одном концы колосье, а ў другом гузыр.* М. Малешава.

КО'ЛОТ *м.* Акалот, абабітыя снапы. *Обіў, обіў снопу одзін да другі бок дай покінуў, то тэ колот. З гэтого колота сечку рэжуць.* Цераблічы.

КОЛОТНЯ' *ж.* Калатня, сварка, шум, валтузня, бойка. *Дзень і ноч у хаці колотня, і як жыць у гэтой хаці!* Луткі.

КОЛОТУ'ША *ж.* 1. Зацірка. *От заколоцяць у яком коўшэ, перэцеруць да ў горшчык, от і колотуша.* Кароцічы. 2. Калатня, сварка, звада. *Прыдзе той п'яніца і зноў зробіць колотушу.* Запясочча.

КОЛОТУ'ШКА *ж.* Даўбешка. *Як дасць колотушкою по лёду, то рыба і вувернецца.* Сямігосцічы.

КОЛОЎКІ' *прым.* Які вагаецца, хісткі. *Колоўкіе булі чоўны з дзерэва.* Чэрнічы. *Лодка колоўка да так о седзіш і не дышэш.* Пагост.

КОЛОЦЕ'ЧА *ж.* Калатня. *От у мене ў хаці була колоцеча!* Пагост.

КОЛОЦІ'ЦЦА *незак.* Сварыцца, рабіць зваду. *Ек на току не молоціцца, то ў хаці колоціцца* (прымаўка). Аздамічы.

КОЛОЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Трэсці. *З простудзенья колоціць вельмі.* Аздамічы. Выкалачваць, выбіваць. *Я даўно сажу с коміна колоціла.* Хачэнь. Вымалочваць. *Тые кучкі поставяць, воны посохнуць, адале іх праніком колоцілі.* Сямігосцічы. *Лён трэба колоціці.* Хотамель. 2. Раскалочваць. *Ложка така веліка дзерэвянна, і тоею ложкою колоцяць.* Луткі. Збіваць. *Масло я колоціла з ёго, с козіного,— белэ.* Бярэжцы.

КОЛО'ЦЦА *незак.* 1. Трэскацца. *Коб не колоўса ток, сыплюць мекіну.* Хотамель. 2. Калоцца. *Цепер натру той бодзягой, то і ўзаўтрэ колецца вона.* Хачэнь. 3. Біцца рагамі. *Як первы раз вугоняюць на пашу, то короў бунтуюцца да колюцца.* Хачэнь.

КОЛО'ЦЬ *незак.* 1. Разбіваць. *Вона сама дрова колола і складала.* Хачэнь. 2. Біць рагамі. *Корова свою хозяйку не коле.* Хачэнь.

КОЛО'ША *ж.* Калашына, штаніна, частка панчохі без ступні. *Калоша ў штанах, ек цыганская.* Луткі. *Ко-*

*лошу одзевалі, ек жнуць, так у ногі коле*. Запясочча. Колóшы *мн*. Пер'е на нагах у курэй. Запясочча.

КОЛОША'ТЫ *прым*. З аброслымі пер'ем нагамі (пра курэй). *Колошатые пеўне́*. Дварэц.

КОЛО'ШВА *ж*. Калашына, штаніна, панчоха без ступні. Альпень.

КОЛО'ШНЯ *ж*. Тое ж. *Подкачвай колошні да ў поход*. Дварэц.

КОЛОШТА'Н *м*. У рыфмаванай прыгаворцы як найменне дажджу. *Дожджыку, колоштан, прошу цебе, перэстань! Бо я ў бога сірота, одчыняю ворота ключыком, замочком, шоўкóвенькім поводочком*. Луткі.

КОЛУВА'ЦЦА, КОЛЫВА'ЦЦА, КОЛУБА'ЦЦА, КОЛЫБА'ЦЦА, КОЛОВА'ЦЦА *незак*. Вагацца. *Човен колуваецца, гледзі не упадзі*. Буразі. *От там земля колуваецца, дзе плаў*. М. Малешава. *Слон колываецца да не стоіць хóрошэ*. Цераблічы. *Волна колыбаецца*. Луткі. *Коб жэ гэты дуб не колубайса!* Кароцічы. *Не становіса на колодзе, бо ўпадзеш, вона коловаецца*. Пагост.

КОЛУВА'ЦЬ, КОЛЫВА'ЦЬ *незак*. Вагаць, хістаць, *Не колывай гэту цацку, вона ўпадзе*. Цераблічы.

КОЛУ'ВОЧКА, КОЛЫ'ВОЧКА *ж*. Гушкалка. Альшаны.

КОЛУ'ПУШОК *м*. Палукашак на сані або воз. Кароцічы.

КОЛУ'ХАНКА *ж*. Гушкалка. *За эту бальку зацега́ю верэвочку, то дзеці гойдаюцца, это іх за́байка, это колуханка*. В. Малешава. *Колуханка на ветлі, шчо дзеці колышуцца*. М. Малешава.

КОЛУ'ХАЎКА *ж*. Тое ж. *Бацько, повесь мне колухаўку*. Аздамічы.

КОЛУХА'ЦЦА, КОЛЫХА'ЦЦА *незак*. Калыхацца. *Дзеці колушуцца на колуханцы*. Сямігосцічы. *Дзеўке́ на Петра колышуцца на колухаўках*. Мачуль.

КОЛУХА'ЦЬ, КОЛЫХА'ЦЬ *незак*. Калыхаць. *Хай колышэ Лекса дзіця*. Сямурадцы. *Гэто навука: колыхала мене — колышы і ўнука* (прымаўка). Хачэнь. *Богатому і чорт дзеці колышэ* (прыказка). Бярэжцы.

КОЛЫ'СКА *ж*. Калыска (стаячая). *Ідзі спаць, а то прыдзе воўк і з'есць колыску*. Аздамічы.

КО'ЛЬБА *ж*. Свердзел. *Кольбою ў дзерэві круцяць дзіркі*. Сямігосцічы. *Памянш*. кольбочка. Запясочча.

КОЛЬБЕ'ЛЬ, КОЛБЕ'ЛЬ, КОЛЫБЕ'ЛЬ, КОЛУ-

БЕ′ЛЬ *ж.* Калыска. *Пóлог над кольбелью буў навек.* Цераблічы. *Кольбель очэплю на плечы да іду на роботу.* Сямігосцічы. *П'яць колбелей у хаці віселої* Верасніца. *Дзеці колышуць на колыбелі.* Альшаны.

КО′ЛЬКА *ж.* Коліка. *Нешчо на кольку берэ, млею, а горачка его ведае!* Мачуль. *Шоб цебе колька ўзела!* (праклён). Сямігосцічы. *Усе цело на колькі ўзело.* В. Малешава.

КО′ЛЬКО, КО′ЛЬКІ *прысл.* Колькі. *А колько тобе плаціліп?* Хачэнь. *Годоў колько було сухіх, а цепер нема і конца і краю — лье.* Запясочча. *Колько слалі лён, то й раз не седзелі.* Пагост.

КОЛЬЦО′ *н.* 1. Пярсцёнак. *А ў этой кольцо було на руцэ, вона этэ кольцо ўзела знела.* Кароцічы. 2. Дзіцячая гульня. Які-небудзь прадмет маці непрыкметна дае з рук у рукі аднаму дзіцяці, а другое дзіця адгадвае. Альпень.

КОЛЬЦОВА′ЦЬ *незак.* Даваць у рукі які-небудзь прадмет пры гульні *ў кольцó.* Альпень.

КОЛЮ′К *м.* 1. Калючка. *Колюкі на капелюшніку.* Аздамічы. *Колюк, раз колецца, обзываюць.* Альпень. *Колюкі ў хвосце ў коня вычэшы.* Альшаны. 2 *мн.* Расліны з калючкамі (лопух, асот палявы, бадзяк і інш.). *Трава — одные колюкі!* В. Малешава. *Памянш.* к о л ю ч ó к. *Возьмеш возона без колючкоў да прыкладзеш до ваўкі.* Хачэнь.

КОЛЮКІ′ *мн.* Сядзёлка. Верасніца.

КОЛЮ′ЧКА *ж.* Карова, якая б'е рагамі. *Колюча корова — колючка.* Запясочча.

КОЛЮ′ЧЫ *прым.* Калючы, які можа скалоць. *Колючы бугай, гледзеце, сколе.* М. Малешава. △ К о л ю́ ч ы в а з ó н. Альяс, кактус. Бярэжцы.

КОЛЮ′ШЧЫ *прым.* Калючы, які можа скалоць. *Ідзе корова колюшча.* Запясочча.

КОЛЯ′ДКА *ж.* Падарункі калядоўнікам. *Добры вечор, шчодры вечор, дайце колядкі, коб коровы булі гладкі.* Альшаны.

КОЛЯ′ДОВАЦЬ *незак.* Калядаваць (хадзіць па дварах, спяваючы калядныя песні). *На роздво коля́дуюць.* Бярэжцы.

КОМА′Р *м.* Камар. *Комарэ тоўкуць ступу — цеплó будзе.* Хачэнь. *Седзіць, ек комар у порохне.* Верасніца. *Стояць там комарэ на ногах, шо ціплета!* М. Малешава. *Комар говорыў овáду: если бы ў мене така шуба, як твоя,*

*я зімою с хозяіном у лес по дрóва ездзіў бу.* Любавічы.

КОМАРЭ'ЧА *ж.* Камарэча. *Воды нема, то й комарэчы нема.* Цераблічы. *Комарэча до самое зімы, не даюць спаць, путаюць: ці-ты-жы-ы-і-ў, ці-ты-ж-ы-і-ў, дай годзі.* Запясочча.

КОМЕ'ДНО *прысл.* Дзіўна, смешна. *Комедно, дзе чоловек подзеўса.* Мачуль. *Там шчэ комеднéй говораць, чым у нас.* Сямурадцы.

КОМЕ'ДНЫ *прым.* Дзіўны, смешны. *Беззубые старые воны комедные.* Запясочча.

КОМЕ'ХАЦЦА *незак.* Павольна дзейнічаць (рабіць, ісці і інш.), корпацца. *Комехаецца помалу с тым сеном.* Верасніца.

КО'МІН *м.* Комін. *От дым валіць с коміна, мабуць, смоловуе дрова.* Верасніца. *Коміны колісь з гліны робілі.* Запясочча. Палатняны (ці з саломы, лазы) дымаход над свяцільнікам з лучыны ў хаце ў мінулым. *Комін серэд хаты вісіць. Осенéй ужэ жэняць коміна, об'язваюць хмéлём. Мацер сыпле зернета і цукеркі на его, а дзеці збіраюць, і ўжэ вешаюць посвéт, і ўжэ свецяць свецéльнік, а до гэтого свету і не побачыш.* Лутկі.

КОМІ'НОК *м.* Лямпавае шкло. *Суседко, мо ў вас комінок лішні е?* Пагост.

КОМІНТРУ'С *м.* Брудная неакуратная жанчына. Запясочча.

КОМЛА'ТЫ *прым.* Калматы. *Грыва комлата ў коня.* Мачуль. *Хвойка комлата.* Бярэжцы.

КОМЛЕЧЫ'СТЫ *прым.* Камлюкаваты. *Комлечыстое дзерэво.* Альпень.

КОМЛЫ'К *м.* Цвёрды (ссохлы ці змерзлы) кавалак зямлі. *Бы комлык, дзейка.* Аздамічы.

КО'МЛЯ *ж.* Хадавая рыбалоўная прылада з сеткі на жэрдках з калкамі. Луткі.

КОМО'РА *ж.* Камора. *Спалі і зімою ў коморы.* Луткі. *Седзіць пані ў коморы, косы ее на дворы* (загадка). *Морква* (адгадка). Хачэнь.

КОМПА'Н, КОНПА'Н *м.* Сябрук, таварыш, хаўруснік, кампаньён. *Подожду компáна свого.* Цераблічы. *Мне конпана нема поседзець.* Луткі.

КОМПАНІ'ЧЭСКІ *прым.* Кампанейскі. *Воны хлопцы компанічэскіе.* М. Малешава.

КОМПА'НІЯ *ж.* Гурт шчадрэчнікаў. *Мо гэто к нам ужэ п'ята компанія прышла да спевае!* Луткі.

КОМПА'НКА, КОНПА'НКА *ж.* Сяброўка, канпаньёнка. *Мы ей не конпанкі.* Запясочча.

КОМПАНОВА'ЦЬ *незак.* Сябраваць, быць у адной групе. *Хай лепш з етым хлопцэм компануе.* Сямурадцы.

КОМПУ'ЗІЦЦА *незак.* Капрызіць, надзімацца, паказваць крыўду. *Компузіцца дзеўка, плачэ, свой капрыз постаўляе* (пра дзіця). В. Малешава.

КО'МЧАЦЬ *незак.* Комкаць. *Комчае хлеб без зубоў.* Мачуль.

КО'МШАНЫ *прым.* Мяты, цёрты. *Комшана солома с-под молоцілкі.* Бярэжцы.

КОМ'Я'ЧЫЦЬ *незак.* Камячыць. *Ком'ячыш плацье свое!* Альшаны.

КОМ'Я'ЧЭНЫ *прым.* Камечаны. *Ком'ячэнэ плацье, трэ покачаць.* Лутнкі.

КО'НАЎКА *ж.* Пасудзіна для вады. *Конаўку на сенокос бралі.* Кароцічы.

КОНДОРО'Б *м. экспр.* Таўстун невысокага росту. Пагост.

КОНЕ'Ц *м.* Канец. *Гэто не наш конец хороніў тых побітых, а той.* Чэрнічы. *Да йшчэ не конец, шчэ будзе дождж.* Дварэц. *А вужоў, то шо вон іх поб'е, то конца нема.* Лутнкі.

КОНЕ'ЧНЕ *прысл.* Канечне. *Конешне, межу не положэно було ораць.* Лутнкі. Крайне, вельмі. *Можно і с тыждзень побуць, не конечне воны нам.* Цераблічы.

КОНЁК *м.* Канёк на даху. *І конька ўдвоіх сцеглі.* Лутнкі. *От нешчо забівае дождж на гору, мо россохса конёк.* Верасніца.

КО'НІК *м.* 1. Страказа. *Конік летае, комароў есць.* Лутнкі. *Як багато конікоў, то будзе картоплюў багато.* Запясочча. 2. Палічка-касячок у вуглу. *Клечанье на коніка стаўляць.* Сямігосцічы. Бакавая дошка ў паліцы (з крукам унізе). Дварэц. Дошчачка з дзіркай, пры дапамозе якой падвешваецца да столі шост. Хотамель. Самы верх страхі. Бярэжцы. Дэка ў скрыпцы. Запясочча. 3. Удар па цурцы кійком (пры гульні *ў цура*). Запясочча. 4 *мн.* Люцік едкі. *Натрэш конікамі, то ваўка зробіцца.* Лутнкі. 5. Упрыгожанне на адзенні ў выглядзе ломанай лініі. Пагост. △ З р о б і ц ь  к о́ н і к а. Пакінуць след, стукнуўшы па тонкім лёдзе. Альпень. У  к о н і к і. У бакі. *От рано, так мене ў конікі ведзе.* М. Малешава. *Воны ў конікі ледво попрыходзяць, потом'яцца.* Дварэц.

КОНІ'НА *ж. зніж.* Конь. *Таку коніну маў добру, шо*

*на ўста́ве грошы давалі.* Сямігосцічы. *Коніна наеласа, а вон шчэ напоій.* Любавічы. *Коніну ўкусіць п'яць пчол, то конец.* Цераблічы. *Памянш.* к о н і н к а. *Одна конінка, і тая не цягне.* Верасніца.

КОНОВА'Л *м.* Канавал. *Некіе коновалы ходзілі аўстрыйцы, то ў нас ночовалі.* Луткі.

КОНО'ЗА *ж.* Капрызная фанабэрыстая асоба. Запясочча.

КОНО'ЗІЦЦА *незак.* Фанабэрыцца. *А вон конозіцца своею роботою.* Тураў. *Людзі сталі бога́чэйшые, да вельмо конозяцца.* Старажоўцы.

КОНО'ЗЛІВУ, ГОНО'ЗЛІ'ВУ *прым.* Капрызны, спешчаны. *Коно́злівэ этэ дзіця.* Луткі. *Вон такі гонозлі́ві, ек скажы, то засердзіцца.* В. Малешава.

КОНОЗО'БІЦЦА *незак.* Капрызнічаць, куксіцца. *Дзіця конозобіцца, нешчо нездорове.* Запясочча.

КОНОЗО'БКА *ж.* Пасудзіна ў выглядзе бочкі, сплеценая з лазы і саломы. *Конозобка плецёна така, жыто сыпалі, горло ву́зке.* Запясочча.

КОНОПА'ТКА *ж.* Кліночак, якім забіваюць мох між бярвенняў у сцяне. Запясочча.

КОНОПА'ТЫ *прым.* З пакалечаным носам. *Нехо́рошэ буць конопатому, але шчо зробіш, колі носа зуродовалі.* Тураў.

КОНОПА'ЦІЦЬ *незак.* Канапаціць. *Хату конопацяць, як зроб'яць струба.* Аздамічы.

КОНОПЕ'ЛЬКА *ж.* Канапелька. *Конопелька — это як ногі прэюць, то перэсыпаюць.* Луткі. *Пальцы поросцірай, то погоіцца од конопелькі.* М. Малешава.

КОНО'ПЛІ *мн.* Каноплі. *Коноплі сеелі, шоб точка не шла.* Дварэц. *С коно́плямі варэнікі колісь робілі.* Луткі. *Воробей с конопель, а сініца — з маку* (прымаўка). Сямігосцічы. △ К о н о́ п л і с е́ я ц ь. Звычай кідаць канапляную мякіну ў вокны ў пэўны дзень. *Гэто на Ондрэя коноплі сеялі. С'яты Ондрэй коноплі посей. Сыпнуць у окно да слухаюць, шчо там у хаці скажуць. Як скажуць «сядзь», то замуж не вуйдзе, будзе дома седзець.* Хачэнь.

КОНО'ПЛІШЧЭ *н.* Канаплянішча. *По коноплішчы жыто сеем.* Луткі.

КОНОПЛЯ'НКА *ж.* Канаплянка (хустка). *Зав'яжы хоця коноплянку гету, а то змерзнеш на дорозі.* Кароцічы.

КОНО'ПЛЯ'НЫ *прым.* Канапляны. *Коно́плена веро́йка сплецена хорошэ.* Цераблічы.

КО́НСКІ, КО́НЬСКІ *прым.* Конскі. *Конско копуто, на ём кожа тоўста́.* Запясочча. *Пастухом конскім давалі снéданье.* Сямігосцічы. △ К о н с к і  ш ч а в е р. Конскае шчаўе. *От хондзі, я сама зверáласа, помогае той коньскі шчавер.* Хачэнь. К ó н с к і  к в а с ó к. Конскае шчаўе. Альпень. К ó н с к і  с і т н і к. Балотныя ірысы. Запясочча. К ó н с к а  п'е ў г á. Слімак. Кароцічы. К ó н ь с к а  л е п е х á. Балотныя ірысы. *Коньску лепеху коровы́ і коні едзяць.* Луткі. К ó н ь с ь к і  р о м ё н о к. Рамонак. Луткі.

КО́НЧА *прысл.* Абавязкова. *Конча браць поўкопу́? Можно берэмочкамі.* Бярэжцы.

КОНЧА́ЦЦА *незак.* Канчацца. *Тые хлопцы кончаюцца зо сме́ху.* Хотамель. *Еслі не так, як вона скажэ, так, було, кончаецца!* Кароцічы. *Ужэ не чуе — кончаецца.* Пагост.

КОНЧА́ЦЬ *незак.* Заканчваць. *Началі кончаць, і зарэ не кончылі.* Хотамель. *Як кончаюць жаць, то беруць за конца серпа і так о кочаюць. Як упадзе ніцком, то на той год дожджэш жаць, а як уверх — то не дожджэш* (павер'е). Хачэнь.

КОНЧУ́К *м.* Канчук. *Вісіць кончук на сцене, бі по попу́, по жоне* (прымаўка). Аздамічы.

КО́НЧЫЦЦА *зак.* Кончыцца. *Кончыласа последняя квадра молодзіка.* Верасніца. *Сашочку п'яць кончылоса.* В. Малешава.

КО́НЧЫЦЬ *зак.* Скончыць. *Учора кончыла лён рваць.* Сямігосцічы.

КОНЬ *м.* Конь. *Конь ба́чыць уночы.* Верасніца. *Буў конь, да з'ездзіўса* (прыказка). М. Малешава. *Уродзіцца конь з лысіною, то вон здохне такі* (прыказка). Хачэнь. *Семсот свішчэ, а чэтырэ плешчэ, а дзве свечкі горацъ, а два янголі стояць* (загадка). *Конь у колёсах!* (адгадка). Там жа. △ Б і ц ь  к о н я́. Біць па цурцы палкай у час гульні *ў цурку.* Хачэнь.

КОНШЛЯ́ *н.* Конік. *Молодэ коншля, то лошак зовуць.* Рубель.

КОНЮ́К *м.* Канячына. *Два годы тому конюку́.* Цераблічы.

КО́НЮХ *м.* 1. Конюх. Хільчыцы. 2. Вялікі воўк. Хачэнь.

КОНЮШЫ́НА *ж.* Канюшына. *Сено таке хорошэ, наполовіну с конюшыною.* Сямігосцічы. *От засела конюшына, як шчотка!* Цераблічы.

КОНЯ'ЧКА *ж.* Канячына. *Дзве бáбу конячкою прыехалі дай корову прыв'язану ведуць.* Дварэц.

КОНЯ'ЧЫНА *ж. экспр.* Конь. *С скоціны ці конячыны шкура — это сырэц.* Любавічы.

КОПА' *ж.* 1. Даўнейшая адзінка меры колькасці (60 штук). *Годоў копа, то ожыдай попа* (прыказка). Запясочча. *Хапу, хапу, набрала копу, без сорока, без пеці, без петнаццаці* (прымаўка, жарт). Сямігосцічы. *Колісь по копе було тых дзецей!* (жарт). Верасніца. 2. Невялікая ўкладка сена, дроў стажком. *Знесом копы к тому стогу.* Аздамічы.

КО'ПАНЕ'Ц *м.* Канаўка напрасткі між двух кален ракі. *Некі дзядзько выкопаў копанéц для жака, то прорвало.* Пагост. Невялікі штучны вадаём. Альпень.

КО'ПАНКА *ж.* Копанка. *Уночэ копанка зашэрхла.* Сямігосцічы.

КО'ПАНЬ *ж.* Тое ж. *Дзе вутвý?— На копані.* В. Малешава.

КОПА'НЬЕ *ж.* Капанне, капаніна. *Багато копанья кружкі хаты.* Дварэц.

КОПА'ЦЬ *незак.* Капаць. *Вона ж не копала, прыслуга копала.* Бярэжцы. *Не копай на кого ямку, сам туды ўлеціш* (прыказка). М. Малешава.

КОПА'Ч *м.* Капальнік, грабар. *Конáўшчыкі булі і копачэ́, уручную копалі.* В. Малешава. *Дзе копачэ копалі, там іх і грошы пропалі* (прымаўка, пра п'янства). Там жа.

КОПЕ'ЙКА *ж.* 1. Дробная разменная манета. *У цебе нема копéёк?* Бярэжцы. *У ёго копейка копейку не догоняе* (прыказка, пра бедняка). Сямурадцы. *Одзеласа, ек нова копейка.* Старажоўцы. 2. Пасаж пры гульні *ў стоўпá.* Цераблічы.

КОПЕ'ЛЯ *ж. экспр.* Капа. *Розрослаcа, ек ека копеля!* М. Малешава.

КОПЕНУ'ЦЦА *зак.* Кінуцца, пабегчы. *Як копенуліс у корчы, толькі чулі й бачылі іх.* М. Малешава. *Воно як копенулоса, дак песком мне вочы засыпало!* Хачэнь.

КОПЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Піхнуць. *От гледзі, бо ек копену, той полеціш стырчма.* Кароцічы. *Коценя однэ одного як копене!* Запясочча. 2. Кінуцца на ўцёкі. *А вон, братко, як копенуў!* Мачуль.

КОПЕ'Ц *м.* Горка зямлі, вырытая кратом. *Крот земле̇ наточыў копец.* Хачэнь. Курган. *Доказвалі, шо город буў, й копец тамека.* М. Малешава.

КОПІ'ЦА *ж.* Капа (сена). Аздамічы.

КОПІ'ЦЬ *незак.* Складаць у копы (сена, салому). *І жонкі ко́пяць солому, ужэ ўся Дуброва скоплена.* Мачуль.

КО'ПКА *ж.* 1. Пячурка (дзе сушаць рэчы, дзе захоўвалі жар). *У нас ето копка ў печэ малая і велікая.* Запясочча. *Котка побег у копку.* Аздамічы. *Печ страхота́ була, і копка була ма́хіная.* Луткі. *Була копка под прыпечком ско́вороду класць.* Сямурадцы. 2. Бульба (у размове з дзецьмі). В. Малешава.

КО'ПКАЦЦА *незак.* Корпацца. *Я ўсе копкаюса коло печы, а ўжэ людзі на робоці даўно.* М. Малешава.

КОПНУ'ЦЬ *зак.* Таўхнуць, парнуць. *Можэ, у вочко ты копнула очкамі?* Луткі. *Як копну цебе, то ты побачыш!* В. Малешава.

КОПОНЕ'ЦЬ *незак.* Капаць моцна. *У мене аж з носу копоніць пот!* Бярэжцы.

КО'ПОЦЬ *ж.* і *м.* Копаць. *От копоць пошла, шчо не відно́ дажэ хаты!* Луткі. *Копоць ідзе такі, горкі нейкі, лезе ў рот.* Кароцічы.

КОПТУ'Р *м.* Дзіцячая шапачка. Альпень.

КОПУ'Л *м.* 1. Капыл у санях. *Копулы́ забіваюцца ў полоз, чэтыры штукі.* Аздамічы. *Копулы роб'яць з дуба.* Верасніца. 2. Калодка, па якой фармуюць абутак. Запясочча.

КОПУ'ТО *н.* Капыт. *Бувае, копуто прыло́муецца.* Запясочча. *Коні куюць, копута обрэзваюць.* Луткі. *Памянш.* к о п у́ ц і к. *Копуцікі ў його хорошые да ешчэ обрэ́заные.* В. Малешава.

КО'ПЦЕВА *ж.* Копаць. *От березы только копцева, як топіш.* Сямігосцічы.

КОПЦЕ'ЦЬ *незак.* Капцець. *Лампа горыць да копціць.* Запясочча.

КО'ПЦЁВЫ *прым.* Які капціць. *Копцёвые дро́ва з берэзы.* Цераблічы.

КОПЦІ'ЦЬ *незак.* Вэндзіць. *У нас м'ясо ко́пцяць шышкамі еловумі, гру́шовумі дровамі.* Запясочча.

КО'ПША *ж.* Капун, маларухавы, павольны ў рухах чалавек. Запясочча.

КОПШОВА'ТЫ *прым.* Тоўсты, павольны і цяжкі ў рухах. *Така копшовата баба, бы надута.* Запясочча.

КОПШУ'К, КАПШУ'К *м.* 1. Пузыр у рыбы; мачавы пузыр у жывёлы. *Копшук во ўсякой рыбіні е.* Дварэц. *Копшук е і ў кабана.* Кароцічы. 2. Капшук. *Копшук ка-*

*жуць, шо цюцюн класці.* Хотамель. *От ты стары копшук!* (на слабага чалавека). Мачуль. *Памянш.* к о п ш у ч о́ к. *У рэмеза́ кубло, бі копшучок.* В. Малешава.

КОПШЫ'ВУ *прым.* Вельмі тоўсты. *Копшыву — усе разом злітэ — і чэрэво, й голова, й грудзі. Недобрэ копшыве, недобрэ і сухе.* Запясочча.

КОП'Я'К *м.* Невялікая капа. *Можэ, будзе ў нас коп'як сена.* Хачэнь.

КОРА' *ж.* Кара (на дрэве). *Кругом ко́ру обрубайце і ветла будзе росці.* Луткі. Скура (на гарбузе, агурку). *І чорна кора ў гарбузоў бувае.* Альшаны. *На дных гарбузах кора то́нка, а на другіх — тоўста́.* В. Малешава.

КОРА'ВУ *прым.* Пакрыты карою, лускою, шурпаты, шорсткі. *У жабы коравы від.* Аздамічы. *Коравуе рукі, покололіса.* Луткі.

КОРА'К *м.* Крывы корань, крывіна. *Мо з лесу корак екі прыцягне.* Цераблічы. Хвосцік у гарбузе. *За корака́ ўзяў гарбузу́.* Цераблічы. Корч ад качана, сэрцавіна ў качане. М. Малешава.

КОРАКОВА'ТЫ *прым.* Крывы, карчаваты. *Коракоў ваты дуб некі.* Сямігосцічы. Каржакаваты. *Кораковаты чоловек.* Луткі.

КОРА'Ч'Е *н. зб.* Крывыя карчаватыя дзеравіны. *То ў мене праву́ лес, а то корач'е.* Запясочча. *Дубэ — одно корач'е стоіць.* Хачэнь.

КОРА'ЧЫНА *ж.* Крывуля, крывая карчаватая дзеравіна. *Прывез корачыну да ўвесь двор заняў.* Аздамічы.

КОРБЕ'Ж *м.* Зарубка, засечка, складка. *Колько корбежо́ў, только і годоў корові.* М. Малешава. *Под прыпечком корбежы, хто ведае, не кажы* (загадка). *Маністо* (адгадка). Луткі. *Памянш.* к о р б е ж ы к. *Колісь шылі ўсе кохты с корбежыкамі.* М. Малешава.

КОРБЕ'ЖЫЦЦА *незак.* Рабіцца ў складкі. *Нітка корбежыцца, не лезе ў голку.* Запясочча.

КОРБЕ'ЖЫЦЬ *незак.* Рабіць у складкі. *Вале, не корбеж лоба!* Луткі.

КОРЖ *м.* 1. Праснак. *Коржэ пекуць з белой мукі, замешваюць на содзі.* Бярэжцы. *Помую го́лову водою с колодца, то коржэ́м становіцца ўсе.* Хачэнь. 2. Бясформенная нарасць. *Такі корж вурос на берэзі.* Аздамічы.

КОРМА' *ж.* Задняя частка ў лодцы. *Нос пэрэдні, а корма, як рыбак, то рыбу кідае. У корме поро́жок.* В. Малешава.

КОРМІ'ЛІЦА *ж.* Карміцелька. *Знéмо* (назва поля) — *это корміліца наша була, як вóдзено.* Альгомель.

КОРМІ'ЦЬ *незак.* Карміць. *Вутвы́ буту не даюць, кормі дай годзі.* Луткі. *Богатому то й чорт дзеці корміць* (прыказка). Старажоўцы. *Не та маці, шо носіла, а та, шо корміла* (прымаўка). Там. жа.

КО'РМЛЕНЫ *прым.* Кормлены. *Прышла покрóва — шоб була кормлена корова* (прымаўка). Верасніца.

КО'РМЛЯ *ж.* Яда, харч. *Екая с той рыбі кормля?* В. Малешава.

КО'РМНІК *м.* Кормны парсюк. *Перэломало кормніку нóгу да вон і здох.* Луткі.

КОРМНЫ *прым.* Кормны. *Возіў кормных свіней у Пінск.* Луткі.

КОРМУ'ШКА *ж.* Кармушка, скрынка для корму. *У кормушку сено, сечку сыплю.* Запясочча.

КО'РОБ *м.* 1. Кораб. *Куры нанеслі цэлы короб еец.* Аздамічы. 2. Дымаход. Аздамічы.

КОРО'БКА *ж.* 1. Чатырохвугольная або круглая пасудзіна (кошык, сяўня) з дранкі, саломы. *Коробкою носяць грыбý, ягоды.* Хачэнь. *Кошэль з лозы, ш шылегі плетуць, а з дранкі — коробка. А там, у Сторожоўцах, зовуць тую коробку кошэлéм.* Хачэнь. 2. Круглая рыбалоўная стаўная лавушка на ўюноў. *Коробка кругла, посерэд дзірочка, туды рыба лезе, а одтуль не вулезе.* Луткі.

КОРО'ВА *ж.* 1. Карова. *Не голодна корова, колі ў стрэсі солома* (прыказка). Аздамічы. *Шчука на нерэст — корова на верэс* (прыкмета). Хачэнь. *Корова стрэпене ногою — на мороз* (прыкмета). М. Малешава. *Як корова воды нап'ецца да сцепнецца — на мороз* (прыкмета). Там жа. *Як весною первы раз кожушку поймаюць, отсекаюць гóлову, вешаюць у комін, і як первы раз выгоняюць корову, вона должна перэйці черэз гóлову.* Старажоўцы. 2 *мн.* Грузды. *Белые тые — коровý, шо іх марынуюць.* Дварэц.

КОРОВА'Й *м.* Каравай. *Нарадзяць коровай, і молоды ідзе по молодую с коровáем.* Пагост. *Сегодня вечэром коровай, а заўтра к венцу.* Запясочча. *Коровою наш грэцкі, спеклі цебе по-шляхецкі, с трох рэчок водзіца, с трох бочок пшэніца, і два кубочкі масла, і дзве доленькі шчасных* (каравайная песня). М. Малешава. *На чужы коровай рот не розевай, свой спечы і хóрошэ скачы* (прыказка). Старажоўцы.

КОРОВА'ЙНІЦА *ж.* Сяброўка маладой, якая ўдзельнічае ў прыгатаванні каравая. Хачэнь.

КОРОГО'Д *м.* Пірог, з якім карагодзяць на Юр'я. *Дзейкі на Юрэй роб'яць корогода, лом'яць цветы і затыкаюць у той корогод. Становіць хлопец корогод у жыто. Дзейкі ў жыці поспеваюць: «От жэ корогод, от жэ наглы, дзе корогод ходзіць, там жыто родзіць, а йдзе не бувае, там жыто ўлегае».* Запясочча.

КО'РОК *м.* 1. Корак (у пасудзіне). *А корок дзе од бокляжкі?* Мачуль. 2. Абцас у чаравіках, ботах. *Зараз дзейкі на такіх вусокіх ко́рках ходзяць, аж гідко глянуць.* Луткі.

КОРОЛЕСОВА'ЦЬ *незак.* Сваволіць, штукарыць. *Два часы королесовалі.* Запясочча.

КОРОЛЮ'ШКА *ж.* Бяззубка. *Свінья кормяць етымі королюшкамі.* Запясочча.

КОРОЛЮ'ШЧЫНА *ж.* Ракавіна бяззубкі. *От розрэзала на королюшчыні ногу.* Хачэнь.

КОРО'МУСЕЛЬ *м.* 1. Каромысел. *Ек доіла вона коровы, то я зробіў ей коромысля носіць ведра.* Луткі. 2. Ворчык у баране, возе. *Коромысель такі зачэплены за борону, за калачык на облукве, постронкі чэпляць.* Чэрнічы.

КОРО'СТА *ж.* Кароста. *Короста — не напа́сць, только спаць не дасць* (прымаўка). Сямурадцы.

КОРО'ТКІ *прым.* Кароткі. *Ні стыда ні сорома́, такіе короткіе сподніцы!* Хачэнь.

КОРОТЫ'Ш *м.* Чалавек малога росту. Запясочча. Кароткае бярвенца паміж вокнамі. Тураў.

КОРО'ЎЕЧЫ *прым.* Каровін. *Коровечэ м'ясо цэняць дорожэй, як свінячэ.* М. Малешава. *Пастушок, пастушок, затрубіў у рожок, тугугу-тугугу, добрэ будзе на лугу. У коро́ўечы рог трубіць.* В. Малешава.

КОРОЎЗНО' *н. груб.* 1. Карова. *Это короўзно, ей багато сена трэба.* М. Малешава. 2 *перан.* Непаваротлівая асоба, лайдачка. *Цылы дзень спіць этэ короўзно!* Верасніца.

КОРО'ЎНІК *м.* 1. Кароўнік. *На короўнік прыгналі товар стойловаць.* Запясочча. *Лось поўз село ідзе ў короўнік.* Хачэнь. 2. Гной з-пад кароў. Бярэжцы.

КОРО'ЎЧЫНА *ж.* Карова. *Пока короўчыну маці дзержыць.* Сямігосцічы.

КОРОЧА'ЦЬ, КОРО'ЧЫЦЬ *незак.* Караціць. *Трэ*

*корочыць його, той пінжак.* В. Малешава. *Дзеткі годоваць, то век корочаць* (прыказка). Хачэнь.

КО'РПАЛКА *ж.* Капаніна, дробныя заняткі. *І дома хапае корпалкі.* М. Малешава.

КОРПА'НЬЕ *н.* 1. Капаніна, дробныя заняткі. *Однэ корпанье, а не робота.* Кароцічы. 2. Рух пры гульні ў цурку (кіданне *цуркі*). *Давай корпанье робі!* Бярэжцы.

КОРПА'ЦЦА *незак.* Корпацца. *Іншэй роботы нема, буду на городзі корпацца.* Хотамель.

КОРПА'ЦЬ *незак.* Корпаць. *Возьмі і ты вількі да корпай.* М. Малешава. *Ото будзе мене корпаць, а то возьме стане да кусае* (пра кабана). Кароцічы. *Не корпай у носі!* Запясочча.

КОРПЕНУ'ЦЬ *зак.* Карпануць. *Мо корпенула ножку?* М. Малешава. *Я корпенула його, і вон полецеў.* В. Малешава.

КОРПЕ'ЦЬ *незак.* Непакоіць, не выходзіць з галавы. *Хоч ты і велікі ўжэ, а думаеш, не корпіць бацьку і мацер, як ты тут?* Луткі. *Тому чоловеку корпіць, хочэ ее зноў побачыць.* Сямурадцы. *Кому корпіць, той не спіць* (прыказка). Луткі.

КОРПІ'ЛОЎКА *ж.* Турбота, клопат. *Мене корпілоўка берэ, шо ўсе трэба!* Запясочча.

КОРПНУ'ЦЬ *зак.* Карпануць. *Можэ вон тобе і ў воко корпнуць.* Цераблічы.

КОРПОШЫ'ЦЬ, КОРПЫ'ШЫЦЬ *незак.* Ва́дзіць, турбаваць. *Мне шо-то корпошыць, як не поем.* В. Малешава. *Корпы́шэ ў горле, прохоло́даў.* Аздамічы. *Як бы нешчо малюсенькe корпы́шэ ў носе.* Мачуль.

КОРХ *м.* Корх. *Собе я плету лапці на тры корхі і два пальцы.* Тураў. *На корх воды прыбуло.* Аздамічы. *На корх трава там, не ўкосіш.* Мачуль.

КОРЧ *м.* 1. Пень з каранямі. *Набрылі на корча і оторвалі волока* (пры лоўлі рыбы на рацэ). *Боязлівому і корч на вочы скачэ.* Старажоўцы. 2. Куст бульбы, цыбулі, памідораў і інш. *Хорошые корчэ помідороў порослі.* Сямігосцічы. *Іншы год урожай о-ей, то й гэ грыбэ ростуть корчамі, аж зёмлю поднімаюць!* Альпень. К о р ч э́ *мн.* 3. Кусты, зараснікі. *У нас корчэ — это за́росля.* В. Малешава. *От тут за рэчкою былі корчэ.* Цераблічы. △ З м е р з н у ц ь у к о р ч. Скруціцца і здубець ад холаду. Дварэц. *Памянш.* к о́ р ч ы к. *Корчык травы тура знайдуць бабу, то кладуць там крышэчку хлеба, коб вон не зво́дзіўса.* М. Малешава.

КОРЧА′К *м.* Цвёрды нараст на тыльным баку пярэдніх ног у каня. *Это корчакі называюцца, шо з боку на ногах у коня.* Сямурадцы.

КОРЧОВА′ТЫ *прым.* Прысадзісты, кусцісты. *Корчоватые такіе березы.* Запясочча. *Корчоваты хлопец, а хорошы.* В. Малешава.

КОРЧОВА′ЦЬ *незак.* Выкарчоўваць. *Корчовай корча, да вукопай горшчык золота.* В. Малешава.

КОРЧО′ЎКА *ж.* Самагонка. *От цепэр дадуць тобе за корчоўку, шо знацьмеш!* Мачуль.

КО′РЧЫЦЬ *незак.* Корчыць. *Ужэ мое рукі старосць корчыць.* Сямурадцы.

КО′РШАК *м.* Коршак. *Той куры нема, коршак убіў.* Запясочча.

КОРШАКО′Ў *прым.* Ястрабіны. *Коршаковых еец не едзяць, воны не малые, оны велікіе, але за яйца сорокі меншые.* Хачэнь.

КОРЫ′СЦЬ *ж.* Карысць, разлік, выгада. *Старосць не радосць, а горб — не корысць* (прыказка). Мачуль. *Колі корысць — на порог подзівісь, а колі нужда — садзіс сюда* (прымаўка). Мачуль. *Перэпіваю козў ў доўгой лозе: поймай да корысць май* (прыказка на вяселлі). В. Малешава. *Од нашое Хрысці нема корысці* (прыказка). Старажоўцы.

КОРЫ′ТО *н.* Карыта. *З дзерэва корыто.* Альшаны. *Памянш.* к о р ы́ т ц э. Запясочча.

КОРЫ′ЦЦА *незак.* Падпарадкоўвацца. *Саджаюць на посад і сповівают, хто перву подсунецца, як сцягваюць наметкою молодых, той будзе век свой корыцца.* Луткі. *Колісь не так було: однэ одному ко́рыцца і жывуць.* Мачуль.

КО′РЭНЬ *м.* 1. Адна расліна, адзін куст, саджанец. *Ото два корэня ягрэсту; було чотыры, то порубаў зяць.* Хачэнь. *Саду корэнёў дванаццаць.* Дварэц. 2. Корань (дрэва, зуба, грыба). *Вукопають того дуба с корэнем.* Цераблічы. *Корэнь седзіць, а посерэдзіне зуб перэломаўса.* Пагост. *Вода хаты перэворочвала догоры корэнем.* В. Малешава. *Памянш.* к о р э н е́ ц, к о р э́ н ь ч ы к. *Рві с конца, да не прырві корэнца* (прыказка). Хачэнь. *У краснючка будзе чорненькі корэньчык.* Альпень.

КОРЭ′НЬЕ *н. зб.* Карэнне. *Звелі этэ корэнье лепехі.* В. Малешава. *Прышло спленье — цегні за корэнье* (прымаўка, пра гароднiну, бульбу). Сямігосцічы.

КОРЭНЯ'СТЫ *прым.* Караністы. *Косцерэва корэняста бес конца.* Бярэжцы.

КОРЭ'Ц *м.* 1. Кубак, кружка, пасудзіна з кары чэрпаць ваду. *Корцы — это булі з двома вухамі.* Буразі. *Беры корэц і пі вóду.* М. Малешава. 2. Пятля на верхнім камені ў жорнах, у якую ўстаўляецца ручка. Альшаны.

КОСА' *ж.* Каса (для зразання травы). *Шчо коса не берэ, то і корова не есць.* Цераблічы. *Шчука лінява ўвесь свет зваляла, свет заўяў, іншы город стаў* (загадка). *Коса, стогі* (адгадка). Хачэнь. 2. Пясчаны нанос у рацэ. *Коса, дзе муе рэка, у кручку.* Пагост. 3. Селязёнка. *Як заб'юць свінью, то гледзяць кóсу: ек роўна скрозь, то кажуць: зіма будзе роўна, як нероўна, то нероўна будзе зіма.* Луткі. *Як конец тоўсты ў косе, то початок будзе морозны, а тоненько, то будзе одлёга.* Хачэнь. 4. Прамень сонца, пасма дажджу. *Сонцэ косы попускало ранком.* Луткі. *Хмара попускала косы.* Аздамічы. 5. Каса (у жанчыны). *Як заплетуць малой кóсу, беруць рукой ее і кажуць: росці, коса, по п'яткі, тобе жэнішкі, а мне пірожкі.* Луткі. 6. Жгут. *Выплеталі соломэные косы, сшывалі і коробку робілі.* Рубель. 7. Вянок (цыбулі, часнаку). Альпень. 8 *мн.* Валасы. *Не подаю собе пуду, а мое косы ўгору ідуць.* Бярэжцы. *Як станом успомінаць, ужэ косы дыбом.* Луткі. *Коб не даў ей, то б вона косы на собе порвала.* Там жа.

КОСА'КА *м. экспр.* Касец. *Косака добры з мене!* Аздамічы.

КО'САНКА *ж.* 1. Каса (у жанчыны). *У косанку ўплетаюць ленты.* Сямігосцічы. 2. Вянок (цыбулі, часнаку). *Косанка цыбулі махіна будзе.* Мачуль.

КОСА'Р *м.* 1. Касец. *Отправіць хочэ косароў на болото.* Бярэжцы. *Косара нігодного нема, а только старые і дзеці.* Мачуль. *Коб косар косіў мне дзень да я обед не занеслá?* Хачэнь. 2. Канец гонкі ў плыце (у звязцы з другой). *Белюга попала між косары на плыт.* Дварэц. 3. Рыба з пароды ляшчовых. Запясочча.

КОСА'ТКА *ж.* Рыба сямейства карпавых. *Косаткі — это тые сáмуе сапі. Вона вельмі косцьлівая.* В. Малешава.

КОСЕ'Ц *м.* Касец. *Гэто не косец, а коса косіць.* Цераблічы. *Сеножатка на двох косцоў.* Кароцічы. *Екі едзец, такі і косец* (прымаўка). Сямігосцічы.

КОСІВА' *мн.* Касьба. *Колісь на косіва да вельмо спевалі.* В. Малешава.

КО'СІКІ *мн.* △ Ходзіць у ко́сікі. Ісці, хістаючыся ўбакі (пра п'янага). Аздамічы.

КОСІ'НА *ж.* Валасіна. *Одну косіну вурваў.* Запясочча.

КОСІ'ЦЦА *незак.* Касіцца. *Ой, дзеўко, уцекай, онё ко́сіцца бугай.* Цераблічы.

КОСІ'ЦЬ *незак.* Касіць. *Тые горы прослі тройцы зобіраюцца косіць.* Цераблічы. *Хто хочэ косіць, то йдзе ў бор да косіць.* Хільчыцы. *І дурэнь бу косіў, коб хто ко́су носіў* (прымаўка). Сямігосцічы.

КОСІ'ШЧА *мн. груб.* Валасы. *От косішчамі обвесіўса!* Верасніца.

КО'СКА *ж.* Палоска. *Вуткала коўдру ў коскі.* Хотамель.

КОСМА'Ч *м.* Доўгавалосы хлопец. *Як велікіе косы, то космач.* Кароцічы.

КОСНІ'К *м.* Каснік. *Коснік целепаецца ў дзево́к у косе.* Запясочча. *Коснікі ўсякого колеру буваюць.* Аздамічы.

КОСНУ'ЦЬ *зак.* Касануць. *Коснуў разоў тры — о, кажэ, эта коса добра!* Луткі.

КО'СО *прысл.* Коса. *Пройшоў по загоне косо плугом.* М. Малешава.

КОСОВІ'ЦА *ж.* Касавіца. *Цепер жніво будзе ўпере́д за косовіцу.* Цераблічы. *Сало чоловеку остаўляеш на косовіцу.* Верасніца. *У косовіцу, бувало, неколі сплесці лапці.* Луткі.

КОСОО'КІ *прым.* Касавокі. Пагост.

КОСОЎЕ' *н.* Кассё. *Тры косоўе́ вырубаў да два грабоўе́.* Дварэц.

КО'СТКА *ж.* Костка. *Як это — костка да шчоб болела!* (пра зуб). Аздамічы.

КОСТОЛО'МІЦА *ж.* Рэўматызм. *Коб тобе бог даў костоломіцу!* (праклён). Запясочча.

КО'СТОЧКА *ж.* Сачляненне ў касцях, сцябліне. *Косточка боліць, як намахаеш ру́ку.* Кароцічы. *Хвошч с косточкамі, вон ломаецца.* Бярэжцы.

КОСТРА' *ж.* Кастрыца. *І ў коноплях костра такая, колецца.* Пагост.

КОСТРЫ'ЛОЧКА *ж.* Кастрыначка. *Так тром лён, шоб ні одной кострылочкі не було.* Хачэнь.

КОСТРЫ'ЦА *ж.* Кастрыца. *Потрэпае лён, помне ногамі да повубівае, шоб не було пулу да кострыцы.* Запясочча.

КОСТРЫ'ЧНЫ *прым.* Кастрывы. *Кострычны лён.* Бярэжцы.

КОСЦЕРЭ'ВА *ж.* Брыца, курынае проса. *А косцерэва росце і на картоплях, і ў просі, і дзе ей здумаецца.* Верасніца. *Косцерэва — трава, похожа як просо.* Запясочча.

КОСЦЁР *м.* Укладка колатых дроў (стог, скірда). *Зложыў косцёр дроў.* Аздамічы. *Куры на косцёр скачуць да седзяць там.* Хотамель.

КОСЦЬ *ж.* Косць. *Уюны зварыць, то есці с косціма можно.* Сямігосцічы. *Коб его с того света поўкідало косці!* Хачэнь. *Косці м'ясо найдуць* (прыказка). Аздамічы.

КОСЦЬЛІ'ВУ *прым.* Касцісты. *Косцлівая рыба косатка.* В. Малешава.

КОСЦЯ'ВУ *прым.* Касцісты, худы. *Бабы нашы косцявые!* Запясочча.

КОСЦЯ'Н *м.* Худая касцістая істота. *Ее бацько косцян, мо вон хворы?* Луткі. *Косцян дзерэвян з горы свінье гнаў* (загадка). *Грэбенец* (адгадка). Хачэнь.

КОСЦЯ'НКА *ж.* Худая касцістая істота. *Косцянка я, одные косці!* Сямігосцічы. △ Г у л я́ ц ь у к о с ц я́ н к у. Гуляць у каменчыкі. Хачэнь.

КОСЦЯНЫ' *прым.* Касцяны. *І косцяные робілі гузы, такіе долікатные!* Сямурадцы.

КО'СЫ *прым.* Касавокі. *Коса зараза ты!* Бярэжцы. △ К о́ с а п л о́ т к а. Падлешчык, гусцяра. *Коса плотка суха, тонка, плескатa, вона не ўвойшла ў лешча.* М. Малешава. К о́ с э д з е́ р э в о. Дрэва з пакручанымі слаямі. Хотамель.

КОСЬ-КОСЬ-КОСЬ, КО'СЮ-КО'СЮ-КО'СЮ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць каня. Запясочча.

КОСЬЕ' *н.* Кассё. *Посадзі но мне ко́су на косье.* Цераблічы.

КОСЬЯ'Н *м. экспр.* Касавокі чалавек. Запясочча.

КО'СЯ *н.* Конь (у размове з малымі дзецьмі). *Онь о кося, унучок!* Запясочча.

КОСЯ'К *м.* 1. Упора (да кроквы, шулы). *Косяк к сцене і до кроквы прыбіва́еццa.* Цераблічы. 2. Пласт сотаў, які вісіць у вуллі наўскасяк. Запясочча.

КОТ *м.* Кот. *Кажуць, шо як коту отсечэш хвоста, то вон скоро погладчэе.* Верасніца. *На негоду кот качаецца. А як хвост задзерэ да ліжэцца, госці будуць. Як хвоста на покуць покладзе — будуць госці. Кот муецца — госці, як у дзверы но́гу задзерэ, то ўежжають*

(прыкметы). М. Малешава. *Ек кот дзерэ кіпцюрамі, то ве́цёр* (прыкмета). Луткі. *Бег кот да повесіў хвоста чэрэз плот* (загадка). *Гарбуза́* (адгадка). М. Малешава. △ Спева́ць кота́. Спяваць калыханку. Аздамічы. У кота. Дзіцячая гульня ў кошкі-мышкі. В. Малешава. *Памяниш.* кото́к. Запясочча.

КОТКО′ *м.* Тое ж. *Пошоў котко под грушэчку да найшоў подушэчку, а я отобрала да Ленцы прослала* (песенка-зварот да малога дзіця). В. Малешава.

КО′ТЛІШЧЭ *н.* Адкрытае бяздонне на балоце. Альпень.

КОТЛОВА′ЦЬ *незак.* Круціць. *Там ву́соко вецёр котлуе.* Пагост.

КОТЛОВІ′НА *ж.* Адкрытае бяздонне на балоце. Альпень.

КО′ТНА *прым.* Котная. *Котна овечка.* Запясочча.

КОТО′К *м.* 1. Бабка ў каня. Запясочча. 2. Суквецце канюшыны. Дварэц.

КОТО′РЫ *займ.* Каторы, які. *Которые блізко жывуць, то свіньям цегаюць траву.* Хачэнь. *Косяць ужэ, а которые покосілі.— Дзе? — За рэкою.* Там жа. *Которого дня ездзіла, а тепер нема як.* Альпень.

КОЎБ *м.* Вузел валасоў на галаве. *От коўба вукруціла! Шчэ й лёну ўмотваюць у той коўб.* Запясочча.

КОЎБАСА′ *ж.* Каўбаса. *Коўбасу робять с поляндвіцы.* Альпень. Патаўшчэнне на нітцы пры няроўнай дрэнной пражы. *Напрала — там коўбаса, а там тонко.* М. Малешава.

КО′ЎБЕЛЬ *м.* Хустка, завязаная каўпаком. *Закруціць того велікого коўбеля і ходзіць.* Луткі.

КО′ЎБІК *м.* Страўнік у жывёліны. Запясочча. Свіны страўнік, напоўнены мясам. Дварэц.

КОЎГА′НКА *ж.* Драўляная міса ў мінулым. Аздамічы.

КО′ЎДРА *ж.* Коўдра самаробная. *Коўдра — это свое, а ў магазіні — одзеяло.* Аздамічы.

КО′ЎЗАЙЛО *н.* Коўзанка. *Коўзайло зробілі дзеці.* Альшаны.

КО′ЎЗАЛКА *ж.* Тое ж. *Зробяць дзеці коўзалку на лёду́ і коўзаюцца.* Луткі. *На дворэ мороз, а под носом коўзалка.* Хачэнь. *Это ж трэ на коўзалцы голову розбіць!* Верасніца.

КО′ЎЗАЛО *н.* Тое ж. Аздамічы.

КО'ЎЗАНКА *ж.* Тое ж. *На коўзанку пойдзеш коўзацца, то лапцей!* Луткі.

КО'ЎЗАЦЦА *незак.* Коўзацца. *Чого ты коўзаешса, не седзіш нішком?* Лутні. *Я хоцела коўзацца, а коўзанка не слізгаецца.* Верасніца.

КО'ЎЗАЦЬ *незак.* Слізгаць. *Цёртка тупая, коўзае, картоплі ўялые.* М. Малешава.

КОЎЗЕ'ЛЬ *м.* Каўзота. *Коўзель на дорозі, погано іці.* Лутні. *Дождж велікі йшоў, да доўго йшоў, то ж коўзель.* Аздамічы.

КО'ЎЗКО *прысл.* Слізка. *Коўзко іці будзе тобе.* Запясочча.

КОЎЛЯ'К *м.* Каўцях. Аздамічы. *На том коўляку конском росце.* Любавічы.

КОЎМА' *ж.* Тоўчаная бульба (пюрэ). *Коўма жырная смачная!* Сямігосцічы. *Медзьведзь коўму зробіў с того вулья.* Лутні.

КОЎМА'К *м.* Клок. *Коўмак шэрсці корова вурвала, об дзерэво чухаючыса.* В. Малешава.

КОЎНЕ'Р *м.* 1. Каўнер. *Коўнер і воротнік — однэ́е.* Лутні. *З лісы коўнер выходзіць і шапка.* Хачэнь. 2. Прыстрэшак. *Коўнер робім, шоб не спускаласа солома.* Цераблічы. 3. Пояс у штанах, спадніцы, фартуху. *Ушый коўнер у штаны но́ву.* Верасніца.

КОЎНЕ'РЫШЧЭ *н. груб.* Каўнер. *Той коўнерышчэ, бу ў горшчэя!* Запясочча.

КОЎНЕ'РЭЦ *м.* Манжэт. *Коўне́рцы колісь казалі на манжэты.* Запясочча.

КОЎПА'К, КОЎБА'К *м.* Старая ўкладка валасоў у жанчын (стажком). *Колісь носілі коўпакі велізозные, умотае ў косы того коўпака і пошла.* Хачэнь. *Коўпаке носілі раньшэ, а цепэр з кос коўпаке робяць.* Сямігосцічы. *Ніхто того коўпака не перэкоўпакуе* (скарагаворка). Сямігосцічы.

КОЎТ, КОЎЦЬ *м.* Глыток. *Тут молока на одзін коўць.* Азяраны. *Коўт.* Альшаны.

КОЎТА'ЦЬ *незак.* Глытаць. *Здаецца, повен рот, а коўтаць нечэго.* Бярэжцы. *Усерайно як бусько жабу — коўць, і нема.* Цераблічы.

КОЎТНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Така холодна вода, коўтні — охрыпнеш.* Запясочча. *З тое беды трэба коўтнуць воды* (прыказка). Аздамічы.

КОЎТУ'Н *м.* Каўтун. *Я сама колісь коўтун носіла.* Аздамічы. *Од коўтуна косы возьмуцца лямцэм, голова ў*

*духу́*. Мачуль. Зблытаныя ў камяк валасы, галінкі, ніткі, кудзеля і інш. *Ужэ коўтун зробіўса, не рошчэшэш.* М. Малешава. *Коўтун росце на хвоі.* Хачэнь. *Зрыўнік е такі ў водзе, бы коўтун.* Цераблічы.

КОЎТУНЕ'ЧА *ж. зб.* Каўтуны. В. Малешава.

КОЎТУ'ННІК *м.* Дзераза. *З коўтунніка збіраюць порошок, як вон дозрэе, бі піл пускае.* Хотамель. *Коўтуннік — од коўтуна.* М. Малешава.

КОЎТУ'ННІЦА *ж.* Хвароба пры каўтуне. *У цебе не только коўтун, але коўтунніца.* Сямігосцічы.

КОЎТУНЫ' *мн. экспр.* Валасы. *Я ўзела за коўтуны да пул вубіла б з його!* Хачэнь.

КОЎЦЕНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Мо коўценом по чарцы?* Аздамічы.

КОЎЦЕ'НЬ *м.* Глыток. *Да там було воды ўсёго на одзін коўцень.* Тураў.

КОЎЦЮ'К *м.* Гронка. *Сліўкі віселі коўцюка́мі!* М. Малешава.

КО'ЎЧА *ж.* Штосьці нязграбнае, бясформеннае. *Ее ніколі нема на вуліцы, седзіць у хаці, ек коўча.* Хачэнь. *О, седзіш, абу коўча, заматана, захоўхулена!* Верасніца.

КО'ЎЧАЦЬ *незак.* Мусоліць. *Седзіць да коўчае скорынку.* Мачуль.

КОЎШ *м.* Драўляная міска з ручкай. *Коўш з бакулы ў курэне буў. З того коўша елі.* Мачуль. *Коўш — то шуфлік закрыты.* Запясочча. *Ідзі прынесі два коўшэ мукі цесто ў дзежэ замесіць.* Кароцічы. *Коўш доўгі з вушко́м.* Аздамічы. *Шчэ тая душа, шо ела з коўша* (прыказка). Кароцічы. *Ты мое жменею, а твое чорт коўшэ́м* (прыказка). Сямігосцічы. *Памянш.* к о ў ш ы к. *Коўшык большынство з уяпы робяць, як засохне, то робіцца рабе́нькі.* Чэрнічы. *Коўшыка за ву́шко прыўязвае і ідзе на сенокос.* Запясочча.

КОХА'НЕЦ *м.* Палюбоўнік. *Пусцілі собе двох коханцоў, хлопцоў.* В. Малешава. *У одное жонкі дак булі два коханцы.* Бярэжцы.

КОХА'НКА *ж.* Палюбоўніца. *То вона коханка, но то як жэ вон вужэне, як вона мае дзіця?* Аздамічы.

КОХА'НОЧКА *ж.* Танец. *Коханочку танцуюць удвух. Однэ вукручвае другу кругом себе, потом прытанцоўваюць і ў ладкі плешчуць.* М. Малешава.

КОХА'НО *прысл.* Люба. *Постолы розмочу, то будзе кохано ходзіць.* Хотамель.

КО'ХКАЙЛО *н. экспр.* Квактуха. *Куды йдзе этэ кохкайло с ціплетамі?* В. Малешава.

КОХКУДА'КАЦЬ *незак.* Кудахтаць. Запясочча.

КО'ХЛЯ *ж.* Бакавая жэрдка ў рыбалоўным волаку. Лўткі.

КО'ХТА *ж.* Кофта. *У мене дзве кохці і до!* Запясочча. *Як буў цар і царыца, то була кохта і сподніца* (прымаўка). Бярэжцы.

КОЦЕЛО'К *м.* Колца ў ставах для нітоў. *Подвежы ніткі до коцелка.* Верасніца.

КОЦЕНЯ' *н.* Кацяня. *А ў нас у кошкі чотыры коценяці.* Бярэжцы. *Памянш.* к о ц е н я́ т к о. Бярэжцы.

КОЦЁ'Л *м.* Невялікая непраточная азярына, яма з вадой на лузе, акно на балоце. *Там буў плаў, коцёл звалі, дзе вода чыста.* В. Малешава.

КО'ЦІКІ *мн.* Раллёвая канюшына. *Коцікі — зелье ў жыце росце, сівенькіе воны.* М. Малешава. *Коцікі кідаюць у гурковінье, коб гуркі заўязаліса.* Луткі.

КОЦІ'ЛО *н. экспр.* Кот. *Коб коціло еке коўбасу не свіснуло!* Дварэц.

КОЦІ'НА *м. экспр.* Тое ж. *Ох, нічогі такі коціна! Коб его кудою збуць?* Верасніца.

КОЦІ'НЫ *прым.* Каціны. Запясочча. △ У к о ц і́ н ы е л а́ п к і. Узор на палатне. *У коціные лапкі ткалі просцілкі.* Сямурадцы.

КОЦІ'ЦЦА *незак.* 1. Каціцца, цячы. *З доліны туман коціцца.* Луткі. *Ручэём вода коціцца.* Альпень. 2. Акочвацца. *Трусіца коціцца будзе.* Цераблічы.

КОЦІ'ШЧЭ *н. груб.* Кот. *Чортовэ коцішчэ! Дзе вон крычыць?* М. Малешава.

КОЦОБЕ'ЛА *м.* Невялікі ростам таўстун. *Ходзі, коцобело, до мене* (да дзіцяці). Луткі.

КОЦУБА' *м.* 1. Качарэжка, кіёк з круглай ручкай. Мачуль. 2. Качарга. Альшаны.

КО'ЦЫ *мн.* Трава, садраная пластом. *Коцы — як вода спадзе, воны лежаць на земле і іх дзеруць на подсцілку коровам. Майна як вусохне, то таксамо коцы.* Запясочча.

КОЦЮ'К *м.* Кацяня. *Коцюк малы ўсе бегае, гуляе.* Аздамічы.

КОЦЮ'РМА *ж.* Сумятня, калектыўная сварка. *Настояшча коцюрма — одзін тэ, другі тэ, трэці тэ.* Запясочча.

КОЦЮ́ШКА *ж.* Шпуля. *Коцюшкі купляюць у магазіні да ткуць.* Запясочча.

КОЦЯ́РА *м. экспр.* Кот. *Тые кошэчкі, а это — коцяра будзе!* Верасніца. *Ой, дам, коцяро!* Аздамічы.

КОЦЯ́ЧЫ *прым.* Каціны. *У рысі коцяча порода ўся!* Запясочча.

КОЧ *выкл.* Выгук, якім адганяюць курэй. *Коч у кучку!* Хачэнь.

КОЧА́Н *м.* 1. Качан. *Кочаўса кочаном по подлозе.* Хачэнь. 2. Агрызак ад яблыка. Альпень. △ У к о ч а н а́. Даўняя дзіцячая гульня. *Ешчэ ў кочана гулялі, посядуць дзеці ў кружок, а одзін кочан.* Хачэнь. У к о ч а н ы́. Узор на тканым палатне (кветкі і птушкі). Запясочча.

КОЧЭРГА *ж.* 1. Качарга. *Кочэрга — сама старша ў вілка́х.* Рамель. 2 *перан.* Згорбленая бабуля. *Кочэрго старая, тоўчы, шоб твой голоў тоўклі!* (з казкі). Луткі.

КОШ *м.* 1. Сплеценая з лазы каробка на калёсы або сані. *Убіраюць картоплі ў шаньку, а потом вусыпаюць на воз у кош.* Бярэжцы. *Кошы робяць і зарэ, буракі возяць у іх.* Сямігосцічы. 2. Сплеценая з лазы канічная стаўная лавушка на рыбу з устаўным канічным уваходам з дзіркай. *Кошы робілі на ўюноў.* Запясочча. *Стаўляюцца кошэ для ўсякое душэ* (прымаўка, кош можа вытрасці любы рыбалоў-злодзей). Чэрнічы. 3. Засек у млыне для засыпання збожжа на памол. *Кош називалі, кудою сыпалі ў мліне.* Запясочча. 4. Тулава без вантробаў, грудная клетка. *Заб'юць свінча, да тое, шчо ў серэдзіне, вукінуць, а того коша́ повесяць, да вісіць.* Луткі. *Кош — то тые рэбра ў кабана.* В. Малешава. 5. Апорная канструкцыя пад вялікі дах. *Поставілі коша ў клубі.* Аздамічы. 6. Яшчык на дне ў калодзежы. *Кош грузілі на дно ў колодзезь.* Чэрнічы.

КОША́НКА *ж.* Сумесь аўса і канюшыны. *Кошанку бралі на возы ў лес.* Луткі.

КОША́РА *ж.* 1. Загарадка на папасе для адпачынку кароў. *Городзяць кошару на товар.* Запясочча. *Коло лесу кошара, там целята стояць.* Бярэжцы. 2 *перан.* Вялікі дом. *Росцегнуў кошару, комлат мо сем.* Луткі.

КО́ШКА *ж.* Кошка. *Ходзі, кошко, шчэ дам молока.* Луткі. *Кошка скрэбе — вецёр будзе* (прымета). Там жа. *Бачыць кошка ло́й, да не ёй* (прыказка). Аздамічы.

КО́ШКАЦЦА *незак.* Пароцца, мясціцца, займацца. *Два месецы з ім толькі кошкаюцца.* Альпень. *Лежаць*

*удвох да кошкаюцца.* Аздамічы. *Кошкаюса ў хаці цэлы дзень.* В. Малешава.

КО'ШКАЦЬ *незак.* Шукаць, збіраць яйкі дзікіх птушак. *Кошкалі яйца вўтвы, чырыцы, лознухі, кулікоў, чаёк.* Луткі. *Як кошкаць яйца ідуць, то кажуць: хоць чорт із кубла, абу шапка ееі була.* М. Малешава. *Коршак кошкае добрэ яйца!* Цераблічы.

КОШЛАДЗЕ'НЬЕ *н. зб.* Касмыкі. *Ох, яке ў цебе кошладзенье на голове!* Аздамічы.

КОШЛА'ТЫ *прым.* Калматы. *Але, бра, воўк не вельмо кошлаты!* Луткі. *З бородою, куды ж вон, такі кошлаты!* Дварэц. *У ломах еноты жывуць, кошлатые зверцэ такіе.* Сямігосцічы.

КОШМА'ЦЬЕ *н. зб.* Рознае адзенне. *Кошмацье староe ні под бок, ні под голоў.* В. Малешава.

КОШМО'ЛКА *ж. экспр.* Малое дзіця. *Такее маленькое дзіця, то кажуць кошмолка.* В. Малешава.

КОШМЭ'РА *ж. экспр.* Неахайная жанчына. Мачуль.

КОШТ *м.* Вартасць. *Кошт узнаюць об зўбу — коштуе ейцэ, ці моцнэ.* М. Малешава.

КОШТОВА'ЦЬ *незак.* 1. Спрабаваць на моц. *Дай покоштую ейцэ.* Кароцічы. 2. Мець вартасць. *Сколько порося коштуе?* Цераблічы. *Мне коштовала та хороміна коло дзвёх тысеч.* Сямігосцічы.

КОШТУ'ЛЬ *м.* Верхняя ручка ў падоўжнай піле. Хотамель.

КОШУ'ЛЯ *ж.* 1. Вялізны кош з дзвюма ручкамі. *Набкружвалі кошулю буракоў.* Верасніца. 2. Кашуля. *Бліжэй кошуля, як кобат* (прыказка). Рычоў.

КОШЧА'ВУ *прым.* Касцісты. *Худзезны, кошчавы, бы шкілет.* Аздамічы.

КО'ШЫК *м.* Кладка дошак для прасушкі (квадратам з дадатковым перакрыжаваннем у сярэдзіне па дыяганалях): *У кошык зложыў дошкі, хай сохнуць.* В. Малешава. △ Р о б і ц ь  к о́ ш ы к і. Рабіць рухі ручкамі (пра малое дзіця). *Ленка, робі кошыкі, кошыкі!* В. Малешава.

КОШЫ'ЦА *ж.* Таптуха. *Вон ловіць кошыцэю ўюноў, поставіць да топчэ.* Мачуль.

КО'ШЫЦЦА *незак.* Мясціцца. *Вона тутэка кошыцца, у мацер.* М. Малешава.

КОШЭ'ЛЬ *м.* Лазовы кошык. *Наберы ў сцёпцы кошэль картоплёў, я звару на вечэру.* Кароцічы. *Тры кошэлі наклаў грыбоў.* Луткі. *Насмеяўса кошэль, шо за*

*верэню хорошэй, аж і сам як верэня* (прыказка). Аздамічы. △ Плесці кошэлі без спіц. Гаварыць глупства, маніць. Хачэнь.

КОШЭ́М *прысл.* 1. Кругом. *Я огородзіў стожка кошэм.* Запясочча. 2. Дубарам. *Полотно, ек намокне, то стоіць кошэм.* Сямурадцы.

КО́ШЭНЫ *дзеепрым.* Кошаны. *Орэш'е по канаву шчэ не кошанэ.* Хачэнь.

КРАВЕ́Ц *м.* Кравец. *У краўца нема остачы, а ў слепого — здачы* (прыказка). Сямігосцічы.

КРА́ЖСТВО *н.* Крадзеж, раскраданне. *Колісь онно кражство да ўбівство було!* Цераблічы.

КРАІ́ЦЬ *незак.* Кроіць. *Ліхо кра́іць на поло́скі.* Мачуль.

КРАЙ *м.* 1. Край. *По краёх поля вулье́ стоялі на дубох.* М. Малешава. *Краем пошлі поўз доліну.* Хачэнь. *Дзе край неораты на полі, то там і шчавер росце.* Сямурадцы. *Посерэдзіне огонь, а по краёх вода кіпіць* (загадка). *Самовар* (адгадка). 2. Бок. *Зімою як с того краю дўне, то холодно́.* Сямурадцы. 3. Краіна. *Дзе родны край, там і куст родны* (прыказка). Хачэнь. 4. *прыназ.* Каля, ускрай. *Сяду я край стола.* Луткі. *Памянш.* краечэк. *У краечку ягоды брала.* Бярэжцы.

КРА́ЙКА *ж.* Вузенькі тканы паясок. *Крайке́ вузе́нькіе, а пояс шырэйшы.* Мачуль. *Дзед умрэ, то і подперажуць тою крайкою.* Велямічы.

КРА́ЙКІ *мн.* Кутнія зубы ў каня. Кароцічы.

КРА́ЙНІ *прым.* Крайні. *Ужэ там і крайня хата моя.* Бярэжцы.

КРА́КАЦЬ *незак.* Кракаць. *Ворона крачэ, то будзе негода* (прыкмета). Бярэжцы. *Ву́тва як знесе ейцэ, то к се́лезню плуве і крачэ.* Там жа. *Улез у вороны́, то й крач, як воны* (прыказка). Аздамічы.

КРАКОВОВО́РОН *м.* Груган. Альпень.

КРАМ *м.* Крамная матэрыя. *Дзе ты краму такого хорошого набрала?* М. Малешава. *А шо вона продае́? — Да крам некі.* Запясочча.

КРА́МЕНЬ *м.* Крэмень. *Крамень рэдко колі зна́йдзеш на нашом полі.* Луткі. *От гэты чоловек здорову, шчо крамень.* Аздамічы. *Памянш.* краме́ньчык. *Берэ краменьчыка з губкою і крэсіво і б'е о так о.* Луткі.

КРАМЕНЬЧУ́К *м.* Моцны, здаровы хлапчук. *Гопчук, краменьчук, чырвоная жычка! Любіць мене кавалер, хоць я невелічка* (забаўка). Хачэнь.

КРАМІНА′ *ж.* Крамная матэрыя. *Пойна скрыня краміны.* Кароцічы. *Хто хустку, хто краміну на веселы дарує.* Хотамель.

КРА′ПА′ЦЬ *незак.* Капаць, сыпаць. *Крапáе дождж на мене.* М. Малешава. *Дождждык крáпае — мучыцца, а не ідзе.* В. Малешава.

КРАПЕНУ′ЦЬ, КРОПЕНУ′ЦЬ *зак.* Сыпануць. *Ек хто кропенуў кропілом тут, а там дождж буў векікі.* Луткі.

КРАПІ′СТЫ *прым.* Буйны. *Крапісты дождж лупіць.* Аздамічы.

КРА′ПКА *ж.* Кропля. *От дождж ліў, шчо вокна повубівало крапкáмі!* Верасніца. *Тры крапкі дождж́у ўпало і ўсе.* Дварэц.

КРАПЛІ′СТЫ, КРОПЛІ′СТЫ *прым.* Буйны. *Такі краплісты, здоровецкі дождж пройшоў!* Хачэнь. *Ек ідзе кроплісты дождж, то бýлькі на водзе схапваюцца.* В. Малешава.

КРА′ПЛЯ, КРО′ПЛЯ *ж.* Кропля. *Одное краплі не було дождж́у.* В. Малешава. *Коб кропля ўпала за месец, суша і суша.* Луткі. △ К р о п л і з н я ц ь. Быць вельмі падобным. *Удаўса ў бацька і кроплі зняў, от удача!* Сямігосцічы.

КРАСА′ *ж.* 1. Пылок у жыце, пшаніцы. *Як жыто красуецца, краса вусыпáецца.* Хачэнь. 2. Прыгажосць. *Нема ні одного яблучка не чэрвівого, а така краса була!* Хачэнь.

КРАСА′ВЕЦ *м.* Прыгажун. *У другой дзерэўні буў хлопец такі вусокі, двацацьь лет, красавец хлопец!* Бярэжцы.

КРАСА′ВІЦА *ж.* Прыгажуня. *Булі красавіцы такіе цэркву ў Турові, шчо зіхцелі!* Верасніца. *Она красавіца, така здорова молодзіца!* Бярэжцы.

КРАСІВЕ′ННО *прысл.* Вельмі прыгожа. *Так вон красівенно пее!* Запясочча.

КРАСІ′ВУ *прым.* Прыгожы. *А она такая красіва була, такая красіва!* Бярэжцы.

КРАСІ′ЦЦА *незак.* Рабіць шчокі ружовымі. *Красіліса дзеўкі тою бодзягою колісь, від націралі, шоб красны буў.* Хачэнь.

КРАСІ′ЦЬ *незак.* Фарбаваць. *Ек хто ўм'ёр у гэтом году, то яйца белые варацьь, не красяць.* М. Малешава. *Ткалі, красілі і ўсе шылі самі.* Верасніца.

КРА′СКА *ж.* 1. Пылок у жыце, пшаніцы. *Як красу-*

*еццa жыто, краска така, бы дым.* Луткі. *Ек до краскі злегло́, то ўжэ пропало, кажуць, жыто, краску ве́цёр збівае.* Цераблічы. 2. Кветка. Запясочча. 3. Фарба. *Краску красіць моткі бралі колісь у клочэніка.* Луткі. *С коры робілі краскі колісь: с ольховоі — жоўту, з дубовоі — корычневу.* Запясочча. 4. Прыгажосць, здароўе, чырвань на твары. *Некі пусты чоловек, нема краскі, сілы ў ём, нема ў ём клёку.* Луткі. *Не родзіса тоды, як краску дзеляць, а родзіса тоды, як шчасце дзеляць* (прыказка). Сямурадцы.

КРАСНЕ'ЦЬ *незак.* Чырванець. *Шо там суніц — земля краснее!* Верасніца.

КРАСНОГОЛО'ВІК *м.* Падасінавік. Запясочча.

КРАСНОПЕ'РКА *ж.* Краснапёрка. Запясочча.

КРАСНУ'ЦЬ *зак.* Стаць на вясну, павеяць па-сапраўднаму веснавой цеплынёй. *Як красне, то ўжэ поплоў снег!* Верасніца. *Краснуло, капае со стрэ́хі вельмі.* Старажоўцы.

КРА'СНЫ *прым.* 1. Чырвоны. *Красные ягодкі коло ве́тлоў ростуць.* Луткі. *От чого ў буська ногі красные?* (загадка). *От колена* (адгадка). Сямурадцы. 2. Прыгожы. *З трох рэчок водзіца, з трох бочок пшэніца, два кубочка масла, дзве доленькі шчасных, долечкі красных* (з песні). М. Малешава. *Не родзіса кра́сны, а родзіса шчасны* (прыказка). Сямурадцы.

КРАСНЮ'К *м.* 1. Падасінавік. *Погледзі, онь екі хорошы краснюк седзіць, ідзі озьмі.* Кароцічы. 2. Чырванатвары здаровы чалавек. *Хороство чоловек — краснюк, онь аж горыць!* Верасніца.

КРАСОВА'ЦЦА *незак.* 1. Цвісці (пра злакавыя расліны). *Ужэ пшэніца красуецца.* Запясочча. 2 *перан.* Добра жыць. *Навек воны красуюцца* (пра суседзяў). Дварэц.

КРАСОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Шоб красовало жыто, на граблі хустку вешалі красну да шлі ў поле.* Хачэнь.

КРАСОТА' *ж.* Любата. *У нас мотор ужэ, то ўжэ мотором красота, едзь куды хоч.* Пагост.

КРА'СОЦЬ *ж.* Тое ж. *Рукамі вурвеш лён, то вон красоць — чысты, роўны!* В. Малешава.

КРАСО'ЦЬЕ *н.* Тое ж. *Под ветла́мі седзі, тут красоцье, холодок!* Дварэц.

КРА'СЦІ *незак.* Красці. *Сколькі не краў, а богатыром не стаў.* Хачэнь. *Сколько злодзею не красці, усе раўно́ поймаюць* (прымаўка). Старажоўцы.

КРА′СЦІСА *незак.* Красціся. *Вон крадзецца, ховаецца, коб не бачыў ніхто.* Хачэнь.

КРА′ЎКАЦЬ *незак.* Крумкаць (пра жаб). *Зімою под подлогою краўкаюць жабы.* М. Малешава.

КРА′ХОЎКА *ж.* Дзікая качка. Альшаны.

КРА′ШЭЙ *прысл.* Прыгажэй. *Мой товарыш крашэй мене, вон дзеўчыну отоб'е.— Не журыса, товарышу, у мене крашэй твоей е* (з песні). Сямурадцы.

КРО′ВАЦЬ *ж.* Ложак. *І так, не мераючы, відно, шчо кровацьуопоперэк не стане.* Тураў. *Кроваці ў коморах стоялі, там молодые спалі.* Луткі.

КРОЗ, КРОЗЬ, КРУЗ, КРЫЗЬ *прыназ.* 1. Праз, скрозь. *Гледжу кроз окно.* Аздамічы. *Коб ты крозь землю проваліўса!* М. Малешава. *Крызь сон говорыў.* Луткі. *А вон вулез з хаты круз окно.* Кароцічы. 2 *прысл.* Усюды. *Е по свету крозь хорошые людзі.* Аздамічы.

КРО′ІЦЬ *незак.* Кроіць. *Я не ўмею кроіці сама.* Запясочча.

КРОК *м.* Крок. *Оны век на сплаве булі, земле́ не мелі ні на крок.* Сямігосцічы.

КРО′КВА *ж.* Кроква. *Стаўяць крокву на ошлап.* Запясочча.

КРОМ *м.* 1. Хвоя са спіленай вяршыняй для борцей. Мачуль. 2 *злучн.* Акрамя. *У нас нема птушо́к, кром качок.* Старажоўцы.

КРОМІ′ЦЬ *незак.* Спілоўваць або ссякаць вяршыню ў хвоі, рыхтуючы яе для борцей. Мачуль. Рэзаць на кавалкі. *Кагуць, кагуць кроміць на кускі, але ў нас скорэй крыжоваць скагуць.* В. Малешава.

КРО′МЛЕНЫ *прым.* Без вяршыні (пра дрэва). Мачуль.

КРОП *м.* 1. Кроп. *Кроп у гуркі кідаюць.* Луткі. *А гэтты цыбулю кроп заглушыў.* В. Малешава. 2. Вар. *Нагрэю кропу, цукру положу і п'ю.* Кароцічы.

КРОПЕ′Ц *м.* Кроп. *Кропец на градах росце.* Луткі. *То кропец, зелье, а то кроп, шо ў печэ̑.* Кароцічы. *От смашнэ, да с кропцэм, да з цыбулею!* Там жа.

КРОПІ′ЛО *н.* Настой для апырсквання вулляў і наогул вадкасць для апырсквання. *Трэба попрыхаць по вулью́ кропілом.* Хотамель. *Далі некого кропіла од жукоў.* Бярэжцы. *Обмуе дошч усе кропіло на картоплях.* М. Малешава.

КРОПІ′ЦЬ *незак.* Пырскаць, апырскваць. *Рычоўцы*

*свое картоплі кропяць.* Хачэнь. *Шоб не згінула бульба от жукоў, ее трэба кропіць.* Хотамель.

КРО'СНА *мн.* Кросны. *Прошлы год ткала трое кросён.* Запясочча. *От тчэ кросна, бу ў скрыпку грае!* Луткі. *На веселы седзі, бу за кроснамі.* М. Малешава.

КРО'СНО *н.* Аснова ў кроснах. *Шчо оснуецца, то называецца кросно.* Верасніца.

КРО'СНЫ *прым.* Хросны. *Кросны бацько.* Запясочча.

КРОТ *м.* Крот. *Порылі кроты коло лесу, одные горкі!* Запясочча.

КРОЎ *ж.* Кроў. *А вон сільно с крове́ сышоў.* Верасніца. *А вон своей крыве́ чоловека ў хату не пусціць!* Сямігосцічы. △ З а м о ў л я́ ц ь к р о ў. Загаворваць рану. *Колісь моя баба казала, як кроў замоўляла: да с купіны на каменя, шоб кроў не канула.* Хачэнь. Х р ы с т о́ в а к р о ў. Зверабой. *Хрыстова кроў — м'яке́ зелье. Вонэ, як напарыш, краснэ, краснэ! Як простынеш — п'еш, і як голова боліць.* М. Малешава.

КРО'ЎНО *прысл.* Цяжка, горка, бядотна. *Ох, божэ ж мой, ох, кроўно мне, ох, горко мне, шо то зробілосо!* Запясочча.

КРО'ЎНЫ *прым.* Няшчасны, бедны, горкі. *Ох, кроўна моя головонька!* Луткі. *От кроўны да нешчасны чоловек.* Там жа. *У молодзіцы кроўна посцель, абы-ека.* Там жа.

КРО'ХКІ *прым.* Крохкі. *Воск крохкі, ек вусохне.* Луткі. *М'ясо ло́ся роспадаецца, таке крохке.* Мачуль. *Лоза е крохка, ек проківа.* Цераблічы.

КРОЦІ'НЫ *прым.* Кратоў. *Ото кроціна нора.* Верасніца.

КРО'ЦІЦЬ *незак.* Рыць (як крот). *Нешчо мне зе́млю кроціць на городзі.* Запясочча.

КРО'ШКА *ж.* Крышка. *Дайце шчэ крошку хлеба собаку.* В. Малешава.

КРО'ШНІ *мн.* Прыстасаванне насіць за спіной грыбы, ягады і інш. *Цэлые грыбы, як несеш у тых крошнях.* Велямічы.

КРОЯ'НКА *ж.* Кавалак. *Сала спекла кроянку і дзве ейцэ зварыла.* Дварэц.

КРУГ *м.* 1. Круг. *На кру́га каменя наваліш, рыба сама собе пусціць воду* (пры засолцы). Пагост. Цэментавае звяно ў калодзежы. Кароцічы. 2. Страха-накрыўка на вуллі з тоўстай плашкі. *Круга важэй за колоду*

*цегці, бо вон круціцца.* Луткі. 3. Чатыры колы на воз. Хотамель. 4. Вялікі плыт. Хотамель. 5. Нізкія мокрыя мясціны на сенажацях. *У кругох бобоўнік рвуць.* Бярэжцы. △ Н а к р у г. У сярэднім. *На круг узялі ў гэтом леце сорок цэнтнераў з га.* Сямігосцічы. У к р у г у́. У светлым туманным коле (пра месяц). Луткі. *Памянш.* к р у ж о́ к, к р у ж э́ ч о к. *Прынёс кружок воску.* Хачэнь. *Коло города ў мене доліна, да кажэм кружок.* Там жа. *Як на верху ейца кружэчок, то найгра́нэ.* Запясочча. *На сподок налье воску, зробіць кружэчка — да рубель.* Дварэц.

КРУГА′ *прысл.* Кругом. *Як запоіны, то несуць горэлкі, круга обойдуць с чаркою да путаюць: дзе то ваша молода, завошчо мы п'ём? А ім вуведуць екого перэодзетого.* Луткі.

КРУГЕ′ЛЬ *м.* Падлешчык. *Кругель до кілограма бувае, у его перца жоўтые, а ў лешча́ — чорные.* Альшаны. *Кругле ек біліса, то половіна торчыць грэбеня з воды.* Верасніца.

КРУ′ГЛО *прысл.* Кругла. *І ў мого свёкра кругло було обгороджэно ўсе.* Мачуль.

КРУГЛОВІ′ДЫ *прым.* Круглатвары. *Така ты хоро́ша, кругловіда, ек маці.* Луткі.

КРУ′ГЛЫ *прым.* Круглы. *Озеро круглэ і доўге.* Луткі. *Круглые яйца, то будуць курочкі, а доўгенькіе — пеўнікі.* Старажоўцы. △ К р у́ г л а с і р о т а́. Дзіця без бацькі і без маці. *Без бацькі — поўсіроты, а без мацер — кругла сірота* (прымаўка). Запясочча. К р у́ г л э с л о ў ц э́. Трапнае слова. *Мо й ты, Матруна, ім круглэ слоўцэ скажэш?* Альпень.

КРУГЛЯ′ВІНА *ж.* Круглавіна. *Круглявіна травы — така добра!* Аздамічы. *Круглявіна ягод найшласа мне.* Луткі.

КРУГЛЯ′ВУ *прым.* Круглаваты. *Круглявэ возеро було, а зарэ — сенокос.* Альгомель.

КРУГЛЯ′К *м.* Круглец. *Кругляк, его́ ж корова ані не есць.* Луткі. *Кругляк — вон на купіне росце, бу метліца.* Запясочча.

КРУГЛЯ′КА *ж.* Круглавіна. *Ека кругляка дзе коло рэкі, то й назва ей своя́ е.* Верасніца.

КРУГЛЯ′НКА *ж.* Гатунак яблыкаў. Д.-Гарадок.

КРУГОВА′ЦЬ *незак.* Хадзіць кругамі, круціцца вакол. *Не бачно́ корову, не кругуе по берэгу.* Дварэц.

КРУГО′М *прысл.* 1. Навокал. *Кругом усе було заго-*

*роджэно.* Луткі. *Я ходжу кругом, шукаю, дзе той огеньчык.* Бярэжцы. Ва ўсіх адносінах. *Як вона хоро́ша, то кругом хороша.* Хачэнь. *Коб ей було ге кругом, як мне.* Мачуль. 2. *прыназ.* Вакол. *Кругом села́ вода.* Запясочча. *Шо дзёрну було кругом села, оё-ёй!* Хачэнь.

КРУ'ЖКА' 1 *прысл.* Навокал. *Тая крыкуха кружка, кружка і далеко сядзе.* Мачуль. *Вода кружка ходзіць.* Альшаны. 2 *прыназ.* Вакол. *Бач, як кру́жка іх ходзіць.* М. Малешава.

КРУ'ЖКІ *прысл.* Тое ж. *Кружкі — болото, а на бору його кубло будзе* (пра месца гнездавання чорнага бусла). Запясочча. *Кружкі хаты лоткою ездзілі — усе затопіло.* Дварэц. *Коза кружкі гець обгрызла яблонь.* Цераблічы. *Кружкі болота лес — Белкі зовецца.* Бярэжцы.

КРУЖЭНІ'ЦЬ *незак.* Рабіць кругі, абходзіць кругом. *А тые кружэнілі, кружэнілі і пошлі.* Луткі. *Буські полецяць, а дале кружэняць назад.* Цераблічы.

КРУЖЭНУ'ЦЬ *зак.* Крутнуць. *Она ек кружэнула — эта клешча пополам бр-р-р!* (пра кабылу ў возе). Любавічы.

КРУЖЭНЯ'ЦЬ *незак.* Круціцца, хадзіць навокал. *Ужэ дзеці кружэняюць коло того коміна, а маці сыпле зернета на его* (як «жанілі коміна»). Луткі.

КРУК *м.* 1. Строй птушак клінам пры палёце. *Весельцы лецяць круком.* 2. Жэрдка з кручком для даставання вады з калодзежа (і ў калодзежным жураўлі). Дварэц. Палка з крукам, якой выцягваюць сена са стога. *Цепер нема тых стогоў сена да і крукі не трэба.* Мачуль. Палка з кручком. *Круком і головы́ не достанеш.* М. Малешава. 3. Крумкач. *Крук полецеў, то будзе дошч* (прыкмета). М. Малешава. 4. Штыр пад завесы ў дзвярах, варотах. *На крук чэплялі дзверы.* Хотамель.

КРУКІ' *мн.* Каромысел. *Озьмі крукі, ек ідзеш по во́ду, мо лёгчэ́й будзе несці ведра.* Кароцічы.

КРУ'МКАЦЬ *незак.* Крумкаць (пра жаб). *Жабы ў хату ідуць і крумкаюць на дождж, а зімою на снег крумкаюць* (пад падлогай). Пагост. *Жабы крумкаюць — на трэці дзень язь будзе нерэстовацць.* Аздамічы.

КРУ'ПНІК *м.* Крупнік. *То кулеш с самого пшона, а крупнік — с круп* (ячных). Кароцічы.

КРУ'ПНО *прысл.* Буйнага памолу. *Е жорна, шчо й добрэ мелюць, а е, шчо й крупно, больша половіна каменя туды натрэцца.* Пагост.

КРУ'ПНЫ *прым.* Буйны, гучны, грубы. *Мой разговор крупны* (пра голас і манеру гаварыць). Сямурадцы.

КРУ'ПУ *мн.* 1. Крупы з зерня. *Крупнік з крупо́ў, а кулеш з пшона.* Кароцічы. *Мало крупоў да рэдкі крупнік зварыла.* Сямурадцы. 2. Ападкі ў выглядзе круп. Аздамічы.

КРУ'ПЦІК *м.* Крупка. *Ужэ крупцікі е, масло будзе.* М. Малешава.

КРУПЦІ'СТЫ *прым.* Крупчаты. *Крупцістэ масло.* Запясочча.

КРУПЧА'СТЫ *прым.* Крупчасты. *Соль крупчаста, то розотром на лаві пляжкою, а іншые тоўкуць у ступі да на рэшэто.* Дварэц.

КРУ'ПЧЫК *м.* Крупка. *Крупчыкамі воно, удобрэніе. Крупчыкі маленькіе, некоторые хаты мазалі.* Бярэжцы.

КРУП'Я'НКА *ж.* Каша з ячных круп. *Круп'янкі прыставіла на обед.* Бярэжцы.

КРУТ *м.* Круцель. *Вон добры крут, такі круцяшчы чоловек!* В. Малешава.

КРУТА'Ч *м.* Вяртун (пра дзіця). *А гэты крутач не можэ седзець.* Хачэнь.

КРУ'ТО *прысл.* 1. Вельмі моцна. *Круто сплёў волоку.* Аздамічы. 2. Вельмі рэзка (пра паварот). *Круто повернуў.* Аздамічы.

КРУТОВЕ'ЛО *н.* Калаўрот для выцягвання невада. *Одзін дзе́ржыць за куста́, а тые на крутовело нацяга́юць.* Запясочча.

КРУТОГОЛО'ВЕЦ *м.* Крутагалоўка. *Крутоголовец навек головой круціць, белые яйца несе.* Запясочча.

КРУТЫ' *прым.* Моцна скручаны. *Су́крутні на ніццы, шчо крутэ прадзіво.* Луткі. Цвёрды, худы, посны (пра мяса). *А м'ясо ў ло́ся крутэ, як лоза дзерэцца.* Луткі. *Поснэ бес сала м'ясо — это крутэ.* Запясочча. Кручаны (пра драўніну з перавітымі валокнамі). *Круты ўяз, як м'ясо.* Запясочча. З вялікімі закругленнямі. *Прып'ець крутая.* Сямігосцічы. Сквапны. *Круты чоловек, воды холодное не дасць уполету, а зімою — лёду.* В. Малешава. △ К р у т ы́ м е́ с е ц. Чысты, выразны і яркі месяц. Аздамічы. К р у т ы́ в у́ з ё л. Моцна завязаны вузел. *На крутого вузла́ да гостра швайка* (прыказка). Хачэнь.

КРУХА' *ж.* Крушына. *Круха такая, на ей чорные ягоды.* Цераблічы. *Як остановка жолудка, то эту круху дзеруць і параць.* Хачэнь.

КРУХО'ВУ *прым.* Крушынавы. *С круховой ягоды настойку робяць, як жывот боліць.* Тураў.

КРУЦЕ'ЛІЦА *ж.* Завея. *А снег да круцеліца на дворэ!* Запясочча.

КРУЦЕ'ЛЬКА *ж.* Непаседа, вяртун. *Круціцца, не поседзіць тая круцелька.* М. Малешава.

КРУЦЕ'НІК *м.* 1. Скрутак. *Круценік лозы надраў.* Запясочча. 2. Круты паварот. *Круценікі рэка робіць.* Цераблічы. 3. Круцёлка. *Мо ў тых круцeніках п'еўгі жывуць?* (пра чарапашку балотнага слімака). Луткі.

КРУЦЕНУ'ЦЬ *зак.* Крутнуць. *Даў пойны ход, то ёго ек круценуло!* Верасніца.

КРУЦЕ'НЬ *м.* 1. Жгут саломы, лазы, скрутак дроту. *Круценя́ такого круцяць і обвязваюць колкі.* Старажоўцы. 2. Маталыга, круцель. Запясочча. 3. Малы шчупачок. Запясочча. 4. Рачная мінога. *Круцень у рэцэ ў песку голоўка плеската, залезе ў зёмлю, як бачыш, як свёрдзёл.* Сямурадцы.

КРУЦЁЛКА *ж.* Калаўрот на лёдзе. *Коліся на лёдў, на озеры еком, робілі круцёлку.* Луткі. *Як покруцішса на той круцёлцы, то як бач у голове заморочыць.* Мачуль.

КРУЦІ'ЦЦА *незак.* Круціцца. *Екого ты огня круціcса, як вуж на верэцене?* Луткі. *Бачу, у племянніцы слёзы на вочах круцяцца.* Хачэнь. *Улезеш у холодну посцель да круцісса, пока не нагрэесса.* Мачуль.

КРУЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Круціць. *Мецеліца кру́ціць цэлы тыжджэнь. Круці́ць і круціць, і колі вонэ перэстане гетак месці!* Верасніца. *На дождж куры круцяць хвостом* (прыкмета). Мачуль. *Як пташке́ прылецяць і снег пойдзе, то кажуць: на пойрэя снег круціць.* В. Малешава. 2. Адкручваць галаву. *Як котора кура спевае, то круці ее!* Хачэнь.

КРУ'ЧА *ж.* 1. Завея. *На дворэ така круча, снег!* Тураў. *Круча до того круціла, шо не відно було чоловека.* Верасніца. 2. Круты бераг ра̂кі, глыбокае месца каля яго, вір. *По кручах добрэ ловіць сомоў, язёў.* Тураў.

КРУЧО'К *м.* 1. Калена ракі, паварот. *От кручок пропусцілі, можно зарэ чай піць!* Запясочча. 2. Невялікая прылада або дэталь з кручком (кручок віць вяроўкі, кручок у клямцы, бязмене, кручок вязальны і інш.). *Дару кольбель і кручка́, шоб було дзев'яць сыноў і дзесята дочка* (вясельнае пажаданне). Сямурадцы.

КРУ'ЧЭНЫ *прым.* Шалёны, капрызны і самадурлі-

вы. *Дзіця кручэнэ вельмі. Она малáя була вельмі кручэна, я поставіла молоко, а вона за тое молоко да на себе.* Цераблічы. *Кручэна овечка ты!* Дварэц. *Чому ты такі кручаны, не поседзіш* (да дзіцяці). Аздамічы.

КРУШНІ'К *м.* Крушыннік. *Кульбакі с крушнікў гнулі.* Верасніца. *Крушнік бу блошчыцамі смердзіць.* Запясочча.

КРЫВА'ЎКА *ж.* Крывяная каўбаса. Альшаны.

КРЫВА'Ч *м.* Крывая сякера. *Крывач буў корыта робіць.* Сямігосцічы.

КРЫВЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі крывы. *Ясень такі крывезны!* Пагост.

КРЫВЕ'НДЖА', КРЫВЕНДЗЯ' *м. экспр.* Вельмі крываногая асоба. Сямігосцічы.

КРЫВІ'Ч *м.* Кроўны сваяк. Хотамель.

КРЫВІ'ЧКА *ж.* Кроўная сваячка. Хотамель.

КРЫ'ВО *прысл.* Крыўдна. *А ей крыво, шо я скажу.* Аздамічы.

КРЫВОВА'ЦЬ *незак.* Адносіцца з зайздрасцю і крыўдай. *Крывуюць бабы, шо я цебе ўзела до себе на кварціру.* Хачэнь. *Вона крывуе, колі ў мене шо е.* Запясочча.

КРЫВОВ'Я'ЗЫ *прым.* Крывашыі. Аздамічы.

КРЫВОНО'С *м.* Крываносы чалавек. *Коб хоць крывонос, да бог прынёс* (прыказка, пра жаданне выйсці замуж). Луткі.

КРЫВОРО'ТЫ *прым.* Крывароты. *З ляку зробіўса крывороты, рот завернуло ўбок.* Альгомель.

КРЫВО'СЛІВУ *прым.* Зайздрослівы. *Крывосліву чоловек, усе ему бедно, цяжко, знебожыцца, шо ох!* Бярэжцы. *Вон такі крывослівы, вон нікому не одказаў тэ золото.* Луткі.

КРЫВО'ТА *ж.* Зайздрасць. *З крывоты напісаў нехто, шо жонка з другім кохаецца.* Хачэнь. *Его крывоты беруць, шо я лехчэй роблю.* Пагост.

КРЫВО'ТЛІВУ *прым.* Зайздросны. *Такі ўжэ крывотліву на ўсе чужое.* Пагост.

КРЫВУ' *прым.* 1. Крывы. *Крыва берэза вуросла.* М. Малешава. 2. Кульгавы, бязногі. *А шчо робіць тому крывому, шо без ногі?* Хотамель. 3. Нядобры, зайздросны. *І крывым воком не гляну!* Луткі. 4 *перан.* Неправы. *Віні, хто праў, а хто крыў.* М. Малешава.

КРЫВУ'ЛЯ *ж.* Крывізна. *Коб не крывуля, то дзерэво доброе!* Запясочча.

КРЫВУЛЯ'КА *ж.* Тое ж. *Прывёз крывуляку неку.* Аздамічы. *Дзерэво стройне, бес крывулякоў.* Запясочча.

КРЫ'ГА *ж.* 1. Ільдзіна на рацэ, возеры. *Рэчка пускае, крыга йдзе.* Запясочча. 2. Рыбалоўная сетка на двух палазах па краях. *Крыгу ўдвох цягнуць, а трэці поднімае.* Сямурадцы.

КРЫЖ *м.* Крыж (у жывёлы, чалавека). *Хвоста корова закінула на крыж — дождж будзе* (прыкмета). Мачуль. *Жаба на корову нападáе — кожа на крыжэ прысохне, корова не ліжэцца.* Запясочча. *У крыжы́ мне боліць.* Аздамічы.

КРЫЖА'СТЫ *прым.* Шырокі ў крыжы. *Ну і крыжаста эта жонка!*

КРЫЖА'ТЫ *прым.* Тое ж. *Крыжата корова.* Хачэнь.

КРЫ'Ж'Е *н. зб.* Ільдзіны. *Крыж'е плуве по рэцэ і шуміць.* Сямігосцічы.

КРЫЖОЎНІ'ЦА *ж.* Крыжавіна. *Тэ дзерэво, на чым млін ветрэны́ ворочэецца, зовом крыжоўніца.* Цераблічы. *У грубі крыжоўніца, а запечкі — у печэ́.* Сямігосцічы. *Крыжоўніца з досок, такее накрэст, да ставілі дзежу з цестом.* Дварэц.

КРЫ'ЖЫНА *ж.* Ільдзіна. *Гінуць у нас гусі — мое поплылі на крыжыні, дваццаць штук!* Запясочча. *Крыжына ў ведры плавае.* Луткі.

КРЫ'ЖЭНІЦА *ж.* Крыжавіна. *Му то кажэм крыжэніца, а мо дзе не так.* Верасніца.

КРЫК *м.* Крык. *Маці наробіла крыку, коб вон не хапаў абу́-шчо.* Хачэнь. *Этые жонкі ўжэ ў крык.* Бярэжцы. *Вон вішчаў не своім крыкóм.* Хачэнь.

КРЫКЛІ'ВІХА *ж.* Крыксы. *Крыклівіха на дзіця нападае. То бабі шэпчуць. Пошэпчэ — дай лежыць дзіця, нібі дóска.* Сямігосцічы.

КРЫКЛІ'ВІЦА *ж.* Тое ж. *Мо на ём крыклівіца, на гэтом дзіцяці?* Луткі.

КРЫ'КНУЦЬ *зак.* Крыкнуць. *А вон як крыкнуў!* Пагост. *Крыкнуў вол на сем сёл, на сем каманёў* (загадка). *Гром* (адгадка). Хотамель.

КРЫКОВІ'ШЧЭ *н.* Адлегласць на голас. *На журайлёво крыковішчэ — то на два-чотыры кілóметры!* Мачуль.

КРЫКУ'ХА *ж.* Падсадная качка ў паляўнічых. В. Малешава.

КРЫЛА'ТЫ *прым.* Крылаты. *Крылатые мурашкі роéм ідуць!* Хачэнь.

КРЫЛО′ *н.* Крыло. *Крыло подбітэ було, нехто раніў.* Хачэнь. Плаўнік (у рыбы). *Соплівец крыла ростопурыць! Да колецца!* Альпень. Лопасць у ветраку. Альшаны. Сетка пры жаку. *У жаку одного бувае крылá і два.* Запясочча. Крыло ў павозцы, у сошцы для абворвання і інш. Мачуль. *Памянш.* к р ы л к о. *На крылко, да змéтай луску́.* М. Малешава.

КРЫ′ЛЬЕ *н. зб.* Крылы. *Жак становяць крыльмі ўпроціў воды.* Луткі.

КРЫНДЖО′ЛА *мн.* 1. Козлы з трох кійкоў. *Ростаў крынджола да повесь кольбéль.* Аздамічы. *Такіе крынджола поставяць і поначэ́пваюць пар сто лапцей* (пра кірмаш). Луткі. 2. Козлы на дрывотні. *На крынджолах дзерэво ложаць і рэжуць.* М. Малешава. 3. Паваротнае прыстасаванне ў ветраку. Аздамічы. 4. Палявы сажань. Бярэжцы. 5. Саначкі з дошак замест палазоў. Пагост. 6 *перан.* Ногі. *Россавіў свое крынджола!* Аздамічы.

КРЫНІ′ЦА *ж.* Крыніца. *Там крыніца, хоць ека суша, а вода чэчэ.* Кароцічы. *Струею вода ідзе із крыніцы.* Аздамічы. *Крыніца одна е, там колісь церкоў пошла ў зéмлю.* Запясочча. *Памянш.* к р ы н і ц к а. *Там е крыніцка с хорошою водою.* М. Малешава.

КРЫ′СА *ж.* Борцік у пасудзіне. *У моей гладышцы одбіліса крысы.* Аздамічы.

КРЫ′ТЫ *прым.* Крыты. *Ужэ мед у пчол крыты.* Аздамічы. *Купляй світу шыту, а хату крыту* (прыказка). Луткі.

КРЫ′ЦЦА *незак.* Пакрывацца (пра скаціну). *Целушка чотыры го́ды гуляла, не крылаcа.* Луткі.

КРЫЦЬ *незак.* Крыць. *Ніяк шчытá не ставілі колісь, кругло крылі.* Верасніца. △ К р ы й б о г. Ніяк нельга. *Крый бог, улезе ў пашню́!* Хачэнь.

КРЫЧАЦЬ *незак.* Крычаць. *Я на дзевок крычу, шчоб не лезлі ў во́ду.* Цераблічы. *Галкі крычаць, скергечуць: ці попралі, ці поткалі, дайце клоч'я на кубéлца.* Бярэжцы. *Вороны крычаць, нешчо ж там-то е!* Хачэнь. *Пеўні крычаць увечоры, як перэмена погоды.* Сямурадцы. *Улез у вороны, крычы, як і во́ны* (прыказка). Мачуль. △ К р ы ч á ц ь н а ч о м с в е т с т о і ц ь. Крычаць моцна. М. Малешава. К р ы ч á ц ь г в а л т. Крычаць роспачна. *Я лежу і гвалт крычу, так боліць зуб.* М. Малешава. К р ы ч а ц ь н а ў с ю г о́ л о в у. Крычаць гучна. Мачуль. К р ы ч а ц ь, я к г о л о в á с ц е ч э́. Крычаць гучна. Азда-

мічы. К р ы́ к о́ м к р ы ч а́ ц ь. Крычаць несуцішна. *Кры́ко́м крычыць тэ дзіця, як пога́ны ўкусіць.* Луткі.

КРЫ'ЧКА *ж.* Малая рачная чайка. *Крычкі собіраюць чэрвей на полі за трактором.* М. Малешава. *Прылецелі крычкі — скідай руковіцкі* (прыказка). Кароцічы.

КРЫ'ЧКО *н.* Тое ж. Альшаны. △ М о р с к і́ к р ы́ ч к о. Вялікая рачная чайка. Мачуль.

КРЫ'ША *ж.* Дах, страха. *У нас соло́м'яна крыша була, то одразу загорэласа.* Хачэнь.

КРЫШАНЫ' *мн.* Бульбяны суп. *Упорану на сне́данье ў нас вельмі часто крышаны.* Тураў. *Ходзі есці, стары, а то похоло́даюць крышаны.* Пагост. *Крышаноў звару з грыбамі да буду дзержаць езык за зубамі* (прымаўка). Старажоўцы.

КРЫ'ШКА *ж.* Кавалачак, драбочак. *Тобе робяць, а ты не даеш і крышкі хлеба.* Мачуль. *Вон этой крышкою хлеба дорожыў.* В. Малешава. △ З о б р а́ ц ь к р ы́ ш к і. Быць абсалютна падобным. *Вот удаўса — і крышкі зобраў бацьковые!* Луткі. *Памянш.* к р ы́ ш э ч к а. *Коб крышэчка нідзе не пропала тое землі.* М. Малешава.

КРЫ'ШКУ *прысл.* Крышку. *Дай крышку покоштоваць.* Запясочча. *Месец крышку появіўса.* Хачэнь.

КРЫШЫ'ЦЦА *незак.* *От жолудоў хлеб кры́шыцца.* Луткі.

КРЭГЛЕ' *мн.* Дзіцячая гульня, падобная на гарадкі. Альшаны.

КРЭЖ *м.* 1. Хвоя з крохкай і цвёрдай драўнінай. *Бувае ў смоліні одна сторона м'якка́, а друга́ — крэж: цьво́рда, чырвона, сыплецца, отле́тае ковалком.* Запясочча. 2. Краж, калода. *Плавілі і шпалы і крэжы́.* Запясочча. *Дубовы доборны крэж возілі на жэлезну дорогу.* Дварэц. *Шчоб ты такіх крэ́жоў не волочыла, шчоб по дзе́цях не голосіла, як я.* Луткі.

КРЭ'ЖНІ *прым.* △ К р э́ ж н я в у́ т в а. Качка-крыжанка. *Е крэжня вутва і чы́рка.* Дварэц.

КРЭЖО'ВАТЫ *прым.* Кражысты. *Одна сосна крэжовата, а друга́ бувае ліпова́та.* Аздамічы.

КРЭКТА'ЦЬ *незак.* Крактаць. *Крэкчэ, як шо несе на плечэ.* Аздамічы. *І чэрэва нема, а крэкчу, а як тые, у кого чэрэво?* Цераблічы. *Поба, бацько, ека жаба корава! Онё крэкчэ!* Бярэжцы.

КРЭМІНА' *ж.* Баразёнка ў зубе ў каня. *Еслі ечменіна ховаецца ў крэміне, то молоды конь, еслі крэміна з'еласа, ужэ стары конь.* Дварэц.

КРЭ′ПА *ж.* Шырокі шарсцяны жаночы пояс. *Дзве крэпі е ў мене, бацько ў Кіеве куповáў.* Дварэц. *Крэпа на гапліках рóбіласа, на капоту накладаласа.* Пагост.

КРЭПА′К *ж.* Моцнае яйка. *З ім не біса на яйца, бо ў ёго крэпак, мо ўжэ сто вубіў.* М. Малешава. Дужы, здаровы чалавек. *Бач, екі крэпак, біцца лезе!* Цераблічы. Моцная гарэлка. *Шо була за крэпак тая горэлка!* Хачэнь.

КРЭПІ′ЦЦА *незак.* Апахмяляцца. *Кожны дзень у магáзін крэпіцца ідзе!* М. Малешава.

КРЭ′ПКІ *прым.* Моцны. *Вона несе крэпкіе яйца.* Цераблічы. *Крэпкі буў хлопец у руках.* Мачуль. Густы. *У кáверце крэпкая така вода.* Старажоўцы.

КРЭ′ПКО *прысл.* Моцна, вельмі. *Спадае вода крэпко.* Запясочча. *Дзе скот ходзіць, збіто крэпко.* Бярэжцы.

КРЭ′ПНУЦЬ *незак.* Мацнець. *От гэты сусед добры, шоб вон жыў і крэпнуў!* Дварэц.

КРЭ′СА *ж.* Крэсіва. Альшаны.

КРЭ′САЙЛО *н.* Тое ж. Альшаны.

КРЭСА′ЦЬ *незак.* Красаць. Бярэжцы.

КРЭ′СІВО *н.* Крэсіва. *Колісь людзі малі гýбу, крэсіво.* Запясочча.

КРЭСЛІ′ШЧЭ *н. груб.* Устаўка ў штанах. *Пошыла я штанішча, дай тые бес крэслішча.* М. Малешава.

КРЭ′СЛО *н.* Тое ж. *Як екі дзед у яму ўпадзе, то тожэ крэсло намочыць.* В. Малешава.

КРЭСНУ′ЦЬ *зак.* Красануць, ударыць крэсівам па крэмню. *Любого крáменя сталью крэсні, то вон горыць.* В. Малешава.

КРЭСНЫ *прым.* △ К р э с н ы е д о р о г і. Перакрыжаванне дарог. *На крэсные дорогі занесу.* Хотамель.

КРЭСТ *м.* Крыжык, крыж, перакрыжаванне. *Нема ўжэ і мого бацька крэста.* Дварэц. *Крэста ў головах ставяць у Турові.* Запясочча. *У одном месці крэстоў дзвесце* (загадка). *Клубок* (адгадка). Хачэнь. *Памянш.* к р э́ш ч ы к. Тураў.

КРЭ′ЎНІК *м.* Стрыечны брат. *Это ёго крэўнік, этого чоловека.* Сямурадцы.

КРЭ′ЎШЧЫНА *ж.* Радня. *Крэўшчына наша хіліцца до нас.* Хотамель.

КСЕНЬ *м.* Страўнік у шчупака. *Коб это ўзяў да прыложыў ксеня́ с кожýшка. Вон проедае скоро!* (пра нарыў). *У том ксене́ воно там і седзіць, шо кожýшок поймае.* Луткі.

ҚСЁ-ҚСЁ-ҚСЁ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць карову. *Ксё-ксё-ксё, пшэйка, не бойс, ходзі!* Цераблічы.

ҚСО *выкл.* Выгук, якім паварочваюць валоў улева. Сямурадцы.

ҚСЫ-ҚСЫ *выкл.* Выгукі, якімі нацкоўваюць сабаку. Сямігосцічы.

ҚСЮ-ҚСЮ-ҚСЮ, ҚСЁ-ҚСЁ-ҚСЁ, ҚСЁЎ-ҚСЁЎ-ҚСЁЎ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць жарабя. Дварэц.

ҚУБЕ'ШҚАЦЦА *незак.* Қорпацца, валтузіцца. *Годзі кубешкаласа, ходзі скорэй!* Верасніца. *Воны доўго кубешкаліса з рыбою, роздзелвалі ее.* М. Малешава.

ҚУБЕ'ШТАЦЦА, ҚОБЕ'ШТАЦЦА *незак.* Тое ж. *Қубештаюцца ў том сені.* Запясочча. *Қурэнята там кубешталіса, под тым поленом.* Дварэц.

ҚУБЛА'ЧЫЦЬ *незак.* Збіваць, скручваць, камячыць (пра пасцель). Запясочча.

ҚУ'БЛІЦЦА *незак.* Гняздзіцца. *Қубляцца куры на дождж.* М. Малешава. *Қуры кубляцца на грядках.* Альшаны. *От кубліцца, ек кура ў песку.* Луткі.

ҚУ'БЛІЦЬ *незак.* Збіваць, скручваць, камячыць. *Дзеці, не кубліце посцелі!* Запясочча. *Будзеш свое сено кубліць, а я свое.* М. Малешава.

ҚУБЛО' *н.* 1. Гняздо. *На старых хатах аж по тры кублё буськоў!* Цераблічы. *Сорока робіць кубло, бы хату, зверху накрые і дзверы е.* Хачэнь. *У мене на покуці було кубло ос.* Там жа. 2 *перан.* Сям'я. *Як не жывá мацер, то і кубло роскідалосо.* В. Малешава. *Свое кубло е ў мого сына.* Хотамель.

ҚУ'БОҚ *м.* Қубак, карэц. *Это кубкі вашые, хлопцы, немытые?* В. Малешава. *Памянш.* кубочок. *Осё маліны ў кубочку е, Ленка.* В. Малешава.

ҚУБЫРҚО'М *прысл.* Қулём. *Қубырком полецеў з мацыклета.* Луткі.

ҚУ'ГА *ж.* Вешка на рацэ, на краі фарватара. *Нам есць указаніе, на екой глыбіне кугі ставіць.* Пагост.

ҚУ'ГАШНІҚ *м.* Наглядчык за знакамі на фарватары ракі. Запясочча.

ҚУГІ'ҚАЦЬ *незак.* Кугакаць (пра саву). *Сова кугічэ.* Запясочча.

ҚУДА'ХҚАЦЬ *незак.* Қудахтаць. *Қудахкае кура, як ейцэ знесла.* Бярэжцы.

ҚУДЗЕ'ЛЯ *ж.* Қудзеля. *Лён у нас ніколі не пралі з кудзелі, одно воўну.* Тураў. *Не трэ ендрося ендросіць, а*

*трэ кудзелю кудосіць* (жарт, пра лянівую жанчынуняўмеку). Цераблічы.

КУ'ДЛА *ж.* Кудла. Запясочча.

КУДЛА'ТЫ *прым.* Калматы. *Собака кудлаты.* Бярэжцы. *А мое ж ву людзенькі, коб ву бачылі, екі Мар'ін хлопец з Мінска прыехаў кудлаты!* Верасніца. *Стоіць кудлаты вяз.* Лdefinitely.

КУДЛА'ХА *ж.* Кудла. Пагост.

КУДЛА'ЦЕЦЬ *незак.* Збівацца ў касмыкі, блытацца. *Без хусткі косы вельмі кудла́цеюць.* Кароцічы.

КУДЛАЧЫ'ШЧЭ *н. экспр.* Калматая істота. *Кудлачышчэ такое собака.* В. Малешава.

КУ'ДЛЫ *мн. экспр.* Валасы. *Прычэшы кудлы свое, а то стояць, ек певень на плоце.* Верасніца.

КУДО'ШВАЦЦА *незак.* Скурчвацца ад болю. *Бацько ёго́ век так кудошвайса — зогнецца ў тры погібелі і ходзіць.* М. Малешава.

КУДО'ШЫЦЦА *незак.* Мясціцца, круціцца. *Дзе та кура с ціплятамі? Усе ж тут кудошыласа.* М. Малешава.

КУДО'ШЫЦЬ *незак.* Круціць, згортваць. *Залезу на печ з тою кудзелею да кудошу ее нішчэчком.* Хачэнь. *Свіння берэлог собе кудошыць.* Азяраны.

КУДО'Ю *прысл.* Куды. *Кудою вон на Мінск поедзе?* Запясочча. *То дзірка, кудою руку кладуць хаджаць жака́.* Сямігосцічы.

КУДРА'ТЫ *прым.* Кучаравы. Запясочча.

КУДЫ' *прысл.* Куды. *З маленькім дзіця́м куды ты поедзеш?* М. Малешава. *Ек пойду ў лес, то не знаю, куды вуйці, обойду хвою — і ўжэ не знаю.* Верасніца. *Куды ноч, туды й сон* (прыказка, пра дрэнны сон). М. Малешава. *Забіў жоўну коло вулея, рад, шо куды!* Мачуль. △ К у д ы́ х о ч. Куды хочаш. *Доста́нецца, куды хоч.* Цераблічы. К у д ы́ н а с в е́ ц е. У свет. *Цепер замуж ідуць куды на свеце.* Луткі.

КУДЫРКАЦЬ *незак.* Курлыкаць. *Журайлі кудыркаюць, ек у поўрэй леця́ць.* Бярэжцы.

КУЁ'ЎШЫЦЦА *незак.* Валтузіцца, валаводзіцца. *Усе шчэ коло хаты куёўшацца.* Дварэц. *Куёўшацца там на печэ, як куры.* Верасніца.

КУЁ'ЎШЫЦЬ *незак.* Пeратрасаць, пераварочваць, рабіць беспарадак. *Як сталі куёўшыць ту цэркву, то тоды і спалілі.* Сямурадцы.

КУ'ЖЭЛЬ *м.* Кужаль, вычасаны лён лепшага гатун-

ку. *Нехай кужэль мушы трубяць, нехай мене хлопцы любяць* (з песні). Верасніца.

КУЗЕ'НЬКА *ж.* Невялікая пасудзіна з кары для збірання ягад. *Кузеньку з бéрэсту і з ольховое коры робілі для ягод.* Луткі.

КУЗНІКОВА'ЦЬ *незак.* Працаваць кавалём. *Я кузніковаў трыццаць год.* Чэрнічы.

КУ'ЗНЯ *ж.* Кузня. *Кýзнеў у Городку багато було.* Луткі.

КУ'ЗУБОМ *прысл.* Насуперак. *Як ты стала проціво кузубом, то й вон ужэ стаў ожыгáцца, не моўчыць.* Сямігосцічы.

КУ'КА *ж.* Стары танец (падобны да карагода). Запясочча. △ Я к к ý к а. У разгубленасці. *А жонка, як та кука, вуглядае, дзе чоловек дзеўса.* М. Малешава.

КУ'КАЦЬ *незак.* Кукаваць. *Зоўзуля кукае.* Бярэжцы.

КУ'КЛА *ж.* 1. Сусла. *Уперла ў рот куклу да хай бы трубіло дзіця.* Запясочча. *Ту куклу як набандыжыш, то ўсе дзіця закрые.* Альшаны. 2. Звязка чэсанага ільну. Верасніца.

КУКО'БІЦЬ *незак.* Складваць у адно месца, збіраць. *Цепер добрэ робляць, шо чысто ходзяць і хóрошэ ходзяць і не збірають етых грошэй, не кукобляць.* Пагост.

КУКО'ЛЬ *м.* Куколь. *Куколь е ў пшэніцы, бы глечык. Куколь і метліца — перэбóр пшэніца* (прымаўка). Хачэнь.

КУКО'Н *м.* Кукса, кульця, абрубак. *Одныме куконáмі ходзіла — палцы поотмерзалі.* Пагост.

КУКС *м.* 1. Кукса. *Куксом даў.* Аздамічы. 2. Закручаныя ў вузел валасы. *От на голове закруціла, дай кýкса зробіла.* Дварэц.

КУ'КСА *ж.* Тое ж. *Так і будзе кукса, не вуросце болей рог у коровы.* Хачэнь.

КУКСА'Н *м.* 1. Абломак палена, абрубак. *Так удырыў, шчо одно ў руках от палкі остаўса куксан.* Сямігосцічы. 2. Кукса. *Ногі — такіе куксаны́.* В. Малешава. *Хвост отпаў, такі куксан остаўса.* Там жа.

КУКСА'ТЫ *прым.* Бязрогі, з шышкамі замест рагоў. *Куксата корова не мае рог зроду.* М. Малешава.

КУЛА'К *м.* Кулак. *Як хто хочэ, так по своём бацьку плачэ: хто ў кулак, а хто ніяк* (прыказка). Запясочча.

КУЛАЧКА *ж.* △ У с т а л і р а н о, бы ч э р ц і н а

к у л а ч к у. Пра абуджэнне без пары, уночы. В. Малешава.

КУЛЕ'М *прысл.* Кулём. *Заваліўса кулем і спіць.* Пагост.

КУЛЕ'Ш *м.* Малочная густая крупеня з пшана. *То кулеш с самого пшона́, а крупнік — с круп.* Кароцічы. *Як крычыць сова кулеш-кулеш, то нехто обродзіцца ў селе* (прыкмета). Луткі.

КУЛЁВА'ЦЬ *незак.* Рабіць кулі з саломы. *Я пошоў кулёваць куле.* Верасніца.

КУЛЁ'ВІК *м.* Чатырох-пяціпудовы мяшок. *Прынесла кулёвік картопель і кінула.* В. Малешава.

КУ'ЛІК *м.* 1. Невялікі мяшок. *Кулік мукі белой пудоў тры, то мо п'яць рублей буў.* Хачэнь. 2. Малы снопік для застрэшыны. *Кулікі е двойные і тройные.* Запясочча.

КУЛІ'К *м.* Кулік-баранчык. *Кулік на песочку яйца кладзе.* Пагост. *Кулік як леціць, то дудукае.* Аздамічы. *Кулік крычыць: «Грыцу-Грыцу, Грыцу-Грыцу, казаў бацько, дам целіцу, і корову круторогу, сватай мене, хоць убогу».* Цераблічы.

КУЛІ'ТКА *ж.* 10—12 жменек ачышчанага льну ў звязцы. М. Малешава.

КУЛЬ *м.* 1. Куль, вялікі сноп прамой саломы, чароту. *Подавай кулі, будом посцілаць да крыць.* Альшаны. *Купіла дзесець кулёў того чэрэту.* Запясочча. 2. Мяшок мукі, збожжа. *Достаў собе куль мукі.* Тураў. 3. Рыбалоўная лавушка. Альпень. 4. Заход для рыбы ў рыбалоўных прыладах. *У жаку два крыла і куль.* Сямурадцы. △ П а́ д а ц ь к у л е́ м. Адчуваць вялікую стомленасць. *Прытоміласа, падае кулем.* Хачэнь.

КУЛЬБА'КА *ж.* 1. Крывуля ў ярме. *Ермо — така от кульбака о. Поўз одзін бок от так палка закладаецца і поўз другі.* Пагост. 2. Качарэжка. Кароцічы. 3. Крывуля. *Як крывэ нехорошэ полено, то кажуць кульбака.* Аздамічы. *Памянш.* к у л ь б а ч к а. *Колісь чо́боты на кульбацці занесе ў цэркоў да назад несе. Кульбачка — это палка да згінена.* Запясочча.

КУЛЬГА'ВУ *прым.* Кульгавы. *Упаў, да цепер кульгавы.* Цераблічы. *Покуль той кульгаву прыцягса, то му ўжэ онь дзе.* М. Малешава.

КУЛЬГА'ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Як нога заболіць, то кульгае.* Бярэжцы. *Корова кульгае, отламала ра́коціцу.* Цераблічы.

КУЛЬКО'НЬ *часц.* Ледзь, колькі-небудзь. *Коб оно*

*кульконь шчо помогало.* Аздамічы. *Там була крыніца, і цеперэка кульконь вода дзёржыцца.* Альгомель.

КУ'ЛЬША, КУ'ЛЬЧА *ж.* Рог у стозе, возе. *Не топчыса, а то кульша обваліцца.* Верасніца. *Як сено кладзеш на сані, то кульшу робіш по боках.* Чэрнічы. *Гледзі, коб кульчы булі роўные ў стогу.* Сямігосцічы.

КУЛЮ'К *м.* 1. Кулік. *Кулюк робіць на трох сітнічынах кубло.* Дварэц. 2. Калючка. *Онь кулюк росце (пра бадзяк).* Хотамель.

КУЛЯ'ЦЦА *незак.* Куляцца. *Почаў хлопец куляцца церэз гóлову.* Лутві.

КУМ *м.* Кум. *У сёлах по тры кумы беруць.* Запясочча.

КУМА *ж.* 1. Кума. *Кума, о кума! Прышоў Іванко на кіргіз звацъ.— Да не на кіргіз, кумко, а на саíс* (пра как-сагыз). Азяраны. *Кумо, ходзёце ў ягоды!* Бярэжцы.

КУМЕ'КАЦЬ, КУМЕ'ХАЦЬ *незак.* Разумець. *Нічого не кумекае, хоць і грамотна.* Верасніца. *Чытаць не кумекае ані!* Лутві. *Кумехаць.* Дварэц.

КУ'МЗА *ж.* Ліра ў жабракоў. *Старцы то то з кумзою ходзілі.* Альшаны.

КУ'МІН *прым.* △ К ý м і н а в о д á. Вір, месца, дзе вада вірыць, закручвае ў адваротны бок. Дварэц.

КУ'МКАЦЬ *незак.* Падаваць гук (пра жаб-жарлянак). Запясочча.

КУ'МПАЛО *н.* Купал (у царкве). Аздамічы.

КУ'МСА *ж.* Вялікі кавалак хлеба. *Вон узяў тую кумсу ў рот і не хочэ с тобою говорыць* (пра малога). Дварэц.

КУ'НДЗЕВУ, КУ'НДАВУ *прым.* Худы, змарнелы. *Ух, заразо кундзева, гледзі, шо зарэ ногі вуцягнеш!* Верасніца. *Жаба ты кундава!* М. Малешава.

КУ'НДЗЯ *ж.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. *Котора тоўстая баба, метэр на метэр і ў рост і ў шыр, кундзя называюць.* Сямурадцы.

КУНДЗЯ'БАЦЬ *незак.* Кандыбаць. *Ледзь кундзябае.* М. Малешава.

КУ'ПА *ж.* 1. Група, суполка. *Цала купа дзевóк.* Мачуль. *Хлопцы купою ходзяць.* М. Малешава. *Дзе ты рос, а дзе я рос, да чорт до кýпу знёс* (прымаўка). Хачэнь. 2. Груд, куча. *Цэла купа там лежыць лому.* М. Малешава. *Мурáшкі нагрэблі купу.* Сямігосцічы. *Купамі грыбоў наросце.* Рубель. 3. Вялікая бочка для зерня. *Велізезна купа на оўёс була коліся.* Хачэнь. *Памянш.* к у п к а. *Во-*

*лосозар — гушчэйша купка зорок, а коўшык — рэдзейша.* Лутк.

КУПА'ЙЛО, КУПА'ЛО *н.* Вялікі касцёр, разведзены на полі, у лесе (у тым ліку і святочны касцёр на купалле). *Усе старэ неслі на купайло.* Сямігосцічы. *От було купайло, як назбіраем остопкоў да запалім!* Луткі. *Купало робяць — зберуць остопкі, да паляць, да скачуць кроз огонь, да жаб паляць.* Цераблічы. *Цепер купало, заўтра Йван, чорт кідае ведзьму чэрэз баркан* (з песні). Луткі. △ Круціць купа́ло. Круціць палкай з факелам. *Дзеці круцяць купало.* Цераблічы.

Ёсць павер'е, што недапаленыя на купальным кастры атопкі трэба класці на грады, дзе пасеяны агуркі, каб яны ўрадзілі. Жаб кідалі ў купальны касцёр, бо раней лічылі, што гэта ведзьмы.

КУПАЛЬНЫ *прым.* △ Купа́льны Іван. Купалле. *После Купального Івана молока мало даюць корові.* Запясочча.

КУПА'ЦЦА *незак.* 1. Купацца, мыцца. *Сталі купацца: купаецца, купаецца, а дале як даў норца — і нема.* Пагост. *Ідзі купайса, на́шчо тобе тые вуценята!* (на качку). Дварэц. *Колісь робіў собе купацца корыто.* Цераблічы. Хачэнь. 2. Пераліваццa, зіхацець (пра сонца). *Напроціў Купального Івана сонцэ купаецца на сходзе і захо́дзе.* Альпень. *Як купаецца сонцэ на Купалного Івана, то до сонца надо покупацца, як хворы, то пройдзе.* Цераблічы.

КУ'П'Е *н. зб.* Купіны. *Куп'е на болоці, не можно косіць.* Аздамічы. *Буў лес да куп'е, да на кожной купіне качка седзела.* В. Малешава.

КУ'ПЕНЬ *ж.* Грудок. *Сеў воўк на купень да думае* (з казкі). Аздамічы.

КУПЕ'Ц *м.* Купец, скупшчык. *Купец наймае гайдая́, шоб вон гнаў товар куплены.* Цераблічы.

КУПЕ'ЦЬ, КУ'ПАЦЬ *незак.* Тлець. *Торф не горыць полым'ем, а ку́пее, як губка горыць.* Луткі. *Як сено дзе горыць, то кажуць ку́пее.* Цераблічы. *Ку́паць.* Мачуль.

КУ'ПІНА *ж.* Купіна. *Цепер роўніна — нідзе ні купіны, ні болота.* Верасніца.

КУ'ПІСТЫ *прым.* Купіністы. *Там таке болото купістэ, веліке!* Альпень.

КУПІ'ЦЬ *незак.* Купіць. *Купіла ў Погосце нейку сцёпку і жыла.* Хачэнь. *Купіў бы село, да на грошы голо́* (прыказка). Сямігосцічы.

КУПЛЯ'ЦЬ *незак.* Купляць. *Нема рошчоту: купляй хлеб да кормі.* Верасніца. *Нема тое лайкі, дзе купляюць мамкі* (прыказка). Хачэнь.

КУ'ПНІК *м.* Купіны. *Осока купніком росце.* Запясочча. *Купнік буў по по́друкі, а цепер нема, поораліі.* Луткі.

КУПОВА'ЦЬ *незак.* Купляць. *Ек му куповалі ту корову, то годоў ей одзіна́нцаць було ўжэ.* Луткі. *Чого не куповаць, того не шкодоваць* (прыказка). Чэрнічы.

КУ'ПОВІЦА *ж.* Від асакі. *Куповіца — моцно зелёна, рэзуча трава, под луча́й подходзіць.* Хотамель.

КУ'РА *ж.* Курыца. *Як на погоду, то кура зарань садзіцца на свое седало.* Мачуль. *Кура доўго ходзіць, ужэ цемно, а вона ходзіць, то дошч будзе.* В. Малешава. *Колько кура не грэбе, то ўсе на себе* (прыказка). Там жа. △ Куры загоняць. Хістацца. *Куры будзе загоняць, ек вып'е!* Дварэц. Кура непотане. Пра густую страву. *Квас — кура не потане!* М. Малешава.

КУРА'К *м.* Курыца з прыкметамі пеўня. *Ні певень, ні кура, то курак.* Луткі.

КУРА'Ч *м.* Гнілушка для падкурвання пчол, дымар. *Курачом пчолы вуганяём з вулья, ек мед достаём.* Кароцічы.

КУРА'ЧЫНА *ж.* Кураціна, курынае мяса. *А гэтое курачыны було на столе!* Луткі.

КУРА'Ш *м.* Дымны касцёр. *На бору му кураш робімо от комароў.* Цераблічы. *Прошлого году і на вуліцы клалі кураш.* Сямігосцічы.

КУ'РГАН *м.* Горка. *От вода заліла, шчо нідзе і кургана не відно.* Луткі. *Нідзе ніякого кургана нема коло нас.* Пагост.

КУРДА'ТЫ *прым.* Малы ростам, куртаты. Луткі.

КУРДУ'ПЕЛЬ *м.* Чалавек малога росту. *Як таке малэ, недорослэ, то курдупель. У нас у селі нема ні годного курдупля.* Луткі. *Памянш.* курду́плік. *Маленька картопліна — курдуплік.* Луткі.

КУ'РКАЦЬ *незак.* Падаваць гук (пра жаб). *Поўзе жаба така велізезна, рэпана да ўсе пішчыць да куркае.* Хачэнь.

КУРНІ'ЦА *ж.* Курная хата. *Од этты курніца стояла.* Сямігосцічы. *А то некіе курніцы шчэ булі бэс пэчы.* Рубель.

КУРНУ'ЦЬ *зак.* Хутка пабегчы. Луткі.

КУРО'ДЫМ *м.* Куродым. *Куродым — як ламачье*

*дыміць*. Запясочча. *Коб коням куродыму, воны б стоялі, нікуды б не пошлі.* Любавічы.

КУРО'ЖЫЦЦА *незак.* Корчыцца, мучыцца. *Так бог дай, шчо вонэ не курожылосо нічого тэ дзіця.* Сямурадцы.

КУРОПА'ТА *ж.* Курапатка. *Куропаты падаюць у капканчыкі.* Запясочча.

КУРОПА'ТКА *ж.* Тое ж. *Куропатка двананцаць еец несе.* Запясочча.

КУРОСЛЕ'П *м.* Казялец. *Этого курослепу, ек ідзеш на Вельчу,— морэ!* Верасніца.

КУРО'РСТВОВАЦЬ *незак.* Жыць як на курорце. *Тут онно курорствуюць, а не жывуць!* В. Малешава.

КУ'РТА *ж.* Кароткая світка без падкладкі. *Курта така хорбшэнька, як каптан, на лето, на косовіцу ідуць у ей.* Кароцічы. *Памянш.* к у р т о ч к а. Аздамічы.

КУРЧ *ж.* Сутарга. *Курч узела дай готово, потаў той солдацік.* Мачуль.

КУРЧА' *н.* Кураня. *Нема ніякого курчаці.* Кароцічы. *Як не сам з'есі, то курча з'есць.* Цераблічы.

КУРЧЭНЯ' *н.* Тое ж. *Пошла с курчэнятамі кура.* Рубель.

КУ'РЫ *мн.* △ Х і м і н ы е к у́ р ы. Хітрыкі. *Шо ты мне хіміные куры торочыш?* Хачэнь.

КУРЫ'ЛКА *ж.* Курная хата. Хільчыцы.

КУРЫ'НА *ж.* Курыца. *Там курына ходзіць без прыгляду.* В. Малешава.

КУРЫ'НЫ *прым.* Курыны. *А дзе там курына міска?* Сямурадцы. △ К у р ы́ н а с л е п о т а́. 1. Незабудкі. Дварэц. 2. Курыная слепата. *Од курыное слепоты помогае кожу́шкова печонка.* Луткі. К у р ы́ н а л е п е х а́. Балотныя ірысы. К у р ы́ н а г о л о в а́. Слабая галава. *Курына голова, боіцца чаду.* Луткі. К у р ы́ н а п а́ м е ц ь. Слабая памяць. М. Малешава.

КУРЫ'ЎКАЦЬ *незак.* Курлыкаць (пра жураўлёў). *Веселікі на болоці ўдосвіта вельмі хорошэ курыўкаюць.* Хачэнь.

КУРЫ'ЦЦА *незак.* Абкурвацца, ачышчацца дымам. *Буркун свецяць, да як подлеціць гэто поганы віхо́р, то ім і ку́рацца, буркуном.* Луткі. *Колісь була хондзя, то тою стрэлою курыліса.* Сямурадцы.

КУРЫ'ШЧЭ *н.* Касцёр, які дае толькі дым. *Курышчэ кладу ў боры од комароў.* Хотамель.

КУ'РЭВА *н.* Пыл. *Ек мучкі мучуць, то ў хаці курэво,*

*шо й дыхаць не можно.* М. Малешава. *Як ідзе, світкою махае, ажні курэво за ім.* Сямігосцічы.

КУРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Дыміць, пыліць. *Дзень погоды — і ку́рыць песок!* Цераблічы. *Як спужаецца дзіця, то ку́раць, шоб пуд пройшоў.* Лутқі. *Добры вечэр, коцубіхо, ці варыла еке ліхо? Ці варыла, ці курыла, абы добрэ говорыла!* (прымаўка). Чэрнічы. 2. Курыць. *Ідзі на двор куры — вушы не померзнуць.* Сямурадцы.

КУРЭ'НЬ *м.* Курэнь. *На Майдане́ буў курэнь рыбацкі.* В. Малешава. *Не во ўсіх булі на сеножаці курэне.* Запясочча. *Пры немцах седзелі ў курэнях у лесі.* М. Малешава.

КУРЭНЯ' *н.* Кураня. Тураў. *Памянш.* к у р э н я́ т к о. Тураў.

КУ'РЭЎНЫ *прым.* Пыльны. *Курэўны лён.* Рамель.

КУРЭ'Ц *м.* Курэц. *Курэц! Дасць бацько!* Бярэжцы.

КУРЭ'ЦЬ *незак.* Пыліць. *Песок не песок, онно́ курэе, як едзе.* Сямігосцічы.

КУР'Я'Н *м.* 1. Курыца з прыкметамі пеўня. *Кур'ян — то ні ку́ра, ні певень.* Лутқі. 2. Дзіцячая гульня. *Завяжуць очы, круцяць, а далей за клямку дзержыцца, а его путаюць:— На чом стоіш? — На камені.— А шчо есі? — Квас.— Як цебе зваць? — Опанас.— То лові, дурэнь, нас.— Вон ловае, як зловіў, кажэ:— Чэрэпок масла, голова красна,— і познае, хто такі. Як познае, то я ўжэ кур'ян, як не, то вон зноў ловае.* Лутқі.

КУСА'ЧЫ *прым.* Які можа ўкусіць. *Кусачы собака.* Запясочча.

КУСА'ЦЬ *незак.* Кусаць. *Так як сталі ее комары кусаць, так вона як начала крычаць!* Кароцічы.

КУСЛІ'ВУ *прым.* Які можа ўкусіць. *Мухі куслівуе.* Лутқі.

КУ'СМАН *м.* Вялікі кавалак. *Хлеба возьмуць кусман да молока.* Верасніца.

КУСО'К *м.* Кавалак. *Кусок мула купіла муць рукі.* Дварэц. *Ідзеш на часок — беры хлеба кусок* (прымаўка). Верасніца. *Роспусты кусок, не слухае ні бацька, ні мацер!* В. Малешава.

КУСТ *м.* Куст. *Вон воеваў? От седзеў под некім кустом!* Сямігосцічы. *Колі на стрэчэнье певень нап'ецца воды под стрэхою, то на Юр'е вол наесца травы под кустом.* Хачэнь. *Свой куст прыцяга́е* (прымаўка). Там жа.

КУСТАРЭ' *мн.* Вялікія чатырохгранныя цвікі. Аздамічы.

КУСТО'ЎЕ *н. зб.* Кусты. *Така круглявінка, тут кустоўе було.* Буразі.

КУСУ'ШЧЫ *прым.* Які можа ўкусіць. *Кусушчые мухі.* Запясочча.

КУСЫ'-КУСЫ' *выкл.* Выгукі, якімі нацкоўваюць сабаку. *Кусы Марусю, кусы!* Запясочча.

КУ'СЬКА *ж.* Мінога рачная. Кароцічы.

КУТА'С *м.* 1. Кутас. *Кутасы на ўздзеццы.* Хотамель. 2 *мн.* Махры. *Хустка с кутасáмі.* Альпень.

КУ'ТНІ *прым.* Кутні. *Кутніе зубы боляць.* Альпень.

КУТО'К *м.* 1. Куток, мясціна ў вугле, у зацішным месцы. *Я поставіла по тры трэ́сочкі, да воны ўжэ ў кутку, то не померзлі* (пра памідоры). Дварэц. *На том кутку села плескéчэ бýсько.* Верасніца. *Наш куток называецца Нова вуліца.* Буразі. 2. Карма ў сетцы, у венцеры. Луткі. 3 Сляпая кішка. Хачэнь. *Памянш.* к у т ó ч о к. *Зробéць мне куточка, хатку маленьку.* Хачэнь.

КУТЫРГА'ЦЬ, КУТУРГА'ЦЬ *незак.* Няроўна ісці, кульгаць. *Кутыргаюць часы.* Альшаны. *Кутургаць навучыласа, бы старая.* Хотамель.

КУ'ФОР, КУ'ФІР, КУ'ХЕР, КУ'ХОР *м.* Куфар. *Куфір буў, такіе сундукі большые, а шафы і моды не було.* Запясочча. *Кýфор.* Хотамель. *Кýхер.* Запясочча. *Кýхор.* Аздамічы.

КУ'ХАР *м.* Повар. *Чорт кухара брау̌, шо з голоду поміраў* (прымаўка). Альпень.

КУ'ХЕЛЬ, КУ'ХОЛ *м.* Невялікі кубак. Бярэжцы.

КУ'ХКАЦЬ *незак.* Коххаць, усклікаць. *Кухкае куранятам кура.* Бярэжцы. *На печэ́ лежу да кухкаю, шоб хто прывёз екі возок дроў.* М. Малешава. *Як не гож, то кухкай помалу.* Сямурадцы.

КУ'ХЛІК *м.* Кубак. *У нас кухлік, а ў Хочэні крушка, я не чула, коб у Хочэні кухлік говорылі.* Верасніца.

КУХТО'РЫЦЬ *незак.* Гатаваць, кухарыць. *Вона кухторыла смачно.* Запясочча.

КУХЦЕ'ЛЬ *м.* Кухталь. *Доброго кухцеля даў!* Запясочча.

КУЦЕ'ЙКА *ж.* Лугавая смолка. *От звіла венка с куцейкі.* В. Малешава.

КУ'ЦЕНЬКІ *прым.* Кароценькі. *Куценькі кабанчык, такі кругленькі.* Пагост.

КУЦЕРЭ'МКА *ж.* Звада, шум, неразбярыха. *На чорта эта куцерэмка!* (пра вяселле). М. Малешава.

КУ'ЦІК *м.* 1. Парсючок. В. Малешава. 2. Абламаны

нож. Аздамічы. 3. Той, што застаўся (прайграў) пры гульні ў скокі. Аздамічы.

КУ'ЦКА *ж.* Свіння (у размове з малымі дзецьмі). Аздамічы.

КУЦОВА'ТЫ *прым.* Караткаваты. *Вон куцоваты, тоўсты.* Запясочча.

КУЦОПА'ЛЫ *прым.* З адрэзаным пальцам. *Як кукса е от пальца, то кажуць куцопалы.* Лутк.

КУЦОХВО'СТЫ *прым.* З адсечаным кончыкам хваста. *Коту хвоста отсеклі, куцохвосты вон.* Цераблічы.

КУЦУ'-КУЦУ'-КУЦУ', КУЦЬ-КУЦЬ-КУЦЬ, КУЦЮ'-КУЦЮ'-КУЦЮ' *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свіней. *Куцу-куцу — і ўжэ воны бегуць, бачыш.* Сямурадцы. *Куць-куць-куць, куцю-куцю-куцю.* Дварэц.

КУЦУ'ЛЬБІНА *ж. экспр.* Нос. Запясочча.

КУ'ЦЫ *прым.* Укарочаны. *У кошкі хвост куцы, обрýбаны.* Мачуль. △ К у́ ц а-б а́ б а. Дзіцячая гульня, хованкі. Запясочча.

КУЦЬЯ' *ж.* Каша з ячных або пшанічных круп. *Куцью пшэнічну тоўком, ечменну можно тоўкці, а обдзіраем у мельніцы, то крýпу.* Бярэжцы. *Квасоля с куцьéю і пахуча і смачна.* Цераблічы. *Мороз-мороз, ідзі куцью есці!* (так клічуць мароз на багатую куцю). Дварэц. *Як багато ўсыплюць круп, то куцья, а як рэдка, то груца.* Мачуль. △ Б а г а́ т а к у ц ь я́. Абрадавая вячэра перад Новым годам. Г о л о́ д н а к у ц ь я́. Абрадавая вячэра перад калядамі. М. Малешава. К у ц ь я́ з м а́ к о м. Недарэка. Луткі.

КУ'ЧКА *ж.* 1. Загародка для курэй, качак. *Осё ў хлéві посадзіла, у куццы.* Мачуль. Падпечча. *Он, дзе куры седзяць, — кучка.* Альпень. 2. Невялікая бедная хатка. *Моя малá хата, некрасіва, то не хата, а кучка.* Запясочча. 2. Мэндлік. *Жыто ў кучкі стаўлялі і сушылі, а ечмень і овёс напрóст клалі.* Чэрнічы.

КУЧМА' *ж.* Зімовая мехавая мужчынская шапка. *Шо ты ўжэ кучму наклаў — пужаеш лето.* Тураў. *Памянш.* к у ч о́ м к а. Аздамічы.

КУЧУ'-КУЧУ'-КУЧУ' *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свіней. Запясочча.

КУЧУГУ'РА, КАЧАГУ'РА *ж.* Група людзей, дрэў і інш. *Йшло людзей кучугура большá.* Верасніца. *У той кучугуры була пáсека.* Чэрнічы. *Качагурою хмары ідуць.* Чэрнічы.

КУЧУГУ'Р'Е *н.* Вялікія шырокія купіны. *Таке кучугур'е наро́стае на болоці.* Мачуль.

КУЧУГУ'РКА, КОЧЭГУ'РКА, КОЧОГУ'РКА *ж.* Купка раслін. *Кучугурка жыта остало́со.* Альгомель. *Кочэгуркамі картоплі пороcлі, сям-там.* Луткі. *Кочэгурка на водзе, а корэнь, як нітка, то гэто осо́т.* Цераблічы. *От кочогуркамі накідаў, не ўмееш сеяць.* Луткі.

КУЧУГУ'РЫНА, КОЧУГУ'РЫНА *ж.* Тое ж. *Пашы нема, одные кучугурыны.* Рамель. *Добру кочэгурыну знайшла ягод!* Мачуль. *Дзе косіш, да ека кочэгурына, то седзяць мурашкі кучкамі.* Сямігосцічы.

КУЧЭРА'ВУ *прым.* Кучаравы. *Кучэравые косы.* Альпень.

КУ'ЧЭРЫ *мн.* Кудры. *От кучэры такіе, бы ў овечкі.* Аздамічы.

КУЯ' *ж.* Злосная жанчына. *Вот куя, усе бурчыць і бурчыць.* М. Малешава.

КУЯЯ' *ж.* Хованкі. Сямігосцічы.

КЫ'ЦІ-КЫ'ЦІ-КЫ'ЦІ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць ката. Запясочча.

КЫШ, КЫ'ША *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць курэй. *Кыш, шчоб вас упадок поеў!* Альшаны. *Кыша! А куды то ты?! А-а-а! Шоб ты не дождала! Шоб ты выдох! А кыш!* Луткі.

КЫ'ША *м.* і *ж.* Певень, курыца (у размове з малымі дзецьмі). *От кыша побег.* Запясочча.

# ТЭКСТЫ

## НАЧЛЕГ НА БАЛОЦЕ

Мы осенью ходзім за журовінамі. Журовіны по-ко́лішнему, а по-цеперэшнему клюква. Колісь не казалі гэтак. То колісь ходзілі мы ўсе по ягоды далеко-далеко. Пошлі по журовіны з Едві́леєю (ужэ нема тоé бабы) удзьвох-удзьвох, ночовалі под саменькою Рудне́ю. Ужэ коло Рудні́цкое канавы ночовалі. Удзень добрэ було, так весело ўдзень! А як ужэ повечэрэло... Ужэ нацягалі мы собе дроў да поклалі жоро́ш (такіе дрова кладом), а наверх наломім шы́гі. Мох на этые дрова, бо так жэ ж не ляжэш на моху́, вода там. Да нало́мім шы́гі ў лесу́ (вы ж знаеце эту шы́гу), да ўжэ просцілаемса под бок, бо дзень жэ ж і ноч не вустоіш, трохі й прыляга́емо. Да наклалі посерэдзіне огню мы ўжэ з ею. А так ужэ сцёмне́ло, да так ужэ невесело, шо ўдзьвох. Наклалі посерэдзіне огню, а з одного боку так пры́боч я собе просла́ла, а вона з другого. Да поле́глі ўдоўж поўз огонь да позасыналі. Ну, стало світаць так ужэ, от розві́днёваць, да лежымо ўжэ, а певень: «Кукареку!» Я кажу на ее: «Дві́ле, а ты чуеш, ужэ й пеўне́ коло нас е?» Вона кажэ: «Это ж Рудня, набіць, блізенько. Вона прамо-прамо так о нам будзе». Да ўсталі, да почалі браць журовіны.

## ЯК АРЫЕНТАВАЦЦА Ў ЛЕСЕ

Я сама ходжу ў лесі. І цепер блуталаса ў том лесі сама. Як сонцэ ото е, то я по сонцу трохі розбіраюса, дзе домоўка. І я прыду сколь хоч по сонцу. О́то ўжэ, допусцім, як ідом у лес мы ўжэ осенью. Да хмарно ж е, да дождж колі пойдзе, да йдом далеко за гэты лес, шо вы булі о́то. Ото́ шчэ куды йдом, кончыцца ўжэ града, а потым начнецца болото й болото. Ну, я вам не скажу, колько кілометроў будзе туды. То мы йдом у тэ болото. Мо дзесець кілометроў того болота. А по том болоту такі нізенькі хвойнічок. Лесу нема там, вон не росце там. Да такі нізенькі хвойнічок. То ўжэ як ідом туды мы, да ўжэ як негода яка, то ўжэ зговарваемса, прымету яку кладом. Мох які кладом, шоб не заблудзіцца. От ужэ мы тут булі, то знаем ужэ, у яку сторону домоў іці. То ўжэ гэтак мы та́мэка. А як сонцэ, допусцім, погода, то мы знаём, у які бок іці домоў по сонцу. І шчэ дна прыкмета е́сцека. Мох е наростае тожэ. Отсюль наростае, откуль сонцэ свеціць. То мы знаем, то йдом ужэ сюды, у гэту сторону, дзе мох остаецца. А то як бачыш закруцісса ў том болоці.

## ПРА П'ЯВАК

Колісь ловілі п'яўгі і стаўля́лі на цело. Говорылі, шо спорчана кроў, да коб уцега́лі, ссыса́лі. Мы іх ловілі ў возеры да ў бутылках дзержалі, тые п'яўгі.

П'яўгі е коньскіе, рабые такіе, а свойскіе — чорные. Ужэ цепер мо воны звеліс, мо іх нема. А ешчэ ко́ліся, я от знаю, як у малых годох була, да, бувало, понабіраем чого-небудзь праць да пойдом на воду. То цеперэка ніхто не йдзе босы, цепер усе обутые. А, бувало, пойдом босые, то не можно одогнацца од іх, лезуць да чэпляюцца. І от го́нісса, го́нісса, і ўсёроўно́ прычэпіцца, як бачыш ухопіць. То вона ж не ўхопіць, шоб укусіла. Вона як улезе, то ўпіваецца туды, да ўжэ як оторвеш, то крыве́ колько ву́льецца!

А конскіе, то такіе рабу́е велізные булі такіе тожэ.

## ВУЖЫ

У мене було дзве коровы. То пойду доіць корову, то так от поўз мене ш-ш-ш, пошы́кало ў куток. Я прыходжу да чоловеку говору. Кажу: «Чоботы трэба обуваць. Нешчо шыкае поўз мене, мо то некі вуж?» А вон кажэ: «Нехай поўзе, не трогай, дой смело». Ну, на заўтрэшні дзень я заходжу... А так о куток, а ў кутку насыпано земле́ столькі! А то ж одрына, откуль земля? Я стала землю так о ворушыць, а там еец белых! Кошэль! Я тые яйца ужэ, праўда, не чэпаю. Да кажу до чоловека: «Ты знаеш шчо гэто ў нас? Это ж,— кажу,— там у кутку некіе яйца ці то шчо. Нешчо,— кажу,— белэ». А вон кажэ: «А ты ўжэ гледзела?» Кажу: «Гледзела». «А ну,— кажэ,— ідзі загрэбі, хай лежаць, не трогай». Кажу: «То я за іх і брацца не буду, на чо́рта воны мне». Вон пошоў да застроіў, замаскіроваў этого кутка. І воны жылі, пока вувелі гэтые вужэнята. Вувелі вужэнята і ву́шлі. Ніхто іх не чуў і не бачыў.

## ДЗЯЎЧЫНА І ЧОРТ

**(казка)**

Ко́лісь ходзіў чорт к дзеўцы, словом, гуляў з ею. Так маці і бацько ее так гледзят і кормяць, а вона сохне, усыха́е. Воны говораць: шо ж э́то дзе е? А вона ўцекала до чорта, коб маці не бачыла й бацько. Так воны побачылі. А ім посоветоваў одзін чоловек: уплеціце ёй у косу буркун-то́ю. Это значыць, брат і с сестрою — буркун-то́я. То́я сама́ не годзіцца, а й бурку́н сам не годзіцца. Нада ўмесце шоб. То ўжэ ўплелі́ ёй у косу этой бурку́н і то́ю. Тогды чорт перэстаў ходзіць. Да сказаў: «Еслі б это не бурку́н да не-то́я, ты б була, дзеўка, мо́я!»

*Хачэнь*

*Запісаў у 1977 г. на магнітафоне В. Д. Лабко,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## КРУЦІ НЕ КРУЦІ...

**(казка)**

Жыў бедны чоловек. Гороваў, гороваў, да нічого не маў. Надумаўса — пойду служыць к пану. Служыў вон там год, служыў два. Ну, ужэ захоцелосо ему домоў. Вон і кажэ пану:

— Поеду ўжэ домоў.

— Ну, то шо ж, шо тобе трэба даць?

— Нічого мне не трэба, мне толькі трэба, шоб на дорогу шо ўстроілі такого.

Ну, устроілі ў сумку ему обед, пошоў вон. Ідзе, ідзе, аж стрэчае бога.

— Шо ты, добры чоловечэ, несеш?

— Да вот обед е.

— То давай пообедаем.

— Не, я з вамі обедаць не буду, ву не праўдзівуе, ву кого любіце, того губіце.

Ну, пошоў он далей. Ідзе вон, а ідзе смерць. Вон кажэ:

— Я з вамі победаю, вы праўдлівая смерць.

І давай вон з ею обедаць.

— Шо ж ты так, чоловече, ходзіш?

— От таке дзело, бедно жыву я.

— Ну, так я цебе навучу, ужэ шоб ты не буў бедны. От зайдзеш як дзе негóж будзе чоловек, то там ты мене будзеш бачыць. Ек я буду стояць у головáх, так это вон ужэ ўмрэ, а ек у ногах, то шчэ будзе жыў еты чоловечэ. То ты трохі пошэпчы шо-небудзь, поговоры.

Ну добрэ. Пошоў вон, ідзе-ідзе, прышоў у село. Зайшоў у одну хату — негóж человек, смерць у головáх. Кажэ: «Гэты чоловек помрэ». Зайшоў у другý хату, дзе буў негож чоловек. Смерць, бачыць, у ногах. Ну, то подýжае. Вон пошэптаў ему, поговорыў, і той чоловек подýжаў. Людзі ек дозналіса, ек сталі ходзіць к тому чоловеку, шоб это ўсе вон ім пошэптаў. Ну, ужэ забогацеў чоловек. Ну, ужэ жыве вон й жыве, ужэ й багато годоў. Ужэ й не хочэцца ўміраць. От прыходзіць та смерць по того чоловека.

— Ну, ужэ пора тобе ўміраць.

А вон кажэ:

— Ай, ешчэ годочок пожыву.

І отпросіўса. Добрэ, ужэ год пройшоў. Не думалосо. Шо ж, добрэ жыве чоловек. Прыходзіць зноў смерць, год пройшоў.

— Ну, то шо ж ты, ужэ ж трэ ўмерці.

А вон:

— Ай, я шчэ год пожыву.

Шчэ отпросіўса. Ну, ужэ на трэці год прыходзіць. А вон шо надумаўса. Зроблю таку круцёлку і постаўлю крóваць. Прыдзе ко мне смерць, то я к ей ногамі крутнýса — і ўсе. Вот прышла ўжэ та смерць, стала ў головáх, а вон круць ногамі. Потом вона зноў стала ў головах, вон зноў крутнуўса. А смерць кажэ на ёго:

— Круці, не круці, сераўнó трэ ўмерцí.

Коліcь это дзед росказваў шчэ ў войну.

*Сямурадцы*

*Запісалі ў 1980 г. на магнітафоне і зрабілі транскрыпцыю А. А. Крывіцкі і І. Я. Яшкін*

## ГУСІ

Гусі і зарэ ходзяць самые, вужэну — і пошлі. Дзе яка шкода, які посеў, то воны знаюць, ні трэба іх ні гнаць, нічого. Такіе пронóзліวуе, такіе нічогіе гэтые гусі! Іх годоваць трудно-трудно. Але ў мене дзеўкі, я ж ім подушок не накупляюса ўсім. От жэ оддала чотыры дочкі і ўсім подушок наробіла. А інша жэ едзе да й купляе. А я своіх наробіла подушóк.

А гусі жывые скубу! Так поскубу іх, шо оно йдуць — тые крыла назад да перэкідаюцца. Одны но крыла тые не скубуцца, а чэрэво

скубецца, плечы, ззаду добрэ коло хвоста скубецца тэе таке дробнэ пер'е. Котора е тaка́ нека спокойна, бедна седзіць ужэ, шо хоч робі. А інша, то й шчыка́е за ногі. А іншые е, шо й дохнуць. Так я так не скубу, шо дохнуць. Іншые е, так шо поскубуць да й подохнуць. А я ўжэ так не скубу, я ўжэ знаю. Ох, як зло берэ на іх, то поскуб, шоб воны зусім подохлі!

*Сямурадцы*
*Запісаў у 1980 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## ЖАРТЫ

Дзед пошоў у Туроў, шоб купіць солі. Добро вупіў да ідзе назад і танцуе. А его пітаюць:

— Дзеду, нема солі?

— Не до солі, як час весёлы.

* * *

Одзін цыган ходзіў до мужыка. Да ўсе к обеду. Ну, одзін раз, другі, трэці, а на чэцвёрты не прыглашаюць уге́, моўчаць. Вон і кажэ, коб як заговорыць з мужыком:

— Шчо то я бачыў? Таке мале́, круглэ і колючэ?

— То еж,— каге мужык.

— Дзякуй, я буду есці. Але ты ўсе ж роскажы мне, як його зваць?

*В. Малешава*
*Запісаў у 1978 г. А. А. Крывіцкі*

* * *

Послала маці дзеўку свою: «Ідзі возьмі ножны вечкі стрыгці. Да не забуцса по шо йдзеш! Не забуцса!» «Не,— кажэ,— не забудуса». Да ўпала, да забіласа, да забуласа. Да ўстала, да говорыць: «Хоць упала да забіласа, но того не забуласа. Дайце тэ долото́, шо вечкі доўба́ць!»

*Галата Аляксандра Маркаўна, 1927 г., в. Старажоўцы*
*Запісаў у 1981 г. П. А. Міхайлаў*

* * *

У одное́ жонкі да буў чоловек п'яніца. Так вона сховала од його горэлку за бога (за абразы). А вон нашоў да напіўса. А ранком устаў да молiцца проці того бога.

— Господзі, ты ж мене напоіў, то дай жэ, господзі, і похмеліцца.

*Сямурадцы*
*Запісаў у 1980 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю І. Я. Яшкін*

## ВЫРАТАВАЎ

А було от як. Іду поўз рэку і бачу я там дзевочка нека ці хлопчык (пальто таке на ём таке маленьке і с капюшончыком) бегае. І от полонка, і от полонка. Я стаў і крычу: «Дзевочко, ідзі

сюды, бо ты там увалісса!» Вона посмотрэла на мене і побегла дальшэ. Я бачу — раз і ўвалілосо. І как-то ручкою ўхопілосо за полонку і вулезло. Кажу: «Ідзі сюды, ідзі сюды, дочэнька, бо ўтопісса». Воно подышло бліжэй — і шах у полонку і ўжэ но эты капюшончык. Вот-вот вода под лёд заберэ. Ну, тут ужэ ожыдать некогда. Я на эты лёд і бегом. І з гарачкі як я бег, то шчэ мене лёд дзержаў. Як я прыбег, так ша́рнуў о так по горло. І достаў ее за эты капюшончык да швырнуў на лёд о так о. Давай назад вубірацца. Шо на лёд, то лёд проломіцца. Бруду́, добру́ў до берэга. А дзе тэ дзіця дзелоса, я не знаю, побегло некуды. Ну там одна дзеўка побачыла да кажэ: «А дзеду, шо то ву тут купаецеса?» Кажу: «Не, я дзіця вуцег». Кажэ: «Я бачу, побегло воно туды о». Ну, я вулез, думаў, я шчэ забегу дамой. А тут як вулез я на берэг, так вода от мене ўжэ, як я набраўса водою. Жжа́ло, прамо дыхаць нема чым!. Та дзеўка кажэ: «Дзеду, ходзеце к нам да перэдзенецеса». Ну шо, я ўжэ роззууса там, вужаў этые брукі, ватніе булі. Главнэ порцянкі дала сухіе. Я домоў. Прыбег домоў, а стара топіла ў печы. Я залез на печ, крычу: «Давай бельё, гвалт, я,— кажу,— у полонцы буў». А чые дзіця, я і сам не знаю. Потом утром прыходзіць одзін. «Здраствуйце, дзядзько». «Здраствуйце». «То то вы мое дзіця спаслі, спасібо вам, дзеду, дзякуй вам». А цепер эта дзевочка ўжэ кончыла дзесець класоў. Кажэ: «Дзеду, як буду йці замуж, это ў перву очэрэдзь шоб ты ў мене буў самы луччы госць».

## З УСПАМІНАЎ ПРА ВАЙНУ

Попалілі немцы ўсю дзерэўню, як есць, оно осталóсо чоты́рнаццаць хат усіх по ўсёй дзерэўні. От ідзé на стороне так булі, на полёх самые трохі, то тые пооставаліса чоты́рнаццаць хат, а то ўсё спалілі. І білі, і ўбітые по вуліцы валяліса. Пройшлі ўжэ воны, то мы ўжэ бралі на возы да возілі на могілкі. Самі, не кóньмі, да самі, жонкі этые. Мужчын не було, пахаваліса ўсе, бояліса, шоб немцы этые не побілі. А дзе стрэлі мужчыну ілі якого хлопца, ка, білі без поняція, стрэлялі і ўсе. І палілі. От поб'юць і паляць. Ідуць у хату, куль соломы екой несуць да паляць. От було горэ! Попалілі ўсе, не ўспевалі му нічого похаваць нічого.

*Дварэц*

*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне П. В. Садоўскі,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## ПРА МІНУЛАЕ

А зноў вам роскажу. Моя маці сама з этой дзерэўні. Да она пошла замуж туды. Да поверце, було ў дзеда багато золота. Той дзед да вельмі буў такі, у ла́нцях ходзіў, у дра́нцях. Шкодоваў этэ золото. Тэ золото і ў ульé позахаўваў, за рэку позаносіў, і ў капéж, у одрынах тэ засторонкі булі, позакопваў тэ золото. І вы поверце, шо буў пропаду́шчы і ходзіў у дранцях, у ланцях. Бач, збіраў золото, назбіраў мо дзве гладышкі і етэ ўсе позахаўваў, позакопваў у землю, а то ў засторонку. Роскідаў колхоз одрыну, да знайшоў этэ ўжэ іх хлопчак. Эту банку такую во золота. Му погорэлі. І вы поверце, не цепер кажучы, мы малые булі, не погорэлі. А маці сама, бацько буў поплоў у Кіеў. Колісь сцесненье веліке було, хата на хаце, двор на одзін двор. Ну, маці поўкідала дзеці. А ўсе на

свеці згорэло. Так мой старшы брат, вон той, шо ў Бобруйску, як ухопіў світочку да дзёрнуў, так ледзьве на другі дзень маці найшла. Покойна моя маці кажэ своей мацер: «Дайце мне хоця пецёрочку. Я еку хаціну куплю». Заторговала ўвечэры хату. Это ж маці шкода ж дзіцяці. Вона ўзела пецёрочку золота, та баба. Будто ўжэ шчоб вон не знаў. Занесу дзіцяці, хай хаціну нейку купіць. Он угледзеў, шчо нема пецёркі. Січас тую бабу за глотку, давай сіліць. Січас ты мне оддай тую пецёрку, а не, то я завешу цебе. Дурные колісь булі першобутные людзі. І поверце, мусіла тая баба оддаваць назад ту пецёрку. І откінуласа от тое хаты. Вот екіе колісь булі дурные людзі.

*Пагост*

*Запісаў у 1972 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі, транскрыпцыю зрабілі А. А. Крывіцкі і Т. М. Трухан*

## ІДЗЕ ВАДА!

Як прыбудзе на весне вода — божэ ж мой, да чоўноў, да дзевок, да хлопцоў, да гармошкі! Да ек вуедуць, то, ой, душа радуецца. От жэ зарэ бачыце — ломачье, карачье, а то ек прылеціць вода — і дзе вонэ дзеваецца! Да поўз хату вода бежыць, дай по селу. Это ж вода, божэ мой!

Ой, вода, вода холодная,
По тобе траўка шоўковая.
Шчо цебе, траўко, потоптало,
Шчо цебе, траўко, пошчыпало?
Ці цебе коні потопталі?
Ці цебе гусі пошчыпалі?

Это ж весна! Это так весну ўстрэчаюць. Песнямі, песнямі, шо божэчко мілы!

Вол бушуе — весну чуе,
Свінья рые — корэнь чуе.
Свінья рые — корэнь чуе,
Дзеўка плачэ — замуж хочэ.
Не рый, свінья, нарыесса,
Не плач, дзеўко, нажывесса.

Это тожэ весняна, то она ж і потходзіць. Ох, божэ ж мой, шчо я гэтых песень поспевала!

## ЯК Я ВЫХОДЗІЛА ЗАМУЖ

Я вуходзіла замуж, дзецятко, по неволі, да не по любові. Мене сілою оддавалі. Прышлі сваты ко мне із Тонеж. Я согласіласа йці. І мене ўдвох маці з бабою отнялі за рукі от жэніха. Не отдалі. Ой, вона куды замуж зайдзе! А я буду хворэць, а вона там будзе, а я тут, да я не знаціму. Ох, еке ж мне було сватоўство! Ну, не отдалі мене за того. А тут от сусед буў, сірота, годованік у бацька. Ужэ гэты прышоў у сваты. А я за гэтого не хоцела, а хоцела за другого. Так бацько й мацер: «То бедны, а ў гэтого поле, а ў того поля нема». Колісь з гэтым полем млелі. У гэтого поле, да будзе за чым жыць. А за того бедного пойдзеш, так шо ты там будзеш робіць? Не оддалі мене, оддаюць за гэтого. Ужэ свадзьба, роб'яць

свадзьбу. Ужэ йдуць гэто од молодого по мене. А гэты, шо мене хоцеў, то... Я вуйшла на двор по воду ці шчо, вон за мене. А ў нас тут сад буў большой, тут хата стояла ко́лісь наша. А вон за мене да ў той сад. Да поселі му ў кутку там у саду. І вон рэве, і я рэву. І нас шукаюць. Тут одна старуха подказала мацер, а маці кажэ: «Ну а шо я зроблю? Точно пошлі да потоп'яцца». Это ж було так. Не по любові жэніліса, пошлі да потопіліса. Ох, да тут крык, да зык, да сомато́ха, пока мене не трапілі да посадзілі за стол! Да от ека була мне свадзьба.

## КАРАВАЙ

От ужэ ўзаўтра веселье. От прыходзіць хросна маці. Ужэ вона этого корова́й строіць. Вон у місі ў такой велікой рошчынены. Хросна маці сама рошчыняла. Ужэ подходзіць вечор. Ужэ коровайніц поззывалі. Это молода ходзіла, на коровай звала. Ужэ зобраліса. А там у печэ топіцца. А ў печэ трэба на коровай тры раз закідаць дрова. Не по багато, але ж трэба, шоб було тры раз. ЗгорацЬ, ада́ле зноў раз закінуць, згорацЬ, зноў раз закінуць. Ну, ужэ зовуць: «А дзе ж та маці, ужэ пора корова́й саджа́ці». Ужэ йдзе та маці. Берэ гэту місу з этым цестом, і ўжэ вона ста́ўляе і кажэ: «Благослові, оцец і маці, уся родзі́на ў хаці, корова́й ў печ саджа́ці». Вона ўжэ берэ гэтэ цесто, качае й качае. І жонкі́ коло ее стояць. Тожэ по трошку беруць да качаюць. Да одные зробілі месеца, а тые роб'яць такіе бараночкі маленькіе, шчоб попекці да на этого корова́й понізаць. А сад ужэ саджаюць, як спечэцца. Ужэ ж посылаюць марша́лкоў: «Ідзеце ж нарэжце росо́х іс саду ў коровай». Ну, ужэ гэта маці, як начынае качаць, ужэ вона й почынае песню:

Тройца по цэркві ходзіла,
Спа́са за ручку водзіла.
Прэчы́стая ж маці,
Прыдзі к нашой хаці
Веселье зачынаці,
Корова́й ў печ саджаці.

Ну, а потом ужэ й зноў. Воны і месяць, і спеваюць, і спеваюць:

Дробна пшонка, дробна.
На ўсе ж вона здо́бна.
Куркі клю́юць, гускі шчы́плюць
На столе коровай.

Ото гэто песне такіе спеваюць. Ну, й шчэ ж, багато песень, то шчо ж вам спеваць усе? Ці хваціць дзве?

Замесі́лі ўжэ корова́я, ўжэ ўсе постро́ілі, ўжэ хлопцы прынеслі́ эты сад. Эты сад ужэ беруць бабы́, от так о цесто роскачваюць. Некоторые і гэтые росохі пообматваюць этым цестом, тоненько-тоненько. І гэтые росошкі трэба ў печ, як шчэ не саджаюць коровая, шоб оны запекліса. От тогды ўжэ коровая ў печ саджаюць, як ужэ гэтэ ўсе поготовілі. Ужэ спеваюць.

Росці, короваю,
На столе ж вусокі

Дай у печы ж шырокі,
Бо й наш род велікі —
Трэба ёго обдзеліць.

От ужэ маці та хросна за этого коровая і понесла ў печ. Посадзіла ўжэ ёго ў печэ́. Ужэ й печэцца эты коровай. Ужэ муюць рукі, муюць этого стола. І несуць ужэ эту воду. От як у мене от садок, то под грушу, под яблуню лінуць дай назад ідуць. Да ўжэ й зноў песню спеваюць.

Мы на сад воду носілі,
Соловейка просілі:
Леці, соловейко, з намі,
Мы коровай згіба́лі.
А ву на это знайце,
Да нам горэлочкі дайце.

Ужэ мы седзімо, ждом — коровай жэ печэцца. А боімоса, шоб коровай не вусох, шоб не засушыўса. Ужэ ек вуймом коровай, то ўжэ тогды саджаюць ужэ ўсіх за стол. Да ўжэ коровай за столом, а дружкі роб'яць этые цацкі на коровай, шоб ёго ўжэ нарадзіць, шоб вон ужэ стояў, ночоваў нара́джоны. Бо ўзаўтра ж ужэ трэба готовіцца, ужэ ж узаўтра прыдуць госці. Это ў дзеўкі. А ў хлопца тожэ ж.

## ЗГУБІЎСЯ БУГАЙ

А було, загубі́лі бугая. Такі чорны буў велікі. Ну ўжэ ж, божэ мой, нема рады. Прыдзе той хлопец, шо загубіў, ні п'е, ні есць. Шукаюць, шукаюць — нема. Кажу: «Вон будзе жыў, не бойса, сынок». Шукаюць дзень, гоняць товар там, ідзе́ загубі́са — нема. Нема да й годзі. Ой, гвалт! «Нема ўжэ,— кажэ той хлопец-пастух,— ёгó з'елі воўкі». Кажу: «Ёго воўкі не з'елі, вон коло пры́булі. Шукайце, вон коло стога. Вон наесца да лежыць. Ву,— кажу,— ёго не трапіце, ёго, мабуць, чоловек трапіць». Пошоў чоловек стога гледзець. Зайшоў, бачыць, аж той бугай половіну стога ёго ўклаў! Еў да лежаў нішком.

## ЗАСЕЎКІ

От у нас ужэ осень. І будзе первая прэчы́ста. На прэчысту свецяць бо́роду. І ўжэ после гэтое прэчыстое ўжэ роб'яць засеўкі. Комін такі вісеў у хаці. То трэ ж нарваць хмелю, да хмелем гэтым об'езаць ёго. До гэтых засевок то дзіця ж і зернет не бачыць. Ужэ збіраюць ёго к засеўкам, только к засеўкам. Повечэраём, і ўжэ этого коміна жэніць маці. Як стане сыпаць этые зернета, як стане этые зернета сыпаць, то вупоўзаем усю долоўку. Тэ собе хапае, а тэ собе хапае. А старым вона ўжэ дзеліць. Гэто до прэчыстое, то не жэняць этого коміна і не роб'яць засеўкі. Это прэчыста осенью.

## ШЧАДРОЎКІ

До шчэдрэца коня ў нас не запрагалі. Вон годуецца, ему поўтора ўжэ года, ужэ можна запрагаць. Но до шчэдрэца не запрагалі. От ужэ на шчэдрэц, это перэд Новым годом, так увечэры ужэ запра-

гаюць этого коніка. Этых хлопцоў поўна вуліца! Запрагуць і этого коніка шчодрыкўюць. І столько насядзе, шо вон елі цягне. Шоб это ёгó обвучыць, шоб вон не бег. І шчодрыкуюць этого коня, да аж вон мокры зробіцца. От була ека мода. До шчэдрэца не запрагае. Пошчодрыкўюць, тогды ўжэ ёго будуць запрагаць. Будзе ўжэ вон і гной возіць, і ўсе робіць.

## ОТ ВАМ І ХЛЕБ!

Ну, от як у нас колісь пеклі хлеб. Була дзежка. Я вам покажу зарэ. От сюда льеш воду. І берэш кіслы хлеб. А бувало, не було от чым розвесцí, то ходзяць старцэ́. То просяць крышóк у іх, шоб із торбы далі, с хлеба. І гэтые крышкí розотруць, розотруць у дзежцы, і воды нальюць такое цёпленькое, і заколоцяць мукою. Муку заколоцяць от ек на бліны густые. Заколочваюць, закрываюць і стаўляюць. І вонэ потходзіць. А стаўляюць на печэ, у цёплом месці. Ну ўжэ ўсталі, ужэ ж месяць. Месяць, месяць, а дзежка веліка. Месіць, месіць жонка этымі двума рукамі, месіць, месіць, ада́ле ўжэ замесіць, поставіць, хай потходзіць. Ужэ топіць печ. А була ж лопата. То ж така дзерэўянна лопата, круглая. Гето бером ліст дубовы, на гэты ліст і этые боханкі — і ў печ. Посадзіла дну, посадзіла другу́, трэйцю посадзіла, вуходзіць колі чотыры, колі й п'яць. І геты хлеб ужэ й печэцца. Ужэ гледзіш на часы. Малые боханкі, то от як пірогі ў нас пекуцца, то час і дваццэць мінут, поўтора часа. А гетые ўжэ велікіе — два часы, а то й с половіною. Гэто жытні хлеб я вам росказваю, як пекуць. Да от вам і той хлеб. Ну, ада́ле вумаюць ёго, вуцягваюць ковенéю. А вон такі жоўты, да такі подпечаны! Коб нап'ёк цепер, о! А цепер жэ не пекуць. Тут о на лаві кладом. А далей прымаюць на поліцу. А як жэ, водою умóчвалі! Кажного боха́нчыка водою обмочвалі. Полоценцэм чысценькім накрыюць, шоб полежаў. Ужэ тогды прымаём на поліцу.

## ШТО ГЭТА БЫЛО ЗА ЖЫЦЦЁ

Шо то була за жытка, шо то була за оказея колісь. Да було прусоў! От слухайце, людзечкі. Му булі ў перэднёй хаці, а ў задней дзядзько мого чоловека, шо ёго годоваў. І только було прусоў, шчо як посядуць на коміне, да ўскрозь так, то неможно! Хоць ты шчо хоч робі! Воны мене заедалі. Мо некого не елі, а мене пооб'едаюць — і рукі і ўсе на свеці. Мой чоловек кажэ: «Узаўтра пойду ў лес». А я кажу: «Чого?» «Мне,— кажэ,— сказалі, шчо нада прынесці мешок этых мурашок. Му от,— кажэ,— шчэ цепло, то вуберомса ў эту хіжыну (на дворэ була). Ты поўнось усе, і дзецей (у мене було дзве дзеўкі і сёстры зо мною жылі). Да я гэты,— кажэ,— як вусыплю,— кажэ,— мурашкі, і ні одногó не будзе пру́са». Му вубраліса, а тут жэ церэз сцену сем'я дзядзька ж зноў. Му вубраліса с тое хаты. А вон ек вусыпаў тые мурашкі, то ек наробіць той дзядзько крыку: «Ой, ліхо вашой мацер, шоб вашу чорты мацер пойнялí да з гэтою роботою. А шчо то ты, ліхо твоёй мацер, наробіў!» Воны, тые мурашкі, пошлі й по печэ, й по долу́, й по горшкóх, і по міска́х, і ўскрозь! А вон кажэ: «Нічого, вутрымаеце, у сені вуходзьце. У сéнях іх нема. У сéнях холодней. Вуходзьце ў сені. Я забуўса,— кажэ,— сказаць». Ужэ ждом того дня, гледзімо. Вон кажэ: «Ходзі, жонко, да побач, шо робіцца ў хаці». Я ў хату.

Вон скéпку запаліў. І вот мурашкі за того прýса як очэпіліса, так ёго й нема. І з'едаюць. Упорáну зайшлі ў хату — і нідзе нічого нема, усе вум'елосо. От як було.

## ПЛАЧ

**(па дзяўчынцы)**

Ох, мое ж дзіцетуленько!
Ох, мой жэ ты цветочок розову!
Ох, шчо ж на цебе й упало!
Ох, шчо ж на цебе стало!
Шчо гэтак раненько зоўяло...
Ох, моя ж калінонько!
Ох, моя ж малінонько!
Ох, ты ж моя спевушэчко!
Ох, ты ж моя скакушэчко!
Ох, кого ж му будом дзержаці?
Ох, с кім жэ му будом жартоваці?
Ох, хто ж нам будзе танцоваці?
Да хто ж проціў нас будзе смеяцца?
Ох, мое ж ты добрэе!
Ох, мое ж ты любэе!

## У ЛАЗЕ

Это дзед росказваў. Пошоў вон у лóзу. Дзеру, -кажэ, я лóзу й дзеру, а там другі чоловек буў з ім. Той надраў дай пошоў. О, я ж бачыў, шо той пошоў, а хто то стоіць у лозé, на дном месці? Кажэ, ў таком белом, у капелюшý. Стоіць, а я, кажэ, дзеру й дзеру гэту лóзу. А дале кажу: «А ты ўжэ надраў?» А вон нічого, нічого мне не кажэ. Я й шчэ, кажэ, шчоб той отозваўса. Ой, дáле бачу, шо не, это не лóзу дзерэ. Я, кажэ, эту лóзу ек бурэнýў, да ек даў драпакá от тоé лозы, і не озіраўса! А там, кажэ, некі чоловек ёму трапіўса по дорозе да говорыць: «Шо бежыш? Нагледзеўса? Это ж тут,— кажэ,— навек хто не пойдзе, так,— кажэ,— чорта побачыць!»

## ВАЎКІ

Колісь пáсціла я товар с пастухом. Була я за трэйцякá. Да так жэ о сáмó ў той Орэé. От на Маяковой лініі. Акурат вугналі на эту лінею. Божэ ж мой! То тые пастухі, дзеды, я іх не бачу, чы оны спероду ідуць, чы ззаду. А я собе огóкаю ззаду за товаром. Ох, адале бачу рэвуць коровы. І збегаюцца ў однэ место. А два вóўкі! Да за корову очэпіўса одзін за ім'е. Корова рэве, і ўсёй товар рэве. А вон рве! І вурвалі ім'е. А прышла шчэ бедненька ік мосту без ім'я. Ох, да божэ ж мой, я крычу: «Ой, гвалт, собакі корову рвуць, ох, да ходзеце ж скорэ́нько, бо собакі рвуць корову!» А я ж не знала, шо то воўкі. Я думала, то собакі. А корова к рэцэ прышла дай здохла.

* * *

Ехалі му ў ту дзерэўню, у Рычоў. Едом іс швагрэм, там у мене сестра. А воўкі вуйшлі напроціў, п'яць, да поселі так дай седзяць. «Ох, да,— кажу,— божэ ж мой, да шчо ж робіць?» А вон кажэ: «А я знаю? Як ужэ подойдуць ік коніні да будуць ірваць, то ўжэ тоды будом уцекаць». Адале вон доўмéўса да ўзяў пугоўéм да по

оглоблі стаў стукаць. Стукае, стукае. Вот забраўса одзін і пошоў. Адале другі, трэці і чэцьворты. П'яць воўкоў от бачыла ек от до хлева о до свого.

* * *

А то шчэ буў чоловек мой. Да кажэ: «Знаеш шчо, я цепер хочу на охоту (а вон буў охотнік). А тобе,— кажэ,— запрегу коня (зваўса Прогрэс, велікі такі конь), да ты повозі гной за мене». А гной везці да туды на Бор у нас, там у нас поле. «Я,— кажэ,— й накідаю, я й заверну». Кажу: «Добрэ». Запрегла этого коня і еду, озіраюса. Ніхто не едзе, я одна. Вуехала, там у нас рэка, вуехала на рэ́ку — стоіць воўк. Ох, да божэ ж мой, ох, да свеце ж мой! Да дзе ж мне дзецца? Да шчо ж мне цепер робіць? Хочу завернуцца назад — не! Стою с тым конем. Аж бачу, ужэ здалёк нехто зноў едзе. А я: «А чого ты тут стоіш, шчоб ты вудох!» На воўка. «Доўго ты будзеш стояць?» І зобраўса й посунуўса на поле. Ужэ едуць багато, ужэ із болот гэтых. Кажу: «Добрэ, шо я вам дорогу пробрала. Ву бачылі хто стояў?» А там одзін чоловек да кажэ: «Гэто не собака, Параско?» «Екі собака? То ж,— кажу,— воўк! Я не знала, дзе дзевацца. А мой,— кажу,— пошоў на охоту!» Прышоў мой чоловек із охоты, я кажу: «А шо ты бачыў?» «Нічого, брат, жонко, не попало нам». «А воўка,— кажу,— то не моглі ўбіць на Церэпшах? Это ж я вуехала, а вон на рэцэ стоіць, на лёду́!» Хай воны подохнуць.

## ЛОСЬ

А з бацьком колісь ходзіла ў грыбы. То йдом, а я шчэ не бачыла лося, ідом, а шось так эты крушнік есць да хрумае. А бацько знаў. Кажэ: «Ціхо, дзіця, недзе лось. Помаленьку йдом». От ідом, ідом. Ой, я бачу, стоіць шось. Кажу: «Бацё, корова». «Не, ціхо, это лось». А вон не бачыць. «Ну то заверніса ж,— бацько кажэ,— заверніса хоця, му побачым, ці то вон, ці вона!» А вон ек драпнуў так крушніком, то нно той крушнік трэшчыць.

А ходзіла по ягоды по клюкву, то не поверыце, шо п'яць пар рогоў трапіла. Трапіла сем па́сынкоў, трапіла п'яць, трапіла тры, трапіла два, і зноў мо то тры. І это наберу ношку клюквы і тые рогі пру. Прынесу хлопцам, то этые хлопцы ўхоп'яць. То настаўнік эты, вон ум'ёр, двое купіў.

*Жукоўская Праскоўя Мікітаўна, 1907 г., в. Старажоўцы*
*Запісаў у 1981 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*П. А. Міхайлаў*

## КОЛІШНІЯ ЗВЫЧАІ

Прыказвалі старые, шчо будзеш рошчэ́сацца, то не кідай нідзе гэтые ко́сы. Бо возьме́ іх птушка на кубло, да будуць коўтуны на голове ў цебе. То ховалі гэтые косы. Ото рошчэ́саецца да ў печ кідае, або ў шчэ́лькі екіе дзе-не́будзь ховалі, шоб не валяліса гэтые косы.

* * *

Мо гэто було ў нас ко́ліся на головосе́ка, старые говорылі. Говорылі, шо гуркоў не можно есці, яблук не можно есці, груш не можно есці. Ужэ ў гэты дзень не еж гуркоў, то будуць со́плі цекці. А ек будзеш грушы і яблука есці, то будуць чыракі. То так ко́ліся було.

* * *

Гэто на шчодрэ́ц перэд Новым годом так робілі. Допусцім, от у мене куры е́сцека бага́то. То я сама хозяйка пойду да под окно ў своёй хаці і буду пута́цца мо хозяіна, мо дзецей, хто ў хаці е. Ужэ скажу: «Добры вечор вам!» Оны отка́жуць: «Добрэ здороўе!» «А дзе вашы куры несу́цца?» — я попута́юса. А ў хаці скажуць, шо там мо ў одрыні на ву́шках, ці мо й дзе. То гэто ўжэ́ для того гэту пры́казку прыказваюць, шчо не пойдуць у чужы́е хоро́мы несціса куры.

*Хачэнь*

*Запісаў у 1977 г. на магнітафоне В. Д. Лабко,*
*зрабіла транскрыпцыю Т. М. Трухан*

* * *

Это ж було ко́лісь такое свято — сорок с″еты́х. Дак на этэ свято так робілі. От як е хлопцы у кого, ўжэ бацько кажэ: «Хлопцы, уставайце і берэце по сорок палок наломе́це й отшчытайце, і перэкідайце церэз сарай. Як перэкінеце, то будзеце ко́шкаць яйца». От жэ оны пойдуць кошкаць яйца по гэтых кустах. Так як которы ско́шкае, да кажэ: «А шчо, я перэкідаў палкі, а ты ніго́дное не перэкінуў — ніго́дное не скошкаў! О!» Вуціные яйца як свойскіе, ву́тва вона ж веліка, а чы́рка — менша, то меншые і яйца. А зноў чайкі, то такіе рабе́нькіе да велікіе яйца. Дак дзеці як пойдуць, да кошкаюць, кошкаюць... От жэ мое, то серэдні наве́к нако́шкае этых еец! А тые — не. А вон кажэ: «Не трэ було спаць. Я,— кажэ,— перэкідаў палкі, а ты говорыў: «Эй, шчэ это нешчо вон перэкідае, то вон накошкае. От і накошкаў».

КОЗЫ

Чого ж, сынок, мое рукі боляць, шо не могу нічого? Я ж попокосіла, попокосіла! Пока могла косіць, той корову дзержала. Ада́ле, ек отробілі этые рукі, кінула й серпа́ і ко́су. Кажу на дочку: «Марусько, корову дзе хоч дзевай, бо я ўжэ не. Ты ее не вукорміш. Ужэ, кажу, шукаймо по сілі, шоб шчо корміць». Да ўжэ от ко́зкі дзве дзержымо́. Молоко е, му прывуклі к ему. А шчэ б ні тэ, шо прывуклі. Корова запусціласа, нема ў нас молока. Пошлі мы, купім то там молока, то там того молока купім. А я кажу: «Ой, Марусе, на́шчо нам купляць этэ молоко? Купе́м козку, да вот і подоіцца. Поўлітру молока дава́ціме, а не — зарэжом». І ўзялі му эту козку. Да гэтэ нашэ дзіця й этэ молоко дай этэ молоко. Да коро́ўячого і ў рот не берэ. І цепер жэ не. Прывукла. Пойдзе вона куды з Марусею, то там хочуць ее ўгосціць, да вона: «Я вашого молока не хочу, вашэ коро́ўячэ молоко!» І от і я одзін раз так седжу, ў ра́дзіві говорыць. Кажэ: «Старым і малым набува́йце козы. Козі́нэ молоко полезно». Ой, а я думаю, і дзяку богу! А шчо. Мы от дзержа́лі дзве. Уполе́ту воны давалі тры літры молока ў дзень! А шчо ж, нам больш не трэба. Гэто ўжэ цепер одна поўлі́трочку дае. Оны зімою не даюць так. А одна, водзіла ў Сему́радцы, да покры́ласа. То ўжэ мо будзе козленя́ не́ке. Хочом, коб козліка, шоб свого маць. А то нема́шэка. Буў бы козлік, то хай бы покрылосо, да хай бы росло, то ж м'ясо. Бува́ло, ідуць по лесу́ да шукаюць, шоб дзе забіць. Да сіне прынесе, да ой! А то своя у одрыні. От жэ воны ў мене на пашу не ходзяць. Ну от там у мене сыноў садок буў. А я той садочок оборон́яла, оборон́яла, ада́ле узела да опкідала лома́ч'ем. А

мой самы меншы сынок прыехаў да мне трохі то сім, то тым оплёў гэты садок. Да я от іх із весны пасу ў этом городзі. А як стало этэ зелье росці, то от по жмені этого зелья вурвала, вурвала да ўкінула, да поставіла воды, да воны поелі. А молоко тэ саме. Да красота мне! Дай жывом.

## БАЦЬКАВА ДЗЯЦІНСТВА

Бацьку було сем годкоў, ек ёго́ бацько ум'ёр. Ма́цер цяжко одной жыць було, і пошла вона зноў замуж. Да на се́меро дзецей: п'яць хлопцоў і дзве дзеўкі, а ёго́ ўзела́ восьмого. Вон Мікітка зваўса. А ему ж сем годко́ў. А вон побуў там коло тое ма́цер, а тые шо ж, тые ўсе родные. А гэто ўжэ чужэ. Воны ёго тэ от себе, а тэ от себе. А маці ж не седзіць, се́меро ж дзецей. Ей жэ нема колі гледзець за вамі. То тые дзеці ідуць у гумно, моло́цяць. «Той ты, Міка́тко, ідзі з імі, да там погледзі, да повучыса. Да будзеш прывукаць». То той Мікітка по́йдзе, то воны ёго наб'юць. То вон ужэ не знае куды йці. Прыдзе до свое старое хаты, походзіць, походзіць, хата заму́кана. Не мае сілы, не мае чым ее отмукну́ць. І так вон мучыўса зіму. А потом ужэ весна, цепло. Тра́піў неку залезяку, да гэту клямку вуцег, да отмукну́ў гэту хацінку. Да ў эту хату зайшоў, да ек лёг! То мо вон, кажэ, ек заснуў у той своёй хацы, то не хоцеў ні піць, ні есці! Оддыха́ў дай годзі. Да, бува́ло ж, это наве́к росказваў бацько. І маці ж та ёго прыдзе к нам да росказвае. Ну, а да́ле ўстаў да так гледзіць у вокно. А буў дзед бездзетны, вон жыў з бабою. Гледзіць Мікітка у вокно, а йдзе дзед той. Да пошоў дзед домоў да кажэ: «Га́по, Петро́ў хлопец, Мікіта,— кажэ,— ходзіць у хацы». «Ох, то я ж чула, Семе́н, шо она ж ёго шукае. Воны ж не знаюць, дзе вон дзеўса». «Вон,— кажэ,— у своёй хаці спіць». «Ох да божэ ж мой! То вонэ́ ж голоднэ! Ідзі возьмі ёго к собе. Да накормім хоця ёго». Зове той дзед, а вон кажэ: «Ек я прыду к вам, то вы зноў мене туды заведзеце́, не пойду». То той дзед прынёс ёму, да накорміў ёго, да поклаў ёму. Ужэ вон у своёй хаці хозяін, зашчэ́піцца. Ужэ й той ма́цер сказалі. Та маці подойдзе только к хаце, то вон ужэ под лавою, сховаўса, і ні отозваўса, і нічого. Да так жэ, бувало, росказваюць. Ну да ўжэ вон і жыве. А потом потро́ху, потро́ху, да пошоў ужэ к тому дзеду. Той дзед кажэ: «Знаеш шчо, Мікітко, я цебе ж буду годоваць, ў мене ж дзецей нема. Да ты ж будзеш зо мною ехаць на ко́нях, да я цебе буду браць на воз». Шо ж, хлопцу этой пода́й! «Я цебе й устро́ю, ты ў мене й не змерзнеш, ты ў мене й нічого». Уговорыў той дзед. Пошоў той Мікітка к тому дзеду. Ужэ жыве ў того дзеда. Дзёўбе́, то дрова пособля́е, то куды той дзед едзе, і вон ужэ з ім едзе. Ужэ вон седзіць і коні погоня́е. «У Семе́на ўжэ,— кажэ,— Мікіта. Ужэ не ў Ода́ркі,— ма́цер зва́ласа Ода́рка. Это ўцёк отту́лека. Бо ўжэ недзе Семен узяў». Да той Мікітка годуецца да годуецца ў того дзеда, да Семе́ноў годо́ванік, да Семеноў годованік... Ек уполе́ту ўжэ едзе, або ведуць коні па́сціць да на ночле́г, то той Мікіта ек заспевае, то та́ мацер вуйдзе на ганок, да сколько чуе го́лосу, столько вона слёзы лье! Шо ж, таке́ ўрэ́м'е колісь було. Ну так жэ жыць не можны, поле. А шчо вона одна зробіць? І пошла замуж... Як цепе́рэка, то ужэ б жыла б іс своі́м дзіця́м і не дбала б. Да того ўжэ бацька мого годоваў той дзед дай ожэніў. Дай ужэ разом жылі. А дале узяў той дзед собе зробіў хату да сам жыў. А той мой

бацько, бувало, робіць сані, возы́ ў хаці. А хату зробіў на́глу, от тут стояла. То вон воза того робіць у хаці, сані тые робіць у хаці. Навек робіць, робіць... Да закурыць люльку, да дзержы́ць у руках, да ў людзей ні ў кого не свеціцца, а вон оддыха́е. Да от так о сядзе коло стола, да ек запое́! Ох, божэ ж мой! Да эту вон песню спева́ў, да ек запое́!

Да й горэ мое веліке,
Ек жэ горэ й но́жэнькі не носяць.

Да вуво́дзіць, ек жонка.

І гора ножэнькі не носяць,
І ручкі беленькіе не роб'яць,
І сон голо́воньку валя́е,
І дзе ж мой мілы п'е-гуляе.

То это ўжэ моя песня, я, бувало, ўжэ ее, як научы́лас, то то́ спеваю. Она доўгая, хай вона...

### СПУЖАЎСЯ

У нас колісь двоіх велі коні на ночлег. Одзін зваўса Рыгор, а другі — Само́йло. Рыгор кажэ: «Самойло, ты шоб коло кла́дзьбішч мене подождаў. Я вот пока устро́юса, хай коні твое походзяць, да ты мене там подожджэ́ш». Ну й эты Самойло загнаў коні до кладзьбішч, лёг да і заснуў. А колісь такіе світкі булі. А гэты Рыгор прыехаў да коло ёго заснуў. Самойло уставаць — неможна. Да як ву́лузаўса ужэ со світкі, да ек поплёўса! Рыгор крычыць: «Самойло, Самойло, это ж я!» А той Самойло поп'ёрса мо до са́мое хаты. А вон так у мо́гліцах спужаўса! Думаў, мо то ме́ртвы ёго ўжэ прыгрузіў.

### МЯДЗВЕДЖАЯ ПАДЗЯКА
**(паданне)**

А то маці росказвала. Була маці шчэ дзеўкою. Да пошла вона з мацер'ю на Бор, так от у лес (у іх там було поле). Пошлі жаць, да йшлі на́ноч. Удзень вельмі жарко. То воны раненько жнуць і подве́чор. Рано ўсталі, зайшлі мы і давай жаць. Жном і жном. Ну, маці то жне. А я, кажэ, пожну́, пожну́ й роззіра́ю, мо нехто йдзе, мо нехто едзе. Ну, кажэ, я так гледжу — ідзе мадзве́дзь. Так я ту мацер тоўхе́ць: «Мамо, поба́, хто к нам ідзе». «От жні, а то прызірае́сса, шчо йдзе. Хай ідзе!» Вона жне й жне, а вон ідзе і кульга́е. Прышоў да поклоніўса той ба́бі дай показвае лапу. Вона поглედзела, аж у той лапі така́ трэска седзіць! Цягне, цягне та баба — не мо́жно ву́цегці. А вон показвае — зубамі. Вона ўзела, кажэ, зубамі да вуцегла ту трэску. Да пошла іс куска́ сала ву́рэзала да онучу, да замотала ёму́ эту ногу. Поклоніўса, кажэ, і пошоў. Пошоў, кажэ, ўжэ й нема, й нема... Ада́ле, так под по́лудзень зноў ідзе. Ужэ йдзе, ужэ й так не кульгае. Ідзе, кажэ, і ў лапах несе столькі ме́ду, шо маці просла́ла полоценцэ, а вон положыў, і поклоніўса, і пошоў. І больш, кажэ, і ні чулі, і ні бачылі ёго.

*Жукоўская Праскоўя Мікітаўна, 1907 г., в. Старажоўцы*
*Запісаў у 1981 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*П. А. Міхайлаў*

ТУРОВСКИЙ СЛОВАРЬ

В ПЯТИ ТОМАХ

ТОМ 2

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак В. В. Саўчанка
Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец
Тэхнічны рэдактар Л. А. Барысава
Карэктар М. А. Вячорка

ІБ № 1468

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.

Здадзена ў набор 10.02.82. Падпісана ў друк 10.06.82. АТ 14681. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 8,5. Ум. друк. арк. 14,28. Ум. фарб.-адб. 14,28. Уч.-выд. арк. 15,6. Тыраж 1600 экз. Заказ № 299. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.